Кніга выбраных эсэ Ўладзімера Арлова — своеасаблівая машына часу, якая дапаможа чытачу зьдзейсьніць дзясяткі падарожжаў, нязьменна аб’яднаных пошукамі Беларусі і — непаўторным сакавіта-грубаватым арлоўскім гумарам. Пунктамі прызначэньня будуць Менск пачатку 1990-х і Бэрлін з абрынутай толькі ўчора сьцяной паміж двума сьветамі, Грузія часоў Зьвіяда Гамсахурдзія і Сахара дарэвалюцыйнага Тунісу, дах яшчэ цалюткага Сусьветнага гандлёвага цэнтру ў Нью-Ёрку і стакгольмская кватэра нобэлеўскага ляўрэта 2011 году паэта Тумаса Транстрэмэра… Разам зь пісьменьнікам чытач зможа адчуць зьмены, што адбыліся ў нашай краіне і сьвеце за цэлую чвэрць стагодзьдзя.

Эсэ, што ўвайшлі ў кнігу, перакладаліся болей, чым на дваццаць моваў.

**ISBN 978-609-8213-10-2**

# Незалежнасьць — гэта...

Незалежнасьць — гэта калі ты зьявісься на сьвет у радзільні, дзе няма самых стэрыльных на зямлі савецкіх прусакоў, затое ёсьць аднаразовыя шпрыцы й пялюшкі.

Незалежнасьць — гэта калі твой бацька пойдзе ў ЗАГС, каб атрымаць дакумэнт, што ты сапраўды нарадзіўся і што цябе назвалі ў гонар дзеда Рыгорам, і кабета, якая сядзіць там, спакойна выпіша яму гэты дакумэнт, а ня выцягне са стала «Справочник личных имен народов СССР» і ня будзе, размахваючы ім, гістэрычна тлумачыць твайму бацьку, што ён можа без праблемаў назваць сына Файзулой ці нават Мамаем, а вось Рыгорам — ня можа, бо такога імя проста не існуе ў прыродзе (а существует нормальное человеческое — Григорий).

Незалежнасьць — гэта калі ты пойдзеш у школу і цябе будуць вучыць на тваёй мове (а дзяўчынку Гражынку, якая табе падабалася ў дзіцячым садку, — на яе мове, а твайго суседа хлопчыка Мішу, тату якога завуць Ісакам, — на ягонай, а другога твайго суседа хлопчыка Алёшу, бацькі якога прыехалі сюды, бо ў іхнім горадзе на Волзе, каб купіць маломy малака, трэба займаць чаргу а пятай гадзіне раніцы, — на ягонай). Цябе будуць вучыць на тваёй мове, і дзеля гэтага тваім тату й маме ня трэба будзе ўсё лета зьбіраць па кватэрах заявы бацькоў, якія ня тое каб не хацелі вучыць сваіх дзяцей так, як твае тата й мама, а проста ніколі пра гэта ня думалі, бо вырасьлі пры інтэрнацыяналізьме. І гэтыя заявы ня трэба будзе губляць тры разы дырэктару і два — сакратарцы, і ў першы верасьнёвы дзень ты не пачуеш на ўрачыстай лінейцы, што «год от года хорошеет материально-техническая база нашей школы», а прыйшоўшы ў свой кляс, не даведаесься, што дзякуючы няўхільнаму

клопату партыі і ўраду ў вас на кляс ўсяго адзін лемантар і дзьве «матэматыкі» на роднай мове.

Незалежнасьць — гэта калі твая дружына ня будзе змагацца за права насіць імя Паўліка Марозава ці Аляксандра Мясьнікова, бо ўсе вы цудоўна ведаеце, як любіў свайго татку Паўлік і як любіў беларусаў Мясьнікоў.

Незалежнасьць — гэта калі ты будзеш студэнтам і на лекцыі па вышэйшай матэматыцы твой смуглявы раўналетак з Мадагаскару нахінецца да цябе й запытае, што значыць слова «імавернасьць», і ты па-француску растлумачыш яму.

Незалежнасьць — гэта калі ты будзеш служыць у войску не далей за памежныя горад ці вёску твае зямлі, затое табе ніколі не загадаюць фарбаваць траву й прыбіраць тэрыторыю «вот отсюда и до обеда». У нядзелю ты зможаш прыехаць да бацькоў ці да свае дзяўчыны, затое ніхто не назаве цябе «бульбашом», а твайго сябра — «чернножопым» за тое, што вы думаеце й гаворыце ў сьне па-свойму, і табе ніколі не загадаюць гастрыць сапёрную рыдлёўку, каб акапацца ў Баку ці ў Тбілісі.

Незалежнасьць — гэта калі твая дзяўчына кажа, што хоча на выхадныя ў Вену, і ты з чыстым сумленьнем абяцаеш ёй, што ў суботу вы вып'яце кавы насупраць палацу Шонбрун, і ведаеш, што перад вашай вандроўкаю ніхто ня будзе высьвятляць у цябе, ці быў ты ў дзяцінстве габрэем, а таксама, ці быў ты раней за мяжою і калі вярнуўся адтуль, дык зь якой мэтай.

Незалежнасьць — гэта калі на Дзяды, у Дзень памяці продкаў, ты ідзеш на могілкі, каб паставіць там сьвечку і пакласьці кветкі, а ня стаць удзельнікам выпрабаваньня балёнчыкаў з нэрвова-паралітычным газам ці новае мадэлі гумовага дручка.

Незалежнасьць — гэта калі твой сын прынес са школы пяцёрку па гісторыі і ты хваліш яго за гэтую пяцёрку, бо ведаеш, што ён атрымаў яе не па тым прадмеце, дзе вучаць пра Лядовае пабоішча і перамогу калектывізацыі, а па тым, дзе вучаць пра Грунвальдзкую бітву, якая ўратавала твой народ ад сьмерці, і кажуць праўду пра

ўладу, што расстраляла твайго дзеда й задушыла голадам тваю бабулю.

Незалежнасьць — гэта калі да цябе завітае беларускі сьпявак зь Нью-Ёрку, і ты вып'еш зь ім добрую чарку вішнёўкі, і пасьля ветлівыя дзядзькі ў цывільным не запрапануюць табе падрабязна напісаць, дзе й што вы пілі й каго пры гэтым лаялі.

Незалежнасьць — гэта калі ты пазбаўлены магчымасьці чуць, як твой прэзыдэнт вучыць з экрану суайчыньнікаў: «Хто как хаціт, той так і гаварыт», бо твой прэзыдэнт — чалавек пісьменны і хоць адну мову ўсё ж ведае.

Незалежнасьць — гэта калі з тэлеперадач і газэтаў раптам зьнікаюць лісты нястомна-таямнічых вэтэранаў і вусьцішныя паведамленьні пра нацыяналістаў і экстрэмістаў з народных франтоў, якія нават уначы ня сьпяць, а распальваюць паміж табой, Алёшам і Мішам, тату якога звалі Ісакам, а таксама Гражынаю, якая даўно ўжо твая жонка, міжнацыянальную варожасьць, каб учыніць сярод вас крывавую разьню й пусьціць пад адхон цягнік перабудовы.

Незалежнасьць — гэта калі ніхто ня страшыць цябе, што твой народ ня зможа выжыць безь вялікага старэйшага брата, бо ня мае сваіх баксітаў ці алмазаў, і ты разумееш, што зусім дарэмна шкадаваў гаротных галяндцаў ці бэльгійцаў, якія ня маюць ні баксітаў, ні алмазаў, ні нават старэйшага брата.

Незалежнасьць — гэта калі велізарныя аўтафуры з надпісам «Центровывоз» (ці бачыў ты хоць раз такія фуры, дзе было б напісана «Центроввоз»?) падрулююць не да чужых, а да нашых крамаў.

Незалежнасьць — гэта калі раптам высьветліцца, што сьветлыя галовы ёсьць і ў нас, і калі — крый Божа! — выбухне завод ці прычыніцца якое іншае ліха, ня трэба будзе чакаць, пакуль прыедзе камісія з маскоўскіх разумнікаў.

Незалежнасьць — гэта калі на Божай пасьцелі ведаеш, што пасьля таго, як ты памяняеш гэты сьвет на

лепшы, на месцы царквы ці касьцёлу, дзе цябе хрысьцілі і дзе ты вянчаўся, ня выкапаюць сажалку з брудным лебедзем і не пабудуюць басэйн імя XXVIII зьезду КПСС, а могілкі, дзе будуць спачываць твае косьці, не зьнясуць і не ператвораць у закіданы пустымі пляшкамі парк культуры і адпачынку імя таварыша Гарбачова.

Незалежнасьць — гэта…

Незалежнасьць — гэта калі ад нараджэньня да скону пачуваесься сваім чалавекам на сваёй зямлі.

Я веру, што калі-небудзь так будзе.

Бо йначай проста ня варта жыць.

*1990*

# Мой радавод да пятага калена, або Спроба пазьбегнуць выгнаньня

—Пишешь, писатель… — перш чым папрасіць чырвонец, спачувальна кажа сусед, аглядаючы мой стол.

Суседаў позірк спыняецца на томе «Витебской старины».

—Сотни на две потянет? — пытаецца ён.

Я дастаю партманэтку і працягваю яму грошы.

—Обижаешь, писатель, — гаворыць сусед і глядзіць чырвонец на сьвятло.

—Уберите Ленина с денег! — раптам цытуе ён паэта Андрэя Вазьнясенскага й бесцырымонна плюхаецца ў мой фатэль.

На стале стосік аркушаў, на верхнім я пасьпеў ужо напісаць назву.

—Мой ра-да-вод… — сьлібізуе сусед, засунуўшы нос у мае паперы. — Всё по-белорусскому. Вчера, между прочим, по телеку тебя смотрел. Агитируешь… Всё равно народ за вами не пойдёт.

Ён на ўсялякі выпадак хавае чырвонец у кішэню і кажа далей:

—Понял, писатель? Но пасаран, как говорил товарищ Сальвадор Альенде, вечная ему память. Ну ладно, не обижайся. Мой ра-да-вод да пя-та-га ка-ле-на… Это как понимать — до пятого колена? Про что?

—Пра генэалёгію, — адказваю я.

—Ну, ты даёшь, старичок! — чамусьці радуецца сусед. — Её ж у мужиков не бывает.

Ён на хвіліну задумваецца і ў выніку нейкіх загадкавых меркаваньняў ухваляе мой намер:

—А в общем, давно пора тебе что-нибудь такое соорудить, для народа.

Ён расказвае мне барадатую показку пра жанчыну, гінэколяга і сантэхніка, а потым яшчэ адну показку пра

гінэколяга і двух грузінаў, і да мяне даходзіць, што сусед відавочна пераблытаў генэалёгію з гінэкалёгіяй. На дадатак ён выцягвае з кішэні і, натхняючы мяне на стварэньне новага літаратурна-мастацкага твору, вахлікам раскладвае на стале калоду парнаграфічных картаў.

Нарэшце мы разьвітваемся, і я выпісваю з аднае выдадзенае на пачатку XX стагодзьдзя кнігі падкрэсьленыя калісьці, можа, яшчэ за праклятым царызмам, словы: «Мелі тыя крывічы звычай: калі дасягаў у іх юнак паўналецьця, мусіў ён, каб назвацца мужчынам, пераплысьці хуткую ды глыбокую раку, упаляваць тура або мядзьведзя, раскласьці ў залеву вогнішча, а таксама распавесьці суродзічам аб продках сваіх да пятага калена… Калі ж ня ведаў ён роду свайго, дык падлягаў выгнаньню, бо ўважалася, што род ягоны, а значыцца, і зямля бацькоўская яму не дарагія, і можа ступіць ён на шлях здрады».

Побач, на палях, яшчэ відаць накіданае алоўкам і ўжо амаль сьцёртае часам дрэва нечага радаводу.

Як вы ўжо зразумелі, на штосьці падобнае падбіла гэтая кніга і мяне.

Няхай даруе мне стрыечная бабуля Грыпінка, што чытала «Чорную магію», умела спыняць кроў, заўсёды заходзіла ў хату да мае роднае бабулі акурат тады, калі мы сядалі за стол і бралі ў рукі лыжкі, лекавала людзей і худобу зёлкамі ды сем гадоў сядзела ў сталінскіх лягерах — пэўна, усё ж не за антысавецкую й контрарэвалюцыйную дзейнасьць, а сапраўды за знахарства. Зрэшты, нядаўна я чытаў кнігу пра лекавыя расьліны Беларусі, якая пачынаецца з словаў «Коммунистическая партия проявляет неуклонную заботу о здоровье советских людей». Хто ведае, мо бабулі Грыпінцы інкрымінавалі якраз тое, што, зьбіраючы зёлкі, яна насьмелілася клапаціцца аб тым, аб чым мела права клапаціцца толькі камуністычная партыя?

Няхай даруе мне мой засакрэчаны стрыечны дзед Рыгор, які меў нейкае і, відаць, даволі блізкае дачынень-

не да касьмічных палётаў, бо слаў нам пасылкі з чорнай ікрой і чырвонаю рыбай, а аднаго разу, калі гасьцяваў у вёсцы, саламяную страху бабулінае хаты ледзьве не раскідаў вайсковы верталёт, прысланы па дзеда з найбліжэйшага аэрадрому.

Няхай даруе мне дзядзька Язэп, які нават прыблізна ня ведаў свайго дня нараджэньня, а таму, не ўважаючы на ўсе жончыны захады, штовечар хадзіў падвясёлены, абсалютна слушна зазначаючы, што, магчыма, акурат сёньня ён і нарадзіўся.

Даруйце мне, усе мае родзічы, якіх згадаю мімаходзь або не згадаю зусім. Каб канчаткова не заблытацца ў галінах і адгалінаваньнях радаводнага дрэва — пагатоў, спадзявацца ўнікнуць лірычных і нелірычных адхіленьняў ад такое тэмы ўсё адно наіўна — буду весьці гаворку аб непасрэдных продках па бацьку і маці або, як казалі даўней, па мячы ды па кудзелі. Апрача таго, іншая мэтода будзе непазьбежна нагадваць хітрамудрую спробу схавацца ад адказнасьці, заблытаць судзьдзяў і пазьбегнуць выгнаньня.

І яшчэ адна заўвага. У цывілізаваным сьвеце, калі вядомы заснавальнік роду ці, прынамсі, нехта з знакамітых продкаў, радаводнае дрэва, як і належыць, малююць з каранёў. У нас жа сем дзесяцігодзьдзяў гэтыя карані нястомна выкарчоўвалі, бо трэба было ведаць ня продкаў, а нешта іншае. Напрыклад, чарадзейныя цытаткі з клясыкаў або галоўныя задачы пяцігодак. За няведаньне — слова ў слова — адной з гэтых задачаў рэктар Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Сікорскі ў 1970-я гады на бал зьнізіў мне адзнаку па гісторыі КПСС, а на дзяржаўным экзамэне па яшчэ больш захапляльнай дысцыпліне — «навуковым камунізьме», калі я, ужо маючы сумны досьвед і марачы атрымліваць стыпэндыю, ведаў усе фармулёўкі і галоўныя задачы так, што яны ад зубоў адскоквалі, прафэсар Круцько зьнізіў мне адзнаку ўжо адразу на два балы, «потому что вы, молодой человек, во все это совершенно не верите». Бедны прафэсар Круцько, няўжо ён верыў?

Такім чынам, дзесьці пачынаюць з каранёў, а ў нас атрымліваецца нешта адваротнае: мусім пачынаць генэалягічнае дрэва з сучка на нейкай зь ягоных галінаў і ўжо адсюль спрабаваць дапасьці каранёў.

Мая маці Марыя паходзіць зь сялянаў вёскі Капысіца, што вырасла ў невядомым годзе задаўненага стагодзьдзя за тры вярсты ад Дняпра на рэчцы Серабранцы. Маці ў гэтай рэчцы некалі ледзь не патанула, а я навучыўся ў ёй плаваць, і ўжо гадоў дваццаць, як там ня ўтопіцца нават шчанё. Карацей, жыць стала лепей, жыць стала весялей.

Мяркуючы па назьве, матчыну вёску заснавалі перасяленцы з паблізнага мястэчка Копысь, вядомага ўжо амаль тысячу гадоў, з той самай Копысі, што была сталіцаю беларускіх кафляроў-цаніньнікаў (яшчэ на пачатку XX стагодзьдзя тут было дваццаць кафляных заводаў, дасёньня ацалеў адзін), якіх маскоўскія цары выводзілі ў палон аздабляць грубкі ў сваіх задушлівых палацах.

Зусім побач з Копысьсю, дзе маці скончыла школу, за колькі гадоў да вайны аблюбаваў сабе месца пад летнік Янка Купала. Адзін з самых частых маміных успамінаў дзяцінства: народны паэт — ведама ж, несусьветна багаты! — купляючы на копыскім базарчыку грыбы, заўзята таргуецца за кожную капейчыну з прыгожымі тамтэйшымі габрэечкамі.

Мамін выпускны баль прыпаў на апошні мірны вечар, калі можна назваць мірам тое, што тады чынілася ў краіне. Даведаўшыся аб пачатку вайны, мама надзела на сябе ўсе свае тры сукенкі.

У Капысіцы стаяў гарнізон напалову зь немцаў, напалову зь фінаў. Маці прыгадвае, што параўнаўча зь фінамі, немцы выдавалі хоць і ворагамі, але не такімі страшнымі. Асабліва фольксдойчэ Паўль, які добра гаварыў па-расейску, папярэджваў вёску, калі будуць забіраць каровы або вывозіць моладзь у Нямеччыну, паведамляў, што трэба партызанам, і паказваў маёй маці пасьведчаньне сябра падпольнай антыфашыстоўскае

арганізацыі. Таму, калі вечарамі акупанты, седзячы па хатах, пілі шнапс і сьпявалі пад гармонік свае песьні, Паўль не баяўся хадзіць на вячоркі і танцаваць з нашымі дзяўчатамі. Пэўна, дзякуючы яму ў Капысіцы дагэтуль памятаюць прыпеўкі на нямецка-беларускай трасянцы:

*Варум ду гойтэ не прыйшоў?*
*Іх цябе чакала.*
*Унд васэр зь неба паліла,*
*Я дамоў адна пайшла.*

Падчас вячорак зь лесу нярэдка прыходзілі партызаны. Яны таксама танцавалі, курылі з Паўлем на ганку ды частавалі яго самагонкаю. Аднойчы яны, няўдала робячы выгляд, што аніколі раней з Паўлем не сустракаліся, вывелі яго з хаты і проста за хлявом застрэлілі. Нейкі асабіст, на загад якога гэта рабілася, яўна запісаў раніцою ў зводку, што народнымі мсьціўцамі зьнішчаны яшчэ адзін захопнік.

Калі я ад'яжджаў пасьля школы з свайго Полацку паступаць на гістарычны факультэт Беларускага (адно па назьве) унівэрсытэту, мама, згадаўшы маладосьць, зь неўласьцівай ёй чульлівасьцю сказала:

— Матэматыкаў будуць зваць піфагорамі, а вас — герадотамі…

Па вайне, закрэсьліваючы ў падручніках імёны «ворагаў народу», галадаючы і мерзнучы ў інтэрнацкай стадоліне, дзе па двое на вузкіх салдацкіх ложках вальтом спалі тры дзясяткі дзяўчат, маці скончыла гістарычны факультэт Магілёўскага пэдынстытуту. Яна ўсё жыцьцё выкладала ў школе гісторыю, магчыма, так ніколі й не задумаўшыся, што яна выкладае і што зрабілі з гэтаю навукаю нашы афіцыйныя герадоты.

Як вы заўважылі, аднаўляючы радавод, я не зьбіраюся маляваць грунтоўных партрэтаў. Я сьвядома ня лезу ў прыцемныя сьпіжарні памяці, а занатоўваю тое, што ня трэба ўзгадваць, бо яно памяталася заўсёды, увесь

час было як бы ў зялёным коле сьвятла ад лямпы, што гарыць увечары на маім стале. Мне здаецца, менавіта ў россыпе такіх незабыўных драбніцаў ды фактаў і можна разгледзець чалавечую сутнасьць дзейных асобаў майго невялікага дасьледаваньня. Пры гэтым я цудоўна ўсьведамляю рызыку дарэшты скепсьціць дачыненьні з сваякамі, ужо і цяпер моцна сапсаваныя маімі пісаньнямі.

Мой бацька Аляксей — сялянскі сын зь вёсачкі Стэцава, што схавалася ў яшчэ непавысяканых лясах Сеньненскага раёну Віцебскае вобласьці, між іншым, на той дзень, калі я пішу гэтыя радкі, апошняе ў Беларусі вобласьці, дзе яшчэ ня плацяць чарнобыльскіх дамавінных рублёў.

Бацька пасьпеў адбыць перад вайною тэрміновую службу ў Адэсе, да якой назаўсёды захаваў у суровай душы прытоеную пяшчоту і куды пасьпеў звазіць мяне васьміклясьніка за колькі гадоў да свае раньняе сьмерці. У дом свой вечны ён узяў ордэн Чырвонае Зоркі, мэдалі «За отвагу», «За боевые заслуги», «За оборону Сталинграда», «За взятие Будапешта» і з паўтузіна тых, якія давалі ўсім, хто быў на фронце, а таксама, напэўна, і ўсім, хто бясстрашна ваяваў з «ворагамі народу» ў тыле.

На здымках ваеннага часу я бачу старшага лейтэнанта Арлова пасьля першага і другога раненьняў: на вуліцах вугорскае й аўстрыйскае сталіцаў, у венскай піўніцы зь ніштаватым кухлем у руцэ. Ці ня гэтае фота натхняла мяне, калі на трэцім курсе мы зь сябрам Генадзем Кулажанкам, які пасьля бясьследна зьнікне ў Аўганістане, стварылі ў нас на гістарычным факультэце Клюб аматараў піва, што, як пазьней стала вядома, стукачы зь ліку аднакурсьнікаў абвясьцілі ў сакрэтных рэляцыях нацыяналістычнаю арганізацыяй. Дэкан роднага факультэту ў часе разбору «справы» глыбакадумна зазначыў: «В Германии тоже все начиналось с пива». Асаблівую злосьць выклікала ў выкладчыкаў марксізму-ленінізму створанае намі новае тэарэтычнае «вучэньне» — піваізм.

На адной з фатаграфіяў бацька сядзіць на лавачцы пад шыльдаю, зь якой усьміхаецца гумавашчокі мацак з падкручанымі і даўгімі, як у прусака, вусамі. Пакуль бацька пазіраваў перад той цырульняю ў вугорскім горадзе Сэгедзе, ягоны сябра зайшоў пагаліцца, і цырульнік-хартыст шырока — ад вуха да вуха — перарэзаў кліенту горла. Бацька не хаваў, што, знайшоўшы ў бакоўцы сябрава цела, ён разам з патрулём учыніў у цырульні крывавы самасуд.

Атрымаўшы пасьля вайны дыплём юрыста, бацька да апошніх дзён працаваў у пракуратуры. З гэтае прычыны ў мамінай вёсцы, дзе я штогод летаваў, усе — і дарослыя і дзеці — называлі мяне не іначай як Пракурорам.

Праца, несумнеўна, адбілася на бацькавым характары. Ён быў маўклівы, замкнёны ў сабе чалавек, здаецца, бяз разьвітага пачуцьця гумару і з патаемным жаданьнем калі-небудзь пераехаць у Адэсу. За маёй памяцьцю ён два разы плакаў. Першы — як займаўся школаюінтэрнатам для дзяцей-інвалідаў.

Павесіўшы на фасадзе інтэрнату лёзунг «Все лучшее — детям!», пэдагогі на чале з дырэктарам і сакратаром партыйнае арганізацыі (можна ўявіць, як яны праводзілі сходы, прымалі пастановы «в свете решений», а потым дзялілі д’яблаў заробак) бязбожна абкрадалі безабаронных выхаванцаў, трымаючы іх надгаладзь і збываючы налева нават іхнюю ўбогую, аднолькавую на ўсіх, як у турме, апратку.

Другі раз бацька плакаў, калі канаў ад раку і ніяк ня мог памерці, бо яго магутнае сэрца, жывучы асобным жыцьцём, не хацела спыняцца й празь месяц пасьля таго, як ён ужо нічога ня еў.

У апошнія дні ён гаварыў са мною так, як і я зь ім — па-беларуску.

Нібы нешта амаль неверагоднае, я ўспамінаю, што аднаго разу бацька прачытаў мне свой верш. Колькі радкоў зь яго я магу ўзгадаць і сёньня. Ня буду цытаваць іх, бо да літаратуры яны маюць дачыненьне прыкладна такое самае, як і шматлікія творы вядомага паэ-

та-ляўрэата М. Мяне ўражвае сам факт: мой бацька пісаў вершы!

Цяпер я перакананы, што гэта быў чалавек значна больш глыбокі і незалежны, чым некалі мне ўяўлялася.

Аднойчы, калі вецер раскідаў похапкам зладжаны ў нас на Дзьвіне пантонны мост і мы з бацькам стаялі на беразе й глядзелі на людзкую мітусьню, ён зь непраніклівым тварам прамовіў вершаваную фразу з свае маладосьці: «Течет вода Кубань-реки, куда велят большевики».

Калі тата быў ужо на Божай пасьцелі, я папрасіў, каб ён — калі чалавечае існаваньне доўжыцца й *там* — паспрабаваў даць мне нейкі знак, напрыклад, затэлефанаваў бы ў дзень майго нараджэньня. Я баяўся, што ён абразіцца, але тата нечакана сустрэў маю просьбу з усьцехаю.

Яму не ўдалося дазваніцца, ды праз колькі тыдняў ён — ужо *адтуль* — дапамог мне ў цяжкія дні.

Гэтыя дні пачаліся з таго, што вахцёрка нашага студэнцкага інтэрнату ўвечары паклікала мяне да камэнданта, дзе нібыта чакаў бацькаў сябра. Візытант аказаўся чалавекам зь невыразным абліччам — з тых, якія празь пяць хвілінаў пасьля сустрэчы надзейна сьціраюцца з памяці. Адзінай адметнасьцю ягонага твару былі маленькія бясколерныя вочкі-сьвярдзёлкі (ці, можа, дакладней, іголкі ад шпрыцоў), чые дотыкі-ўколы я адчуваў амаль фізычна. Абколваючы мяне з галавы да пятаў, госьць паказаў чырвоную «корачку», зь якой вынікала, што сярод бацькавых сяброў пракідаліся й маёры камітэту дзяржбясьпекі.

Далей размова адбывалася прыкладна так:

— Орлов?

— Арлоў.

— Владимир Алексеевич?

— Уладзімер Аляксеевіч.

— Родились в Полоцке тогда-то и тогда-то.

З гэтага моманту пытальнікі ў канцы фразаў зьніклі.

— Окончили школу в Новополоцке в 1970 году.

— Жили на улице имени такого и такого в доме номер такой-то, квартира такая-то. Мать — Мария Максимовна. Учительница истории.

Мой візаві перайшоў амаль на тэлеграфны стыль. Я ўжо не пацьвярджаў, а толькі слухаў чамусьці вядомыя яму зьвесткі з майго жыцьця.

Мне было дваццаць гадоў. Пад матрацам майго панцырнага інтэрнацкага ложка ляжаў зачытаны нумар «Роман-газеты» з «Адным днём Івана Дзянісавіча» толькі што выкінутага з краіны Салжаніцына. Насупраць сядзеў не анэкдотны (товарищ майор, организуйте чайку), а самы сапраўдны таварыш маёр, які вёў знаёмы зь літаратуры й кінафільмаў клясычны допыт.

Апрача думак пра «Івана Дзянісавіча», я ўжо здагадваўся пра сваё галоўнае злачынства. Мае сябры з Наваполацкага політэхнічнага інстытуту Вінцэсь Мудроў, Валера Шлыкаў і сёй-той яшчэ, каго з розных прычынаў я не хачу называць, пачалі выпускаць наогул бяскрыўдны, але беларускамоўны альманах «Блакітны ліхтар», дзе зьявіліся й мае вершаваныя опусы. Некалькі нумароў я прывез у Менск і трымаў на дне валізы пад ложкам. Я амаль нікому іх не паказваў, але, як вядома з даўніх і зусім нядаўніх часоў: дзе двое — там рада, дзе трэці — там здрада. Я яшчэ ня ведаў, што на момант размовы з таварышам маёрам данос пра існаваньне нашага «Блакітнага ліхтара» ўжо быў напісаны (дарэчы, па-беларуску, — потым мне давалі яго пачытаць).

Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

Тым часам допыт працягваўся.

— Отец — Орлов Алексей Артемович.

— Так.

— Работает в Новополоцке прокурором.

— Не, — сказаў я.

— Как это «не»? — не зьдзівіўся, а абурыўся таварыш маёр.

— Не працуе, — пацьвердзіў я, адчуваючы, як пачынаюць слабець ліпуча-халодныя пальцы страху, што сьціскалі маю істоту.

— Почему?

— Таму што ён памёр, — адказаў я.

Вочкі-сьвярдзёлкі замітусіліся й страцілі вастрыню. Таварыш маёр, здавалася, ніяк ня мог пагадзіцца з тым, што ягонае ведамства, якое ведала ўсё і ўсіх, магло так элемэнтарна спудлаваць. Аднак ён зразумеў, што такімі рэчамі, як бацькава сьмерць, не жартуюць, і адразу абвяў. Яшчэ былі нейкія пытаньні, было папярэджаньне, што пра нашую сустрэчу ніхто не павінен ведаць, але ён бачыў, што я ўжо не баюся, і, пэўна, вырашыў «раскалоць» мяне, дачакаўшыся больш зручнага выпадку.

Дзякуй табе, тата, што ты быў тады поруч са мною. Каб ты ведаў, як я шкадую, што не пасьпеў дасягнуць таго веку, калі мая й твая душы маглі б ператварыцца ў злучаныя між сабою ёмістасьці: ты так і застаўся для мяне рэччу ў сабе.

Я нарадзіўся ў таты з мамаю ў год Зьмяі паводле ўсходняга календара і ў год сьмерці Сталіна — паводле календара савецкага. Мой дзень нараджэньня ў жніўні, значыцца, у сакавіку, калі вялікі правадыр народаў нарэшце выправіўся на той сьвет, я ўжо існаваў, ды мог не нарадзіцца, бо пасьля ўрадавага радыёпаведамленьня мама пачулася зусім блага. Сьвет гінуў, ад роспачы мама ў гістэрыцы рвала валасы й надоўга трапіла ў лякарню. Але тым разам савецкая мэдыцына перамагла (нашы савецкія хворыя — самыя здаровыя хворыя ў сьвеце!), і, перачакаўшы, відаць, непамысныя для мяне дні задыякальнага знаку Льва, я шчасна нарадзіўся на трэці дзень Дзевы.

Мы жылі ў скарбовым драўляным доме, якога ўжо не існуе. Акурат на месцы нашага дому й саду цяпер Палац культуры вытворчага аб'яднаньня «Шкловалакно», і, калі ў Полацак прыяжджаў беларускі сьпявак з Амэрыкі Данчык, я марна спрабаваў там растлумачыць госьцю, што такое — палац культуры.

Дом быў падзелены перабойкаю на дзьве часткі: у адной месьціліся народны суд і гарадзкая пракурату-

ра, у другой — наша двухпакаёвая кватэра. Мой дзіцячы ложак стаяў пры сьцяне, за якою былі нежылыя памяшканьні. Часам я спалохана прачынаўся сярод ночы і, сьцяўшыся пад коўдраю, слухаў, як за сьцяною хадзілі, прыцішана гаманілі й чыркалі запалкамі нейкія людзі. Мяне апаноўваў ня проста страх, а страх, зьмяшаны зь невымоўнаю гідлівасьцю. Кшталт таго страху я перажыў нядаўна ў лесе, убачыўшы на альховай галіне над галавою клубок вужакаў. А тады, у маленстве, мая пасьцель рабілася мокрая ад халоднага поту (а на самым пачатку сьвядомага жыцьця, напэўна, ня толькі ад поту), і я, ня маючы болей змогі трываць гэтую пакуту, клікаў на паратунак маму.

На мой голас заўсёды прыходзіў тата. Ён гладзіў мяне цяжкой далонёю па галаве, казаў нешта супакойлівае, і я засынаў. Калі праз шмат гадоў, ужо ў студэнцтве, я зь сьмехам узгадаў тыя начныя прыгоды, бацька, не падтрымаўшы жартоўнага тону, сказаў, што там, за сьцяною, у гэбістаў было патайнае месца сустрэчаў з сэксотамі, і я спасьціг прычыну свайго прасякнутага агідаю дзіцячага страху — я трапляў у магутнае біяполе чалавечае нізасьці й подласьці. Мне дагэтуль незразумела, чаму бацька не пераставіў ложак да іншае сьцяны: няўжо такім чынам гартаваў мяне да наступнага жыцьця?

Маё маленства сьмяялася й плакала на старадаўніх, на шчасьце, яшчэ не зруйнаваных дазваньня вулачках тысячагадовага Полацку, але пра пошукі скарбаў і лёхаў, што вядуць з полацкіх храмаў на той бок Дзьвіны, пра выпрабаваньні сьмеласьці на вузенькім гзымсе вакол купалу Багаяўленскага сабору, дзе мы пісалі на ржавай блясе імёны дзяўчатак, што нам тады падабаліся, пра сабор Сьвятога Стэфана, які ўзьнялі ў паветра на нашых дзіцячых вачах (дакумэнты сьведчаць, што пасьля гарвыканкам выдаткаваў з свайго бюджэту 40 тысяч рублёў на «вывоз мусора»), — пра ўсё гэта іншым разам.

У першы кляс я пайшоў у 1960 годзе, калі да абяцанага Хрушчовым камунізму заставалася ўсяго дваццаць га-

доў і ў сталоўках ужо можна было задарма пад’есьці хлеба з гарчыцаю або сольлю. Неўзабаве ў Полацку зачынілі — вядома, па просьбах бацькоў і наогул усіх працоўных — апошнюю беларускую школу.

Ня памятаю, каб у нашым тагачасным полацкім жыцьці было хоць што-кольвек беларускае. Прыгадваецца адно выкладзенае цэглаю на аблезлым фасадзе двухпавярховае камяніцы і шмат гадоў абсалютна незразумелае мне слова «Лазьня» з дарэформавым мяккім знакам, якое дзіўным чынам захавалася да нашых дзён, ператварыўшыся ў своеасаблівую гарадзкую славутасьць.

Калі я вучыўся ў другім клясе, Хрушчоў гаварыў на XXII зьезьдзе пра забойства таварыша Кірава ды іншыя крывавыя справы Сталіна, што з лагоднаю ўсьмешкаю зазіраў з п’едэсталу ў вокны нашай 1-й полацкай сталінскай школы. Мы зь сябрам Колькам слухалі хрушчоўскі выступ па радыё разам з мамаю ў нас дома. Тады я яшчэ не разумеў, чаму мама слухае з такой увагаю.

У той самы дзень мы з Колькам вырашылі адпомсьціць за невядомага нам таварыша Кірава: знайшлі на мамінай настаўніцкай этажэрцы стары «Букварь», выдралі адтуль партрэт Іосіфа Вісарыёнавіча, выкалалі яму ржавым цьвіком вочы, спалілі партрэт на вогнішчы ў нашым садзе й вырашылі, што назаўсёды расквіталіся з найлепшым сябрам савецкіх дзяцей.

У тую самую восень бульдозэр перакуліў і некуды завалок нашага «школьнага» Сталіна. Праўда, п’едэстал стаіць там і сёньня, мусіць, недзе паблізу чакае й ягоны былы гаспадар.

Я пішу пра гэта, бо І. В. Сталін — таксама частка майго радаводу, як, зрэшты, — хацелі б мы таго ці не, — і кожнага з нас. Хіба не пацьвярджае гэта лішні раз нашая з Колькам помста за таварыша Кірава.

Праз колькі гадоў, клясе ў сёмым, я даведаўся, што маю й асабісты рахунак да ўсяго таго, што ўвасабляў чалавек, якога мудры Анры Барбюс назваў некалі Ленінам-сёньня. Маці паказала мне даведку, якую я захоўваю цяпер сярод самых дарагіх дакумэнтаў.

*Верховный суд*
*Белорусской ССР*
*4 апреля 1963 г.*
*г. Минск*
*5-10*

*СПРАВКА*

*Дело по обвинению Денисова Максима Денисовича, 1881 года рождения, пересмотрено Верховным судом БССР 5 февраля 1963 г.*

*Постановление от 23 марта 1933 г. в отношении Денисова Максима Денисовича отменено и дело за отсутствием состава преступления прекращено.*

*Денисов М. Д. по данному делу реабилитирован.*

*Зам. председателя Верховного суда БССР*
*С. Шардыко.*
*Тираж 10 000.*

Да гэтае даведкі мне казалі, што дзед Максім хварэў і проста памёр.

Для ўсіх нас так і засталося загадкаю, якім было тое «данное дело».

Памёр у 1930-я гады і другі мой дзед — Арцём. Наконт ягонага лёсу ніякіх даведак не прыходзіла, але з аднаго з рэдкіх бацькавых аповедаў я запамятаваў, што дзед Арцём меў малатарню, а значыцца, і ўсе магчымасьці паўтарыць шлях дзеда Максіма.

Тата, тата… Як рана ты пайшоў, і як позна я вылузаўся з вопрадня інфантыльнасьці…

На гаспадару малатарні дзеду Арцёму абрываецца мужчынская лінія бацькавага роду. Далей — беспрасьветны туман без намёку хоць бы на нейкае сямейнае паданьне.

Намагаюся і не магу ўзгадаць аблічча сваёй бабулі па мячы — Просі. У «фамільным архіве» не ацалела, а мо ніколі й не было ніводнае яе фатаграфіі. Бабуля Прося колькі тыдняў глядзела мяне пасьля таго, як, вярнуўшы-

ся аднаго дня дадому, маці ўбачыла замурзаных мяне зь сястрычкаю ды прачытала пакінутую на стале цыдулку, зь якой вынікала, што нашая нянька, вясковае дзяўчо Паліна, падалася з камсамольскай пуцёўкай уздымаць цалінныя землі. Як хутка высьветлілася, тая пуцёўка чамусьці давала Паліне права прыхапіць з сабою маміну кофту і мае́ зь сястрою срэбныя крыжыкі, атрыманыя пасьля хрышчэньня ў Копыскай царкве.

Нанач баба Прося зазвычай апавядала мне відавочна сваю ўласную нескончоную казку пра рыбіную вайну (памятаю, што бабуліна прыхільнасьць у гэтай зацятай вайне заўсёды зь нейкае прычыны была на баку шчупакоў), а раніцою я почасту знаходзіў пад падушкаю пачачак арабінавых цукерак-смактунчыкаў.

Аднойчы я быў з татам у бабулі Просі ў Стэцаве. Каля ейнае хаты пасьвілася каза; проста за парогам пачынаўся лес, і пра лесуна, які шмат разоў «вадзіў» яе, прыходзіў на падворак даіць казу і нават начаваў у хаце пад печчу ў калядныя маразы, бабуля апавядала прыкладна так, як магла б казаць пра суседа, што жыў цераз плот.

Яна памерла, калі я хадзіў у трэці кляс. Ужо ў студэнцкія гады разоў колькі я меўся зьезьдзіць да бабы Просі на магілу, але так і не сабраўся. Часам я думаю, што зьбяруся, калі здолею ўспомніць бабулін твар.

З другой маёй бабуляю — Аўгіньняй — гэтае праблемы ніколі не паўставала. У любы момант я магу лёгка выклікаць у памяці ня толькі яе твар, але і голас, хаду, адчуваньне ейнай сухой рукі, калі яна вяла мяне зь сястрою на поплаў ці на гумнішча, каб пасадзіць на грудок і пачаць свой урок батанікі.

—Гэта здрыжнічкі, — казала бабуля, — гэта ястрэц, а вунь, на выжарыне, скрыпень зацьвітае. Гэта во драсён, а гэта братаўка…

Калі цяпер я чытаю ў сяго-таго з нашых уляўраных майстроў прыгожага пісьменства пра «іван-чай», «мацьі-мачыху» або «івана-ды-мар’ю», пачынае здавацца, што безьліч такіх прыгожых, трапных ды непаўторных

назваў беларускіх красак і траваў ведаем ужо адно мы зь сястрою.

Баба Аўгіньня не сядзела, як яе сястра Грыпінка, за знахарства, ды несумнеўна таксама мела стасункі з загадкавымі, але наогул прыязнымі да чалавечага роду сіламі. Яна зашэптвала зубы (скрозь гады да мяне даносіцца ейны ціхі, падобны да духмянага шамаценьня сена ў адрыне шэпт: «Белае карэньне, чорнае каменьне, сінія берагі...»), лекавала ячмень (чамусьці па-расейску: «Ячмень-ячмень, нá тебе кукиш. Чего себе купишь? Купи себе топорок, руби себя поперек...»), выводзіла мышэй і «каціную драпу»...

Таемную бабуліну сілу я адчуваю й цяпер, праз трыццаць гадоў пасьля яе сьмерці. Пакутуючы калісьці ад бяссоньня, супраць якога не дапамагаў нават старажытны народны сродак — пакладзеныя ў галовах бурштынавыя пацеркі, я неяк выпадкова (?) узгадаў бабуліны ўрокі: адчуў сваю руку ў ейнай, пачуў яе голас, убачыў зморшчакаваты лагодны твар і серабрыстыя хвалі, што гнаў па высокай траве вятрыска, і — нібы ў якоесьці пухкае прадоньне, імгненна праваліўся ў сон. Назаўтра зноў паспрабаваў гэтыя лекі, і з тае начы бяссоньне мне ўжо не пагражае.

Бабуля часта апавядала, які добры быў да людзей пан з суседняе вёскі, у якога яна служыла ў маладосьці пакаёўкаю. Думаю, што гэтыя чульлівыя прыгады можна вытлумачыць пазьнейшым шчасьлівым жыцьцём у калгасе, але нават у самой панавай мянушцы — Брынка — мне, далібог, чуецца штосьці прыязна-чалавечае, чаго і з самай вялікай фантазіяй ня скажаш пра ацалелыя ў памяці старых вяскоўцаў мянушкі двух першых старшыняў тамтэйшага калгасу — Раўло і, перапрашаю, Галасрака.

Неўзабаве пасьля бальшавіцкае рэвалюцыі бабуля Аўгіньня ледзь не загінула.

Тады ў капысіцкае навакольле нейкім ветрам занесла цыркавых артыстаў — мусіць, ратаваліся ад чырвоных ці белых з блізкіх Магілева або Воршы. Адны старыя

капысічане згадваюць, што ў цыркачоў былі мядзьведзі, другія гатовыя пабажыцца, што бачылі плявучых вярблюдаў і нават сланоў, але ўсе добра памятаюць, што сярод артыстаў былі зусім маленькія людзі, якіх у Капысіцы дагэтуль называюць словам «місьцюкі» (магчыма, яго трэба лічыць адпаведнікам расейскага «лилипуты»).

Гнаны рэвалюцыйнымі віхурамі цырк падаўся далей, а місьцюкі наважылі перачакаць пачатак новае эры ў гісторыі чалавецтва ў Капысіцы: набылі кароўку і атабарыліся на пакінутай сядзібе наводшыбе вёскі.

Місьцюкоў было трое: жонка з мужам і іхні сын — такога самага росту, але, як казала бабуля, маладзенькі тварам. Кабетка хутка навучылася стоячы даіць карову, а ейны чалавек разам з сынам рапараваў па хатах збрую ды іншы сялянскі рыштунак. Місьцюкі ціха пражылі ў сваёй хаце два гады, а потым з Копысі прыехалі на конях збройныя людзі, якіх бабуля, успамінаючы тую гісторыю, называла то камісарамі, то люцыпанэрамі. Яны вывелі місьцюкоў з хаты і забілі ўсіх траіх — не страляючы, а выцяўшы кожнага пісталетнаю рукавяткаю па скроні. «Як зайчыкаў», — казала баба Аўгіньня.

У той дзень яна пасьвіла каровы паблізу місьцюковае сялібы і, схаваўшыся ў агрэсьце, усё бачыла і чула: як маўчаў перад сьмерцю гаспадар і як прасіліся кабетка з сынам. Бабуля лічыла, што люцыпанэры забілі няшчасных місьцюкоў за тое, што знайшлі ў іх *нейкія кнігі*. Гэтыя словы яна так і вымаўляла — курсівам, заўсёды хрысьцячыся й азіраючыся на бакі.

Яна закрычала ў агрэсьце ад страху, і верхавод коньнікаў загадаў, каб не было сьведкаў, «шлёпнуць» і яе, аднак бабулю абараніў вусаты матрос, дзякуючы якому (бо мая мама народзіцца толькі праз чатыры гады пасьля таго дня) я і займаюся сёньня генэалягічнымі росшукамі.

Калі ўспамінаю бабулін аповед, у памяці заўсёды пракручваецца эпізод з даўняга фільма пра рэвалюцыю. Узброеныя да зубоў чырвонаармейцы трасуць недзе ў Маскве ці ў Петраградзе прафэсарскую кватэру. Таленавіта акарыкатураны рэжысэрам і акторам гаспадар,

спрабуючы нешта давесьці прадстаўнікам рэвалюцыйных масаў, здымае з паліцы кнігу (калі не памыляюся, том Пляханава). Зухаваты, перацягнуты кулямётнымі стужкамі малады начальнік патруля, трымаючы руку на расшпіленай кабуры, вясёла кажа акулярыстаму прафэсару: «Мы ваших книжек не читали и читать не собираемся. Мы Ильичу без книжек верим». Мне ўвесь час здаецца, што пасьля размовы прафэсара таксама «пусьцілі ў распыл».

З тых дзён у душы ў бабулі Аўгіньні назаўсёды засеў нязводны страх перад кнігамі. Можа, менавіта таму ў гады «культурнае рэвалюцыі» яна нейкім чынам ухілілася ад ліквідацыі свае непісьменнасьці і ўсё жыцьцё ставіла ў калгасных ведамасьцях каструбаватыя крыжыкі. Калі б яна дажыла да 1970-х гадоў, яе перакананасьць, што кнігі прыносяць людзям адно няшчасьці, магла б толькі ўмацавацца: майму стрыечнаму брату, а ейнаму ўнуку Генусю далі тэрмін (праўда, умоўны) за два тузіны зробленых ім копіяў булгакаўскіх «Роковых яиц».

Бабуля Аўгіньня прычынілася й да майго дзіцячага адкрыцьця, што наша савецкае радыё кажа няпраўду.

Рэпрадуктар вісеў на слупе каля фэрмы. А шостай гадзіне раніцы ён прачынаўся й хрыпатым, нібыта зь перапою, голасам сьпяваў:

*Союз нерушимый республик свободных*
*Сплотила навеки великая Русь...*

Ад гімну да гімну радыё займалася музычным выхаваньнем насельнікаў паблізных хатаў і нястомна паведамляла пра падзеі ў жахлівым капіталістычным сьвеце і ў краіне, што, не ўважаючы на перабоі з хлебам, шпарка набліжалася да сьветлае будучыні.

Аднойчы мае вушы злавілі ў радыёэфіры фразу, якая чымсьці зьбянтэжыла наіўны дзіцячы розум.

—Каждый советский человек, — сказаў рэпрадуктар, — знает имена Толстого и Горького.

Цэлы дзень гэтыя словы мулялі мне, і ўвечары я адважыўся на невялікі сацыялягічны досьлед.

—Бабушка, — запытаўся я, — ты знаешь, кто такой Толстой?

—Быў чалавек таўсты, во яму такое мяно й далі, — адказала бабуля.

—А кто такой Горький? — без асаблівае надзеі працягваў я.

—А во, кажуць, горкі, як рэдзька. Або яшчэ — як хрэн, горкі.

—Да нет, бабушка, я о писателях спрашиваю, — з складанымі пачуцьцямі і да радыё, і да бабулі сказаў я.

—Мая, дзетка, навука малая, — рахмана азвалася баба Аўгіньня... — Травы ведаю, а чытаць ненавучаная.

Вядома, мне было ніякавата, што яна — такая старая і яшчэ ня чула ні пра Талстога, ні пра Горкага, пра якіх я ўжо ведаў у першым клясе. Але болей мне рупіла іншае. Атрымлівалася адно з двух: або бабуля не савецкі чалавек, або радыё хлусіць.

—А ты, бабушка, советский человек? — запытаўся я.

—Як усе, так і я, — адказала бабуля. — І галадавала, і палачкі ў калгасе за працадні палучала.

Я, дарма што малы, і сам разумеў недарэчнасьць пытаньня: усе навокал, у тым ліку і баба Аўгіньня, відавочна былі савецкія людзі. Фашыстаў, капіталістаў, гаротных амэрыканскіх нэграў, якія паміралі ад голаду, а таксама паліцэйскіх і гангстэраў, што курылі цыгары, пілі нейкія «віскі» і казалі «Шеф вами недоволен», гэтых і іншых, зазвычай страхалюдных несавецкіх людзей я бачыў адно ў кінафільмах. Адсюль вынікала вусьцішная ерэтычная выснова, якою я палічыў за лепшае ні з кім не дзяліцца: *нашаму радыё нельга верыць.*

Кажуць, што яшчэ ў самыя змрочныя гады мая ціхмяная бабуля неяк выявіла непахісную цьвёрдасьць. Прысланы з раёну начальнік, што кватараваў у ейнай хаце, загадаў зьняць з покуці абразы.

—Яны ў вас есьці ня просяць, — адрэзала баба Аўгіньня з намёкам.

Добра памятаю, што яна прасіла Бога, каб узяў яе да сябе на пачатку лета, тады, калі адцьвітаюць дзьмухаўцы і, калі верыць бабулі, зямля мяккая й лёгкая, як дзьмухаўцовы пух. Бабуліна сэрца спынілася, калі яна сядзела на ганку, крышачы карове буракі. Я пабег на поле па цётак. Мяне абурыла, што яны перапытвалі: «Бабушка заснула? Бабушка заснула?», хоць я недвухсэнсоўна сказаў, што яна памерла.

Гэта здарылася першага чэрвеня.

Яшчэ колькі словаў пра бабуліну сувязь з загадкавымі сіламі хачу дадаць у наступных абзацах — своеасаблівым постскрыптуме, які зьявіўся ў аповедзе пасьля першай публікацыі.

Праз тыдзень, як мой радавод надрукавала газэта «Літаратура і мастацтва» (тыя дні былі, як і чакалася, адзначаныя крыўдамі, папрокамі й прэтэнзіямі, што ў больш ці ў менш тактоўнай форме выказвалі мне сваякі й несваякі — напрыклад, паэт-ляўрэат М.), мы зь сястрою павезьлі маці ў яе Капысіцу.

Пакінуўшы маму з нашай цёткай Вольгаю на печы ў іхняй роднай хаце, мы пад несьціханым дажджом, як заўсёды, занесьлі бабулі Аўгіньні на магілу жменю цукерак. Якраз на пагосьце, нібыта зарадаваўшыся нашым адведзінам, дождж лінуў, не раўнуючы як з цэбра, і пакуль мы дабеглі да лазьні другой нашай цёткі — Насты, на нас не засталося аніводнай сухой ніткі.

Калісьці ў гэтай лазьні я з стрыечнымі сястрычкамі, начытаўшыся ў бабкі Грыпіны «Чорнай магіі», спрабаваў даведацца, *што будзе заўтра*. За хвіліну да поўначы мы, у адпаведнасьці з парадамі чарнакніжнікаў, запалілі перад пастаўленым на лазнае вакенца люстэркам сьвечку, кінулі ў агонь тры белыя поўсьцінкі з кацінага хваста і роўна апоўначы, утаропіўшыся ў цьмянае люстэрка і ляскаючы зубамі ад страху, вымавілі патрэбны заклён. Усьлед за апошнім словам у лазьню ўварвалася пройма, сьвечка зь люстэркам паляцелі на дол, а мы кінуліся кулём у разнасьцежаныя дзьверы. Адбегшыся

на добры кілямэтар і зьвёўшы дых, мы з жахам убачылі, што чамусьці ўцяклі з лазьні прамютка на могілкі, адкуль пабеглі назад да лазьні, баючыся, каб яна не загарэлася ад сьвечкі. Дарэчы, тае начы ў вёсцы, учадзеўшы, памерлі двое старых.

Тую прыгоду я ўзгадаў ужо ўвечары, узяўшыся гартаць свае нататкі за таўстаногім свойскім сталом з букецікам здрыжнічак на саматканым абрусе. Тады мяне займала ідэя напісаць аповесьць пра Напалеона, які ў выгнаньні, на востраве Сьвятой Алены, аказваецца, думаў, што мог бы выйграць расейскую кампанію, каб аднавіў незалежнасьць Вялікага Княства Літоўскага. Але замест распрацоўкі сюжэту мяне ў тыя хвіліны апанавалі прыга́ды пра цётчыну лазьню, а потым заманулася перачытаць захоплены з сабою радавод тут, у дзедавай хаце. Яна, хата, была найсуровейшым судзьдзёй мае пісаніны, бо ведала ўсё гэта (і значна болей) і безь мяне.

Мама зь цёткаю і сястра даўно паснулі. Я сядзеў над разгорнутымі на стальніцы старонкамі «ЛіМу». Справа і зьверху глядзела на мяне з ручнікоў Багародзіца, насупраць было незавешанае начное жнівеньскае вакно зь вясёлкавымі ад старасьці шыбамі.

Я чытаў, чуючы на сабе ня толькі позірк з абраза, але і яшчэ колькі позіркаў немаведама адкуль — напэўна, гэта глядзела на мяне сама хата, — чытаў і, калі дайшоў да словаў «таемную бабуліну сілу я адчуваю й цяпер, праз трыццаць гадоў...», зь цёмнага вакна вылецела, засыпаўшы друзачкамі падвоканьне, цэлая шыбіна.

У хаце пачаўся пярэпалах. Але ні ўначы, ні раніцою мы не знайшлі пад вокнамі канцавой цётчынай хаты аніякіх сьлядоў, аніякага камянюкі ці яшчэ чаго-небудзь такога.

Вядома, шыба з старой скрыўленай рамы магла выпасьці сама сабою. Вядома, зусім выпадкова ў наступныя дні ў сяброў і ў людзей амаль незнаёмых, да якіх я чамусьці заходзіў, мне пачалі трапляцца ў рукі (самі сабою, безь ніякіх адмысловых пошукаў) рэдкія кнігі, гравюры й старыя газэтныя выцінкі пра жыцьцё Напа-

леона на востраве Сьвятой Алены і пра колькі месяцаў, прабытых ім у 1812 годзе ў Беларусі. Вядома, зусім выпадкова маглі прычыніцца й іншыя падзеі, якіх я не адважваюся тут згадаць толькі з тае прычыны, што ў адваротным выпадку мне могуць параіць неадкладна зьвярнуцца да адпаведнага доктара. Далібог, будзе лепей, калі на гэтым я скончу свой постскрыптум і вярнуся да радаводу.

Пра свайго мужа, а майго дзеда Максіма, бабуля Аўгіньня мне ніколі не казала. Зрэшты, тады я быў малы дый не было яшчэ даведкі зь дзесяцітысячным (?) накладам, і бабуля, пэўна, лічыла такія размовы небясьпечнымі. Пра дзеда я найболей ведаю ад мамы.

У вайну, якую да 1917 году часта называлі Вялікай Айчыннаю, а потым перахрысьцілі ў першую імпэрыялістычную, дзед Максім, як чалавек пісьменны (ён выпісваў перад вайною нейкую газэту, і мне, вядома, хочацца, каб гэта была «Наша Ніва»), даслужыўся да унтэр-афіцэра. Падчас страшных баёў на Нарачы, калі ў 1916 годзе расейскія войскі, дапамагаючы француcкім хаўрусьнікам, пачалі зусім непадрыхтаваны наступ, дзед трапіў у палон. У Нямеччыне ён працаваў у баўэра і мог пераседзець рэшту вайны на сытных харчох, але разважыў іначай: у адну цёмную ноч паклаў у кайстру два боханы сьвежага хлеба і праз два месяцы адчыніў дзьверы роднае капысіцкае хаты.

У вёсцы лічылася, што дзед ведае «плянэты», і звычайна ніхто не адважваўся раней за яго пачынаць сеяць або жаць. Той жа, хто, не даючы веры дзедавым здольнасьцям, кіраваўся сваімі «плянэтамі», мог потым наракаць адно на самога сябе. Калі капысічанаў загналі ў калгас, яны, мусіць, усё ж маючы надзею, што можна будзе неяк жыць і там, выбралі дзеда Максіма за брыгадзіра.

Праз тры гады наш далёкі сваяк, што служыў у раённым Шклове ў НКВД, папярэдзіў дзеда й ягонага брата Ціхана, калгаснага бухгальтара, што на іх ды яшчэ на дзесяць вяскоўцаў прыйшоў данос. Хапун, казаў сваяк,

чакаўся вялікі, і калі зьехаць куды-небудзь на данбаскія шахты ці проста зашыцца месяцы на тры ў лес, усё абыдзецца, бо возьмуць іншых.

Дзед з братам сабралі ў сваёй хаце сход тых дванаццаці, чые імёны ўжо перадрукоўвалі машыністкі НКВД. Думкі падзяліліся: адны стаялі на тым, каб ратавацца; дзяды Максім і Ціхан лічылі, што схавацца — значыць прызнаць, быццам яны й сапраўды ў нечым вінаватыя. Надзвычай дарагая мне й такая драбніца: на той зборні дзед Максім сказаў, што ўсё адно замест хаванцаў схопяць кагосьці яшчэ, нават не папярэджаных.

Назаўтра трое «ворагаў народу» падаліся ў лес, а дзевяцёра засталіся ў вёсцы, спадзеючыся: *там* разьбяруцца. Людзі верылі, што ўлада, якая ўжо пятнаццаць гадоў называла сябе іхняю, хоць калі-некалі здатная на справядлівасьць.

Па дзеда прыйшлі ў першы дзень 1933-га. Ён сядзеў на палку, плёў рэзгіны і, як запомнілася маме, сьпяваў:

*Што рабіць мне, як мне быць?*
*Ці пакінуць, ці любіць?*

Мама басанож бегла за санямі да аселіцы.

Праз два тыдні бабе Аўгіньні ды жонкам іншых арыштаваных дазволілі перадаць ім у Шклове харчы і памяняць бялізну. Старую бялізну давялося спаліць, бо яна кішэла вошамі.

Наступнаю зьвесткаю пра дзеда была ўжо згаданая даведка на шэрым блянку, дзе не знайшлося месца хоць бы на колькі слоў крывадушнага казённага спачуваньня. Чалавека забілі, але няхай вас суцешыць тое, што яго забілі ні за што, невінаватага. Праўда, я маю моцны сумнеў, што тыя, хто падпісваў такія даведкі ў 1960-я гады, і тыя, хто падпісвае іх цяпер, шчыра лічаць такіх, як мой дзед, невінаватымі. Яны сапраўды былі вінаватыя — у тым, што ведалі «плянэты», што за царскім часам выпісвалі несавецкую газэту, што ім людзі верылі болей, чым розным камісарам і люцыпанэрам…

Бабуля Аўгіньня сустрэлася зь дзедам Максімам на небе за два гады да таго, як дзяржава рабочых і сялян ашчасьлівіла нас гэтым блянкавым сьведчаньнем свае гуманнасьці ды некалькімі рублямі, якія маці зь цёткаю адмовіліся атрымліваць.

Імя даносчыка, што загубіў дзевяць душ, пакінуўшы бязбацькавічамі без малога тры тузіны дзяцей, хутка адкрылася. Гэта быў самы недалужны капысіцкі гаспадар камбедавец Цыбулька.

— Наша горніца з Богам ня спорніца! — з дурным гонарам вясёла казаў ён пра сваю хаціну-развалюху, дзе адно на печы маглі сагрэцца ягоныя вечна галодныя дзеці.

Мамін брат дзядзька Язэп шмат разоў, выпіўшы дзеля сьмеласьці гарэлкі, браў уначы паляўнічую стрэльбу ды ішоў помсьціцца за бацьку. Бабуля Аўгіньня й мама зь сёстрамі, галосячы, як па нябожчыку, беглі за дзядзькам да Цыбулькавае развалюхі. Ейны гаспадар сьпярша выпускаў на падворак усіх сваіх васьмярых дзяцей, потым жонку, потым выходзіў у споднім сам, і дзядзька Язэп, заплакаўшы ад бясьсільля, паварочваў дахаты.

— Усё адно заб’ю! — крычаў ён.

— Няхай, сынок, яго Бог уваб’е, — хрысьцячыся, казала бабуля Аўгіньня.

Бог не сьпяшаўся, і Цыбулька пераваліў за дзевяць дзясяткаў. Аднойчы, калі я зь вясковаю блазнотаю тоўкся каля крамы, дзе вечна выпівалі й пра штосьці спрачаліся капысіцкія мужчыны, сівенькі падпіты дзядок з чырвонымі сьлязьлівымі вачыма паклікаў мяне пальцам, завёў у краму і купіў трыста грамаў зьліплых у суцэльны камяк ірысак. Зьмеціўшы такі манэўр, адзін з падкрамных апівудаў сурова сказаў мне:

— Выкінь цукеркі! Ён твайго дзеда прадаў!

У тым вяку «прадаць дзеда» значыла прыкладна тое самае, што й «прадаць мяне» — малодшая сястра штодня рабіла гэта, паведамляючы бабулі пра кожны мой вылаз у суседчыны вішні або трускаўкі. Адбегшыся ад крамы, я з смакам зьеў падораныя ірыскі, ня чуючы да

сівога дзядка анічога, апрача ўдзячнасьці. Падумаеш, прадаў нейкага там ніколі ня бачанага дзеда!..

Трое капысічанаў, што, не паслухаўшыся дзеда Максіма, схаваліся ад роднае ўлады ў лесе, памарозіліся, але засталіся жывыя. Адзін потым не вярнуўся з вайны, другі ўжо даўно перасяліўся на пагост пад старыя бярэзіны, а з трэцім у апошнія пагасьціны на мамінай радзіме мы выпілі пляшку самагонкі.

— Не паслухаўся нас, Воўка, твой дзед, — казаў ён, — а то б цяпер з намі чарачку ўзяць мог. Здаровы быў Дзянісавіч, як гэты, каб яго халера, рускі багатыр Ільля Мурамец. Неяк на станцыі рэйку да грудзей падняў…

Ад маці бабы Аўгіньні — маёй прабабкі Пёклы — засталося толькі гэтае імя, амаль зраўнаваны зь зямлёю грудок на кладах і згадка пра тое, што прабабка страшэнна не любіла жоўтых кветак. Затое, хоць і страціўшы ўжо сваё імя, трывала ўвайшла ў няпісаныя дагэтуль аналы нашага роду ейная маці — мая бабка зь дзьвюма прыстаўкамі «пра».

Паводле маіх падлікаў, тое лета, у якое пры лесе каля капысіцкіх могілак стаяў цыганскі табар, было яшчэ за першым, царскім, прыгонам.

Цыганяты займаліся экспрапрыяцыяй садавіны і яек. Цыганкі хадзілі па хатах, варажылі па руцэ і на картах, паказвалі розныя штукі: напрыклад, налівалі ў шклянку вады, перакульвалі яе на далонь, і вада ня толькі не вылівалася, але хутка пачынала кіпець — за гэта гледачы мусілі разьлічыцца кавалкам сала. Бывалі выпадкі, калі заварожаныя гаспадары выносілі смуглявым гасьцям цэлыя кублы, шасткі з кілбасамі або рэшаты яек. Цыганы ж мужчыны, удзень ня грэбуючы штукарствам, дачакаўшыся свайго цыганскага сонца, чынна скарачалі ў навакольлі конскае пагалоўе. Адзін зь іх сярод гэтых клопатаў і атрымаў ад праправабкі нешта больш істотнае, чым рэшата яек.

Кажуць, у такіх выпадках гены наймацней праяўляюцца праз некалькі пакаленьняў. Баюся, што гэта

праўда. Калі сустракаю цыганоў, душа мая трывожна і ўадначас соладка сьціскаецца, і я нібыта чую ў ёй звон крышталёвых келіхаў. Раз-пораз кроў майго безыменнага чарнявага продка ўладна змушае мяне забыцца пра найпільнейшыя турботы і зьехаць на колькі дзён проста ў сьвет — начаваць у гатэлях і на вакзалах, ці, прынамсі, ад'ехацца на спадарожнай машыне на паўсотні кілямэтраў ад гораду і, закінуўшы рукі за галаву, да ночы ляжаць недзе пад стогам, сочачы аблокі.

У мяне ня надта добрае вока: варта мне пільна паглядзець на чалавека, як ён — асабліва, калі гэта жанчына, — спатыкаецца. Цыганкі ніколі не бяруць зь мяне грошай за варажбу. Што да іхніх прароцтваў, дык, апрача ўсяго іншага, яны, нібы змовіўшыся, абяцаюць мне нейкую «наглую» сьмерць.

Цыганкаю была й тая юная, кучаравая і ўмелая істота, якая зрабіла мяне мужчынам.

Калі я бачу сучасны табар: пасьцеленыя паміж вакзальных лавак коўдры, мурзатых дзяцей, маладзёнаў, што проста ў прыцемным кутку могуць адважна маркітавацца, мяне часам перасмыквае, але насуперак усяму вусны ўсё адно шэпчуць немаведама калі і як запалыя ў памяць словы «Лачо дывэс тумэн, гэ ромалэ! — Шчасьлівай вам дарогі, цыганы!..»

На цыганскім сучку абломваецца жаночая галіна мамінага радаводу і застаецца апошняя мая надзея й паратунак — маміны продкі па мячы.

Прадзед Дзяніс, бацька дзеда Максіма, не вярнуўся з апошняе расейска-турэцкае вайны. Калі ў менскім храме Аляксандра Неўскага, што на Вайсковых могілках, я перачытваю імёны беларускіх ваяроў 30-й артылерыйскай брыгады і 119-га Каломенскага палка, палеглых 18 ліпеня 1877 году пад Плеўнаю — «Канониры Іосіф Вайшвіло, Іаков Чирка... Рядовые Іоанн Гунька, Франц Тваска, Стефан Комар, Григорий Мурашка, Стефан Сыс...» — зазвычай на імені «Іосіф Войнич» ува мне пачынае зьвінець струна загадкавага хваляваньня. Якая

сувязь існуе паміж мною й гэтым Войнічам? Магчыма, ён ваяваў разам зь дзедам, спаў зь ім побач на баўгарскіх камянях, а магчыма…

Хто скажа, што пераважыць на вагах гонару: сьмерць за свабоду іншага народу ці жыцьцё, аддадзенае за вызваленьне свае зямлі?

Мой прапрадзед Баўтрамей, народжаны, (паводле запісу на некалькіх дзівам ацалелых старонках царкоўнае кнігі), у 1830 годзе, меў у вяку Хрыста магчымасьць абраць другі з гэтых шляхоў.

Якраз у тых мясьцінах Прыдняпроўя дзейнічаў атрад Ігната Будзіловіча, пазьней расстралянага царскімі карнікамі ў Воршы. Звабліва думаць, што Баўтрамей валіў тэлеграфныя слупы, вазіў па вёсках паўстанцкі маніфэст «чырвоных» і з адчаем асуджанага на сьмерць біўся з казакамі 26 красавіка 1863 году ў няроўным баі пад Пагосьцішчамі.

Але верагоднасьць гэтага досыць малая. Архіўныя дакумэнты сьведчаць, што сярод прыдняпроўскіх беларусаў непараўнана болей было ня тых, хто пайшоў пад штандары Касы-Будзіловіча і Тапара — паўстанцкага начальніка Магілеўскага ваяводзтва Людвіка Зьвяждоўскага, а тых падманутых, што дапамагалі лавіць і забіваць інсургентаў, атрымліваючы ад улады пяць рублёў за жывога і тры за мёртвага.

Мяркуючы па імёнах, якія захаваліся ў матчынай праваслаўнай Капысіцы дасёньня, — Баўтрамей, Домна, Якуб, Базыль, Цыпрыян — мае продкі па кудзелі былі, бясспрэчна, вуніятамі, або, дакладней, грэка-каталікамі ці каталікамі ўсходняга абраду. Як падлічыў адзін наш паважаны гісторык, напрыканцы XVIII стагодзьдзя да Вуніі належала болей за тры чвэрткі жыхароў Беларусі, у праваслаўі ж заставалася толькі каля шасьці адсоткаў. Такім чынам, мае суродзічы слухалі казані, сьпявалі й гаманілі ў храме зь сьвятаром па-беларуску. Яны ані не здагадваліся пра антынародную сутнасьць вуніяцтва, што пагражала беларусам зьнікненьнем, ад якога іх выратаваў, вядома ж, цар-бацюхна з памагатымі, у 1839

годзе перагнаўшы цэлы народ у расейскае праваслаўе, што не пакінула ў храмах анічога беларускага.

На памятку пра царкоўнае «ўзьяднаньне» на ўказ імпэратара Мікалая І быў выбіты вялікі мэдаль з вобразам Спаса Нерукатворнага ды надпісам: «Отторгнутыя насиліем (1596) возсоединены любовію (1839)». Аб гэтай любові мог бы распавесьці нам беларускі хлапчук з-пад Горадні, якога, як паведамляў у сваім «Колоколе» Аляксандар Герцэн, хвасталі бізунамі, пакуль на трэцяй сотні ўдараў не прыняў прычасьце ад праваслаўнага папа.

Мусіць, нешта ведаў пра тую любоў і мой продак-рыбар, што прыстасаваў царска-праваслаўны мэдаль пад грузіла. Разам з тым няма сумневу, што гэтая «любоў», мэтаю якой было духоўнае заняволеньне й перараджэньне нашага народу, дала плён ужо ў наступным пакаленьні, дапамагаючы беларускім мужыкам зарабляць у 1863-м крывавыя царскія траякі і пяцёркі.

Я набліжаюся да пачатку XIX стагодзьдзя, і сьвечка сямейнага паданьня, што асьвятляе мне шлях, пакрысе ператвараецца ў маленькі агарак. Але перш чым патухнуць, зьліўшыся зь няпамяцьцю, яна яшчэ раз успыхвае, вырываючы зь цемры апошняе імя — Бутрамеевага бацькі Цыпрыяна.

Калі адкінуць відавочна легендарныя зьвесткі пра тое, што Цыпрыян «адбіў у француза самога Кутуза» і пасьля быў узяты да яго за кухара, бо рабіў надзіва смачныя, пханыя пальцам кілбасы (прычым генэрал-фэльдмаршал так яго любіў, што нават вазіў з сабою па тэатрах), дык атрымаецца, што мой прапрапрадзед нарадзіўся недзе паміж першым і другім падзеламі Рэчы Паспалітай. Нашы ўсходнія землі ўжо былі захопленыя Расейскаю імпэрыяй, і Беларусь, што ніколі ня ведала рэкруцкіх набораў (бо Вялікае Княства Літоўскае мела прафэсійнае войска), пачала спраўна пастаўляць юнакоў спачатку на пажыцьцёвую, а потым на мала чым ад яе адрозную 25-гадовую царскую службу. Дарэчы, падчас напалеонаўскага паходу ў расейскім войску служыла

прыкладна 50 тысяч беларусаў. Не нашмат меней было іх і пад сьцягамі францускага імпэратара.

Што да супольных з генэрал-фэльдмаршалам паходаў майго продка па тэатрах, дык, можа стацца, згадкі гэтыя не зусім і легендарныя. Ці не захавалася ў іх памяць аб прыгонным тэатры графа Зорыча, якому з 1788 году належаў недалёкі ад Капысіцы павятовы Шклоў? У Зорычавым тэатры наладжваліся паказы алегарычных балетаў з хорамі, міталягічных пантамімаў, камэдыяў і трагедыяў, камічных опэр і фэерыяў. Імёны шасьці актораў з шклоўскае трупы можна знайсьці ў Беларускай энцыкляпэдыі. Чаму б не ўявіць, што мой продак Цыпрыян трапіў на нейкую з тых камэдыяў? І ці ня ў тыя часы ўзьнікла ў матчынай радзіне трывалая прыхільнасьць да тэатральнага мастацтва, якую нядаўна пацьвердзіў абураны ліст аднае з маіх цётак. «Ты там, дзетка, у сваім Мінску, — пісала цётка, па засвоенай у школе завядзёнцы пагарджаючы знакамі прыпынку, якія я расстаўляю толькі цяпер, — сходзі ў ваш ціатар і скажы, што калі прыйшоў чалавек у клуб на пастаноўку прыабшчыцца, як той ваш міністар па цілівізары казаў, к сталічнаму іскуству, дык няхай яго ў клуб пускаюць і ў ботах, і ў кухвайцы, бо ён, чалавек гэты, — тружаніца, і ў клуб адразу з хвермы прыйшла, а на хверме ў нас гардзяробаў нямашака, бо каровы калгасныя могуць з галадухі ўсе нашыя гардзяробы за малінку зьесьці».

За прапрапрадзедам Цыпрыянам пачынаецца сьцяна непрасьветнае цемры, у якой бясьсьледна губляюцца карані майго радаводу. Пра крону ж, спадзяюся, паклапоцяцца сыны і ўнукі.

Апошняе, пра што, улучыўшы нагоду, хачу тут сказаць, — адкуль у мяне расейскае прозьвішча.

Найперш пакаюся, што быў час, калі я зусім паважна меўся перамяніць яго на іншае ды нават пачаў падпісваць тым, іншым, свае літаратурныя практыкаваньні. На шчасьце, Бог утрымаў мяне ад больш рашучых захадаў, і я не зьняважыў памяці вядомых і невядомых мне прод-

каў, якія мелі гэтае прозьвішча і большасьць якіх, хочацца верыць, належала ўсё ж да людзей сумленных і годных.

Што да самога прозьвішча, дык трэба пачаць з таго, што, калі Расея захапіла нашы «исконно русские» землі, Кацярына II, а потым ейны сын Павел I «пожаловали» тут свайму дваранству 208,5 тысячы душ «мужеска полу». Такім чынам, блізу паўмільёна беларусаў сталі прыгоннымі расейскіх памешчыкаў, нібы менавіта ў гэтым была адвечная мара нашага народу, які чамусьці ніколі ня меў большага клопату, як чакаць з усходу вызваліцеляў. Нават пасьля таго, як Іван Жахлівы вызваліў Полацак ад палачанаў, а ваявода Трубяцкой — Амсьціслаў ад амсьціслаўцаў. Нават пасьля таго, як у сярэдзіне XVII стагодзьдзя ў вайне з Маскоўскай дзяржавай за трынаццаць гадоў насельніцтва Беларусі скарацілася ў два разы. Нават пасьля таго, як у тым самым стагодзьдзі былі перапоўненыя палоннымі беларусамі астраханскія нявольніцкія рынкі, дзе «вызваліцелі» прадавалі нашых продкаў у рабства па тры рублі за галаву.

Былы Сеньненскі павет, адкуль родам мой бацька, уваходзіў у Магілеўскую губэрню, у якой дзясяткі вёсак і тысячы прыгонных атрымаў адзін з фаварытаў расейскае імпэратрыцы граф Арлоў. Вядома, часам мяне апаноўвае спакуса вывесьці радавод менавіта ад яго. Канчаткова не закрэсьліваючы і гэтую вэрсію, мушу зазначыць, што, пэўна, усё было больш банальна, бо ў роднай бацькавай вёсцы Арловы жывуць амаль у кожнай хаце. Маю спадзяваньне, што сыны паруцяцца, каб людзей з гэтым прозьвішчам ня менела.

Мае бацькі большую частку жыцьця, прынамсі, пасьля таго, як пакінулі вёску, на мове сваіх бацькоў не гаварылі. Мае сыны-месьцічы, калі былі малыя, пачыналі часам гаварыць на розных з бацькамі мовах якраз пасьля летаваньня ў вёсцы, дзе іх вучылі «па-гарадзкому».

Тут я — не сказаць, каб вельмі дарэчы — прыгадваю знаёмага кінарэжысэра, што аднойчы, гады тры таму, нападпітку наракаў на цяжкое жыцьцё:

—Разумееш, Валодзя, колькі жанчын у мяне было, і хоць бы адна ў ложку слова па-беларуску сказала.

Я суцешыў гаротніка тым, што ўбіраюцца ў сілу працэсы нацыянальнага адраджэньня. І не памыліўся. Сустрэўшы мяне днямі (хацелася напісаць: на вуліцы, але буду шчыры — у бары менскага Дому літаратара, дзе ўвесь час сядзіць паэт Анатоль Сыс), маэстра з пачуцьцём, так бы мовіць, нацыянальнага задавальненьня, паведаміў, што ў ягоныя абдымкі (відаць, паводле тэорыі імавернасьці) пачалі ўжо трапляць і нацыянальна сьвядомыя прадстаўніцы прыўкраснай, як пісаў Караткевіч, паловы нашага народу.

На двары ўсчынаецца крык, і я падыходжу да вакна. Вакол жоўтае цыстэрны зь півам (па-мясцоваму — сьвінаматка) віруе натоўп (па-мясцоваму — пленум). Мой сусед, ужо яўна й даўно разьмяняўшы пазычаны чырвонец, адпіхвае ад цыстэрны старога зь бітончыкам.

—Подумаешь, удостоверение! У нас у каждого по десять удостоверений! У меня вон дед — герой борьбы за советскую власть. Врагов народа от справедливого гнева товарища Сталина в ГУЛАГе охранял! А другой дедуля у Булак-Балаховича за наше светлое будущее боролся. Националист проклятый! А ты ко мне со своим удостоверением лезешь. Я тебе русским языком сказал: сховай аўсвайс!

Вяртаюся да стала, каб дапісаць апошнія словы.

Мяркуйце самі, як абышліся б са мною продкі-крывічы.

А з вамі, шаноўныя?

Думаю, шанцы ў нас прыблізна аднолькавыя.

А таму — ці не паспрабаваць скласьці радавод і вам?

*1990*

# За бугром, за рэчкай

*Вугорскі дыярыюш*

Рэчка гэтая — Тыса. Пра яе распавёў нам некалі савецкі пісьменьнік А. Аўдзеенка. Зь дзяцінства засталося ўражаньне: плюнеш над Тысаю — абавязкова трапіш ці ў бандэраўца, ці ў шпіёна, ці ў чэкіста або ў якога іншага чалавека асобага складу. Гэта на нашым баку, а што на іхнім — і ўявіць было боязна.

Апанаваны ўспамінамі, стаю над Тысаю й рыхтуюся да мытнага агляду.

Там, за рэчкаю, — Вугоршчына.

Першае, што заўважаеш, трапіўшы за Тысу, — мадзяры гавораць, пяюць песьні, вучаць дзяцей і моляцца ў храмах на сваёй мове. Ужо за адно гэта яны вартыя больш людзкага жыцьця, чым беларусы.

У Дэбрэцэне, першым вугорскім горадзе на шляху нашай менскай турыстычнай групы, мы прачынаемся 15 сакавіка, на ўгодкі вызвольнага паўстаньня 1848 году, задушанага войскамі царскай Расеі — жандара Эўропы.

Дзень, зразумела, непрацоўны. На грудзях у кожнага сустрэчнага трохкалёрныя значкі ды стужачкі, у руках дзяцей і дарослых — чырвона-бела-зялёныя сьцяжкі. Сотні гараджанаў з кветкамі вакол помніку Шандару Пэтэфі, верш якога «Нацыянальная песьня» стаўся гімнам паўстаньня. Пачынаю лічыць уторкнутыя ў газон нацыянальныя сьцяжкі. На трэцяй сотні зьбіваюся. (25 сакавіка, у дзень абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, я падышоў у Менску да помніку аўтару «Пагоні». На голым п’едэстале дагнівалі тры гвазьдзікі.)

Сьцягі — над кожнымі дзьвярыма, на гаўбцах, у вокнах. Падкрэсьлена будзённы толькі адзін будынак. Мо тут жывуць нашчадкі Габсбургаў, супраць якіх паўставалі мадзяры? Не, гэта генэральнае консульства СССР.

Відаць, ягоныя гаспадары ня могуць даравацъ мадзярам ні вызваленьня ад камуністычнага дурману, ні вітрынаў навакольных крамаў, каля якіх таўкуцца савецкія турысты.

Каб не забываліся, што яны — прадстаўнікі самай перадавой краіны, ім абмянялі цэлыя 19 рублёў. За 500 атрыманых форынтаў можна сямнаццаць разоў праехаць туды і назад на гарадзкім аўтобусе альбо сто разоў наведаць грамадзкую прыбіральню.

Найбольш адметнае ў прапанаванай турыстам вугорскай кухні тое, што і на абед, і на вячэру замест кавы ці гарбаты гасьцей частуюць вадою з крана. Не падабаецца — замаўляй віна, брэндзі ці яшчэ якога пітва, але дзеля гэтага трэба ісьці на рынак і гандляваць правезенаю праз мяжу кантрабандай.

Рынак віруе. Амаль роднымі здаюцца палякі. Грамадзяне СССР, кіруючыся пачуцьцём пралетарскага інтэрнацыяналізму, купляюць двухкасэтнікі «Інтэрнацыяналь» і літровыя пляшкі 96-працэнтовага сьпірту. Мае спадарожнікі распакоўваюць валізы, і выяўляецца, што ледзь ня кожнага другога трэба садзіць. Душу апаноўваюць лятункі пра час, калі пасадзяць тых, хто, зрабіўшы сацыялістычны выбар, змушае нас цягнуць усё гэта праз мяжу.

Праз нейкую гадзіну ў дзьвюх дамачак з нашае тургрупы ўжо шамацяць у руках тысячныя купюры. Яшчэ праз гадзіну ў іх крадуць сумку з таварам, а заадно й партманэткі з грашыма й пашпартамі.

Мацней прыціскаю да грудзей торбу з правезенымі пляшкамі ды пытаюся ў экскурсаводкі, за колькі можна збыць шампанскае. Спадарыня ня ведае: іхняя сям’я шампанскага сабе не дазваляе. Мясныя стравы яна і яе

бацькі ядуць два разы на тыдзень — сярэднестатыстычны вугорскі паказчык.

Але ня будзем сьпяшацца шкадаваць гарапашных мадзяраў. Проста ў іх іншыя стандарты. Мяса двойчы на тыдзень, затое свой трохпавярховы дом і непусты гараж. Дый мяса — гэта ня наш нашпігаваны радыянуклідамі жылаваты кусман, урваны ў чарзе, дзе чалавек чалавеку — друг, таварыш і брат. Мяса мадзярка купляе ў такой краме, куды нашай гаспадыні трэба ісьці з валідолам. А замест дарагога шампанскага можна па даступнай цане набыць пляшку «бычынае крыві» або «такаю», або... «Сёньня ў нас у продажы 150 найменьняў вінаў і лікёраў», — сьціпла паведамляе абвестка на адной з будапэшцкіх крамаў.

Тут не пасажыры стаяць у чарзе па таксі, а таксі ў чарзе па пасажыра. Тут немагчыма ўявіць на дзьвярах кавярні ці рэстарацыі шыльду, што няма месцаў. Каб падтрымліваць стандарты жыцьця, сярэднестатыстычны вугорац працуе па 12 гадзін 10 хвілін пяць дзён на тыдзень, але ведае, што, зарабіўшы патрэбныя грошы, ён за некалькі хвілінаў можа купіць амаль усё, чаго прагне душа або цела.

*Вышла мадьярка на берег Дуная,*
*Бросила в воду цветок.*
*Утренней Венгрии дар принимая,*
*Дальше понесся поток...*

Насьвістваючы песеньку свайго дзяцінства, я шпацырую па сталічнай набярэжнай і не магу пазбыцца ўражаньня, што апошнім часам у Дунай — і ў Вугоршчыне, і ў Югаславіі, і ў Баўгарыі, і ў Румыніі, і ў «нашай» Малдове — найчасьцей кідаюць ня кветкі, але помнікі «правадырам працоўных».

У сапраўднасьці, прынамсі ў Вугоршчыне, было йначай — ленінаў ды ягоных пасьлядоўнікаў рознае масьці, што набліжалі сьветлую будучыню чалавецтва расстрэламі, арганізаваным голадам і бязьлітаснай эксплюата-

цыяй народу, цывілізавана дэмантавалі й прыбралі далей ад вачэй.

Непараўнана цяжэй дэмантаваць іхнюю спадчыну ў душах і розумах.

Наш гід Пал кажа, што яны ўжо пачалі, а ў нас усё наперадзе. Наш стукач Саша спрабуе выступіць у абарону сацыялізму.

Сашу мы вылічылі яшчэ ў першы дзень, калі ён распытваў пра золата, валюту і пра тое, ці праўда, што Беларускі Народны Фронт атрымлівае з Ізраілю зброю.

Не да густу Сашу і гідаў аповед пра народную рэвалюцыю 1956 году, калі, годна доўжачы баявыя традыцыі жандара Эўропы, Савецкі Саюз кінуў супроць Будапэшту столькі ж танкаў, колькі ў 1940-м вёў на Парыж Гудэрыян. Трохі супакойвае стукача паведамленьне, што новыя вугорскія ўлады вырашылі прызначыць пэнсіі сем'ям ня толькі палеглых паўстанцаў, але і забітых у часе баёў вугорскіх «гэбістаў», якія стралялі ў братоў.

—Вот это правильно! — кажа Саша.

—Да, — пагаджаецца спадар Пал. — Все они жертвы коммунизма.

У нас вольны час, і, калі ня йсьці на рынак, можна пагуляць на самоце па Пэшце.

Прыдунайскія кварталы вельмі нагадваюць Парыж, які мы бачылі ў францускіх фільмах. У надземным пераходзе на вуліцы Ракацы на раскладным крэсьле сядзіць мурын. Ён пад гітару сьпявае па-ангельску нешта мэлянхалічнае й непрыхільна пазірае на белага жабрака, што ўладкаваўся на тым баку пераходу. Ля мурынавых ног абцёрханы брунатны капялюш з прыладжанай чырвона-бела-зялёнай стужачкай. Штораз, калі туды падае колькі форынтаў, ільсьняна-чорны твар асьвятляе маціцовая ўсьмешка.

Вылузнуўшыся зь невялікага збою слухачоў, нейкі заджынсаваны чалавек ляпае мурына па плячы, і я чую «общепонятный язык».

—Хороший ты мужик, да дать тебе нечего.

— А ты х…вый мужик, — амаль без акцэнту адказвае сьпявак. — Мог бы форинтов десять и отстегнуть.

Збой з павагаю глядзіць на белага чалавека, што ўмее па-мурынску.

У двухзоркавым гатэлі «Вена», што дае нам прыстанак, аповед пра мурына не выклікае асаблівае цікавасьці. У цэнтры ўвагі вылазка двух нашых спадарожнікаў у начны бар на апошнім паверсе гатэлю, дзе высьветлілася, што жанчына каштуе там 3 тысячы форынтаў, прычым не за ноч, а за гадзіну.

— Саша, а табе твая кантора на баб грошы выпісвае? — цікавіцца нехта.

Стукач Саша нядобра ўсьміхаецца, і мне прыгадваецца сябра юнацтва, марак савецкага рыбалоўнага флёту Міша Гарэлік, які ў дацкім публічным доме ў апагеі асалоды пачуў з-за дзьвярэй задушэўнае пытаньне. «Товарищ Горелик, вы здесь?»

Мне чамусьці робіцца шкада й марака, і самога сябе, і мурына, што сьпявае на вуліцы Ракацы. Я ўспамінаю, да каго той мурын падобны — да чарнаскурага студэнта Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту імя У. І. Леніна, які жыў у нашым інтэрнаце разам з двума віетнамцамі й штодня — апоўначы і а шостай раніцы — змушаў іх стоячы слухаць гімн СССР.

Як жа там, дарэчы, вырашыўся лёс Саюзу на рэфэрэндуме, які мы вымушана байкатавалі? Перад вячэраю пытаемся пра гэта ў гіда.

Пачуўшы вынікі галасаваньня, Саша, а зь ім яшчэ дзясятак саўкоў пляскаюць у ладкі. Мы — за Саюз. Мы другой такой страны не знаем…

Апошні перад вяртаньнем вугорскі горад Эгер. Неверагодная чысьціня й дагледжанасьць вуліц, жылых будынкаў, сярэднявечнае фартэцыі й храмаў. Колькі гадоў таму ў горадзе памерла апошняя праваслаўная, але праваслаўны сабор з гэтае прычыны чамусьці не ператварылі ў склад мінэральных угнаеньняў, і ў гадавыя сьвяты там па-ранейшаму служыць сэрбскі архіяпіскап з Будапэшту.

На вуліцах такога гораду пачуваесься гэтаксама надзейна і ўтульна, як у сваёй хаце. Такімі былі б нашыя Горадня ці Нясьвіж, каб не бальшавікі ды іншыя верныя ленінцы. Былыя эгерскія рэзыдэнцыі іхніх вугорскіх паплечнікаў — будынкі колішніх гарадзкога ды абласнога камітэтаў нядаўна ўсемагутнай партыі — здаюцца ў арэнду, але ўжо даўнавата стаяць упусьце. Мусіць, арандатары чакаюць, пакуль ня выпетрае стары дух.

У часе экскурсіі спадар Пал прыгадвае сяміградзкага князя мадзяра Штэфана Батары (ён жа Сьцяпан Батура), што быў абраны нашым вялікім князем і каралём. Абсалютная большасьць маіх спадарожнікаў чула пра пераможцу Івана Жахлівага і вызвольніка Полаччыны ад маскоўскае няволі ня больш, чым пра апошняга караля інкаў.

—Почему он сказал, что это наш король? — неўразумела пытаецца адна турыстка. — У нас ведь цари были, а не короли.

Аказваецца, Пал ведае пра беларусаў трохі болей за сярэдняга вугорца. У прыватнасьці, чуў, што дзякуючы роднай савецкай уладзе ў Беларусі не засталося беларускіх школаў. Як жа выглядае сытуацыя з такімі школамі цяпер, пасьля перабудовы?

—В сельской местности ещё кое-где сохранились, но вообще-то всё это отмирает, — бадзёра адказвае жыхарка беларускае сталіцы, не разумеючы ні сутнасьці, ні спачувальнае афарбоўкі пытаньня спадара Пала.

Словы суайчыньніцы нагадваюць: хутка дамоў, туды, дзе «всё отмирает».

Тургрупа ўжо прасьпявала на разьвітальнай вячэры «Подмосковные вечера». За вокнамі — апошнія кілямэтры вугорскае зямлі. «Божа, як востра ім не хапае рубэройду!» — у роспачы думаю я, пазіраючы на крытыя дахоўкаю дамы, хлявы і нават сабачыя будкі.

Усьмешка вугорскага памежніка, ягоныя «здравствуйте», «до свидания» ды іншыя эўрапейскія штучкі

выклікаюць у нас амаль што абурэньне. Мы — патрыёты. Мы замілавана пазіраем на савецкага хлопца зь зялёнымі пагонамі, які не ўсьміхаецца й не дазваляе сабе розных там сантымэнтаў накшталт «до свидания».

—Давай! — загадвае ён нашаму кіроўцу, і мы пераяжджаем ужо ніштавата пасунутую на ўсход мяжу сацыялістычнага лягеру.

У самой назьве памежнага савецкага гарадка Чоп чуваць нешта роднае, «чрезвычайное» — ЧОН, ЧК, ЧП…

Якія да болю свае — хоць прытулі іх да грудзей — шыльды й аб’явы: «Комендатура», «Милиция», «Торговля только по талонам», «Туалет не работает», «Имя и дело Ленина будут жить в веках»… Як звыкла й жадана ўштукоўваецца ў засьмечаны прывакзальны краявід і сам абседжаны галубамі «вечна жывы». Яшчэ адзін, падфарбаваны золатам ленін схаваўся ад дэструктыўных галубоў у вакзальную пачакальню. Ля ягоных ног трое пасажыраў сьцеляць газэціну з фатаздымкам Гарбачова, крояць на ёй сала і, насьцярожана аглядаючыся на бакі, дастаюць кантовую шклянку.

Я ўглядаюся ў дарагі зь дзяцінства, лагодны і мудры твар Ільліча. Правадыр, сарамліва адвёўшы вочы ад пляшкі «Гуцульскай» на газэціне, празорліва глядзіць удалеч, на шыльдачку «Ресторан закрыт нет воды». Мне здаецца, ягоныя вусны шэпчуць нешта геніяльнае: «Как нам реорганизовать Рабкрин?.. Социализм — это учет…»

Што да гэтага ленінскага запавету, дык у Чопе поўны парадак. Палова крамаў зачыненая на пераўлік, але, мусіць, хутка адчыніцца, бо выстаўлены ў вітрынах асартымэнт сьведчыць, што пераўлік можна правесьці імгненна.

Мэмарыяльная шыльда на вакзале паведамляе, што ў Чопе жывуць людзі розных нацыянальнасьцяў, аб’яднаныя адной велічнай справай — будаўніцтвам камунізму. Шыльду, на добры лад, трэ было б прадубляваць на замежных мовах, каб іншаземцы таксама зразумелі, зь якой прычыны зачыненыя абедзьве вакзальныя

прыбіральні. (Трэба меркаваць, што ў камунізьме прыбіральні ўжо нікому не спатрэбяцца.)

Тым часам па вакзале й вакол нэрвова пахаджаюць колькі дзясяткаў нашых і замежных грамадзянаў. Людзі савецкага гарту хутка знаходзяць выйсьце — хто заглыбляецца ў сквэрык, хто хаваецца за цягнік або плішчыцца ў прыватны сэктар.

Бездакорна апрануты сівы іншаземец з пакутаю на твары адважваецца тарганучь дзьверы зачыненае на рамонт прыбіральні. Установа залітая смуроднаю жыжкай, сярод якой сям-там тырчаць цагліны. У госьця нашае краіны хапае змогі толькі на два скачкі. Не дацягнуўшы да трэцяе цагліны, ён ступае на дно і ў роспачы падцягвае пашытыя дзе-небудзь у Парыжы ці ў Гамбургу нагавіцы. Але тут яму ня Монтэ-Карла. Жыжкі — па костачку, і белыя іншаземцавы шкарпэткі ўмомант набываюць менш кідкі колер.

У вітрыне зачыненай на пераўлік крамы лётае верабей. За шклом газэтнага шапіка — нумар ці то маскоўскай, ці то яшчэ нейкай такой самай «правды» з буйным загалоўкам: «Народ сказал Союзу «да»! Народ сказал «да» социалистическому выбору».

Мне хочацца паглядзець на таго, хто прысягае ў вернасьці сацыялістычнаму выбару — толькі каб ён паўтарыў гэта не з тэлеэкрану, а з цаглінак у смуроднай жыжцы.

Па пэроне, апусьціўшы галаў, брыдзе сівы іншаземец з мокрымі нагамі. Над вакзальным будынкам лёзунг: «Да здравствует марксизм-ленинизм — вечно живое, революционное интернациональное учение!»

На твары ў госьця нашай краіны — пакора.

Але яму ёсьць куды вярнуцца.

А мы ўжо вярнуліся.

*1991*

# Старыя Лівадзійскія могілкі

Здарыцца так, што дабрадзеі з Саюзу пісьменьнікаў адшпіляць табе пуцёўку ў Дом творчасьці імя Антона Паўлавіча Чэхава, і ты апынесься сярод дзьвюх сотняў творцаў, зь якіх калі-небудзь схіляліся над пісьмовым сталом мо чалавек дзесяць. Цябе гэта зусім ня будзе абыходзіць, калі левакі будуць трымацца, як людзі, але яны пачнуць касіць пад пісьменьнікаў, і ты паспрабуеш закасіць пад сантэхніка, узнагароджанага пуцёўкаю за перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве, і будзеш з ганьбаю выкрыты, калі прарве трубу, і трое «пісьменьнікаў» з суседняга стала прафэсійна залезуць у каналізацыйны люк, каб імгненна ліквідаваць аварыю.

Праўда, сярод творцаў будзе непрыкаяна блукаць пад кіпарысамі некалі гнаны, а цяпер уляўраны расейскі паэт, і расейскамоўная аўтарка зь Менску, у якой ад беларускай мовы на твары зьяўляецца гідлівая грымаска, і малады армянскі перакладчык Ашот, які, кажучы словамі М. Зошчанкі, «знает дам и верит в их назначение»…

Зрэшты, ты прыедзеш у гэты дом на гары ня дзеля назіраньняў за прадстаўнікамі твайго віду двухногіх і безь вялікіх спадзяваньняў стварыць нешта геніяльнае. Ты прыедзеш таму, што дзесьці тут, у Ялце, ля сіняй бухты, ляжыць Максім Багдановіч. Адзіны на сьвеце паэт, пра вершы якога ты можаш з усёй пэўнасьцю сказаць, што паэзія сапраўды здольная зьдзейсьніць дзіва. Бо тое дзіва бачыў на свае вочы: твой раўналетак, сын савецкага афіцэра й расеец паводле пашпарту, які зрываў урокі ніколі ня вучанай ім белмовы, у дзясятым клясе грэбліва выкалупнуў нагой з сабранае піянэрамі макулятуры Максімаў зборнічак, пачаў, скрывеліўшыся, чытаць, а потым зрабіўся беларускім празаікам, па-

быўшы перад гэтым выдаўцом падпольнага альманаху, сканфіскаванага літаратуразнаўцамі ў цывільным.

Недзе там, зусім блізка, будзе ляжаць Максім Багдановіч, і табе дастаткова будзе запыніць таксоўку ды сказаць: «Старое Ливадийское кладбище», але замест простага й лягічнага ўчынку ты чамусьці будзеш дзень пры дні плёхацца ў цёплым, як калюжына, моры ды шнураваць па ўзьбярэжжы.

Пад пальмамі будуць стаяць плеценыя столікі з гумовай садавінаю й парожнімі пляшкамі з-пад трункаў, якія п'юць у сваіх краінах замежныя грамадзяне. За дзесяць рублёў ты можаш пасядзець за тым столікам і атрымаць каляровую фотку, але ты лепей вып'еш за гэтыя грошы дзьве шклянкі херасу ў татарскай кавярні («*Ў чарцы цёмнай і глыбокай, плешча, пеніцца віно...*») і пасунесься далей — паўз фатографа з плюшавым Гарбачовым, паўз фатографа з малпаю, якая з зусім чалавечаю радасьцю задарма паказвае кожнаму мінаку вогненна-чырвоную сраку, паўз фатографа з трохмэтровым смарагдавым пітонам, які нечым няўлоўным нагадвае аднаго з кіраўнікоў роднага творчага Саюзу, паўз карункавы ад пены прыбой, што выносіць на бераг дарункі мора ў выглядзе шкарпэтак і скарыстанага прэзэрватыва («*Ў іх русалкі заблуталі косы, — рвуць і блутаюць срэбныя ніці...*»), паўз мастакоў, што малююць партрэты з натуры, паўз мастачку, якой ты б з прыемнасьцю папазіраваў, але толькі ў больш zacішным месцы, паўз гітарыстаў, скрыпачоў і джазістаў, гледзячы на якіх узгадваеш раньняга Алега Мінкіна:

*Бродячий музыкант, он дело знает:*
*Футляр раскрыл, и — шляпу на цемент,*
*И на глазах у всех, опять терзает*
*Неповоротливо печальный инструмент...*

Потым будзеш лезьці да сябе на гару, а, падняўшыся ў нумар, выйдзеш на гаўбец і незнарок угледзіш, як на гаўбцы пад табою перакладчык Ашот расшпільвае

станік на бялявай студэнтачцы Зіне, якую цэлы дзень пасьвіла ды так і не ўпасла дагледжаная маскоўская маман.

Назаўтра будзе задушлівы скварны дзень («*Ад сьпёкі пышуць дахі і асфальт...*») з экскурсіяй па чэхаўскіх мясьцінах.

Тут жыве Ратару, у яе сухоты. Тут выпіваў Купрын, там — Бунін. Тут Чэхаў пажартаваў — убачыў у асьветленым начным вакне жаночы профіль і гучна кажа спадарожніку: «А вы чулі? Учора Буніна ў адной татаркі зарэзалі».

Лівадзійскія могілкі зусім блізка, аднак ты ўсё адно ўпарта павернеш у іншы бок і выйдзеш на ўзмор'е — да тых самых фатографаў, да музыкаў, што могуць і «Come together», і палянэз Агінскага, да вогненназадай мартышкі, да пітона, да варажбітак і прадказальнікаў, абстаўленых кампутарамі, якія, апрача ўсяго іншага, выдадуць табе навукова абгрунтаваныя зьвесткі, што ты памёр 23 лютага 1988 году, да херасу, да афіцыянткі з кляснымі нагамі й распусным разрэзам вачэй, зь якой шмат хто хацеў бы спаткацца зусім не на вуліцы, да плюшавага прэзыдэнта СССР, да ўсіх тых, з кім разам ты ляціш сёньня да зор... А ў чарцы цёмнай і глыбокай будзе зноў і зноў сьветлым хмелем калыхацца віно, і, ускараскаўшыся да сябе на гару, ты, палохаючы Ашота зь Зінай і ўкормленых літфондаўскіх катоў, будзеш чытаць з начнога гаўбца:

*Скарына, доктар лекарскіх навук,*
*У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры...*

І набяжыць новы дзень, калі ты будзеш да зьнямогі плаваць і думаць, ці шмат было ў Максіма ў Ялце жанчын, і, чуючы абураны хор дбайцаў пра паэтаву маральнасьць, параіш ім пачытаць Максімаў дзёньнік. Потым ты наведаеш Лівадзійскі палац, дзе адпачываў расейскі імпэратар Аляксандар II, у якога кінуў бомбу твой суайчыньнік Ігнат Грынявіцкі, і ў памяці ў цябе застанецца не

эксплюататарскія інтэр’еры, а букет ружаў у палацавай прыбіральні.

А недзе на ўзьбярэжжы ў гэты час будзе кімарыць на сонейку трохмэтровы пітон, яшчэ ня ведаючы, што адвячоркам да ягонага гаспадара падыдзе аматар экзатычных фотак — загарэлы мацак у адных шортах і з такой шыкоўнаю татуіроўкай, што здалёк яна будзе выдаваць на бэзавую кашулю. Усьцешаны фатограф абкруціць свайго смарагдавага кампана вакол мацака й замітусіцца каля апарату, а ты разам з натоўпам будзеш захоплена разглядаць татуіроўку, на якой у непрыстойнай блізкасьці з Ільлічом ды іншымі выдатнымі кіраўнікамі камуністычнай партыі й савецкай дзяржавы будуць выстаўляць свае вабноты прыгажуні з падпісанымі ўнізе імёнамі. Ты будзеш думаць пра час, калі давядзецца падпісваць і правадыроў, і раптам у паветры запахне ня толькі алеандрам, але і скандалам. Мацак пачне зьлякана азірацца й дзіўнавата тузацца. Што падзейнічае на пітона, застанецца загадкаю: ці то ён будзе сымпатыкам КПСС і абурыцца суседзтвам яе правадыроў з цыцкастымі вярціхвосткамі, ці то спрацуе інстынкт вольных ад эксплюатацыі фатографамі продкаў, але вынікі будуць відавочныя: татуіроўка стане відаць лепей, а ейны гаспадар зьбялелымі вуснамі вымавіць: «Сними змею». Зьляканы фатограф аберуч ухопіцца за пітонаў хвост і пачне ліхаманкава адкручваць зялёныя кольцы. «Адресок! Адресок!» — закрычыць ён наўздагон уратаванаму мацаку, а той гістэрычна выгукне цераз плячо: «Пошел ты со своей змеей на х..!»

Чамусьці менавіта ў тую хвіліну ты вырашыш: сёньня…

Валошак на ялцінскім рынку ня будзе, і ты купіш букет вялікіх, пабітых начным дажджом рамонкаў. Прыватнік завязе цябе на гару колеру прывялага ляўровага ліста і высадзіць каля брамы старых Лівадзійскіх могілак, а п’янаваты вартаўнік растлумачыць, што трэба

ісьці па стрэлках, якія паказваюць шлях да магілы нейкага Бірукова. На адным з паказальнікаў пад словамі «К могиле Бирюкова» зусім па-беларуску будзе цьвіком надрапана: «і М. Багдановіча», і ты ўдзячна падумаеш, што, можа, гэта зрабіў наш міністар культуры, калі быў тут у траўні са сваёй дэлегацыяй, адзначаючы ўгодкі Максімавай сьмерці…

На магіле ты ўбачыш стандартную цэмэнтаваную пірамідку зь пяціканцоваю зоркай, якая, напэўна, значыць, што — каб не сухоты — Багдановіч атрымаў бы бальшавіцкую кулю ў патыліцу адзін зь першых. Ты заўважыш, што нейкі мастак паспрабаваў замаскаваць зорку намаляванай зьверху валошкай, а таксама ўбачыш бел-чырвона-белую харугвачку, дзюбаты алюміневы імбрычак са збуцьвелымі кветкамі ды яшчэ чатыры валошкі — капронавыя.

Казаць пра астатняе табе будзе няёмка. Магчыма, ты прачытаеш сам сабе «Пагоню», магчыма, пагаворыш зь *ім* і нешта дакляруеш — *яму* й сабе…

Пасьля ты памяняеш ваду ў імбрычку, напішаш пад слупком датаў на харугвачцы сваю й пойдзеш, разы тры азірнуўшыся на адвітаньне, сьцежкаю да брамы — з думкай, што Максіму добра ляжаць тут, над морам, у засені старога кіпарысу, у краіне сьветлай, дзе суха, цёпла й не чуваць узьнёслых прамоваў міністраў, намесьнікаў і загадчыкаў нашае культуры: «Удзячные нашчядкі сабралісь, штоб адзначыць…»

Жыцьцё ў творчым доме будзе каціцца сваёй каляінаю. Перакладчык Ашот будзе круціцца вакол гнуткай ташкенцкай габрэячкі Розы. На ганку сталоўкі будуць лайдакавата даядаць літфондаўскія секунцы дзясятка паўтара катоў. Ад творчага перанапружаньня паваліцца на газон паўночнаасэтынскі драматург. А з-за Максімавай гары выпаўзе булгакаўская хмара з бліскавіцамі («*Дзесь у хмарах жывуць павукі, што снуюць павучыну дажджу…*») і зьнячэўку ўпадзе на горад смужыстаю непрагляднай

залевай, каб праз гадзіну пакінуць па сабе неверагодна празрыстую ноч, празь якую далёкія агні на схілах будуць зьзяць, быццам калядныя зоркі.

Ноч будзе поўная паўдзённых пахаў, юрлівага ёкату літфондаўскіх катоў і дзіўных гукаў зь ніжняга гаўбца («*Жыцьцё чуваць з усіх старон, жыцьцём напоўнены ўвесь змрок...*»), зірнуўшы куды, ты міжволі ўбачыш, як перакладчык Ашот і габрэечка Роза ўтрапёна любяцца стоячы.

У гэтую ноч ты будзеш пачувацца ў згодзе з усім сьветам: з катáмі, з армянскім калегам, з Розай, якой ты гатовы будзеш прысудзіць званьне ня толькі «міс Дом творчасьці», але і «міс СССР»... У гэтую ноч ты дасі веры, што недзе сапраўды ёсьць Беларусь, дзе жывуць беларусы. Ты будзеш пэўны, што з такой самай думкай ляжаў на Божай пасьцелі Максім Багдановіч. Таму што ён прыехаў сюды, каб у свае астатнія дні мець не адно сонца ды сінюю бухту, а найперш — Беларусь.

Бо яна ў параўнаньні зь любой іншай краінаю мае адну асаблівасьць: існаваць толькі тады, калі ты ад яе ад'едзеш, калі будзеш хадзіць сярод чужаніцаў, пакуль табе нарэшце ня здасца, што і ў вас усё, як у людзей.

Твая Беларусь праіснуе, пакуль ты ня выйдзеш з самалёта.

У аэрапортаўскім шапіку ня будзе ніводнай беларускай газэты. Сярод сваёй пошты ты знойдзеш акуратна ўскрытую бандэролю з Таронта, ад беларускага нацыяналіста і, як піша дасьведчаны недзе беларускі пісьменьнік Барыс Сачанка, гітлераўскага паслугача (які чамусьці служыў Гітлеру, ваюючы супраць таго ў войску саюзьнікаў). Зь няменшай радасьцю ты возьмеш у рукі абы-як разадраны канвэрт зь лістом ад беларускага нацыяналіста зь Вільні, які не пасьпеў паслужыць гітлераўцам, трэба меркаваць, толькі з тае прычыны, што позна нарадзіўся. Ты зойдзеш у краму, і разьлезлая злая кабеціна параіць табе гаварыць «па-чалавечаску нармальным языком» і, пашкадаваўшы, растлумачыць, што «эта называіцца сахер». І хутка, вельмі хутка прыйдзе

хвіліна, калі ніякае тваё пачуцьцё ня здолее зраўняцца сілаю з зайздрасьцю да Максіма, які ляжыць над морам, і ягоная душа зьлятае зь неба пад кіпарысы, верачы, што недзе ёсьць Беларусь, і даруючы гэтую веру тым, хто мяняе ваду ў алюміневым імбрыку.

А праз дзень да цябе зьявіцца нацыянальна заклапочанае дзяўчо з даўжэзным сьпісам подпісаў: не за тое, каб паставіць на ялцінскай магіле прыстойны помнік бяз зорачкі, а за тое, каб раскапаць паэтаву магілу і, хоць ён ніколі нас пра гэта не прасіў («*І разрытаю магілай вее сумна на мяне...*»), прывезьці Багдановічавы косьці ў Менск.

Ты будзеш марудзіць, перачытваючы знаёмыя прозьвішчы, і дзяўчо пакрысе пачне пазіраць на цябе, як на ворага беларушчыны. І ты, слабы чалавек, ня вытрымаеш і паставіш подпіс. Візытантка з палёгкаю пацягне паперу на сябе, але ты не аддасі і дапішаш побач з подпісам: «Калі Беларусь будзе Беларусьсю».

Дзяўчо падзякуе й пойдзе, цешачыся ад усьведамленьня значнасьці свае місіі. Ёй будзе няўцям, што калі Беларусь сапраўды стане Беларусьсю, ніхто і не надумае прыходзіць на паэтавыя магілы ня з кветкамі, а з рыдлёўкай.

*1991*

## Сьцягі над горадам

*Гераічны абразок часоў незалежнасьці*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:
ПАЭТ І БАРД Сяржук Сокалаў-Воюш;
СТАРШЫНЯ ПОЛАЦКАЕ РАДЫ БНФ Анатоль Кулік, асуджаны за бел-чырвона-белы сьцяг у гады перабудовы;
СЯБРА ПАЭТА І БАРДА дый усіх астатніх Базыль Храмцоў, асуджаны за тое самае ў тыя самыя гады;
КАРЭСПАНДЭНТКА абласной газэты «Народнае слова» Ларыса Малашэня;
АЎТАР гераічнага абразка;
НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ тав. Камароў;
вахцёрка, міліцыянты, людзі ў цывільным.

*Дзея адбываецца перад будынкам Полацкага гарсавету, у ягоных нетрах, а таксама на гарышчы і даху.*

*Субота, трэці дзень, як сэсія Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь зацьвердзіла новы Дзяржаўны сьцяг.*

*Над гарсаветам ціхамірна лунае чырвона-зялёны, сярпаста-малаткасты, бальшавіцка-мусульманскі «флаг» БССР.*

*У выпадку сцэнічнага ўвасабленьня твору можа гучаць Дзяржаўны гімн БССР або папулярная народная песенька: «Зьлева молат, справа серп — Гэта наш савецкі герб. Хочаш жні, а хочаш куй — ўсё адно палучыш х...»*

### 1-Я ДЗЕЯ

*Пяцёра першых дзейных асобаў зь бел-чырвона-белым сьцягам шпарка падымаюцца па сходах і заходзяць у кабінэт намесьніка старшыні гарсавету тав. Камарова, які ў выхадны дзень дбае пра палачанаў на сваім працоўным месцы.*

СТАРШЫНЯ РАДЫ БНФ. Спадар Камароў…

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ (*зацкавана азіраецца, магчыма, думае, што яго прыйшлі забіраць*). Что такое?

ПАЭТ І БАРД. Чаму гарсавет не выконвае пастанову Вярхоўнага Савету пра Дзяржаўны сьцяг?

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ (*відавочна супакойваючыся*). Какой пастановы? Никакой команды не было, вот и не выконваем (*перакрыўляе*). Будет команда — будем выконваць.

ПАЭТ І БАРД. Сярод нас двое асуджаных за гэты сьцяг.

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ. Я ничего не знаю. Не мешайте мне работать. (*Робіць выгляд, нібыта нешта піша, а ў сапраўднасьці колькі разоў абводзіць на паперыне загадкавае слова «повысить».*)

СТАРШЫНЯ РАДЫ БНФ. У вас свая праца, у нас — свая.

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ (*у позірку, далікатна кажучы, нялюбасьць да візытантаў, а разам зь ёю — нямоглая злосьць: такога ў жыцьці тав. Камарова яшчэ не было*). Кто вы такие?

ПАЭТ І БАРД. Я — сябра Сойму БНФ Сокалаў-Воюш.

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ (*адмахваецца*). Кто вас не знает!

СТАРШЫНЯ РАДЫ БНФ (*сувора*). Спадар Камароў, нам трэба ключ ад выхаду на дах.

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ (*падазрона пазіраючы на карэспандэнтку*). Чем вы там будете заниматься?

СЯБРА ПАЭТА І БАРДА. Уздымаць Дзяржаўны сьцяг.

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ. Будет команда, тогда и вздымем.

АЎТАР (*залішне патасна*). Спадар Камароў, мы ведаем, што вы гэты сьцяг ненавідзіце, але празь дзесяць хвілінаў ён будзе вісець над вашым кабінэтам.

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ. Кто вы такой?

*Аўтар называе сябе, хоць тав. Камароў яго даўно ведае.*

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ. Вы вообще не полочанин и не имеете права здесь находиться.

АЎТАР (*нахабна*). А вы мяне дэпартуйце!

НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ ГАРСАВЕТУ. Вы — хулиганы!

СЯБРА ПАЭТА І БАРДА (*з адценьнем злараднасьці*). А вы не выконваеце пастановы Вярхоўнага Савету.

*Пяцёра візытантаў выходзяць. Тав. Камароў ліхаманкава хапаецца за тэлефон.*

## 2-Я ДЗЕЯ

*Загаджанае галубамі гарышча. Кавалак нейкага транспаранту са словамі «Дадим больше...»*

*Старшыня рады БНФ разам з паэтам і бардам вылазяць праз вакенца на дах. Паэтаў сябра і аўтар сядзяць, прыкрываючы тыл, на гарышчы. Карэспандэнтка застаецца ўнізе перад будынкам.*

*Бальшавіцкі сьцяг паўзе долу. Карэспандэнтка фіксуе гістарычную падзею ў нататніку. Пад'яджджае варанок з нарадам міліцыянтаў, якія кідаюцца да карэспандэнткі.*

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНТ. Где здесь поднимают фашистское знамя?

КАРЭСПАНДЭНТКА (*з усьмешкай*). Гэта не фашысцкае «знамя», а наш Дзяржаўны сьцяг. Яго прыняла сэсія Вярхоўнага Савету...

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНТ (*яўна паўтараючы нечыя словы*). Как приняла, так и отнимет.

*З партатыўнае рацыі на ягоным плячы чуецца: «Доложите обстановку!»*

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНТ (*паглядзеўшы ўгару, усьцешана*). Докладываю: их всего двое.

*Пад'яджджае яшчэ адна міліцэйская машына і аўтамабіль зь людзьмі ў цывільным. Усе глядзяць угару. Над будынкам*

*на асноведзі навальнічнага неба ўздымаецца бел-чырвона-белы сьцяг.*

## 3-Я ДЗЕЯ

*З ганку бадзёра сыходзяць чацьвёра тых, што былі на гарышчы й на даху. Паэт і бард ідзе, паклаўшы рукі на патыліцу, у запазусе ў яго — зьняты «флаг» БССР.*

СТАРШЫНЯ РАДЫ БНФ (*да першага міліцыянта*). Віншую з узьняцьцем Дзяржаўнага сьцягу!

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНТ (*не пасьпявае, як астатнія, схаваць рукі за сьпіну й зьбянтэжана адказвае на поціск*). Там посмотрим... (*Перахоплівае ўважлівы позірк падпалкоўніка і зусім ніякавее.*)

СЯБРА ПАЭТА І БАРДА. Віншуем вас, таварыш падпалкоўнік!

ПАДПАЛКОЎНІК (*зь велізарным задавальненьнем загнаў бы нацыяналістаў у варанок, але цяпер ня ведае, што рабіць, і, мабыць, моўчкі кляне сэсію й дэпутатаў*). Отойдите, у нас служебный разговор.

КАРЭСПАНДЭНТКА (*да першага міліцыянта*). Калі ласка, вашае прозьвішча для гісторыі.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНТ. Пожалуйста: старшина Кащеев.

*Нацыяналісты вясёла й шматзначна пераглядаюцца.*

КАРЭСПАНДЭНТКА. Кашчэеў...

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНТ (*зазіраючы ёй цераз плячо*). Кащеев — через «о».

КАРЭСПАНДЭНТКА. Я па-беларуску пішу.

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНТ. А вы поправьте, чтобы правильно было.

*«Доложите обстановку!» — зноў хрыпіць у яго на плячы рацыя.*

ПЕРШЫ МІЛІЦЫЯНТ. Докладываю: обстановка в целом дружелюбная.

*Адчыняюцца дзьверы гарсавету. Углыбіні тав. Камароў. Яўна на ягоны загад да ўдзельнікаў урачыстага ўзьняцьця сьцягу подбегам кіруецца бабуля-вахцёрка.*

ВАХЦЁРКА (*задыхана*). Где наше знамя?

ПАЭТ І БАРД. А вось. (*Выцягвае з запазухі сярпаста-малаткасты «флаг».*)

ВАХЦЁРКА. Отдавайте имущество. (*Учэпіста хапае «флаг», гэтаксама подбегам вяртаецца ў будынак гарсавету і зь сярэдзіны зачыняе дзьверы на засаўку.*)

*Удзельнікі ўзыходжаньня на дах прапануюць падпалкоўніку скласьці пратакол. Таму гэтая ідэя відавочна падабаецца, але абсурднасьць сытуацыі добра разумее нават ён.*

ПАДПАЛКОЎНІК. Отойдите, у нас служебный разговор.

ПАЭТ І БАРД (*падступна*). Таварыш падпалкоўнік, а які ў вас сьцяг над аддзелам?

ПАДПАЛКОЎНІК (*зьнячэўлена*). Пока никакого.

ПАЭТ І БАРД. Зараз мы вам дамо новы, у нас яшчэ адзін ёсьць.

ПАДПАЛКОЎНІК (*не чакаючы небясьпечнага падарунка, хутка сядае ў машыну*). В отдел!

*Усьлед за падпалкоўнікам ад'яжджае аўтамабіль з маўклівымі людзьмі ў цывільным, потым — дзяжурны варанок. На пустым пляцы перад будынкам застаюцца пяцёра тых, з каго пачыналася дзеяньне. Адчуваецца, што ўсіх мучае смага.*

*У выпадку сцэнічнага ўвасабленьня можа гучаць нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»*

*Над гарсаветам лунае бел-чырвона-белы сьцяг.*

*Усё.*

*1991*

# Гамсахурдзія — наш чалавек

На плоце наклееены нясьвежы нумар газэты «Праўда». Друкаваны орган партыі, прыпыненай пасьля жнівеньскага путчу, абураецца, што мумію правадыра хочуць вынесьці з маўзалею ды па-хрысьціянску аддаць зямлі побач з магілаю маці. Аргумэнты па-бальшавіцку грунтоўныя: вось памруць, маўляў, Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў з Раісай Максімаўнай, і заманецца некаму пахаваць іх на Стаўрапольшчыне, каля магілы маці былога генсека… Між тым, прэзыдэнт не вылазіць з тэлевізара, прэзыдэнціха ўчора паведамляла народу, што «передвижники внесли большой вклад в искусство», а прэзыдэнтава маці днямі яшчэ сядзела на лавачцы пры сваёй сьціплай стаўрапольскай хацінцы, казала тэлегледачам, што Міша быў актыўным камсамольцам, і таксама паміраць нібыта не зьбіралася.

А можа, «Праўда» нешта ведае?..

Карацей, думай, што хочаш.

Побач з газэцінаю матляецца аб'яўка: з 30-га маршрутная таксоўка ў аэрапорт хадзіць ня будзе ў сувязі з паломкаю. Сёньня толькі 25-га. Адкуль вядома, што акурат праз пяць дзён маршрутка зламаецца — загадка.

Але ўсё гэта драбяза.

Вось праблема, вартая інтэлектуала: дзе я знаходжуся?

Вакол кіпарысы, горы, жанчыны й гандлёвыя кропкі Абхаскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, якая ўваходзіць у склад СССР. Але адначасова яна ўваходзіць і ў Рэспубліку Грузію, якая ў СССР ужо не ўваходзіць.

Ёсьць толькі адзін спосаб дабраць тут нейкага сэнсу. Яго завуць Бора Гальперашвілі. Гэты піцундаўскі габрэй, здаецца, ніколі ня быў ні акцябронкам, ні піянэрам, не вучыўся ні ў школе, ні ў інстытуце, а ад нараджэньня,

паблiскваючы падзаплылымi тлушчам разумнымi вочкамi, стаяў за стойкаю прыморскага бару зь непрэтэнцыёзнаю назваю «Бар».

З Борам мы пазнаёмiлiся яшчэ на досьвiтку перабудовы, калi аднойчы так заўзята падтрымлiвалi дэмакратычныя працэсы, што потым давялося падтрымлiваць нас. Тады, памятаецца, пляшка цынандалi каштавала ў «Бары» два рублi, а гарачы сакаўны хачапуры — сорак капеек.

Час не спрыяе чульлiвасьцi, i мы з Борам сустракаемся па-мужчынску стрымана. Памiж намi адбываецца першы дыялёг.

—Господин Боря, — кажу я, — изможденный организм жаждет бутылочку цинандали и один хачапури.

—А что, дорогой, — пытаецца «господин Боря», — Белоруссия тоже отделилась?

—А как же, — адказваю я, падазрона пазiраючы на загадзя адкаркаваную пляшку без налепкi, а потым на Бору.

Спакойна вытрымаўшы мой позiрк, Бора цiкавiцца:

—А какая у вас будет валюта?

—Драньки и майсюки, — не змаргнуўшы, адказваю я.

—Интересные названия, — з павагаю кажа Бора.

—Причем, в одном драньке будет 99 майсюков, — помсьлiва дадаю я.

Бора настолькi ўражаны складанасьцю нашай грашовай сыстэмы, што хавае адкаркаваную пляшку без апазнавальных знакаў i адкаркоўвае новую, з налепкай.

—А почему 99, а не 100?

—Потому, что один уже есть.

Гэта мая дробная помста за таямнiцу Абхаскай ССР. Няхай ведае, што i мы ня ў рэшаце яечню смажым.

З пляшкаю залацiстага цынандалi за восем рублёў, з хачапуры амаль бяз сыру i бяз масла, затое за траячку, i зь фiлiжанкаю з адбiтым вушкам (шклянкi ў Абх. ССР цi ў незалежнай РГ ужо скончылiся) я кiруюся да мора i выбiраю сабе абгладжанае хвалямi й выкiнутае ўрэшце на бераг бервяно.

Шторм быў учора. Сёньня зялёныя хвалі ласкава палізваюць бераг. Раз-пораз пенлівы язык мора дастае да самага бервяна. Тады каменьчыкі ўспыхваюць і пераліваюцца living розныміі колерамі, ды хутка зноў робяцца шаравата-аднатоннымі, і толькі рэдкі зь іх не губляе свае барвы.

Зьверху грэе сонца, зь сярэдзіны — цынандалі, зьнізу — утульнае цёплае бервяно. Магчыма, яго кінулі ў хвалі турэцкія працоўныя, каб дапамагчы працоўным незалежнае РГ (ці Абх. ССР) пераадолець энэргетычны крызіс, які змушае на ўсім гэтым абшары (незалежна ад уваходжаньня ці неўваходжаньня ў СССР) з 12 да 17.00 вырубаць электрычнасьць.

Але выпіць першую філіжанку за турэцкіх працоўных я не магу. Бо ў такім разе мне ніколі не даруе беларускі паэт, прозьвішча якога я беспардонна выкарыстаў у размове з Борам Гальперашвілі. Першыя глыткі я п’ю за Лёню Дранька-Майсюка. Цяпер мяне грэе ня толькі сонца, бервяно і цынандалі, але і ўспамін пра Лёню. Гэта ён, Лёня, напісаў мне на сваёй апошняй кніжцы аўтограф:

*Валодзя, дружа, жарты — жартамі,*
*Ды трэба й гэткага чакаць,*
*Што будзем хутка з парыжанкамі*
*Па-беларуску размаўляць.*

Я ня супраць. Праўда, парыжанак мне хочацца замяніць на філіжанкі. Тады атрымаецца больш сьціпла й бліжэй да жыцьця…

Палітыка на гэтай блаславёнай зямлі прысутнічае сёньня ва ўсім, нават у цынандалі.

Пакуль я п’ю за здароўе турэцкіх працоўных, імя Леаніда Васілевіча Дранька-Майсюка ў маёй сьвядомасьці ўжо цалкам выцясьняецца іншым — Зьвіяд Канстанцінавіч Гамсахурдзія.

Калісьці ён змагаўся за правы чалавека, яго садзілі, ён нібыта каяўся, выходзіў на волю, зьбіраў дэманстра-

цыю ды вёў яе да Мцхецкага храму. Насустрач Зьвіяду Канстанцінавічу выяжджаў Эдуард Амвросевіч Шэварднадзэ, які, сеўшы ў крэсла першага сакратара грузінскага ЦК, перасаджаў, кажуць, 30 тысяч гэтак званых спэкулянтаў і ценевікоў, за правы якіх, называючы іх прадпрымальнікамі, ваюе цяпер у «Движении демократических реформ».

А тады верны ленінец, брэжневец і андропавец Шэварднадзэ, раскрыліўшы рукі, ішоў насустрач дэманстрантам.

—Чаго ты хочаш, сынок? — пытаўся ён у Гамсахурдзіі, спрабуючы абняць яго.

—Ніякі я табе не сынок, — хмурна абзываўся сын клясыка грузінскае літаратуры дысыдэнт Зьвіяд. — У мяне адна маці — Грузія, а ты яе прадаў!

Гамсахурдзію зноў садзілі, і ўсё паўтаралася.

Пра гэта расказваў мне гадоў дзесяць таму знаёмы грузінскі мастак — паміж антысавецкаю показкай пра тое, як Брэжнева вадзілі па Эрмітажы (— Вось, Леанід Ільліч, Гоя, а вось «Дзяўчынка на шары» Пікаса. — А гэта што за малпа? — А гэта, Леанід Ільліч, люстэрка. — А-а, Таркоўскі...), і блюзьнерскаю показкай пра тое, як Гіві намаляваў мадонну, аднак «слишком балшой малчык получился».

А ўчора адзін грамадзянін Абх. ССР распавёў мне пра Зьвіяда Канстанцінавіча ды Эдуарда Амвросевіча новую гісторыю. Першы нібыта прыходзіць да другога й кажа: «Ты — агент КГБ!» — «Не, сынок, — па-бацькоўску ўсьміхаецца Шэварднадзэ. — Гэта ты агент КГБ. Я — генэрал КГБ».

Першая пляшка цынандалі, як і часіны застою, калі яна каштавала ня больш за два рублі, ужо сталася гісторыяй.

У Боры бяруць марозіва салдацікі Савецкай арміі. Лыжачкі ў Абх. ССР (ці ў незалежнай РГ) ужо скончыліся, і Бора падае марозіва зь відэльцамі. Воддаль спыняецца машына з трыма грузінскімі гвардзейцамі, і паміж мною й Борам адбываецца другі дыялёг.

—Боря, ты хотел бы служить в национальной гвардии?

—… национальная гвардия… и… — вытанчана й прыгожа лаецца Бора.

—Боря, а в Советской армии ты служил?

—Советская… и… армия… и… — Бора лаецца непрыгожа й нявытанчана.

Вяртаючыся да бервяна, я знарок раблю кругаля, каб прайсьці побач з нацыянальнымі гвардзейцамі й падараваць аднаму зь іх бел-чырвона-белы значак.

—Ты за Гамсахурдиа? — замест якога-небудзь значка наўзамен, пытаецца гвардзеец, і тры пары цёмных вачэй глядзяць на мяне, нібыта тры дубальтоўкі.

—Я за демократию, — абачліва адказваю я пад гэтымі трыма сэктарамі абстрэлу.

—Проходи, — кажа гвардзеец.

Цынандалі з новае пляшкі пераконвае, што водаправод у «Бары» з 12 да 17.00 пакуль што не адключаюць.

Бервяно, мора і цынандалі зноў скіроўваюць мае думкі да загадкі — дзе я знаходжуся? — і да асобы, якая гэтую загадку ўвасабляе.

Чарговае перабываньне Гамсахурдзіі на волі атрымалася такім працяглым, што дысыдэнт здолеў ператварыцца ў прэзыдэнта.

Народ любіць свайго прэзыдэнта батона Зьвіяда Гамсахурдзію. Ніякага сумневу ў гэтым не пакідае ўчарашні нумар «Вечернего Тбилиси», што тырчыць у мяне з кішэні. «Напрасно враги Грузии, — напісана ў ім на першай старонцы, — тешат себя надеждой, что наш народ устал в борьбе за независимость и демократию. Он неутомим, как и его Президент. Проискам врагов мы противопоставим сплоченность и единство. Те же, кто выступает против народа, будут сурово наказаны».

Ад гэтых суворых слоў лёгкі хмель пакідае мяне, і я пасьпешліва напаўняю філіжанку, каб адагнацца ад халоднае думкі, ці не выступаю я супраць народу, што супрацьпаставіць мне сваю згуртаванасьць і адзінства.

З газэтнае паласы на мяне дапытліва пазірае дарагі батона прэзыдэнт. «Хай смутак ніколі ня росіць вачэй тваіх добрых і ясных» — выплываюць на памяць словы зь ліста беларускага народу да вусатага суайчыньніка дарагога батона прэзыдэнта.

Тамсама, на першай старонцы, пад партрэтам дарагога батона падвярстаны ліст армянаў, якія дзякуюць «и лично дорогому президенту» за адкрыцьцё ў грузінскай школе армянскага клясу.

Учора ўвечары, калі далі электрычнасьць, першая праграма TV паведаміла, што ў Тбілісі за арганізацыю забастоўкі арыштавалі старшыню грузінскага дзяржтэлерадыё ды яшчэ дзевяць апазыцыянэраў. Тэлежурналісты па-ранейшаму бастуюць, і на тбіліскай праграме ідуць адно інфармацыйныя выпускі з амэрыканскімі баевікамі.

У вечаровых навінах паказваюць мітынг. На ім выступаюць: прыгожая жанчына ў чорных панчохах, непрыгожая жанчына ў чорных панчохах і з вусікамі, неінтэлігентны мужчына ў чорных акулярах з падазрона аддудураным крысом пінжака і сам батона прэзыдэнт. Ён чыста выгалены, але ўсё адно цяжка пазбыцца моцных асацыяцыяў зь фідэлеўскай смаляной барадою. Над натоўпам падымаецца лес партрэтаў дарагога батона.

Пасьля інфармацыйнага выпуску круцяць вэстэрн пра індзейцаў, які, мусіць, нідзе, апрача Абх. ССР (ці незалежнай РГ), ня ўбачыш. Фільм ідзе па-ангельску, унізе паўзуць герогліфы японскіх субтытраў, за кадрам гучыць пераклад то на грузінскую, то на расейскую, то на нейкую зусім незнаёмую мову. Напэўна, паказ наладжаны адмыслова дзеля дарагога прэзыдэнта, які ведае зь дзясятак моваў.

З боку Турцыі хвалі павольна падганяюць два бервяны і нешта незразумелае.

Яшчэ адна філіжанка за туркаў, і неўпрыкмет я апынаюся ў смузе колеру разбаўленага цынандалі. У ёй пачынае вымалёўвацца нейкая выснова. Вось зараз я ўхаплю яе за хвост, але…

Але ў гэтай залацiста-празрыстай смузе па пляжы — быццам кагадзе сышоў з тэлеэкрану — сунецца ў белых штанах генэрал КГБ Алег Данiлавiч Калугiн. Ён без накладной барады ды чорных акуляраў i вiдавочна не падобны да зацкаванага людзьмi Гамсахурдзii агента (хай сабе i адстаўнога) варожай дзяржавы. Значыцца, я ўсё ж у Абх. ССР.

— Господин Калугин! — гукаю я, падымаючыся зь бервяна.

Ён ня ўздрыгвае й не палохаецца. Здаецца, яму нават прыемна, што яго пазналi. Генэрал стамiўся безь вядомасьцi, ваюючы на таемных франтах барацьбы з iмпэрыялiзмам.

— Господин Калугин! Интервью для белорусской газеты «Наша Нiва»! Первый вопрос: Вы прибыли сюда в качестве агента Кремля?

Генэрал аблiвае нахабу прафэсiйным лiпуча-чэпкiм позiркам i дастае з кiшэнi асадку «паркер». Мяне працiнае: вось стрэлiць зараз якой-небудзь атрутнай стралой...

— Так вы из Минска? — Ён хавае «паркер» у кiшэню. — Что-то вы не очень похожи на белоруса.

Нiякiх дакумэнтаў у мяне з сабою няма, i замест iх я пачынаю чытаць генэралу верш Рыгора Iванавiча Барадулiна:

*Трэба дома бываць часьцей.*
*Трэба дома бываць ня госьцем...*

— Это намек? — пытаецца пiльны спадар Калугiн.

Я прапаную яму разбаўленага цынандалi iмя Боры Гальперашвiлi. Генэрал адмаўляецца. Магчыма, прычына ў тым, што фiлiжанка ў мяне адна, а iсьцi па другую да Боры неахвота.

Банальная iдэя наконт iнтэрвiю пакiдае мяне.

Ну, пайшоў ён у органы адразу пасьля фiлфаку Ленiнградзкага ўнiвэрсытэту (цi не пастукваў, як быў студэнтам?). Ну, сядзеў на «дыпляматычна-журналiсцкай»

пасадзе ў ЗША, закупляючы рэдактараў эміграцкіх выданьняў. Ну, выдаваў пад псэўданімам «О. Кедров» свае кніжкі, дзе выкрываў акулаў капіталістычнага сьвету. Ну, ажаніўся зь Людмілай Віктараўнай (яна ўжо зьявілася на даляглядзе й занепакоена набліжаецца да нас у штанах колеру бэж). Ну, працуе яна, скончыўшы пэдынстытут, у Інстытуце ЗША й Канады. (Мы й так ведаем, што якраз у пэдынстытутах і рыхтуюць гэткіх спэцыялістаў.) Усё гэта неістотна.

Новую філіжанку я п'ю за генэрала Калугіна, найлепшага з усіх прадстаўнікоў ягонага ведамства, якіх я дагэтуль ведаў.

Ён не паказваў мне сваёй «корачкі», не выклікаў мяне ў бюро прапускоў, не казаў пра «нагнетание националистических страстей в некоторых рассказах». Урэшце, нават апазнаў ня ён мяне, а я яго.

За вас, генэрал!

Людміла Віктараўна таксама адмаўляецца ад цынандалі, і яны аддаляюцца ўздоўж шампаністага прыбою. Іхні ўлюбёны адпачынак — дваццацікілямэтровая прыморская прагулянка.

За вас, Алег Данілавіч і Людміла Віктараўна!

Як кажуць у вас у Расеі, скатертью дорога!

Я гляджу на мора. Таямнічая рэч, якую несьлі хвалі, ужо блізка. Гэта абшарпанае драўлянае крэсла. Напэўна, яго таксама прыслалі турэцкія пралетары, прачытаўшы ў газэце, што ў нас крызіс з мэбляю. Я выцягваю аблупленае крэсла з вады і кладу яго на жвір сушыць.

У крэсла толькі тры нагі, але на ім можна сядзець, што я й раблю, дапіваючы за турэцкіх пралетараў апошнія глыткі. На ўсялякі выпадак я пералічваю грошы ды гляджу на Бору. Крэсла, як быццам прадчуваючы хуткае расстаньне, ня хоча адпускаць мяне.

Паміж мною й Борам адбываецца трэці дыялёг.

— Кто этот человек? — Бора ківае ў той бок, куды пайшоў генэрал.

— Это Калугин, — адказваю я. — Ну тот, генерал КГБ.

— … и… КГБ… — брудна лаецца Бора.

За час, пакуль я гаварыў з генэралам і сушыў турэцкае крэсла, у «Бары» прычынілася падвышэньне коштаў на цынандалі й хачапуры, аднак мне як старому кліенту Бора адпускае тавар па старым кошце. Ягоны позірк раптам робіцца загадкавым і скіраваным некуды паўзьверх майго пляча.

Я адварочваюся ад стойкі і бачу побач з сваім крэслам нейкага чалавека.

—Эй! — вясёла крычыць ён. — Это твоя стула?

—Моя!

—Можно, я заберу?

—Нельзя!

—Спасибо! — крычыць незнаёмы грамадзянін Абх. ССР (ці незалежнай РГ), пасылае мне сарамяжлівы позірк і, прытуліўшы да грудзей турэцкае крэсла, шпаркай ступою кіруецца ў кіпарысавыя прысады.

На шчасьце, захапіць з сабою маё цёплае бервяно ён ня здолеў. Я прыхінаюся да яго, расьсьцілаю газэту «Вечерний Тбилиси», кладу побач з партрэтам Гамсахурдзіі свой трэці хачапуры, дзякую Бору й асабіста дарагому прэзыдэнту і пагружаюся ў залацістую смугу.

Перада мною мора, усьцяж якога шпацыруе генэрал Калугін. За мною горы, за якімі сядзіць генэрал Дудаеў. Галаваломнае пытаньне Абх. ССР і незалежнае РГ абрастае новымі варыяцыямі: Грузія ўваходзіць у Абхазію, СССР выходзіць з Грузіі, я выходжу з СССР, СССР выходзіць зь мяне…

Чамусьці ад усяго гэтага мяне наведвае востры прыступ самоты. Сьвет здаецца страшэнна няпэўным і крохкім. Ён гатовы абрынуцца на мяне й пахаваць пад сваімі руінамі. Шукаючы духоўнага апірышча, я гляджу на філіжанку з адбітым вушкам. Яшчэ імгненьне, і ад роспачы я загавару зь ёю па-беларуску, спраўдзіўшы адрэдагаванае абяцаньне Лёні Дранька-Майсюка.

І тут з залацістае смугі колеру разбаўленага цынандалі імя Боры Гальперашвілі прыходзіць паратунак. З гэтае смугі выплывае выснова, якая ўкладваецца ў тры словы: Гамсахурдзія — наш чалавек.

Каб не забыцца, я пішу іх на вільготным пяску буйнымі літарамі:

ГАМСАХУРДЗІЯ — НАШ ЧАЛАВЕК.

Праз хвіліну мне здаецца, што гэта ня надта патрыятычна, і побач я дапісваю:

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Сьвет вакол мяне зноў набывае ўстойлівасьць і надзейнасьць.

—Гамсахурдзія — наш чалавек! — уголас прамаўляю я, дажоўваючы рэшту гумовага хачапуры й запіваючы яго апошнім глытком Боравага цынандалі, у непаўторным букеце якога відавочна прысутнічае хлёрка.

Няроўны белы язык хвалі ліжа мой надпіс. На пяску застаецца толькі:

НАШ БЕЛАРУСЬ!

Даволі доўга я гляджу на гэтыя шматзначныя словы з каўкаскім акцэнтам. Потым падымаюся і кірую да Боры.

Надыходзіць чульлівая хвіліна разьвітаньня. Я люблю Бору Гальперашвілі й адчуваю патрэбу сказаць яму нешта цёплае. Наш чацьверты дыялёг зусім кароткі.

— Калі ты прыедзеш на Беларусь, — кажу я, — цябе будуць зваць Гальпяровіч.

*1991*

# У нас у Серабранцы

Пераехаўшы ў Менск, я жыў спачатку ў падвале бяз адрасу.

Вядома, я мог напісаць на канвэрце назву вуліцы й паставіць нумар дому, але пошту ў падвал усё адно не насілі, і ў гэтым сэнсе жылося зацішна.

Хто завітваў да мяне на гасьціны, можа засьведчыць, што падвал быў з усімі выгодамі й нават бяз вокнаў. Праўда, адтуль трэба было раз-пораз выходзіць на працу, дзе міліцыя й склала тры пратаколы за пражываньне без прапіскі.

Пасьля гэтага ў Саюзе пісьменьнікаў запыталіся ў мяне, дзе я жыву. Я шчыра прызнаўся: у падвале. Адказныя таварышы праніклiся шкадобаю і праз год далі мне кватэру.

Так я і апынуўся ў нас у Серабранцы, і цяпер за пражываньне на маёй плошчы без прапіскі маю законнае права скласьці пратакол на хамяка Хамейні ды на котку Басю (у афіцыйным дакумэнце будзе фігураваць поўнае імя: Басота).

Апрача асобаў сумнеўных і непрапісаных, у нашым доме ў розны час жылі й жывуць людзі прапісаныя, вядомыя ды заслужаныя.

Па-першае, у нашай кватэры атайбаваўся калісьці пісьменьнік Вячаслаў Рагойша, а да яго заходзіў Уладзімер Караткевіч, які, кажуць, браў тут чарку ды сьпяваў песьні ня горай, чым ён гэта робіць у забароненым некалі фільме паводле ягонага раману «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Цяпер у нас у доме жыве крытык і перакладчык Галіна (ашчаджаючы яе спакой, абыдземся бяз прозьвішча). Жыве таксама паэтка Валянціна, якая зрэдзьчас падпісваецца псэўданімам Віта Гнаная. Атрымліваец-

ца сапраўдная літаратурная віктарына, да якой можна дадаць пытаньне: які вядомы беларускі археоляг стаўся героем мастацкага твору ў сувязі з тым, што ў яго ў археалягічнай разьведцы ўтапіліся штаны?

Гэты археоляг, купіўшы новыя штаны, таксама на законных падставах пражывае ў нашым доме.

Тут жывуць Алесь, ажно два Данчыкі і Дануся.

А калі дадаць яшчэ й небясьпечнага ў нядаўнім мінулым нацыяналіста, а сёньня народнага дэпутата Пятра Садоўскага, дык нехта абавязкова скажа: кубло.

Паблізу нашага дому ёсьць канал, на якім вядуцца качкі. Раней па канале плаваў лебедзь, але ня вытрымаў «перестройки» і адляцеў кудысьці ў эміграцыю.

А вось яшчэ адзін знаны нацыяналіст прафэсар Уладзімер Конан «перестройку» вытрымаў і па-ранейшаму глядзіць на сьвет зь верхатуры суседняга шматпавярховіка.

Часам прафэсар можа ўбачыць, як раніцой па беразе каналу бегае парлямэнтар Пятро Садоўскі. Мінакі з захапленьнем назіраюць, як бягун распранаецца й дае нырца. Як кажа адзін з выбаршчыкаў, на тое ён і народны дэпутат.

Прыбег, значыцца, аднойчы спадар Садоўскі раніцай на канал і — у ваду. А на беразе сядзіць рыбак з вудаю. А мо й не рыбак, і ніякая ў яго ў руках ня вуда, а партатыўны перадатчык (як кажуць вэтэраны беларускіх выдавецтваў, «мает рацыю»). Сядзіць гэты вудаль і глыбакадумна так кажа:

—Ну што, Пятро, дабегаўся?

Дэпутат зьдзівіўся, але плыве як нічога ніякага. А вудаль удакладняе:

—Вылазь, Пятро. Пераварот.

Дэпутат зірнуў на дом, а адтуль жонка бяжыць.

Тут ён і зразумеў, што гэта ня жарцікі. Ды якія там жарцікі, калі пісьменьнік Барыс Сачанка гэты пераварот прадказваў ад самай зімы ўжо разоў зь дзесяць.

Народ вудзіў рыбу, а народны дэпутат апрануўся ды паехаў хутчэй у парлямэнт. А тым часам нехта з пар-

лямэнтараў шукаў, куды б зашыцца, нехта, рыхтуючыся да адседкі, культурна складаў у партфэль камплект бялізны з зубной шчоткай, а нехта ехаў ужо ў цягніку ў Санкт-Пецярбург, каб пачынаць усё спачатку.

Карацей, 19 жніўня 1991 году.

Гэта парлямэнтары.

У паспалітых людзей таксама ўзьніклі свае праблемы.

Да мяне, напрыклад, падыходзіць на двары старшыня дамкаму — ціхі такі пэнсіянэр і аматар паддаць, што разьмяркоўваў нам талёны на харч. Быццам падмянілі старшыню: вока гарыць, не раўнуючы, як у якога варашылаўскага стралка.

— Ну, как там, Владимир Алексеевич, ваш Народный фронт?

— А адкуль, прабачце, вы ведаеце, як мяне завуць?

— Э-э, милок, я, к твоему сведению, человек не простой. Я когда-то комсомольский штаб всего Минска возглавлял.

Мяне неяк міжволі ад суровай прозы пацягнула на паэзію:

*Цьвёрда трымаўся юнак на дапросе,*
*Тоячы словы і думкі свае...*

«Ня выдам нікога, апрача аднаго пісьменьніка, — прысягнуў я сам сабе страшнаю прысягай. — Яму ўсё адно нічога ня будзе».

І пайшоў слухаць далей радыё «Свабода».

З допытам, як вядома, атрымалася адтэрміноўка.

І тут я, слабы чалавек, узяў грэх на душу. Пазваніў дні праз тры да былога начальніка камсамольскага штабу ў дзьверы.

— Выбачайце, хачу як суседа папярэдзіць. Народны фронт прыняў пастанову: усіх старшыняў дамкамаў — арыштаваць.

Сьпярша, бо быў, як зазвычай, пад чаркай, ён і паверыў.

— Спасибо, дорогой. Придется к брату в Донбасс рвануть.

Добра, што цяпер талёны выдаюць у домакіраўніцтве.

Яшчэ дні праз тры ў мяне быў дзень нараджэньня. Якраз тады, як Малафеева (не футбольнага трэнэра, а таго, што спрабаваў муштраваць усіх нас) сьцягнулі на сэсіі з трыбуны, а ягоны папярэднік пэнсіянэр усесаюзнага значэньня Ахрэм Сакалоў падруляваў на службовай «Волзе» да роднага ЦК, а там каля дзьвярэй — труна, вакол — плакальшчыцы, а на труне — машастовая стужка: «Ум, честь и совесть».

Таго вечара сябры падаравалі мне кавалак граніту, адбіты ад цэнтральнай парцейнай будыніны, што стаяла насупраць гарадзкой прыбіральні, на якую касавурыліся, круцячы насамі, бюсты таварышаў Маркса й Леніна.

Такім чынам хоць частку былой парцейнай маёмасьці пашэнціла прыватызаваць і мне.

Так нашая Серабранка апынулася ў сувэрэннай Рэспубліцы Беларусі.

Жыць, праўда, паспалітаму чалавеку стала ня надта каб лепей і весялей. Нават бел-чырвона-белыя сьцягі вывешваць на гаўбцах ужо нецікава, а бэсэсэраўскіх назапасіць у нас у доме не даўмеліся.

Аднак, калі зробіцца зусім сумна, можна схадзіць на пошту.

Вось, дапусьцім, хачу я даць тэлеграму з сувэрэннага Менску знаёмаму ў сувэрэнны Нью-Ёрк.

— Ні дурыце галаву, — кажа паштарка. — Ні ў какіі Нью-Ёркі нікакіі цілігрáмы ні прынімаім.

— А ў якія-небудзь Наваполацкі якія-небудзь тэлеграмы прымаеце?

— У Наваполацкі прынімаім.

Пішу, высалапіўшы ад стараньня язык, друкаванымі літарамі, каб, крый Божа, чаго не пераблыталі.

Тэлеграфістка прачытала і пытаецца:

— А што такоя «віншую»?

—Поздравляю, — перакладаю я на мову нашай нацыянальнай меншасьці.

—Так бы і пісал. А Вінцэсь — эта што? Фамілія?

—Імя.

—Да нет такова імя, — гаворыць паштарка з сумесьсю ўкветенасьці й шкадобы. — Дурут тока галаву.

Тэлеграму яна ўсё ж прымае, ды потым высьвятляецца, што мае высілкі пайшлі тунна, бо тэкст, каб не пакрыўдзіць нацменшасьць, пераклалі на «общепонятный». Дзякаваць Богу, што хоць ня сталася, як з адным мастаком, якому таксама пераклалі й замест паведамленьня пра хаўтуры атрымалася запрашэньне на «халтуру».

Праўда, гэткія пераклады рабіліся яшчэ ў БССРы. У сувэрэннай Рэспубліцы Беларусі новыя праблемы.

—Напішы ўнізу ціліграмы адрас і фамілію, — кажа паштарка.

Потым яна доўга й падазрона разглядвае блянк.

—Как фамілія? Арлой?

—Арлоў. На канцы — у нескладовае.

—Нет такой буквы, — акурат, як у тэлеперадачы «Поле чудес», адразае паштарка.

Я — чалавек рахманы. Дастаю нататнік, малюю «й» і «ў» і даходліва тлумачу розьніцу.

Ня ведаю, дзе асела ў яе тая розьніца, але ў галаве надзейна зачапілася, што я ўспадчыў ад бацькі незвычайнае прозьвішча — Арлой.

Заходжу наступнага разу ў аддзяленьне: паштарка ўсьміхаецца мне, як старому знаёмаму, ды гукае нейкую Надзю.

—Арлой прышол, апяць журналы не данесьлі.

Зь нетраў пошты выплывае раззлаваная Надзя.

—Што вы ўсё ходзіце? Там у вас яшчо какой-та Садовскій жывёт. Тожа ходзіт. Навыпісывалі журналав па-біларускі, а ціпер варуют адзін у аднаво із яшчыкав...

Недалёка ад пошты жыве крамяны дзядзька, зь якім нас зьбліжае тое, што ў яго таксама рэдкае мяно.

У гістарычныя 1930-я ідэёва загартаваныя бацькі ахрысьцілі сына Камінтэрнам.

Ня ведаю, як было зь лексыкай у фірме, у гонар якой яго назвалі (мо там сыпалі выключна антыдурынгамі ды пасылалі на эмпірыякрытыцызм), а ў нашага Камінтэрна ўлюбёнае слаўцо, перапрашаю, «блядзі».

Зноў адключылі на тыдзень гарачую ваду — «Блядзі!»

Паднялі кошт на гарэлку — «Што робяць, блядзі!»

Абвясьцілі Каляды выхадным днём — таксама «блядзі», але з адценьнем павагі.

Ня ведаю, што там чынілася ў бальшавіцкім Камінтэрне, а наш дзядзька Камінтэрн — вечна нападпітку. Часам ён насмоктваецца да божае моцы і можа забурыцца проста пасярод дарогі.

— Зноў Камінтэрн напіўся, — кажуць тады жанчыны ў ягоным двары ды просяць мужыкоў завалачы жлукту дахаты, бо дзядзька мае адметную рысу: заваліўшыся на дол, уяўляе, што ён ужо дома, і, палохаючы мінакоў, пачынае распранацца да майткоў.

У нашай Серабранцы ня менш цікавага, чымся ў Фолкнэравай Ёкнапатофе.

Але на сёньня я закругляюся, бо да мяне зрабіў візыт знаёмы мастак, і мы зь ім глынем кавы, а потым ён натхніцца й што-небудзь намалюе ў «Нашай Ніве», і гэта разам з маёй пісанінаю выкліча ў часткі чытачоў новую порцыю здаровага абурэньня.

А таму, як звычайна кажуць у Нью-Ёрку, гуд бай!

Або, як звычайна кажуць у нас у Серабранцы, до свидания!

*1992*

# Рэквіем па нясьвіскім сале

Адам Міцкевіч страшэнна (яшчэ больш, чым Гётэ — сабакаў і часныку) не любіў гарадоў, не пазначаных на мапах.

Гораду, куды ты едзеш, нялюбасьць аўтара «Дзядоў» ніколі не пагражала.

Гэты горад — Кракаў.

Калісьці за кухлем кракаўскага піва адзін твой знаёмы выпускнік тамтэйшага ўнівэрсытэту разважаў пра тое, што «понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя...»

Цяпер у Кракаве жыве твой знаёмы рэжысэр Кшыштаф, які паставіў у вас у Менску спэктакль пра вар’ята й манашку, і калі захопленая публіка запатрабавала яго на сцэну, выйшаў басанож, бо ніколі не дазваляў сабе зьняважаць сцэну чаравікамі.

Яшчэ ў Кракаве жыве беларускі гісторык Алег, які знайшоў там магілу Алеся Гаруна.

Табе здаецца, што ў Кракаве ўсе людзі такія, як Алег і Кшыштаф. Але тры пляшкі нашай новай сувэрэннай гарэлкі «Белая Русь» (адна законная й дзьве кантрабандныя), што ляжаць у цябе ў валізе, ты вып’еш не са сваімі знаёмымі.

Ты зусім ня будзеш іх піць.

Ты ня будзеш піць «Белую Русь», бо ў Кракаве ёсьць Марыяцкі касьцёл. Некалі татарская страла зрэзала зь ягонае вежы дазорцу, што затрубіў, папярэджваючы места аб варожым нападзе. На памятку пра гэта на вежы штогадзіны граюць трубачы-гейналісты.

Упершыню за 600 гадоў яны маўчалі тае начы, калі на вежу залез беларускі пісьменьнік Уладзімер Караткевіч.

Ты спадзяесься, што сярод гейналістаў і сёньня няма непітушчых. Гэтым разам пад акампанэмэнт храпу

гейналістаў начны Кракаў (з тае прычыны, што гімну ў Рэспублікі Беларусі дасюль няма) пачуе, як «Саўка ды Грышка ладзілі дуду».

Магчыма, гэта здарыцца ўжо заўтра.

А пакуль ваш аўтобус пад’яжджае да памежнага берасьцейскага пераходу за Варшаўскім мостам. У вас у кішэнях ляжаць запрашэньні на сэмінар па гісторыі Рэчы Паспалітай, факсы й камандзіровачныя пасьведчаньні…

Гейналістам ужо, напэўна, сьніцца Беларусь… Аўтобус закалыхвае, і вакол цябе таксама тчэцца вопрадзень сьненьня. Ад думак пра сярэднявечнага трубача ў сон лезуць раскосыя твары, якія чамусьці просяць даляраў…

Тарганууўшыся, аўтобус спыняецца, і ты адплюшчваеш вочы. За вакном гарацць у цемрыве вогнішчы, нешта булькоча ў задымленых саганах, бегаюць па смуглявых абліччах агнёвыя водсьветы. На мяжы явы і сьненьня табе здаецца, што ты глядзіш сон далей, што гэта ідуць на Кракаў праз Варшаўскі мост мангола-татарскія захопнікі.

Праўда, немаведама чаму татары гамоняць па-расейску і нецьвярозымі галасамі пяюць задушэўныя расейскія песьні. Прыемнае каляратурнае сапрана каля суседняга вогнішча выводзіць:

*А вот намедни на крючок поймал русалку.*
*Я это помню, это было, как вчера.*
*Крючок я бросил, бросил леску, бросил палку,*
*А что словил? Да только три пера.*

Як на сон, дык гучыць занадта саўкова, і ты прачынаесься.

Ад Варшаўскага мосту, губляючыся ў бяззорнай цямрэчы, цягнецца бясконцая гірлянда агнёў. Сонныя гейналісты трывожна пераварочваюцца на другі бок, а ты змагаесься зь нядобрымі прадчуваньнямі й таксама клічаш на дапамогу Марфэя.

Там, у сьне, паміж аўтобусамі шнуруюць баскакі. Да хвастоў іхніх калматых конікаў прывязаныя берасьцейскія аўтамабільныя нумары, а на гнедых баках выведзена: «Милиция». З машынай-міргалкаю наперадзе ў бок мяжы паважна праходзіць караван сланоў і вярблюдаў, і за кадрам хтосьці тлумачыць, што гэта адбывае з афіцыйным візытам спадар прэм'ер…

Раніцою ты ачынаесься пасярод голага поля. У рэдкім туманцы ў далечыню ад застаўленай аўтобусамі да самага далягляду шашы брыдуць ланцужкі людзей. Відовішча нагадвае кадры ваенных кінафільмаў: партызаны ідуць з заданьнем на «жалезку». Нават няўзброеным вокам відаць, што і бяз ранішніх дывэрсантаў поле замініравана так надзейна, што ніякай арганікі яму да XXI стагодзьдзя не спатрэбіцца.

Адрозна ад трох «шпакоўняў» (плюс адна калёнка з вадою), уторкнутых берасьцейскімі дойлідамі ў смуродныя лужыны на шэсьць кілямэтраў аўтачаргі, сьмецьцевых бачкоў у нашай незалежнай краіне пакуль што хапае.

Бачкі ледзь не штохвіліны правяраюць абходчыкі зь ёмістымі торбамі. У аднаго на торбе партрэт Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова з падмаляванымі гітлераўскімі вусікамі, у другога — лёзунг: «СССР — оплот мира». Часам паміж абходчыкамі ўсчынаецца двубой за пустую пляшку.

Значна спакайнейшая й выгаднейшая іншая прымежная прафэсія — гандаль месцам у чарзе. Адно аўтобуса месца каштуе сто рублёў, а аўтобусаў тут недзе пад паўтысячы. За дзень мытнікі прапускаюць штук трыццаць-сорак. Кажуць, што праблему здымаюць 500 «зялёных», але вы пакуль знаходзіцеся на стадыі пачатковага намнажэньня капіталу, і іх, гэтых «зялёных», ва ўсіх разам набярэцца разоў у дзесяць меней.

Таму вы мітусіцеся паблізу шлягбаўма са сваімі паперамі, а кучаравы капітан з прозьвішчам ці то Гурок, ці то Бурак, зазірнуўшы ў іх адным вокам, пагардліва кідае:

—Пущай сам Шушкевич придет и мне скажет, тада пропущу.

Ягоны калега, зрабіўшы страшныя вочы, абяцае, што ўсё адно будзе правяраць «щацильна».

Каля шлягбаўма гамуе аўтобус зь дзявочай зборнаю па нейкім спорце. Пакуль трэнэр вядзе перамовы з начальствам, юныя спартоўкі просяцца ў паставога:

—Товарищ милиционер, пропустите. У нас соревнования. Нам завтра вечером на помост в Париже выходить.

—Знаем мы ваши соревнования, — міралюбна адгукаецца «товарищ милиционер». — Трахаться едете с французами за доллары. Будете с нами за рубли — тогда пропустим.

Пэрспэктыва пакаштаваць нясьвіскага сала з чырвонай праслойкаю ды пачуць адну з вэрсіяў утварэньня колеравай гамы вашага сьцягу робіцца для кракаўскіх гейналістаў усё больш туманнаю.

Ваш апанаваны апошнімі надзеямі аўтобус бярэ курс на Берасьце — шукаць справядлівасьці ў высокіх кабінэтах. Надпіс на ўезьдзе ў горад папярэджвае: «Народы СССР — едины». Мяркуючы па аўтобусных нумарах у чарзе за мяжу ды па агульнай эканамічнай прасторы прымежнага поля, па якім не адважыцца прайсьці басанож нават твой знаёмы серабранкаўскі п’янтос Камінтэрн, — лёзунг кажа шчырую праўду.

Беларускае мовы на берасьцейскіх вулках і ў берасьцейскіх кабінэтах людзі ці то ня хочуць разумець, ці то сапраўды не разумеюць.

—Так вы, ребята, к нам из Белоруссии приехали? — з ухмылкаю пытаецца абласны начальнік. — Как у вас в Белоруссии погода?..

З аднаго кабінэта ў другі вы пераяжджаеце па вуліцы імя Касманаўтаў. Табе згадваецца, як гадоў пяць таму ты быў на сэмінары маладых талентаў у Воршы і прапанаваў сакратару гаркаму партыі, што вучыў вас розуму, назваць аршанскую вуліцу Касманаўтаў імем Караткевіча, які напісаў там «Дзікае паляваньне караля

Стаха». Функцыянэр быў абураны: «Мы на это никогда не пойдем. Такое решение будет идеологически неверным». «Чаму?» — не здаваўся ты. «Потому что эта улица названа в честь *советских космонавтов*». «Яны што, усе разам тут нарадзіліся й жылі?» Партыйны сакратар быў не пазбаўлены пачуцьця гумару: «Они над Оршей пролетали».

Назвы вуліцаў Берасьця сьведчаць, што над ім пралятал Пушкін з Гогалем, Будзённы з цэлым эскадронам бальшавіцкіх башыбузукаў, а таксама Ленін з самім камунізмам.

Няблага вывучыўшы гарадзкую тапанімію «западных ворот советской страны», вы вяртаецеся на шашу і — о, сьвятая наіўнасьць! — спрабуеце заняць у чарзе ранейшае месца. Яшчэ на далёкіх подступах з аўтобуса зь віцебскім нумарам высыпаюцца, як блашчыцы з матраца, дзясяткі два разьятраных жанок ды іхніх няголеных спадарожнікаў.

Ваш аўтобус сутаргава плішчыцца наперад. Хмурныя мужчыны зь Віцебшчыны дакляруюць вам размалаціць каменьнем вокны. Жанчыны дзейнічаюць больш радыкальна. З крыкам «Проедете по нашим трупам!» яны кладуцца на мокры ад імжачкі асфальт проста пад колы.

Ты выбіраеш сярод залеглых прыгожую маладзіцу ў сьветлай куртцы й пачынаеш яе ўгаворваць зьмяніць пазыцыю. Ты цярпліва даводзіш, што брудны асфальт — ня самае зручнае месца дэманстраваць бясспрэчныя вабноты. Ты пытаесься ў яе імя й тэлефон і, зьвяртаючыся да скарбаў айчыннай паэзіі, кажаш пра духмяныя стагі, дзе жанчыны, як радасны сон на зары.

Маладзіца зь віцебскага аўтобуса прыслухоўваецца да тваёй беларускай мовы, і раптам ейны гожы твар перасмыквае, і яна зь нянавісьцю верашчыць:

—Уйди, хохол бородатый! Тут белорусы по десять суток мучаются, а еще вас понаехало!

Гэта гучыць як прысуд.

Унурыўшы галаў у плечы, ты выцягваеш з аўтобуса валізу зь «Белай Русьсю» й цешчыным салам, спыня-

еш спадарожны «масквіч», расштурхоўваеш на вакзале колькі падазроных асобаў «кавказской национальности» каля адзінай адчыненай касы, купляеш квіт у цягнік, што ідзе з таго боку, куды цябе не пускаюць, залазіш упершыню ў жыцьці ў абсалютна пусты мяккі міжнародны вагон і праз чатыры гадзіны падыходзіш да свае хрушчобы ў Серабранцы.

Як казаў, прыяжджаючы дахаты ў родную Нарвэгію Фрыт'яф Нансэн, «вяртаньне — прыз кожнага падарожжа».

Твой прыз чакае цябе каля дому ў абліччы суседкі, якая, задраўшы галаву, абураецца, што нехта вывесіў «фашистские флаги». Ты бачыш, што адзін павесілі на гаўбцы твае сыны, другі — археоляг зь літаратурным крытыкам з трэцяга пад'езду.

Толькі тут ты ўспамінаеш, што заўтра — 25 сакавіка.

«Дожились», — кажа суседка й зьбіраецца ісьці скардзіцца на фашыстаў народнаму дэпутату Пятру Садоўскаму. Ты падказваеш, у якой кватэры той жыве і даеш арыенцір — яшчэ адзін крамольны сьцяг. Уадначас ты дзелісься асьцярожнаю здагадкаю, што брудную правакацыю супраць народнага абраньніка ўчыніў хтосьці зь мясцовых фашыстаў, прыставіўшы знадворку драбіны.

—Иди, иди... Позьняк оброслый, — падазрона гаворыць суседка. — Сам, может, и лазил.

Апоўначы ты бярэш сынаву дудку і выдзімаеш на ёй «Саўку ды Грышку». У тую ж хвілю на вежы Марыяцкага касьцёлу падносіць да вуснаў трубу кракаўскі гейналіст.

Вашыя мэлёдыі зьліваюцца ў рэквіем па «Белай Русі» й бел-чырвона-белым нясьвіскім сале.

*1992*

# Тунэль зь Серабранкі ў Бэрлін

Бывайце, заходнебэрлінскія дворнікі! Калі б ты гаварыў па-нямецку, дык растлумачыў бы ім, што больш за ўсё на сьвеце яны падобныя да беларускіх акадэмікаў і членкараў і, пакінуўшы за дзьвярыма канфэрэнц-заляў свае мудрагелістыя прычындалы, маглі б сьмела займаць месца ў прэзыдыюмах.

Бывайце, белазубыя гандляры-туркі з пляцу каля Брандэнбурскае брамы з вашымі мэдалямі «За взятие Берлина» (вас можна было б таксама ўзнагароджваць імі, бо Бэрлін зь ягонымі 250 тысячамі малаазійцаў — трэці пасьля Стамбулу й Анкары турэцкі горад сьвету), са значкамі «Победитель соцсоревнования» і партабакамі з «Пагоняй» вытворчасьці Полацкага ліцейна-мэханічнага заводу па пяць марак за штуку.

Бывайце, бэрлінскія немкі! З кожным пражытым годам вы робіцеся толькі больш прывабныя, каб у старасьціператварыцца ў прыгажуняў.

Бывайце, бэрлінскія турчанкі! Карыстайцеся са свае смуглявае маладосьці, бо з вамі кожны пражыты год робіць штосьці адваротнае.

Бывайце, бэрлінскія мурынкі! Здаецца, вы (хіба што за выняткам адной шарагоўкі US Army) пакуль што ціхамірна існуяце па-за эстэтычнымі крытэрамі беларускіх мужчынаў.

Бывай, галоўка Нэфэрціці з Эгіпецкага музэю! Адно тваё дасканалае вушка слухае дзесьці голас сахарскіх пяскоў, а ў ацалелае нехта асьцярожна шапянуў табе, што па менскіх вуліцах ходзіць жанчына з тваім профілем, і, можа, калі-небудзь хтосьці таксама аблашчыць ейнае вушка цёплым дыханьнем і адкрые ёй яе таямніцу.

Бывайце, паважныя бэрлінскія панкі з кармінавымі, вохрыстымі ды індыгавымі грабянямі на голеных да

люстранога бляску галовах, падобных да яек, зьнесеных ацтэцкімі пачварамі з Далемскага музэю, перад якім бялеюць на газонах чародкі шампіньёнаў, а па-наску — пячурак.

Бывайце, бэрлінскія дзеці! Незалежна ад колеру скуры ў вас такія здаровыя й чыстыя твары, якія ў беларускіх дзяцей можна ўбачыць адно на фатаздымках пачатку XX стагодзьдзя.

Бывай, італійскі рэстаранчык, дзе гасьцінныя гаспадары Ульрых, Вольф і Свэн да адвалу нагадавалі цябе стронгай і мясам акулы.

Бывай, сталоўка бэрлінскага аддзяленьня пасольства Расейскай Фэдэрацыі, дзе цябе нагадавалі баршчом і сечаным шніцлем.

Бывайце, па-цыганску маляўнічыя жабракі й жлукты са станцыі мэтро Заалёгішэр гартэн! Ніхто не забароніць вам, абліваючы бароды, смактаць сваё віно й піва, цалавацца ўзасмокт бяз розьніцы полу ды проста на вуліцы, пад нагамі ў мінакоў, здымаць хірургічныя швы з раны, атрыманай тут у п’янай бойцы.

Бывай, заходнебэрлінскі зьвярынец, пасьля якога хочацца наведаць усе зьвярынцы былога СССР з адной толькі мэтай — дапісаць на кожнай шыльдачцы з назваю жывёліны два словы: «дробны» і «брудны».

Бывайце, прычасаныя, быццам на прыём дыпляматычнага корпусу, арангутангі, гібоны і гамадрылы! Бывайце, фрывольныя макакі з мадняцкімі фрызурамі! Вашыя дзеці маглі б штодня адпраўляць сваім аднагодкам у СНГ гуманітарную дапамогу ў выглядзе некалькіх скрынак памаранчаў, ківі, манга, а таксама трускавак, якія ў нас бываюць у чэрвені, а ў бэрлінскім зьвярынцы — а восьмай раніцы.

Бывайце, бела-чырвона-сінія чыюкі памерамі з нашых буслоў! Вашая крыклівая валтузьня нагадвала б пасяджэньне парлямэнту суседняе дзяржавы, каб вы не дзяўблі двух жоўта-блакітных суродзічаў, што больш выдавала на дзяльбу Чарнаморскага флёту.

Бывайце, падобныя да некаторых клясыкаў нашае літаратуры сытыя мядзьведзі зь недаедзенымі паляндвіцамі на цёплых камянях пры басэйнах з вадою, чысьціня якой не прысьніцца нашым водаправодным кранам нават у самых празрыстых снах. Бывайце, акапі са зграбнымі дзявочымі дупцямі, абцягнутымі ўльтрасучаснымі зебрастымі ласінамі. Бывайце, чапурыстыя жырафы зь недажаванымі гронамі залацістых бананаў.

Бывайце, бэрлінскія зьвяры! Ваш рацыён пакуль нам толькі сьніцца.

Бывай, падобны да маскоўскіх нэабальшавікоў усходнебэрлінскі маладзён з вачыма параноіка! Напэўна, ты і сёньня палохаеш пасажыраў падземкі сваімі гістэрычнымі выгукамі, абяцаючы без чаргі расстраляць усіх буржуяў і паказваючы, як гэта будзе: «Та-та-та-та-та!» (Наконт без чаргі, дык, у прынцыпе, усіх нас трэба абслугоўваць безь яе, бо ўсе мы — інваліды сацыялізму розных групаў.)

Бывай, бэрлінская сьцяна! Цябе няма, але нават ня ведаючы, дзе твой нож упіваўся ў цела гораду, імгненна адчуваеш, у якім сэктары знаходзісься, бо з аднаго боку сьцяны пачуваесься ў значна палепшаным, але яшчэ ў сваім вымярэньні, а з другога — апаноўвае навязлівае адчуваньне, што з гледача ты ператварыўся ў дзейную асобу тэлеперадачы пра сьвет, дзе, як пісаў яшчэ нядаўна сёй-той з нашых сучасных дэмакратаў, спраўляе свой баль жоўты д’ябал.

Бывайце, двухпавярховыя гарадзкія аўтобусы зь дзясяткам пасажыраў, ліфты для інвалідаў на станцыях электрычкі, у надземных пераходах і ўнівэрмагах, дармовыя музэі з эгіпецкімі муміямі, палотнамі Босха, Брэйгеля й Кранаха, з графікай Дурэра і скульптурамі Леанарда! Бывайце, адмысловыя прыбіральні для нябогаў на вазках і сьціплыя прыгарадныя супэрмаркеты зь сьвежымі пэрсікамі, вінаградам, авакада і з пладамі, якіх вы ніколі ня бачылі нават на малюнках, а таксама яшчэ зь дзесяцьцю тысячамі найменьняў тавару, сярод якога трыста гатункаў цукерак і трыццаць — туалетнай

паперы, у тым ліку з зайчыкамі ды з паветранымі шарыкамі.

Бывай, ціхі зялёны куток у прадмесьці, дзе на мяжы капіталізму і сацыялізму абменьвалі шпіёнаў! Калі б цябе звазілі ў заходні сэктар у тваім піянэрскім дзяцінстве зь ягонымі хрушчоўскімі чэргамі па хлеб, ты, магчыма, таксама захацеў бы падацца ў шпіёны, каб цябе калі-небудзь абмянялі на нямецкага, а мо і на савецкага калегу.

Бывай, усходні сэктар! Дзе яшчэ можна было ўбачыць так блізка да зораў беларускага паэта Алеся Разанава, які спакусіў цябе на начны вылаз у былы разьвіты сацыялізм, а па дарозе да Аляксандар-пляцу ўбіўся ў нейкі камуністычны тупік з бруднымі калюжынамі і ў роспачы палез на ржавы жалезны плот, за якім шумеў ручай з зусім свойскім пахам? Дзе яшчэ вы вып’еце кухлік залатога хмелю ў піўбары, кельнэрам у якім служыць былы партбос гарадзкога ўзроўню, якога часам пазнаюць візытанты з Рэспублікі Беларусі, што калісьці пілі з партайгеносэ на партайбанкетах, а цяпер заложна аднаўляюць беларускую дзяржаўнасьць. Кажуць, сустрэўшы знаёмага, гер кельнэр не хавае вачэй, аднак ветліва папярэджвае, што доўга затрымлівацца каля аднаго століка яму забаронена.

Бывай, падобная да праваслаўнай царквы зялёнакупальная турма Маабіт, дзе сядзеў за Гітлерам татарскі паэт Муса Джаліль, а цяпер сядзіць шэф усходненямецкага міністэрства дзяржбясьпекі Эрых Мільке і дзе, як лічаць усе бэрлінцы, з кім ты пра гэта размаўляў, павінен сядзець геносэ Эрых Гонэкер. Ён хоча да дачкі ў Чылі, але ж гэта ён доўгімі гадамі не выпускаў твайго перакладчыка былога дысыдэнта Норбэрта Рандава да жонкі й малога сына ня ў Чылі, а ўсяго толькі з аднаго Бэрліна ў другі.

Бывайце, бэрлінскія каналы й самавітая Шпрэва! У вашых водах на вачах у спадара Рандава загінуў ад кулі гонэкераўскага памежніка заходнебэрлінскі будаўнік, які ў скварны дзень, каб трохі асьвяжыцца, даў з прыбярэжных рыштаваньняў зухаватага нырца, што

ўсходненямецкае радыё імгненна абвясьціла жудаснай правакацыяй рэваншыстаў.

Бывай, бэрлінская каналізацыя! Па тваіх трубах, пакуль іх таксама не перарэзала жалезная заслона, пайшоў у вольны сьвет сябар твайго спадарожніка і твой нямецкі калега-літаратар. Рукапіс жа ягонага раману дабіраўся іншым шляхам, каб дайшоў хоць адзін з двух.

Бывайце, фраў Эльке Эрб! Вы таксама пакаштавалі сацыялізму, а таму вам было трохі лягчэй перакладаць зь беларускай вэрсэт пра чужую зямлю, якая робіцца радзімай толькі тады, калі назаўсёды ляжаш у яе.

Бывай, возера Ванзэе зь яхтамі, цеплаходам «Мобі Дык» і павай з Павінай выспы, якая выйшла па-павінаму пасварыцца на цябе, калі ты плыў на «Мобі Дыку» ў Патсдам, дзе ў Сан-Сусі ў атачэньні магілаў сваіх сабак спачывае кароль Фрыдрых II.

Бывай, падобная да невялікага замку віла Літаратурнага калёквіюму на прыазёрнай вуліцы, дзе ты ў сваёй вежы побач з ружовым каштанам, куды штораніцы прылятала зязюля, спасьціг, што такое эўрапейская цішыня, пра якую сказаў некалі у «Тропіку Раку» «чалавек з сталёвым фаласам, зьедлівым розумам і неўтаймоўным свабодным сэрцам» — амэрыканскі пісьменьнік Гэнры Мілер.

Бывай, вуліца Зандвэрдэр, над якой, калі ты, пабуджаны зязюляю, упершыню выйшаў на ранішні шпацыр, быў разьліты кактэйль з пахаў бэзу, хваёвай смалы-жывіцы й гарачых булачак з цынамонам. Бывай, падобная да адной з Кранахавых грацыяў наркаманка з плэерам і ціхім шчасьлівым сьмехам, што гучаў у гэтым вулічным кактэйлі, дадаючы ў яго свой струменьчык з водару невядомай парфумы і салодкага жаночага поту.

Бывай, да болю родны і ўтульны «Запарожац» з усходнебэрлінскім нумарам, што прыткнуўся сярод усіх гэтых пачварных аўдзі, фордаў, таётаў, вольваў і мэрсэдэсаў жывым увасабленьнем перавагаў плянавае эканомікі.

Бывайце, мурашкі з Ванзэйскага парку! Гэтая зямля й вас надзяліла нямецкім характарам зь ягоным богам парадку, і вы пракладаеце свае сьцежкі не абы-дзе, а акурат па каменных бардзюрах ходнікаў, нібыта за мурашыны крок управа, крок улева вас вокамгненна возьме ў абарот паліцыя.

Бывайце, бэрлінскія камары! Аднаго вечара вас налясцела столькі, што міжволі палезьлі ў голаў гісторыі пра гулагаўскія страты з дапамогаю сібірскае камарэчы — пагатоў змагацца з вамі, дзякуючы добраму францускаму кабэрнэ, ужо не было ніякае змогі, і заставалася адно зацкавана пазіраць на крылатыя эскадрыльлі, што злучаліся ў палкі й дывізіі. Невядома, дзе, хто й чым вас гадуе, але тады, калі вас набілася ў пакой, як савецкіх алкашоў у парфумэрную краму, куды прывезьлі «трайны» адэкалён, і калі рука асуджана націснула на выключальнік, вы ня кінуліся пікіраваць, а мірна паселі спаць да самае раніцы.

Бывай, сяржант з амэрыканскай базы на вуліцы Зандвэрдэр! Ганарлівыя мінакі-немцы адмовіліся выпіць з табою віскі, як вы, мусібыць, не захацелі б чокнуцца з налітым гарэлкаю па самыя вушы лейтэнантам-танкістам, які аднойчы на менскай вуліцы на пытаньне, ці прыняў ён прысягу на вернасьць Рэспубліцы Беларусі, папулярна растлумачыў вам, што «в гробу он видал вашу ё...ую Беларусь и вас, ё...ых бульбашей-лапотников, с ней вместе». (Тут, напэўна, трэба дадаць, што абаронца Айчыны прасіў вас падкінуць яго ў Гомель і вы зь сябрам пасадзілі яго ў сябравы «Жыгулі» і па дарозе дахаты завезьлі пад Полацак, дзе ёсьць вёска, што таксама завецца Гомель, а там вытрасьлі свайго спадарожніка з машыны, падцягнулі да дарожнага паказальніка з назвай ды паехалі замольваць свой грэх у полацкую Сафію.) Аднак сяржантава база стаіць не на тваёй зямлі, сяржант ня лаецца на цябе трохпавярховымі мацюкамі і не абяцае зрабіць танкавую «утюжку» — «только попробуйте рыпнуться», а таму ў праграме дзён беларускае літаратуры ў Нямеччыне зьяўляецца незапляна-

ваная імпрэза зь сьціплым антуражам у выглядзе двух крэслаў-раскладанак, пляшачкі віскі і дзьвюх плястыкавых чарак. (Дзеля беларускіх спэцслужбаў ты даеш урачыстую прысягу, што мурын Робэрт — або проста Бобі — з Луізіяны не спрабаваў завэрбаваць цябе ў агенты CIA, а ты сам неяк пасаромеўся набівацца.)

Дзяржаўныя таямніцы Рэспублікі Беларусі ўратавала тое, што ты пакутліва саромеесься свае ангельскае мовы. Зрэшты, з уласьцівым табе полацкім пранонсам ты досыць бойка паведаміў, што your name is Uladzia, што you have the sister and the mother, but haven't the car and the telephone. (Тут Робэртавы вусны ад вуха да вуха расплыліся ў недаверлівай усьмешцы, — маўляў, так не бывае.) Апрача таго, ты мог бы даволі ўпэўнена пагаварыць зь ім пра дзяцінства Валодзі Ўльлянава альбо адбарабаніць з паўсотні сказаў пра ўсталяваньне савецкае ўлады ў Закаўказьзі. Тэкст пра сімбірскага хлопчыка Вову, што так жорстка адпомсьціў за старэйшага брата, навечна, як цьвік у труну, умалаціла табе ў галаву школьная настаўніца Генрыэта Залманаўна Бляхер, а артыкул пра перамогу бальшавікоў за Каўкаскім хрыбтом ты чатыры ўнівэрсытэцкія гады з сэмэстру ў сэмэстар здаваў ціхай вар'ятцы, якой патрэбныя былі спакой і пэнсія, але якая на сваё ды вашае няшчасьце даводзілася роднай сястрою прарэктару, і таму ты ўдасканальваў сваю ангельскую пад ейным кіраўніцтвам і, калі раптам зьбіваўся ў даўно вывучаным на памяць тэксьце, хор аднагрупнікаў — яны ведалі твой артыкул ня горш, чым ты іхнія, бо здавалі «тысячы» паводле той самай мэтоды — пачынаў суладна гудзець: «джорджыян меньшевікс… арменіян дашнакс… азербайджан мусавацістс…»

Бывай, бэрлінская аматарка беларускае літаратуры, што ў музэі Бэртальда Брэхта заклікала цябе з калегамі не ўчыняць у Беларусі татарскіх ды габрэйскіх пагромаў і дазваляць расейцам адчыняць расейскія школы, не ўяўляючы, што апошні за паўсотні гадоў «пагром» быў у Беларусі пазалетась, калі аднае начы — «чтобы не ры-

пались» — у Менску паграмілі рэдакцыі беларускіх выданьняў.

Бывай, мілая фраў Гэдвіг Ноак, а па-наску Ядзьвіга, у менскім дзявоцтве — Рымашэўская! Вы, пэўна, глядзелі фільм Кавані «Начны парт'е» й самі ведаеце, што вам выпаў лёс, шчасьлівейшы за лёс кінагераіні, якую гэтаксама пакахаў нямецкі афіцэр, — бо ваш афіцэр не дарыў вам на Каляды адрэзаных галоваў, а выратаваў вас зь лягеру і ўратаваўся ад суду за гэты ўчынак сам, зрабіў вас сваёй жонкаю і стаў бацькам вашага сына. Відаць, і цяпер, у лепшым сьвеце, ён цешыцца, што вам пасьля ўдаўства пашанцавала і на другога нямецкага мужа, які самастойна вычытаў у газэце абвестку аб прыезьдзе нейкіх беларускіх пісьменьнікаў і за сотню кілямэтраў прывозіў вас на «BMW» на кожную сустрэчу зь землякамі, а пасьля частаваў іх у рэстаранчыку, за сьцяной якога спачывае прах Гэгеля й Фіхтэ.

Бывай, Бэрлін! Немагчыма стаць тваім грамадзянінам таму, у каго ёсьць Полацак, Менск і Нясьвіж, але калі на Сьвіслачы раптам стрэліць якая-небудзь беларуская «Аўрора» і зноў гасьцінна расчыняцца ў сьветлую будучыню дзьверы бальшавіцкіх засьценкаў на вуліцах імя таварышаў Урыцкага й Валадарскага, хтосьці са спадкаемцаў крывавага Фэлікса зможа пачуць з пасінелых вуснаў аднаго зь вязьняў, што, апрача ўсіх іншых злачынстваў, гэты варожы элемэнт піў піва з канцлерам Колем і капаў тунэль зь Серабранкі ў Бэрлін.

*1992*

## Не гуляйце каля статуі Свабоды

У сёмым клясе наш настаўнік геаграфіі стварыў турыстычны гурток. Праграма дзейнасьці была зразумелая й простая, як абвешчаны Хрушчовым плян пабудовы камунізму. Увечары мы хадзілі на таварную станцыю разгружаць вагоны, каб на атрыманыя грошы ўлетку падарожнічаць. Гуляла пагудка, што палову нашага заробку кіраўнік гуртка прысабечыў, але мы не затаілі на яго крыўды, бо на астатнія грошы ён павёз нас у Рыгу.

Рыга была першым убачаным мною вялікім горадам.

Падчас разгрузкі вагонаў скрыня з бутэлькамі адціснула нагу майму аднаклясьніку Віцю Скрыпкіну, і ён доўга кульгаў. Віцю перавялі да нас у трэцім клясе, і мы глядзелі на яго амаль як на дэбіла. Дый хто яшчэ ў нашым уяўленьні мог вучыцца ў адзінай у Полацку беларускай школе, якую якраз тады на шчасьце, пасьпяхова зачынілі?

З тых часоў Скрыпкіну вечна не шанцавала. У Рызе ён адно пацьвердзіў рэпутацыю няўдаліцы. На экскурсіі ў зьвярынец Віцю найбольш спадабалася лама, што падышла да самае агароджы і рахмана глядзела на нас пукатымі вачыма нашага завуча Розы Ізрайлеўны. Адламаўшы дубчык, Скрыпкін засунуў яго ламе ў наздрыну і задуменна круціў там, пакуль зьняможаная гэткім экспэрымэнтам жывёліна ня чхнула юнаму натуралісту проста на галаву. У выніку ў маім дзёньніку, дзе я да непрыстойнасьці цнатліва прызнаваўся ў каханьні да аднаклясьніцы Люды, зьявіўся ляпідарны запіс: «В зоопарке лама чихнула на Скрипкина».

Але гэта было ня самае моцнае рыскае ўражаньне. Ня самым моцным было й тое, што ў трамваі з мноствам вольных сядзеньняў мяне зь Віцем прымусілі падняцца й саступіць месца дзьвюм бабулям, і тое, што вакол гаварылі не па-расейску, як у нас, у Полацку, а на

зусім незразумелай мове (балазе, настаўнік геаграфіі папярэджваў, што ў Латвіі жывуць нацыяналісты).

Наймацнейшым маім уражаньнем было мора. Плюхаючыся на юрмальскім плыткаводзьдзі паміж далёкімі караблямі ды блізкімі, парослымі хвоямі выдмамі, я злавіў сябе на тым, што пачаў размаўляць зь ім, з морам, і папрасіў яго зрабіць мае пачуцьцё да аднакласьніцы Люды ўзаемным.

Мора не дапамагло, але з таго часу я заўсёды гавару зь ім і чаго-небудзь у яго прашу.

Гэтыя чульлівыя прыгады спавіваюць мяне ў купэ міжнароднага цягніка «Менск—Талін», вядомага яшчэ як «Чайка». За вакном мяняюцца ахайна-халаднаватыя летувіскія краявіды. Сям-там трапечацца на ветры тутэйшы трыкалёр, пад якім вяртаецца да ўлады ці то понас ці то таварыш Бразаўскас зь ягонай былой кампартыяй і жыве мой сябра гісторык Гедымінас, якога днямі ўжо не пусьцілі ў архіў іхняга былога КГБ.

Пасьля першай дзіцячай вандроўкі рыскія пеўні безьліч разоў сустракалі мяне зь менскіх і полацкіх цягнікоў і аўтобусаў, і мне здавалася, што ні ў воднага зь іх ні разу ня ўзьнікла ахвоты зьляцець з свайго сьпічака й дзюбнуць мяне ў тое месца, дзе сьпіна страчвае сваё годнае найменьне.

Я піў з бочкі на хутары пад Рыгаю свойскае піва на латыскім Купальлі — Ліго і, не шкадуючы нырак, асушаў кухаль за кухлем у рыскім бары «Zem ozola», а па-наску — «Пад дубам», дзе праводзіў выязное паседжаньне наш загнаны ў Менску ў падпольле гістфакаўскі «Клюб аматараў піва».

Я слухаў арганныя канцэрты ў Домскім саборы і слухаў на прыдзьвінскай эспланадзе бывалага марака Мішу, што пад мэлёдыю завыйнага шлягеру «Сіні лён» апавядаў мне пра рыскія падпольныя публічныя дамы,

у адным зь якіх ён, задаволена нацягнуўшы нагавіцы, прачытаў суровае маральнае настаўленьне дзяўчу, што дзяліла зь ім кагадзе ложак.

Аднаго разу ў студэнцтве я прымудрыўся зьезьдзіць у Рыгу зайцам. (Грошай хапала толькі на піражкі й дарогу ў адзін канец, і я разважыў, што лепей пакінуць іх на зваротны шлях.) Блукаючы пасьля неспакойнай зайцовай ночы па Старым горадзе, я апынуўся каля разнасьцежанага вакна: за ім гралі на піяніне Шапэна, а на падваконьні пад аховаю сіямскага ката дымеў вялікі сіні кубак з каваю. Ад'яжджаючы ўвечары ў Полацак, я ўпершыню ў жыцьці ўбачыў хлопца ў белых штанах. Калі праваднiца выцягнула жоўты сьцяжок, ён укленчыў у запляваным тамбуры і апошні раз абняў сваю дзяўчыну, што заставалася на рыскім пэроне. З таго часу ў слове Рыга мне чуюцца яшчэ прэлюды Шапэна, пах кавы, кацінае вуркатаньне й сьмешныя словы закаханага юнака ў белых штанах з чорнымі каленямі.

Я люблю цябе, Рыга, і тое, што я ўжо два гады не хадзіў па тваіх вулках, успрымаецца як нейкая недарэчнасьць.

Я люблю цябе, Рыга, і ў вагонным вакне ўжо плывуць твае пеўні.

У гэтай Рызе ня граюць за расчыненымі вокнамі Шапэна і ня ставяць на падваконьні кубкаў зь сьвежаю кавай. Рэч, мабыць, ня толькі ў тым, што на двары восень.

Пазамінулым лістападам разам зь лістотаю рыскіх ліпаў і клёнаў з дамоў абляцелі шыльдачкі са старымі назовамі. Вуліца Леніна ператварылася ў Брывібас, гэта значыць, Свабоды, а вуліца Кірава і наогул зрабілася Элізабэтас.

Мужчыны ў белых штанах сустракаюцца на гэтых вуліцах значна радзей, чым мяняльныя канторы, дзе за нашыя «зайчыкі», ці, як той казаў, «шышкебічы», вы не атрымаеце аніводнага латыскага «рэпшыка», а за сотню расейскіх «ленінак» вам адшпіляць 45 рублісаў —

пражыцьцёвы дзённы мінімум беспрытульнага рыскага ката.

Побач са мною йдзе па Элізабэтас чалавек, імя якога вядомае з двух бакоў беларуска-латыскае мяжы. Гэта мастак Вячка Целеш, таму няма нічога дзіўнага, што неўзабаве мы апынемся ў Вячкавай майстэрні на Брывібас, дзе на мальбэрце пачаты партрэт Зоські Верас.

Раней на прытульнае Целешава гарышча, зь якога беларусы мелі выхад да мора, паказваў рукою бронзавы правадыр. Цяпер Ільліча прыбралі, затое — каб мастаку не было маркотна — зьявіўся сын колішняга гаспадара дома, які выцягнуў адпаведныя паперы ды запатрабаваў за арэнду трыста на месяц, прычым ня рублісаў, а даляраў.

Ад гэткае навіны робіцца ніякавата нават мне, госьцю, што трымае ў адной руцэ кілішак, а ў другой — крыло вэнджанай курыцы. Што ўжо казаць пра гаспадара, які звычайнае гарышча, дзе марцавалі рыскія каты, ператварыў у атэлье, вартае Манмартру й Манпарнасу.

На добры лад гэтыя трыста даляраў павінна было б узяць на сябе міністэрства культуры РБ. У Вячкавай майстэрні перавярнулася добрая палова нашага Саюзу мастакоў і чвэртка Саюзу пісьменьнікаў. Зь яе вакна бачылі вежачку на даху суседняга дому Ўладзімер Караткевіч і Рыгор Барадулін, Стэфанія Станюта й Павал Дубашынскі.

Калі ў міністэрства няма грошай на майстэрню, дзе апрача музаў зьбіраюцца на свае паседжаньні сябры беларускага культурнага таварыства ў Рызе «Сьвітанак», няхай купіць на рынку коціка-скарбонку ды пачне зьбіраць валюту хоць на Целешаву кнігу гасьцей. Ужо сёньня гэты фаліянт у брунатным пераплёце дасьць фору шмат якім зборам твораў. Ня буду стамляць імёнамі наведнікаў — народных і заслужаных (афіцыйна і не), вядомых і невядомых (накшталт аўтаркі сьціплага запісу «Вячку я считаю мужчиной»), жывых і адляцелых у вечны вырай, дзе іх таксама, відаць, грэе ўспамін пра рыскае гарышча.

Адных вершаў тут хопіць на самавіты зборнік — ад просьценькіх спробаў зарыфмаваць «Целеш» — «келіх» да выведзеных цьвёрдай рукою Караткевіча амаль клясычных радкоў:

*З майстэрні мілай пана Вячкі*
*Паўзьлі мы ледзь не на карачках.*
*І дух наш ледзь трымаўся ў целе,*
*Калі дамоў пусьціў нас Целеш.*

Настальгію па часінах, калі пісьменьнік Яўген Лецка яшчэ не ўзначальваў Згуртаваньня беларусаў усяго сьвету дый усе мы жылі лёгка і бесклапотна, абуджаюць радкі песьняра Целешавага Парнасу Сяргея Панізьніка:

*Хто ні быў у майстра Вячкі!*
*І ліцьвінкі, і палячкі*
*Заключалі творчы пакт.*
*Вось вам ню, а вось вам акт...*
*Свой хацеў пакінуць ген*
*Лецка, той, які — Яўген...*

O tempora, o mores!

Пакідаючы мяне нанач у майстэрні, гаспадар раіць не хадзіць на вечаровы шпацыр. Найлепей бавіць рэшту вечара зь ягонай, магчыма, найбагацейшаю ў сьвеце калекцыяй беларускіх паштовых картак. У тым разе, калі я засумую над паштоўкамі, маю адзіноту можа разьвеяць чэрап на паліцы. Перахапіўшы мой позірк, Вячка кажа, што некаторыя з начлежнікаў і нават (што ўжо зусім недаравальна) зь дзеячаў нацыянальнага адраджэньня прыкрывалі чэрап газэцінай, хоць ён, Вячка, і папярэджваў, што гэты знойдзены археолягамі чэрап насіла на прыгожай шыйцы простая беларуская жанчына-працаўніца з-пад Ваўкавыску.

Карацей кажучы, чым бадзяцца па сталічных вулках, лепей пасядзець з чэрапам беларускай жанчыны. Днямі каля манумэнту Свабоды абрабавалі самога амэрыкан-

скага пасла, які, мабыць, вырашыў сустрэцца з латыскім народам.

Я, дзякаваць Богу, не пасол, шмат у мяне не нарабуеш, а таму я заходжу ў густа сьпісаны кірыліцаю ліфт і празь дзесяць хвілінаў у чаканьні магчымых экспрапрыяцыяў набліжаюся да статуі Свабоды. Мяне займае адзін істотны аспэкт нацыянальнага пытаньня. А менавіта: ці лягчэй разьвітвацца з грашыма, калі злодзеі гавораць з табой на тваёй мове?

Рабаўнікоў на прыцемных цэнтральных вуліцах з выключанай рэклямаю пакуль не відаць, як, зрэшты, амаль не відаць і верагодных ахвяраў. Мабыць, і адныя, і другія яшчэ сядзяць ва ўтульных рыскіх кавярнях. Пералічыўшы свае цэлыя рублісы, я вырашаю таксама неадкладна заняць месца за столікам. Мяне чакае жорсткае расчараваньне. Кавярняў процьма, але ўсе яны, за выключэньнем пары валютных, ужо зачыненыя, хоць на гадзіньніку яшчэ бяз чвэрці восем. Напэўна, скончылася кава, а магчыма — наведнікі. Грэючы душу астатняй надзеяй, кіруюся ў знакамітыя «12 крэслаў» каля Домскага сабору. «12 крэслаў» на замку, перададзены вернікам сабор — таксама.

Улякнуўшы ў падваротні нейкую даму з сабачкам, падымаюся ў знаёмым ліфце. Гэтым разам сьвятло запальваецца ў ім адно тады, калі я, зачыніўшы дзьверы, нейкім дзівам намацваю ў мораку патрэбную кнопку.

У майстэрні праблемаў зь сьвятлом ня ўзьнікла, аднак зьявіліся іншыя: а дзявятай гадзіне вечара адначасова адключыліся водаправод і ацяпленьне.

За вокнамі рэдзенька сьвяціўся гатэль «Латвія» і ляжала цёмная, як цешчына вёска, сталіца незалежнае Латвійскае Рэспублікі.

Я доўга пахаджаў па выстылым гарышчы, піў сам з сабою сьветлае грузінскае віно, ад якога рабілася яшчэ халадней, і гаманіў з жанчынаю з-пад Ваўкавыску.

Стоена й гаркава пахлі прывялыя бэзавыя хрызантэмы. Шкрэблася ў кутку адубелае мышанё. У цьмяным старадаўнім люстры клубіліся мае й чужыя ўспаміны.

Майстэрня напоўнілася гаманою, шэптамі, пацалункамі… Я крыху распрануўся і даў нырца пад тры коўдры, дзе ўжо даўно, скруціўшыся ў клубочак, соладка пасопвала на канапе мая азяблая душа.

З усіх рыскіх пеўняў найбліжэй да неба той, што атайбаваўся на саборы сьвятога Пятра. Падняўшыся на сотню мэтраў, я стаю пад ягоным крылом і гляджу ў бок мора. Зьнізу, з пляцу, плыве ў марозным паветры музыка: скрыпка, акардэон і басэтля. Такую мэлёдыю, толькі выдзьмутую з дуды-дудаса, я чуў на вясковым беларуска-латыскім вясельлі паблізу Рыгі, дзе пазнаёміўся з Андрысам.

Андрыс адседзеў тры гады за тое, што павесіў над сельсаветам латыскі нацыянальны сьцяг. «Запомни, Володя, — казаў ён мне, — русские никогда не будут здесь хозяинами. Если бы ты был русский, я бы с тобой не сел выпить». Праз пару месяцаў Андрыс у штармавую ноч уцёк на маторцы на швэдзкую выспу Готлянд.

Спусьціўшыся з сабору, можна паслухаць музыкаў, пакласьці ім нешта ў капялюш і рушыць далей. А можна і не пакласьці.

Але зусім ня так проста разьмінуцца з музыкамі, што ўладкаваліся ў вузкім аркавым праходзе па дарозе да сабору сьвятога Яна. На выхадзе скрыпач, не пакідаючы граць, заступае вам дарогу, у пяшчотным голасе скрыпкі праразаюцца сталёвыя ноткі эпохі незалежнасьці й эканамічнага абвалу, і рука сама сабою цягне з кішэні пяць рублісаў.

У электрычцы, што вязе мяне ў Юрмалу, да мора, я разгортваю сьвежы нумар газэты «Советская молодежь». Зрэшты, так газэта звалася раней. Цяпер гэтае заслужанае выданьне выходзіць пад таямнічай назваю «СМ — сегодня». Што такое СМ — здагадвайцеся самі. «Современная молодежь? Совковая? Суверенная? Счастливая?»

А ня выключана, што і «М» — гэта зусім не «молодежь». «Макулатура? Макуха? Малина?..» Што б там ні было, два тузіны бутлікаў дэзадаранту для цела «Лунная ночь», што стаяць каля ліфта ў Вячкавым пад'езьдзе на Брывібас, выжлукціла відавочна СМ.

На першай старонцы эксклюзіўнае інтэрвію з намесьнікам камандзіра былога рыскага ОМОНу. «Год пребывания в следственном изоляторе мало изменил его внешне, — з замілаваным дамскім прыдыханьнем паведамляе газэта, — разве что прибавили взрослости усы. В свои 32 года он по-прежнему любит покушать, но теперь вынужден еще глотать таблетки: развившийся здесь ситуационный невроз и заметно усилившийся логоневроз (заикание) — симптомы условий жизни, изменившихся не по его воле». Значыцца, жыў-быў сабе сьціплы расейскі хлопчык, «кушал», хадзіў у бібліятэку чытаць кніжкі і раптам — ні з пушчы, ні з поля — «изменились условия жизни».

Прафэсійна акцэнтаваны здымак: бамбіза ў профіль з кветачкай у руцэ, на заднім пляне — кра́ты і ахоўнік. «Я просто хочу дать им шанс», — пачынае інтэрвію гаротны намесьнік камандзіра. Дыяпазон шанцаў, што даюць хлопцы з такімі патыліцамі, настолькі вузкі, што чытаць далей нецікава.

Станцыя Прыедайнэ. Тут жыве мастак Валера Дэвіскіба. «Дэ» пішацца разам, бо Валеры ніякі не віконт і ўвогуле не француз, а беларус, якога маці нарадзіла ў фашыстоўскім канцлягеры і які потым падаўся зь Беларусі шукаць шчасьця ў Эўропу — у Латвію. Праўда, Бацькаўшчына не адпускала, і Валера то маляваў Скарыну, то ехаў з паходным мальбэртам на родную Гомельшчыну, дзе быў затрыманы міліцыяй у прыстанцыйнай прыбіральні, калі мыў запэцканыя фарбамі рукі: нейкі пільны наведнік паведаміў, што забойца змывае кроў.

Аднойчы Валера стварыў мой партрэт. Гэта здарылася ў чарнобыльскім 1986 годзе, калі я прыехаў на ўзмор'е ў пісьменьніцкі Дом творчасьці «Дубулты».

За сьценамі нашага флігелю шумела мора і — контрапунктам — прыбярэжныя хвоі. У бары можна было ўбачыць нездаровы азызлы твар рэдактара «Литгазеты» і аднаго з фурманаў яшчэ нерастрэсенага возу СП СССР Аляксандра Чакоўскага зь нязьменнаю люлькаю ў зубах. Па беразе, дыхаючы марскім паветрам, ад відна да відна шнуравалі натоўпы адпачывальнікаў. Сярод іх быў мой сусед па сталоўцы маскоўскі быццам бы літаратар, што паўсюль цягаў з сабою яшчэ рэдкі тады мініятурны «Panasonic» і колькі разоў напужаў субратоў па пяры, пракруціўшы іхнія выказваньні наконт «Софьи Власьевны», як дзеля кансьпірацыі яны называлі савецкую ўладу. Уладар «Panasonic»'а пазнаёміўся з пагляднай гамяльчанкаю ды канфідэнцыйна пацікавіўся ў мяне, ці перадаецца радыяцыя палавым шляхам. Я, вядома, запэўніў калегу, што абавязкова перадаецца, прычым у небясьпечных дозах.

Стаяў халодны, з прымаразкамі, верасень, але ў нашых пакоях было так цёпла, што я спаў толькі пад прасьцінай. Аднае начы я прачнуўся ад вусьцішнае халадэчы і, надзеўшы на сябе ўсё, што меў, да самае раніцы ляскаў зубамі. На пытаньне, чаму выключылі ацяпленьне, пакаёўка сказала, што ўначы ад'ехаў у Маскву таварыш Чакоўскі.

Найбольш пакутаваў ад холаду мой сусед зьлева, сівы кульгавы сын каўкаскіх вяршыняў. Ён распачаў з дырэктарам Дому творчасьці барацьбу за грамадзянскія правы шараговых пісьменьнікаў, сабраў подпісы, і праз тыдзень батарэі зноў нагрэліся. Шчасьлівы змагар у адзіноце адзначыў перамогу, выйшаў з нумару і, забурыўшыся, са страшэнным грукатам скаціўся па стромкіх драўляных сходах на першы паверх.

Мой сусед зьлева ад холаду не пакутаваў. Ён быў сынам азэрбайджанскага міністра і, мяркуючы па гуках з-за сьцяны, натхнёна зьбіраў матэрыял для будучага сэкс-баевіка.

Пісьменьніца з гораду на Няве на грамадзкіх пачатках крыху займалася маёй адукацыяй. Яна ведала Льва

Гумілёва і выклікала зь ім трансцэндэнтныя сілы, пасьля чаго адчайныя экспэрымэнтатары неяк апынуліся ў тэлефоннай будцы на іншым канцы гораду.

Нядаўна Гумілёў апынуўся значна далей. Засталася ягоная тэорыя, згодна зь якой паміж этнасамі існуе невідочная сувязь, што выяўляецца або ў прыцягненьні або ў адкрытым адштурхоўваньні — нешта накшталт узаемадзеяньня плюсавых і мінусавых часьцінак у сьвеце электрамагнітных хваляў. Паводле Гумілёва, на ўзроўні супэрэтнасаў ніякай натуральнай прыязнасьці аднаго да другога нарадзіцца ня можа. Напрыклад — паміж этнасамі заходне- і ўсходнеэўрапейскімі. Прыбалтыку ён адносіў да заходнеэўрапейскага, і яшчэ чвэрць стагодзьдзя таму, калі яна была візытнаю карткай савецкай імпэрыі (а я разгружаў з турыстычным гуртком вагоны), пісаў, што Балтыя неадменна пойдзе на Захад, бо той лічыць яе хоць і задворкамі, але — сваімі.

З думкаю, да якога супэрэтнасу належаць беларусы і ад каго яны мусяць непазьбежна адштурхоўвацца, я выходжу ў Дубултах з электрычкі і заглыбляюся ў жоўта-зялёныя ад лістоты й колеру будынкаў юрмальскія вулачкі.

Зачыненыя кавярні з бруднымі вокнамі. П’яная расейская жанчына просіць пяць рублісаў на чыёсьці пахаваньне. У двух дзейных шапіках прадаюцца літаратурна-мастацкія творы з сэрыі «Жесткий секс для взрослого чтения» па 10 рублісаў за штуку. «Приключения молодой женщины» заважылі на ўсе 15. Магчыма, іх выдае сын азэрбайджанскага міністра.

Павыбіваныя й застаўленыя фанэраю вокны нацыяналізаванага пансіянату «Прибалтика». Дом творчасьці пісьменьнікаў сёлета таксама вярнулі латыскаму народу, прычым кажуць, што ў працэсе вяртаньня былому дырэктару далі аўтаматным прыкладам па галаве.

Не сказаць, каб я надта шкадаваў адданага прыхільніка графаманскіх раманаў А. Чакоўскага, але ісьці да Дому творчасьці мне неахвота. Замест гэтага я паварочваю да мора.

Ад колішніх гаманлівых гурмаў савецкіх працоўных, што прыяжджалі прыгожа адпачыць і паправіць здароўе працэдурамі ды гарэлкаю «Кристалл» з рыскім бальзамам, цяпер засталося толькі некалькі самотных постацяў. Я вітаюся з морам, і ніхто не замінае нашай элегічнай размове.

З выкінутых хвалямі галінак хтосьці выклаў імя жанчыны, а можа — коткі ці птушкі — Люка. Я падымаю ўторкнутую ў кружок ад літары «ю» гронку рабіны. Ягады халодныя й гаркавыя, але зь іх смакам ня хочацца разьвітвацца.

На станцыі Маяры ўдаецца знайсьці адчыненую кавярню, што сустракае мэлёдыяй «Yesterday» і пахам сапраўднае кавы. Гэтая ўтульнасьць, кава, узьбітыя вяршкі ды булачкі з разынкамі здаюцца асколкамі іншага сьвету, і ў маёй грэшнай галаве варушыцца блюзьнерская антыдэмакратычная й агідная мне самому (але, зараза, варушыцца) думка: што ўсё ж лепей — быць параднай брамаю азіяцкай імпэрыі ці задворкамі эўрапейскай цывілізацыі?

Нешта падобнае відавочна рупіць і маім спадарожнікам па электрычцы. Адна пара гаворыць па-расейску, другая — па-латыску. «Вот и получили Латвию, свободную от всего», — кажа «русскоязычная» кабеціна й апавядае пра якуюсьці ці то кладаўшчыцу ці то таваразнаўцу Веру, што не здала абавязковага іспыту па латыскай мове, бо ня ведала галоўных твораў тутэйшага мэтра жывапісу.

Пра што гамоняць латышы, я не разумею. Не разумею, апрача таго, што гаворка ідзе пра Дайніса Іванса, зь якім я маю гонар быць знаёмым з часоў латыска-беларускага змаганьня супраць праекту Даўгаўпілскай ГЭС.

Мы былі з Дайнісам у 1986-м на водным ральлі пратэсту па Дзьвіне, якое пачыналася на мяжы, у Друі, а таму ў менскіх касах ніякіх квітоў туды не было, хоць бесьперасадачныя вагоны «Менск—Друя» ішлі пустыя.

Я бачыў, як Дайніс ірваўся да мікрафона на абмеркаваньні праекту ГЭС, калі яго маскоўскі аўтар зь вясёлаю ўсьмешкай даводзіў тубыльцам, што іхнія найбольш каштоўныя архітэктурныя помнікі ў зоне затапленьня вялікія белыя бацькі з Масквы абгародзяць бэтоннымі дамбамі і да іх можна будзе, калі заманецца, падплысьці на чоўне.

Найперш дзякуючы Дайнісу напалову рэалізаваны праект пахавалі. Дзясяткі тысяч людзей у Латвіі й Беларусі засталіся жыць у сваіх дамах, а тая барацьба сталася пачаткам руху, які нарадзіў Народны фронт Латвіі.

Я памятаю, як Дайніс дыктаваў у тэлефон свой артыкул у «Комсомольскую правду» і колькі разоў паўтараў той самы сказ — «Моя Родина больше не желает быть колонией» — бо на другім канцы проваду, відаць, упарта не хацелі разумець такога прыбалтыйскага акцэнту. Мы пілі гарбату ў ягонай цеснай і сырой кватэрцы на першым паверсе нейкай паваеннай развалюхі, дзе Дайніс туліўся з жонкаю Эльвірай і чатырма малымі дзецьмі. (Каб латышы ня вымерлі, кожная сям’я павінна мець як мага больш дзяцей.)

На Каляды 1988 году ён званіў мне ў Наваполацак, шчасьлівы, што ў Латвіі гэты дзень абвешчаны выхадным, і я падумаў, што там, у Рызе, у мяне зьявіўся сябра.

Наступны раз мы пілі гарбату ўжо ў штаб-кватэры Народнага фронту — асабняку ў цэнтры старой Рыгі, над якім быў узьняты чырвона-бела-чырвоны латыскі сьцяг. Потым мы ішлі з Івансам па вуліцы, і жанчыны ўсьміхаліся яму і махалі з вокнаў тралейбусаў.

Пасьля гэтага я доўга бачыў старшыню НФ, а затым першага намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету Латвіі толькі ў тэлевізары. Рыга, Масква, Брусэль, Жэнэва, Нью-Ёрк… Дазваніцца на новую Дайнісаву кватэру было не лягчэй, чым у ягоны кабінэт у парлямэнце. Аднаго разу сакратарка не захацела разумець ніякіх тлумачэньняў і адказвала выключна па-латыску, нават тады, калі я здолеў ёй нешта растлумачыць па-ангельску. Напэўна, я нарваўся на Дзень латыскае

мовы, калі дазваніцца да Вярхоўнага Савету можна было толькі латышам.

Паступова я скарыўся з тым, што калі твой сябра грунтоўна ідзе ў палітыку, ён пакідае быць тваім сябрам.

Астанкіна ўжо даўно не выпускае Дайніса на нашыя блакітныя экраны. Дайніс Іванс у ганаровай высылцы — не ў дыпляматычнай місіі, як некаторыя, а на чацьвертым паверсе Міністэрства культуры Латвіі, дзе месьціцца прадстаўніцтва ЮНЭСКО. Я ня ведаю службовага тэлефону, а хатні ўсе апошнія дні глуха маўчыць, і застаецца спадзявацца, што тыя, хто змусіў Іванса падаць у адстаўку, з кватэры яго ўсё ж ня выселілі.

Апошнія зьвесткі, якія я пра яго маю — з інтэрвію ў «Московских новостях». Былы старшыня НФ гаворыць пра «людзей з гумовымі хрыбетнікамі», што прыйшлі на зьмену інтэлектуалам зь першае хвалі фронту і «атруцілі народ прымітыўнай ідэяй разьвязваньня любых праблемаў праз аднаўленьне колішняй дзяржавы ў абсалюце — грамадзянства, права ўласнасьці...»

Сёлета я зноў павіншую Дайніса з Калядамі.

Электрычка грукоча па рыскім Задзьвіньні. Недзе тут жыве на вуліцы Талсу перакладчык Талрыд Руліс — нястомны курзэмец, падобны да невысокага Мэфістофэля. Ён пераклаў і выдаў па-латыску столькі беларускіх кніжак, што, прыгнуўшыся, можа схавацца за іхнім стосам. Раманы Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» выпусьціць ён ужо не пасьпеў, бо, як яму растлумачылі ў выдавецтвах, Латвіі савецкая літаратура ня трэба.

У студзені 1991-га Талрыд быў на барыкадах каля парлямэнту. Цяпер у кампаніі пяці котачак ён вядзе на сваім летніку бітву за ўраджай, які дазволіць яму перазімаваць.

Церусіць дождж, пад якім адбываецца мая разьвітальная праходка па бульвары Брывібас. Каля манумэнту Свабоды мокра й пустэльна. Сёньня ніхто не патра-

бue тут, як колькі дзён таму, гнаць зь Вярхоўнага Савету ягонага старшыню Анатоля Гарбунова — за тое, што ягоны бацька беларус; турнуць прэм'ера Годманіса, у кога дзядуля быў габрэем; даць пад зад міністру замежных спраў Юркансу — за тое, што паводле пашпарту паляк; крыкнуць «Viso gero!» цяперашняму старшыні Народнага фронту Латвіі літоўцу Ражукасу… Сёньня пікетоўцы нацыянал-радыкалаў маюць, як і астатнія грамадзяне, законны выхадны.

На пэроне мне на момант мроіцца, што трансэўрапейскі экспрэс «Рыга—Менск—Гомель» ходзіць ужо толькі ў адным кірунку. Я пераконваю сябе, што ўсё гэта — проста восень. Ляжа сьнег, загарыцца рэкляма, і Рыга зноў будзе ранейшая.

Цяпер можна выцягнуцца да самага Менску на вагонным палку, каб прысьніць мора, загадкавую Люку з халоднай гронкаю рабіны, абрабаванага амэрыканскага пасла, Вячкаву майстэрню і майго аднаклясьніка Віцю Скрыпкіна, які быў вечным няўдаліцам, пакуль ня зьехаў пазалетась у Піцер і не зрабіўся там мільянэрам…

І ўвесь час у сьне мяне ня будзе пакідаць трывожнае чаканьне: вось зараз зьлятуць зь сьпічакоў рыскія пеўні і возьмуцца дружна дзяўбсьці мяне ў тое самае несамавітае месца ніжэй сьпіны, бо няма ўва мне ані кроплі латыскае крыві, а ёсьць адно беларуская, ды яшчэ разбаўленая кропляю цыганскай…

*1992*

# Няхай жывуць гановэрскія вароны!

Мне хочацца хоць трохі пабыць жанчынаю. Цікава, што яны адчуваюць — на вуліцы, у краме, у ложку… Цікава зірнуць зь сярэдзіны, як яны манэрнічаюць, як кахаюць і як здраджваюць. Часам я хачу пераўвасобіцца ў адну кучаравую шатэнку са злосным позіркам, але падазраю, што ўжо даўно не выклікаю ў яе аніякай станоўчай эмоцыі, а непрыхільнасьці да самога сябе мне не бракуе і безь пераўвасабленьняў. Я не адмовіўся б пабыць пару дзён адной маёй знаёмай бляндынкаю, аднак прадчуваю, што потым замучае рэўнасьць да яе незьлічоных прыхільнікаў. Пазнавальна, хоць і таксама небясьпечна, было б глянуць на сьвет і вачыма жонкі…

Напэўна, гэткія думкі лезуць у галаў таму, што за вакном падае на цьмяна-вясёлкавы брук дождж, на стале курэюць чатыры вялікія кубкі кавы, а гаспадынямі трох зь іх апынуліся жанчыны.

Іх завуць Моніка, Сыльвія й Мірэла. Яны са смакам сёрбаюць каву, белая пара ад якой мудрагеліста зьвіваецца зь лявандавым цыгарэтным дымком. Яны са смакам шчабечуць на мове Гётэ й Дурэнмата і, мяркую, зусім ня хочуць ператварыцца ў свайго візаві, што валодае нямецкай на ўзроўні адукаванага чыюка з рэспэктабэльнай бюргерскай сям'і.

Каторая зь іх сталася б маёй абраньніцаю ў выпадку экспэрымэнту зь пераўвасабленьнем?

Падобная да рубэнсаўскіх жанчын Моніка, што спрытна ладзіць самакруткі? Маленькая, зграбная й жывая, як міркіль, Сыльвія, што курыць «West»? Або смуглая, прыгожая нетутэйшаю (нягледзячы на бездакорную нямецкую мову) прыгажосьцю Мірэла, якой не хапае на кубак кавы дзьвюх цыгарэтаў «Rothmans»?

Пра аматарку самакрутак я ведаю толькі імя.

Сыльвія нарадзілася ў Заходнім Бэрліне, але зьнелюбіла сьціснуты кальцом гэдээраўскай сьцяны-анаконды

горад настолькі, што ўцякла на захад, у Гановэр, дзе пачала пісаць вершы й апавяданьні.

Прозьвішча Мірэлы — Іванова. Дзякуючы ёй я ўжо ведаю па-баўгарску першае слова: «благодаря» — дзякую. Калі б я мог зараз стаць Мірэлай, я ўспомніў бы Сафію, Віташу, магчыма, задаўненыя ўжо ўцёкі ад жаніха за тры дні да вясельля — каб «не належаць нікому, апрача паэзіі».

Мірэла любіць анатомію. У сваіх вершах яна прэпаруе зьявы й рэчы. Гэтую схільнасьць падкрэсьлівае яе падобны да компасу гадзіньнік: на ім няма лічбаў, а стрэлкі рухаюцца проста над вантробамі мэханізму. Гадзіньнік, што бесцырымонна анатамуе загадкавую субстанцыю часу, Мірэла набыла ў бэрлінскага магамэтаніна з турэцкіх кварталаў.

Пра гэта я даведваюся дзякуючы яе расейскай мове. На ёй Мірэла гаворыць з прыбалтыйскім акцэнтам — вынік стажыроўкі ў Рызе. Шкада, вядома, што яе настаўнікам выпала быць ня мне, але я ўсё роўна ўдзячны таму латышу, бо безь яго я ня здолеў бы паразумецца з акулярыстым чалавекам, перад якім Моніка ставіць пяты кубак кавы.

Чалавека завуць Ролянд Бальцэр. Ён пазірае на мяне з даверлівым подзівам, хоць, на добры лад, такое пачуцьцё павінна жыць у гэтыя хвіліны якраз не ў ягоных вачах, а ў маіх. Сапраўды, што змушала яго разам з Сыльвіяй адпраўляць у нейкую таямнічую Weißrussland факс за факсам з запрашэньнямі, якія на руінах СССР чыноўнікі бясконца гублялі або не разумелі й вымагалі дубляваць іх то па-расейску, то па-нямецку. Ня менш прыемнаю загадкаю выглядае й тое, дзеля чаго гановэрскаму часопісу «Textura» друкаваць пераклады зь беларускай.

Выдавецтва, дзе выходзіць часопіс, завецца «Rabenrat», што можна перакласьці як «Сход варонаў». На стале ў кожнага супрацоўніка — папяровая варона зь імем. На Роляндавай пазначана, што гэтая варона — галоўная. Маецца на ўвазе, што ён дырэктар і ўладальнік выдавецтва. Па сумяшчальніцтве ён піша гістарычныя навэ-

лы й афарызмы, сабраныя ў сьціплую кніжачку пад гэткаю ж сьціплаю назваю — «Афарызмы». Сыльвія сваёй шыльдачкі ня мае, а калі б мела, дык на ёй, мусіць, напісалі б «Вольная варона», бо яна на вольным хлебе. (Тыя два з паловаю гады, калі я мог існаваць на гэтым хлебе, не паміраючы ад голаду, здаюцца мне ўжо часамі міталягічнымі.)

Варона сядзіць і на вокладцы часопісу, дзе надрукаваныя нашы зь Мірэлаю мастацкія творы. Калі казаць больш дакладна, дык птушка ўладкавалася на мапе Эўропы, нацэліўшыся дзюбаю на яе ўсходні кавалак. Няхай дзяўбецца й надалей, думаю я, пакуль Ролянд замаўляе таксоўку, каб адвезьці нас на вячэру.

За гасьціннасьць нам зь Мірэлаю трэба разьлічыцца дзьвюма літаратурнымі вечарынамі. Першая адбываецца ў нечым накшталт гарадзкога Дому культуры. Аншлягу няма, аднак пытаньняў хапае. Сыльвія чытае маё сэнтымэнтальнае, па сутнасьці, першае ў жыцьці, апавяданьне пра пеўня, якога трымалі на гарадзкім гаўбцы. Адзін са слухачоў, які паводле веку мог быць у «Гітлерюгендзе», а мог і на фронце, упэўнена называе опус паэтычна-фантастычным. Я пярэчу. Апрача таго, праблема мае інтэрнацыянальны характар. Прэса паведамляла, што аналягічны выпадак меў месца ў Боне, але там суседзі падалі заяву на гаспадара пеўня не ў паліцыю, а адразу ў Эўрапейскі суд па правах чалавека.

Відаць, што гановэрская публіка ня сьпешчаная сустрэчамі з гасьцямі з былога сацлягеру. «Чаму вы так ціха гаворыце? — пытаецца ў нас зь Мірэлаю вельмі немаладая й глухаватая фраў. — Вы яшчэ баіцёся?»
Нашая начная рэзыдэнцыя — родны дом Ролянда ў гарадку Цэле за паўсотні кілямэтраў ад Гановэру.

У электрычцы з намі знаёміцца малады жаўнер бундэсвэру. Пачуўшы пра Менск і Сафію, ён кажа, што выведка Варшаўскага дагавору працавала на міжнародных імпэрыялістаў. У іншым разе камуністычнае камандаваньне даведалася б, што ў бундэсвэры жаўнераў рас-

пускаюць на ўік-энд па хатах і без праблемаў узьняло б у выхадныя дні чырвоны сьцяг над Гановэрам дый рэштаю Эўропы.

Пад перастук вагонных колаў мне згадваецца, як некалі, у часы, калі наша неабсяжная краіна будавала БАМ і жыла пад лёзунгам «Нечерноземье — ударный фронт!», такой самай парою я ехаў на начлег са сталіцы ў падмаскоўны гарадок. Поруч важылі носам табаку двое сяброў і былых аднакурсьнікаў. Адзін, летувіс, быў тады асьпірантам МДУ і натхнёна пісаў дысэртацыю аб прапагандзе летувіскімі камуністамі перавагаў сацыялізму ў гады буржуазнага рэжыму. Другі, беларус, вучыўся ў Вышэйшай камсамольскай школе, заслужыў гонар быць у групе скандаваньня на чарговым гістарычным зьезьдзе КПСС і са шкадобаю апавядаў пра юную швэдку, якая прыехала ў іхнюю вышэйшую школу ўдасканальваць свае левыя погляды, ды аказалася настолькі леваю, што хадзіла на заняткі ў празрыстай сукенцы бяз станіка (але, здаецца, усё ж у майтках), і згодна з пастановаю парткаму завяршыла навучаньне значна раней тэрміну.

Першы мой спадарожнік пазьней выкладаў у Вільні ў Вышэйшай партыйнай школе, потым быў беспрацоўным, потым узяўся выкладаць нешта супрацьлеглае зьместу й патасу сваёй дысэртацыі ў паліцэйскай акадэміі, а пасьля заняўся бізнэсам і аднойчы напрамілы Бог прасіў мяне перадаць на менскім вакзале нейкаму чалавеку нейкую сумачку. Другі папутнік, што ў студэнцкія гады захапляўся подзьвігамі Ігната Грынявіцкага й Івана Пуліхава ды казаў, нібыта рыхтуецца «замачыць» Леаніда Ільліча, паехаў пасьля камсамольскай alma mater выконваць інтэрнацыянальны абавязак у Аўганістан, спаў у гатэльным нумары ня ў ложку, а ў абкладзенай мяхамі зь пяском ваньне, а аднаго дня сеў у Гераце ў тамтэйшую таксоўку і нікуды не прыехаў…

Сацыялістычныя ідэалы былі калісьці не чужыя й Ролянду Бальцэру, пагатоў ягоным бацькам належала ў Цэле колькі рэстарацыяў. Ролянд зь сябрамі нават стварыў камуну. (Сустрэўшыся праз пятнаццаць гадоў,

яны — бізнэсоўцы, банкіры, проста заможныя людзі — уволю нацешыліся ўспамінамі.) Як рэха таго даўняга часу я ўспрыняў дэмакратычную Роляндаву прапанову: мяне ўладкаваць на ложку, а самому ўлегчыся спаць на падлозе. Калі Ролянд прыедзе ў Менск, я таксама лягу на падлозе. Праўда, у нас ня будзе на другім паверсе мэзаніну з усімі выгодамі, ня будзе тэрасы з выхадам у сад і могуць надарыцца сэзонныя перабоі з гарачай вадой.

На гановэрскіх вуліцах і вулачках, акрамя немцаў, жывуць туркі, мурыны й жаўтатварыя дзеці паўднёва-ўсходняй Азіі. У мэтро, трамваі або электрычцы побач з вамі абавязкова апынецца хтосьці са скураю іншага колеру. На цьвінтары катэдральнага сабору, відаць, з блаславеньня Алага, жабруе маладая турчанка або чачэнка са спавітым дзіцем. У пастаўленым каля ног плястыкавым вядзерцы ад жавальных гумак пуста — мо таму, што дзіця ў жабрачкі нейкае занадта ціхмянае: ні голасу зь пялюшак не падае, ні носу не вытыркае. Усё гэта прыводзіць на памяць айчынных сьляпых, што калісьці сядалі ў электрычку на станцыі Койданава, сноўдаліся, старанна й балюча топчучы відушчым пасажырам ногі па вагонах і цягнулі гугнявымі галасамі «Враги сожгли родную хату», а выбраўшыся ў Стоўпцах на пэрон, на вачах у дабрадзеяў упэўнена лічылі нажабраваныя грошы і, беспамылкова абмінаючы гразкія калюжыны, імпэтнай хадою кіраваліся ў прывакзальную піўніцу.

Некалі ў Гановэры жыў вядомы дадаіст Курт Швітэрс. У ягоны гонар у цэнтры гораду паставілі скульптуру: вялікія, узгрувашчаныя адзін на адзін кантэйнэры з сабраным на вуліцах і спрасаваным сьмецьцем ды жалезным ламаччам. Надпіс паведамляе, у які дзень якога году быў напоўнены сваім зьмесьцівам кожны кантэйнэр. Маўляў, сьпі спакойна, дарагі Курт, твой эстэтычны клопат жыве.

Ня ведаю, ці можна аднесьці да дадаізму вершык, што выплывае каля гэтага манумэнту з маіх дзіцячых успамінаў:

*Пришла весна. Цвели дрова.*
*Верблюд из Африки*
*Приехал на галошах.*

На ўсьцеху Мірэле ў гановэрскіх крамах багаты выбар маціцовых гузікаў. Такія гузікі — ейная жарсьць. Мірэла выкладвае па некалькі марак за штуку і нецярпліва чакае хвіліны, калі можна будзе выкінуць у сьметніцу няшчасныя гузікі, народжаныя на сьвет без удзелу малюскаў. Адным словам — паэтка.

Праходка па Гановэры сканчаецца бліскучым тэрарыстычным актам паяданьня сакаўной паляндвіцы вусьцішных памераў, якую мы распластваем на кухоннай дошцы пасярод стала й крыважэрна паласуем нажамі адразу з двух бакоў, падмацоўваючы сілы салатаю з кукурузай і шмальцам з гарачым белым хлебам. Паводле сваёй ідыёцкай звычкі згадваць з нагоды й без нагоды розную лухту, я ўспамінаю показку пра тое, як канібалы злавілі недзе ў джунглях Новай Гвінэі групу савецкіх спэцыялістаў. У чопе кіпіць вада, кухары рыхтуюць соль і перац, а ўдзячныя дзікуны аблізваюцца, смакуючы наперад філейныя часткі, прысланыя ім далёкай краінаю разьвітога сацыялізму. Тым часам правадыр племя прыглядаецца да будучага пачастунку й раптам усьцешана выгуквае: «Вунь таго разьвязаць, я зь ім вучыўся ў БДУ імя Леніна!».

Баляваньне адбываецца на хаце ў спадарыні Сыльвіі. Пры каве высьвятляецца этымалёгія ейнага прозьвішча. «Geist» па-нямецку дух, а таксама — здань. Каб замест кавы я выпіў «вогненнай вады», дык неадменна выткнуўся б з тостам пра добры дух Гановэру або пра здань, якая выклікае пачуцьці, бязьмежна далёкія ад жаху.

Аднак наперадзе ў нас сустрэча зь верагоднымі чытачамі, а таму ўсё сказанае вышэй ідзе падтэкстам, а гаворка круціцца вакол іншага.

Напрыклад, вакол расейскага нацыянальнага характару, або, як той казаў, мэнталітэту. Аказваецца, баўгарскія этнографы таксама закмецілі адметнасьць казач-

нага Ямелі: лайдак, які адлежвае на печы бакі, раз-пораз загадваючы што-небудзь зрабіць «по щучьему велению, по моему хотению», у вачах братняга расейскага народу паўстае героем відавочна станоўчым. Здаецца, аналягі ёсьць яшчэ ў казачным эпасе братніх народаў Цэнтральнае Афрыкі.

Мірэла апавядае пра македонцаў, якія гавораць на заходнебаўгарскім дыялекце і якіх у Баўгарыі лічаць баўгарамі, але палітыкі ў сацыялістычнай Югаславіі нібыта зрабілі ўсё магчымае, каб баўгарскі этнас скараціўся роўна на колькасьць македонцаў. Пры вялізнай розьніцы палітычных ды іншых акалічнасьцяў перада мною ўсё адно з халодным ветрыкам мільгае аблічча паэта й паляшуцкага лідэра Міколы Шаляговіча з стосікам ягонай газэты «Полісьсе», дзе на малазразумелай палешукам мове ім даводзіцца, што яны — асобная нацыя, і ў іх ёсьць свая «чолотвэрдзь» — Пыньск.

Яшчэ мы гаворым пра Макса Фрыша і ягоную сяброўку Інгэборг Бахман. Яе героі часта гінулі ў агні, як потым загінула й сама Інгэборг. Тэму прадчуваньняў творцамі рэальных падзеяў уласнага жыцьця працягвае Мірэлін расказ пра баўгарскага клясыка Пэё Яварава. Той баяўся цемры й сьлепаты. Калі ў яго на вачах зьвяла падрахункі з жыцьцём жонка, Пэё схапіў яшчэ цёплы пісталет і таксама спрабаваў застрэліцца, але толькі пашкодзіў якуюсьці нэрву і страціў зрок, каб, жывучы ў цемры, дзень пры дні чуць, што гэта ён забіў жонку.

Я намагаюся ўспомніць якія-небудзь прадчуваньні ў творчасьці беларускіх аўтараў і на свой сорам не магу ўзгадаць нічога паважнага, калі не лічыць прадчуваньня чарговага раману з асьпіранткаю — у творчасьці вялікага празаіка Н. і прадчуваньня выпіўкі з добрым закусонам — адразу ў некалькіх маладых і сталых сяброў СП.

Мае гановэрскія музы ўладкоўваюцца з цыгарэтамі на падлозе каля адчыненага гаўбца. Апошняе, што перакладае Мірэла: дачка баўгарскага прэзыдэнта Жэлю Жэлева скончыла жыцьцё самагубствам, а спадар Жэлеў назаўтра пасьля хаўтураў прымаў вайсковы парад.

Я разгортваю апошнюю Мірэліну кнігу «Памет за подробности» і зьнячэўку пачынаю разумець баўгарскую мову. Кажуць, некалі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін падчас дэкады беларускае літаратуры ў Летуве, выправіўшыся ўраньні па піва, спыніўся ля газэтнага стэнда і раптам пачаў разумець па-літоўску. Праўда, неўзабаве высьветлілася, што ён унурыўся ў віленскі польскамоўны «Czerwony sztandar». Але па-баўгарску я, далібог, нешта разумею. Верш называецца «Усилието»:

*Потушивши един огън, друг огън,*
*колко огньове, за да напишеш*
*върху пепелта*
*стих или име.*

Між іншым, у Нямеччыне пачытваюць «Нашу Ніву». Доказ — неабвержны. На другой вечарыне Сыльвія чытае перакладзены спадаром Норбэртам Рандавам з «НН» мой опус «Тунэль зь Серабранкі ў Бэрлін».

Гэты тунэль прывёў нас у прытульную тэатральную кавярню. Людзей трохі болей, чым запаленых на ссунутых мармуровых століках сьвечак. Дзяўчына з валасамі й вачыма русалкі пытаецца, як завуць беларуску з профілем Нэфэрціці, што стукае абцасікамі па менскім асфальце. Я адказваю, што ў яе вельмі эўрапейскае імя. Дарэчы вынырвае сэнтэнцыя з Гэсэвага «Дэміяна»: анфас — маска, сутнасьць пазнаецца ў профілі.

Наступнае пытаньне: ці адчуваеце вы, што немцы да вас халодныя й абыякавыя? Мірэла спраўляецца з адказам хутка. У мяне так не атрымліваецца. Я кажу пра нашу балцкую кроў і пра тое, што балцкія леўкацыты й эрытрацыты нясуць па жылах беларусаў балцкую стрыманасьць. Я кажу, што люблю, каб мяне не чапалі, каб ня лезьлі ў душу і не прапаноўвалі дзюбнуць за вуглом «пузыр» на траіх, закусіўшы рукавом ці плаўленымі сыркамі. Я кажу, што не хачу, каб мяне, ухвальна паляпваючы па плячы, называлі «простым парнем». Я не хачу быць гаваркім і не хачу выслухоўваць споведзі

незнаёмых людзей. Я выказваю здагадку, што, напэўна, гэтыя рысы ўласьцівыя сярод беларусаў ня толькі мне.

Пакуль Мірэла перакладае, я ўспамінаю старую показку, як Васіль Іванавіч вяртаецца з Парыжу. «Што новага, Васіль Іванавіч, прывезьлі з Парыжу?» — пытаецца Пецька. «Ня ведаю, Пецька, яшчэ да доктара не хадзіў», — адказвае легендарны камдыў. Калі б я ведаў нямецкую мову або калі б не шкадаваў Мірэлы, я распавёў бы зараз яшчэ й гэтую показку і, інтрыгуючы публіку, паведаміў бы, што таксама заразіўся. Вытрымаўшы неабходную для належнага эфэкту пярэрву, я супакоіў бы чытачоў і асабліва чытачак, удакладніўшы, што ў Гановэры я заразіўся зусім не AIDS, а — нямецкім спакоем.

Эўропа робіцца бліжэйшаю. Вось і Бэрлін ужо ня мэта падарожжа, а ўсяго толькі прыпынак на зваротным шляху. Але гэта — ня спляжанае бальшавікамі старадаўняе мястэчка, праз якое я еду зь Менску ў свой Полацак, у лепшым разе выходзячы на стаянцы да ветру. Немцам падабаецца, калі Бэрлін называюць новай сталіцай Эўропы. Мне цікава, што зьмянілася ў сталіцы за год, пакуль я не бадзяўся па Кюрфюрстэндам і Аляксандар-пляц, і я выходжу зь цягніка. Балазе, у Бэрліне, а дакладней, у яго былым заходнім сэктары жыве мая знаёмая — спадарыня Ядзьвіга зь беларускага шляхецкага роду Рымашэўскіх, якая, трапіўшы ў Нямеччыну пяцьдзясят гадоў таму й дасканала авалодаўшы моваю, сумысьля захавала сабе беларускі акцэнт. Дзіва, што яна сустракае мяне, калі не як роднага сына, дык, прынамсі, як роднага пляменьніка.

Калі вы глядзелі фільм «Генэралы пясчаных кар’ераў», дык мусіце памятаць кульгавага хлопчыка, што на колькі дзён трапляе ў багаты дом. Адрозна ад кінахлопчыка, я пакуль не кульгавы, не распавядаю сьлязьлівых гісторыяў пра татаву сьмерць і ня маю сувязяў у крымінальным сьвеце. Усё астатняе вельмі падобнае да фільму.

У доме спадарыні Ядзьвігі, апрача яе з мужам Гэльмутам, жывуць трынаццаць катоў на чале з заснаваль-

ніцай гэтай кашэчай дынастыі Паўлінай, якая сыта вуркоча ўжо цэлую чвэртку стагодзьдзя. Каты, якім я прывез прывітаньне ад іхняй схільнай да адзіноты менскай суплямяньніцы Басоты, падзяляюцца на «сацыялістычных», што кватаруюць на цокальным паверсе, і «капіталістычных», якія па-гаспадарску пачуваюцца наверсе. Падзел чацьвераногіх гаспадароў паводле сацыяльна-эканамічных фармацыяў чыста ўмоўны, бо розьніца ва ўзроўні іх жыцьця ў літаральным сэнсе палягае ў прасторы. Проста «сацыялісты» ня любяць чужых людзей. За колькі тыдняў да майго прыезду менавіта «сацыялістычны» паверх гэтай Мурлындыі, узьняўшы страшэнны вэрхал, папярэдзіў гаспадароў, што ў дом залезьлі злодзеі.

Колькасьці катоў у доме прыкладна адпавядае колькасьць гадзіньнікаў. Усе яны з боем, прычым ідуць з разьбежкаю, і раней за дванаццаць ночы спаць нязвыкламу чалавеку тут лепей ня класьціся, бо апоўначы ў пакоях пачынаецца сапраўдны канцэрт.

У адведзеным мне пакоі, які разы ў тры большы за ўсю маю менскую двухпакаёўку, стаіць на століку фатаграфія немаладога афіцэра ў эсэсаўскай форме са стамлёнымі разумнымі вачыма. Гэта ня бацька гера Гэльмута. Гэта першы муж спадарыні Ядзьвігі — Фрыц. Іхняе каханьне пачалося ў 1941-м у Калодзішчах, пад Менскам, дзе стаяла Фрыцава вайсковая частка. За сувязь са славянкаю, а мабыць, і за іншыя грахі, накшталт лібэралізму з палоннымі, Фрыца перавялі ў Нямеччыну, але туды вывезьлі й Ядзю Рымашэўскую, і яны не маглі зноў не сустрэцца.

Фрыц напісаў на імя фюрэра рапарт з просьбаю дазволіць шлюб. Дазвол быў атрыманы з умоваю неадкладнай адстаўкі, што азначала застацца бяз сродкаў і жыць пад каўпаком спэцслужбаў. Ішоў 1944-ты. На шлюбным фота спадарыня Ядзьвіга ў чорнай сукенцы.

Фрыца няма ўжо болей за трыццаць гадоў. Перад ягонаю фоткаю кожны дзень стаяць кветкі. Побач з кветкамі ляжыць Фрыцава люлька (мая гаспадыня пяшчотна называе яе піпачкай). Дваццаць гадоў пасьля мужавай сьмерці спадарыня Ядзьвіга, гледзячы на «піпачку»,

чула выразны пах дыму, і яе душа заходзілася ад адчуваньня блізкай прысутнасьці каханага.

Гісторыя другога замуства дачкі беларускага шляхціча Адама Рымашэўскага таксама вартая калі не раману, дык аповесьці. Назаўтра пасьля хаўтураў фраў Шміт прыйшла на клады, выпіла пляшачку, абняла сьвежы грудок і прачнулася ўначы паміж надмагільных помнікаў.

Удава прыходзіла на клады штодня — то сама, то з сынам. Аднойчы да яе ў дзьверы хтосьці пазваніў. На парозе стаяў малады чалавек з букетам. Яго звалі Гэльмут, і ён нядаўна пахаваў бацьку. Адрас ён даведаўся на могілках ад вартаўніка.

Прырода любіць раўнавагу. Фрыц быў гадоў на дваццаць старэйшы за жонку, Гэльмут — амаль на столькі ж маладзейшы, аднак на фатаздымку зь вясельнага падарожжа абняўшыся стаяць аднагодкі. Пра здымкі апошніх гадоў можна, далібог, сказаць тое самае. На маё паведамленьне, што фраў Гэдвіг Ноак — з 1917 году, Мірэла з Сыльвіяй толькі недаверна пераглянуліся й смыканулі плячыма.

Увечары, за кухлем піва, я слухаю ўспаміны спадарыні Ядзьвігі ды разглядваю альбомы — вось дом у Калодзішчах, дзе яны з Фрыцам сустрэліся, вось касьцёл сьвятога Роха са зьбітым сьпічаком (фота рабіў у 1941-м Фрыц). Мы абмяркоўваем нядаўнюю тэлеперадачу пра сэксуальныя пэрвэрсіі, дзяўчатак-філіпінак зь нелегальных прытонаў і шлюбы лесьбіянак. Мая гаспадыня рашуча супраць такіх навацыяў, а я, бадай, не адмовіўся б на колькі дзён пераўвасобіцца ў сямейную лесьбіянку, каб дасьледаваць у такой ячэйцы грамадзтва, напрыклад, праблему адюльтэру. Пытаньне выглядае даволі неадназначна: як, дапусьцім, ацэньваць сытуацыю, калі нехта зь лесьбійскай сям'і трапіць у абдымкі да мужчыны? Магчыма, гэта «ня лічыцца»?

Мы глядзім «відзікі» пра разбурэньне Бэрлінскае сьцяны і пра першыя гады акупацыйнага рэжыму саюзьнікаў. Я даведваюся, як сардэчна ставіліся савецкія салдаты да нямецкіх дзяцей і як яны без разбору гвал-

тавалі нямецкіх жанчын, дзяўчат і дзяўчатак, перасягнуўшы ў гэткіх подзьвігах і мангола-татарскіх захопнікаў. (Адзінаццацігадовую сястру майго бэрлінскага знаёмага ўратавала адно тое, што на галаву п'яному салдату, які цягнуў дзяўчо ў ложак, ягоны яшчэ больш п'яны сябрук скінуў з другога паверху грамафон.)

Ураньні, зьеўшы на дэсэрт трускавак або вішняў з саду, што глядзіцца ў вокны маіх гаспадароў, я выпраўляюся швэндацца па Бэрліне, ловячы сябе на думцы, што ўжо ведаю яго, прынамсі, значна лепей за Маскву. У голаў, вядома, лезуць згадкі, аналёгіі й алюзіі.

Белакаменную я наведваў разы тры. Кожны быў напоўнены мноствам незабыўных уражаньняў, але асабліва ўразаўся ў памяць нейкай адной адметнаю падзеяй.

Першы раз, едучы ў студэнцкі будатрад у Казахстан, мы залілі на ўскраіне Краснай плошчы дзьве дзесяцілітровыя поліэтыленавыя каністры півам і на падыходзе да маўзалею былі затрыманыя нарадам міліцыі, што палічыў нас за падпальшчыкаў. Другі раз я знаходзіўся ў расейскай «чолотвэрдзі» транзытам, начаваў на вакзальнай лаўцы і быў разбуджаны сярод ночы разьятранай прыбіральшчыцай, што хвостка выцяла мяне па заспанай пысе мокрым брудным венікам, які пакінуў у барадзе жменю сланечнікавай лузгі. Яшчэ адзін раз некалькі маладых беларускіх літаратараў прыехалі на паседжаньне савету па беларускай літаратуры Саюзу пісьменьнікаў СССР, і на пачатку імпрэзы вядомы савецкі крытык бадзёрым тонам спавясьціў, што ўчора прагледаў нашыя кніжкі і зразумеў: беларуская мова сапраўды існуе.

Але тое ў Маскве.

У Бэрліне ж былая мяжа ўсходняга й заходняга сэктараў адчуваецца ня меней, чым летась. У заходнім на кветніках абавязкова растуць кветкі, ва ўсходнім, не раўнуючы, як дзе-небудзь у нашым Лепелі, можа раскашавацца і лебяда. «Неўміручае і ўсемагутнае» вучэньне здолела так пераўтварыць сьвет, што нават жоўтыя гарлачыкі ў заходнебэрлінскай сажалцы выдаюць відочна жаўцейшымі.

Водбліз станцыі падземкі на Фрыдрыхштрасэ наш былы суайчыньнік тужліва пілуе на акардэоне «На позицию девушка провожала бойца». На недалёкіх могілках зь белага пастамэнту пад белай акацыяй зьдзіўлена ўслухоўваецца ў экзатычную мэлёдыю галава Гэнрыха Мана.

Тамсама, на Фрыдрыхштрасэ, ёсьць плот зь дзіркаю. Праціснуўшыся праз яе, апынаесься на пустцы, дзе стаіць дом, які, магчыма, спадабаўся б Мірэле, бо над ім учынілі вівісэкцыю: адна сьцяна будынку абрынутая, і вачам адкрываюцца ўсе курадымныя тайніцы ягонага чэрава. Каля дому расьце «дрэва» — стаўбур з бляшаных вадасьцёкавых трубаў і галіны з галінкамі з размаітых скарлючаных трубак і дроту. Краявід пусткі, што ажыўляе ў памяці вясёленькую «постатамную» навэлу Рэя Брэдбэры «Будзе ласкавы дождж», выдатна дапаўняе высозная «кветка» зь бітага шкла ды іржавага жалезьзя. Гэтай расьліне пасуе кампанія зацягнутых у чорную скуру хлопцаў з голенымі галовамі, якая смокча ў засені шкляных пялёсткаў бляшанкавае піва. Мусіць, я ўсё ж ня надта падобны да турка, аднак, мяркуючы па позірках хлапцоў, мне хочуць прапанаваць зусім ня піва.

Ва ўсходнім Бэрліне, здаецца, пакуль няма пісуараў са смарагдавымі або аквамарынавымі каменьчыкамі, але ёсьць і свае перавагі ў выглядзе хай сабе й рэдкіх, ды ўсё ж дармовых прыбіральняў і яшчэ больш рэдкіх тэлефонаў-аўтаматаў, зь якіх можна затэлефанаваць, не ўстаўляючы туды адмысловае карткі, а проста за пяцьдзясят пфэнігаў. Каб ня гэты рэлікт сацыялізму, на вуліцы адчуваў бы сябе круглым сіратою.

На рынку каля Брандэнбурскае брамы набор тавару такі, як і год таму: ордэны, піянэрскія значкі, генэральскія шынялі, флёцкія безбрылёўкі… Новае ў асартымэнце — бадай, толькі «матрошкі» з расейскімі верхаводамі ад Мікалая II да Барыса Ельцына, у якога ўстаўляюцца па чарзе ўсе астатнія. Сэрца кранае цёплая лапка ўсьцехі: побач, як і летась, смуглявыя маладзёны гандлююць прадукцыяй Полацкага ліцейна-мэханічнага заводу. Праўда, кошты на экспартную прадукцыю майго

роднага гораду папаўзьлі долу і партабак з «Пагоняю» ідзе сёлета ўсяго за тры маркі.

Вуліца Unter den Linden (па-наску — проста Пад Ліпамі) у гэтыя дні як ніколі адпавядае сваёй назьве, бо па ёй плыве амаль відочная рака мядовага паху. У завоіне на ганку опэрнага тэатру ўладкаваўся духавы квартэт. З жаласнага плякаціку ангельскамоўная публіка накшталт мяне можа даведацца, што гэта «poor students from St. Peterburg». Медзякі ў футаралах сьведчаць, што эканамічнае становішча бедных студэнтаў з Паўночнай Пальміры бэрлінцы ўспрымаюць прыкладна так, як нейкую прыродную зьяву.

Капіталістычныя каты выйшлі на ганак, каб памахаць мне на разьвітаньне хвастамі, і капітан вішнёвага «BMW» Гэльмут Ноак вось ужо другую гадзіну мужна прабіваецца да вакзалу праз заторы бэрлінскіх вуліц. Месца штурмана, нягледзячы на нядаўні сардэчны прыступ, адважна займае спадарыня Ядзьвіга. Дзень не сказаць каб зусім звычайны — 22 чэрвеня.

З Бэрліна да Польшчы цягнік ідзе ўсяго гадзіну. Па дарозе на Варшаву на сьценах чыгуначных брандмаўэраў усё часьцей сустракаецца імя Валэнсы. За польскага прэзыдэнта можна было б парадавацца, калі б зь ягоным імем не суседзілі застрашлівыя абяцанкі, у якіх ганаровае месца займае шляхетны палітычны тэрмін — «dupa».

Зрэшты, гэта праблемы суседняе дзяржавы. У нашай жа, часткаю якое ёсьць мой вагон «Бэрлін—Менск», за тыдзень таксама адбыліся сякія-такія зьмены. Правадніцы папрыгажэлі, і, напэўна, з гэтае прычыны шклянка гарбаты з цукрам каштуе ўжо не 12, а 35 рублёў. Затое гарбаты — хоць заліся, бо адна правадніца прыпадае ў сярэднім на 1,5 пасажыра. Выглядае, што хутка наогул будзем падарожнічаць парамі.

Карацей, Эўропа робіцца бліжэйшаю.

*1993*

# Лёнданскі вітраж

## *Green* хутар

Калі вы падымецеся на борт карабля з жаночым імем *Sally*, які сьціпла завецца па-ангельску *ferry*, а па-наску паромам, на якім можна трапіць у Эўропу з сваім чатырохколавым сябрам, можна наведаць маркет і мяняльную кантору, парачку бараў і рэстарацыю, а потым затэлефанаваць з аўтамата каханай жанчыне, незалежна ад таго, дзе яна цяпер — у Парыжы ці ў Ганцавічах, калі вы падымецеся на гэтага камфартабэльнага жалезнага кіта, карыстаючы зь велікоднае бязьлюднасьці, нахабна ўладкуецеся ў лёгкай бэзавай смузе салёну адмірал-клясы й кінеце разьвітальны пагляд на марскі фасад порту *Ramsgate*, які быццам кагадзе вымылі дажджом з духмяным шампунем, Англія можа здацца вам утульным зялёным хутарам з авечкамі на спадзістых пагорках, з расквітнелымі ў сакавіку вішнямі, «жабінымі вочкамі» і магноліямі, а таксама з тубыльцамі, што — як і належыць сапраўдным хутаранцам — глядзяць на вас трохі звысоку, дзівячыся, як гэта вы трываеце ў сябе правабаковы рух транспарту, і дагэтуль у сутонлівай глыбіні душы праклінаюць 1971 год, калі іхні фунт стэрлінгаў, што раней быў роўны 240 *pence* або 20 шылінгам, пачаў, на ўзор гэтых ненармальных эўрапейскіх валютаў, утрымліваць усяго нейкую няшчасную сотню пэнсаў.

Каб не ўгнявіць яе вялікасьць каралеву з падданымі, сьпяшаюся зазначыць, што слова «хутар», як і схаваны за ім сьвет, заўсёды мелі для мяне безумоўна станоўчы сэнс. Нават тыя заходнебеларускія хутары, куды саветы забаранялі праводзіць электрычнасьць, каб сьсяліць старых зацятых гаспадароў у калгасы, нязьменна выклікалі ў мяне пачуцьці, афарбаваныя ў пастэльныя тоны прыхільнае зайздрасьці да іх насельнікаў, бо зь дзяцінства я падсьвядома адчуваў, што хутары — у роз-

ных сваіх іпастасях — далі чалавецтву нязьменна болей за вялікія гарады.

### «Мой личный оргазм»

Але перш чым вы назапасіце дастаткова ўражаньняў і адвагі на рызыкоўныя мэтафары й параўнаньні, вам давядзецца перажыць сякія-такія сухаземныя ды марскія прыгоды — спадзяюся, што ня ў духу аднаго з хутаранцаў, Уільяма Голдынга, аўтара раману «Ўладар мухаў», зь якога ў далёкім шостым клясе пачалося маё знаёмства з ангельскай літаратураю.

Асабіста мне давядзецца скінуць кіляграмаў пяць жывое вагі падчас афармленьня візаў, зьявіцца ўначы на менскі вакзал і ўбачыць там бадзягу ў скураных штанах, які смачна храпе на сваіх бязьмежных валізах, закрыўшы прышчавы твар папулярнай у нашым народзе газэткаю «Двое» з артыкулам «Мой личный оргазм», сесьці ў цягнік «Масква—Парыж» і праехаць палову Эўропы з чарнявым пасажырам Эдуардам, які будзе частаваць мяне чульлівымі аповедамі пра эрэванскага тату й марсэльскую *maman* уперамешку з сумнеўнымі францускімі (або армянскімі) сэнтэнцыямі кшталту: «Жанчыне трэба вельмі многа, але ад аднаго мужчыны, а мужчыну — вельмі мала, але ад вельмі многіх жанчынаў». Рэшту дарогі па роўнядзях і камяністых узвышшах Брабанту і Фляндрыі я буду бавіць з маскоўскімі праваднікамі Вовам і Колем, якія пачнуць наліваць адзін аднаму ад Берасьця да поўнае нірваны, што апануе іхнія загартаваныя істоты толькі ў прадмесьцях Брусэлю, калі Вова выкуліцца са службовага купэ ў адных сямейных майтках, падобны да каўбоя, які, прыняўшы нечалавечую колькасьць *whisky*, выпаўзае з салуну, сядае на каня й скача адразу ва ўсіх кірунках сьвету, а Коля, зачыніўшы Вову на замок, надзене форму і, палохаючы рэдкіх пасажыраў, пацягнецца па вагоне жабраваць, сьпярша выдаючы сябе за аднарукага, а потым, жахаючы маладых немачак, што селі ў Аахэне, выцягне «адарваную на фронце руку» з рас-

шпіленае шырынкі. Скончыцца тым, што на дапамогу Вову з Колем прыбяжыць іхняя каляжанка, якая, мусіць, бывала ў Абхазіі або чытала «Сандра з Чэгему» Фазіля Іскандэра, бо гарэлку яна будзе любасна менаваць «нашаю валяр’янкаю».

## Ірляндзкі тэрарыст

У бэльгійскім порце Астэндэ вы зможаце высьветліць, што паром у ангельскі Дувар, куды вам без усякага валаводжаньня выпісалі білет у Менску, ужо паўгоду ня ходзіць, і — калі хопіць вашага красамоўства й замежнае мовы — вас усё ж пасадзяць з гэтым білетам на карабель у *Ramsgate*. Крый Божа, калі пры гэтым ваш мужны, абсівераны эўрапейскімі вятрамі й трошкі чырвоны ад «валяр’янкі» твар будзе аздоблены рудавата-мядзянаю барадой. Тады — іду ў заклад — бездакорна ветлівы ангельскі мытнік з завушніцаю ў правым вуху адразу возьме вас на сваё чэпкае вока як тэрарыста Ірляндзкае Рэспубліканскае Арміі, і вас чакаюць татальныя агледзіны — ад пакамечанай кепуркі да пачочка з зубачысткамі — прычым (калі вы маеце раптам дачыненьне да прыгожага пісьменства) гэтага сына Альбіёну ані не зьбянтэжыць знойдзеная ў валізе беларуская кніжка з вашым фэйсам на вокладцы.

Трэба меркаваць, што ў кровапускальных шэрагах IRA пракідаюцца й беларусы. Ніякай іроніі тут і не начавала: гісторыкам добра вядома, што ў аддзелах генэрала Булак-Балаховіча было колькі кітайцаў, і, калі аднаго зь іх схапілі чэкісты, жаўтатвары ваяка на пытаньне пра нацыянальнасьць з годнасьцю адказаў: «Беларуза».

Адзіным суцяшэньнем вам, як і мне, у часе пэратрускі зможа паслужыць тое, што побач трасуць чалавека з польскім пашпартам, падобнага да агента «Масад», які вырашыў, апрача выкананьня агентурнага заданьня, кантрабандаю правезьці ў Злучанае Каралеўства паўтузіна цыгарэтных блёкаў ды пару літраў *wódki*, якую цяпер мусіць уласнаручна выліваць на пачост-

ку марскім вожыкам. Пасьля гэтае працэдуры ён будзе знаходзіцца ў такіх раздрыпаных пачуцьцях, што, не паслухаўшыся мяне, уладкуецца ў лёнданскім цягніку ў вагоне не другога, як пазначана ў білеце, а першага клясу, дзе яго на наступнай станцыі аштрафуе на 10 фунтаў двухмэтровы кантралёр зь летуценнаю ўсьмешкаю й шкіпэрскім носам.

Магчымасьць зноў пабыць у скуры ірляндзкага тэрарыста вы атрымаеце на сталічным вакзале «*Victoria*» — асабліва калі, як у маім выпадку, хлапцы з IRA якраз напярэдадні, зьеўшы ў суседнім *McDonalds'e* свае «бігмакі», акуратна апусьцяць у сьметніцы паўтузіна бомбаў, якія неўзабаве пазбавяць прысутных прыкладна такой самай колькасьці рук, ног і галоваў, а таму пэроны й пачакальні ў дзень вашага прыезду будуць нашпігаваныя паліцыяй, што вынайдзе такі кардынальны сродак барацьбы з тэрарызмам, як вываз з вакзалу ў невядомым кірунку ўсіх сьметніцаў.

### Царква сьвятых Пятра й Паўла

Наведаўшы за свае сорак гадоў некалькі сотняў цэркваў, касьцёлаў, кірхаў, мячэтаў, сынагогаў, паганскіх капішчаў (і нават прытулак сібірскага шамана, дзе пахла дарагімі цыгарэтамі й таннай гарэлкай), у некаторых зь іх — напрыклад, у полацкай Сафіі, у віленскім касьцёле сьвятой Ганны ці ў Спасаўскай царкве Эўфрасіньнеўскага манастыра — я сапраўды пачуваў сябе ў храме. Але — даруйце мне, храмы маёй Бацькаўшчыны ў яе этнаграфічных межах, — найглыбейшым гэтае адчуваньне было ў Беларускай грэка-каталіцкай царкве сьвятых апосталаў Пятра й Паўла на лёнданскай *Holden Road*.

І рэч ня ў тым, што там пасьля набажэнства да вас не падыдзе знаёмы бацюшка і не пачне соты раз пераконваць, што Скарыну звалі Георгіем, а Іван Грозны вызваліў Полацак ад лацінскіх схізматыкаў — як у Спасаўцы, і ня кінуцца адразу некалькі заўзятараў, каб узахапы даводзіць, што менавіта ім павінен належаць сабор, які

пабудавалі праваслаўныя (узарвалі на загад Пятра I таксама праваслаўныя), аднавілі вуніяты, а маліліся ў якім перад яго закрыцьцём рыма-каталікі — як у Сафійцы. І ня ў тым, што там заўсёды — і ў літургіі, і ў казаньні — гучыць свая, а не чужая мова — як над гатычнымі нэрвюрамі сьвятой Ганны, дзе нашае слова ня будзе прамоўлена з амбону ўжо ніколі.

Прычыны адчуваньня такое сумоўнасьці з храмам наўрад ці наогул можна растлумачыць, гэтаксама як немагчыма зразумець, чаму, калі я пераступіў яго парог, з дна памяці залаціста-зялёнаю рыбінаю ўсплыло выслоўе Леона Блюа пра тое, што гісторыя — бясконцы літургічны тэкст, дзе ёты й кропкі маюць ня меншую значнасьць за вершы або цэлыя разьдзелы, хоць сэнс адных і другіх нікому ня ведамы і схаваны за сямю пячаткамі.

Каб вы маглі згадзіцца альбо не згадзіцца са мною, зычу вам калі-небудзь памаліцца ў лёнданскай беларускай царкве самім — тады й вы будзеце захоўваць сярод сваіх папераў расклад набажэнстваў Вялікага тыдня, а сярод незбуцьвелых успамінаў — згадкі, як несьлі плашчаніцу, або як прылеглі перад усяночнай падрамаць у пакоі з галяграфічным укрыжаваньнем і, расплюшчыўшы вочы, на хісткай кладцы паміж яваю й сьветам сноў убачылі, як на выклеенай бледна-блакітнымі шпалерамі сьцяне пераліваюцца ўсімі колерамі зьменлівыя ўзоры дзіцячага калейдаскопу.

Няхай на вуснах ваяўнічых і проста атэістаў празьмяіцца паблажлівая ўсьмешачка, аднак, калі мне сьніцца гэтая зусім хатняя царква, назаўтра ў жыцьці ўсё атрымліваецца, і нават калі раніцою ня памятаю сну, з падзеяў дня я ўсё адно разумею, куды наведвалася мая душа ў начных вандраваньнях.

## Айцец Аляксандар

Калі вы ня ведаеце, што такое шчыры перадвелікодны пост, вам трэба пабачыць, зь якой асалодаю п’е ўраньні на Вялікдзень гарбату з малаком айцец Аляксандар Над-

сан, апостальскі візытатар беларусаў-каталікоў, рэктар Беларускае каталіцкае місіі Англіі й Францыі, дырэктар Бібліятэкі і музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане etc.

Як я пакуль што не сустрэў храму, што адпавядаў бы маёй беларускай душы болей за лёнданскую Петрапаўлаўку (няхай даруюць сьвятыя апосталы гэткую фамільярнасьць), так ня трапілася на маім шляху духоўная асоба, што адпавядала б сьвятарскаму чыну болей за айца Аляксандра, колішняга хлапца з паднясьвіскае Гарадзеі, які ваяваў з гітлераўцамі ў Францыі (за гэта, як айцец пачаў прывозіць мэдыкамэнты дзецям Чарнобылю, дзяржаўная прэса суладным хорам абзывала яго фашыстоўскім наймітам), студыяваў матэматыку ў Лёнданскім і Рымскім унівэрсытэтах, а ўрэшце атрымаў у Грэцкай калегіі Грыгарыянскай папскай *alma mater* магістра тэалогіі.

Што яшчэ распавесьці вам пра айца Аляксандра?

Як ён гатаваў свой слынны рататуй?

Як паказваў музэй, дзе слуцкіх паясоў, здаецца, болей, чым ва ўсіх музэях Беларусі разам узятых, і дзе я пабачыў здымак са спробаю выцягнуць зь Дзьвіны пад Полацкам «Барысаў камень» — фатаграфію, зробленую ў той час, калі самураі яшчэ не прадавалі нам ультрасучаснае тэхнікі, а прыкідвалі, у якую ноч «перейти границу у реки»? (Потым, калі гэтая тэхніка зьявіцца, камень усё ж вырвуць зь ягонага спаконвечнага гнязда й падымуць да Сафійскага сабору на ўсьцеху сьціпламу й невядомаму аматару даўніны, які ўначы адаб’е ад «Барыса-хлебніка» пудовы кавалак граніту на сувэніры, а таксама на радасьць нясьціпламу й вядомаму пісаку, што прысьвеціць гэтай падзеі чульлівы опус пра вальналюбных старажытных палачанаў, якія, каб не аддаць сямідзесяцітонную сьвятыню на зьдзек дзікім чынгісханаўскім ордам, скінулі яе ў Дзьвіну і немаведама як і навошта — бо ніякіх чынгісханаўцаў тут і не начавала — без усякае японскае тэхнікі цягнулі яе пяць кілямэтраў па дзьвінскім рэчышчы.)

Як вадзіў па бібліятэцы, дзе перахоўваюцца рукапісы Купалы, Коласа й Ластоўскага, дзе вы можаце ўзяць

у рукі «Хроніку Эўрапейскае Сарматыі» (Кракаў, 1581) колішняга віцебскага камэнданта італійца А. Гваньіні, што беспардонна сьпісваў у свайго падначаленага М. Стрыйкоўскага, або пагартаць ломкія старонкі выдадзенага ў 1722 годзе вуніяцкаю друкарняю ў Супрасьлі «Собранія припадков краткого...» — між іншым, ці не адзінага цалкам беларускамоўнага выданьня на ўсё доўгае XVIII стагодзьдзе?..

Кастусь Акула

Спадар Акула жыве на канадыйскім беразе возера Антарыё. Ён падгадоўвае чатырох вавёрак, якія нядаўна распавялі пра дабрадзея пятай. Ён называе сябе птушатнікам і з скрухаю кажа, што сёлета ў Таронта памерлі ад марозу ці ня ўсе вераб'і. Ён любіць сарокаў, якіх у Канадзе, як выявілася, нямашака, і таму яны здаюцца тамтэйшым жыхарам экзотамі накшталт чыюкоў ці калібры.

Уладкаваўшыся на сваім заакіянскім беразе, Кастусь Акула выдае часопіс «Зважай» ды піша кнігі пра заходнебеларускую вёску і пра хлапцоў зь Менскае школы камандзераў Беларускае Краёвае Абароны, што перайшлі на бок францускіх макісаў і потым ваявалі зь немцамі на Апэнінах, а таксама вясёлыя гісторыі пра жыхароў канадыйскага мястэчка Сторывіл, што й ня думалі пратэставаць супраць бальшавіцкай мясарэзкі, затое, як толькі саветы запусьцілі ў космас сабакаў (кажуць, адзін наш вядомы паэт азваўся на гэтую гістарычную падзею векапомнымі радкамі: «І доўга брахалі сабакі над нашай савецкай зямлёй»), імгненна зарганізавалі грамадзкае таварыства выратаваньня чацьвераногіх касьмічных вязьняў.

Раней у вольны час спадар Акула ладзіў вынаходлівыя антысавецкія акцыі, або, як сказаў бы мастак Саша Пушкін, які таксама прычыніўся да гэтага мастацкага жанру, хэпэнінгі — кшталту прывітальнага слова на цырымоніі сустрэчы «Краснознамённого ансамбля песни и пляски Советской Армии», перад якім *Mr Akula* прамаўляў пры-

кладна так: «Мы сердечно приветствуем вас на свободной канадской земле и ненавидим антинародный кремлёвский режим точно так же, как и вы его ненавидите».

Найгучнейшы розгалас меў Акулаў «хэпэнінг» у «дзень СССР» на выставе ЭКСПО-67 у Манрэалі, калі падчас агляду першым намесьнікам старшыні Саўміну эсэсэрыі тав. Палянскім ганаровае варты над натоўпам разьлёгся магутны мужчынскі голас: «Death to Moscow murderers! Freedom for Byelorussia! Няхай жыве незалежная Беларусь!» і ўсьлед узьляцелі ў паветра сотні ўлётак, пасьля чаго партрэт затрыманага паліцыяй беларуса зьмясьцілі ці ня ўсе канадыйскія газэты, а сам герой заслужыў ад судзьдзі 25 даляраў штрафу, пасьпеўшы пры гэтым растлумачыць аднаму з сваіх канваіраў, што яго, канваірава, прозьвішча зусім ня нейкі там Козэл, а спрадвечнае, беларускае — Казёл.

У адну кампанію з ірляндзкім тэрарыстам спадар Кастусь трапіў з тае прычыны, што ў тыя самыя дні быў у «Фінчлейскай Беларусі», як ён называе «вёсачку» з чатырох беларускіх мураванак на *Holden Road*.

Гэта зь ім мы, кінуўшы вока на зьмену каралеўскае варты, заклапочана рушылі праз *Trafalgar Square* ў *Hyde Park*, бо было 25 сакавіка й мы вырашылі зьвярнуцца з славутае трыбуны да неабазнаных лёнданцаў з прамовай пра ўгодкі БНР, але ў сувязі з наяўнасьцю адсутнасьці слухачоў мусілі абмежавацца дзьвюма філіжанкамі кавы зь яблычнай слойкай.

Акула любіць патэлефанаваць у Менск парою, калі дамавік першы раз будзіць на курасадні пеўня, але хачу прызнацца, што, адрозна ад безьлічы іншых званкоў, зробленых тады, як пеўні яшчэ толькі засынаюць, каб убачыць салодкія сны пра свае курыныя гарэмы, тэлефонныя размовы з спадаром Кастусём асабіста мяне аніколькі ня квеляць — здаецца, пасьля таго, як мы некалі ехалі разам у Полацак і ён патрабаваў на аўтастанцыі ў Плешчаніцах, дзе й вады ніколі не бывала, кубак кавы, на што дыспэтчарка, прыслухаўшыся да дзіўнае гаворкі неспакойнага пасажыра, літасьціва дазволіла яму закурыць.

## Арына і Караліна

Прытульна й прыемна ісьці зь дзьвюма маладымі жанчынамі па чыстых і пустых вечаровых вуліцах, дзе зацьвітаюць сады і распускаецца лісьце каштанаў, дзе перад фасадамі адпачываюць фантаны і неўпрыкмет пазяхаюць ільвяняты, дзе ў дамоў ёсьць ня толькі нумары, але і імёны (значыцца, і характары), а — цалкам магчыма — і прывіды.

У гэткія хвіліны вас апаноўвае надзея, што так будзе заўсёды: квецень, зялёны туманок нясьмелае лістоты, моўкнасьць, што не вымагае перакладу, згадкі аб тым, чаго ніколі не адбылося… (Глыток джыну з тонікам, выпіты ў пабе *The Torrington*, дзе бармэны ў часы Акулавай маладосьці ведалі сёе-тое па-беларуску, тут абсалютна ні пры чым.)

З вашым набліжэньнем да некаторых камяніцаў самі сабою запальваюцца іхнія нумары, а ўвадначас зь імі й ліхтары пры брамках. Занадта проста будзе сьпісаць усё на электроніку: а мо ліхтарні адгукаюцца на жаночыя душы?

Калі б у беларускіх унівэрсытэтах былі тэалягічныя факультэты, студэнцкае арго называла б маіх спадарожніцаў тэалягінямі. Караліна з Арынаю — розныя й жывуць у «Фінчлейскай Беларусі» ў розных дамах. Жывуць дастаткова доўга, каб адчуць іх ня проста жытлом, але складанымі структурамі зь відочнаю й невідочнаю архітэктонікай.

Мураванкі на *Holden Road* слухаюць, глядзяць, усьміхаюцца й скрушліва ўздыхаюць, любяць і ня любяць, закалыхваюць і насылаюць мулкае бяссоньне. Яны могуць прасьцюжвацца й пакутаваць на чыхаўку. Яны памятаюць усіх сваіх колішніх, сёньняшніх, а мо й будучых жыхароў і ўмеюць захоўваць гэтую памяць, ня блытаючы пакояў і лесьвіцаў.

Я думаю, што яны любяць Караліну з Арынаю, і спадзяюся, што некалі гэтым мураванкам зноў захочацца пабачыць мяне.

*Mister Jan Dominik* — чалавек заможны. Апрача слугі-гішпанца Рамона, якога ён называе лейтэнантам, Дамінік мае ў розных канцах Лёндану колькі дамоў. Над адным зь іх летась залунаў нязвыклы брытанскаму воку бел-чырвона-белы сьцяг, пад якім атабарылася беларускае пасольства.

Шкадуючы бюджэт Рэспублікі Беларусі, сп. Дамінік вырашыў не прадаваць гэтага асабняка. Дбаючы пра бюджэт уласнае фірмы, *Mr Dominik* вырашыў не дарыць яго, каб не плаціць велізарнага падатку. Параіўшыся, mister са спадаром вырашылі здаць будынак у арэнду на 100 гадоў за 100 фунтаў. Такім чынам, гаспадар можа цяпер кожны год выпіваць за кошт Беларусі бляшанку прыстойнага піва, што мы й пажадалі яму рабіць, прынамсі, да канца тэрміну арэнды.

Ёсьць, праўда, у гэтай ідыліі адзін нюанс: нашыя паслы ў Злучаным Каралеўстве паводле катэгарычнае ўмовы гаспадара будынку мусяць карыстацца беларускаю мовай. Каб ня мучылі цяжкія сны пра расейскамоўных паслоў, Янка Дамінік пакінуў сабе ў асабняку цеснаваты офіс і, кажуць, бывае страшэнна задаволены, калі візытанты прымаюць яго за пасольскага швайцара. Па дарозе ў пасольства вам можа сустрэцца лёнданскі бомж, які, смачна пахропваючы ў пракураныя саламяныя вусы, будзе спачываць на вольным паветры ў ахайным сінім спальніку. Бесхацінец адкоціцца ў сьне ад сьцяны на сярэдзіну вулічнага ходніка, ды гэта ані не сапсуе краявіду й ня выкліча аніякага пачуцьця шкадаваньня. Гэтым лёнданскі бомж будзе прынцыпова розьніцца з маім знаёмым менскім бомжам Апанасавічам, што мінулай зімою, катастрафічна губляючы зрок, начаваў разам з сабакам Рэксам у калідоры перад майстэрняю скульптара А. Шатэрніка.

Прыблізна ў той самы час, калі лейтэнант Рамон будзе варыць каву й падліваць нам даўкага партугальскага віна, радзіма-маці нарэшце вызваліць Апанасавіча

ад клопату пра пустыя пляшкі ды за адным разам ад усёй іншай жыцьцёвай мітусьні. Вызваленьне прыйдзе ў абліччы выцягнутага на падворак пачварна вялікага гіпсавага пагрудзьдзя Надзеі Канстанцінаўны Крупскай. Ідучы з прыбіральні, Апанасавіч страціць раўнавагу і, выцяўшыся галавою аб верную паплечніцу Ільліча, ужо не пасьпее прашаптаць ёй словаў падзякі.

### Дыякан Зьміцер

З дыяканам Зьмітром апошні раз мы бачыліся два гады таму на Сёмуху ў Полацку, дзе, колькі я сябе памятаю, у гэты сьвяты дзень абавязкова ідзе дождж. Дыякан быў не ў гуморы — адкуль узяцца таму гумору, калі полацкія вуніяты тады маліліся ня ў храме, а ў якімсьці «чырвоным кутку».

Мы палуднуем у кітайскім рэстаранчыку, куды нас запрасіў Янка Дамінік, і я думаю, што дыякан напэўна ўбачыць час, калі беларускія грэка-каталікі вернуць сабе старыя храмы й пабудуюць новыя. Нягледзячы на густую смаляную бараду, галоўны адцінак ягонага зямнога жыцьця прыпадзе на наступнае стагодзьдзе, у якім я таксама разьлічваю на нейкі кавалак, ва ўсякім разе сьціпла спадзяюся дацягнуць да 2029 году, каб наладзіць у Полацку сьвяткаваньне 1000-годзьдзя Ўсяслава Чарадзея і ўзяць з гэтае нагоды келіх добрага старога крупніку, які так ганаравалі рознапляменныя айцы-езуіты ў тыя часы, калі Полацак пасьля *breve* папы Клімэнта XIV пра забарону Таварыства Ісуса стаўся іхняй сусьветнаю сталіцай.

Вяртаючыся на мэтро дадому, я разглядваю рэклямныя шчыты й плякаты ды разважаю ў тым духу, што ў брытанскай сталіцы духоўныя асобы павінны пачувацца больш утульна, чым, напрыклад, у нямецкай. Прынамсі, тут я нідзе ня бачыў рэклямы ложка на ўсе нагоды — нават з камфартабэльнай шуфлядаю для каханка на выпадак зьнячэўнага зьяўленьня мужа, ня кажучы ўжо пра шыкоўныя здымкі капуляцыяў на парашутах ці ў каралавых гротах Палінэзіі, сярод уважлівых

маўклівых сьведкаў у вобразах бяскрыўдных электрычных скатаў.

Няхай жыве здаровае ангельскае пурытанства!
Вэспасіян і Восіп Цадкін

Сустрэча з Вэспасіянам прызначаная ў адпаведнай залі Брытанскага музэю. Поруч з імпэратарам, чыё імя зрабіла неўміручым геніяльная ідэя абкласьці падаткам грамадзкія прыбіральні, важаць носам табаку ягоныя калегі Каракала й Сэптымій Сэвэр. У Вэспасіяна важыць табаку няма чым — мармуровы орган нюху застаўся недзе на берагах Тыбру, хоць гэтага, прызнаем, больш заслугоўваў той самы орган ягонага сына, які, пачуўшы, адкуль бацька бярэ грошы, няўдзячна круціў носам перад антычнаю публікай, у чые шэрагі ўплішчылася пара пісакаў, што ліхаманкава занатавалі сямейную сцэну дзеля нашчадкаў.

Этрускія аздабленьні й фрэскі прыводзяць на памяць рыфмы першакурсьніка Вінцэся Мудрова: дакоры — нарыхтканторы, этрускі — беларускі.

Калісьці ля гэтых фрывольных сонечна-блакітных фрэсак прыстойваў, успамінаючы яшчэ не закаламучаную вялікай хіміяй агульную раку нашых дзяцінстваў, п’яны ад голаду Восіп Цадкін. Наступны ягоны прыпынак будзе пры вушатых стодах з выспы Вялікадня, каля якіх Цадкін, адолеўшы приступ галавакручэньня, наважыцца купіць замест тварожнага пудынгу яшчэ адзін разец, што потым будзе разам з усімі астатнімі прывезенымі зь Лёндану разцамі зламаны аб прыцягнуты ледавіком пад Віцебск гранітны валун, які пазначыць пачатак Восіпавага шляху да ўсясьветнае славы.

А калі напрыканцы Клиё завабіць вас да паліцы з інкунабуламі, у вас зьявіцца шанец пакінуць Брытанскі музэй з стрэмкаю ў сэрцы, бо вы прыгадаеце, што яшчэ да пачатку XVI стагодзьдзя друкарні, якія тады ўжо існавалі ў 250 эўрапейскіх гарадах, ня надта напружваючыся, выдалі болей за 40 тысяч кнігаў накладам 12

мільёнаў асобнікаў. У сьвятле гэткіх лічбаў прыярытэт Скарыны перад Фёдаравым, шчыра кажучы, будзе слабой суцехаю. Нацыянальнае самалюбства здолее трохі акрыяць адно тады, калі вы даведаецеся, што першым друкаром у лёнданскім *city* быў іншаземец *John Lettou*, або папросту Ян Ліцьвін, ваш суайчыньнік, які распачаў тут сваю справу ажно ў 1480 годзе, — гэта пацьвердзіць першы-лепшы ангельскі гісторык.

### Сухое вуха

Пра Яна Ліцьвіна распавядзе вам нехта падобны да Карлсана, які жыве на даху, аднак пераступіў ужо мяжу, за якою левітацыя робіцца нязбыўнаю марай. Але як толькі гэты чалавек ухопіць за аброць свайго коніка, што завецца беларускай мінуўшчынай, адразу зробіцца відавочным, што лёнданскі Карлсан усё ж здатны падымацца вышэй за коміны.

Ён падобны таксама да духу бібліятэкі, якому паводле аналёгіі з дамавіком, лесавіком і вадзянікам пасавала б відавое найменьне бібліятэчніка, ці — на ангельскі капыл — лайбрарніка. (Калі аднойчы ў прыцемку ён выглянуў з-за стэляжоў, я зь перапуду ледзь не зламаў ксэракс, на якім пераздымаў сярэднявечныя гравюры.)

Гісторыя кожнага адметнага жыцьця зазвычай і пачынаецца зь нечага адметнага.

Гэтая пачалася з сухога вуха.

Вуха, або — як міла кажа ягоны спадкаемец спадар Гай Пікарда — «вуша», належала французу, якога звалі Франсуа Абрагам Разье. Франсуа ўхапіў матчыну цыцку ў 1793 годзе, а таму ягоная служба ў маршала Даву выглядае цалкам натуральнаю. Няцяжка ўявіць і раскладзенае ўвосень 1812-га недзе на беларускіх абшарах Смаленшчыны вогнішча, пры якім кавалерыйскі лейтэнант Разье ладзіцца нанач, неабачліва адсунуўшыся «трошачкі далёка ад агонь».

У чытальнай залі выяўна, да прыкметнага цёплага казытаньня ў носе, цягне дымком пачатку XIX стагодзь-

дзя, і задаволены трансцэндэнтным эфэктам спадар Гай доўжыць халерычны аповед пра свайго прадзеда.

«Уначы прапала тэмпэратура, — унікліва кажа ён і, вычакаўшы неабходную пярэрву, цешачыся з такой відавочнай прычынна-выніковае сувязі падзеяў, урачыста дадае: — А ўраньні прапала вуша!»

Праўдзівей, «вуша» не прапала, а проста адвалілася. А паколькі Франсуа быў чалавек ашчадны, адмарожаную частку цела ён не зашпурнуў у хмызьняк, а любоўна высушыў і забраў з сабою ў Парыж. Гэты абярог ахаваў яго ад варожых куляў і багнэтаў у бітве пад Ватэрлёо, а потым паплыў на францускім фрэгаце ў Гвадэлюпу, дапамагаючы ня страціць жывое вуха, а разам зь ім і галаву ў сутычках з флібуст’ерамі.

Па часе табакерка з вухам, што ператварылася ў фамільную рэліквію, трапіла на вочы спадару Гаю, гадаванцу юрыдычных факультэтаў Сарбонны й Оксфарду. Ён знайшоў на мапе Смаленск і Менск, па вуліцах якіх гарцаваў зухаваты кавалерыйскі лейтэнант, пасьля завітаў у лёнданскую беларускую царкву, захапіўся беларускай гісторыяй ды вуніяцкімі сьпевамі і ўрэшце, памяняўшы адвакацкую практыку на навуковыя студыі, пусьціў карані ў «Фінчлейскай Беларусі».

Таго вечару, дзякуючы гістарычнаму вуху, мы найбольш гаманілі пра расейскую кампанію Напалеона. «Вы чулі пра Банапарта і беларускі бабушка? — бліскаў вачыма мой суразмоўца. — Банапарт пытаецца ў беларускі бабушка, як яна жадае: каб французы пагналі рускіх далей, або каб рускія пагналі французаў назад?» Напэўна, і вы адчуеце да гераіні аповеду сымпатыю, бо наша мудрая старая адказала валадару Эўропы што, маўляў, няхай пранцузы гоняць маскалёў так далёка, каб не вярнуліся ні адны, ні другія.

Я даведваюся й шэраг іншых зьвестак, яшчэ ня спраўджаных у гістарычных крыніцах. Напалеон, да прыкладу, слухаў беларускую гаворку і з падколкаю казаў палякам з свайго акружэньня, што гэта ня польская мова і тут ніякая ня Польшча.

А Кутузаў нібыта штодня спаў чатырнаццаць гадзінаў.

## Нячысьцік

Ад брытанскага падданага Пікарды вы можаце пачуць яшчэ аб адным нешараговым лёнданцы, які за свой тутэйшы побыт пасьпеў выпусьціць трыма выданьнямі ўласную беларускую паэму «Нячысьцік» — пра селяніна Мікіту, што «імеў жонку, як зьмяю». Апрача жонкі-зьмяі Мікіта гадаваў парсючка, якога собіла ж гаспадару забіць на каўбасы акурат у Вялікі пост. Пакуль жонка лётала па гарэлку, нячысьцік скраў каўбасы ды рэшту парсючка.

Жончын маральны кодэкс не замінаў ёй пажадаць Мікіту сьмерці, што з дапамогаю інфэрнальных сфэраў адразу ж збылося. Мараль суворая, ды справядлівая: ня еш у пост скароміны.

Аматары роднае літаратуры ўжо ўспомнілі, што гэты жаласны сюжэт апрануў у немудрагелістыя рыфмы прыдзьвінскі шляхціч Аляксандар Рыпінскі, які пасьля паўстаньня 1830 году ратаваўся на чужыне, пражыўшы дзесяць гадоў у лёнданскім прадмесьці Тотэнгэм, дзе рэкамэндаваўся мастаком, фатографам і настаўнікам францускае ды нямецкае моваў і маляваньня. (У Тотэнгэмскім музэі дагэтуль перахоўваецца пара гравюраў зь яго карцінаў.)

Паколькі дом Рыпінскага ацалеў, гісторыя прадпрымальнага сына Прыдзьвіньня мела працяг. У пабе паблізу ад таго дому аднойчы выпіваў доктар філялёгіі Адам Мальдзіс. Пачуўшы, што наведнік — зь нейкае там Беларусі, мурын-афіцыянт застаўся зусім абыякавы: праблемы Каморскіх выспаў ці Заходняга Самоа абыходзілі яго нязьмерна болей. Тады доктар Мальдзіс уголас зазначыў: калі б павесіць на будынку мэмарыяльную табліцу, што сюды заходзіў кульнуць кілішак паэт Рыпінскі, кожны беларус, трапіўшы ў Лёндан, ушаноўваў бы гэтае месца ня меншай, а верагодна значна большай колькасьцю шклянак віскі або кухляў добрага цёмнага *Guinness'у*. Замест мурына перад столікам імгненна вырас гаспадар пабу з нататнікам у руцэ. Першым ягоным пытаньнем было: колькі на сьвеце беларусаў?

## Міхалюкі

Янка Міхалюк старшынюе ў Згуртаваньні беларусаў Вялікай Брытаніі — першай беларускай арганізацыі, заснаванай на эміграцыі пасьля Другой сусьветнае вайны. Ягоная жонка Лёля доўга была гаспадыняю лёнданскае школы імя Кірылы Тураўскага. Летась мэдыкі аднялі Янку абедзьве нагі й перасадзілі яго ў інвалідны вазок, што не перашкодзіла Міхалюку прамаўляць на акадэміі ў гонар угодкаў БНР, маліцца на ўсяночнай і запрасіць мяне з Акулам да сябе дахаты, дзе, калі не ўзірацца ў вокны, вам магло б падацца, што вы гасьцюеце недзе ў Слуцку ці Полацку.

Гледзячы, як спадар Янка возіць сам сябе на вазку, я падумаў, што ніколі ня быў бы на такое здатны, і выпіў за яго здароўе яшчэ адзін келіх чырвонага, пасьля чаго спадарыня Лёля падклала на маю талерку бульбы з тым адмысловым кавалкам курыцы, што мне зь дзяцінства найбольш смакуе, бо, як кажуць у нас у Полацку, «каля сракі ўсе прысмакі».

## Валера Мартынчык

Валера прыехаў у Менск і паступіў у мастацкую вучэльню (адкуль яго выгналі за няздатнасьць), а потым у тэатральна-мастацкі інстытут (адкуль яго таксама выгналі — за абстракцыянізм). Ён галадаваў без стыпэндыі, хварэў на сухоты і год праваляўся ў шпіталі. Потым Мартынчык усё ж зрабіўся дыплямаваным мастаком і ўзьбіўся на свой хлеб з малаком, аднак злыгаўся з дрэннай кампаніяй, якая мералася адзначыць 100-годзьдзе Марка Шагала, што, як вядома, маляваў лятучых сіяністаў («А что скажут арабы?»), Уладзімера Ільліча Леніна ў абліччы акрабата, які стаіць на руках, ды іншае бясконца «чуждое нам» паскудзтва. Карацей, стала зразумела, што савецкая радзіма можа выдатна існаваць і без Валеры.

Гэткую ж выснову ў дачыненьні да сябе зрабіў і Валераў сябра — мастак Гена Хацкевіч.

Трываў час, калі самалёты ўганялі з такой самай пэрыядычнасьцю, як мы ў дзяцінстве гулялі ў свайго ўлюбёнага «пікара». Гэта тады нарадзілася показка пра грузіна з абрэзам, што ўрываецца ў кабіну да пілётаў і загадвае: «Ляцім у Тбілісі!» Зацкаваны пілёт нясьмела адказвае: «А мы й так ляцім у Тбілісі». «Я трэці раз вылятаю ў Тбілісі, — крычыць, размахваючы абрэзам, грузін, — а прызямляюся ў Парыжы!»

Абрэза ў Хацкевіча не было. Ён купіў два кавалкі гаспадарчага мыла, скруціў іх дротам і сеў у самалёт «Менск—Растоў-на-Доне». Як толькі паветраны лайнэр набраў дастатковую высачыню, Гена, паказаўшы экіпажу мыла, ветліва папрасіў высадзіць яго ў парыскім аэрапорце Арлі. «О’кей», — мэлянхалічна адгукнуўся камандзір машыны і сеў у горадзе Краснадары, дзе ў самалёт уварваліся бамбізы з спэцбрыгады барацьбы з авіятэрарызмам, якія правялі некалькі беспамылковых сэрыяў удараў па Генавых нырках ды іншых жыцьцёва неабходных нутраных органах.

Менскіх сяброў і знаёмых пачалі цягаць на допыты. Калі чарга дайшла да Мартынчыка, матэрыялаў у сьледчага ўжо было зь ліхвой і да партрэту мацёрага ворага не хапала хіба апошніх штрыхоў. «Что вы знаете о Геннадии Хацкевиче?» — дзяжурна запытаўся прытомлены антысаветчыкамі сьледчы. Валера зрабіў стаўку на сябравы адхіленьні ў псыхіцы, якія сапраўды шматкроць штурхалі Гену на неардынарныя ўчынкі накшталт забегаў целяшом па вуліцах роднага гораду або начлегу на даху сталічнага ГУМу.

«Так это же совершенно меняет дело», — прамовіў уражаны Валеравымі паказаньнямі сьледчы, чый прафэсійны гонар яшчэ не патушыў жарынак сумленьня. Ён выцягнуў з стосу папераў і прадэманстраваў Мартынчыку падпісанае прозьвішчам аднакурсьніка прызнаньне, першая фраза якога была быццам адлітая ў кананічнай форме — «Геннадий Хацкевич с детства ненавидел Советскую власть».

У выніку авіятэрарыст Гена трапіў не ў турму, а ў лякарню для псыхічна хворых у Навінках, дзе размаляваў

сьцены сваімі блiскучымі авангардовымі кампазыцыямі.

Праз колькі часу Мартынчык з Хацкевічам ды зь яшчэ адным менскім мастаком Бабровым апынуліся за Ля-Маншам. Быў падпісаны кантракт з ангельскім прадпрымальнікам беларускага паходжаньня. Наперадзе маячылі пэрспэктывы ўежнай і грашавітае працы з фарбамі й пэндзлем. Але «нядоўга музыка гучала»: на трэці тыдзень гаспадар разарваў кантракт і выставіў хлопцаў на вуліцу зь дзьвюма сотнямі фунтаў.

Грошай хапіла даехаць да Лёндану і купіць сталічную булачку. Убачыўшы ў вітрыне кітайскае рэстарацыі румяныя залацістыя каўбаскі, сябры далі сабе слова, што, разжыўшыся на грошы, купяць і зьядуць адразу па кіляграме гэтага смакоцьця. Шчасьлівы дзень надышоў! Раты напоўніліся саладкаватаю асцой, зубы з асалодаю ўпіліся ў хрусткую корачку… Каўбаскі былі кітайскія — жывое сала з цукрам.

Валерава жонка Ірына частуе мяне ў Беларускім доме на *Penn Road* нечым больш прымальным для славянскага страўніка. Мартынчыкава кватэра пакуль што служыць і майстэрняй. Бабpоў ужо даўно на гістарычнай радзіме, у Ізраілі. Гена Хацкевіч прыжыўся ў калёніі вольных мастакоў пад Парыжам. Валера езьдзіць туды на гасьціны: Лёндан ён любіць болей за Парыж. Ягоныя працы, шкодныя для цнатлівага мастацкага густу насельнікаў колішняе імпэрыі, няблага выстаўляюцца й прадаюцца. Рэпрадукцыя адной зь іх — «Consolation Zone», або «Зона суцяшэньня», цяпер аздабляе мой пісьмовы стол сваёй жоўта-зялёнаю, падобнаю да звалкі хаатычнай прастораю, у якой тоіцца не ўтаймаванае паласатымі шлягбаўмамі імкненьне вырвацца на волю.

Пра гэтае імкненьне кажа аўто з фургонам, на якім Мартынчык ганяе па Лёндане й падарожнічае па Францыі. Мара пра ўласны дом — таксама не абы-якое сьведчаньне, бо тут не зазвычаена раскрываць абдымкі хімэрам.

На заканчэньне нашае экскурсіі па брытанскай сталіцы я атрымліваю ад Валеры карысную ў тутэйшым

жыцьці зьвестку, якою ахвотна падзялюся з чытачом: калі вы пачуеце з вуснаў ангельца «бля-бля-бля», гэта зусім ня значыць, што рэспэктабэльны джэнтэльмэн або вытанчаная лэдзі па-дылетанцку лаюцца на «великом и могучем», бо трайное «бля» перакладаецца як бяскрыўднае «ля-ля-ля», то бок балбатня.

### *Underground*

Дзякуючы інструктажу я без праблемаў перакладаю ў падземцы пагрозьлівую тыраду чарнаскурага дзяжурнага. Ён гаворыць: «Ня трэба ля-ля-ля». На шчасьце, я зьяўляюся ня ўдзельнікам, а гледачом. Тры суразмоўніцы ахоўніка парадку лапочуць па-польску. Сытуацыя досыць банальная. Авантурная польская прадпрымальнасьць зноў сутыкнулася з флегматычнай ангельскай прадбачлівасьцю.

Рэч у тым, што на шмат якіх станцыях лёнданскага андэграўнду вы прасьцей простага можаце сесьці ў вагон без усякіх жэтонаў, праязных квіткоў, турнікетаў і кантралёраў. Але ваш сум па турнікетах ня здоўжыцца. Яны сустрэнуць вас на выхадзе і — адрозна ад айчынных, якія зазвычай мерацца спотайку выцяць вас па якім-небудзь далікатным месцы — усяго толькі запатрабуюць засунуць ім у нутро ваш *ticket* з датаю, коштам, указаньнем зоны etc. Пасьля гэтага перад вамі адкрыюцца два шляхі. Адзін будзе ўвасабляць звычайна цемнаскуры мацак з пачкам квіткоў на штраф, роўны палове сярэднемесяцовага заробку грамадзяніна РБ. Другі варыянт падрабязна разгледжаны ў навэле Хуліё Картасара «Нататкі з блякноту».

### Разгавіны

Пасьля ўсяночнай у царкве Пятра й Паўла вас запросяць на застоліцу, у якой будуць браць удзел два дзясяткі спадарыняў, спадарычняў і спадароў і ў два разы болей сьвяточных страваў.

Зь сьцяны палагаднелым з нагоды сьвята позіркам будзе глядзець наш грэка-каталіцкі біскуп Часлаў Сіповіч. Ён заўважыць, што Гай Пікарда паставіў на стол запечаную з марскім багавіньнем «бульбу па-ірляндзку», пляшку джыну зь пярынкамі зуброўкі і чамусьці мацу. Айцец Кастусь (ён выдае на вялікага Малога Чалавека Балотных Ялінаў зь «Дзікага паляваньня караля Стаха»), які жыве пры Доме марыянаў, адразу ж голасна выкажа здагадку, што адным з кампанэнтаў гэтае мацы стала кроў хрысьціянскіх немаўлятаў, але, пакаштаваўшы кулінарны выраб спадара Гая, вы не адчуеце прысмаку крыві маленькіх адзінаверцаў і пераканаецеся, што на смак маца болей нагадвае, бадай што, сушанае вуха ягонага прадзеда Франсуа Абрагама.

Арына з Каралінаю і айцец дыякан будуць выходзіць з колькідзённага посту асьцярожліва, быццам на стале заморскія стравы, а не «нарачанскі» хлеб, менскі сэрвэлят ды свойская, пханая пальцам каўбаска, якую прывезла жанчына з Гомелю, што можа запытацца ў вас, ці ня ў Лёндане вы навучыліся гаварыць па-беларуску. Паэтка й перакладчыца Вера Рыч усьміхнецца сваёй вечнай загадкава-іранічнай усьмешкаю. Яна ведае, што гэта цалкам магчыма — навучыцца ў Лёндане па-беларуску і нават выдаць там анталёгію беларускай паэзіі ад 1829 году. Другая мая суседка навучылася па-беларуску яшчэ ў Беларусі і, дарма што пражыла амаль усё жыцьцё сярод падданых яе вялікасьці, узбагаціла сваю беларускую лексыку дзякуючы ангельскамоўнай стыхіі адзіным слоўцам — «кустамер». (Потым вы даўмеецеся, што гэта зусім ня той чалавек рамантычнае прафэсіі, які немаведама навошта шнуруе па вечназялёным ангельскім кустоўі, а ўсяго толькі шараговы наведнік недалёкага маркету — «customer».)

### Эжэн Ёнэско

Самавіта й паважна, пасылаючы тым, хто застаецца на беразе, разьвітальныя фантаны мэмуараў і фантан-

чыкі інтэрвію й запаветаў, адплываюць у вечнасьць літаратурныя левіятаны XX стагодзьдзя. Сымбалічна й суцешліва, што пра гэта вы даведваецеся ўжо ня з купленай на аўтастанцыі ў Лепелі «Советской Белоруссии», а з набытага на Piccadilly кіляграмовага выпуску «The Gardian», адкуль астатні раз усьміхнецца вам сканалы ўчора ў Парыжы Эжэн Ёнэско.

Не выключаю, што якраз такой эфэктнаю фразай вам захочацца завяршыць нататкі, збольшага накіданыя ў вагоне «Астэндэ—Масква», які недзе ў Брусэлі ці Аахэне падчэпяць да міжнароднага экспрэсу «Парыж—Масква». Але жыцьцё зноў давядзе сваю зьверхнасьць над літаратураю і літаратуршчынай, змусіўшы вас на постскрыптум.

## Інстытут культуры

Парыскі цягнік прыбудзе апоўначы на станцыю «Інстытут культуры». Некультурны маскоўскі праваднік доўга ня будзе адчыняць дзьвярэй, ня верачы, што за цёмнымі вокнамі — сталіца незалежнае Рэспублікі Беларусі. Нарэшце зь непрасьветнае цемры ў вагон пачнуць ламацца сустрачальнікі. Хтосьці будзе падсьвечваць ліхтарыкам плякацік, адрасаваны дэлегатам нейкага міжнароднага кангрэсу.

На вагонных прыступках вы моцна-моцна заплюшчыцеся, каб на імгненьне зноў адчуць пах лёнданскіх вішняў і нарцызаў, і скочыце на нябачны друз, што здрадліва папаўзе ў вас пад нагамі.

— *Is it Minsk? Is it Minsk?* — будзе разгублена пытацца гаротны дэлегат міжнароднага кангрэсу, што праз хвілю разам з валізамі абрынецца вам на галаў.

Нехта невідочны зычліва, з традыцыйнай беларускай гасьціннасьцю адкажа зь цямрэчы голасам верагоднага кандыдата ў нашыя прэзыдэнты:

— Мінск, Мінск, ё… тваю маць…

*1994*

## Нумар зь відам на Градчаны

*Праскія зацемкі*

Аднойчы Мікалай Бярдзяеў дапіў сваю эміgranцкую каву з каньяком, падышоў да канторкі і запісаў прыкладна наступнае: уся трагедыя Расеі ў тым, што адной нагой яна стаіць на Захадзе, а другой — на Ўсходзе. «Враскоряку. Трагедия, но и своеобразие», — напружыўшы зьвіліны, удакладніў мысьляра ў «Литгазете» адзін мой маскоўскі знаёмы зь відавочнымі прэтэнзіямі на пасьмяротную літаратурную кананізацыю.

Я гляджу ў тэлеэкран на завалены мёртвымі целамі пляц перад прэзыдэнцкім палацам у Грозным і ўдакладняю калегу: каб вашая Расея мела тры нагі, яна стаяла б у Азіі дзьвюма, а каб была сараканожкаю, — усімі 39-цю. Такое вось «своеобразие». Пры гэтым я згадваю, як у Празе мне паказвалі вынікі сацыялягічнага апытаньня на тэму: «Суседзяў якой нацыянальнасьці вы не хацелі б мець у вашым доме?» Усьлед за цыганамі перадавыя пазыцыі ў рэйтынгу займалі расейцы. Гэта было яшчэ да Чачэніі. Цяпер першае месца цыганам ужо не сьвяціла б.

Можа, якраз краявід з грозьненскімі трупамі, сярод якіх адзін відочна дзіцячы, а другі падобны да мяне, і змушае нарэшце разабраць свой праскі архіў, што складаецца са сьпярэшчаных запісамі запрашэньняў, праграмак, рэклямак, візытовак і рэстаранных сурвэтак. Пасьля нялёгкіх перамоваў лайдакаватая памяць усё ж дае згоду заняцца расшыфроўкаю гэтай ужо амаль што абракадабры. Сабе ў пратаколе я агаворваю адзіную ўмову — пазначаць назву дакумэнту, які быў выкарыстаны ў якасьці носьбіта інфармацыі. Калі вы ня згодныя, што гэтая ўмова робіць гонар дыплямаванаму гісторыку, можаце лічыць яе праяваю снабізму, хоць я трымаюся думкі, што клясычны снабізм — гэта калі сын швайцара саромеецца падаць паліто свайму сябру.

## Зацемкі з рэклямнага праспэкту гатэлю «Атрыюм»

Каб узмацніць верагоднае падазрэньне ў снабізьме, адразу паведамлю, што ў гэтым гатэлі нядаўна спыняўся Біл Клінтан, аб чым сьведчыць ня толькі праспэкт, але і фотавыстава каля фантана з вадаспадамі ў гатэльным пасажы, дзе няблага ўладкаваліся дзевяць бараў і рэстарацыяў, па якіх найлепей сьлізгануць абыякавым позіркам задаволенага ўсім на сьвеце плэйбоя. (Тое самае датычыць і міні-бару ў нумары.) Комплекс фінансавай непаўнавартасьці можна пасьпяхова пераадолець дзякуючы татальнай кандыцыянэрызацыі, музычным ліфтам зь Бітламі, Моцартам і фітанцыдамі, а таксама дзякуючы прыгожанькім пакаёўкам, якія ня толькі штодня мяняюць табе ўсю бялізну, але і (дорачы шматзначны позірк) заходзяць засьцяліць ложак нанач.

Аднак найбольш надзейна здратаваць свой комплекс ты маеш магчымасьць падчас гатэльнага сьняданку, калі быццам кот пасьля дзясятае ўкормленай мышыны захмялела блукаеш сярод усіх гэтых ёгуртаў, яечняў з бэконам, сасісак з хрэнам, каўбасак па-праску і па-бэрлінску, сярод салатаў з усёй вядомай і невядомай табе садавінай і гароднінай, сярод пірамідаў размаітых кнышоў і цестачак і запацелых збаноў з экзатычнымі сокамі, сярод цемнаскурых афіцыянтаў з каўнікамі, калі ленавата ўзгадваеш героя показкі, які абяцаў калі ня зьесьці ўсё, дык хоць пакусаць, калі ўжо не паварочваеш свой чуйны нос гурмана на тонкі водар якога-небудзь паштэту з гусінае пячонкі.

Сярод гэтага раблезіянскага багацьця ў нетрах твайго наладаванага на цэлы дзень страўніка нараджаецца самазадаволеная думка, што ў параўнаньні з Клінтанам у цябе велізарная перавага. Ты маеш усяго толькі цёплы двухмясцовы нумар на аднаго, а ён займаў цэлы паверх. А хіба лёгка прывесьці каго-небудзь да сябе ўвечары, калі ў цябе цэлы паверх, ды яшчэ калі яго палову займае паводле пратаколу твая жонка? Няшчасны Клінтан!

## Зацемкі з запрашальніка на прыём у Гішпанскай залі Праскага замку

Першы праскі вечар адметны, прынамсі, трыма падзеямі.

Па-першае, я ўпершыню сёлета надзяваю гальштук. Не завязваю, а менавіта надзяваю, бо — прызнаюся — завязваць гальштукі (пачынаючы зь піянэрскага) так і не навучыўся, а таму прывез зь Менску ўжо завязаны.

Па-другое, кіраўнік кітайскае дэлегацыі навідавоку ў астатняй публікі дастае сьпіс і робіць пераклічку падначаленых, абуджаючы ў памяці аповеды, нібыта ў свой час у Кітаі, гэтаксама як у Манголіі і ў вотчыне таварыша Кім Ір Сэна, пісьменьнікі ўраньні зьбіраліся разам у сваіх саюзах, па званку сядалі за скарбовыя сталы і на працягу васьмігадзінавага працоўнага дня з законным перапынкам на абед пісалі літаратурна-мастацкія творы. (У нашай дэлегацыі пануе поўная анархія, а каб спатрэбілася выбраць кіраўніка, я, не вагаючыся, вылучыў бы Сьвятлану Алексіевіч — пагатоў, ладзячы пераклічкі, яна неператоміцца, бо ў сьпісе буду адно я.)

Трэцяя падзея — сустрэча ў кулюарах з братняй расейскай дэлегацыяй. Млявая рука А. А. Вазьнясенскага. Гаркавая мудрасьць габрэйскіх вачэй Грыгорыя Бакланава. Ветлівая стома Андрэя Бітава. «Старшие сестренки» паводзяцца больш непасрэдна. «Вы представляете, — трагічна ўсклікае паэтка Юнна Морыц, — даже каких-то белорусов поселили в «Атриуме», а мы вынуждены ютиться в русском посольстве, где из удобств только задрипанный чайник с пачкой сосисок в холодильнике!» (Жахлівая дыскрымінацыя, дарэчы, узьнікла зусім не таму, што чэхі вырашылі парахавацца за старыя крыўды — месцы ў гатэлі рэзэрваваліся двум афіцыйным дэлегатам ад кожнае краіны, з Расеі ж прыбыла каманда роўна ў дзесяць разоў большая.)

З пачуцьцём глыбокага задавальненьня «какие-то белорусы» заўважаюць на даляглядзе знаёмую постаць прэзыдэнта Ўкраінскага ПЭНу пана Яўгена Свэрсьцюка (у недалёкім мінулым — сем гадоў лягеру і пяць — вы-

сылкі). За ім вырастае магутны Кнут Скуеніекс, прэзыдэнт Латвійскага ПЭН-цэнтру, таксама колішні дысыдэнт і вязень брэжнеўскіх палітзонаў. Упершыню з Кнутам мы сустрэліся ў сакавіку 1989-га на шаўчэнкаўскіх урачыстасьцях у Кіеве, дзе тады яшчэ верхаводзіў таварыш Шчарбіцкі і куды мы з Рыгорам Барадуліным зьявіліся зь вялікімі бел-чырвона-белымі значкамі, за што нас разам зь яшчэ больш небясьпечнымі прыбалтамі і гадаванцам Кіеўскага ўнівэрсытэту малдаванінам Барысам Марыянам (на вакзале яго ад імя юбілейнага шаўчэнкаўскага камітэту сустракаў былы аднакурсьнік, які некалі напісаў на Барыса данос у органы) пасадзілі ў апошні рад велічэзнага прэзыдыюму ў залі опэрнага тэатру. Там, у глыбіні сцэны, быў выдатны назіральны пункт — асабліва тады, калі ў час прамовы Шчарбіцкага ў рампе выбухнула лямпачка й высьветлілася, што за кулісамі хавалася цэлая рота шыракаплечых «рабочых сцэны» ў гарнітурах ад аднаго краўца.

У Шаўчэнкавым вішнёвым садку Кнут апавядаў нам, што гэтак дасканала авалодаў расейскай і ўкраінскай у лягерах: першай — дзякуючы Сіняўскаму і Даніэлю, а другой — ці не самому Васілю Стусу. Чаму ў тых мясьцінах у яго не было настаўнікаў беларускай — пытаньне асобнае.

### Зацемкі з праграмы 61-га кангрэсу Міжнароднага ПЭН-клюбу

Для мяне кангрэс пачынаецца з таго, што нечыя сталёвыя рукі ашчадна падхопліваюць мяне ззаду пад пахі і, як шахматную фігуру, перастаўляюць на паўмэтра ўбок. Па зладжаным такой мэтодаю праходзе спружыніста ўзьбягае на сцэну і кажа прывітальную прамову Вацлаў Гавэл. Паміж іншага дэлегатам прапануецца гісторыя пра прэзыдэнтавага сябра, які адмовіўся заняць высокую дзяржаўную пасаду, спаслаўшыся на тое, што хоча захаваць свабоду творчасьці. «Хто ж будзе гарантаваць гэтую свабоду, калі ўсе мы возьмем зь яго прыклад?» —

пытаецца прэзыдэнт і глядзіць у залю, дзе ягоная апэляцыя не выклікае прыкметнага энтузіязму. Магчыма, прычына ў тым, што ці не палова крэслаў апанаваная дэлегатамі з жоўтай скураю. (Дадайце сюды колькі радоў з афрыканскімі калегамі, сярод якіх прымайстраваўся яшчэ не знаёмы мне, падобны да апранутага ў бялюткі гольф баксэра-прафэсіянала пасланец Бэніну, ад якога мне, пакутуючы ад вусьцішных падазрэньняў, давядзецца напрыканцы кангрэсу хавацца.)

Выступы, што прагучаць у канфэрэнц-залі «Атрыюму», а таксама на сэмінарах, круглых сталах і вэрнісажах «Small Languages, Great Literature», «Alternatives to State Support for Books and Literature», «Faces from the History of the PEN Club» etc. (*Do you understand*? Калі не, дык вучыце ангельскую) будуць зьмяшчаць процьму разумных (і ня вельмі) думак і заклікаў да талерантнасьці й яднаньня інтэлектуалаў усіх краін і народаў. У атмасфэры паседжаньняў будзе прысутнічаць адчувальная нялюбасьць да сэрбаў. Фіны прапануюць рэзалюцыю ў падтрымку правоў трансыльванскіх вугорцаў. «Нашы» сярэднеазіяты пашыраць праекты рэзалюцыяў пунктамі аб стварэньні сваіх нацыянальных ПЭН-цэнтраў, але дадаткі будуць чамусьці толькі на расейскай мове, якую большая частка дэлегатаў не разумее без усялякіх намаганьняў, а меншая не разумее, прыкладаючы пэўныя высілкі. Хтосьці запатрабуе катэгарычна забараніць любыя публікацыі з фашыстоўскай начынкаю. Хтосьці абвергне гэтую прапанову, і я ўзгадаю, што дагэтуль ня змог з прафэсійнае цікавасьці прачытаць «Mein Kampf», што, мабыць, ня робіць беларускаму літаратару вялікага гонару.

Салман Рушдзі, якому ў «Атрыюме» дзеля канспірацыі забранявалі, кажуць, адразу тузін нумароў, вырашыў канчаткова зьбіць сваіх верагодных забойцаў з панталыку і зусім не прыехаў. Праўда, высланыя ў Прагу ісламскімі фундамэнталістамі кілеры атрымалі годную замену аб’екту паляваньня ў асобе пісьменьніцы з Бангладэш Тасьлімы, якую на радзіме асудзілі на

сьмерць за творы супраць Карану. Тасьліма ўражвае публіку сваімі ўсходнімі строямі й жывым кольцам з чатырох-пяці целаахоўнікаў. Яна заяўляе, што жанчын прыгнятаюць у любой рэлігіі, але ў ісламе — асабліва. Калега зь Фінляндыі, экспансіўная былая грамадзянка СССР зь пятым пунктам, перакладае мне вершы адважнай бангладэшкі на расейскую: «Сестра моя, женщина! Вот идет мужчина. Не смотри на него. Он — твой враг. Он может заразить тебя сифилисом…»

У крэсьле побач са мною маладая чарнявая харватка, што, як выявілася ў час сьняданьня, ведае колькі дзясяткаў расейскіх слоў. Пераклад верша пра небясьпечнага ісламскага мужчыну дае неблагі шанец працягнуць знаёмства ў пэрспэктыўным рэчышчы размовы аб жанчынах дэмакратычнай краіны Харватыі, аднак мая суседка нечакана кажа, што «сербы убивал ее брат», і ў агатавых вачах западае смутак, які робіць усе магчымыя варыянты абсалютна безнадзейнымі.

### Зацемкі з канцэртнае праграмкі вечару ў джаз-клюбе «Radost»

Музыкаў у джаз-клюбе я так і не паслухаў, бо, пакінуўшы «Атрыюм», праз колькі сотняў крокаў трапіў у абладу іншае музыкі — каменнай, якая прадстаўленая тут ці ня ўсімі эўрапейскімі жанрамі ды стылямі. Спадзяюся, што чытач таксама будзе некалі ісьці над Вэлтаваю, а таму ня стану ладзіць экскурсіяў. Скажу толькі пра асабістае: на Старамескім пляцы, пасьля спатканьня з масянжовым Янам Гусам у шляхетнай апратцы з паціны, прагуляўшыся ўсьцяж дзейнага філіялу цэху сярэднявечных кавалёў у амэрыканскіх джынсах і турэцкіх швэдрах і зьеўшы на стаянцы раскошных фаэтонаў першы ў жыцьці кулёчак гарачых каштанаў, я ледзьве ня нос у нос сутыкнуўся з сваім, мабыць, адзіным на сьвеце цёзкам.

Пра этымалёгію беларускага найменьня Арлой айчынная прэса ўжо ў свой час паведамляла: яго хросная матка — паштарка з нашага аддзяленьня сувязі, якая —

ці кол ёй на галаве чашы, ці стукні па цемечку магнітафонам «Panasonic» — «ў» чытае як «й».

Праскі Арлой (этымалёгія засталася для мяне пакуль што загадкаю) — стварэньне шматкроць больш дасканалае за менскага. Ён ня сварыцца з паштаркаю, ня жлукціць чырвонага віна і не псуе паперы. Здаецца, ён абыякавы да жанчынаў (хоць і не належыць да сэксуальнай меншасьці), а калі ў тэлевізары зьяўляецца ягоны прэзыдэнт, цёзку не наведвае неадольнае жаданьне намацаць рукою прас.

Праскі Арлой утульна й выгодна ўладкаваўся пяць стагодзьдзяў таму на ратушы, адкуль спраўна паказвае час, робячы гэта з дапамогаю сьвятых апосталаў ды ўсьмешлівага шкілету, што ў патрэбны момант торгае за вяроўку і засяроджана лічыць мэлядычныя ўдары.

Менскі Арлой сьцішана зайздросьціць праскаму і зь сьветлай думкаю пра тое, што здарыцца праз пяць стагодзьдзяў зь ім, недасканалым менскім Арлоем, загаджвае смакавыя рэцэптары каваю капучына.

Зацемкі з запрашальніка на прыём
да прэм’ер-міністра Вацлава Клаўса

У чым я абсалютна ўпэўнены па дарозе ў Ліхтэнштайнскі палац (мая дэмакратызацыя зайшла настолькі далёка, што гальштук застаўся ў гатэлі забаўляць пакаёўку), дык гэта ў тым, што прэм’ер-міністар Рэспублікі Беларусі (нават калі ім стане хтосьці з былых сяброў, якія адрэйфавалі ў вялікую палітыку) мяне на прыём ніколі не запросіць. Ня тая, перапрашаю за выраз, мэнтальнасьць.

Дарэчы, пра мэнтальнасьць. Малады ўкраінскі паэт Валадымыр Цыбулька (ён прыбыў у Прагу на пракладных, ня маючы грошай на зваротны шлях, аднак пасьпеў ужо раскруціць амэрыканскага фундатара й засьведчыць, што ставіцца да расейскіх дэлегатаў, далікатна кажучы, без празьмернага піетэту) падлівае мне мараўскага чырвонага і ненавязьліва зьвяртае маю ўвагу на паводзіны маскоўскае каманды, якая нейкім чынам

пратачылася на прыём ва ўсім сваім нелегітымным і галодным складзе.

Празаік Віктар Ерафееў (ня блытаць з аўтарам «Масквы—Петушкоў» Венядзіктам) дзейнічае паводле простай, але надзейнай схемы: першым кідаецца да смажанага малочнага парасяці, паведамляючы, што заняў чаргу «на всех». Імгненна падрульваюць астатнія два дзясяткі расейскіх майстроў прыгожага пісьменства, і ў выніку нам з Валодзем, якія дыхалі ў патыліцу аўтару «Русской красавицы», не дастаецца нават хваста. Афіцыянт са шкадаваньнем разводзіць рукі і выбачаецца: «Рускія». Абсалютна тое самае адбываецца пры дзяльбе асятра: пакуль мы лыпаем вачыма ды жывімся трошкі большымі за колішнія мэталёвыя рублі лусьцікамі, Ерафееў, яшчэ не дажаваўшы парасяціны, ужо стаіць напагатове каля велізарнае рыбіны.

«Запомнім, Валодзя, — кажу я пану Цыбульку, — калі мы ў чарзе з расейцам і хочам нешта здабыць, мусім стаяць першымі, бо нават апынуўшыся другімі, атрымаем дулю з макам».

Урэшце, ня варта ідэалізаваць і пасланцоў вольнага сьвету: вярнуўшыся з кубачкамі кавы да свайго століка, мы бачым, як двое паўднёвакарэйскіх калегаў аплятаюць упрыкуску з чорным хлебам нашыя цестачкі, бадзёра запіваючы экзатычнае славянскае едзіва віном з нашых келіхаў.

У міжнароднага сакратара ПЭН-клюбу спадара Алекса Блока манеры, на шчасьце, іншыя. Мы абменьваемся некалькімі ветлівымі фразамі па-расейску, бо ён з расейскіх эмігрантаў і ягонае сапраўднае імя — Аляксандар Блок.

Калі верыць карткам гасьцей і дэлегатаў кангрэсу, дык побач з намі робіць птушыны глыток з вузкага келіху нэрвовая румынка Анна Бляндыяна, аўтарка бліскучых навэлаў і цудоўнага эсэ пра вольных дэльфінаў, напісанага аднойчы пасьля вяртаньня з салёну мадам Чаўшэску, якая, кажуць, прымала яе як родную дачку.

Чэскі прэм’ер Клаўс вырашае прысьвяціць свой вечар мяцежнай Тасьліме, што з зайздросным для асуджа-

най на сьмерць смакам паядае аздобленую ківі беларыбіцу…

Залітыя залаціста-зялёным сьвятлом начныя Градчаны плывуць у прасторы зусім побач зь легкадумнаю поўняй. Ад чароўнага відовішча мяне адрывае калега з Бэніну, што з грацыёзнасьцю тапіра апускаецца на аўтобуснае крэсла побач са мною, пачынаючы зьвіваць вяровачку сюжэту, які пагражае скончыцца для мяне дзе-небудзь у экватарыяльных джунглях.

## Зацемкі з квітка ў тэатральную кавярню «Viola»

У гэтай кавярні з амфітэатрам столікаў адбываецца вечарына сучаснай расейскай паэзіі. Прадстаўнік гаспадароў зь нечакана ўсходнеславянскім — хоць прыкурвай — носам папярэджвае паэтаў, што будзе даваць слова паводле чэскага альфабэту і ня болей чым на пяць хвілінаў.

Юнна Морыц з артыстычным надрывам чытае пра тое, што

*Когда мы были молодыми,*
*И чушь прекрасную несли,*
*Фонтаны были голубыми,*
*И розы красные цвели.*

«Даже какие-то белорусы» паважаюць паэтку Ю. Морыц, нават тады, калі яна жыве не ў шыкоўным гатэлі, а — з задрыпаным чайнікам і нізкаю сасісак — у расейскім пасольстве. (Гэта не перашкодзіць нам аднаго разу досыць падрабязна пазнаёміць яе з мэню нашага сьняданку.)

Яўгені Рэйн (эвангеліст Лука, якім ён мне заўсёды ўяўляўся, але ў сучасным эўрапейскім гарнітуры) дэклямуе добрыя вершы пра рымскую барахолку.

«Чтобы вы поняли, как я деградировал, — заяўляе А. А. Вазьнясенскі, — вначале я почитаю старые стихи». Старыя тэксты сапраўды ўражваюць больш за новыя, нават і тады, калі далучыць да іх разьвешаныя ў фае па-

рыскія відэомы А. А., сярод якіх добрым веданьнем натуры вылучаецца дупця, прапанаваная воку на аснове дзі нейкіх дзьвярэй ад Кардэна.

Зацемкі зь візытоўкі былога футбаліста вышэйшай лігі, а цяпер паэта й рэдактара маскоўскага часопісу

Сустрэча зь філёлягамі Карлавага ўнівэрсытэту. Сюды запрасілі беларусаў і ўкраінцаў, а колішні футбаліст узьнік побач ні з пушчы ні з поля — як быццам на нейкім узроўні было вырашана: «белоруссов и малороссов без присмотра не оставлять».

Папярэдне вызначаная тэма — «ваенная проза», таму галоўнай дзейнай асобаю робіцца Сьвятлана Алексіевіч зь яе жанчынамі зь першай кнігі і цынкавымі хлопчыкамі з апошняй. (Мы яшчэ ня хочам здагадвацца, што праз месяц грымнуць чачэнскія падзеі й вытворцы цынкавых трунаў зноў запусьцяць свой зьлёгку заржавелы канвэер на поўную магутнасьць.) Гаворка ідзе пра два погляды на Другую сусьветную вайну — з Захаду і з Усходу. Пра тое, што чалавечае жыцьцё ня можа быць роўнае ні трактару, ні танку, ні цэлай дзяржаве. Пра беларускую партызаншчыну (чэхі, якія да траўня 1945-га ў немцаў практычна не стралялі, далікатна ня ўпэўненыя, што для нашай нацыі гэта быў найлепшы шлях самазахаваньня).

Маскоўскі калега адчувае сябе пакрыўджаным і рашуча цягне коўдру на сябе. Для пачатку ён паведамляе прысутным, што яны могуць не хвалявацца: усё адно раней ці пазьней Расея, Беларусь і Ўкраіна будуць разам. Прамоўцу відавочна смажыць. Асушыўшы бутэльку тоніку, ён працягвае палітынфармацыю, прычым сярод палітычных тэрмінаў усё больш годнае месца займаюць лексэмы «хрен» і «говно», у выніку чаго студэнтачкі заліваюцца цнатлівым філялягічным румянкам.

Атрымаўшы слова, я кажу пра Ларысу Геніюш, якая выдала ў Празе сваю першую кнігу, пра Францішка Скарыну, пра магістра Гераніма Праскага і яго казані

ў Вільні й Віцебску, пра пяць тысячаў беларусінаў, якія бралі ўдзел у гусіцкіх войнах і пра тое, што якраз дзеля барацьбы з пасьлядоўнікамі Яна Гуса ў 1436 годзе ў Вялікім Княстве Літоўскім была ўведзеная інквізыцыя, дзейнасьць якой, праўда, трывала ў нас усяго 43 гады. Пытаньні да мяне не зусім па тэме. Колькі ў Менску цалкам беларускамоўных школаў? Няўжо гэта ня плёткі, што беларускі прэзыдэнт ня ўмее гаварыць па-беларуску і не выпускае на людзі жонку?

Былы форвард зноў дае сабе слова дзеля выступу ў іпастасі рыфмара. У працэсе дэклямацыі ён, згадаўшы спартовае юнацтва, робіць усім корпусам імпэтныя рухі, стукае кулаком па стале і ўрэшце перакульвае поўную бутэльку з тонікам, утвараючы на стальніцы вялікую лужыну з абрысамі Чорнага мора, на берагах якога некалі вучыўся стукаць па мячыку і лаяцца матам.

Назаўтра я сустракаю яго ў гатэльным калідоры зь юным стварэньнем, якое маэстра, прапусьціўшы доўгія ножкі наперад, рэкамэндуе мне як «девочку на ночь». Пра тое, што яна дазволіла рабіць з сабою, я стараюся ня слухаць. Мне здаецца, што такія рэчы павінны заставацца таямніцаю для дваіх і ў тым выпадку, калі адна з гэтых дваіх — «девочка на ночь».

### Зацемкі з запрашальніка на круглы стол «Franz Kafka — Trial and Metamorphosis»

Замест круглага стала мы зь Сьвятланаю ў суправаджэньні прафэсара Карлавага ўнівэрсытэту пана Вацлава Жыдліцкага (некаторыя кнігі Ўладзімера Караткевіча ў ягоным перакладзе ў Празе выйшлі раней, чым у Менску) ідзем на старажытны габрэйскі могільнік, які чэхі захавалі ў самым сэрцы Старога Места. Няхай ахвочыя вінавацяць мяне ў чым заўгодна, але гэтыя могілкі — адно з маіх наймацнейшых праскіх уражаньняў. Хаваць тут пачалі ў XV стагодзьдзі, а апошняе надмагільле датаванае 1787 годам, і, калі блукаеш па зацярушаных кляновым лісьцем вузенькіх сьцежках сярод дванац-

цаці тысячаў сьпярэшчаных габрэйскімі пісьмёнамі плітаў, міжволі й сам у закутку душы робісься габрэем.

Менавіта адсюль найлягічней выправіцца ў блізкі музэйчык аўтара «Замку» й «Працэсу», каб, сустрэўшы ў доме, дзе ён жыў, строгія фатаздымкі з габрэйскімі абліччамі, графічныя й скульптурныя партрэты і хранальягічныя табліцы, пагадзіцца, што зыбку, дзе Франак Кафка сікаўся, келіх, зь якога піў, стол, за якім ствараў, гэтаксама, як і наш круглы стол, зусім няцяжка прыдумаць, як табе падабаецца.

Зацемкі з чыстай старонкі
ў кнізе «Czech Writers on Tolerance»

Яны прысьвечаныя візыту на іншыя праскія могілкі — Альшанскія, куды нас вядзе пан Міласлаў Зіма, што гаворыць па-беларуску лепей, прынамсі, за двух нашых народных пісьменьнікаў.

Сьцьвярджаюць, што гэтыя клады — адзін з найбуйнейшых нэкропаляў расейскае эміграцыі. Цэлы шыхт «белых» генэралаў. Маці Набокава. Куток казацкіх палкоўнікаў.

Каля праваслаўнае царквы ў стылі пскоўска-ноўгарадзкіх храмаў знаходзім беларускія магілы: справа — прэзыдэнта БНР Пётры Крэчэўскага, зьлева — жонкі яшчэ аднаго прэзыдэнта, Васіля Захаркі, з такой самай «Пагоняю» на помніку. Да помніка прыхінутая замшэлая плітка, дзе даты жыцьця самога прэзыдэнта Захаркі расчытаць ужо немагчыма. (Міжволі ўзгадваюцца бачаныя ўчора дагледжаныя габрэйскія магілкі XVII і XVIII стагодзьдзяў.) Празь якіх пару крокаў — сьвежае надмагільле: Міхал Забэйда-Суміцкі.

Як на мой кансэрватыўны беларускі густ, дык для сябе я ўсё ж выбраў бы самую занядбаную магілку, а ня цацачную вазачку за вакенцам тутэйшай сьцяны-калюмбарыю (яна чамусьці нагадвае мне батлейку) і, пагатоў, ня чысты зялёны лужок без усялякіх апазнавальных знакаў, над якім нядаўна разьвеялі прах жонкі нашага праваднікa.

Зацемкі з праграмы паездкі
на міжнародны фэстываль «Divadlo-94» у Пльзэні

Тлумачу: *divadlo* — гэта па-чэску тэатар. Музыка — гудба, а, напрыклад, мэдыятар — калі не памыляюся, грашка. Перад намі вынік аднаго з прынцыпаў чэскага адраджэньня. Мы заварушыліся пазьней, і — маем мэдыятар. Але тэатральны балькон у чэхаў празь нечы недагляд усё ж — балькон, і якраз на ім дэлегаты кангрэсу дзеляцца ўражаньнямі ад толькі што ўбачанага спэктаклю паводле «нехорошей» п'есы «Салавей на вячэру», доўгі час забароненай і ў нас і ў Чэхіі, на радзіме свайго аўтара Ёзэфа Топаля. Трэба адразу сказаць, што «Салаўя» не пускалі ў народ цалкам заслужана: ну што магла сказаць розуму ды сэрцу савецкага чалавека гнюсная гісторыя пра гнілую інтэлігенцкую сямейку (ці, дакладней, зграю), якая завабіла да сябе госьця, каб пасьля розных інтэлектуальных выкрунтасаў са смакам зьесьці яго на вячэру?

Гэтую шкодніцкую дысыдэнцкую штучку мы мелі гонар глядзець у цёмнай пустой залі проста з сцэны, дзе гасьцям паставілі колькі дзясяткаў крэслаў, паабяцаўшы нікога ня есьці.

Цяпер заля запоўненая публікаю, а на сцэне пачынаецца адкрытая дыскусія Вацлава Гаўла зь ягонымі даўнімі сябрамі Артурам Мілерам і Томам Стопардам — «Not only about the Theatre».

Услухоўваючыся ў чэскую й ангельскую мовы, я ўяўляю на месцы чэскага прэзыдэнта — свайго. Ролі Мілера й Стопарда, здаецца, з аднолькавым посьпехам маглі б выконваць, ну, скажам, Умбэрта Эка з Куртам Вонэгутам. Зрэшты не, італіец Эка да вышыні патрэбнае планкі наўрад ці дацягне, бо ў яго пэўныя праблемы з ангельскаю, а тым больш — з расейскаю (а толькі на іх, як патлумачыў нам нядаўна наш прэзыдэнт, і магчыма размаўляць пра высокія матэрыі). З той самай прычыны кіраўнік маёй роднай дзяржавы, відаць, адмовіцца ад публічнае дыскусіі з Габрыелем Гарсія Маркесам ці, на-

прыклад, з нобэлеўскім ляўрэатам Актавіо Пасам, і давядзецца пасылаць запрашэньне Джону Фаўлзу.

Ужо двойчы згаданы калега з Бэніну, імя якога на нашай беднай мове немагчыма ні трансьлітараваць, ні вымавіць, на дыспут зь беларускім прэзыдэнтам не прэтэндуе. Ён пахне вытанчаным мужчынскім адэкалёнам і чамусьці (хоць мы не вучыліся зь ім разам ні ў БДУ імя Леніна, ні ў Сарбоньне) спрабуе ўступіць у дыскусію з мною, прычым — на вялікі жаль — па-француску.

Спробы доўжацца і на вячэры ў велізарнай, быццам графская стайня, пльзэньскай рэстарацыі на слыннай тамтэйшай піваварні. У начным аўтобусе па дарозе ў Прагу ў мяне зьяўляюцца рэальныя пэрспэктывы паездкі на паляваньне ў Афрыку. Мой новы сябар гарантуе ліцэнзію на адстрэл як найменш аднаго зьвера, якога завуць элефантам, ня кажучы ўжо пра розную драбязу накшталт шакалаў і антылёпаў. Пасьля вылазкі ў джунглі мы будзем вяртацца ў бунгала, дабаўляць у вялікую шклянку віскі сымбалічную кропельку содавай і размаўляць пра жанчын або плесьці фабулы новых літаратурна-мастацкіх твораў, вартых гэтага віскі ды гэтай сучаснасьці. Я, прызнаюся, хачу ўдакладніць некаторыя нюансы бэнінскае буколікі, але як на тое, забываюся, як будзе па-ангельску «канібал».

У родным «Атрыюме» ў глыбокім одуме сядзіць на краі фантану паэт Валодзя Цыбулька, падобны да павялічанага ў паўтара разу і прыкладна ў столькі ж разоў цьверазейшага паэта Анатоля Сыса. Валодзя адмовіўся ад вандроўкі ў Пльзэнь на той законнай падставе, што пльзэнскага не бракуе і ў Празе. У сябе на бацькаўшчыне ён складае файныя вершы й займаецца раскольніцкай дзейнасьцю ў шэрагах іхняга саюзу пісьменьнікаў. Паэтавы чаравікі спачываюць побач, наводзячы на думку, што ў дадзены момант калега вырашае кардынальную эстэтычную праблему — мыць ці ня мыць у гэтым пяцізоркавым фантане натруджаныя за доўгі творчы дзень ногі?

Паўз нас з пляшкаю ў руцэ праносіцца маскоўскі экс-форвард. Японскія й карэйскія калегі спраўна вядуць у нумары сьветлых эўрапэоідных істотаў з цыбатымі нагамі. Я зь сьветлым сумам разумею, што й гэтую ноч у сваіх утульных чатырох сьценах з двума шыкоўнымі ложкамі мне давядзецца бавіць тэт-а-тэт зь незабыўным вобразам адной грамадзянкі Рэспублікі Беларусі, якая на адвітаньне прасіла мяне моцна ёй ня здраджваць.

Праз колькі хвілінаў высьвятляецца, што я памыліўся. У дзьверы нумару асьцярожліва стукаюць. У «вочку» я бачу маціцовую ўсьмешку дагледжаных зубоў бэнінскага сябра. З калідору чуецца ласкава-ўніклівае «Volod'ja!». Нацягваючы нагавіцы, я намагаюся адэкватна ацаніць сытуацыю. У спавітых мяккім пльзэньскім хмелем зьвілінах тоўпяцца самыя розныя непамысныя здагадкі. Трэба зь пякучым сорамам канстатаваць, што над усімі магчымымі «ізмамі», якія маглі б натхніць майго чарнаскурага знаёмага на такі позьні візыт (марксізм-ленінізм, ісламскі фундамэнталізм, гомасэксуалізм...) прэвалюе халодная думка пра канібалізм.

Змабілізаваўшы свае сьціплыя веды з ангельскай, я ўдавана сонным голасам заяўляю, што ўжо сплю. Гэта не аргумэнт. Стукат (а разам зь ім і рэмінісцэнцыі зь Ёзэфа Топаля) робіцца больш настойлівы.

«Volod'ja!»

Роспач нараджае нестандартную ідэю. «My dear friend! — сьціскаючы ў зьбялелых пальцах газавы балёнчык, адгукаюся я. — I am not alone. There's a lady with me».

Гэта — выратаваньне.

«Sorry, — чуецца з-за дзьвярэй. — Good night!»

Перавёўшы дух, я вырашаю прыняць нанач ніштаватую порцыю старой добрай «белавескай» — і без усякіх содавых.

## Зацемкі на чыгуначным квітку «Менск—Прага», зробленыя падчас разьвітальнае праходкі

Гэтыя зацемкі прэтэндуюць на лягічную сувязь між сабою прыкладна так, як па-лістападаўску шорсткія лісты на набярэжнай Вэлтавы.

Карлаў мост, калі йдзеш па ім на Градчаны, нагадвае дарогу ў чысьцец…

Кажуць, хтосьці зь дзеячаў тутэйшага нацыянальнага адраджэньня пісаў, што чэская мова канчаткова пераможа тады, калі на ёй загавораць праскія прастытуткі. Я маю пэўны сумнеў, што мой опус прачытаюць іхнія беларускія каляжанкі. Таму, калі ў вас надарыцца магчымасьць, перадайце нашым валхвіцам каханьня, што ў немалой ступені лёс нацыянальнага рэнэсансу залежыць ад іх…

Апоўдні на Градчанах адбываецца зьмена ганаровае варты. У Гаўлавай рэзыдэнцыі зьнячэўку адчыняюцца вокны, і гарністы з бубначамі пры поўным парадзе выконваюць свае партыі, стоячы на падваконьнях. Гэта лішні раз нагадвае, што на чале дзяржавы стаіць асоба, зьвязаная ў недалёкім мінулым не з палітаддзелам, а з тэатрам…

У Чэхіі чалавек з адукацыяй гісторыка павінен абавязкова ўзгадаць Каралядворскі рукапіс, знойдзены ў 1817 годзе на дзень сьвятой Людмілы ў касьцельнай вежы, зь якой можна было акінуць вокам увесь Двур Кралове-на-Лабе. У нас нішу стваральніка нацыянальнага эпасу меў шанцы заняць Сяржук Сокалаў-Воюш, які ўжо напісаў быў дзьве зь лішнім тысячы радкоў. Замест гэтага Сяржук зьехаў у Нью-Ёрк, дзе гадуе двух амэрыканскіх сыноў і, мабыць, ужо ня памятае, што я мог бы знайсьці Полацкі рукапіс на дзень памяці сьвятой Эўфрасіньні ў галубніцы Сафійскага сабору, дзе ён быў замураваны з часоў Усяслава Чарадзея…

### Зацемкі, пачатыя на тэлефоннай картцы з аўтапартрэтам Анры Русо і закончаныя на сурвэтцы з кавярні «Чартоўка»

Гэтыя зацемкі трансфармаваліся ў верш, дзе ёсьць такія вось радкі:

*...бэхераўка афарбуе вечар*
*зялёнай гамаю,*
*чамусьці прынесшы згадкі*
*пра паручніка Лукаша,*
*што лічыў усіх чэхаў,*
*якія гавораць па-чэску,*
*нечым накшталт карбанарыяў.*
*Набярэжная Вэлтавы*
*будзе філіялам*
*гэтага таемнага таварыства,*
*прапанаваўшы багатыя магчымасьці*
*параўнаньня праскіх ножак*
*з тваімі,*
*якія захочацца разбудзіць*
*у ранішнім нумары*
*цёплага восеньскага гатэлю,*
*над кавярняй*
*з свойскаю назвай «Чартоўка»,*
*дзе ў сьпісе заўсёдных кліентаў*
*значыцца пара лебедзяў,*
*што будуць цярпліва чакаць,*
*пакуль мы пакінем*
*яхту нашага ложку,*
*спусьціўшыся на прыстань,*
*дзе можна карміць белых птушак,*
*замаўляючы бурштынавае віно,*
*пакуль Градчаны*
*не паплывуць па-над местам,*
*як славянскія думкі*
*Вэлтавы.*

*1994–1995*

# Беларусізацыя Ангельшчыны

## Аэрапорт Гітроў

Прыкладна тры тузіны адказных асобаў з Інтэліджэнс Сэрвіс і Скотлэнд Ярду смакталі свае цыгары, запіваючы іх у навакольных пабах тарфяна-цёмным «Гінэсам», і дэманстравалі злачынную бязьдзейнасьць.

Тым часам падазрона рудабароды містэр з чырвоным пашпартам няіснае дзяржавы і сумнеўным прозьвішчам Arlou ня толькі пасьпеў выгрузіцца з «Боінга», але і назваць сябе ў картцы прыбыцьця грамадзянінам ня менш падазронай Рэспублікі Беларусі, дзе, як пішуць «Таймз» і «Гардыян», проста ў парлямэнце прэзыдэнцкая ахова бамберыць дэпутатаў, а сам прэзыдэнт замест таго, каб вывучыць дзяржаўную мову, зьбіраецца абвясьціць дзяржаўнай тую, за якую, сьцьвярджаюць зласьліўцы, меў у школе нядобрую адзнаку.

Больш за тое — мімаходзь успомніўшы, як летась у партовым Рамсгэйце яго трэсьлі ледзьве не гадзіну, прафэсійна абмацваючы кепурку і прымушаючы зьлёгку распранацца, Arlou, быццам мыш пад вусатым носам у сытага ката, прашмыгнуў без усякае праверкі валізаў да выхаду і абсалютна спакойна, нібы дзе-небудзь на полацкім вакзале, узяўся гартаць каля тэлефонаў-аўтаматаў спрэс сьпісаны тарабарскай кірыліцаю нататнік, няўважліва назіраючы за фантастычным для нязвыклага вока відовішчам узьлётнае паласы тэрміналу № 2, адкуль кожныя дзьве хвіліны ўздымаюцца ў паветра лайнэры ўсіх магчымых колераў і авіякампаніяў.

І яшчэ мацней санлівыя спадкаемцы славы Кіма Філбі мусілі б устурбавацца, каб даведаліся, што гэты рудабароды суб'ект прынцыпова (і ў лепшым разе з пачуцьця нацыянальнае фанабэрыі) вырашыў перакладаць у сваіх запісах усе ангельскія назвы на мову, якой не валодае нават ягоны сувэрэнны прэзыдэнт.

Карацей, не мінулася й дзесяці хвілінаў, як, пашкадаваўшы фунт на бляшанку піва, *Arlou* схаваўся ў нетрах лёнданскай падземкі і на цэлыя два тыдні зьнік зь відавоку брытанскіх спэцслужбаў.

### Трафалгарскі пляц

Скажу вам, што калі замест *Trafalgar Square* падумаеш па-наску: Трафалгарскі пляц, ракурс успрыняцьця наваколья адразу зьменіцца. Двое шатляндцаў у чырвона-брунатна-зялёных клятчастых спадніцах, прытупваючы загарэлымі нагамі, пачнуць, напрыклад, выдзьмуваць з сваіх дудаў варыяцыі на тэму «Купалінкі», ня кажучы ўжо пра сьціжму тутэйшых галубоў, якія адразу забуркуюць на прыдняпроўскай галубінай трасянцы мамінай і прэзыдэнтавай малой радзімы.

Пляцавыя цемнаскурыя мастакі за 10 фунтаў гатовыя бязь лішніх ваганьняў стварыць ваш графічны партрэт. Я паказваю ім жаночае фота і — на ўсякі выпадак — купюру. Паразуменьня не атрымліваецца: цемнаскурыя майстры пэндзлю прагнуць бачыць белую жанчыну ў натуры.

Парачка маладых нецьвярозых мурынаў, асядлаўшы чорных трафалгарскіх ільвоў, адну за адной зь відочнаю асалодай б’е аб бэтонныя пліты пляшкі з-пад піва. З аналягічнаю эмоцыяй праз колькі хвілінаў хуліганістых маладзёнаў таўкуць, запіхваючы ў белы ангельскі «варанок», бамбізы-палісмэны, якія прымушаюць мяне ўзгадаць блатную песеньку папулярнага расейскага барда: «Я не расист, но я за белых, бля, за белых, бля, за белых...»

Дарэчы, пра белых і цёмных.

Беларускі мастак-эмігрант Валера Мартынчык лічыць, што да каляровых падданых яе вялікасьці брытанскае каралевы ангельцы маюць сантымэнт значна цяплейшы, чым да нас, славянаў, ці наогул да ўсходнеэўрапейцаў. Першыя — гэта сяляне, якіх гаспадары добра ведаюць і разумеюць яшчэ з тых часоў, калі вешалі

іх на бастыёнах каляніяльных фортаў і спрактыкавана перылі стэкамі. (Памятаеце вучаныя ў расейскай школцы нашага дзяцінства задушэўныя радкі савецкага паэта: «Хороший сагиб у Сами и умный, только уж больно дерется стеком...»?)

Таму мы з Валерам ня будзем біць каля Нэлсанавай калёны пустыя бутэлькі, а схаваемся ад паліцыі ў залях Нацыянальнае галерэі, сходы якой пачынаюцца проста з пляцу, і там, апрача Батычэльлі, Рубэнса й Рэмбранта, як увасабленьне яшчэ адной прыкметы беларусізацыі Злучанага Каралеўства, сустрэнем студэнтку з Кембрыджу Алену Шушкевіч, якую ня трэба блытаць з дачкою экс-сьпікера, што цяпер возіць па праспэкце Скарыны ў Менску маленькую экс-сьпікераву ўнучку, якую, будзем спадзявацца, у XXI стагодзьдзі нехта таксама сустрэне ў блізкіх ваколіцах парку сьвятога Джэймза.

Калі ты ў галерэі не адзін, уступіць у дыялёг з творамі мастацтва бадай немагчыма. Тады ты выслухоўваеш розныя гісторыі й зьвяртаеш увагу на калямастацкія мізансцэны. Вось каля «Парысава суду» настаўніца ставіць перад сваім клясам трох дзяўчатак і дае хлопчыку-«Парысу» румяны яблык. Я сачу за падзеямі пад акампанэмэнт Валеравых аповедаў.

Першы сюжэт — пра менскага мастака Басава, які нядаўна перасяліўся ў лепшы сьвет і якога Валера лічыць амаль геніем. Талент апавядальніка дазваляе ўявіць і самога немаладога габрэя, і тое, як ён глядзіць у дзьвярное «вочка» майстэрні й дыхае з таго боку, але пакупнікоў, хоць зь імі ўчора й дамовіўся, да сябе не пускае: тым проста не пашанцавала, бо дзьверы ў такіх выпадках мастак Басаў нязьменна адчыняе толькі адзін раз з трох.

Другі — пра мастацкую выставу, дзе Валера разам з сваімі абстрактнымі кампазыцыямі паказаў публіцы некалькі малюнкаў мужчынскіх фігураў, у выніку чаго атрымаў ад масьцітага мастацтвазнаўцы букет кампліментаў, у які было ўторкнутае запрашэньне да мастацкае знакамітасьці сусьветнага сумеру, але ў пры-

значаны дзень спазьніўся. Апошняя акалічнасць і дала Валеру магчымасьць высьветліць, што самай важкаю прычынай запрашэньня былі менавіта мужчынскія фігуры.

Потым мы досыць лягічна бярэм курс на ўлюбёны паб Оскара Ўайлда, дзе праз два дні я апынуся за адным столікам з мэксыканскаю студэнткай, якой дам першы і, відаць, апошні ў яе жыцьці ўрок беларускае мовы. Больш дэталёва гэты эпізод будзе распрацаваны ў вершы пад двухсэнсоўнаю назваю «1 красавіка 1995 г.», адкуль будучы чытач даведаецца пра тэатральны ўздых палёгкі, калі я здолеў растлумачыць маёй спадарожніцы, што не ва ўсім падзяляю густы аўтара «Баляды Рэдынгскай турмы», а таксама, што гэта абсалютна ня значыць, што пасьля пінты піва і дзьвюх філіпінскіх цыгарэтаў смуглявая ручка ўжо мае права расшпільваць гузікі на зялёнай кашулі, якая памятае зусім іншыя пальцы, і працягваць сваю рызыкоўную экскурсію, пакуль ты намагаесься прадэклямаваць страфу мясцовага клясыка пра зайздроснае шчасьце мяняць стан душы гэтаксама проста, як пэні можна памяняць на шылінг. Намёк застаецца незразуметым, мовы катастрафічна не хапае, аднак, прапусьціўшы неістотныя дэталі, ты павінен з усёй адказнасьцю прызнацца, што вашае разьвітаньне не нагадвала ўцёкі, бо мэксыканскія студэнткі не павінны кепска ўспамінаць мужчынаў з Рэспублікі Беларусі, асабліва тады, калі толькі што пачулі пра яе існаваньне.

### Магіла Маркса

Штодня я двойчы праяжджаю падземкаю праз станцыю Гайгэйт. Аднаго вечару мае гасьцінныя гаспадары на чале з айцом Аляксандрам Надсанам зьдзіўляюцца, чаму я дагэтуль ня выйшаў там з вагону, каб ускласьці што-небудзь на магілу Карла Маркса.

У кантэксьце падрыхтоўкі майго візыту на могілкі містэр (а таксама мэсье й спадар) Гай Пікарда, дасьледнік беларускай царкоўнае музыкі, а таксама Скарынава-

га захапленьня кабалістыкай, знаёміць мяне зь некаторымі малавядомымі старонкамі самаахвярнага жыцьця клясыкаў навуковага камунізму, якіх ён бязь лішняга піетэту мянуе «лёнданскім п’яніцам» і «сімбірскім сыфілітыкам». (Паміж усяго іншага я, у прыватнасьці, даведваюся, як у свой час ангельская паліцыя заслала на лёнданскую бальшавіцкую канфэрэнцыю сакрэтнага агента, што, вярнуўшыся назаўтра ў офіс, здаў начальству бліскучую справаздачу з аднаго сказу, сэнс якога зводзіўся да таго, што дыскусія адбывалася на якойсьці незразумелай мове, а таму ён, агент, ані каліва не зразумеў.)

Выяўляецца, што за нейкую мілю ад цяперашняй Беларускай каталіцкай місіі таварыш Маркс неаднаразова наладжваў грунтоўныя вандроўкі па пабах, жвава дыскутаваў з прыгнечанымі капіталам ангельскімі пралетарамі, а аднаго разу, расьперажываўшыся за іхны гаротны лёс, хапянуў трайную дозу і размалаціў парасонам вулічны ліхтар, пасьля чаго спрытна ўцёк ад паліцыі.

Гэтыя зьвесткі робяць клясыка больш чалавечным і больш блізкім, і я штодня сапраўды зьбіраюся выйсьці ў Гайгэйце з вагону, але так і не магу прыдумаць, што ж я там ускладу.

## Яйкі ў чаравіках

Не адшукаўшы ў адкрытых турыстам залях Брытанскае бібліятэкі старадрукаў Францішка Скарыны, я задавальняюся разгляданьнем выстаўленых у вітрынах рукапісаў знакамітасьцяў.

Джойсава рука размашыста вадзіла па грубай жаўтлявай паперы простым алоўкам, а потым рашуча перакрэсьліла напісаныя зь вялікімі прабеламі радкі чырвоным. (Гаворка ідзе пра яшчэ невядомага нам «Фінэгана».)

Гросбух з чарнавіком Даніэля Дэфо адпачывае ад літаратурных практыкаваньняў гаспадара побач зь лістом Джонатана Суіфта, па сумяшчальніцтве ангельскага шпіёна ў Ірляндыі.

Джон Кітс, Фрэнсіс Бэкан, сёстры Брантэ…

Вітрына з аўтографамі «Бітлз».

У бібліятэчнай кнігарні можна набыць іх факсыміле, а таксама сьвежы даведнік «Вялікабрытанія-1995: 50 гадоў пераменаў». Мне ўдаецца даволі зграбна перакласьці кавалачак прадмовы: нягледзячы на зьяўленьне хуткасных аўтастрадаў, на масавае адмаўленьне ад ялавічыны і цукру ды іншыя велізарныя зьмены, брытанцы працягваюць лічыць, што ім выпала незайздросная доля нарадзіцца ў найгоршай для жыцьця краіне сьвету, калі ня ўлічваць, вядома, усіх астатніх краінаў.

Разумовыя высілкі над старонкамі «Вялікабрытаніі-1995» годна вянчае бляшанка элю (9% алькаголю).

На лавачцы перад уваходам, скінуўшы чаравікі, можна выцягнуцца на сонейку побач з закаханай французскай парачкай, а прачнуўшыся, — усьцешана ўпэўніцца, што з абуткам на тым баку Ля-Маншу праблемаў няма, як няма іх і з шакалядавымі велікоднымі яйкамі, якія табе пакінулі на памяць: па два ў кожным чаравіку.

Згаладала зжаваўшы палову прэзэнту, я раблю канспірацыйны званок у Менск: заўтра на сувязь не выхо_джу, бо еду з заданьнем у Оксфард.

## Оксфардзкія пэргамэнты

Оксфардзкая готыка мае пэргамэнтавы колер. Яе столькі, што пачынае кружыцца галава. А можа, ва ўсім вінаватая завея, што аздабляе сьнегавымі хлапякамі каменную разьбу, вішнёвую квецень і запацелыя кармінавыя келіхі тульпанаў?

Славутая Бадлэйнская бібліятэка будавалася некалькі стагодзьдзяў. Нават у завіруху яе галерэі, фасады, калёны, валюты і гзымсы хочацца разглядаць гадзінамі.

Нясьціпла адзначу, што наведнік славянскага аддзелу можа пагартаць мой ёмісты опус, прысьвечаны таямніцам полацкай гісторыі, і адхіснуцца ад вусьцішнага аблічча на вокладцы кніжкі з гіпэрбарэйскай назваю «Мой радавод да пятага калена».

Я не самотны: мой «прапісаны» ў Таронта спадарожнік Кастусь Акула (ужо каторы год 25 сакавіка ён сустракае на высьпе свайго юнацтва) таксама пакідае аўтограф на перавыдадзеным летась у Менску рамане «Змагарныя дарогі», яшчэ ня ведаючы, што паводле зьвестак «Нашай Нівы» гэтая кніга зойме ў сьпісе беларускіх бэстсэлераў за першы квартал 1995 году другі верхні радок усьлед за двухтомнікам Уладзімера Караткевіча.

Завяршыць прыемную цырымонію найлепей у пабе пад назваю «Белы конь», дзе кірыліца сьціпла прадстаўленая ўсенародна любімым на неабсяжных абшарах былой Краіны саветаў слаўцом з трох літараў, якое нечая клапатлівая рука патрыятычна надрапала на краі стальніцы, высьлізганай нялічанымі студэнцкімі пакаленьнямі да паркетнага бляску колішніх цэкоўскіх кабінэтаў.

Наступны пункт падарожжа — Крайстчорч-каледж.

Кожны оксфардзкі каледж — гэта горад у горадзе з сваімі неадменнымі бібліятэкай, жылымі і навучальнымі будынкамі, саборам, паркам, катáмі і вавёркамі.

Саборная вежа і дом капітулу ўзводзіліся ў часы атручанага крыжакамі полацкага князя Валодшы. Праз шэсьць стагодзьдзяў тут стукалі па бруку абцасікі дачкі рэктара Алісы Ліддэл, для якой тутэйшы выкладчык матэматыкі Льюіс Кэрал прыдумаў краіну цудаў.

Можа, гэта дух Алісы мільганецца вохрыстай лісіцаю ў прысоленых завірухаю лугах на выезьдзе з Оксфарду?

А фінал верша пра сталіцу ангельскага студэнцтва будзе афарбаваны ў прыглушаныя мэлянхалічныя колеры:

*Лёндан*
*вынырне з завеі*
*мокрай няўтульнасьцю*
*дыкензаўскіх паралелепіпэдаў.*
*Тэмза*
*разам з душою*
*будзе перажываць*

*пэрыяд адліву,*
*а на ўскраіне ночы*
*прысьніцца ангельскамоўны сон:*
*я буду гувэрнэрам*
*малалетняга лорда*
*і пад сьпеў ранішніх драздоў*
*з асалодаю адлупцую яго*
*за нявывучаныя правілы*
*напісаньня «ў».*

## Джаз у «Толі Буш»

Паб «Толі Буш» якраз і вядомы ў Гэмпстэдзе ды ва ўсім Лёндане сваім джазам. Кажуць, мэлёдыі першых кампазыцыяў прагучалі тут трыццаць гадоў таму. З таго часу каманда джазмэнаў захоўвае вернасьць гэтым сьценам піўнога колеру, набываючы разам зь імі ўсё больш імпазантны выгляд.

Блізу паловы дзявятай суботняга вечара на дзьвярах «Толі Буш» можна сьмела вывешваць шыльдачку, што месцаў няма, аднак паб — гэта вам ня менская кавярня ўзору канца 1980-х, і туды вас пусьцяць нават у тым выпадку, калі будуць занятыя ўжо ўсе мужчынскія калені (дый некаторыя жаночыя таксама, бо аматары добрага джазу трапляюцца і сярод лесьбіянак), а вольныя месцы застануцца адно на кандэлябрах.

А дзявятай з-за століка каля сцэны падымецца крамяны стары, якога можна бяз конкурсу запрашаць на ролю Гэмінгўэя, а ўсьлед за ім пацягнуцца, не забываючы захапіць з сабою тонкія пінтовыя кухлі, астатнія музыкі. Калі вы не прапусьціце моманту іх сустрэчы з інструмэнтамі, у вас зьлёгку зашчыміць сэрца — столькі ў гэтых дотыках стрыманай мужчынскай пяшчоты.

Магчыма, вам, як і мне, падумаецца, што пяшчоты хапае ім і на жанчын — нездарма ж кожнага засталася чакаць за столікам падрумяненая півам сяброўка пасьлябальзакаўскага веку.

Магчыма, вам таксама захочацца падумаць, што менавіта ў гэтым складзе (улічваючы сябровак) яны ўпершыню зьявіліся тут у суботу трыццаць гадоў таму, і вы паспрабуеце ўявіць, якімі яны былі тады, калі вы пачыналі лавіць у дапатопных радыёлах «Беларусь» музычныя праграмы «Голасу Амэрыкі» і «Радыё Швэцыі» і балдзелі ад голасу вядучай Тамары Юхансан, непахісна ўпэўненыя, што ў гаспадыні такога голасу і такой музыкі абавязкова павінны быць самі ведаеце якія ногі і грудзі і якія вусны і, ва ўсякім разе, гэтая швэдзкая Тамара ніяк не магла дазволіць сабе быць менш прыгожаю за Тамару Іванаўну, маладую настаўніцу ангельскае мовы, замест якой аднойчы ў кляс зайшоў дырэктар школы Абрам Залманавіч — каб паведаміць, што вашая настаўніца затрыманая міліцыяй у гатэльным нумары і звольненая «за связь с иностранцем». Якія толькі пачуцьці ні абрынуліся на нас пасьля гэткае навіны: і дзіцячая крыўда, і недзіцячая рэўнасьць — быццам вы самі маглі замест «иностранца» ўступіць у гэтую «связь» з настаўніцай, як у сваіх ужо даўно не цнатлівых снах уступалі ў яе з заморскай Тамарай Юхансан, і прага помсты — калі не самому дырэктару, дык хоць ягонай кучаравай дачцэ Лізе, а яшчэ школьным актывістам, якія зьмяшчаюць у насьценгазэце «За отличную учебу» вершыкі кшталту «Сегодня он играет джаз, а завтра родину продаст» і якія, відаць, і высачылі Тамару Іванаўну, каб здаць яе мянтам.

Вось так, неўпрыцям, памяць пачне імправізаваць усьлед за джазмэнамі, і я з радасьцю падначалюся прапанаванаму рытму і хмелю колеру густога залацістага піва, хвалі якога знойдуць для мяне сярод музыкі, гаманы і штурханіны тую выспу, дзе й павінна было падумацца: чаму, седзячы ўчора ў лёнданскай беларускай бібліятэцы, я адмахнуўся ад навязлівае ідэі перачытаць у Ангельшчыне Шэкспіра, а ўзяў з паліцы на вечаровае чытаньне том Міхася Стральцова. І пад кадэнцыі саксафаніста на тэму «Sometimes» я ўспомню сваю ўлюбёную стральцоўскую фразу — самы пачатак апо-

веду «Сьвет Іванавіч, былы донжуан»: «У тэлефоннай будцы былі двое, і я ненавідзеў іх», фразу, якая, магчыма, абвясьціла пра нараджэньне нашага літаратурнага мадэрнізму.

Згаданая фраза пацягне за нітачку цэлую шпулю ўспамінаў — як Стральцоў прыяжджаў да мяне ў Наваполацак (хоць «да мяне» — гэта яўны перабор) і пакуль мясцовая літаратурная брацыя спакойна смактала пракіслае віно «Эрэці», мужна піў за сталом адну мінэралку, і выходзіў на гаўбец курыць, і прасіў уладкаваць яго заўтра ў гатэль, бо «сам, старычок, разумееш», і лепей, каб было два нумары, і потым у адным зь іх казаў мне, што прачнуўся, падышоў да вакна і адчуў: штосьці ня тое, а тады даўмеўся, што ў Наваполацку на цэнтральным пляцы няма помніка Леніну; а потым мы сустрэліся на нашым наваполацкім возеры з халаднавата-прыцемным назовам Люхава: ён стаяў на беразе з жанчынаю, і цяпер мне здаецца, што пячатка блізкае сьмерці ўжо ляжала на ягонай неспартовай постаці. А пасьля мы ўсе разам паехалі ў Полацак, і ў Спаса-Эўфрасіньнеўскім манастыры ён, рэдактар маёй першай кніжкі, меў поўнае права казаць мне: «Капай глыбей, старычок, пакажы, што зямля ў іх стаяла ня толькі на трох кітах», а пасьля я толькі аднойчы быў у яго на магіле, дый ня так часта, як, можа, хто іншы, бываю на магілах бацькоў, таму што калісьці паверыў мудрай Бабулі, Ларысе Геніюш, якая, пахаваўшы свайго мужа Янку, не любіла хадзіць да яго, бо зразумела, што няма там нічога, апрача халоднага каменю ды гліны…

І гэты хмель, і гэты рытм, і гэты настрой авалодаюць істотай настолькі ўладна, што адно ў самым канцы даўжэзнай дарогі назад у абвеянай начным ветрыкам галаве нарэшце варухнецца першая цьвярозая й рацыянальная думка — пра тое, што ліхтары перад вось гэтым і тым багатымі асабнякамі аўтаматычна запальваюцца пры тваім набліжэньні зусім ня дзеля таго, каб ты не заблукаў, а каб улякнуць цябе як магчымага злодзея.

## Грынвіцкія страхі

Наогул, гэта даволі забаўна: пераступаеш мядзяны пасак нулявога мэрыдыяну і — Беларусь разам з Полацкам, сябрамі й каханкамі, півам «Аліварыя. Моцнае», прэзыдэнтам, які не гаворыць па-беларуску, і ўсімі астатнімі атрыбутамі і аксэсуарамі застаецца ва ўсходняй паўкулі.

Мушу прызнацца, што крок у адваротным кірунку я раблю трохі пасьпешліва. Назад мяне не ўдаецца завабіць ні тысячагадовым дубам, ні каралеўскім аленям, што гуляюць па заходняй паўкулі, ні стройнай мурынцы, падобнай да нэгатыву адной жыхаркі Менску.

У нас ва ўсходняй паўкулі ўсё ня так і блага: тут бегаюць шэрыя ангельскія вавёркі, сустракаюцца ўтульныя пабы, і ў адным зь іх мае спадарожніцы Арына і Караліна, якія ахвярна захоўваюць перадвелікодны пост, замаўляюць мне, грэшнаму, традыцыйны ангельскі пірог зь сьвінінай і ныркамі, што (асабліва калі старанна запіваць яго белым віном) здольны павярнуць да цябе рэчаіснасьць зусім новымі нечаканымі гранямі.

Суладнасьць, што пануе ў нас ва ўсходняй паўкулі, перацягнула з заходняй і мурынку-«нэгатыў», якая спружыніста праходзіць за вакном пабу — напэўна, дзеля таго, каб прысьніцца мне ў гэтую ноч (пагатоў, менскі «пазытыў» аднаго разу выказваў падазроную цікаўнасьць да таго, як там у гэтых мурынаў усё ўладкавана).

## Галерэя Тэйт

Сёньняшняе падарожжа па галерэйных лябірынтах бярэ пачатак з залі Ўільяма Блэйка, дзе каля ілюстрацыяў да Віргілія й «Боскай камэдыі» адразу даеш веры, што ўсе ўвасобленыя на паперы і кардоне вобразы сапраўды зьяўляліся мастаку ў яго знакамітых містычных снах.

Галерэя Тэйт можа з посьпехам замяніць падручнік авангардызму. А вандруючы па архіпэлягах дадаізму, кубізму, сюррэалізму etc., раптам пачынаеш зважаць на даты жыцьця мастакоў.

Прыклады любажыўных Пікаса й Шагала даўно зрабіліся хрэстаматыйнымі. Першы прабавіў на гэтым сьвеце 92 гады, другі (тут ягоны «Букет» зь лятучымі закаханымі) — 98. Далі адстаў, аднак 1904–1989 таксама выглядае досыць паважна.

У нас так доўга не жывуць.

Мэтафізычны Кірыко (1888–1978). Міро (1893–1983). Скульптар-кубіст Ліфшыц (1891–1973). Таксама нядблага. Натальля Ганчарова зь яе тутэйшай блакітнай «Бялізнаю» — 1881–1962.

Зьлёгку заінтрыгаваны, заходжу ў залю лёнданскага авангарду 1910–1920 гадоў. Дункан Грант — 1885–1978. Схільная ўжо тады да абстракцыянізму Ванэса Бэл (1879–1961).

Далей — болей. Скульптар Элін Эгар (1899–1991). Калега Эпштайн адстае: 1880–1959. Затое славуты Гэнры Мур і ня менш славуты, але пакуль што ня ў нас, жывапісец Фрэнсіс Бэкан выглядаюць зусім нядрэнна — 88 і 84 гады. Макс Эрнст зь ягонай даволі фалічнай штучкаю «Людзі не павінны пра гэта нічога ведаць» — 85.

Стаміўшыся ад запісаў, недзе на подступах да «Нарцызавых мэтамарфозаў» Далі і «Будучыні статуяў» Рэнэ Магрыта — скульптурная галава з блакіту зь летнімі белымі аблокамі, мадэльлю якой сумленна служыла пасьмяротная маска Напалеона — пачынаеш міжволі разумець: рэч, мабыць, зусім ня ў тым, што, адважна абнаўляючы мастацкія формы, творцы непазьбежна зноў і зноў абнаўлялі і тыя формы, куды Ўсявышні ўдыхнуў іх уласны дух. Усім ім удалося так доўга затрымацца пад сонцам найперш з тае простае прычыны, што яны, творцы, як вядома, заўсёды вялі надзіва здаровы лад жыцьця — у прыватнасьці, не пілі, не курылі, і не цягаліся па жанчынах.

Апошні лёнданскі дзень прысьвечаны хаўтурам.

У беларускай грэка-каталіцкай царкве сьвятых апосталаў Пятра й Паўла рэй вядзе сёньня праваслаўны айцец Ян з Манчэстэру.

Труна зачыненая, на вечку — крыж зь белых хрызантэмаў на яловых лапках, а на белым — яшчэ адзін крыж з чырвоных ружаў. Пад вечкам чакае заканчэньня зямных фармальнасьцяў старшыня Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі Янка Міхалюк. Ён адышоў больш за тыдзень таму, але паводле ангельскіх законаў дарога ў іншы сьвет абстаўленая столькімі працэдурамі, што пахаваньне на дзявяты дзень лічыцца яшчэ хуткім.

У раёне Фінчлі гэтым ранкам апрача насельнікаў Беларускае каталіцкае місіі гавораць па-наску некалькі дзясяткаў пераважна немаладых людзей. У аднаго зь іх, спадара Аляксандра Зданковіча, я быў днямі ў гасьцях у графстве Мідлсэкс, дзе можна пад’есьці выдатных дранікаў у выкананьні місіс Зданковіч, родам зь «нямецкай» Швайцарыі, запіваючы іх даволі неблагім «Кабэрнэ» родам з Малдовы і гартаючы лісты, якія з мноствам замілавальных памылак па-беларуску піша гаспадару з Масквы былы дысыдэнт Міхал Кукабака, што на знак падзякі за ўдзел у змаганьні за сваё вызваленьне прыслаў спадару Зданковічу бел-чырвона-белы сьцяжок, зь якім быў у жніўні 1991-га на барыкадах каля расейскага Белага дому.

Пахавальная каманда ў фраках і цыліндрах выносіць невялікую зграбную труну, і доўгі картэж «іншамарак» выпраўляецца на могілкі сьвятога Панкраца, дзе беларусы ўжо захапілі пляцдарм, на якім вы знойдзеце месцы апошняга зямнога прыстанку архімандрыта Льва Гарошкі, айца Язэпа Германовіча (ён жа — паэт Вінцук Адважны) і грэка-каталіцкага біскупа Часлава Сіповіча.

Ангельскія далакопы не нашмат цьверазейшыя й ахайнейшыя за айчынных, хоць выкінутая з магілы зямля акуратна прыкрытая зялёнымі «дарожкамі».

Падчас разьвітальных прамоваў адбываецца эксклюзіўнае знаёмства з новым паслом Рэспублікі Беларусі ў Злучаным Каралеўстве Ўладзімерам Шчасным, што, не зважаючы на прэзыдэнцкія выбрыкі, без усякае натугі гаворыць па-беларуску і — новы крок у беларусізацыі гэтых выспаў — толькі што прыляцеў зь Менску ў Лёндан першым наўпроставым авіярэйсам.

Па дарозе з могілкаў на памінкі я спрабую ўявіць, як спадар Міхалюк ляжаў гэтыя восем дзён у сваім новым жытле ў скарбовым доме і чаго ён там наслухаўся. Асабіста мне так доўга чакаць не хацелася б. Няхай бы тыя некалькі лішніх дзён да перасяленьня на паўтара мэтра глыбей засталіся мне на яшчэ адно падарожжа, на тое, каб скончыць рукапіс, выпіць пляшку добрага віна і пашаптацца ў ложку з жанчынай, якая, магчыма, яшчэ чакае мяне.

*1995*

## Божая кароўка зь Пятай авэню

*Зялёны нататнік*

Як пасьля пары крышталёвых келіхаў іскрыстай італьянскай лямбрускі з эратычным букетам захочацца раптам набурболіць кантовую шклянку старадароскае «саматканкі», як пасьля печаных мідыяў і салаты з амараў у таемных глыбінях падсьвядомасьці народзіцца вострае жаданьне ўкусіць салёнага гурка з прысталым парэчкавым лістом, як пасьля чорнага з шыпшынавым падбоем тому Борхэса ні з чога ні зь якога заманецца пагартаць празаіка Андрэя Федарэнку, так пасьля прэтэнцыёзных дыярыюшаў, нецьвяроза-гульлівых зацемак на тэатральных праграмках ды розных іншых вычварэнстваў можа бліснуць здаровая ідэя — угрунтаваўшыся за пісьмовым сталом, стварыць нарэшце нешта і зьместам і формаю нацыянальна непахіснае.

Праўда, ты ня будзеш, насьледуючы клясыку, лезьці ў ванну і апранаць белую адпрасаваную кашулю, а, насьледуючы самому сабе, купіш дзьве (а лепей тры) пляшкі чырвонага баўгарскага віна «Рубін», агідным пісклявым голасам нахабна адкажаш на тэлефонны званок, што цябе няма дома, разгорнеш свой зялёны нататнік, нальеш у небіткую шклянку ад фірмы «Luval» першую дозу і, непрыемна ўражаны спалучэньнем чырвонага й зялёнага колераў, парушыш брыдкую несуладнасьць некалькімі добрымі глыткамі, а прывёўшы колькасьць паўтарэньняў гэтага манэўру ў строгую адпаведнасьць з колькасьцю дзён тваёй вандроўкі, заўважыш, што ў цябе сапраўды атрымаўся замшэла-традыцыйны падарожны дзёньнік.

*15.06.* Калі на першым курсе ўнівэрсытэту мы былі «на бульбе» пад Койданавам, я жыў у глухога дзеда-бабыля.

Першай адметнаю дэталльлю інтэр'еру ягонае хаты была этажэрка з адной-аднюткаю кніжкай — «Как закалялась сталь». Другой — рэпрадуктар часоў Малянкова і Кагановіча. Дзедава радыёкропка балабоніла й сьпявала ад ранішняга гімну да паўночнага, прычым заўсёды на максымальнай гучнасьці. Аднаго разу я, ня вытрымаўшы дуэту гаспадаровага храпу і ненавіснай чорнай талеркі, падкраўся да яе ды падкруціў рэгулятар. Храпеньне імгненна абарвалася, і дзед зусім нясонным голасам растлумачыў мне, што за «радзіву» ён плоціць на ўсю катушку, а таму і гаварыць яна мусіць бесьперапынна. «Ня хочаш спаць, чытай кніжку!» — сказаў дзед і зноў захроп. Змагаючыся з узгадаванай у школе і ў камсамоле, далікатна кажучы, непрыязнасьцю да праграмнай савецкай літаратуры, я ўзяў з этажэркі знакаміты твор М. Астроўскага. Пад абцёрханай вокладкаю аказалася Эвангельле.

Першае ўражаньне, як і каханьне зь першага погляду, заўсёды падманнае, узгадаўшы койданаўскую ілюстрацыю да праблемы нацыянальнае мэнтальнасьці, думаю я, назіраючы, як мой сусед, польскі дзед з абсіверааным да бурачковага колеру сялянскім тварам, штораз падазрона прынюхваючыся, даядае свой дэсэрт: акуратна высыпае ў рот пакецік солі, сьледам — чырвонага перцу, потым — пакецік сухіх вяршкоў, за імі — цукру і ўрэшце запівае гэтыя самалётавыя прысмакі несалодкай гарбатаю. Тым часам перад нашым «Боінгам» з акіянскае сінечы вырастае фантастычны айсбэрг Грэнляндыі.

Польская авіякампанія «Lot» частуе так шчодра, што я расплюшчваю вочы ўжо над паўночнай Канадаю, дзе Госпад дасхочу паштукарыў, ствараючы раскіданыя па тамтэйшай тайзе азёры, у абрысах якіх можна пазнаць то сплеценых у экстазе каханкаў, то нянаскага зьвера жырафу, то вершніка, што гоніцца за адным маім знаёмым прэзыдэнтам...

Пашпартны кантроль у нью-ёрскім аэрапорце Кенэдзі зноў змушае ўспомніць хату койданаўскага эвангеліста: пад скураной абгорткаю з «Пагоняй» амэрыканскі памежнік знаходзіць тую самую «краснокожую

паспортину», але, у адрозьненьне ад свайго калегі зь лёнданскага аэрапорту Гітроў, усё ж не выпраўляе ў маёй анкеце «Belarusian» на «Russian».

Першае пытаньне, якое я чую з вуснаў заакіянскіх беларусаў: ці праўда, што нехта восем начэй запар уздымаў над Маладэчанскім гарсаветам бел-чырвона-белы сьцяг?

*16.06.* У царкве сьвятога Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле, Нью-Ёрк, уваччу зьнячэўку паплылі менскія «кадры» з Домам ураду да і пасьля рэфэрэндуму. Калі і вы захочаце пракруціць гэтую «хроніку», дык пераканаецеся, што наш сьцяг сапраўды лунаў. Гэта было ягонае неба, у якое ён імкнуўся, зь якім суладна зьліваўся, нечым нагадваючы бусла, якога за выкапанымі прэзыдэнтам памежнымі слупамі ўжо не сустрэнеш. А паспрабуйце ўявіць, каб лунаў сьцяг «усенароднапрэзыдэнцкі». Ну што пра яго скажаш? Вісіць, трымціць, трапечацца... Прадчувае свой лёс.

Перад серабрыста-зялёным паралелепіпэдам ААН над Іст-Рывэр на флагштоку пакуль што кожную раніцу ўздымаюць сьцяг, надзелены здатнасьцю лунаць. Яго маленькія бел-чырвона-белыя копіі можна набыць у аанаўскай сувэнірнай крамцы ў выглядзе настольных сьцяжкоў, значкаў і брыжыкаў.

Выбіраючы сабе тавар, па вачах мурына-гандляра заўважаю, што ён яўна нешта чуў. Ці застаюцца гэтыя сьцяжкі нацыянальнымі? — занепакоена пытаецца мурын. Пытаньне сфармуляванае так удала, што я магу, не пазычаючы ні ў кога вачэй, запэўніць візаві, што застаюцца, а каб адказ прагучаў больш важка, прашу яшчэ дзясятак «падрыўных» брыжыкаў.

Побач з будынкам Аб'яднаных Нацыяў вы можаце агледзець падарунак СССР — твор скульптара Вучэціча «Перекуем мечи на орала». Хтосьці з турыстаў пакінуў каля гэтай адлітай у мосенжы савецкай абяцанкі-цацанкі прыціснутую каменьчыкам газэтную старонку

з фатаздымкамі зруйнаванага Грознага і радка трупікаў чачэнскіх дзяцей.

Люксэмбурскі падарунак у выглядзе ўсталяванага на п'едэстале пісталета з завязанай на вузел руляю выдае больш шчырым.

Ужо ў касмапалітычным Нью-Ёрку (у глыбінцы любая традыцыя трыкроць мацнейшая) на кожным кроку сустракаесься з культам амэрыканскага сьцягу. Дагледжаныя зорна-паласатыя палотны зьвешваюцца з падваконьняў, аздабляюць дахі, вітрыны і ўваходы ў офісы. Каб у Менску ці ў Полацку я ўбачыў столькі чырвона-зялёнай тканіны, дык заставалася б адно намыліць вяроўку. Аднак гэткая сьмерць мне не пагражае. Ці здольныя вы ўявіць здаровага грамадзяніна Рэспублікі Беларусі, які на досьвітку ўрачыста ўздымае гэты сьцяг каля свайго дому, а ўвечары ня менш урачыста спускае яго ў промнях нізкага сонца?

Між тым такую цырымонію зь сцягам ЗША я зноў і зноў назіраю з аўтамабіля, за рулём якога — мой даўні знаёмы, жыхар штату Пэнсыльванія Васіль Мельяновіч. У зеленаватай смузе адплываюць падобныя да зробленай Гулівэрам выцінанкі абрысы мангэтанскіх хмарачосаў. Мы едзем да Васіля ў амэрыканскі Гановэр. Сёе-тое пра адносіны майго кіроўцы да Беларусі могуць сказаць драбніцы: два цыфэрбляты на гадзіньніку, стрэлкі якіх паказваюць час з разьбежкаю на сем гадзінаў...

Калі хтосьці мяркуе, што самая кансэрватыўная ў заходнім сьвеце краіна — Вялікабрытанія, дык паездка па амэрыканскіх аўтастрадах моцна пахісьне гэтую ўпэўненасьць. У адрозьненьне ад уладаньняў яе вялікасьці каралевы, тут вы нідзе не сустрэнеце ні дарожных паказальнікаў з кілямэтрамі — суцэльныя мілі (а на гольфавых пляцоўках — ярды й інчы), ні бэнзазаправак з коштамі за літар. Як вам ня проста ўцяміць, што такое галон, так ня кожнаму тубыльцу ўтлумачыш, што такое кіляграм. Пра тэмпэратурную шкалу Цэльсія ён нешта чуў, але карыстаецца выключна градусамі паводле Фарэнгайта, збольшага знаёмымі нам дзякуючы раману

Рэя Брэдбэры, што, як мне памятаецца, некалі зьбіраўся пасьля пяцідзесяці гадоў канчаць жыцьцё самагубствам, бо лічыў, што за гэтай мяжою жыць мужчыну ўжо проста нявартa, але вось пасьпяхова жыве далей, маючы магчымасьць гэтаксама, як і мы, са смакам павячэраць на мяжы штатаў Дэлавэр і Мэрылэнд і выпіць кубачак кавы на мяжы Мэрылэнду з Пэнсыльваніяй.

*17.06.* Вынікі падарожжа па заснаваным землякамі Гётэ й Шылера ўтульна-двухпавярховым Гановэры падводзяцца ў швэдзкай рэстарацыі: $8 за ўваход, і маеш права, нічога больш ня плацячы, не выходзіць, пакуль ня зробіцца млосна. Мяркуючы па аб'ёмах добрай паловы наведнікаў, менавіта такім чынам яны й звыклі бавіць вольны час.

Едучы па спадзістых, як у нас на Наваградчыне, зялёных пэнсыльванскіх узгорках, гаворачы з спадарожнікам па-беларуску, слухаючы касэтку з запісамі фальклёрнага гурту «Янка», сустрэтага спадаром Васілём у падземным пераходзе каля Камароўкі, ловіш сябе на тым, што ты ўжо неўпрыкмет прыняў існаваньне гэтае ідэальнае Беларусі — з кандыцыянэрамі ў машынах (на вуліцы 90° паводле Фарэнгайта) і «Макдоналдзамі» на ўзбочынах — як рэальнасьць і нават пасьпеў досыць выгодна ўладкавацца ў ёй.

У доме ў Мельяновіча ілюзія адно мацнее: беларуская бібліятэка, калекцыя ручнікоў, абразы, беларуская мова ў тэлефоннай слухаўцы… Апрача ўсяго іншага з пошты прывозяць пульхную капэрту беларускае пэрыёдыкі. Як у дзіцячай гульні, наўздагад выцягваеш адтуль нумар менскага часопісу «Беларуская думка», наўздагад разгортваеш яго, і на зьмену ілюзійнай Беларусі прыходзіць рэальная, што прамаўляе да цябе галасам паэта Б. Спрынчана:

*Что ему хулители? Ничто!*
*Он в сознанье поколений врос,*

*И в своем простреленном пальто*
*На ветрах маячит, как Христос.*

Згадаўшы лёзьненскі інцыдэнт з замахам на кандыдата ў народныя прэзыдэнты, можна падумаць, што гэта пра Аляксандра Рыгоравіча. Аж не, пакуль што пра Леніна. Цалкам здаволены першым творам Апалён ужо ня кліча творцу да новай сьвятой ахвяры, але паэт не дазваляе сабе палёгкі і спрабуе яшчэ раз авалодаць музаю. Тая бароніцца, колькі змогі, словы разьбягаюцца з радкоў, быццам прусакі, аднак задыханы, распалены высокім грамадзянскім пачуцьцём творца ўсё ж дамагаецца свайго.

*Тем, что вижу, наполняю строки:*
*В Смиловичах, Лельчицах, Ушачах*
*Вкалывает каменщик на стройке,*
*Тракторист на пахоте ишачит.*

*А у водоемов Беларуси*
*Хищники гнездятся хорошенько.*
*Кто они? — дознаться не берусь я,*
*Если не поможет Лукашенко.*

Браво, товарищ стихотворец! Колькі сапраўднай выпакутаванай паэзіі ўжо ў адных толькі «водоемах Беларуси»! Глядзіш, хто-небудзь з самых вэртыкальных павесіць за такія рыфмы мэдаль Францішка Скарыны, а мо і зацьверджаны ўсё ж Вярхоўным Саветам ордэн Кастуся Каліноўскага. Хоць лепей, вядома, спачатку параіцца з народам і правесьці рэфэрэндум: ці вы «за» новыя ўзнагароды ды іхную інтэграцыю з Расеяй, ці вы супраць нашага прэзыдэнта? Калі «за», дык Каліноўскага заменім на Міхаіла Мураўёва, а Скарыну, што, безумоўна, таемна спачуваў БНФ, ну хоць сабе на маскоўскага князя Васілія III, за якім у «первопрестольной» заслужана палілі арыентаваную на агрэсіўны Захад Францішкаву «Біблію».

*18.06.* Ваколіцы Вашынгтону нагадваюць краявіды, што плывуць за вакном цягніка, калі пад' яжджаеш да Вільні з боку Новае Вялейкі: зялёныя асмужаныя горы, яры і нават гатычныя сьпічакі.

Пасьля Нью-Ёрку горад выдае правінцыйным — не раўнуючы, як пасьля Менску наш Слуцак. Беларускае пасольства на вуліцы Нью-Гэмпшыр, 1619. Кажуць, тры дні таму пасол Мартынаў загадаў спусьціць бел-чырвона-белы сьцяг. Ня ведаю, хто загадаў яго падняць зноў, але я фатаграфуюся пад тым самым сьцягам, які ў верасьні 1991-га мы з Сокалавым-Воюшам ды іншымі нацыяналістамі вешалі над Полацкім гарсаветам і які, будзьце пэўныя, мы раней ці пазьней павесім ізноў.

Праз пару кварталаў вуліца перакрытая паліцыяй: дэманстрацыя сэксуальных меншасьцяў. Наперадзе гурма жыцьцярадасных гомасэксуалістаў зь вясёлым гіканьнем цягне зладжанага з блакітных і бэзавых паветраных шарыкаў даўжэзнага, ярдаў на пятнаццаць, цмока. Шчыльнымі шыхтамі праходзяць стройныя хлопцы ў жаночых сукенках. Газуюць у бок Белага дому актыўныя лесьбіянкі на зіхоткіх «Ямахах» і «Хондах». Прагарцавала тройка мазахістак, запрэжаных у вазкі з сваімі садысткамі. Туга падпаразаўшыся навюткім калючым дротам, засяроджана прадэманстравалі мужчыны-мазахісты ў сталёвых аброжках з кольцамі для ланцугоў. На ўзьбярэжжы гэтай бясконцай ракі гетэрасэксуальны глядач трапляе ў абладу непрытульнага адчуваньня, што сэксуальная меншасьць — гэта не дэманстранты, а ён сам. Каб пазбыцца дыскамфорту, публіка пачынае адпускаць зьняважлівыя рэплікі наконт таго, што вашынгтонская працэсія — дрымучая самадзейнасьць. Маўляў, сапраўднае сьвята «блакітных» будзе сёньня ў Нью-Ёрку: там і алімпійскі чэмпіён у скачках у ваду Грэг Луганіс, і таварыства садамазахістаў імя Тыля Ўленшпігеля, і нацыянальныя калёны гасьцей з усіх куткоў сьвету.

(Вечаровыя тэлепраграмы цалкам пацьвердзілі прагнозы. Уніз па нью-ёрскай Пятай авэню ехалі ах-

вяраваныя піваварным канцэрнам «Мілер» плятформы з маляўнічымі жывымі кампазыцыямі, маршавалі блакітныя аддзелы вайсковых вэтэранаў і паліцэйскіх чыноў, сівенькая бабуля чыкіляла пад лёзунгам «Госпад блаславіў мяне двойчы: сын — гомасэксуаліст, дачка — лесьбіянка...» Расейскі нацыянальны кантынгент рухаўся перадапошнім, ззаду заставаліся толькі палякі. Сьвята набыло такое разгарненьне, што газэта «Новое Русское Слово» пісала: «Городские власти дали голубым потачку и позволили им маршировать мимо собора Св. Патрика, где от демонстрантов ожидали выходок типа прошлогодних и заготовили поэтому охапки пластиковых наручников и стопки желтых одеял для немеденного покрытия оголившихся. Когда мы подошли к собору, там было столько полиции, как будто приехал папа римский или Клинтон; если бы у Зимнего было столько ментов в октябре 1917-го, всем нам не пришлось бы мучиться на чужбине».)

Ня выключана, што вам, як і мне, калі-небудзь таксама ўмроіцца кінуць вока на залю Вярхоўнага Савету РБ, дзе прымалі Канстытуцыю, зьбівалі дэпутатаў ад апазыцыі ды націскалі кнопкі за аднаўленьне «праздника Великого Октября». Як той казаў, і хочацца, і рагочацца: на шляху ў цьвярдыню нашае дэмакратыі паўстане трайная заслона спрактыкаваных у яе абароне бамбізаў. А вось у будынак амэрыканскага сэнату кожны — абы ахвота — зойдзе без усякіх прапустак, спэцдазволаў і татальных шмонаў. Нагледзеўшыся ў кулюарах на парадныя партрэты і бюсты тамтэйшых прэзыдэнтаў, вы прысядзеце на бальконе залі паседжаньняў і паразважаеце, хто і калі станецца героем і аўтарам першага такога партрэту ў Рэспубліцы Беларусі.

Нягледзячы на тое, што ў гады студэнцтва мне давялося ўдзельнічаць у крутой менскай разборцы з мурынамі, я так і не зрабіўся перакананым расістам. Таму маё сьведчаньне будзе больш каштоўнае, чым у якога-небудзь ку-клукс-кланаўца: калі вы раптам заўважыце, што вакол брудна, што ходнікі густа запляваныя,

а з будынкаў абсыпаецца тынк, што жанчын не прапускаюць наперад, а на другім пляне кагосьці прыціскаюць да сьцяны — ведайце, што трапілі ў чорныя кварталы. Там белыя не жывуць і бяз скрайняй патрэбы стараюцца не зьяўляцца.

Вяртаючыся з Вашынгтону, зварочваем з аўтастрады ў Балтымор, дзе на паркінгу каля затокі машына з мурынамі, ігнаруючы доўгую чаргу, сходу заяжджае на вольнае месца, і тэма дачыненьняў чорных і белых атрымлівае працяг. У прыватнасьці, я даведваюся пра існаваньне ў Балтыморы раёну пад назовам *Little Italy* (Маленькая Італія), які тутэйшыя мурыны абыходзяць за мілю, бо апрача звычайнай паліцыі сваю службу бясьпекі мае там і Коза Ностра. У якасьці доказу яе эфэктыўнасьці мне прапануюць чульлівую гісторыю пра трох залётных афраамэрыканцаў, якія праз трагічную недасьведчанасьць нядаўна абрабавалі ў Маленькай Італіі ўтульны рэстаранчык, а за адным разам — каб не прападала дабро — згвалцілі гаспадарову дачку. Ніхто з пацярпелых і ня думаў зьвяртацца ў паліцыю. Але праз колькі дзён на хвалях затокі ціхамірна пагойдваліся тры добра прасмаленыя бочкі. Хто плыў у бок акіяну ў меру пасолены і паперчаны (перапрашаю за гастранамічную дэталь), вы ўжо здагадаліся.

*19.06.* Ці былі ў малых цялятак з саўгасу «Гарадзец» Шклоўскага раёну, дзе кіраваў раней наш прэзыдэнт, вось такія індывідуальныя буданчыкі? Але ж і жартаўнік вы, спадар Мельяновіч!

Ну, а калі вы цалкам паважна зьбіраецеся падкінуць экс-дырэктару ідэю адправіць усіх беларускіх дэпутатаў, што галасуюць супраць прыватнай уласнасьці на зямлю, на пару тыдняў у ЗША, дык я гэтаксама паважна прапаную вам неадкладна патэлефанаваць з гэтае нагоды ў Вярхоўную Рэзыдэнцыю ў Менск. Што з гэтага атрымаецца, вам распавядзе беларускі пісьменьнік з Таронта Кастусь Акула, які спрабаваў тактоўна пацікавіцца,

чаму прэзыдэнт не павіншаваў з Днём Перамогі беларусаў, што ваявалі з нацыстамі у войсках саюзьнікаў і жывуць цяпер у заходняй паўкулі.

Тэлефанаваць мы, напэўна, возьмемся ўвечары, а пакуль едзем на тутэйшы аўкцыён. У будынку былой станцыі з масыўнымі бэлькамі і пацямнелай ад часу (ды колькасьці разьлітага віскі) стойкаю бару, дэманструючы даўнія беларуска-амэрыканскія культурныя сувязі, самі сабою выныраюць з памяці героі полацкага фальклёру часоў майго дзяцінства — трое неразлучных каўбояў, якія невылазна сядзелі ў салуне ў аднавокага Гары. Працяг вы, магчыма, таксама памятаеце:

*Вдруг заходят туда*
*Человек восемнадцать*
*И ковбоям они*
*Предлагают убраться.*

Мы сьпявалі пад гітарны акампанэмэнт майго сябра Вовы Цымэрмана, і нашыя кулакі наліваліся мужнасьцю, рыхтуючыся да новых сутычак з заклятымі ворагамі з Задзьвіньня, дзе густа стаялі вайсковыя часткі і рэй вялі афіцэрскія сынкі, якія называлі моркву «морковью», а адвечных дзьвінскіх курмялёў «пескарями».

Аўкцыённая публіка ўражвае сваёй стракатасьцю ня менш за выстаўлены тавар: шыкоўныя кандэлябры з Расеі часоў Аляксандра II і блізка знаёмыя з мольлю старасьвецкія капялюшыкі, недабітае кухоннае начыньне й антычная манэта, стракатыя пэнсыльванскія посьцілкі зь нямецкім радаводам і замытыя мужчынскія майткі з расьцягнутымі гумкамі, якія ў нас у Полацку называюць проста «сямейнымі». Цэдзячы пэпсі зь лёдам, мне падабаецца выдумляць сюжэты твораў, галоўная эстэтычная вартасьць якіх у тым, што яны ніколі ня лягуць на паперу. Выпетраны на жардзіну і белы як лунь стары набывае за пяць даляраў трэснуты зялёны кубак з адбітаю ручкай не таму, што зьдзяцінеў, а на памяць пра жонку-нябожчыцу, якая ўсё жыцьцё здрадж-

вала яму зь ягоным сябрам, зь якім аднойчы incognito лётала на тры дні ў Парыж, адкуль і прывезла мужу такі самы кубак, паведаміўшы, што набыла яго, гасьцюючы ў сяброўкі ў Флорыдзе. А вунь тая прыгожанькая (пакуль не заўважаеш яе несупыннага ціку) маладзёнка выкладвае даляр за мініятурную парцалянавую ступку, як дзьве кроплі вады падобную да той, дзе яна гатавала атруту багатай старой цётухне, што, як неўзабаве высьветлілася, прадбачліва адпісала ўсю маёмасьць улюбёнай котцы…

Аднак усё гэта хутка пачынае раздражняць, і я разгортваю на каленях сьвежы нумар часопісу «Вестник». З гэтага балтыморскага выданьня вы ўведаеце безьліч карыснага: вось кароль азартных гульняў Доналд Трамп абвяшчае пра цяжарнасьць роднае жонкі. Вось тэкст вашынгтонца Міхаіла Гольдэнбэрга пра тое, як Канстанцін Бальмонт з Ігарам Севяранінам на эміграцыі выцыганьвалі грошы ў Сяргея Рахманінава. Вось інтэрвію зь Ю. Дружнікавым, што здабыў славу як аўтар кніжкі «Вознесение Павлика Морозова» (самыя цікавыя мясьціны інтэрвію — прызнаньне, што «по национальности я интеллигент» і цытата з Карэла Чапэка, дзе крытык кажа пісьменьніку: «Вы павінны пісаць так, як пісаў бы я, каб умеў»).

Чакайце-чакайце, а гэта што?! БНФ, Сяргей Антончык, Зянон Пазьняк, «который в чем-то очень похож на Гамсахурдиа, Дудаева и Жириновского вместе взятых»… Гэта Іосіф Калюта (Менск) і Ўладзімер Левін (Нью-Ёрк) знаёмяць навакольную расейскамоўную публіку з нашымі палітычнымі заварушкамі. Дзякуючы адначасоваму погляду з розных бакоў акіяну, сытуацыя набывае вусьцішную стэрэаскапічнасьць, і беларускага чытача чакаюць адкрыцьці, якіх ніколі ня зробіш, невылазна седзячы на айчынных купінах. Мы чулі, напрыклад, толькі пра аднаго дэпутата Навумчыка, а на ўсходнім узьбярэжжы Атлянтыкі, высьвятляецца, што іх — двое: «Координатор парламентской оппозиции Белорусского народного фронта Сергей Наумчик не уста-

ет повторять, что БНФ политику первого президента не приемлет. Другой депутат — бывший идеологический секретарь Витебского обкома партии Иосиф Наумчик — хочет помочь президенту. Два Наумчика, два депутата, стоящие по разные стороны политических баррикад — отец и сын. Помните, мы еще песню такую пели вдохновенно: «И Wнельзя сыновьям отставать от отцов хоть на малость, потому что идут по дороге отцов сыновья». — «Не идут!» — скрушліва канстатуе «Вестник». Але ўсе дробныя выдаткі такога кшталту блякнуць у параўнаньні з загалоўкам артыкулу: «Лука Мудищев — резидент российской разведки». Як кажа ў хвіліны натхненьня мой знаёмы пісьменьнік Вінцэсь Мудроў: «Ну, кенты, трымайце мяне...»

*20.06*. Хоць уначы, далібог, нічога такога асаблівага ня сьнілася, чамусьці прачынаюся з захраслымі ў памяці словамі Калігулы: «Вы ніяк не зразумееце, што я чалавек просты».

Пасьля гарбаты ды блінцоў з кляновым сыропам я адлятаю з Балтымору ў Кліўлэнд. Па дарозе ў аэрапорт спыняемся ля катэджу з шыльдачкай: *Leon Kavalov*. Барадаты і дабрадушны, у шортах і футболцы, беларускі старавер Лёва вядзе нас у акуратны да стэрыльнасьці садок, дзе пад адцьвілаю ліпай стаіць стол з двума крэсламі. Краявід аздабляюць амаль дэкаратыўныя грады з памідорамі, бурачкамі, рэдзькай і паскам валошак.

Увечары я ўжо буду сядзець пад ліпаю ў Стронгсўіле пад Кліўлэндам, штат Агаё. Мае гаспадары зь беларускага культурнага цэнтру «Полацак» успомняць, як спачатку хацелі назваць свой цэнтар «Палесьсем», бо, на іх думку, самай дзейснай часткаю беларускае эміграцыі заўсёды былі палешукі, а я, пацягваючы ледзяное піва, раскажу, як у той час, калі яны будавалі тут храмы і вучылі дзяцей у беларускай школе, у нас, у беларускім Полацку, прыежджая набрыдзь гадавала ў занядбаным Крыжаўзьвіжанскім саборы сьвіньняў, а беларускую

мову ў маім клясе вывучала восем чалавек з трыццаці двух. Пад нагамі будуць дасьпяваць суніцы. Над азярынаю мякка расьсьцелецца туманец. З высокай травы, наставіўшы рудавата-шэрыя вушы, да размовы будзе прыслухоўвацца тутэйшы нацыяналістычна настроены трусік. Вавёркі, як і належыць жанчынам, будуць цікавіцца палітыкаю значна меней. А яшчэ менш зацікаўленьня выявіць нейкі падобны да хамяка дробны зьвер, які будзе тупа глядзець на нас, нечым няўлоўным нагадваючы прадстаўніка той часткі электарату, што год таму дружна галасавала за танную гарэлку і тэлевізар зь лядоўняю за кошт індэксацыі ўкладаў, а потым вуснамі майго вечна п’янога серабранкаўскага суседа Камінтэрна пасьля імгненнага падаражаньня яго самага запаветнага прадукту харчаваньня казала мне: «Нікаму, Воўка, няльзя верыць, нікаму», і верыла далей, і цягнулася 14 траўня 1995 году на выбарчыя ўчасткі раней за ўсіх — пахмяліцца й аддаць свае галасы, каб мы хутчэй дасягнулі таго жыцьця, якое ў нас ужо было.

*21.06.* У кліўлэндзкай царкве Жыровіцкай Божай Маці вісіць сьпіс з 128 прозьвішчамі дарослых прыхаджанаў. Сцэну прыцаркоўнае залі некалі размалявала ў духу француcкага мытніка Анры Русо беларуская дзяўчынка Ліда Лазар. Зубры, бярозавы гай, палоска жыта, маці зь дзіцём на каленях. У руках у малога сьцяжок накшталт таго, што на футбольным матчы Беларусь—Галяндыя пасьля рэфэрэндуму адабраў у майго малодшага сына менскі міліцыянт з «Пагоняю» на кукардзе. Найбольшай праблемаю было намаляваць хаты, бо юная мастачка нарадзілася ўжо ў эміграцыі. Хаты атрымаліся адметныя: гібрыды ўкраінскіх мазанак і таіцянскіх бунгала з палотнаў Гагена.

Кліўлэнд вылучаецца ці не найбольшай у ЗША колькасьцю жыхароў-перасяленцаў з Усходняе Эўропы. У гэтым яшчэ раз пераконваесься ў гарадзкой публічнай бібліятэцы, дзе існуюць прыстойныя зборы кніжак на

польскай, літоўскай, харвацкай, украінскай ды дзясятку іншых моваў. Высокі стэляж з сотнямі беларускіх кніжак. Неабдымная ўкраінка ў вышыванцы, адрываючыся ад кампутара, тлумачыць, што набыцьцё кожных 60 беларускіх выданьняў робіцца падставаю для выпуску інфармацыйнага бюлетэню. Затрымліваюся каля кніжак кліўлэндца Аўгена Калубовіча.

Ягоны апошні зямны прыстанак я знаходжу на мясцовых могілках сярод іншых надмагільляў зь беларускімі прозьвішчамі: Карніловіч, Лук’янчык, Дурэйка, Гасьцееў. На помніку пісьменьніку — выява крыжа Сьвятой Эўфрасіньні. Пад датамі жыцьця можна прачытаць: «Wife Inna 1906 — ». «Wife Inna» — гэта ўдава Іна Кахаоўская (яна ж — пісьменьніца Аляксандра Саковіч).

Спадарыня Іна ставіць на стол яблыкі і памаранчы. Невялікая розьніца ў гадах тым ня менш дазволіла нам трапіць у адну часавую «капсулу». Мы абое былі знаёмыя з гісторыкам Міколам Улашчыкам, а ў яе родных Ярэмічах я вудзіў рыбу, калі плыў зь сябрамі ад вытокаў Нёману да Балтыкі. Мы з гаспадыняю вучыліся на адным факультэце БДУ; праўда, яна — у Пічэты і Доўнар-Запольскага, а я — у Абэцэдарскага. Што там у Менску? Апошнія падзеі, вядомыя з ранішняга званка дахаты, — забарона канцэрту беларускіх рок-гуртоў, ладжанага з нагоды Купальля ды ўгодкаў разгону радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная».

Пад’яжджаючы да яшчэ аднаго кліўлэндзкага беларускага дому — сакратара часопісу «Полацак» Міхася Белемука й ягонай жонкі, нядаўняй мянчанкі Тамары (сёньня яна якраз атрымала зялёную іміграцыйную картку, і з гэтае нагоды нас чакае ружовае каліфарнійскае шампанскае), — знаёмлюся з узорам мясцовага беларускага гумару. Шараговы жыхар Кліўлэнду Міхась Рагуля пасьля грунтоўнага наведваньня бару сядае за руль і выпраўляецца дахаты. «І ты, Міхась, у такім выглядзе едзеш?» — спыніўшы яго, дакорліва пытаецца тутэйшы палісмэн, таксама беларус. «А ты, Пятро, хочаш, каб я ў такім выглядзе ішоў?» — адказвае наведнік бару.

*22.06.* Афіцыйная сустрэча з «палачанамі». Прысутнічае дваццаць пяць чалавек плюс пара вавёрак плюс камарэча. Чытаю сваё напісанае ў 1990-м эсэ «Незалежнасьць — гэта...», якому, відаць, з кожным годам наканавана рабіцца ўсё актуальнейшым. Колішніх гадаванцаў кліўлэндзкай беларускай школы Віктара і Джо піва цікавіць відавочна больш за нашу палітыку. Нягледзячы на даволі прыстойную беларускую мову, іхняя радзіма — Амэрыка.

Яшчэ адзін званок у Менск. З нагоды заявак на правядзеньне грунвальдзкіх урачыстасьцяў абласныя прэзыдэнцкія вэртыкальшчыкі ліхаманкава высьвятляюць, ці не расейцаў разьбілі пад Грунвальдам нашыя продкі. Пасьля гэткае навіны неапэтытныя калізіі позьняга фільма жахаў успрымаюцца зь нейкім асаблівым настроем іператвараюцца, так бы мовіць, у алюзіі: група рэанімаваных сатанінскаю сілай таварышаў, перапрашаю, — мерцьвякоў захоплівае гарадзкі крэматорый і замест спаленьня трупаў запускае іх пасьля адпаведнае апрацоўкі назад да жывых.

*23.06.* Усе сны былі апанаваныя мерцьвякамі ў розных знаёмых абліччах. Перакульваючы недаравальна лёгкія надмагільныя помнікі, яны прутка выскоквалі з трунаў, атрасалі з дыхтоўных гарнітураў зямлю і пачыналі выступаць з дакладамі, сустракацца з працоўнымі, уздымаць сьцягі, езьдзіць зь мігалкамі, лавіць для сваіх досьледаў прыгожых дзяўчатак і загадваць немерцьвякам пісаць заявы з указаньнем таго, хто на якой мове хоча гаварыць...

Адмыць сьвядомасьць ад тагасьветнага мярзоцьця, напэўна, здолее толькі Ніягарскі вадаспад, куды вязе мяне на сваім «траку» прэзыдэнт «Полацку» Янка (ён жа — Джон) Ханенка. Як на амэрыканскія сумеры, дык падарожжа з разраду недалёкіх — нейкія 600 міляў ці трохі болей, бо заедзем яшчэ ў Рочэстэр на полудзень да Натальлі Арсеньневай.

У адзін цудоўны дзень 1974 году марак савецкага гандлёвага флёту Іван Ханенка ў кампаніі двух таварышаў зайшоў у пракляты капіталістычны супэрмаркет і ў хуткім часе выйшаў адтуль адзін, каб заявіць паліцыі, што вырашыў застацца ў Амэрыцы. У нью-ёрскім аэрапорце яго сустрэне прадстаўнік Талстоўскага цэнтру князь Галіцын, які па дарозе ў сваю сядзібу, да Талстых і Радзянкаў, пачастуе Янку абедам у шыкоўным рэстаране і чамусьці ня выявіць захапленьня, калі на пытаньне пра нацыянальнасьць марак упэўнена адкажа: беларус. (Прыйдзе дзень, калі сярод іншае карэспандэнцыі Ханенка атрымае рахунак за той абед.)

«Цела тут, а душа там, у Беларусі», — пасьля доўгае пярэрвы гаворыць наогул далёкі ад сэнтымэнтальнасьці Янка.

Мы ўжо круцімся па вуліцах Рочэстэру, дзе з сынам Уладзімерам, унучкаю й двума сабакамі жыве легенда нашай паэзіі.

Стол сабраны ў садзе пад чарэшняй.

Спадарыня Натальля лічыць, што паэтаў у беларускай літаратуры сёньня меней, чым дваццаць гадоў таму. Прамовіўшы колькі словаў, яна замаўкае, засяроджваецца на нечым сваім, і тады здаецца, што ў 92 гады чалавек і павінен углядацца ў іншыя сфэры, а не шчыраваць з гасьцямі. Аднак зьнячэўку гаспадыня падымае сваю шклянку з содавай (але і з глытком віскі) і кажа саркастычны тост з палітычнай падкладкаю.

Высьвятляецца, што аўтарка гімну «Магутны Божа» ўглядалася ў маладосьць, у тыя дні, калі ўпершыню пачула беларускую мову. Сям’я вярталася ў 1920-м зь бежанства й затрымалася ў вёсачцы пад Дрысай. Гаспадароў звалі Юркам і Аўдоцьцяй. Уначы Наташа прачнулася ад таго, што за шафай Юрку пацягнула на любошчы, аднак гаспадыня не згаджалася, бо ў хаце былі чужыя людзі: «Ня лезь, а то юшку спушчу!» Асабліва расхвалявала дзяўчыну сваёй таямнічасьцю гэтая «юшка».

«Раку пад Дзьвінскам пераходзілі па лёдзе».

«У Віленскай беларускай гімназіі адчула: гэта — маё!..»

У 1940-м годзе яна ішла з Максімам Танкам, Міхасём Машарам і Айзікам Кучарам па Менску. Танк загаварыў, і напалоханы Кучар кінуўся да яго: «Цішэй, цішэй! У нас у Менску так гучна гаварыць па-беларуску не прынята!»

Фатаграфуемся на памяць каля кветніку з валошкамі й белымі лілеямі (іх вельмі любіла і Ларыса Геніюш).

Арсеньнева доўга глядзіць нам усьлед.

Нам, ці, можа, Беларусі?..

...У штаце Нью-Ёрк, як і ў беларускіх вёсках пад Полацкам, Дзьвінскам і Вільняй, цьвіла бульба. Усьцяж дарогі гандлявалі сухаватымі нясмачнымі трускаўкамі, а з узбочыны сумнымі жаночымі вачыма глядзелі на нас тры сарны.

Па-над кіпеньню вадаспаду пахла шыпшынавай кветаньню. Каля парэнчаў беспардонна ціскаў белую жанчыну чалавек, у якога белымі былі адно штаны. Жанчыне гэта яўна падабалася. Унізе стаяў параходзік, які неўзабаве, няўзнак завярнуўшы на канадыйскую акваторыю, павязе нас пад самую выгбу ніягарскай вясёлкі, дзе ў срэбным воблаку вадзянога пылу мне нарэшце ўдасца канчаткова загнаць зграю начных мерцьвякоў у віварый і зачыніць іх там на замок разам з усімі іхнімі чорнымі членавозамі і рэзыдэнцыямі, у навакольлі якіх жывым людзям раяць не падыходзіць бязь пільнае патрэбы у сваіх кватэрах да вокнаў і не рабіць на іх тле ніякіх рэзкіх рухаў.

*24.06.* Каб зірнуць, як жэніць сына Колю доктар Ала Орса-Рамана, мне даводзіцца пераадолець уначы яшчэ 400 міляў і тры штаты. Зь беларускае калёніі ў Нью-Брансўіку пад'яжджаю да Нью-Ёрку ў машыне з эмігрантамі зь Беласточчыны. І старыя, і маладыя моцна трымаюцца беларушчыны. «Ці ваш Майкл драйвуе карам?» — цікавіцца адзін з маладых. «Драйвуе, драйвуе», — з адметным акцэнтам адгукаецца з задняга сядзеньня жвавая бабуленцыя з-пад Гайнаўкі.

Вянчаньне ў вядомым сваёй талерантнасьцю ўнівэрсытэцкім езуіцкім касьцёле. Служаць па чарзе каталіцкі патэр і праваслаўны бацюшка. Як зазвычай бывае падчас супольных набажэнстваў і ў Беларусі, сьвятары распачынаюць спаборніцтва. Дзякуючы беларускаму хору верх зь яўнай перавагаю бярэ айцец Васіль. Нявеста паходзіць з ужо цалкам амэрыканізаваных італійцаў, а таму беларускі бок (сваты, «Лявоніха», каравай) упэўнена перамагае і падчас вясельнае бяседы.

Застоліцу вам у нейкай ступені дапаможа ўявіць аповед Эдуарда Лімонава «Юбілей дзядзі Ізі». Публіка, вядома, сабралася не такая чарнявая, але наконт ікры і ростбіфаў усё было о'кей.

Рэстаран уладкаваўся над самай Іст-Рывэр, паміж двума мастамі з гірляндамі блакітных лямпачак, якія глядзеліся неяк правінцыйна і нараджалі ў нецьвярозай душы тугу па Бацькаўшчыне.

Я выцягнуў з кішэні зялёны нататнік і запісаў ключавую фразу гэтага дня — «Майкл драйвуе карам».

*25.06.* Кожны беларускі асяродак у Амэрыцы наймацней лучаць з Бацькаўшчынай дзьве рэчы — царква і могілкі.

У Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзі, гэта царква сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. (Пасьля набажэнства да мяне падыходзіць пацісьнуць руку малады эмігрант, былы беларускі кампазытар Зьміцер Яўтуховіч.) А на мясцовых беларускіх кладах можна вывучаць і гісторыю Беларусі XX стагодзьдзя, і яе этнаграфічныя межы. Магіла слуцкага паўстанца Івана Навумчыка. Манумэнтальны помнік прафэсару Радаславу Астроўскаму. (Мае праважатыя ўзгадваюць, як аднойчы ў 1944-м у Баранавічах ён перапудзіў нямецкіх афіцэраў, заявіўшы: няхай партызаны дакажуць, што змагаюцца за вольную й незалежную Беларусь, і я першы пайду зь імі.) Кампазытар і рэгент Дзьмітры Верасаў нарадзіўся пад Смаленскам. Як сам расказваў, прозьвішча было Верас, ды бальшавіцкія пісары падставілі «ов». Помнікі Палюховічам.

Гэтыя родам зь вёскі Сэрнікі з-пад Каменя-Кашырскага, якую пасьля апошняй вайны Сталін «прырэзаў» Украіне.

Юрка Віцьбіч (Стукаліч) прыйшоў на сьвет таксама на беларускай Смаленшчыне, у Вяліжы.

У халадку царкоўнага архіву сакратар парахвіяльнага камітэту Міхась Сенька нарэшце прыносіць мне ўвасабленьне ці не галоўнай мэты маёй заакіянскай вандроўкі — вялізны пакунак дакумэнтаў пад № 28 — «Матар'ялы Віцебскае навуковае экспэдыцыі 1939 г. Здымкі цэркваў, касьцёлаў і г. д. з апісаньнем гіст.». Дзясяткі зьнішчаных помнікаў. Гістарычныя сьведчаньні з дамешкам мясцовых паданьняў. Цьвёрды, з націскам і надзіва чытэльны почырк кіраўніка экспэдыцыі Юркі Віцьбіча. Знаёмае з ранейшых ягоных тэкстаў ігнараваньне добрай чвэрці «правідловых» косак. Мова — расейская.

«Полоцк. Вал Воловьего озера. Известно, что здесь на берегу когда-то находилось в священных рощах капище Перуну… Известно, что в 1563 году в период Ливонской войны Иван Грозный лично топил в проруби этого озера ксендзов-бернардинов»…

«Екимань. Георгиевская церковь»…

«Черея. Белая церковь»…

«Смоляны. Развалины замка королевы Боны. Так или иначе, но народ по сегодняшний день говорит о существовании подземного хода, по которому когда-то Бона ездила на тройке в костел… 3 августа 1708 года, во время Северной войны, замок за исключением угловой башни был разрушен русскими»…

«Витебск. Губернаторский дворец. С 16 июля по 1 августа 1812 года в здании жил Наполеон. Войдя в приготовленные для него на третьем этаже комнаты, он отстегнул шпагу и бросив ее на стол, покрытый картами России, сказал неаполитанскому королю Мюрату: «Я здесь остановлюсь, соединю корпуса моей армии, дам ей отдохнуть и устрою Польшу. Военные действия кампании 1812 года окончены: 1813 год увидит меня в Москве, 1814 — в Петербурге»…

У бары Саўт-Рывэрскага беларускага цэнтру я сяджу насупраць былога паліцэйскага Вовы. Вова дапівае свой скотч, а я сярод Ст’юартаў, Стрыкераў, Струеўскіх, Стралкоўскіх і Ступелаў знаходжу ў гарадзкім тэлефонным даведніку нумар Ганны Стукаліч.

Юрка Віцьбіч зьявіўся на гэтым сьвеце ў 1905-м, ягоная ўдава — на пяць гадоў раней. Кожны з гэтых 95 гадоў пакінуў ня толькі свае кольца на старых дрэвах за вакном, але і сваю фіялетавую жылку на руках спадарожніцы пісьменьніка, што напісаў лірычны маніфэст эміграцыі — «Мы дойдзем!»

Пад роўны гуд кандыцыянэру спадарыня Ганна частуе печанымі яблыкамі і сьвежым вінаградам, і ў яе ўваччу паўстае Віцебск тых часоў, калі ваяўнічыя бязбожнікі паказвалі ў музэі мошчы Сьвятой Эўфрасіньні, Віцебск, дзе, пачуўшы машыну, на іхняй вуліцы ніхто ня спаў, бо ўначы па горадзе езьдзілі адно варанкі, Віцебск, дзе яна працавала да замужжа тэлеграфісткай, і, калі аднойчы ў тэлефоне нехта прамовіў «гут, гут», яе таго ж вечара дапытваў сьледчы, які на адвітаньне сказаў: «Приходите к нам почаще». У тым Віцебску Юрка Віцьбіч жыў спачатку зь першаю жонкаю, якая была нібыта страшэнна раўнівая і праз рэўнасьць нават хавала мужавы рукапісы, а яшчэ, мабыць, ня ўмела тушыць бульбу, бо якраз па гэты кулінарны рэцэпт пісьменьнік аднаго разу па-суседзку зайшоў да дачкі супрацоўніка Віцебскага архіву Кандрацьева, а потым насупор жончынай рэўнасьці напісаў ёй ліст з запрашэньнем прагуляцца, а потым ажаніўся зь ёю й напісаў у газэту «Віцебскі рабочы» памфлет пра Гітлера, у выніку чаго, калі прыйшлі немцы, Віцьбічу з жонкай давялося як найхутчэй зьяжджаць у Менск, хоць потым Юрка і наведваўся ў горад іх маладога шчасьця — каб вярнуць у Полацак мошчы найпадобнейшай Эўфрасіньні…

Рэшткі некалі вялікай бібліятэкі зьмяшчаюцца на трох палічках. И. Бунин «Жизнь Арсеньева»; «Неизданный Гумилев»; Н. Лосский «Достоевский и его христианское миропонимание»; Марк Алданов «Живи, как

хочешь»; Рыгор Крушына, Вінцук Адважны, Масей Сяднёў; K. Akula «Tomorrow is Yesterday».

Кладу на стол толькі што факсымільна перавыдадзеную «Мастацкай літаратурай» найлепшую, на маю думку, Віцьбічаву кнігу «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман». Колер вокладкі акурат такі, як жоўтая гаспадыніна сукенка з дробнымі ружачкамі. Рукі ў фіялетавых жылках пачынаюць дробна трымцець. Што пішуць апошнім часам пра яе мужа ў «нашых» газэтах, я не расказваю.

*26.06.* Прачынаюся ў кватэры спадара Лёвы Высоцкага. Лёву далёка за 80. Вы скажаце, у нас асобныя індывіды таксама дажываюць. Магчыма. Ня ведаю толькі, што яны робяць, калі нагорнецца сумота. Мой гаспадар у такім разе сядае ў машыну і гоніць за сто міляў у найбліжэйшае казіно ў Атлянтык-Сіці.

Сёньня ў вакно да спадара Лёвы зноў заляцеў вецер вандраваньняў, а таму мне засьвяціла паездка на беларускі курорт «Менск». «Нейкія дзьве-тры гадзіны, затое якая дарога: горы, а ўнізе — рака», — спакушае аматар рулеткі.

Рака завецца знаёма — Дэлавэр. Высокія горы пачынаюцца не адразу. Пакуль тое, справа і зьлева застаюцца: штаб-кватэра славутай фірмы «Джонсан і Джонсан», перакуплены ў сьвятых айцоў кляштар, дзе цяпер спыняецца з гарэмам кароль Марока, былая рэзыдэнцыя місіс Анасіс-Кенэдзі і лес, дзе мільянэры палююць на гаротных лісіцаў.

Нарэшце на даляглядзе зьяўляюцца горы. Пры дарозе, на беразе возера, стаіць дом індзейскага правадыра, якога завуць Гром. Каб ніхто з бледнатварых братоў, крый Божа, не памыліўся, аб гэтым нагадвае жоўты шчыт памерам з бульдозэр.

Беларускі курорт падобны да нашых саўмінаўскіх пансіянатаў. Ёсьць усяго парачка неістотных адрозьненьняў — тутэйшым паспалітым людзям пакуль што

не прыйшло ў голаў заасфальтаваць лясныя сьцежкі ды зладзіць побач з бабрынымі хаткамі пляж.

*27.06.* У доме ў мастачкі Галіны Русак найперш уражвае калекцыя індзейскае керамікі. Творы спадарыні Галіны я ўжо бачыў і ў Менску, і ў Полацку. Цяпер мне зразумела, адкуль у яе абразах гэтыя нязвычныя эўрапейскаму воку дэкаратыўныя матывы. Маючы ахвоту, іх нескладана знайсьці і ў яе вобразе Сьвятой Эўфрасіньні. Урэшце, калі ўзгадаць, што юная Прадслава ведала пра купальлі, русальлі ды каляды зусім ня з кніжак і, адрозна ад некаторых расейскіх сьвятых, ніколі не займалася перасьледам паганцаў, ніякай ерасьсю тут і ня пахне.

З кубкам кавы праглядаю загалоўкі ранішніх газэтаў: «Расейскія генэралы апраўдваюць дзеяньні спэцназу ў Будзёнаўску», «Іосіфу Кабзону адмовіліся даць візу ў ЗША» (за цёплыя сувязі з мафіяй), «Стэнаграму сакрэтнай сустрэчы дэмакратаў знайшлі ў віннай краме», «Паўтара мільёна расейцаў — наркаманы»… Гаспадар рэстарацыі Дына Таніэль злавіў карпа вагою 95 фунтаў, а загадчык катэдры афраамэрыканскіх дасьледаваньняў Нью-Ёрскага гарадзкога ўнівэрсытэту Леанард Джэфрыс пазбаўлены пасады за размовы пра тое, што італійцы ды габрэі імкнуцца зьнішчыць мурынаў як расу, дзеля чаго некалі фінансавалі гандаль рабамі, а цяпер кантралююць Галівуд. Відаць, шмат чаго кантралявала і ўсьмешлівая габрэйка Рыма Данілаўна Чаркаская (адразу на пяці здымках), з нагоды заўчаснае сьмерці якой разам з «Новым Русским Словом» смуткуюць, заняўшы цэлую газэтную паласу, жыхары Нью-Ёрку, Кіева, Таронта, Бярдзянску, Тэль-Авіва і Бабруйску.

Падчас вечаровага выступу ў мастацкай бібліятэцы заснаванага яшчэ ў каляніяльны пэрыяд Ратгерскага ўнівэрсытэту (тут пачынаў навуковую кар’еру біяхімік беларус Аўген Вярбіцкі, спэцыяліст у захаваньні ежы, які быў адказны за харчы першай касьмічнай экспэдыцыі на Месяц) уважліва пазіраю на ўключаны ад-

ным нядаўнім эмігрантам зь Беларусі дыктафон. Гэта гальванізаваная апошнімі палітычнымі падзеямі спадумлівасьць чалавека, якому дзядзька ў цывільным аднойчы гадоў дваццаць таму паказаў у службовым кабінэце напісаную суседам па інтэрнатаўскім ложку рэляцыю пад непрэтэнцыёзным назовам «О некоторых высказываниях студента исторического факультета БГУ В. Орлова».

Адолець непамысныя рэмінісцэнцыі дапамагае чырвонае каліфарнійскае. Гэта, вядома, не лямбруска з Эміліі, аднак і не айчынны «Крыжачок» з-пад Вялейкі.

*28.06.* Дырэктар Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель нарадзіўся ў 1927 годзе ў Менску і добра памятае, як двое дзядзькоў Міколаў вучылі яго на беразе рэчкі сьпяваць беларускія песьні. Дзеля таго, што ішлі трыццатыя гады, а дзядзькі гэтыя былі нацдэмы географ Азбукін ды гісторык Улашчык, рэчка, каля якой адбываліся рэпэтыцыі, шанцаў называцца Сьвіслаччу ўжо ня мела, а звалася Вояй і плыла сярод вяцкіх лясоў. Тэрмін высылкі арыштаванага па справе «Саюзу вызваленьня Беларусі» Яўхіма Кіпеля скончыўся ў 1935-м, а праз тры месяцы былы асьпірант БДУ атрымаў яжоўскую «дабаўку» — пяць гадоў тагачаснага БАМу.

Вітаўт з маці жыў у Арле. Аднаго разу маці выклікаў дырэктар школы, дзе яна выкладала расейскую мову. «Мария Васильевна, мы будем давать вам паспорт. Там есть национальность. Мы вам напишем русская, ведь русская или белоруска — это все равно». — «Ну если все равно, — адказала жонка «ворага народу», — то напишите: белоруска».

Дзед спадара Вітаўта меў хату каля Вайсковых могілак і трыццаць гадоў зарабляў на хлеб у шатні менскага гарадзкога, а потым Беларускага дзяржаўнага тэатру. На пытаньне, дзе працуе, ён любіў з гонарам адказаць: «у ціатрах».

З Кіпелем-унукам мы гаворым за сталом, на якім ляжыць карэкта ангельска-беларускага слоўніка на сорак зь лішнім тысячаў слоў, які БІНіМ мае падараваць Беларусі. Размова працягваецца ў кітайскім рэстаранчыку. Да гарбаты афіцыянт падае нешта накшталт салодкіх калдунцоў; заміж начынкі ў адным з сваіх знаходжу цыдулку зь дзьвюма круцельскімі кітайскімі фізіяноміямі ды, відаць іхняй прымаўкаю: разумны ведае ўсё, а хітры — усіх.

Напэўна, я хітры, бо ведаю, што найлепшы праваднік па Нью-Ёрку — спадар Антон Шукялойць, зь якім мы ўжо дамовіліся заўтра ад самае раніцы рушыць па мангэтанскіх авэню і стрытах.

*29.06.* Старшыня Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня Антон Шукялойць з сваімі шыкоўнымі падкручанымі вусамі выдае тыповым беларускім шляхцічам канца XIX стагодзьдзя. Трохі дзіўна, што гэты «шляхціч» захапляецца паэзіяй Алеся Разанава.

На скрыжаваньні Брадвэю й 47-й вуліцы, вядомай сваімі ювэлірнымі крамамі ды ружавашчокімі пэйсатымі габрэямі ў капелюшах, мой праважаты кажа: крыж Сьвятой Эўфрасіньні трэба шукаць у Маскве.

Тут, у цені хмарачосаў, я ня пэўны, што спадар Антось не ідзе ў гэты самы момант па менскіх вуліцах Гаруна або Ігнатоўскага, як за нямецкай акупацыяй зваліся сёньняшнія Камсамольская й Чырвонаармейская.

На сьценах парасклееныя абвесткі па-нямецку і па-беларуску. Шукялойцю дваццаць пяць гадоў, ён — дырэктар Менскага гістарычна-мастацкага музэю. Немцаў ён любіць гэтаксама моцна, як і бальшавікоў, хоць першыя выпусьцілі яго з турмы, куды пасадзілі другія. Брунатны фашызм, думае Антон, прыйшоў на зьмену чырвонаму. Усьлед за зьнікненьнем знаёмых габрэяў з дырэктарскага кабінэту нядаўна прапаў Пэнаў «Гадзіньнікар» — немцы загадалі зьняць усе творы «недачалавекаў». А перад вайной у неварацьад’ехалі ў ва-

ранках менскія выканаўцы праектаў дзівам ацалелага ў Маскве архітэктара Лянгбарда, аўтара будынкаў Дому ўраду і Опэрнага тэатру, якімі захапляўся малады Шукялойць. Ня ўсе сьледчыя НКВД шукалі новазэляндзкіх шпіёнаў і праектантаў тунэляў зь Віцебску ў Бамбэй. Траляліся й такія, што ў гмаху менскай Опэры разгледзелі цытату з рымскага Калізэю, дзе, апрача іншых вясёлых забаваў, публіка з задавальненьнем назірала, як аддавалі на разарваньне львам першых хрысьціянаў. У гэтым быў угледжаны намёк на стараньні «перадавога атраду партыі».

Зь Беларускага гістарычна-мастацкага музэю мы трапляем у мадэрновую бэтонна-шкляную сьпіраль музэю Гугэнгайма на Пятай авэню. Сталую экспазыцыю пачынаюць скульптурныя коні Эдгара Дэга й працягваюць Тулюз-Лятрэк, чорна-сінія, але цёплыя жанчыны Пікаса, і другая вэрсія імправізацыі № 28 Васіля Кандзінскага. Сустрэўшы позірк зеленавокага жоўтага катá з чалавечым тварам (М. Шагал. «Парыж з вакна»), даю зарок убачыць Эйфэлеву вежу з вакна раней, чым за свае грахі павінен буду вярнуцца на зямлю ў іпастасі гэтага бесклапотнага юрлівага стварэньня.

А побач з маім улюбёным «Зялёным скрыпачом» здараецца штосьці трансцэндэнтнае — на рукаво маёй тэніскі апускаецца і ўпэўнена залазіць у кішэню кароўка-багоўка.

Кім жа была ў сваім мінулым увасабленьні ты? Па залях Мэтраполітэн-музэю зь ягоным цалкам перанесеным праз акіян эгіпецкім храмам мы падарожнічаем ужо ўдваіх.

У бруднаватым і цесным нью-ёрскім сабвэі я даю сваёй кішанёвай спадарожніцы беларускае імя, а выбраўшыся на вольнае паветра, паказваю ёй лёгкія самалёцікі, што цягаюць па небе рэкляму з нанізаных на тросікі літараў. Можа, яна хоча палётаць разам зь імі? Не, яна хоча разам са мной на вячэру да Юлі Андрусішынай, маці сьпевака Данчыка, які цяпер ходзіць па праскім бруку Старамескага пляцу або п’е каву на тэ-

расе зь відам на Карлаў мост, дзе ма́е рэальныя шанцы сустрэцца з маёй зданьню.

Незаплянаваны прыпынак: насупраць мяне на пляскатым даху прысадзістага дому стаіць помнік Уладзімеру Ільлічу Леніну. Балючы ўшчык ніякіх істотных зьменаў у краявідзе не выклікае. Ільліч па-ранейшаму стаіць, хоць і паказвае не на віна-гарэлачную краму, як зазвычай бывае ў нас, а на падазроныя вітрыны з голымі прыгажунямі. Спадар Шукялойць тлумачыць: з прычыны дзікае настальгіі помнік прывезьлі і ўсьцягнулі на дах яшчэ савецкія эмігранты. У гэты момант мяне наведвае надзвычай выразнае разуменьне, што я — ня тая расьліна, якая зможа прыняцца на гэтай зямлі, нават калі перавезьці сюды ўсе беларускія помнікі правадыру і на кожны ўсьцягнуць па бусьлянцы. Пасадзіўшы багоўку на далонь, я паўтараю ёй усё гэта ўголас. Мая вандроўніца сур'ёзна выслухоўвае і супакоена раскрывае крылцы.

*30.06.* У славянска-балтыйскі аддзел Нью-Ёрскае публічнае бібліятэкі, дзе працуе Зора Кіпель (сярод безьлічы іншых клопатаў яна выдала ў сваім ангельскім перакладзе беларускую «Аповесьць пра Трышчана»), варта наведацца хаця б дзеля таго, каб спраўдзіць словы менскага калегі, які сьцьвярджаў, што колькі гадоў таму кампутар выдаў яму тут даведку з дадзенымі жыцьцяпісу, бібліяграфіяй і паведамленьнем пра тое, што ў яго, калегі, «няма вершаў пра партыю». Тым, каго хвалююць такія рэзюмэ заакіянскіх дасьледнікаў, магу з усёй пэўнасьцю сказаць: складалі вы вершы гэткага кшталту ці Бог літаваў — кампутар дасьць вам адно даведку пра наяўнасьць вашых кніжак у бібліятэках ЗША і ні слова болей. Таму супакойцеся й знайдзіце на турыстычнай мапе «The Museum of Modern Art».

Мастацкім эпіграфам да ўсёй гісторыі XX стагодзьдзя ўспрымаецца там датаваная 1913 годам карціна нямецкага экспрэсіяніста Франца Марка «Карова»: велічэзная

чырвоная жывёліна, у чэраве якой пасецца на поплаве пакуль яшчэ ружовы бычок, які неўзабаве народзіцца й залье сьвет крывёю. Крывавая аўра твору настолькі моцная, што вы з палёгкаю ўдыхнеце сьвежасьці, якой вее ад шагалаўскіх сумётаў з старым габрэем над зімовым Віцебскам. (Як выказаўся некалі адзін савецкі мастацтвазнаўца: «евреи, да еще и летают — нам такое искусство не нужно».) На музэйным подпісе будзе пазначана: «French, born Belarus», што наўрад спадабалася б паэту Андрэю Вазьнясенскаму, які, гаворачы пра Шагала, любіць згадаць «древний российский Витебск».

Створаны ў 1917-м «Вялікі мэтафізык» Жоржа дэ Кірыко. Мастацкія практыкаваньні дадаіста Курта Швітэрса прыводзяць на памяць прысьвечаны мастаку манумэнт у яго родным нямецкім Гановэры, — колькі пастаўленых, як кубікі, жалезных кантэйнэраў з гарадзкім сьмецьцем, прычым сабраным ня проста так, а ў пэўныя дні пэўных гадоў, што акуратна пазначаныя на кантэйнэрах удзячным скульптарам.

Каля палотнаў і аб’ёмных кампазыцыяў Далі хочацца паразважаць над вэрсіяй, паводле якой пасьля фізычнае сьмерці мастак трапляе ў сьвет вобразаў, створаных ім у зямным жыцьці. Калі гэта сапраўды так, дык той сьвет абстракцыяніста Джэксана Полака (як і беларуса зь Дзьвінску Марка Роткі) будзе суладны, але досыць правінцыйны: ні вялікіх мастурбатараў, ні Нарцызавых мэтамарфозаў, ні дасканалых жаночых формаў, няхай сабе й напоўненых канцылярскімі шуфлядкамі. Напэўна, на тое, каб трапіць у сьвет сваіх вобразаў, заслугоўваюць і літаратары. Адаму Глёбусу, магчыма, будзе карысна бліжэй пазнаёміцца з героямі ягонага «Дамавікамэрону». А якія сустрэчы могуць надарыцца ў Сьмілавічах, Лельчыцах і Вушачах у паэта Б. Спрынчана! Калявадаёмныя «хищники», чалавек у прастрэленым палітоне, першы прэзыдэнт РБ...

Пацепваючыся ад народжанага раптам недзе за каўняром халадку, вы пераходзіце да здабыткаў сюр- ды іншых рэалістаў. Цікава, якую ацэнку даў бы гэтым творам

галоўны мастацтвазнаўца вашай краіны? Напрыклад, «Падарунку» Мана Рэя (чорны прас з хібам прылітаваных да плоскасьці цьвікоў)? Гэта ж элемэнтарна: наклаў у хамяковую клетку цукру-рафінаду або начапіў наківач выразанае з фоткі чалавечае вока — і твор гатовы. І Рэнэ Магрыт — туды сама! Ну які гэта «Партрэт»: «гусак» зь віном ды талерка з амлетам, зь якога на вас зь ціхім дакорам глядзіць чыёсьці вока? Але — вось загадка! — усе гэтыя ідэйна шкодніцкія, антыэстэтычныя і несумненна антынародныя экзэрсісы хоць ты засілься — уражваюць і нараджаюць асацыяцыяў незьмерна болей за, скажам, высоканародныя творы народнага мастака Міхаіла Савіцкага.

Спадар Шукялойць запрашае мяне ў стары ірляндзкі рэстаранчык «McSorley's Old Ale House» на 7-й вуліцы. Мілосьнікі тутэйшага элю нядаўна адсьвяткавалі 125-годзьдзе ягонае хмельнае таямніцы. Самой карчомцы два разы па семдзесят. На ўваходзе наведніка сустракае паведамленьне, якое ў вольным перакладзе гучыць так: цябе яшчэ не было на сьвеце, а мы тут ужо добра сядзелі. Дамінанты інтэр'еру — разьмешчаная пасярод залі вялізная печка кшталту буржуйкі ды аўтэнтычныя аб'явы аб пошуку забойцы Аўраама Лінкальна (1865 год) з прызавым фондам $ 50 000.

За кепска пагабляваным сталом вы мусіце выпіць прынамсі два кухлі бясспрэчна цудоўнага элю. Найпапулярнейшая закусь — ружовая настружаная ялавічына з адваранай бульбай, добра ўтушанай капустаю й кавалкам масла. Гарнір прымушае ўспомніць частыя цяпер у беларускім асяродзьдзі параўнаньні з Ірляндыяй. «Бульбяныя» аналёгіі, што праўда, выглядаюць больш пераканаўча за палітычныя. Гэта падкрэсьлівае й партрэт першага прэзыдэнта незалежнай Ірляндыі, які вісіць тут з часу яго абраньня.

Вы можаце ўявіць, што ў дзьве тысячы пяцьдзесят нейкім годзе дзе-небудзь у менскім ці давыд-гарадоцкім шынку сьцяну будзе ўпрыгожваць партрэт першага прэзыдэнта Беларусі? Немагчыма ўявіць і тое, каб эмі-

грацыя ў выпадку страты незалежнасьці набыла ў нас калі-небудзь такія сумеры, як у Ірляндыі, насельніцтва якой паводле перапісу 1821 году складала 6 мільёнаў 800 тысячаў, а ў 1970 — 2,9 мільёна. Аднак ня трэба лішне драматызаваць і нашае становішча. Дасьведчаныя людзі сьцьвярджаюць, што па-ірляндзку ў Рэспубліцы Эйрэ гаворыць, у лепшым разе, у дзесяць разоў меней грамадзянаў, чым у сёньняшняй Беларусі па-беларуску. Калі гэта можа нас суцешыць, дык мы не самотныя…

Але да вядомай Багушэвічавай формулы такую мэтафізыку не зьвядзеш. Мо варта ўдакладніць: шмат было такіх народаў, што найперш страцілі дзяржаўнасьць сваю?.. Напрыклад, шатляндцы. Побач зь іхняй нашая моўная сытуацыя дык наогул выглядае бліскуча. Карацей, бяз новага кухлю элю тут не разьбярэсься.

На бэльцы над намі прышпіленая добрая сотня значкаў зь дзяржаўнымі сьцяжкамі. Беларускага няма. Няўжо па дарозе ў прыбіральню яго зьняў які-небудзь заблукалы сюды вэртыкальшчык? Афіцыянт-ірляндзец мае іншае тлумачэньне: беларускія значкі часта крадуць людзі з разьвітым эстэтычным пачуцьцём. Значыцца, у героя нашае вэрсіі поўнае алібі.

Калі ўстанове 140 гадоў, тут мае гісторыю нават прыбіральня. Рэч у тым, што да самага канца 1970-х гадоў «McSorley's» разам зь яшчэ дзьвюма нью-ёрскімі піўніцамі быў адчынены выключна для мужчынаў. Фэміністкі вялі зацятую барацьбу за свае правы, і нарэшце новы лібэральны мэр гораду здолеў пратараніць кругавую абарону: у «McSorley's» урачыстым маршам увайшоў першы аддзел заўзятых аматарак добрага старога элю. Пасьля парачкі выпітых пераможцамі кухляў згуртаваныя вакол гаспадара заўсёднікі-мужчыны зларадна назіралі амаль панічнае адступленьне трыюмфатарак на зыходныя пазыцыі: жаночай прыбіральні ў рэстаране не існавала. Прычым яе ня проста не было: з парады адвакатаў гаспадар накіраваў у мэрыю складзеную ў вытанчаным стылі паперу, што, маўляў, дзеля поўнага забесьпячэньня роўных правоў прадстаўніцы цудоўнай

паловы чалавецтва могуць наведваць ня толькі агульную з мужчынамі рэстарацыю, але і яе агульную прыбіральню. Змаганьне ўвайшло ў новую фазу. Пра зьмест лёзунгаў здагадацца даволі лёгка.

Суайчыньніц, якім, магчыма, заманецца сюды трапіць, хачу папярэдзіць: не хвалюйцеся — сёньня дыскрымінацыя паводле палавой прыкметы ў «McSorley's» канчаткова пераможаная.

*1.07.* Разьвітальны шпацыр па Мангэтане пачынаецца ад аздобленага мэмарыяльнай дошкаю сучаснага будынку № 20 на *Broad Street*. Тут стаяў дом, дзе ў 1659 годзе эмігрант зь Вялікага Княства Літоўскага Аляксандар Куртыус заснаваў першую каталіцкую школу Новага Амстэрдаму. Як высьветліў Вітаўт Кіпель, да прыезду ў калёніі доктар Куртыус меў беларускае прозьвішча Карчэўскі і настаўнічаў у Полацку ды Вільні. У Нью-Амстэрдаме ён выкладаў так званую «рускую» мову сваёй радзімы і чытаў курс лаціны.

Паблізу знаходзіцца іншая славутасьць — старадаўні рэстаран з Доўгай Заляй («The Long Room»), што была сьведкаю разьвітальнага банкету Джорджа Вашынгтона й ягоных афіцэраў пасьля здабыцьця незалежнасьці.

Каля гэтых сталоў зь печаным індыком і зялёнымі ды белымі графінамі непазьбежна задумаесься: калі, дзе і зь якімі дзейнымі асобамі адбудзецца такі банкет у нас? І зь якой нагоды: канчатковай заваёвы незалежнасьці ці яе канчатковае здачы?

У суседніх залях наведнік знаёміцца з мастацкім адлюстраваньнем шляху Злучаных Штатаў да свабоды. Сярод батальных палотнаў бачым Вашынгтона з жыхаркаю Філадэльфіі Бэтсі Рос, што пашыла сваёй незалежнай дзяржаве першы сьцяг. Тамсама, у Філадэльфіі, дзе захоўваецца дамок патрыёткі-здольніцы, кангрэс маладой дзяржавы ледзьве не прыняў пастанову, паводле якой дзяржаўнай моваю ЗША магла стаць не ангельская,

а нямецкая (германафілам не хапіла, кажуць, усяго двух галасоў).

У гэткім музэі аналёгіі атакуюць, як авадні, і ты ўвачавідкі бачыш вобразы й назвы палотнаў, над якімі, магчыма, ужо натхнёна працуюць айчынныя жывапісцы: «Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь загадвае выключыць шастой мікрафон у заднім праходзе», «Прэзыдэнт разьвітваецца з сваімі дэпутатамі», «Свае дэпутаты разьвітваюцца з сваім прэзыдэнтам»...

У палоне мілых вобразаў роднага краю хуткасны элевэйтар узносіць мяне на 110-ты паверх найвышэйшага ў сёньняшнім Нью-Ёрку будынку, званага *The World Trade Center*. Далёка ўнізе лётаюць экскурсійныя гелікоптэры. У тых, хто захоча паляцець усьлед за імі, нічога не атрымаецца: пляцоўка агляду нагадвае вартаўнічую вежу пасярод турэмнага двара з усімі адпаведнымі атрыбутамі. Газэты пішуць, што тут, на хмарачосах, пачалі гнездавацца арлы ды сокалы. Пакуль яны высочваюць сабе ахвяраў недзе над Гудзонам, на парэнчы апускаецца мая кароўка-багоўка. «Якраз пасьпела, — расчулена кажу я сяброўцы, асьцярожна адпраўляючы яе ў кішэню. — Зараз паедзем у Нью-Ёрскі ўнівэрсытэт да прафэсара Томаса Бэрда, а ўвечары будзем выступаць з табой у Фундацыі Пётры Крэчэўскага».

У кабінэце прафэсара Бэрда вісіць абвестка, чый зьмест, мабыць, навеяны паездкамі яе аўтара ў Беларусь: «У сувязі зь няпэўным эканамічным становішчам сьвятло ў канцы тунэлю будзе выключана да адпаведнай інструкцыі».

На вечарыне ў Фундацыі Крэчэўскага бачу ў залі аднаго з найарыгінальнейшых літаратараў нашай сучаснай эміграцыі Янку Юхнаўца, кніга якога адкрыла летась сэрыю «Галасы беларускага замежжа» ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

*Мне сьніцца зноў...*
*У хату ўваходжу.*
*Цыркун тужыў па леце у запечку,*

*і павукі з надзеямі спакою*
*усюды ткалі*
*радно сьсівелае...*

Кніга называецца «Сны на чужыне».

А што сьніцца новым эмігрантам — журналістам Алесі Сёмусе й яе мужу Юрку Васілеўскаму, літаратуразнаўцу Лявону Юрэвічу, Дзіму Лявіту, чыю калярытную постаць пры стосах падпольнае літаратуры яшчэ не забылі ўдзельнікі першых бээнэфаўскіх мітынгаў? Ратонда на сьвіслацкай набярэжнай? Вогнішча на дзьвінскім беразе пад Друяй? Слынны Брайтан-Біч, дзе можна ўбачыць шыльду «Пельменная», а жыхары пішуць у мэрыю скаргі, што паліцыя не разумее расейскае мовы?

Кастусь Мярляк, аўтар кнігі мэмуараў пад адмысловаю назвай «Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі», дорыць мне талерку са статуяй Свабоды. Маладыя эмігранты дамаўляюцца, як будуць бавіць уік-энд. У кутку, разгарнуўшы на каленях прывезеную мною газэту, дзе на першай паласе пад'ёмны кран здымае з Дому ўраду дзяржаўную «Пагоню», ціха плача незнаёмы стары беларус.

*2.07*. У доме ў доктара Алы Орсы апрача людзей жывуць двое сабак. Іхнія ймёны пэўным чынам адлюстроўваюць працэсы, якія йдуць у асяродзьдзі гаспадароў-эмігрантаў: старога завуць Мікітам, а маладога — Сода-Папам (па назьве папулярнага напою). Стары беларускую мову разумее добра, а малодшы, перш чым зразумее, мусіць добра падумаць. Праўда, для сям'і спадарыні Орсы згаданыя працэсы ня надта тыповыя. Яе сын Паўлік, студэнт мэдыцыны, гаворыць па-беларуску не зусім дасканала, але ня горш за пісьменьніка Івана Чыгрынава. Матчыну мову Паўліку не займае і ў халаднаватых хвалях Атлянтыкі, дзе я нарэшце зьдзяйсьняю сваё рытуальнае купаньне.

Увесь гэты час мая кароўка-багоўка аддана чакае мяне ў кішэні. Відаць, згаладаўшыся, яна зьяўляецца на людзі ў грэцкім рэстаране. Запрыкмеціўшы маю сяброўку, спадарыня Ала апавядае, што апошнім часам у Амэрыцы за пару даляраў можна набыць пушачку з божымі кароўкамі, якіх потым выпускаюць у садзе ці ў гародзе, каб яны елі шкоднікаў. Я выказваю далікатны сумнеў у тым, што багоўкі дакладна ведаюць межы ўладаньняў сваіх гаспадароў. Ці не палятуць яны, шчасьліва выбавіўшыся зь няволі, на гістарычную радзіму? Якраз так яны і робяць, пагаджаецца суразмоўніца.

Пачуўшы гэта, мая багоўка падымаецца ў рэстараннае неба.

Праз тры гадзіны адлятаю на гістарычную радзіму і я.

У прыбіральні аэрапорту Кенэдзі грала нягучная музыка і пахла добрым дэзадарантам. У прыбіральні аэрапорту Менск-2 не было туалетнае паперы.

У палёце з Варшавы стуардэса прапанавала пасажырам сьвежы нумар рэспэктабэльнага выданьня пад назовам «Gazeta Swiąteczna». Чакаючы багаж, шукаю ў ёй паведамленьняў зь Беларусі. Адзіная знойдзеная навіна: падрыхтаваны ўказ аб стварэньні ў раёнах, якія мяжуюць з Польшчай, Украінай і балтыйскімі дзяржавамі, добраахвотных дружынаў дапамогі памежнікам. На нататку зьвяртае ўвагу і мой сусед-паляк. Чаму такіх дружынаў ня будзе на расейскай мяжы? — пытаецца ён і чуе загадкавы адказ: каб у нашых прыбіральнях ніколі не было туалетнай паперы.

*1995*

# Экспэдыцыя № 4

У цэнтры Бэрліна грубка гудзе ўзімку гэтаксама ўтульна, як і ў полацкім доме майго дзяцінства, дзе я яшчэ ня піў «белавескай», ня быў знаёмы з прафэсарам Норбэртам Рандавым і ня ведаў, што такое «интимная подруга».

Калі вам дагэтуль не даводзілася гартаць сваё дасье, працягвайце клапаціцца пра яго папаўненьне ды зайздросьце майму гаспадару, які прапануе тост за пасьяховае завяршэньне знаёмства з уласным жыцьцяпісам паводле вэрсіі штазі.

1200 старонак зь дзевяці пульхных буйнафарматных тамоў, створаных вялікім калектывам аўтараў адразу на некалькіх эўрапейскіх мовах, ксэракапіяваныя Норбэртам для фамільнага архіву. Перабіраючы іх у пошуках кірыліцы, я змагаюся з затоеным страхам высмыкнуць раптам старонку з чыім-небудзь знаёмым почыркам.

Значную частку кірылічных тэкстаў складае расейскамоўнае ліставаньне начальнікаў аддзелаў міжнародных сувязяў міністэрстваў дзяржбясьпекі ГДР і НРБ таварышаў Дзімітра Міцева і Вілі Дама. Вось першы таварыш (зь нязьменным «социалистическим приветом») паведамляе другому, што, прыбыўшы ў НРБ (вольнасьцяў накшталт проста Баўгарыі не дапускаецца), Н. Рандаў першым чынам «отклонил наше предложение остановиться в студенческом общежитии под предлогом, что условия являются недостаточно подходящими для его интимной подруги Теды, гражданки Западного Берлина, заявляя, что она — его супруга», а потым неадкладна заняўся варожай дзейнасьцю, у прыватнасьці, «поделился мыслями, что в ГДР было поставлено кофе плохого качества и немецкий народ впервые за 20 лет был готов подняться на бунт». Пасьля гэтай шкодніцкай вылазкі «объект» так разышоўся, што паведаміў «источ-

ніку», нібыта «настоящая литература не должна рассчитывать на публику и успех, а должна твориться тихо, ради самой себя и во имя будущего». (Тут можна выказаць асьцярожнае меркаваньне, што таварыш «источник» наўрад ці быў дворнікам або сантэхнікам.)

Таварыш Вілі Дам расейскай валодаў горш і, магчыма, таму любіў карыстацца тэлеграфам. Урэшце, і клопатаў ён меў непараўнальна болей: трэба было вывучаць рэляцыі стукачоў з турмы, дзе малады Рандаў сядзеў тры гады за прапаганду «Доктара Жывага» ды іншыя злачынствы, учытвацца ў справаздачу зь дзён нараджэньня «объекта» з дакладным указаньнем гадзінаў і хвілінаў прыходу і адыходу кожнага госьця, аналізаваць паведамленьні таварышаў зь Беларусі, дзе Рандаў замест таго, каб жлукціць на навукова-літаратурных банкетах гарэлку, знаўся з падазронымі тыпамі, якія салідарызаваліся зь ім у тым, што «интеллектуалов преследовали не только сегодня, но и всегда — такова их судьба».

Сярод карэспандэнтаў тав. Дама сустракаецца нейкі тав. Штэфан, а таксама баец нябачнага фронту, які падпісваўся: Паэт. Самае пікантнае, што гэта сапраўды быў паэт ці, прынамсі, чалавек, што пісаў і друкаваў вершы. (NB для айчынных перакладчыкаў: Паэта звалі Паўль Вінц.)

Мой унутраны ляндшафт пачынаюць аздабляць мілыя вобразы роднага краю: праспэкт Ф. Скарыны, жоўты дом з калёнамі, бэльвэдэрам і некалькімі (як апавядаюць абазнаныя людзі) падземнымі паверхамі, шматкілямэтровыя стэляжы з дыхтоўна пераплеценымі тамамі, якія раз-пораз здымае ў мяккім люмінісцэнтным сьвятле мужчынская ці жаночая рука з доўгімі вільготнымі пальцамі.

Мы з Норбэртам не выключаем, што ў гэты самы момант таварышы Дам і Міцеў сядзяць каля каміну недзе ў Маскве ці ў Карлавых Варах (а можа, у Менску?) і смакуюць што-небудзь больш вытанчанае за нашую «белавескую».

* * *

Мая заходнебэрлінская знаёмая, якая нарадзілася ў сям’і нямецкага каляніста ў Паўднёвай Афрыцы і лічыць найвялікшай у сьвеце каштоўнасьцю падарожжы, зьбянтэжана прызнаецца: ні ў Беларусь, ні, тым больш, у Расею яна пакуль не паедзе. Я непатрыятычна ўдакладняю, што назвы краінаў варта было б памяняць месцамі.

* * *

На ранішняй прагулянцы спатыкаю бабулечку-«дзьмухавец», якая аказваецца ўдавою правадыра нямецкага народу Вальтэра Ульбрыхта. Нічога трансцэндэнтнага тут няма, бо нас з паэткаю Нінай Мацяш пасялілі на былой віле яшчэ аднаго героя камуністычных энцыкляпэдыяў таварыша Ота Гротэволя. Некалі ў гэтыя зацішныя кварталы ўсходнебэрлінскага раёну Панкаў траплялі толькі праз некалькі шлягбаўмаў.

Цяпер схаваныя за шлягбаўмамі таямніцы пакрысе выбіраюцца на белы сьвет. Напрыклад, муж гэтай дзевяностагадовай бабуленцыі, якая жыве побач з намі на Маякоўскірынг, пачынаў партыйную кар’еру з таго, што займаўся сутэнэрствам.

Пачатак кар’еры Норбэрта Рандава таксама, хоць і па-іншаму, уражвае: у 1958-м ён быў перакладчыкам у часе візыту Тодара Жыўкава ў сацыялістычную Нямеччыну. Візыт адбываўся за пару тыдняў да прэзыдэнцкіх выбараў у Францыі. Ульбрыхт палічыў патрэбным падзяліцца палітычным прагнозам адносна абраньня генэрала дэ Голя: «Францускі народ ніколі не пагодзіцца, каб ім кіраваў гэты авантурыст». Жыўкаў дыпляматычна перавёў гаворку на авечкагадоўлю.

«Ульбрихт был просто дурак», — па-расейску рэзюмуе сваю згадку былы партыйна-ўрадавы перакладчык, які ў тыя часы, нагледзеўшыся на правадыроў, ужо пачытваў заміж клясыкаў марксізму розныя сумнеўныя кніжэнцыі.

* * *

На нашых літаратурных чытаньнях бэрлінскія інтэлектуалы адказваюць на паведамленьне пра беларускі пераклад «Парфумы» Патрыка Зюскінда іранічнымі ўсьмешкамі. Каму яны адрасаваныя — аўтару бэстсэлеру ці беларускім перакладчыкам — застаецца загадкаю.

* * *

Сёньня я ўрачыста даю сабе слова, што, трапіўшы ў Ірляндыю, абавязкова знайду Нуалу Ні Гональ, паэтку, якая дала «The New York Times Book Review» інтэрвію, толькі што прачытанае ў «Нашай Ніве».

«Калі пра што і варта пісаць, дык адно пра нешта вялізнае: нараджэньне, сьмерць ды пра найважнейшае, што стаіць паміж імі — сэкс».

«Нас прымушаюць прыйсьці да іранічнай высновы, што калі мы памрэм, спакойна ўздыхнуць тыя, хто адчувае сябе няёмка ў сваёй ірляндзкасьці, пакуль існуе жывая моўная традыцыя, да якой яны не належаць».

Я самаўпэўнена думаю, што ўжо двух гэтых пасажаў з інтэрвію хопіць на тое, каб нам разам з Нуалай не было сумна.

Знаёмства я мог бы пачаць з таго, што ў яе прыгожае імя, якое — зусім па-беларуску — вільготна пахне затокаю, аерам і русалкамі, а калі б мы пасябравалі, я аднойчы насьмеліўся б назваць яе Нуалкай і прапанаваў бы паслухаць, як гучыць па-наску яе гэльскі верш з знарочыста казённаю назваю «Моўнае пытаньне», чые шапатліва-зялёныя вобразы закалыхваюць мяне ў гэты вечар на былой віле тав. Гротэволя:

*Я пускаю сваю надзею на ваду*
*ў маленькім чоўне мовы*
*нібы кладу дзіця*
*у калыску…*

* * *

На пытаньне некаторых беларускіх знаёмых, ці быў ён у Хатыні, Норбэрт Рандаў адказвае, што паедзе туды, калі мы пабудуем мэмарыял у Курапатах.

* * *

Перад літаратурнаю вечарынай у паўночнанямецкім гарадку Нойштрэліцы цяжка ўявіць хоць аднаго немца, які адкладзе свае справы дзеля сустрэчы з двума літаратарамі з краіны, дзе расстрэльваюць паветраныя шары з амэрыканскімі спартоўцамі, а прэзыдэнт прызнаецца ў сымпатыях да партайгеносэ Адольфа Гітлера.

Аднак, магчыма, якраз апошнія акалічнасьці і зьбіраюць у залю большую частку публікі.

А, магчыма, і не. Бо гарадок некалі быў сталіцаю вялікага герцагства, а каля герцагаў музы водзяцца, як вядома, крыху часьцей, чым, прыкладам, каля графаў.

Гарадзкому тэатру з балетнай і драматычнай трупамі 250 гадоў. Яшчэ нядаўна ў партэры часта бачылі савецкіх афіцэраў: на 25 тысячаў жыхароў прыпадала роўна столькі ж таварышаў па зброі з усходу. Здаецца, гэтае суіснаваньне мела досыць мірны характар. Калі дэлегацыя гораду наведала новае месца дысьлякацыі выведзенай у Расею дывізіі, яе камандзір падшафэ прызнаўся, што хоча, каб на яго надмагільным помніку апрача датаў нараджэньня й сьмерці было таксама напісана: «жыў» і стаялі даты службы ў Нойштрэліцы.

Гісторыя выглядае вельмі мілаю, калі забыць, колькі калегаў сэнтымэнтальнага расейскага камдыва дагэтуль мрояць пажыць у такіх утульных гарадках — калі не ў нямецкіх або чэскіх, дык, на горшы выпадак, хоць у беларускіх ці ўкраінскіх.

* * *

На вокладку апошняга нумару гановэрскага часопісу «Textura» вынесеныя імёны дзесяці беларускіх літаратараў. Ніна Мацяш сьпявае на прэзэнтацыі сваю «Калыханку для мамы». Сівенькая фраў у першым радзе

выцірае вышыванай хусьцінкаю сьлёзы. Ружавашчокі мужчына ў абліччы тыповага задаволенага жыцьцём і півам бюргера рэагуе больш непасрэдна. Ён падыходзіць да стала і пачынае дэклямаваць:

*На ніцях белай павуціны*
*Прывозяць восень павучкі...*

Потым пяе «Лявоніху» і завяршае імправізаваную літаратурна-музычную кампазыцыю вершам Янкі Купалы пра вялікага Сталіна. Спадар Ітман нарадзіўся ў 1930-я гады пад Празарокамі і скончыў чатыры клясы беларускае школы.

...Калі мы спаткаемся ў Дубліне з Нуалай Ні Гональ, я раскажу ёй, што ў Гановэры ёсьць цалкам прыстойны ірляндзкі паб зь півам Guinness і наіўны прафэсар Хюпэр, які спадзяваўся дзякуючы мне ўдасканаліць сваю ангельскую мову.

* * *

Размаўляць з нашай перакладчыцаю паэткаю Эльке Эрб па-расейску — суцэльная асалода. «Эльке, как называется эта река?» — «Не знаю. Я с ней не разговариваю».

Беларускія тэксты Эльке перакладае з падрадкоўнікаў, але часам яе вабяць арыгіналы, і тады нашы дыялёгі робяцца яшчэ больш забаўныя. «Прайшла га́дзіна, — чытае яна і адрывае ад старонкі зьдзіўленыя вочы. — Володя, как может пройти гадина, если она не имеет ноги?»

Прыкладна так узнаўляе беларускі тэкст і мая суседка зь Серабранкі, толькі яна нічому не зьдзіўляецца, а грэбліва падціскае вусны: «Как всё грубо... Цырульня, гарбата... Это от слова «горб»?» — «А ваша парикмахерская — это от слова «хер»?» — далікатна высьвятляю я.

* * *

У бэрлінскім Далемскім музэі найцікавейшымі для мяне нязьменна застаюцца ацтэкі ды інкі. Няхай іхнія

цывілізацыі ня ведалі каня, кола і альфабэту — усе недахопы кампэнсуе змрачнавата-вытанчаная эратычная кераміка і скульптура.

Не давайце веры казкам, нібыта заходняя публіка мае вышэйшыя эстэтычныя памкненьні. Самы вялікі натоўп, як зазвычай, сабрала палатно Лукаса Кранаха «Крыніца маладосьці».

Сюжэт карціны прэтэндуе на глыбокі падтэкст. Яе дамінанта — купальня, да якой пеша, конна, возна й карэтна кіруюцца старыя кабеты. Адну мадам муж альбо каханак цягне на ўласным карку, другую амарант транспартуе на тачцы накшталт тых, зь якімі будавалі ДнепраГЭС і Магнітку. У чароўную крыніцу цяжка залазяць карготы і сухарэбрыцы, а выбягаюць адтуль гладкія грудастыя маладзёнкі зь зіхоткімі вачыма.

Шматмоўная дыскусія, што адбываецца каля палатна, круціцца вакол таго, чаму ў купальню ня лезуць мужчыны. Дзякуючы прысутным аматаркам выяўленчага мастацтва, кантрапунктам узьнікае тэма блытаніны: аматаркі хвалююцца, ці не пераблытаюць мужы і каханкі сваіх дзівосна паюнелых спадарожніцаў, бо тыя мяняюцца да непазнавальнасьці, захоўваючы хіба нейкую адмысловую радзімку альбо шнарык ад апэндыцыту. Мужчыны дыпляматычна маўчаць: выглядае, што, трапіўшы на карціну, яны шукалі б асобыя прыкметы ня надта заўзята.

У суседніх залях прыемная цішыня.

Мастацтва паўсюль належыць народу.

* * *

Аднаго разу ў Сафійскі ўнівэрсытэт прыйшоў ліст, адрасаваны Клімэнту Ахрыдзкаму, чыё імя носіць галоўная баўгарская alma mater. Дырэктар Інстытуту гісторыі Акадэміі Навук ГДР прапаноўваў адрасату наладзіць навуковыя сувязі. Паколькі самому Ахрыдзкаму (X ст. н. э.) напісаць адказ было досыць складана, гэта зрабіў за яго на просьбу баўгарскіх калегаў доктар Норбэрт Рандаў.

* * *

Рандаў успомніў сваю дружную турэмную брыгаду «палітычных», на чале якой стаяў самы добранадзейны зьняволены, што засек сякераю жонку. Турэмныя правілы абавязвалі адміністрацыю забіраць з пасылак шакаляд. Відаць, з таго часу Норбэрт так любіць шакалядныя цукеркі.

Я апавядаю гісторыю, як віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру Карлас Шэрман у юнацтве наведваў у аргентынскай турме пасаджанага за палітычную заварушку Шэрмана-старэйшага. Сярод астатняга зьняволеным забаранялі перадаваць кнігі. Затое ў сьпісе дазволенага да перадачаў фігуравала какава. Убачыўшы ў Шэрмана-малодшага кнігу, жаўнер-ахоўнік рашуча закруціў галавой. Тады Карлас паказаў на сьпіс і на назву кнігі. Жаўнер засумняваўся і паклікаў сяржанта. У таго мазгі працавалі хутчэй, і Карласаў бацька атрымаў у сваёй камэры раман Жоржы Амаду «Какава».

Яшчэ адну какава-шакалядную гісторыю я вырашаю за сталом не варушыць. У трыццатыя гады мінулага стагодзьдзя ў полацкай перасыльнай турме НКВД «ворагаў народу» ставілі ў яму, якую паступова залівалі разьведзенымі чалавечымі экскрэмэнтамі, чакаючы, пакуль жыжка дойдзе да ніжняе вусьніны, каб яшчэ можна было вырваць прызнаньне. Гэта называлася «зрабіць шакалядным».

На такой асноведзі сюжэт з канфіскаванымі ў гэдээраўскай турме цукеркамі выглядае бледнавата, і я прапаную выпіць за гістарычны поступ.

* * *

Нямецкі кампутар выдаў нам квіткі ня толькі ў розныя купэ, але і ў чужы, маскоўскі вагон, забіты людзьмі й валізамі, быццам на перагоне паміж якім-небудзь Серпухавам і Бугульмой. Я, вядома, не такі прастадушны, каб разьлічваць, што тут хто-небудзь кінецца дапамагаць мне цягнуць па вузкім міжнародным праходзе інвалідны вазок зь Нінаю. Мы былі ўнутрана гатовыя

і да таго, што ні ў водным з дваццаці купэ ніхто не пагодзіцца памяняцца з намі месцамі, але, трэба прызнаць, недзе ў пыльным заканурку наіўнай беларускай душы ўсё ж кволілася надзея.

Я з вазком бездапаможна стаю ў праходзе. Зьмясіць кулакамі ўсе гэтыя родныя славянскія пысы ў мяне ня хопіць сілы, і я зьвяртаюся да адзінай даступнай цяпер зброі. Не, я не тлумачу, што Ніна ня можа хадзіць. Я разумею, што, напэўна, у іншым вагоне цягніка «Бэрлін—Масква» магло быць іначай, але ў гэтым атрымалася тое, што атрымалася, і таму я гучна, каб мяне пачулі ад тамбуру да тамбуру, кажу: «Русские — свиньи!»

Яны глытаюць моўчкі, толькі з аднаго купэ вытыркаецца чырванашчокі мардаварот зь ленаватым пытаньнем: «Кто здесь оскорбляет русских, бля?», але, угледзеўшы вазок, хуценька наступае на горла нацыянальнаму гонару і рыўком зачыняе дзьверы.

Нам саступае купэ нямецкая сям'я.

* * *

Па пэроне ў памежным Тэрэспалі мытнікі цягнуць у завязаных жаночых калготках два дзясяткі рэквізаваных літровых пляшак гарэлкі. Натхнёны выгляд хлапцоў зь белымі арламі на фуражках усяляе ўпэўненасьць, што лёс у гэтай гарэлкі будзе шчасьлівейшы і даўжэйшы, чым у той польскай «Выбаровай», якую ў ангельскім порце Рамсгэйт на вачах у мяне і ў мытнікаў яе вялікасьці ўласнаручна выліваў за борт мой спадарожнік Кшыштаф.

На століку ў купэ ляжыць «Общегражданский заграничный паспорт СССР». «Срок настоящего паспорта продлён до 2001 года», — чытаю я ў чаканьні памежнага кантролю.

Чацьвертая экспэдыцыя ў Нямеччыну заканчваецца.

Там, за Бугам, Берасьце. Заходняя брама краіны, абрысы якой пакуль што ўзнаўляюцца на палітычных мапах новай Эўропы.

*1995*

# Вустрыцы а пятай раніцы

*Зацемкі з мангэтанскіх ваколіцаў*

З вышыні 35 000 футаў Шатляндыя выглядае вясковаю коўдрай з брунатных, зялёных і жоўтых шматкоў розных адценьняў, на якой, скруціўшыся ў клубкі, прыгрэлася парачка пухнатых белых котак.

* * *

Калі хтосьці не захоча даць веры, што ў XVI стагодзьдзі я пазіраваў Лукасу Кранаху Старэйшаму для ягоных «Самсона і Далілы», няхай знойдзе адпаведную залю ў Мэтраполітэн-музэі. Я ў кашулі свайго ўлюбёнага малахітавага колеру заснуў, уладкаваўшы галаў на грудзях у пяшчотнай каханкі, якая ўжо ведае таямніцу маёй нечалавечае сілы. Можна ўявіць, зь якой вострай асалодаю левая рука Далілы лашчыць мае рассыпаныя па вішнёвым аксаміце сукенкі кудзеры, бо правая рука пасьпела ўзброіцца нажніцамі, а ў садзе, таймуючы радаснае нецярпеньне, ужо затаіліся філістымляне.

Хто паслужыў мастаку мадэльлю Далілы, пакуль невядома.

* * *

У царкве Маці Божай Жыровіцкай у Нью-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі, раптам заўважаеш, што рэчаіснасьць набыла нейкую новую якасьць. Адчыняюцца дзьверы, і ў абліччы зграбнай сьветла-русай дзяўчыны знаходзіш адказ: у гэтых сьценах, як і наогул паўсюль, дзе зьбіраюцца беларусы, фантастычна высокая для Амэрыкі канцэнтрацыя прыгожых жанчын.

* * *

Расейскамоўная, зь мяккім габрэйскім акцэнтам газэтка «Вечерний Нью-Йорк» зьмясьціла чульлівае паведамленьне пра 15-фунтавага лёбстэра Карліта, які доўгія гады працаваў рэклямным агентам у супэрмаркеце

і быў адпушчаны на волю актывістамі таварыства абароны жывёлаў. На думку актывістаў, Карліт пражыў на сьвеце болей за чвэрць стагодзьдзя. У двух крыху меншых лёбстэраў (а па-наску, марскіх ракаў), якіх сябра прыцягнуў з крамы на рагу 1-й авэню і 6-й стрыт, працоўная біяграфія аказалася карацейшаю.

Пасьля трох пінтаў піва і лёбстэравай шыі з тузінам каралеўскіх крэвэтак можна камфортна адкінуцца ў фатэлі і пад прыемнае гудзеньне кандыцыянэру аддацца плыні ўспамінаў пра піянэрскае дзяцінства, калі разам зь сябрамі ўцякаў зь летніку пад Полацкам на Ветрынскае возера, варыў там у вядры дробных айчынных ракаў, падглядаў за старшай важатай і маладым маёрам зь мясцовага вайсковага гарадка, а ўвечары ўпотай спрабаваў складаць вершыкі. У тым ліку і пра Амэрыку:

*В переулках трущобных*
*И на мусорных кучах*
*Вспоминаешь невольно*
*О Родине…*

* * *

Калі а пятай раніцы паводле менскага часу возьмесься жаваць сьвежую вустрыцу, ня выціснуўшы на яе струменьчык цытрынавага соку, найдакладнейшым з усіх магчымых атрымаецца параўнаньне ейнага смаку з прозаю народнага пісьменьніка Беларусі Івана Навуменкі.

* * *

Амэрыканец украінскага паходжаньня пытаецца, ці складаюць беларусы пра свайго прэзыдэнта анэкдоты, што мой суразмоўца схільны разглядаць як прыкмету духоўнага ачуняньня народу.

Зь некалькіх вядомых мне прыстойных анэкдотаў у дадзенай сытуацыі найбольш таварна выглядае, бадай, гэты. Прэзыдэнт едзе на свае ўлюбёныя дажынкі, а беларусы, стоячы абапал дарогі, скандуюць: «Да жын-кі! Да жын-кі!»

* * *

Пачутая ў Амэрыцы беларуская показка: у вітрыне польскае кнігарні на Мангэтане выстаўленая кніга Гэмінгўэя «Stary i morze». «Ого! — заінтрыгавана спыняецца нейкі тутэйшы беларус. — Стары і — можа!»

* * *

Хоць і надзвычай рэдка, аднак такую мурынку ў Нью-Ёрку — дзе-небудзь у музэі ці на мастацкай выставе — таксама сустрэнеш: на шостым, а мо і на сёмым дзясятку, але з грацыёзна-субтыльнаю дзявочай постацьцю і зь невялікай галоўкаю, чыю беззаганную дасканаласьць дазваляе ацаніць неверагодна сэксуальная фрызурка, вынаходнік якое здолеў пакінуць слой срэбных валаскоў якраз такой празрыстае таўшчыні, каб празь яе сьвіцілася шакалядавая асноведзь.

* * *

Уявіце вычварныя камбінацыі жылаў і артэрыяў ускрытага патолягаанатамам трупа, і перад вамі будзе дакладная насьценная схема мангэтанскіх аўтобусных маршрутаў.

* * *

Заплюшчу перад сном вочы і зноў убачу вечар на горным летніку ў Юлі і Паўла Андрусішыных: хвоі, дробны, але непалахлівы амэрыканскі зайчык у траве за дзесяць крокаў ад дому, вялікая клюмба і падобныя да нашых хрушчоў калібры над белымі, крэмавымі і ружовымі кветкамі духмянае табакі. Памяць дапоўніць гэтую вартую пэндзля Анры Русо ідылію ўсяго адной адсутнай дэталяй — сьвежым нумарам «The New York Times» з рэдакцыйным артыкулам «The Tyrant of Belarus».

* * *

Прыемна бывае сустрэць на ранішнім Мангэтане добрую знаёмую. Асабліва калі гэта родная пляменьніца Івана і Антона Луцкевічаў, былая жонка Аўгена Калубовіча і цяперашняя бабуля сьпевака Данчыка Яніна Ка-

ханоўская, якую некалі ў Ракуцёўшчыне насіў на руках Максім Багдановіч.

Учора мы вярталіся з гор, і яна ўзгадала, як у чэрвені 1941 году на менскай вуліцы бесклапотна мыліся агоденыя да поясу нямецкія жаўнеры, а пастаўлены побач з калёнкаю патэфон сьпяваў:

*Если завтра война,*
*Если завтра в поход...*

* * *

Ва ўкамплектаванай суцэльнымі рарытэтамі бібліятэцы спадарыні Яніны знаходжу выдадзеныя ў 1950-м у Парыжы «Воспоминания» Івана Буніна, дзе ён па чарзе разьбіраецца зь Ясеніным («талант пошлости и кощунства»), з Бальмонтам («всю жизнь поистине изнемогал от самовлюбленности»), з Брусавым («бессовестно лгал о своем знании языков»)...

А нашае зацятае недрукаваньне густа аброслага мітамі дзёньнічка М. Багдановіча (няхай там гаворыцца не зусім пра літаратуру і літаратараў) выглядае дэманстрацыяй нацыянальнае няўпэўненасьці і ня болей.

* * *

Ураньні Зянон чытае мне свой верш пра траву, што пажоўкла так, як на радзіме, але там, за вакном, не радзіма.

* * *

Тое, што кожны скандал вакол яшчэ аднаго магчымага адультэру прэзыдэнта Клінтана паніжае ягоны рэйтынг, знаёмы амэрыканскі беларус лічыць несусьветнай лухтой. Паводле ягоных словаў, усё якраз наадварот: «Малайчына, Біл!» — кажуць, паглядзеўшы тэлевізар, мільёны выбаршчыкаў ад Аляскі да Каліфорніі і гатовыя заўтра ж абіраць лавэласа Біла на новы тэрмін.

* * *

Пасьля стрэсу ад пераломуклубу Натальля Арсеньнева колькі дзён гаварыла на чысьцюткай расейскай мове.

* * *

На выставе афрыканскага мастацтва ў музэі Гугэнгайма, сярод чорных камэрунскіх скульптураў, вясёленькіх суданскіх масак і ўтульных ахвярных камянёў з Танзаніі, над якімі спрытна завіхаліся продкі сёньняшніх чарнаскурых наведнікаў, чыя колькасьць набліжаецца да крытычнае масы, халоднай зьмейкаю высьлізгвае аднекуль думка аб тым, што гадоў празь пяцьдзясят тут адчыніцца выстава эўрапейскага мастацтва і на нізе гэтай геніяльнай бэтонавай сьпіралі гэтаксама, як і цяпер, будуць граць і сьпяваць музыкі, але ўжо ня чорныя, а белыя, і калі яны, валячыся з ног ад стомы, зробяць кароткую пярэрву, натоўп белазубых слухачоў не пачне пляскаць у ладкі, а незадаволена прысунецца бліжэй…

Намагаючыся абагнацца ад гэткага відовішча, вы крыху пасьпешліва заходзіце ў бакавую залю, дзе дамінуюць два велізарныя творы: на адным — няроўна адцяты чалавечы ступак, на другім — жыўцом вырванае блакітнае вока. (Якога колеру скура на ступаку — пытаньне для дэбілаў.) Вы амаль пэўныя, што вам паказваюць зьмешчаныя ў фармалін часткі чалавечага цела і, толькі наблізіўшыся, разумееце: гэта ўсяго толькі ўмела падсьветленыя слайды. Думаць пра тэхналёгію здымкаў чамусьці ня прагнецца.

* * *

Зьяўленьня ўбачанага на выставе ступака міжволі чакаеш у вагоне падземкі, дзе зарабляе свае даляры факір-індус, аднак, на шчасьце, ён выцягвае з магічнага капелюша традыцыйную галубку.

* * *

Гэтай навіне пакуль што ня веру: Арсеньнева страціла зрок.

* * *

Адна з істотных хібаў (ці вартасьцяў?) славы ў тым, што яна імкнецца вызваліць свайго ўладальніка ад асабістага жыцьця. Справядлівасьць гэтага труізму яшчэ раз пацьц-

вярджаецца на выставе працаў Тулюз-Лятрэка, дзе прадаецца ягоны багата ілюстраваны жыцьцяпіс. Адзін з фотамастакоў засьпеў маэстра ў часе будзённай, але важнай справы. Каб у чытача зьніклі ўсялякія сумневы, дыптых забясьпечаны гранічна канкрэтным назовам — «Defecation on a beach». Пясьняр «Мулен Руж» адлюстраваны, так бы мовіць, у апагеі творчага напружаньня і трошкі пазьней, у ціхамірную хвіліну падцягваньня штаноў.

* * *

«Брадвэй, якім я яго бачу цяпер, і якім бачыў цэлыя дваццаць пяць гадоў, — гэта пандус, народжаны ўяўленьнем Сьвятога Тамаша Аквінскага, пакуль ён яшчэ знаходзіўся ў матцы. Напачатку меркавалася, што карыстацца гэтым пандусам будуць адно вужакі ды жужалкі, рагатыя жабы й чырвоныя чаплі, але пасьля гібелі вялікай гішпанскай армады чалавецтва выкулілася з каравэлы на сушу і распаўзлося ў розныя бакі. Вось так, поўзаючы й выпручваючыся ў агідных, непрыстойных паставах і рухах, яно і пракалупала гэтую шчыліну, падобную да дзіркі ад вагіны, якая цягнецца цяпер ад Батэры на поўдні да гольфавых пляцовак на поўначы праз мёртвы цэнтар Мангэтанскае выспы, які кішмя кішыць чарвякамі. Ад Таймз Сквэр да 50-й вуліцы вы знойдзеце ўсё, што забыўся ўключыць у свой твор Тамаш Аквінскі, гэта значыць, што тут, апрача ўсяго іншага, ёсьць гамбургеры, гузікі да каўнерыкаў, пудэлі, гульневыя аўтаматы, шэрыя кацялкі, стужкі да друкавальных машынак, памаранчавыя палачкі, дармовыя прыбіральні, гігіенічныя пракладкі, мятныя пігулкі з водарам ююбы, більярдавыя шары, наскрыляная цыбуля, скамечаныя сурвэткі, люкі, жуйкі, матацыклетныя каляскі і буркілівыя старыя пні, цэляфанавыя абгорткі, аўтамабільныя шыны, магнэта, конскія шмаравідлы, смактуны ад кашлю, а таксама кашэчая расплывістасьць таленавітага да гістэрыкі еўнуха, што кіруецца зараз да фантанчыку зь пітной вадою з сваім «урэзкам» паміж ног».

Я ніколі ня буду перакладчыкам з ангельскае, але застануся ў гісторыі нашых з амэрыканцамі літаратур-

ных сувязяў тым, што ўпершыню пераклаў на беларускую мову ў Нью-Ёрку цэлы абзац з Гэнры Мілера, а менавіта — зь яго напісанага ў 1938 годзе ў Парыжы «Тропіку Казярогу».

* * *

Эміграцыйны гісторык Леў Акіншэвіч лічыў асноўнай прычынаю палітычнай паразы Вялікага Княства Літоўскага «дэманстратыўны выбар ягонай элітай заходняга (а ня ўсходняга) шляху». Заходнія каштоўнасьці, на ягоную думку, прышчапляліся да іншага культурнага пня, і ў выніку чым мацнейшая была «вэстэрнізацыя», тым большы супраціў яна сустракала ў самой краіне і асабліва звонку — найперш з усходу.

Займаючыся экстрапаляцыяй Акіншэвічавай высновы, ловіш сябе на тым, што празьмерна ўважліва разглядваеш зусім маладыя ногі жанчыны, якая вязе цябе ў аэрапорт Кенэдзі.

* * *

Шматкалёрныя агні вечаровага Нью-Ёрку за ілюмінатарам складваюцца ў дакладныя копіі арнамэнтаў ацтэкаў і інкаў з Мэтраполітэн-музэю.

* * *

У нашым «Боінгу-767» занятае ў лепшым разе кожнае дзясятае месца. Цяжка пазбыцца думкі, што займацца каханьнем тут было б значна спакайней і ўтульней, чым у тым самалёце, дзе падарожнічала славутая літаратурная й кінанімфаманка Эмануэль.

* * *

Над узьбярэжжам Эўропы добра відаць, як, сустрэўшыся з морам, вялікія рэкі яшчэ даволі доўга працягваюць свой шлях і захоўваюць абрысы дзякуючы адметнаму колеру вады. Ранішняе назіраньне нараджае асацыяцыі й аналёгіі — зрэшты, дастаткова банальныя, каб пераносіць іх на паперу.

*1996*

# Пяць трупаў у басэйне

*Калегам з «Бум-Бам-Літу»*

Цудоўна аднае раніцы прачнуцца знакамітым, прыемна расплюшчыць вочы ў ложку з прытомленай любоўнымі ўцехамі сьветласкураю куртызанкай, але, дайце веры, зусім няблага і проста адарваць на досьвітку галаў ад падушкі ў стандартным нумары з кандыцыянэрам, каб праз хвіліну нырцануць у аточаны фінікавымі пальмамі басэйн, дзе пакуль што няма тапельцаў у строгіх эўрапейскіх гарнітурах з моднымі гальштукамі, а таму можна ціхамірна плаваць, глядзець на пудовыя гроні сьпелых фінікаў, слухаць, як у гулкім паветры муэдыны спаборнічаюць зь пеўнямі, і думаць, што ўсё гэта — няхай і не экватарыяльная зь яе гіпапатамамі ды імпэратарамі-канібаламі, але — Афрыка.

Учора твой ручнік таксама ляжаў на шэзьлёнгу пад мандарынавым дрэвам, але твая істота заставалася ў абладзе выжлуктанага на берасьцейскай мытні піва, выпітых у варшаўскім аэрапорце трох філіжанак кавы з каньяком і рассмакаванага над Сыцыліяй чырвонага віна, што ўтварылі кактэйль, які ніяк не хацеў здаваць сваіх пазыцыяў чыстай, як сьлёзы тутэйшага прэзыдэнта Бэн Алі, інжыравай гарэлцы, і тут нічым не маглі дапамагчы ні купаньне ў хвалях Левантыйскага Понту, ні прыморская ювэлірная крама, у якой за пяць хвілінаў кошт падазронага залатога ланцужка з 360 дынараў упаў да 60, ні грунтоўна загаджаны свойскімі гусямі дворык міжнароднага тэлефоннага пункту, дзе за дзесяць даляраў удалося сэкундаў трыццаць пагаварыць зь Менскам. Учора ты яшчэ знаходзіўся ў Эўропе, паўнамоцным прадстаўніком якой да самае поўначы была пляшка «Беларускага бальзаму», а сёньня нарэш-

це прачнуўся ў Афрыцы і замест аскомістага матыўчыку, што прычапіўся да цябе ў самалёце, у галаве круціцца сьвежая, як ранішняе паветра, мэлёдыя, узьніклая ў выніку знаёмства з тутэйшаю тапаніміяй:

*Сус, Сахэль, Эль-Кантаё,*
*Картаген, Габэс, Эль-Джэм…*

Сус — горад, дзе ты плялёскаесься ў басэйне. Эль-Кантаё — імя гарадзкога порту. А Картаген — мэта тваёй першай афрыканскае вандроўкі.

За вакном аўтобуса плывуць пакрытыя аліўкавымі гаямі спадзістыя адгор'і Атлясу, дзе палююць на неабачлівых турыстаў бязьлітасныя атляскія львы. Каля антычнае калёны на пустэльным скрыжаваньні «галасуе» пад аліваю арабка ў белым строі.

Гэта — Туніс.

Гены ягоных жыхароў памятаюць фінікійцаў і рымлянаў, бізантыйцаў і сыцылійскіх нарманаў, гішпанцаў і туркаў… Пакуль дадаеш да пераліку вандалаў Гэйзэрыха, якія сьцьвярджалі сваю ўладу, адбіваючы ў антычных статуяў насы і геніталіі затым генуэзцаў, што пабудавалі над морам змрочныя, падобныя да гіганцкіх чарапахаў фартэцыі затым французаў, якія пайшлі адсюль толькі сорак гадоў таму, наўзбоч аўтастрады вырастае жывая ілюстрацыя да тваіх этнагістарычных развагаў. Сьпярша гэтае фантасмагарычнае відовішча прымаеш за фата-маргану: перад табой перанесеная з палатна Пітэра Брэйгеля Бабілёнская вежа, вяршыня якой хаваецца ў туманным воблаку. Здаецца, праз імгненьне вока пачне адрозьніваць на схіле гары прылады працы і мурашыныя постаці будаўнікоў, што кінулі выклік Богу…

Да думак пра мэнтальнасьць тунісійцаў ты вернесься праз пару гадзінаў, калі сярод 184 прывезеных з Картагену калёнаў сталічнага Вялікага мячэту адаб'есься ад спадарожнікаў і разгублена адчуеш, што канчаткова заблытаўся ў раскінутым за брамаю Баб-эль-Бахал нераце мэдыны — сярэднявечнага арабскага гораду зь

нялічанымі сотнямі крамак, майстэрняў і кавярняў, дзе не ступала нага жанчыны. Але адначасна зь велізарным зьдзіўленьнем усьвядоміш і іншае: ад гэтых пакручаста-гарбатых прыцемных вулачак ды іхніх смуглых насельнікаў на цябе вее не трывогаю, а спакоем, і ты пачуваесься ў стакроць большай бясьпецы, чым аднойчы ў гэткай самай сытуацыі ў турэцкіх кварталах Заходняга Бэрліна. Ты задаволена канстатуеш, што ў крыві ў тунісійцаў несумнеўна адклаліся шэсьць стагодзьдзяў уладараньня высакародных рымлянаў. Ніхто не акідвае цябе ліпучым позіркам, ніхто не хапае за руку і ня просіць дынар, хоць ты ўжо на ўсялякі выпадак падрыхтаваў колькі манэтаў і купюру з антычным профілем Гамількара. Затое кожны сустрэчны гатовы зразумець тваю ангельскую мову і паказаць дарогу да авэню першага прэзыдэнта Хабіба Бургібы.

На гэтай авэню цябе чакае ўрок найноўшае гісторыі Тунісу, і ты пераконваесься, што бізантыйцы таксама ня білі тут бібікаў.

Хабіб Бургіба заняў сваё крэсла ў 1956 годзе, пасьля чаго ўдзячны электарат, не пакутуючы на празьмерную павагу да канстытуцыі (яна дазваляла стаяць на чале дзяржавы ня болей за два тэрміны), чатыры разы перавыбіраў бацьку нацыі на новыя пяць гадоў і нарэшце, зьнясілены ўласнаю палітычнай актыўнасьцю, прагаласаваў за пажыцьцёвае прэзыдэнцтва. А калі ты даведаесься, што цэнтральны сталічны пляц носіць імя 7 лістапада, усьцяж твайго хрыбетніка сьлізгане містычны халадок. Гэты дзень стаўся ў тунісійскім календары чырвоным пасьля таго, як дзесяць гадоў таму замест абяцанага тэлепраграмаю фільма на экранах узьнік прэм’ер-міністар (а па сумяшчальніцтве і міністар унутраных справаў) Зін эль Абідын Бэн Алі, які паведаміў, што нястомныя клопаты пра народ падтачылі прэзыдэнтава здароўе. Тыя, каго агарнуў лёгкі сумнеў, пачулі заверанае сямю дактарамі мэдычнае заключэньне. А неўзабаве, каб пераканацца ў непахісным здароўі новага бацькі нацыі, ужо ня трэба было пстрыкаць уклю-

чальнікам тэлевізара, бо краіну — ад мэдрэсэ да прыдарожнага слупа ў Сахары — абклеілі рознакалібравымі партрэтамі і партрэцікамі, зь якіх румяны і гладка прычасаны Бэн Алі сачыў, наколькі старанна выконваюцца ягоныя ўказы аб забароне палітычных партыяў.

У Картагенскім археалягічным парку ты ўвачавідкі пераканаесься, што вядомую пастанову рымскага сэнату аб разбурэньні гораду-суперніка пасьпяхова выканалі. Але час адпомсьціў і пераможцам: сёньня сярод абломкаў пунічнай і рымскай цывілізацыяў за сьнежна-белым мурам хаваецца прысадзістая рэзыдэнцыя Бэн Алі, што ў перакладзе значыць проста сын Алі, а па-нашаму Саша.

Разьвеяцца ад аналёгіяў ты здолееш адвячоркам у гарадку мастакоў і рамесьнікаў Сыдзі Бу Саідзе, чый рэльеф адразу ўваскрашае ў памяці «наш» Гурзуф. Тут, як амаль ва ўсім Тунісе, непадзельна пануюць два колеры: белы і блакітны. Белы — сьцены, блакітны — дзьверы, вокны, каваныя агароджы гаўбцоў і тэрасаў. Белы ў гэтых шыротах не патрабуе тлумачэньняў. Але выяўляецца, што і блакітны — не даніна эстэтыцы, а жыцьцёвая неабходнасьць, бо праз сіні колер, як сьцьвярджае твой праваднік Самір, не праляціць ніводзін камар. Гэты сакрэт быў вядомы яшчэ картагенцам, якія мелі, трэба прызнаць, досыць спэцыфічную культуру: пакінулі выдатныя агранамічныя і астранамічныя трактаты, але нейкім чынам «забыліся» пра мастацкую літаратуру, што, на твой погляд, прычынілася і да паразы ў Пунічных войнах, і да зьнікненьня ў IV ст. нашае эры самой картагенскае, дакладней, пунійскае мовы.

Белае і блакітнае. Выключэньне — мусульманскія гарады мёртвых. Тых, каго загортваюць у тканіну і кладуць у зямлю на правы бок тварам да Мэккі, камары даймаюць значна меней.

Пасьля вячэры ў бэрбэрыйскай вёсцы, дзе пажылы стомлены вярблюд цягае ў скураным мяху ваду з студні, дзе жанчыны апранаюцца ў чырвонае і замест танца жывата выконваюць нацыянальны танец клубоў,

а мужчыны здатныя танчыць з драбінамі ў зубах альбо зь пірамідаю піўных бутэлек на галаве (адзін зь іх у перапынку паміж танцамі прапаноўвае табе жанчыну за 50 даляраў), дзе ў неабмежаванай колькасьці падаюць нядрэннае ружовае віно «Бахус» і нясмачны тунісійскі «кус-кус» — кашу з чырвоным соўсам, у якую дадаюць рыбу, мяса, гародніну і, відаць, усё, што заманецца, пасьля ўсёй гэтай экзотыкі дома, у Сусе, захочацца трошкі Эўропы, і ты выправісься ў дыскатэку з падазронаю назваю «Самара» (зрэшты, гэтаксама завецца і твой гатэль) і там пазнаёмісься з танклявай хімічнай бляндынкай, зь якой паспрабуеш гаварыць па-ангельску, але высьветліш, што яе завуць не Элізабэт і ня Мэрылін, а — Іра, і пад мэлёдыю «Каліфорніі» ты расчаравана пяройдзеш на расейскую, але пад раніцу, тым ня менш, прысьніш прыгожы сон пра цырк і бялявую канатаходку, што ідзе на страшэннай высачыні, трымаючы ў вуснах дзеля раўнавагі чырвоную ружу.

Параўнаўча з папярэднім наступны дзень будзе выглядаць пустым, як перакуленая яшчэ да нараджэньня Хрыстовага амфара.

На пляжы ты падставіш зімоваму тунісійскаму сонцу твар і, заплюшчыўшы вочы, лёгка ўявіш сябе на ліпеньскай Нарачы, куды панаехала раптам немцаў і палякаў. А рэшту дня будзеш бадзяцца па крамах і крамках, яшчэ не падазраючы, што твае гаспадары зусім не выпадкова заплянавалі перад экспэдыцыяй у Сахару адзін-адзіны пункт праграмы — турэцкую лазьню.

У яе ты і павінен прыйсьці якраз такі — пазбаўлены сьвежых уражаньняў і стамлёны цягліва доўгім днём. І тады там, у клубах густой і духмянай імбірна-гваздзіковае пары, уладкаваўшыся каля ружовага мармуровага фантанчыка на бледна-блакітным лежаку, які раз-пораз паліваюць гарачай вадою зь меднае балеі, ты пачуеш у сваёй крыві ўніклівы голас салодкае атруты Ўсходу. Атруты, якая калісьці спакваля трапіла ў жылы расейскіх маракоў імпэратарскага флёту, што ў 1920-м засталіся на гэтым узьбярэжжы і пабудавалі ў Тунісе

і Бізэрце праваслаўныя храмы. Каля аднаго зь іх ты сустрэў учора красуню ў шчыгульных белых джынсах, у абліччы якой суладна зьліліся славянскія і ўсходнія рысы; яна вяла да царквы ярка-рудога хлопчыка ў матросцы і за штосьці ўшчувала яго па-арабску.

Атрыманыя ад Саміра на самым пачатку сафары інструкцыі табе будзе цяжкавата назваць натхняльнымі. У цябе наперадзе ноч у пастаўленым проста на пяску двухмясцовым намёце. На ўваходзе ў яго ніхто не зьбіраецца разглядваць твой пашпарт і змагацца за высокую маральнасьць, але — няма ў прыродзе дасканаласьці — усе выгоды такога начлегу перакрэсьліваюцца настойлівай парадаю: пасьля заходу сонца трымацца як мага бліжэй не да каго-небудзь яшчэ, а да вярблюдаў, бо пах іхняе мачы дзейнічае на сахарскіх зьмеяў і скарпіёнаў прыкладна так, як вянок часныку на тваіх родных эўрапейскіх вампіраў. Ты пякуча зайздросьціш Саміру: ён у кашабіі — белай сьвітцы зь вярблюджае воўны, што напэўна як сьлед вымачылі ў згаданым вышэй сродку, а на табе ўсяго толькі небясьпечныя белыя штаны з бавоўны.

Яшчэ адна рэкамэндацыя: здымаць (у сэнсе фатаграфаваць) спатканых у Сахары жанчын можна адно зь іх згоды; у адваротным выпадку ты створыш сабе магчымасьць пазнаёміцца з арыгінальнымі звычаямі некаторых плямёнаў.

Першы прыпынак надарыцца ў гарадку Эль-Джэм, дзе нават вярблюды ганарацца цыкляпічным амфітэатрам II ст. н. э. (150х125х36), які і сёньня мог бы пасадзіць на каменныя лавы 30 тысяч аматараў крывавых відовішчаў. У эль-джэмскім калізэі руіны Картагену будуць успрымацца як нешта занядбана-правінцыйнае; такое ўражаньне пакінулі б, відаць, зьедзеныя карыесам часу зубы Крэўскага замку, калі паставіць іх побач з готыкай Міру. Аднак ты не пасьпееш пранікнуцца антычнаю веліччу, бо з шчыліны паміж каменнымі блёкамі на цябе ўважліва паглядзіць першы прадстаўнік незьлічоных сахарскіх скарпіёнаў, і ты пачнеш з асабліва цёп-

лым пачуцьцём думаць пра вярблюдаў і асабліва пра цудадзейную мачу.

На ўезьдзе ў колішні фінікійскі порт Габэс тваю трывожную дрымоту парушыць Самірава паведамленьне пра пяцізоркавы гатэль праваруч дарогі. Падняўшы павекі, ты ўбачыш там велічэзны лягер з вартаўнічымі вышкамі, кулямётамі і астатнімі атрыбутамі «зоны» ўлучна з могілкамі, на якіх працягвае адбываць пакараньне прах зьняволеных. (Ты ўжо будзеш ведаць, чаму Самір пасьля зьяўленьня ў Тунісе сьвята 7 лістапада тэрмінова ад'ехаў вучыцца ў Кіеў.)

Краявід цудоўна дапоўняць дзясяткі дотаў, дзе паўстагодзьдзя таму пісалі чульлівыя лісты дадому жаўнеры вэрмахту, што, як і ты, баяліся скарпіёнаў і марылі аб белатварых прыгажунях далёкае радзімы.

Пасьля Габэсу алівы зьнікнуць, і ты пачуеш выразнае дыханьне найвялікшае пустыні сьвету.

Гэта таксама будзе Туніс, але ўжо зусім іншая краіна. Тут, адрозна ад шыіцкае поўначы, жывуць суніты, і жанчыны ходзяць у чорным. Тут усьлед за бэрбэрскаю вёскай міражом мільгане абсалютна пазбаўлены зеляніны гарадок, населены аднымі мурынамі вугальна-чорнага суданскага тыпу. Тут перахопленыя позіркі тубыльцаў вельмі часта нават з нацяжкаю не назавеш прыязнымі.

Уяўляючы Сахару суцэльным пяском з выдмамі, ты памылісься. Тутэйшая яе частка гарыстая і складаецца выключна з каменю. Сталіца гэтых мясьцінаў Матмата не падобная, бадай, ні на адзін горад Старога і Новага сьветаў. Некалькі тысяч ейных насельнікаў спрадвеку атабарыліся ў выдлубаных у скалах пячорах. «Хату» сярэдняга матматаўца можна вылічыць па тэлеантэне, навязаным вярблюдзе ці аўтамабілі. Над глінабітнаю выгбаю ўваходу цябе абавязкова прывітае намаляваная сіняю фарбай рука — ад урокаў. Не абстаўляючы ласку невыканальнымі ўмовамі, пячорныя жыхары дазволяць табе зазірнуць у свае апартамэнты. Зморшчаны, як перапечаны яблык, твар бабулі Фацімы расплывецца

ў бяззубай усьмешцы. Не, колькі ёй гадоў, яна ня ведае. Можа, сто, жвава круцячы жорны, прызнаецца падобная да Бабы-Ягі гаспадыня, а можа, і трыста. Калі трыста, дык бабуліна ўнучка, што гатуе на газе «кус-кус» у пячоры-кухні, «пацягне» гадоў на 150–200, але яшчэ вельмі і вельмі, як сказаў бы адзін жывы беларускі клясык, «варта гжэху».

Зловіш сябе на жаданьні папрасіць напіцца, ды адразу ўспомніш, што ты ў Сахары, якая ўжо высмактала ўсю ваду ў прыбіральні суседняга гатэлю «Траглядыт». (На колькасьць мухаў у рэстаране гэтая акалічнасьць прыкметна не паўплывае.)

За Матматай горы паніжэюць, і пустэльня пачне нагадваць велічэзны статак вярблюдаў, які ўкленчыў абапал дарогі да самага даляглядy. Дзякуючы Саміру ты ўжо засвоіш процьму жыцьцёва неабходных у гэтым навакольлі зьвестак. Напрыклад, ты будзеш гатовы беспамылкова адказаць на пытаньне, колькі месяцаў доўжыцца ў вярблюдзіцы цяжарнасьць і зь якой хуткасьцю бяжыць драмадэр. Ты будзеш уражаны тым, што даўжыня ягонага фаласу дасягае 1,3 мэтра, але, нягледзячы на гэта, ён, драмадэр, мае звычку пасьля сьмерці гаспадара разьбіваць сабе галаву аб камень…

Плынь інфармацыі перапыніцца на паліцэйскім посьце. Падхорцісты аўтаінспэктар запросіць кіроўцу Алі прайсьці ў сваю «кропку», адкуль той вернецца, несучы пад пахаю папяровы скрутак. З асьмяглых вуснаў Алі будуць зьлятаць зусім ня словы малітвы. Самір выразна паляпае па кішэнях і стаічна патлумачыць, што перад Новым годам паліцыя клапоціцца, каб кіроўцы не засталіся без насьценных календароў з партрэтамі прэзыдэнта.

Чым глыбей шаша будзе ўгрызацца ў гарачае цела Сахары, тым меней ты ўбачыш у рэдкіх аазісах надпісаў па-француску, і тым болей тваё вока сустрэне лагодных усьмешак Бэн Алі і чырвоных сьцягоў з зоркай і паўмесяцам. На адзін мячэт на ўсьцеху электарату будуць налепленыя ажно дваццаць два ўсенародна абраныя.

Дваццаць трэці будзе вісець на прапускным пункце яшчэ аднаго пяцізоркавага гатэлю за калючым дротам.

На гэтых паралелях горадам у Афрыцы лічыцца ўжо любое паселішча з сотняй-другой жыхароў. Дуз — брама ў клясычную Сахару. Адсюль ты паедзеш вершкі.

Касавурачы на цябе вялікае рахманае вока, вярблюд спачатку падымецца на заднія ногі, потым выпрастаецца і возьме курс на сонца, якое хутка коціцца за барханы. Ён будзе разьмерана ставіць ногі ў тонкі, як пытляваная мука, пясок і мэлянхалічна жаваць схопленую мяккімі плюшавымі губамі калючку. Асядланая табою жывёліна будзе надзіва спакойнаю і, відаць, з гэтае прычыны не заслужыць уласнага імя. Пагоншчык Насір скажа, што твайго вярблюда клічуць проста вярблюдам, ці, па-тутэйшаму, кемалем.

Знаёмы з фатаздымкаў і фільмаў рафінаваны сахарскі краявід, што разьлягаецца перад табою, зьнячэўку парушыць падсмажаны сонцам да шакалядавага колеру маладзён, які выйдзе з памаранчавым плястыкавым вядром з-за бліжэйшае выдмы. У вядры асьвяжаюцца бутэлечкі з колай, якую Самір забараніў табе піць гэтаксама катэгарычна, як і есьці плады кактусаў. Неўзабаве колькасьць маладзёнаў зь вёдрамі зраўняецца з колькасьцю вярблюдаў.

Так, усё больш націраючы тое месца, дзе сьпіна пераходзіць у іншую ня менш каштоўную частку цела, ты і будзеш вандраваць сярод зьвечарэлых барханаў — насустрач невыказна прыемнаму адкрыцьцю, што сёньняшнюю ноч табе наканавана бавіць не ў намёце пад аховаю паху вярблюджае мачы, а ў вельмі прыстойным гатэлі гораду Эль-Флявуар, дзе жывуць пяць сотняў людзей і прыкладна столькі ж вярблюдаў.

У гатэлі будзе міжнародны тэлефон-аўтамат, і парт’е, якога ты навучыш казаць «калі ласка» і «дабранач», знойдзе табе код невядомае яму датуль Беларусі: 011-375. Калі табе ня будзе шкада дынараў, ты зможаш патэлефанаваць у Менск ці ў Полацак і паведаміць, што п’еш цяпер чырвонае віно ў Сахары, у гарадку, дзе абрываец-

ца дарога і на тысячу кілямэтраў на поўдзень цягнецца толькі пясок, прастора зэро, населеная міражамі і таямнічымі істотамі кшталту крылатых драмадэраў і белых шакалаў з чалавечымі вачыма. Чарнаскуры парт’е будзе апавядаць табе пра занесеныя пяском і населеныя прывідамі аазісы, пра сваю леташнюю паездку ў Парыж і пра жыхароў пустыні, якія, убачыўшы ў руках у госьця пушку запалак, просяць зрабіць ім такую самую і найвялікшым дзівам лічаць існаваньне дзьвюх абсалютна аднолькавых газэтаў ці цыгарэтных пачкаў.

Старанна падбіраючы ангельскія словы, гэты сын ускраіны цывілізацыі будзе казаць штосьці яшчэ, і ты — мо таму, што за плячыма ў твайго візаві няма звыклага партрэту Бэн Алі — прасякнесься да яго глыбокай чалавечай сымпатыяй, але ягоныя словы ўжо ня будуць дасягаць твае сьвядомасьці. Табе захочацца выйсьці ў сахарскую ноч, апусьціцца, забыўшыся на зьмеяў і скарпіёнаў, на цёплы пясок і падумаць пра тое, што кожнае тваё падарожжа неўпрыкмет ператвараецца ў паломніцтва да той краіны, якая і ёсьць сапраўднай фата-марганай, бо матэрыялізуецца адно тады, калі ты пакідаеш яе, і зьнікае, растае ў паветры, як толькі ты вяртаесься.

Але перад вяртаньнем у цябе яшчэ застанецца даўжэзны заўтрашні дзень, які пачнецца ўсходам сонца пасярод сухога салёнага возера Шот-эль-Джэрыд, адкуль вузкая стужка шашы прывядзе ў аазіс Тазэр.

Бэтонны сьфінкс у паранджы каля дарожнага паказальніка. Зьвярынец з скарпіёнкаю Маргарытай і саляматрамі Рамэо і Джульетай. Фатаграфаваньне за 1 дынар зь нібыта самым высокім чалавекам плянэты (2 м 34 см), які мае схільнасьць да славянак, у сувязі з чым зьезьдзіў у Маскву, дзе адразу сем фотамадэляў далі згоду выйсьці за яго замуж. Парк атракцыёнаў «1000 і 1 ноч», дзе найбольш арыгінальным табе падасца пакой, у якім з натужным пуканьнем намагаюцца выбрацца на волю замураваныя ў цесных гляках джыны.

У апошняй кропцы сафары, горадзе трохсот зь нечым мячэтаў Кайруане, які называюць Мэккаю Магрыбу,

табе засьвярбіць сфатаграфавацца з гаспадаром дывановае крамы, і ён ветліва падвядзе цябе да атаманкі пад велічэзным партрэтам Бэн Алі на тле чырвонага сьцягу.

Гаспадару гэтага царства дываноў ня трэба будзе тлумачыць, што такое Беларусь. «Мінск. Чернобыл. Лукаш’енка!» — узрадавана загалёкае ён і прапануе набыць любы тавар за палову кошту.

І калі ты не захочаш разьвітацца з дынарамі, ён ані не зазлуе, а з такой самай пэрлінаваю ўсьмешкаю ад вуха да вуха ўсьцешана паўторыць: «Чернобыл. Лукаш’енка» і тыцне табе ў жывот мясісты палец, як быццам «Лукаш’енка» — гэта ты.

У аэрапорце ты зноў адчуеш дотык ягонага пальца з залатым пярсьцёнкам, і тваім апошнім афрыканскім уражаньнем застанецца цёплы позірк брывастага тунісійскага бацькі.

Пяць трупаў у басэйне?

Іх не было. Бо калі бацька абвясьціў лідэраў палітычных партыяў тэрарыстамі і ворагамі народу, тыя, перайшоўшы на нелегальнае становішча, пасьпелі эміграваць.

Алаг акбар, і няхай доўжыць ён на зямлі цень таго, хто ідзе шляхам праведнікаў, — сьпявае пасярод Сахары твой знаёмы эль-флявуарскі муэдын, і ты можаш не ўдакладняць, каго ён мае на ўвазе.

*1996*

# Не пяюць пеўні ў Нэсэбры

*Жнівеньскія маргіналіі*

## Анкляў Радзімы

Колькі параў амаль дарослых дзяцей, супольны інтэлект якіх прыкладна роўны інтэлекту жуйкі або недакурка, так і ня сьцямілі ўва ўкраінскай мытнай дэклярацыі, што такое «громадянство», ня кажучы ўжо пра «країну народження».

Субтыльная расейскамоўная бляндынка да свайго пяцігадовага Тадзіка заўсёды гаворыць па-польску. Дагледзеўшы да канца дэманстраваны празь відэаплэеры эратычны фільм, бляндынка абурана верашчыць, каб «больше такую гадость не показывали».

Да тваёй беларускай мовы ў аўтобусе ставяцца па-featureрознаму. Тадзікава маці — зьдзіўлена. Немаладая міністэрская дама — абсалютна індыфэрэнтна. Кіроўцы пераходзяць на «Вы». Прадстаўніца турфірмы зьлёгку палохаецца. Палкоўнік увесь час сьпіць.

## Палкоўнік

Уяві сабе ўтульнага хатняга пацучка, якога нейкая злая ці добрая сіла ператварыла ў двухногую істоту ніжэй сярэдняга росту, ня надта пры гэтым зьмяніўшы пыску. Ад самага Менску гэтая істота жлукціць гарэлку, сьпіць і раз-пораз патрабуе спыніць аўтобус. Пасьля кожнай такой сэрыі пацучок надзявае новую кашулю. Апратку падае ягоная жанчына, таксама маленькая, але падобная ўжо не да пацучка, а да белай мышкі, прычым падабенства гэткае вялікае, што, здаецца, у яе ў шортах хаваецца хвосьцік.

На чарговае патрабаваньне спыніцца каля кусьцікаў міністэрская дама неспадзеўкі рэагуе абураным ля-

мантам. «Потише, — зусім цьвяроза адгукаецца пацучок, — я, между прочим, работал полковником». Мышка ўстаўляе свае тры шэлегі. «А ты что, работала подполковником?» — абрывае міністэрская дама. «А ты и под лейтенантом не смогла бы!» — парыруе мышка.

### Карпенка

На кожнай мяжы адбываецца зьбіраньне пашпартоў, а потым — іх раздаваньне. Мэханізм аднолькавы: прадстаўніца турфірмы гучна чытае прозьвішчы ўладальнікаў. Сярод апошніх ёсьць нейкі Карпенка. Палкоўнік сьпіць або дрэмле, але, пачуўшы гэтае прозьвішча, нязьменна адплюшчвае адно вока і гучна абвяшчае: «Памёр!»

### Палкоўнік-ІІ

На ўкраінскіх памежных пераходах Палкоўнік упэўнена дапамагае суседзям запаўняць дэклярацыі, вымаўляючы ўкраінскія словы на беларускі капыл. Гэта сьведчыць пра тое, што ў гады сваёй не такой ужо і далёкай маладосьці Палкоўнік мог змагацца з нацыяналістамі, за што на пачатку 1990-х гадоў і быў узнагароджаны гадзіньнікам зь бел-чырвона-белым сьцягам і «Пагоняй», які ня зьняў з рукі і напрыканцы гэтых самых эпахальных 1990-х.

### Румынія

Магчыма, пад уплывам сёньняшняга сонечнага зацьменьня гаспадар прыдарожнай кавярні спрабуе даць табе рэшту з даляраў нямецкімі маркамі, паважна пераконваючы, што ў Румыніі курс 1:1.

Фурманкі тваё вока сустракае на шашы не нашмат радзей за аўтамабілі. Роўнасьць статусу гэтых транспартных сродкаў падкрэсьліваюць нумары дзяржаўнай рэгістрацыі ў адных і ў другіх. Часам парнай запрэжкай кіруе падобны да «крутога» хлопец у белай кашулі з гальштукам.

Прыбіральняў усьцяж аўтастрады не прадугледжана, таму экалягічны прыпынак робіцца пасярод палетку кукурузы. Кіроўцы аглядаюць блізкія даляглyды з загадкавай усьмешкаю. Неўзабаве высьвятляецца, што ў папярэднюю паездку румынская паліцыя зрабіла якраз у гэтым месцы засаду і дрвюм грамадзянкам РБ, засьпетым «на гарачым», давялося пад пагрозаю арышту і вязьніцы выкласьці па 100 $.

Каля гораду Канстанцы згадваеш, як у школе праходзілі паўстаньне на браняносцы «Пацёмкіне» і на кантрольнай твой аднаклясьнік Коля напісаў: значэньне паўстаньня ў тым, што маракі здаліся румынскім уладам. Цалкам верагодна, што менавіта нашчадкі рэвалюцыйных расейскіх матросаў робяць засады ў кукурузе.

Палкоўнік-III

Позна ўначы твой аўтобус доўга стаіць на румынска-баўгарскай мяжы. Палкоўнік колькі хвілінаў нэрвова тупае каля дзьвярэй, затым з спрынтэрскай хуткасьцю бяжыць да шлягбаўма, апярэджвае баўгарскіх памежнікаў, што запозьнена кідаюцца напярэймы, і зь пераможным крыкам «Ніхт шысэн!» хаваецца за дзьвярыма будынку зь літарамі WC.

Баўгарскія братушкі не адкрываюць агню, што дазваляе вернутаму пад канвоем у Румынію Палкоўніку пагардліва заўважыць: «Хіба гэта мяжа?» і даць афарыстычную дэфініцыю: «Мяжа — гэта там, дзе страляюць».

Нэсэбар

У антычнасьці гэты баўгарскі горад на высьпе быў грэцкім і зваўся Мэсамбрыяй. Грэцкім ён заставаўся яшчэ і ў 1920-я гады. Стары гаспадар дому, дзе ты жывеш, — грэк Артадоксіс, або, скарочана, Доксі, што ў перакладзе значыць праваслаўны.

Доксі добра памятае, як Народная Рэспубліка Баўгарыя хацела ўступіць у Савецкі Саюз. Ты прапануеш вы-

піць за тое, што ідэя ляснулася. Вы седзіцё на аздобленай белым мармурам тэрасе двухпавярховага дому. Пад вамі, на суседнім падворку, — рэстарацыя, куды заваблівае публіку велічэзны чыюк-ара. Кажуць, яго завуць Тодарам Жыўкавым. Абачлівы Доксі не пацьвярджае, але і не абвяргае інфармацыі.

Чыюк выгуквае нейкія камуністычныя лёзунгі. Ад мора, да якога сотня крокаў, брыдуць амаль увабдымку аднолькава стамлёныя доўгім сьпякотным днём цыган і яго мядзьведзь. На мініятурным пляцы, акупаваным столікамі навакольных рэстаранаў, цыган прысмоктваецца да такога самага зялёнага гусака «Асьлінае крыві», як той, што стаіць на мармуровай стальніцы перад табой. Мядзьведзю таксама хочацца віна, і ён спрабуе адабраць у гаспадара пляшку.

Унізе гучна лаюцца матам п'яныя расейцы. Іх не пускаюць у рэстарацыю да Жыўкава, і гарачыя навасібірскія хлопцы абяцаюць вые…ць усіх афіцыянтак, а за адным разам і афіцыянтаў. Мядзьведзя пагрозы пакуль што не датычаць, але ён палахліва цісьнецца да гаспадаровых ног.

Доксі хваліць тваю «белавескую». Табе хочацца наліць мядзьведзю і выпіць зь ім за тое, што Баўгарыя ня стала шаснаццатай рэспублікай-сястрой.

### Цэцы[1]

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

### Творчая лябараторыя

З адзеньня на ёй была толькі цыгарэта.

Ты напішаш апавяданьне, якое будзе пачынацца з гэтага сказу.

[1] Памяншальная форма жаночага імя Цьветана.

## Нэсэбар-II

Уваход на пляж новага мацерыковага Нэсэбру больш за ўсё нагадвае філіял гарадзкога сьметніку. Але затое — поўная адсутнасьць расейскае папсы, якая ў Беларусі апанавала падобныя мясьціны, як кароста некалі здаровую скуру.

У цябе ўвaччу праявіцца ліпеньская Нарач зь цеплаходам-рэстаранам, дзе зямля, вада і паветра ўжо дазвання атручаныя песенькамі пра дзевачак, «которые хотят», пра забойцаў-камбатаў, параноікаў-есавулаў і пра тое, што «всем девчонкам хочется». Можа, якраз тут і трэба шукаць прычыну экалягічнае катастрофы, у выніку якой цьвіце нарачанская вада, а вугорычы сотнямі выкідаюцца на бераг, выбіраючы не інтэграцыю, а сьмерць?

## Любі сваё

Баўгаркі ўсіх узростаў запякаюцца на сонцы бязь верхняй часткі купальніка. Да экспазыцыі грудак, грудзей і грудзішчаў ты прызвычаісься надзіва хутка, а раніцой прыйдзеш да высновы, што нашыя малочна-белыя ўсё адно лепшыя за іхнія шакалядавыя.

## Тапелец

Недалёка ад цябе з мора выцягнуць маладога тапельца. Наваліс меў рацыю, калі пісаў, што сьмерць — блакітнага колеру.

Ты пакуль што ня хочаш патануць і наагул зьбіраесься яшчэ крыху пажыць, але з багавіньня памяці падступна вылузваецца эпітафія, якую аднойчы прыдумаў сабе Фолкнэр: «Пісаў кнігі і памёр».

## Пісьменьнік Станеў

Баўгарскі пісьменьнік Эміліян Станеў жыў у летніку на гары Віташы. Аднаго разу да яго прыехаў сябра-літара-

тар. Усьцешаны зьяўленьнем госьця Станеў кажа: «Вось спушчуся хутка ў Сафію, усіх пісьменьнікаў перастраляю са шмайсэра. Пакіну толькі чалавек пятнаццаць». Сябра легкадумна цікавіцца, што будзе зь ім. Станеў: «Ты выбраў непрыемнае пытаньне».

## Тэлеграма Лукашэнку

Пасьля нестандартнай пляшкі «Кадаркі» ў цябе нараджаецца ідэя паслаць з Баўгарыі тэлеграму прэзыдэнту тваёй краіны. Пасьля другой пляшкі таго ж напою ўсплывае на думку, як расейскі пісьменьнік А. Купрын адбіў тэлеграму цару: «Долой самодержавие! А. Купрын» і неўзабаве атрымаў адказ: «Выпил — закуси. Николай II». Пасьля трэцяй пляшкі ўспамінаеш, што ўжо накіроўваў прэзыдэнту тэлеграму, калі ў парлямэнце зьбілі дэпутатаў ад апазыцыі. Тэлеграма была з аплатаю паведамленьня пра ўручэньне. Ты не атрымаў нават гэтага паведамленьня.

## Нэсэбар-III

У цябе можа ўзьнікнуць уражаньне, што горад нядаўна перажыў вусьцішны паморак: ледзьве не на кожных дзьвярах вісяць друкаваныя абвесткі з імёнамі і фатаздымкамі ў чорных рамках. Учытаўшыся ў жалобныя тэксты, даведваесься, што яны паведамляюць ня толькі пра нядаўнюю сьмерць, але і пра сарачыны, пра тры месяцы, паўгоду, год і пра кожныя новыя ўгодкі па памерлым.

Прымерыўшы гэтую традыцыю на Беларусь, ты ўсьцешана думаеш, наколькі прасьцей жывецца ў цябе дома. Іначай колькі клопату было б і табе, і тым, хто беражэ твой спакой і нацыянальную згоду. А раптам нехта пад выглядам законных жалобных улётак пачаў бы клеіць крамольныя афішкі пра мітынгі? А нехта надумаўся б разьвесіць партрэты Юрыя Захаранкі ды Віктара Ганчара. Або, крый Божа, партрэты сэкс-сымбаля лядашчых

пэнсіянэрак і пэнсіянэраў нетрадыцыйнай арыентацыі, ды яшчэ зь якімі-небудзь падазронымі датамі...

### Златка

.............................................................................
.............................................................................
.............................................................................
.............................................................................

### Землятрус

Прахопліваесься ўначы ад таго, што хорам крычаць чайкі, мяўчаць каты, брэшуць сабакі, а ў цябе пад ложкам варочаецца, намагаючыся падняцца, хтосьці з камплекцыяй народнага пісьменьніка Беларусі Янкі Брыля. Нацягваеш шорты, хапаеш партманэтку і недарэчна згадваеш, што двойчы ганкураўскі ляўрэат Рамэн Гары — твой амаль суайчыньнік віленец Раман Кацаў — ад’яжджаючы з Парыжу, заўсёды хаваў на выпадак пажару свой рукапіс у лядоўню.

Газэты паведамляюць, што суседняя Турцыя замовіла для ахвяраў 40 тысячаў поліэтыленавых саванаў, а Доксі тлумачыць землятрус Божай караю за тое, што Турцыя давала аэрадромы самалётам, якія бамбавалі Сэрбію.

### Маўзалей

Кожны дзень тэлебачаньне паказвае, як у Сафіі спрабуюць зруйнаваць маўзалей Г. Дзімітрава. Не, ніхто яго там не бароніць. Проста дынаміт ніяк не бярэ тую спаруду, што была збудаваная яшчэ і як атамнае бамбасховішча.

Нарэшце маўзалей дабілі, і ў верасьні на яго месцы дасьць канцэрт Хуліё Іглесіяс.

У табе варушыцца пытанейка: ці будзе свой маўзалей у Беларусі?

## Гётэ як вібратар

Баўгарская газэта «Труд» радуе прыхільнікаў таленту Ё. В. Гётэ карэспандэнцыяй пра тое, што да 250-х угодкаў паэта на ягонай радзіме выпушчаны адмысловы юбілейны вібратар. Інтымны прыстасон мае дзьве батарэйкі, чорнае сыліконавае пакрыцьцё і клясычныя, як цьвердзіць газэта, памеры: даўжыню — 19 і дыямэтар — 4 см. Гётэ-вібратар каштуе 99 марак і адлюстроўвае тыповую паэтаву паставу з закладзенымі за плечы рукамі, што «дазваляе без праблемаў выкарыстоўваць яго паводле прызначэньня».

Яшчэ нядаўна, як сьцьвярджаў у адным інтэрвію З. Пазьняк, беларусы сэксам не займаліся. Але час зьмяніўся, і сёньня паўстае нерытарычнае пытаньне: хто з выбітных дзеячаў беларускай мінуўшчыны або сучаснасьці станецца правобразам першага айчыннага вібратара?

## Бургас

У баўгарскім горадзе Бургасе, які падобны да Адэсы, ёсьць помнік Адаму Міцкевічу, што жыў тут у 1855-м, апошнім годзе свайго жыцьця. Ты недзе чытаў, што на сьвеце 56 помнікаў Міцкевічу і 27 — Пушкіну. Цяпер свой Пушкін ёсьць і ў Менску. Такім чынам, па помніках Міцкевіч апярэджвае кучаравага калегу роўна ў два разы. Але ж хутка зьявіцца і менскі Міцкевіч, і ранейшы разрыў будзе адноўлены.

Адметна, што менскага Пушкіна паставілі каля гатэлю «Беларусь». А менскага Міцкевіча пасадзяць паблізу «Валадаркі», у якой сядзелі ягоныя знаёмыя інсургенты.

## Найдан Вылчаў

Вялікі сябар Беларусі паэт Найдан Вылчаў нядаўна набраў на кампутары і выдаў новую кнігу. Адзін асобнік занёс у Нацыянальную бібліятэку, два падараваў крытыкам і літаратуразнаўцам, а рэшту пяціасобнікавага накладу пакінуў сабе.

## Прэзыдэнт Беларусі

Праз два тыдні знаходзіш у газэтах першае паведамленьне зь Беларусі. З нататкі, зьмешчанай чамусьці пад фатаздымкам косаўскіх дэманстрантаў, што нясуць плякат «Russians killed us», ты даведваесься, што Беларусь мае новага прэзыдэнта. Яго завуць Сямёнам Шарэцкім, і кіруе ён пакуль што зь Вільні.

## Дранько-Майсюк

«Жыў калісьці хлопчык. Ён жыў у самай несправядлівай краіне на сьвеце. У ёй валадарылі істоты, якіх, паводле ўсіх чалавечых меркаў, трэ было прызнаць вырадкамі. Аднак гэтага ня здарылася».

Жыў калісьці ты. І ты прачытаў вышэйцытаваныя словы ў паэта і эсэіста Л. Дранька-Майсюка. Але потым ты расплюшчыў вочы і ўспомніў, што іх напісаў І. Бродзкі, а Дранько-Майсюк быў стомлены Парыжам.

## Буслы

У твой перадапошні баўгарскі дзень у высокім небе над морам праплывае велічэзная чарада буслоў. Сотні, а можа і тысячы птушак лятуць адтуль, дзе калісьці цябе падвозіў ад Полацку да Менску спадарожны кіроўца з-пад Тулы. Убачыўшы ў небе бусла, ты даверліва сказаў расейцу, што гэта лічыцца ў беларусаў шчаслівай прыкметай. У адказ старэйшы брат зазначыў, што ў буслоў смачнае «сладкое» мяса.

## Палкоўнік-IV

Палкоўніка ты сустракаеш амаль як сябра, што аздобіць бясконцую дарогу дадому. Аднак сьветлыя надзеі ня спраўджваюцца. Палкоўнік худы і цьвярозы, як маласольны гурок. На пяты дзень адпачынку з гатэльнага нумару ў Палкоўніка вынесьлі ўсё, апроч Мышкі і шляхет-

на пакінутых на астатняе шчасьлівае жыцьцё дваццаці даляраў.

Табе Палкоўнік адказвае па-беларуску. Яшчэ лепей гэта атрымліваецца ў Мышкі. Ты разважаеш пра складаную залежнасьць дабрабыту і нацыянальнай сьвядомасьці.

### Румынія-II

Румынія вітае сатэлітавымі антэнамі на вясковых мураванках і нядошлай кабылкаю, што на скрыжаваньні ў сучасным цэнтры Канстанцы цярпліва чакае зялёнага сьвятла, каб цягнуць далей дабітыя калёсы.

З дунайскай стромы глядзіць на далягляд зь велічнай пэрспэктывай Карпатаў масянжовы Стэфан Вялікі на кані. Некалі над Нёманам у Горадні будзе стаяць такі помнік Вітаўту, а над Дзьвіной у Полацку — Усяславу Чарадзею.

### Украіна

Твой аўтобус спыняе ўкормлены міліцыянт, у якога менавіта сёньня дзень нараджэньня. Пакуль доўжацца перамовы наконт падарунку, ты маеш магчымасьць пачаць адаптацыю да расейскае папсы, якую зь нейкай паталягічнай асалодаю круцяць ва ўсіх без вынятку навакольных крамках і шапіках.

### Тост

Вып’ем за вялікі расейскі народ у ягоных этнаграфічных межах!

### Сон

Закалыханы аўтобусам, ты засынаеш. Табе сьніцца родная беларуская рэчаіснасьць.

Прачынаесься з палёгкаю.

Цябе разбудзіў беларускі памежнік.

*1999*

# Букет зь нязьдзейсьненай сталіцы

Заміж таго, каб напярэдадні сустрэчаў з чытацкаю публікай праінвэнтарызаваць свае веды пра ейны родны горад (легендарная Магіла льва, паўстаньне 1661 году, калі месьцічы мэтадычна перарэзалі ўвесь расейскі гарнізон, Пётар I і Карл XII, царская стаўка ў Першую сусьветную вайну, зьнікненьне крыжа Эўфрасіньні Полацкай у 1941-м etc.), ты, камфортна ўладкаваўшыся ў аўтамабілі, неабачліва разгорнеш сьвежую кніжку Стаха Дзедзіча «Эпілёг».

Аўтар гэтае навукова-папулярнае «спробы ўбачыць наш шлях», як і ты сам, будзе зусім ня схільны разглядаць чарнобыльскі чыньнік найноўшае гісторыі Беларусі як адназначна дэструктыўны: гісторыя плянэты (Тыбэт, высакагорнае возера Тытыкака як адзін з цэнтраў культуры інкаў) сьведчыць, што малыя дозы прыроднае радыяцыі станоўча ўплываюць на пасіянарнасьць этнасу. Такім чынам, Чарнобыль спрыяе падзелу беларусаў на дзьве часткі: «большую, якая імкліва дэградуе, няздатная пераадолець генэтычны цяжар тысячагадовае гісторыі ды апошніх удараў цывілізацыі, і значна меншую, напоўненую новай энэргіяй стварэньня». Пытаньне, да якой часткі ты адносіш сябе, будзе выглядаць, далікатна кажучы, нетактоўным.

Эпілёг «Эпілёгу» прагучыць ужо цалкам жыцьцесьцьвярджальна. Сапраўды, «на могільніку бляшанак можа выгадавацца толькі аматар старых бляшанак... І калі мы хочам, каб ён добрым словам прыгадаў колішняе балота і людзей, што на ім жылі, неабходна, каб ён зразумеў, што бляшанкам папярэднічала балота (каб не яно, дык і бляшанак не было б) і што гэтыя людзі ёсьць ягонымі продкамі».

Карацей, ты будзеш пад'яжджаць да Магілева, калі і не з удзячнасьцю да стваральнікаў Чарнобыльскай АЭС, дык, прынамсі, фізычна адчуваючы, як цябе перапаўняе й плешча ў берагі новая энэргія стварэньня.

* * *

Першыя візуальныя ўражаньні ад гораду, дзе ты мусіш выявіць свае пасіянарныя здольнасьці, толькі пацьвердзяць, што якраз цябе тут даўно й прагна чакаюць.

Чакаюць у краме «Аллигатор».

Чакаюць у кнігарні «Мысль» (для тых, хто пазбаўлены згаданай вышэй стваральнай энэргіі, дробненькімі літаркамі зроблены пераклад: «думка»).

Чакаюць у прэзэнтабэльнай камяніцы з задрапіраваным чырвона-зялёным сьцягам гаўбцом, дзе ў траўні 1780 году, агледзеўшы інтэграваныя пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай беларускія землі, імпэратрыца Кацярына II піла каву, а магчыма, займалася і яшчэ чым-небудзь з калегам Іосіфам, імпэратарам аўстрыйскім.

Чакаюць у безыменнай сталоўцы, дзе ты імгненна адчуеш сябе памаладзелым на дваццаць пераважна змарнаваных гадоў. Цябе агорне сваёй утульнай аўраю абвестка «Ждите отстоя пива». Хрыпаты рэпрадуктар прывітае цябе расейскімі прыпеўкамі. Ты зможаш паставіць на залітую ліпучым кісялём тацу «общепитовскую» талерку з тузінам хударлявых кілек. На касе табе прапануюць гарэлку пяці гатункаў і віно «Гранат», а зірнуўшы праз заседжаную мухамі вітрыну на вуліцу, ты ўбачыш насупраць сталоўкі кінатэатар «Чырвоная зорка», дзе сёньня паказваюць фільм, назва якога мае з гэтым травеньскім днём несумнеўную мэтафізычную лучнасьць — «Всё, о чем мы так долго мечтали».

* * *

У офісе мясцовага аддзяленьня «Маладога фронту» хтосьці з тваіх менскіх сяброў-літаратараў згадае, што ў выдавецтва, дзе рыхтуецца да друку фундамэнтальная «Археалёгія Беларусі», днямі прыйшоў афіцыйны ліст з катэгарычным патрабаваньнем: вядомага ўсім са школьных падручнікаў і энцыкляпэдыяў паганскага «Шклоўскага ідала» надалей менаваць выключна «Магілеўскім божышчам». Пэўна, не адзін ты адчуеш унутраны пратэст, бо палічыш падвышэньне статусу дагіста-

рычнага стоду да ўзроўню ўсяго толькі вобласьці яўна неадэкватным.

На сьцяне офісу ты заўважыш паведамленьне пра магчымасьць замовіць навінкі беларускае літаратуры. У сьпісе тых, каго цікавяць выданьні «Беларускага кнігазбору» і «Нашае Нівы», будзе фігураваць зацяты беларускі нацыяналіст Аванэс Мурадзян, які нядаўна быў затрыманы міліцыянтамі за пашырэньне маладафронтаўскіх улётак.

Аванэса пакуль што выпусьцілі, і ў вольны час ён любуецца блакітна-зялёнай дняпроўскаю абалоньню і дасканаліць сваю беларускую мову. Ягонаму знаёмцу Ясю Абадоўскаму пашчасьціла меней: пару дзён таму, пасьля выключэньня з Магілеўскага машынабудаўнічага інстытуту ды іншых прыгодаў ён папрасіў палітычнага прытулку ў польскіх уладаў.

* * *

Адрозна ад Берасьця, дзе ў часе папярэдняй пісьменьніцкай экспэдыцыі на кожную сустрэчу заяўляліся віцэ-мэр (выклікаючы ў аўдыторыі вясёлы сьмех, ён спрабаваў даваць на аўтографы 30 сэкундаў або патрабаваў не пісаць у кнігах ніякіх пажаданьняў) або ягоная супрацоўніца (пачуўшы небясьпечнае пытаньне, яна ўскоквала й верашчала: «Наши гости голодны. Их ждет обед!»), тутэйшая вэртыкаль абярэ, на першы погляд, больш надзейную тактыку. У некаторых асабліва небясьпечных месцах літаратурныя спатканьні альбо будуць безь якіх-небудзь вычварэнстваў проста забараняцца (як на гістарычным факультэце Магілеўскае альма-матэр, дзе некалі Кліё не адказала ўзаемнасьцю студэнту Сашу з-пад Копысі), альбо зрывацца пад маркаю адсутнасьці пісьмовага дазволу гарадзкога ўпраўленьня культуры. Адбудзецца таксама апрабацыя найноўшай вынаходкі: у абвестках пра літсустрэчы будзе пазначаны адзін час, а ў атрыманым табою раскладзе — іншы, прычым першы будзе адрозьнівацца ад другога, як сярэднеэўрапейскі час ад беларускага.

Аднак сярод пэдагогаў знойдзецца прыстойны адсотак рызыкантаў, а сустрэчаў будзе заплянаваная гэткая фантастычная колькасьць, што і ва ўмовах пэрманэнтных перашкодаў табе давядзецца лётаць з школы ў ліцэй, зь ліцэю ў інстытут, а адтуль у каледж у такім шалёным рытме, што на два дні ты будзеш цалкам пазбаўлены магчымасьці хоць раз дачакацца адстою піва ці патэлефанаваць жанчыне тваёй мары.

Твой голад і тваю смагу будуць наталяць адно чытацкія пытаньні.

* * *

«Вам ніколі не казалі, што Вы падобны да старажытнага чалавека часоў сваіх твораў? Выбачайце, але гэта першае ўражаньне, калі я Вас убачыла».

«Ці згадзіліся б Вы зьехаць за мяжу, калі б Вам прапанавалі за добрую зарплату пісаць там вершы на той мове (не на беларускай)?»

«Будьте так любезны, скажите, пожалуйста, в Вашей жизни было много женщин?»

«Ці трэба сучаснай беларускай дзяўчыне-падпольшчыцы ведаць гісторыю Беларусі?»

«Дзе з вамі можна сустрэцца?»

* * *

Сустрэцца можна будзе хіба што ў касьцёле сьвятога Станіслава, тым самым, дзе вянчаўся Зянон Пазьняк і дзе на вечаровай беларускай імшы ты не налічыш сярод дзьвюх сотняў вернікаў нават трох немаладых кабетаў, у сувязі з чым табе захочацца прывесьці сюды на экскурсію дэлегацыю барадатых служкаў іншае канфэсіі.

* * *

«Як Вы лічыце, калі Ваша эсэ пра незалежнасьць страціць сваю актуальнасьць?»

«Вам піша бацька вучня былой беларускай гімназіі. Аднойчы настаўніца зайшла ў сынаў кляс і сказала: «Ребята, с сегодняшнего дня мы будем учиться на русском

языке. Русский язык — это язык умных и добрых людей…»

«Каково Ваше семейное положение?»

* * *

Пра сямейнае становішча можна было б пагаварыць у кнігарні «Букініст», але там ты здымеш з паліцы толькі што выдадзены за празрыстай усходняй мяжою падручнік для ВНУ «История России», напісаны Шамілем Магамедавічам Мунчаевым і Віктарам Міхайлавічам Усьцінавым. Здымеш і не пашкадуеш, бо ўжо з другога параграфу — «Русь и сопредельные народы» — даведаесься, што «Литовское государство возникло в XIII в.», прычым «его основателем был Мондог», а «русский язык стал там государственным»…

* * *

«Мы чулі пра гісторыю з Вашай дзіцячай кнігай «Адкуль наш род». А Вам ня страшна цяпер пісаць? Арыштаваць жа могуць ня толькі кнігу».

«Як бы Вы ахарактарызавалі лад, які ўсталяваўся ў Беларусі? Мой знаёмы хлопец, напрыклад, кажа, што гэта ніякая не дыктатура, а проста краіна, ператвораная ў вялізны калгас».

* * *

Ты даведаесься, што ў Магілеве сем помнікаў Леніну і безьліч партрэтаў правадыра пралетараў. Адзін з самых адмысловых — з пачварна вялікімі і вострымі, як у кажана, вушамі — ты ўбачыш за дзьвярыма, над якімі вісіць шыльда: «Министерство просвещения БССР. Средняя школа № 32».

Межы гэтага анкляву бээсэсэрыі пададуцца табе вусьцішна шырокімі, але ўжо за рогам школы цябе падпільнуе графіці: «Не здадзім маньякам-інтэгратарам нашу Маці-Беларусь!», і ты супакоена падумаеш, што дажывеш да тае пары, калі сталічнае выдавецтва выпусьціць альбом беларускіх графіці канца XX стагодзьдзя.

* * *

«Правда ли, что Вы — цыган? Я ужасть как люблю мужчинок-цыганов. Что Вы мне посоветуете?»

«Займаючыся гісторыяй, ці не даводзілася Вам сутыкацца зь нечым невытлумачальным і загадкавым, як, напрыклад, эгіптолягам з «помстаю фараонаў»? Ці былі ў Вашым жыцьці такія выпадкі?»

* * *

Пра выпадкі, якія сапраўды былі, ты будзеш гутарыць зь дзяўчынаю, адоранай рэдкім у нашых шыротах імем — Сабіна — і прозьвішчам Квятко, якое ты, здаецца, пераканаеш яе вымаўляць і пісаць праз націскное «е» і з канчаткам «а», што, магчыма, станецца найістотнейшым вынікам тваіх дзесяці магілеўскіх літарацкіх сустрэчаў.

* * *

Калі ты ўпершыню хадзіў па гэтых вуліцах напрыканцы 1970-х, увесь горад быў абклеены афішкамі: «Могилевчане, будьте культурны! Мусор бросайте только в урны!» З таго часу зьмянілася ў бок памяншэньня адно колькасьць урнаў.

* * *

Ты пашкадуеш, што з табой не прыехаў твой суаўтар гісторык Генадзь Сагановіч. Асабліва востра табе будзе не хапаць яго на вечарыне ў гарадзкім Доме культуры, дзе ты атрымаеш з залі наступны ліст:

«Арлов! Не знаю, как вас лучше называть: спадарь или, может, сэр? Нам известно, что вы с еще одним таким самым писаком с еврейской фамилией по типу Каганович написали книжку будто бы про нашу историю «10 вякоў бел. гісторыі», где собрали всякие собственные измышления типа того, что наше молодое бел. государство древнее и дряхлое, потому что образовалось тысяча лет назад во времена Рогволода, который, как известно, был совершенно не нашим предком, а варягом, а Полоцкое княжество ничего общего с современной

Белоруссией не имеет. К счастью, нашлись в Академии Наук настоящие историки, которые вашу книженцию запретили. Надеемся, что не последнюю».

* * *

Ігуменьня магілеўскага Сьвята-Мікольскага манастыра Яўгенія распавядзе табе пра безьліч чалавечых костак, якія знайшлі рэстаўратары пад Мікалаеўскім саборам, дзе ў 1930-я месьцілася перасыльная турма НКВД. Сярод сотняў перазахаваных пад манастырскаю капліцаю шкілетаў маці Яўгенія наймацней запомніць два: вялікі і маленькі, дзіцячы, костачкі якога навечна перапляліся з матчынымі.

* * *

«Як Вы ацэньваеце шанцы Васіля Быкава на Нобэлеўскую прэмію?»

«Не сакрэт, што жонкі, дзеці і ўнукі многіх (большасьці?) беларускіх пісьменьнікаў (членаў Саюзу пісьменьнікаў) ня ўмеюць ці ня хочуць гаварыць па-беларуску. А на якой мове гаворыць Вашая сям'я?»

«На пытаньне, што ён будзе рабіць, даведаўшыся, што заўтра — канец сьвету, Марцін Лютар адказаў, што будзе садзіць яблыні. А што рабілі б Вы?»

* * *

Сядаючы ў начны менскі цягнік, ты па-ранейшаму будзеш няздольны даць адказ на пытаньне, ці шкадуеш ты, што меркаваны напрыканцы 1920-х гадоў перанос сталіцы БССР у Магілеў (настрашаная міжнародным імпэрыялізмам улада пасьпела пабудаваць нават гэткі самы, як у Менску, Дом ураду) так і не адбыўся.

На мокрым ад дажджу пэроне ня будзе ні натоўпу прыхільнікаў, ні задуменнай дзяўчыны Сабіны, якая верыць у помсту фараонаў.

*1998*

# Краіна бяз будучыні

*Чатыры дні ў Эстоніі транзытам праз Расею*

1

Перасячэньне межаў, асабліва ў нашых шыротах, заўсёды абяцае яўную перавагу адмоўных эмоцыяў. Прыемнае выключэньне — мяжа з Расеяй.

Па-першае, нягледзячы на ўсю прапагандысцкую туфту з выкопваньнем памежных слупоў, гэтая мяжа — са слупамі, шлягбаўмамі, чэргамі, мытнікамі, праверкамі грузаў ды іншымі малапрыемнымі ў іншай сытуацыі працэдурамі — ёсьць.

Па-другое, заўважаюцца прыкметы разбудоўваньня інфраструктуры.

Вядома, воку бракуе кантрольнай паласы й дроту з дастатковай колькасьцю вольтаў. Міліцыянтаў трэба было б замяніць на памежнікаў. Сьцяг таксама не такі. Але затое адбываецца пашпартны кантроль. Беларускі мытнік прапануе нам адчыніць багажнік, наладаваны творамі мастацтва, і цікавіцца дазволам на вываз.

Мы з мытнікам — грамадзяне адной краіны, і паміж намі нельга ўявіць размовы, пачутай на першай расейскай аўтазапраўцы: пра тое, што з Чачэніі прывезьлі Сярогу, што цынкавая труна была гэткая ж, як некалі з Аўгану — намёртва залітаваная, і маманя так і не даведалася, Сярога там ці шматкі якога-небудзь «духа». І гэта да кіраўніцтва Сярогавай, а не маёй дзяржавы зьвяртаўся на схіле дзён чачэнец Махмуд Эсамбаеў з просьбаю зноў дэпартаваць ягоны народ, каб ўратаваць яго ад генацыду.

2

Вёска Даласцы, дзе сёньня стаіць расейская мяжа, некалі ўваходзіла ў Полацкае намесьніцтва. У 1780 годзе,

выправіўшыся аглядаць нядаўна далучаныя «искони русские земли», імпэратрыца Кацярына II на тутэйшай паштовай станцыі «изволила откушать» і села пісаць ліст сыну Паўлу:

«Сего утра выехала я из Опочки и на 18-й версте въехала в Белоруссию; с самого Острова тянутся все холмы да холмики, между которыми множество озер, что очень красиво; здесь население самое разнообразное, сплошь да рядом обитают православные, католики, униаты, евреи, русские, поляки, чухонцы, немцы, курляндцы, словом, не увидишь двух крестьян одинаково одетых и говорящих правильно на одном наречии; смешение племен и наречий напоминает Вавилонское столпотворение».

Праз два стагодзьдзі расейскай улады гэтая дзівосная размаітасьць моваў, нацыяў, канфэсіяў і строяў трансфармавалася ў правільны расейскі мат, брудныя боты і ватнікі п’яных мужыкоў ды ў нейкі жывёльны страх. Калі нам спатрэбілася ўдакладніць маршрут, дзьверы ў прыдарожнай вёсцы не адчыніў ніхто, хоць была толькі чацьвертая гадзіна дня.

3

Зрэшты, зьнішчыць або прывесьці да адной роўніцы ўдалося ня ўсё. Пакуль што ацалелі азёры і тапанімія. Амаль да самай Апочкі, дзе на аўтастанцыі некалі вісеў загаджаны галубамі ды варонамі адметны лёзунг «Слава советскому народу — творцу строительства коммунизма!», назвы вёсак лашчаць душу сваёй наскасьцю: Гута, Ліцьвінаўка, Рудня... За Апочкаю пачынаюць усё часьцей трапляцца тапонімы, народжаныя мэнтальнасьцю братняга народу: «р. Зарезница», «Колотиловка», «Крадино»... І зьнячэўку, ужо пад самым Псковам, як глыток азону — Дупаўка.

Едзеш сабе і ўяўляеш мясцовага настаўніка-краязнаўцу, які выводзіць назоў роднай дзеравенькі ад дуплаў, якіх, маўляў, шмат у навакольных лясах. І няўцям

яму, небараку, што ягоная малая радзіма атрымала найменьне не ад расейскіх дуплаў, а ад нашых ліцьвінскіх дупаў, якія спраўна рабілі тут сваю справу ў гады Інфлянцкае вайны, калі вялікі князь Сьцяпан Батура трымаў у аблозе Пскоў.

4

Усходнія славяне мелі тры дзяржаўныя і народаўтваральныя цэнтры: Полацак, Кіеў і Ноўгарад. Драмай для ўсіх трох народаў (бо трэба казаць і пра самастойны ноўгарадзкі этнас) сталася ўзьнікненьне пад эгідаю Залатой Арды чацьвертага цэнтру — Масквы, якая атрымала ў спадчыну ад мангола-татараў усю іх дзяржаўную і вайсковую пабудову. Зрабіўшыся, па сутнасьці, адлюстраваньнем Арды, Масковія зь неверагоднай жорсткасьцю зьнішчыла Ноўгарадзкую рэспубліку.

У гады апрычніны слугі Івана IV, выбіваючы зь месьцічаў вальналюбны дух, цэлы месяц, як сьвіней, рэзалі ў Ноўгарадзе штодня па колькі сотняў жыхароў. Тады Масковія канчаткова зрабіла свой выбар, назаўсёды зачыніўшы сабе шлях у Эўропу.

Гэткія перадкалядныя думкі міжволі апаноўваюць на вуліцах Пскова, які колькі стагодзьдзяў жыў у арбіце Ноўгарадзкай рэспублікі, захаваўшы з таго часу ўласную старажытную архітэктуру — напамін пра спляжаныя Іванам Жахлівым магчымасьці. Дарэчы, і Жахлівым, і царом-Сабакам назвалі яго не беларускія нацыяналісты кшталту Арлова ды Сагановіча, а — чатырыста пяцьдзясят гадоў таму — недарэзаныя ноўгарадцы ды псковічы.

Адзін з нашчадкаў гэтых недарэзаных сьпіць п’яны з мокрымі паміж ног штанамі пад сьцяною бялюткага храму XII стагодзьдзя. Цяжка сказаць, што ён глядзіць у шчасьлівым сьне, затое, калі расплюшчыць вочы, убачыць на плоце плякат з заклікам галасаваць за камуністаў.

Цікава, што перадвыбарчая агітка прымацаваная на ўзроўні вачэй заснулага жлукталя. Гэта дазваляе высу-

нуць адразу тры вэрсіі: а) што плякат прыладкавалі адмыслова для макраштаннага электарату; б) што актывіст КПРФ, які разьвешваў плякаты, ужо не трымаўся на нагах, поўзаючы ад плоту да плоту; в) што гэтым актывістам быў сам засцанец, які пасьпеў прыляпіць агітку і ўжо з усьведамленьнем выкананага парцейнага абавязку абрынуўся ў сваю расейскую нірвану.

5

Праз гадзіну пачынаецца ня толькі іншая краіна, але іншы культурны кантынэнт. На пляцах пераміргваюцца калядныя ялінкі, у цёмных вокнах гараць сьвяточныя пірамідкі зь сямі лямпачак, у начных крамах прыдарожных вёсак за паўтара даляра можна купіць пляшку баўгарскай «Мядзьведжай крыві», якая ў нас каштуе блізу пяці, а за 2 $ — неблагога чырвонага, вырабленага на радзіме Борхэса й Картасара, што ў нас зусім нічога не каштуе, бо нам шкодна ня толькі яго піць, але і бачыць на паліцы.

Да прызабытай за гады незалежнасьці й візавага рэжыму Эстоніі хутка прасякаесься гэткай павагаю, што адчуваеш ніякаватасьць, зрабіўшы ў лесе адмысловы прыпынак, назва якога гучыць падазрона падобна да найменьня вядомай арганізацыі «Greenpeace».

6

Найцікавейшая гістарычная адметнасьць Нарвы — заснаваная крыжакамі магутная фартэцыя, пераўтвораная ў велічэзны музэй з выставачнымі й лекцыйнымі залямі, з сувэнірнымі крамамі й пляцоўкамі агляду, зь якіх на тым баку ракі відаць ужо расейскі Іван-горад, таксама з аграмаднай фартэцыяй — напалову разбуранай, неасьветленай і пераўторанай няцяжка здагадацца ў што.

Аднаго разу ў сярэднявеччы большая частка гарнізону Нарвенскай фартэцыі неабачліва пакінула горад,

выправіўшыся ўгамоўваць неспакойных эстаў. Расейцы перайшлі па лёдзе раку, узялі замак, згвалцілі і забілі маладую жонку камэнданта, а ягонага маленькага сына забралі з сабой. Вярнуўшыся з паходу, камэндант умомант вока пасівеў, колькі дзён, зачыніўшыся ў вежы, тапіў гора ў віне, а потым загадаў капаць пад ракою лёху.

Праз гадоў пятнаццаць лёха ў Іван-горад была гатовая. Уварваўшыся ў варожы фарпост, камэндант першым чынам вырашыў адпомсьціць за жонку, пазбавіўшы захопленых расейцаў мужчынскае годнасьці ў яе першасным сэнсе. У разгар крывавае экзэкуцыі прыцягнулі яшчэ аднаго палоннага. «Сынок! Аўгуст!» — крыкнуў камэндант, кінуўшыся да юнака з знаёмай радзімкаю. «Мяне завуць Ваня, а сынок табе — тамбоўскі воўк», — адказаў маладзён і, выхапіўшы ў бацькі корд, вызваліў камэндантаву душу ад яе зямное абалонкі.

Прамінула яшчэ сто гадоў, і Нарву захапіў Пётар I. Ён пачаў з таго, што 1700 з 2000 жыхароў гораду дэпартаваў у Расею.

Цяпер душы камэнданта ды іншых забітых і дэпартаваных расейцамі нарвенцаў знаходзяць, відаць, суцеху ў тым, што сёньняшнія маладыя нашчадкі пятроўскіх салдатаў старанна вывучаюць эстонскую мову, і, калі ня іх дзеці, дык унукі ўжо абавязкова будуць эстонцамі.

## 7

Ёсьць прозьвішчы, якімі, здаецца, сам Бог пазначае неардынарнасьць іхніх уладальнікаў. Згадайце, напрыклад, сваіх знаёмых Караткевічаў.

Беларуска-эстонскім культурным таварыствам «Спадчына» ў Нарве кіруе Тацяна Караткевіч. Тры яе родныя сястры таксама жывуць у Нарве і пасьпяхова займаюцца бізнэсам, пра што сьведчыць і чатырохпавярховы ўласны дом, у якім жыве адна сястра, і прыморскі пансіянат «Валянціна», дзе паводле цалкам эўрапейскіх стандартаў гаспадарыць другая, і дзе пад пошум прыбою

я нарэшце дачытваю пачаты яшчэ дваццаць гадоў таму з фрагмэнту ў самвыдаце «Палёвы вызначальнік эстонскіх русалак» Эна Вэтэмаа.

«Русалкі сапраўды апынуліся тады ў незаслужанай няміласьці, ім выставілі суровае абвінавачаньне ў небыцьці, прычым адначасна было палічана магчымым інкрымінаваць ім паразытычны *modus vivendi* і ўхіленьне ад карыснае грамадзтву працы. Вартым асуджэньня быў прызнаны і той факт, што ўдзел русалак у гістарычнай барацьбе працоўных за свабоду быў мінімальны (на жаль, гэта так); індыфэрэнтнасьць выявілі русалкі і пры стварэньні калгасаў».

8

Беларусы і дома, і ў дыяспары вяртаюцца да Беларусі рознымі шляхам.

Хтосьці начытаецца кніжак. Хтосьці вып’е ў добрай кампаніі патрэбную дозу «белавескай». Камусьці пашанцуе на настаўніцу, а камусьці — на каханка.

Адзін палачанін служыў у войску ў Туркмэніі і чамусьці ні з пушчы ні з поля пачаў сьніць беларускамоўныя сны…

Нявызнаныя шляхі твае, беларуская душа!

Вось, напрыклад, падымаецца з чаркай у руцэ адзін малады эстонскі беларус-прадпрымальнік родам зь Віцебску і апавядае, як улетку дактары паставілі яму безнадзейны дыягназ, і як ён склаў запавет і ляжаў ад ранку да вечара на Божай пасьцелі, павярнуўшыся тварам да сьцяны.

Ды раптам у працэсе гэтага беспрасьветнага ляжаньня пачала чаўпціся ў яго ў галаве якаясьці бязглузьдзіца. А менавіта тое, як на пачатку 1990-х дэкан даручыў яму на нейкай вечарыне ўнесьці ў інстытуцкую залю дзяржаўны бел-чырвона-белы сьцяг, і як ён гэты сьцяг уносіў і потым стаяў зь ім усю вечарыну на сцэне. І чаўплася гэтая несусьвеціца і дзень, і два, і тры, аж пакуль хлапцу не захацелася зьнянацку селядцоў з бульбай. А потым —

мяса з чырвоным віном. А потым — амаль як у рамане таго ж Эна Вэтэмаа «Яйкі па-кітайску» — да дзевак.

У верасьні былы безнадзейны хворы адчыніў новую краму, а ў сьнежні прыехаў на сваёй «Таёце» на прэзэнтацыю «Дзесяці вякоў беларускай гісторыі» У. Арлова і Г. Сагановіча. Праўда, кнігу чамусьці не купіў. Магчыма, пакінуў гэты сродак у запасе.

9

Я не мастацтвазнаўца. Я проста адчуваю й ведаю, што ўсё, што робіць з скурай і з скуры мая спадарожніца мастачка Марына — велікоднае яйка або складаныя вытанчаныя кампазыцыі — гэта таленавіта і шматзначна ў сэнсе ня толькі асацыятыўным, але і філязофскім.

Сьцены галерэі, дзе адбываецца вэрнісаж, памятаюць Карла XII, і мне хочацца, каб яны запомнілі й нас. Яшчэ мне хочацца падысьці да кампазыцыі «Фаўна сноў» і ўкрадня пакласьці на яе руку, бо так называецца і адна з маіх кніжак. Але юная журналістка, якая цікавіцца не беларускім мастацтвам, а «нашым» прэзыдэнтам, бярэ мяне за гузік, выводзіць у фае і пстрыкае дыктафонам.

Яна глядзіць зь непрыхаваным недаверам і кажа, што напрыканцы XX стагодзьдзя гэтага ня можа быць. Я аддаю ёй нумар «Народнай волі» з партрэтамі зьніклых Захаранкі, Ганчара й Красоўскага і запрашаю наведаць Менск 25 сакавіка. Яна пытаецца, ці не баюся я вяртацца. Найлепей было б адказаць, што зь ёю я мог бы зрабіцца невяртанцам, і потым, пасьля кароткай пярэрвы, дадаць — «нават да нядзелі», але штосьці ў настроі ўжо непапраўна разладзілася, і я здольны толькі тупавата пахітаць галавой.

10

У гарадкуКівіылі эстонскія беларусы паставілі помнік пісьменьніку Яну Скрыгану, які працаваў там пасьля вяртаньня зь лягеру і да новага арышту ў 1949-м.

У мяне да Яна Скрыгана свой сантымэнт. Калісьці на нарадзе маладых літаратараў у былым пісьменьніцкім Доме творчасьці «Каралішчавічы» Ян Аляксеевіч, рэцэнзуючы мой юначы аповед пад назваю «Добры дзень, мая Шыпшына», публічна кваліфікаваў гэты найцнатлівейшы опус як парнаграфічны. «Чым займаюцца героі Арлова? — абурана запытаўся шаноўны мэтар. — І ўдзень і ўначы, перапрашаю, сьпяць!» Было трохі дзіўнавата пачуць такія словы з вуснаў перакладчыка бунінскіх «Цёмных прысадаў», але сваю добрую справу яны зрабілі: папулярнасьць, прынамсі, на той нарадзе мне забясьпечылі.

ЖыхарКівіылі Ўладзімер Дзехцярук, які ставіў помнік Скрыгану, у тую ранішнюю хвіліну, калі я пазваніў у ягоныя дзьверы, займаўся прыкладна тым самым, што й героі майго даўняга аповеду. Я шчыра парадаваўся за калегу, якому дарыла адчуваньне вечнасьці невядомая ўладальніца футэрка з прыдзьвернага вешака. Мы мелі-ся працягнуць свой шлях у Талін, і Ўладзімер — ня быў бы ён аўтарам кнігі «Сярод белых эстонскіх начэй» і былым мараком — імгненна ацаніўшы сытуацыю, папрасіў дзесяць хвілінаў і роўна праз столькі выйшаў з сваёй кавалерскай двухпакаёўкі ўжо ня ў плаўках, а цалкам гатовы да падарожжа ў сталіцу.

На зваротным шляху мы зноў завіталі да Ўладзімера. Футэрка не было. На сьцяне вісеў ручнічок з вышытай датаю: 25 сакавіка 1918 году. Мне згадалася, як аднойчы я ехаў з знаёмым амэрыканцам родам з-пад Берасьця недзе ў ваколіцах Балтымору, і ён сказаў, што зараз зьвернем, бо тут за 20 міляў жыве беларус Лёва. Ролю ручніка ў Лёвы выконвалі пасеяныя на кветніку бурачкі — памяць пра матуліны грады.

У нядаўнім мінулым быў час, калі мы вось так езьдзілі і зварочвалі ў нас, у Беларусі. У Зэльве жыла Ларыса Геніюш, у Навапалацку — Сокалаў-Воюш, у Маладэчне — Генадзь КахаНоўскі… Тады мой старэйшы сын пытаўся, чаму па-беларуску гавораць адно нашыя знаёмыя.

## 11

Па дарозе ў Талін на рацэ з амаль наскай назваю Ягала шуміць вадаспад. Такая свойская мініятурная Ніягара вышынёю восем мэтраў, зь якой нават узімку хочацца скочыць у пенную купелю. Улетку гэты нескладаны нумар выканае для вас першы-лепшы тутэйшы падшыванец, як некалі кожны з нас, полацкіх хлапчукоў, гатовы быў, разагнаўшыся зь берагу, працягам якога служыла шырокая спружыністая дошка, нырцануць у Палатý насупраць Спаса-Эўфрасіньнеўскага манастыру. Манашак даўно ўжо вывелі адтуль пад белыя ручкі, пагрузілі на крытую машыну й завезьлі дажываць век у Жыровічы, а ў мурах Крыжаўзьвіжанскага сабору мясцовыя жыхары (дакладней, набрыдзь, што прыехала аднекуль з СССР) гадавалі сьвіней.

Цяпер Божая цьвярдыня адноўленая, і ў ёй па-гаспадарску пахаджаюць праваслаўныя бацюшкі розных рангаў, якія непахісна ўпэўненыя, што Іван IV з Аляксеем Міхайлавічам Цішайшым адбівалі Полацак у літоўцаў і палякаў, але ўрэшце ўсё пайшло намарна, бо нацыяналісты з дапамогаю Захаду развалілі вялікую дзяржаву. Пачутая з вуснаў паломніка беларуская мова адразу робіць іхнія позіркі напружана-падазронымі; у манастырскіх храмах раз-пораз зьяўляюцца абвесткі, што малітвы за асобаў з «католическими именами» не адпраўляюцца, а пачуўшы пытаньне, да праваслаўных ці да каталіцкіх належаць імёны Марыя або, напрыклад, Вольга, як клікалі першую жонку Вацлава Гаўла, сястра ў Хрысьце адсылае да маці-ігуменьні, якая мусіць ведаць, хто такі Гавэл і ў якіх ён дачыненьнях з «истинной» верай.

А ў Палацé, у якую мы некалі сьмела ляцелі «галоўкай», сёньня ня ўтопіш нават хударлявага (відаць, з прычыны каталіцкага імя) каляманастырскага ката, ня кажучы ўжо пра ягоных эстонскіх рудых супляменьнікаў, болей падобных не да катоў, а да ўкормленых лісаў.

12

На Янаў дзень у Эстоніі паляць старыя чаўны, на якіх небясьпечна выходзіць у мора. Для гаспадароў гэта заўсёды трагедыя, якую можна параўнаць з стратаю блізкага чалавека.

Паром «Эстонія» выглядаў зусім бясьпечным... Помнік ягоным пасажырам — чорная жалезная арка або мост з правалам. Мэтал пакрыты сотнямі імёнаў і прозьвішчаў. Сярод іх беларускае вока чамусьці адразу знаходзіць напамін пра адзіную беларуску. Зусім маладой Вользе Мінчуковай зайздросьцілі: яна выйшла замуж за швэда і ехала ў швэдзкі рай, замест якога паром прывез яе ў рай без усякіх прыметнікаў. Цікава, ці ёсьць у ім Беларусь і Швэцыя, нацыянальныя й моўныя праблемы? Ці гатовы хто-небудзь з багасловаў адказаць на гэтыя пытаньні? Калі ў раі ніхто ня ведае беларускае мовы, а ў апраметнай на ёй яшчэ гавораць, я моцна задумаюся...

13

На мой дылетанцкі погляд, сярод усіх жывых і мёртвых удзельнікаў выставы, прысьвечанай эстонскаму мастацтву XX стагодзьдзя, найбольшага посьпеху ў сучаснага спажыўца мастацкіх каштоўнасьцяў дасягнулі аўтары двух твораў.

Першы выкананы ў геніяльна простай тэхніцы «відэа»: на адным экране юрлівы маладзён пераключае каналы, у выніку чаго на другім, насупраць, зьяўляюцца аголеныя прыгажуні і страхалюдзіны, што, у сваю чаргу, выклікае адпаведныя эмоцыі на твары ў маладзёна.

Аўтары другога шэдэўру карыстаюцца больш складанай тэхнікай: «organic materials, canvas, video». Арганіку ў гэтым пераліку рэпрэзэнтуе г... аднаго з аўтараў, імя якога чамусьці не пазначанае ў анатацыі, хоць ягоныя заслугі перад мастацтвам выглядаюць значна больш важкімі за даробак калегі. Ананімнае сьвінчо ня толькі гадзіць, але і заўзята наварочвае лычом выяўленчы матар'ял на падрамнік з палатном, у той час як двухногі

суаўтар усяго толькі здымае творчы працэс на відэа, каб данесьці яго да вачэй і розумаў аматараў мастацтва.

14

Пачуцьцё небясьпекі ўзьнікла яшчэ на эстонска-расейскай мяжы, за якой нібыта памацнеў вецер і адчувальна апусьцілася тэмпэратура. Яно ўзьнікла і не пакідала і ў згалелых вёсках, дзе няма ды, здаецца, ніколі й не было ні садоў, ні пчальнікоў, ні гародчыкаў, і ў раённых расейскіх гарадках, якія праглася як найхутчэй прамінуць, не скідаючы хуткасьці, як гэта бывае ў нью-ёрскім Гарлэме або ў «чорных» раёнах Вашынгтону. Не пакідала і сярод занядбаных палёў з пакінутым трактарам і нейкімі невысокімі асьнежанымі грудкамі, што пасьля апошніх тэленавінаў з Грознага найперш асацыяваліся з прыцярушанымі сьнегам трупамі.

Адтуль, з глыбіні выстылага й сьціхотна-пагрозьлівага ў сваёй закінутасьці «русского поля», выплыла галоўная выснова гэтае вандроўкі. Выснова, што пачала фармулявацца яшчэ дваццаць гадоў таму ў Ноўгарадзе, калісьці Вялікім, дзе ў нядзелю гараджане выходзілі на шпацыр па цэнтральнай вуліцы ў стаптаных пакаёвых тэпцях і спартовых трыко.

Пасьля, у нячастыя візыты ў братнюю Расею было намешана ўсяго. Некалькі дзён у шыкоўным гатэлі «Масква», дзе забілі Янку Купалу. Прыбіральшчыца на Казанскім вакзале, што ўначы будзіла пасажыраў, «падмятаючы» мокрым брудным венікам іхнія твары. Сустрэчы з разумнымі й адукаванымі калегамі-літаратарамі, якія ня верылі, што ў Менску няма беларускіх школаў, але, урэшце, ня надта засмучаліся, бо расейскія школы ў Менску былі. Бязьмежная расейская гасьціннасьць і абванітаваныя сьцены ўладзімірскага Ўсьпенскага сабору, які размалёўваў геніяльны Андрэй Рублёў… Але толькі цяпер, пасьля невялікай, утульнай, ужо амаль эўрапейскай Эстоніі, у час нялюдзкіх гекатомбаў богу імпэрыі ў Ічкерыі, у разгар якіх была падпісаная гэтак званая саюзная дамова Беларусі з Расеяй, толькі цяпер,

на самым ускрайку тысячагодзьдзя, гэтая выснова легла ў ляпідарную формулу: КРАІНА БЯЗ БУДУЧЫНІ.

У нас ёсьць і застаецца Вялікая мара — невялікая ўтульная эўрапейская Беларусь, ідэальны вобраз якой пачне ўвасабляцца ў XXI стагодзьдзі. У іх жа мары пра такую краіну няма ўжо хаця б з тае прычыны, што няма адпаведнай тэрыторыі, ня кажучы ўжо пра традыцыю ці мэнтальнасьць. Узарваная, расстраляная, разбамбаваная, раскрадзеная, замочаная ў сарцірах і мара іншая. Колькі б крамлёўскія дачасьнікі з прыдворнымі ні паўтаралі заклёнаў пра Вялікую Расею (што сёньня мае бюджэт, роўны бэльгійскаму), кожны зь іх і сам з болем ці безнадзейнай абыякавасьцю разумее: наперадзе толькі дэфолты, палітычныя забойствы, войны, галеча, бунты, «ликующая бессознательность» (М. Салтыкоў-Шчадрын), сэпаратызм, як па-расейску завецца імкненьне народаў да незалежнасьці, і ўрэшце — канчатковы распад імпэрыі, у крывавых канвульсіях якой, магчыма, і здолее нарадзіцца новая руская ідэя. Ідэя свабоднай нацыі. Бо ня можа быць свабодным народ, што панявольвае іншыя народы.

15

Фары высьвецілі іх зь цемры ў лесе перад Апочкай. Пасярод бязьлюднай шашы, шырока растапырыўшы рукі, стаялі двое. Двухмэтровы «качок» з шырокім тварам-маскаю і ягоны трохі ніжэйшы хаўрусьнік у гэткім самым «адзідасе». Нэрвы ў Сашы, Марынінага мужа, які быў за стырном, аказаліся мацнейшыя: у апошні момант «качок», здаецца, пасьпеў адскочыць у кювэт.

16

«Как сильно чувствуется разница между Россией и Белоруссией тотчас за межою, которая отделяет Псковскую губернию от Витебской! Другой воздух, другая жизнь в моих жилах!» (Аляксандар Адоеўскі)

*1999*

# Адкусі галаву вароне

*Ніда і ваколіцы*

## Гатэль

Няхай у тваім гатэлі батарэі яшчэ савецкага ўзору, затое, магчыма, якраз у гэтым нумары прызначаў таемныя спатканьні Томас Ман, а дзьвесьце гадоў таму ў адну зь зімовых начэй, ратуючыся ад напалеонаўскіх жаўнераў, грэлася ля каміну каралева Прусіі Люіза. Перш чым легчы ў нацепленую грэлкамі пасьцель, яна падышла да марознага вакна і дыямэнтам свайго пярсьцёнку накрэсьліла на шкле радок Гётэ.

У цябе таксама ёсьць каралева, якой даспадобы некаторыя твае радкі, і якой ты, напэўна, менавіта з гэтае прычыны, падараваў пярсьцёнак з дыямэнтам і аднойчы сказаў, што ў сапраўдную каралеву яна ператвараецца тады, калі на ёй застаецца толькі гэты пярсьцёнак.

## Бог

Будынкі й дрэвы, кветнікі і лавачкі, людзі й чайкі — усе жывыя істоты і рэчы тут выпраменьваюць спакой і небудзённую значнасьць.

Няблага атрымліваецца нават у людзей і сьметніцаў.

Пасьля першых келіхаў сухенькага чырвонага ты згадваеш старажытную вэрсію, паводле якой выганьня з раю насамрэч не адбылося, ці, дакладней, яно зьдзейсьнілася адно ў мэтафізычным сэнсе: Бог проста пазбавіў людзей разуменьня, дзе яны жывуць.

Асабіста табе бліжэй меркаваньне, што наш сьвет — усяго толькі чысьцец. Але нават калі гэта і так, наведаць ягоны куток, які завецца Нідаю усё роўна варта. Хаця б дзеля таго, каб, седзячы ў кавярні на беразе затокі і гледзячы на незварушную чаплю, неспадзявана ўзьбіцца

на думку пра тое, што ў Бога, магчыма, значна меней, чым табе ўяўлялася, спагады, затое значна болей гумару ды іншых, зусім чалавечых схільнасьцяў і слабасьцяў.

А за здароўе такога Бога трэба абавязкова выпіць.

### Цішыня

Сюды ўжо прыйшла эўрапейская цішыня, не азмрочаная і ценем небясьпекі таго, што на вячэру табе прапануюць трохгадзінны тэлевізійны амлет з нармальных чалавечаскіх яіц з вусамі, ушывымі блохамі й труднасьцямі на пасяўной.

Эўрапейская цішыня абавязкова пазбаўленая расейшчыны і ейнага найгоршага, пасьля мату, увасабленьня — расейскае папсы. Цалкам верагодна, што тут таксама ёсьць «девочки, которые хотят», але ты ніколі не даведаесься пра гэта праз дынамікі.

### Sommerhaus von Thomas Mann

Томас Ман неабачліва заарандаваў сабе тут на 99 гадоў кавалак зямлі і ў 1930-м збудаваў у Нідзе, на ўзгорку над затокаю, Sommerhaus на два паверхі.

Брунатны дом зь белымі вокнамі, блакітнымі аканіцамі і гэткага самага колеру вільчыкам над таўшчэзнаю чарацянай страхою з прычолкам — ужо даўно музэй, адзін з наведнікаў якога дзеліцца з спадарожніцаю ўпэўненасьцю, што аўтар «Доктара Фаўстуса» проста ня мог хоць разок не «пайграць» на вось гэтым чорным раялі сваю дарагую Кацю.

### Выдмы

*Зноў і зноў на беражок / Тонкай выдмаю пясок / Вольны вецер сьцеле...* — ня вельмі выразна напісаў неяк паэт Анатоль Вялюгін, бо складаў верш, відавочна, не пра тутэйшыя выдмы-дзюны.

У Нідзе выдмы, заціснутыя паміж затокаю й морам, ня сьцеляцца, а цягнуцца ў неба, не бяз посьпеху гуляючы ў горы. Па іхніх фантастычных залаціста-плятынавых рэльефах бягуць то вэлюмна-празрыстыя, то атрамантава-фіялетавыя цені аблокаў, ствараючы амаль незямную пэрспэктыву, якая магла б зрабіць паэтычнай музе А. Вялюгіна магутную іньекцыю натхненьня. Асабліва, калі б ён пабачыў, якім безаглядна адважным мінэтам аздабляе гэты марсіянскі краявід юная жанчына зь сьвежым пэрсікавым загарам і дасканалай бялюткай дупенцыяй з разраду тых, што адзін з герояў Рэмарка, памятаецца, называў цукровымі галоўкамі.

Віно

Ёсьць віны, узгадаваныя сонцам, ёсьць — узгадаваныя туманам. У нараджэньні літоўскіх натуральных — з разматых ягадаў і садавіны — сонечны промень і вогкі подых туману, відаць, адыгрываюць аднолькава істотную ролю. Вядома, пачатак сапраўднага віна заўсёды ў карані вінаграднае лазы. Але літоўскае чорнапарэчкавае выпісвае для сваіх вінных лёхаў каралева Вялікай Брытаніі.

Што мае прапанаваць брытанскаму каралеўскаму дому Беларусь? «Крыжачок»? «Талачынскае»? «Водар мяты»?

У Літве сваіх грамадзянаў пояць, у Беларусі — спойваюць.

Вароны

У музэі гісторыі Ніды і ейнага наваколья ёсьць разьдзел «Промыслы», а ў ім — вітрына, прысьвечаная нарыхтоўцы варонаў. На фатаграфіях пачатку XX стагодзьдзя наведнік бачыць, як жыхары Куршаўскае касы ставяць мярэжы-перавесы і дастаюць зь іх бядотных птушак. Далей галоўнай дзейнай асобаю на здымках робіцца зухаваты дзядуля, што трымае ў руцэ жывы

аб’ект промыслу, пазіраючы на яго неяк спэцыфічна. Як выяўляецца, вясёлы птушкалоў разлучае варонаў зь іхняй крылатай душой адным дакладным укусам. Кожны такі снайпэрскі ўкус належала запіць добрым глытком гарэлкі, што дзядуля з задавальненьнем і робіць на наступным фота.

Пра далейшыя тэхналягічныя этапы промыслу экспазыцыя сарамліва маўчыць, і ты ўдакладняеш іх у навуковай супрацоўніцы. Птушак скублі й салілі ў бочках амаль як грыбы: слой варонаў, соль, кроп, ляўровы ліст, зноў слой варонаў. Супрацоўніца, якая памятае такую бочку (і зусім нябрыдкі смак ейнага зьмесьціва) з свайго дзяцінства, апавядае, што ў суседняй вёсцы жыве стары спэцыяліст-«кусатель». Калі музэйнікі знайшлі яго, намерыўшыся паказаць старадаўні промысел на фальклёрным сьвяце, «кусатель» узбадзёрана пацікавіўся, дзе возьмуць жывых варонаў і колькі іх будзе.

Увечары ты марна шукаеш у мэню тутэйшых кавярняў і рэстаранаў салёных варонаў. Іх няма, як у полацкіх кавярнях і не начавала малочнага супу з падлешчыкам ці ўлюбёнага дэсэрту твайго маленства — халоднай бульбы з брусьнічным сочывам, дзе ягады звараныя з морквінамі, палавінкамі грушаў ці з райскімі яблычкамі, якія ператварыліся ў найсмачнейшы мармэляд. Табе хочацца, каб «уваскрашэньне» гэтай непаўторнай полацкай стравы адбылося прынамсі на тваіх памінках.

Ты ўжо даўно навучыўся думаць пра сьмерць абсалютна спакойна, пагатоў ад гэтага стагодзьдзя засталіся ўсяго толькі лета ды восень, а ў новым усе мы, хто цяпер вывучае рэстаранныя мэню ў Нідзе і ў Полацку або займаецца іншымі карыснымі й бескарыснымі справамі, абавязкова пераселімся ў іншае зацішнае месца.

## Могілкі

Калі хочаш глыбей спасьцігнуць душу гораду, мястэчка ці вёскі, непазьбежна апынаесься на могілках. Вядома, пакуль яшчэ сваім ходам, без пахавальнае працэсіі, якая

пакрысе фармуецца ў асмужаных далячынях пражытых і непражытых гадоў.

Могілкі каля Нідзкае кірхі, нягледзячы на перадзел Эўропы, засталіся пераважна ўва Ўсходняй Прусіі. Нямецкая мова. Нямецкія імёны і прозьвішчы. Часам нямецкая мова, нямецкія імёны, але літоўскія прозьвішчы.

Напрыканцы 1950-х, калі апошнія немцы зьехалі ў *Vaterland*, распачалася пасьпяховая летувізацыя цьвінтару. Табе трапіцца і адзіны, здаецца, рэцыдыў — апошні зямны прыстанак чалавека, народжанага ў Нідзе, памерлага ў Мюнхэне і пахаванага ў зямлі дзяцінства.

Трывогаю адгукнецца надмагільле нейкага Міхаіла Сабачкіна. Які вецер закінуў расейца Сабачкіна пасьля Другой сусьветнай на Куршаўскую касу? Мо, каб гэтага ня здарылася, помнікаў пры кірсе было б меней? Або яны мелі б іншыя даты?

Нядаўна ты ўжо адчуваў падобную трывогу. Дзе гэта было? У міністэрстве замежных справаў Літвы, калі цябе не заўважылі ў глыбокім фатэлі й ты стаў сьведкам таго, як шафападобныя ахоўнікі, што нязьменна зьвярталіся да цябе і ўсіх астатніх па-літоўску, застаўшыся сам-насам, раптам дружна й радасна загаварылі на «великом и могучем».

## Дэльфіны

Дэльфіны — жывёліны, якіх ты ненавідзіш мацней за любых іншых, найпачварнейшых і найагіднейшых прадстаўнікоў фаўны. Бо да пітонаў, алігатараў або гіенаў ты неляяльны абстрактна, а вось з дэльфінам сустрэўся аднойчы ў цалкам натуральных умовах, заплыўшы ў Express Кактэбелі мэтраў на васямсот у мора.

Тваёй мэтаю быў адзін зь вялізных буёў, за якія не дазвалялася заходзіць цеплаходам. Калі паміж табою і пляскатым памаранчавым балёнам засталася хвіліна шляху, тады і зьявілася, усьцешана падскочыўшы над вадою, гэтая незаслужана апетая ў літаратуры «разумная жывёліна». Праз колькі сэкундаў ты быў амаль

бездапаможны ад жаху, а яшчэ болей ад невыказнае агіды пасьля імгненнага дотыку жывое сьлізкае тарпэды. Дзякаваць Богу, табе хапіла змогі на роспачны лямант і на тое, каб, захлынаючыся вадой, адолець пару дзясяткаў мэтраў да буя. Ужо лежачы на ягонай шырокай і цёплай, як чарэнь, сьпіне, ты ўзгадаў, што ў хвалях брыдка лаяўся, пасылаў дэльфіна на, клікаў маму і проста прасіўся: «Пусьці!»

Чалавека заўсёды цягне перажыць утульнае бясьпечнае водгульле колішняга жаху. Таму ты наведаеш клайпедзкі дэльфінар і на спэктаклі будзеш нават зрэдку пляскаць у ладкі, асабліва калі «разумная жывёліна» ў нейкім нумары дасьць пудла.

### Паланга

Вялікая, параўнаўча зь мініятурнай Нідаю, Паланга ў параўнаньні зь ёю ж выглядае досыць правінцыйна.

Сытуацыю ратуе маляўнічы парк з палацам графаў Тышкевічаў. У палацы — музэй бурштыну, відаць, сапраўды найбагацейшы ў сьвеце. Ты пашыраеш свой кругагляд, чытаючы подпісы да экспанатаў, адкуль, у прыватнасьці, даведваесься, што навечна закутымі ў бурштын знойдзеныя 683 віды камароў, 396 відаў мухаў, 36 — прусакоў, адна яшчарка і аніводнага, нават самага дробнага чалавечка.

### Вяртаньне

Калі ты кахаў жанчыну, але яна ўжо належыць іншаму і тваёй аніколі ня будзе, то лічыш ніжэй свайго гонару захоўваць да яе ранейшыя пачуцьці й выхоўваеш у сабе новае стаўленьне. У ім два асноўныя кампанэнты: незабыўныя ўспаміны і сёньняшняя ветлівая адстаронёнасьць.

Тое самае — зь Вільняй.

Зь Нідаю — іначай.

*2000*

# Задніца Эўропы

Вас прыкладна шасьцёра.

Вы стаіце на вышыні кілямэтра над роўнем мора. Далёка ўнізе — белыя дамы й чырвоныя дахі вёскі Леўкара, дзе некалі жлукціў віно і займаўся любоўю зь мясцовымі юнакамі Мікелянджэлё Буанароці, што вандраваў тут у пошуках знакамітых кіпрыйскіх карункаў.

Вы — гэта:

ты сам, натхнёны горнымі краявідамі і літрам чырвоненькага;

прафэсар Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Яша, які мае пэўныя праблемы з вэстыбулярным апаратам;

адстаўны цыркавы артыст, а цяпер філёзаф Віктар, муж маскоўскай пісьменьніцы, дзякуючы якой ён у часы СССР аб’езьдзіў Піцунду, Essentially Кактэбель і ўсе астатнія гэтак званыя дамы творчасьці, дзе амаль заўсёды меў магчымасьць выпіць зь беларускім пісьменьнікам Алесем Асташонкам, што колькі гадоў таму зьнік зь Беларусі, але не з айчыннай літаратуры;

Дзіма, маладая акулярыстая асоба неакрэсьленае прафэсіі, таксама з Масквы, падобная, зрэшты, да галоўнага героя аповесьці братоў Стругацкіх «Панядзелак пачынаецца ў суботу»;

Дзімаў прыяцель пецярбуржац Саша, мядзьведзяватае дабрадушнае стварэньне, якое ведае пра нетрадыцыйную сэксуальную арыентацыю Мікелянджэлё (як і пра тое, што генію эпохі Рэнэсансу надаралася наймаць кілераў, каб атрымаць выгадную замову), якое пяшчотна абдымае Дзіму і чамусьці лічыць патрэбным паведаміць нам, як учора яны хадзілі здымаць «девочку» (аповед гучыць абсалютна непераканаўча; гэтаксама паэт Анатоль Сыс, прыкладам, мог бы сьцьвярджаць, што гідзіцца гарэлкі);

ваш камандзір, кіроўца «джыпу» і праваднік Жора, што нарадзіўся ў Растове-на-Доне, але ўжо адслужыў у кіпрыйскім войску, які, далікатна кажучы, ня любіць туркаў і добра вывучыў старажытную гісторыю і культуру сваёй другой радзімы, у прыватнасьці, ведае, што ўсе чатыры кананічныя эвангельлі напісаў тутэйшы кіпрыйскі чалавек, якога так і клікалі — Эвангелёс.

Прафэсар Яша трымаецца думкі, нібыта эвангелістаў было чатыры, прычым яны чамусьці пагалоўна аказаліся габрэямі.

Цэлую дарогу ваш старэйшы маскоўскі сябар дыскутаваў з Жорам, што ў якасьці контраргумэнтаў выбіраў усё круцейшыя ды небясьпечнейшыя віражы, пад'ёмы і спускі. У прафэсара Яшы застаецца апошні аргумэнт. З бледнай прабачліваю ўсьмешкай ён перагінаецца цераз парапэт аўтастаянкі і ванітуе на навакольныя кактусы ды на апанаваную турыстамі вёску Леўкара.

Жора мэлянхалічна зрывае дзікую горную кветку і ўскладае яе да двух мармуровых помнікаў партызанам, расстраляным напрыканцы 1950-х гадоў праклятымі ангельскімі калянізатарамі.

Ты думаеш пра пэрспэктывы айчыннага партызанскага руху ў XXI стагодзьдзі.

Прафэсар Яша зноў ванітуе на вёску, камяні якой памятаюць Мікелянджэлё і гарачае перарывістае дыханьне ягоных каханкаў.

Дзіма з Сашам палка абдымаюцца, і табе робіцца за іх радасна.

Філёзаф Віктар прапануе дабавіць.

Жора крыху зьдзіўлены. Жора памятае, што на абедзе ў вясковай тавэрне Віктар ужо прыняў на грудзі найменей два літровыя збанкі.

Адрозна ад віна, якое ў той тавэрне турыстам дазваляецца піць дасхочу, мяса ў вінным соўсе з каляндрай вам падалі роўна 18 кавалкаў, зь якіх філёзаф паклаў сабе адразу сем, пасьля чаго запатрабаваў дабаўкі. Ты ўявіў, як Віктар выпіваў з Алесем Асташонкам і зь не-

чалавечым апэтытам зьядаў Алесеву закусь, і ў табе закіпела крыўда за беларускую літаратуру.

Тым часам разнэрваваны гаспадар прынес латушку зь яшчэ пяцьцю кавалкамі. Філёзаф задуменна пацягнуў латушку да сябе, аднак ягоны цыркавы спрыт быў ужо ў мінулым, і ты, дробязны, злапамятлівы, але справядлівы, адабраў у расейскага брата мяса і падзяліў яго паміж едакамі не па-брацку, а пароўну.

Прафэсар Яша трэці раз ванітуе на маляўнічы краявід нечым памаранчавым.

Філёзаф Віктар з надзеяю глядзіць на цябе, бо ведае, што запасьлівы беларускі брат прыхаваў з узьбярэжжа пару літраў чырвонага.

Саша зь Дзімам засьцілаюць камяні газэтай. Гэта кіпрыйскі расейскамоўны тыднёвік, які называецца проста «Попка». На першай літары лягатыпу сядзіць гэтая самая гаваркая птушка, якую некаторыя нашыя грамацеі мянуюць «папугаем» (завецца ж яна на не сапсаванай расейшчынаю беларускай мове чыюком). Але ня ўсё так адназначна, бо побач з чыюком прысутнічае і самая сапраўдная, вельмі нават неблагая попка, хоць, на тваё беларускае вока, зусім не такая дасканалая й спакусьлівая, як тыя, што надзвычай часта трапляюцца ў нашым нацыянальным кантэксьце.

Нават вельмі павярхоўнае знаёмства зь зьместам «Попки» паміж шклянкамі чырвоненькага нараджае ў тваім сэрцы трывогу за будучыню братняга Кіпру. Выяўляецца, што ўва ўсіх гарадах краіны ўжо ёсьць расейскія школы. Што і ў самай задрыпанай вёсцы можна глядзець ОРТ, РТР, НТВ, ТВ-6, ТНТ, ТВ-Центр, НТВ-«Боевик», «Мир кино» і «Наше кино». Што ўва ўсіх шапіках Кіпру прадаецца кніга «русского писателя-киприота» Валянціна Іванова «Апошні рэйс фюрэра» (Іваноў сустрэў на Кіпры чалавека, які разам з Гітлерам і Борманам у апошні момант саскочыў на лятучай талерцы з райхсканцылярыі ў захмарную гімалайскую Шамбалу). Што «монах 36 лет, женат, очень мужественный, благородный, умеющий нежно обращаться с женским полом,

хочет познакомиться со стройной, замужней и с хорошими манерами женщиной для страстных эротических моментов, тел. в Никосии 20469»...

Прафэсар Яша, глыбока дыхаючы, шпацыруе ўсьцяж парапэту.

Філёзаф Віктар кажа, што Алесь Асташонак можа добра пацягнуць вінца, але аддае перавагу белай.

Дзіма апавядае показку пра тое, як, сустрэўшы ў лесе Чырвоную Шапачку і высьветліўшы, што тая нясе бабулі загорнутыя ў паперу піражкі, Шэры Воўк запатрабаваў неадкладна аддаць яму паперку. Апавядае і пад заміланым Сашавым позіркам грацыёзна выцягвае з-пад пакетаў зь віном частку «Попки».

Ваш камандзір Жора шэптам лаецца матам, што ўвайшоў у ягоную сьвядомасьць дзякуючы растоўскай маме і суроваму тату — вэтэрану змаганьня за незалежнасьць, якога кіпрыйскія падпольшчыкі некалі пад кулямі праклятых ангельскіх прыгнятальнікаў пасадзілі на рыбацкі баркас і з скупой мужчынскай сьлязінай выправілі па навуку ў вялікую і магутную краіну Саветаў, дзе яго навучылі піць «вогненную ваду», брыдка лаяцца і спакушаць растоўскіх цнатлівак. (Хоць нехта й мяркуе, што «растоўская цнатліўка» — гэта аксюмаран, але, напэўна, тады, у савецкія часы, калі ў нас не было сэксу, цнатліўкі бераглі й пялегавалі свой найвялікшы скарб дзеля кіпрыйскіх патрыётаў нават у Растове-на-Доне, які Жора непатрыятычна называе Растовам-на-дне.)

Жора мацюкаецца, бо наперадзе ў праграме вашага аднадзённага сафары яшчэ наведваньне віннага заводу і вадаспаду на вышыні 1650 мэтраў над роўнем Міжземнага мора.

...Візыт на завод, асабліва падзеі пасьля дэгустацыі, ты ўспамінаеш фрагмэнтарна. Усё гэта нагадвае дзіцячы калейдаскоп зь сьветлых і цёмных шкельцаў. Напрыклад, ты выразна памятаеш, як у размове з паралелым пасьля ванітаў прафэсарам Яшам ты выкрываў расейскага калегу Фаменку ў тым, што той зусім не з навуковых пазыцыяў адмаўляе існаваньне ў расейскай

гісторыі мангола-татарскага прыгнёту, затое табе ані не зразумела, як у тваім заплечніку апынуліся дзьве новыя пляшкі чырвонага, што надзвычай прыдаліся на вадаспадзе, дзе тэмпэратура вады не падымаецца вышэй за 7°C, але ж Дзіма пра гэта ня ведае і прагне яшчэ болей спадабацца мядзьведзю Сашу, а таму з жыцьцярадасным ёкатам «Е...ть в рот!» скача пад ледзяны струмень ува ўсёй экіпіроўцы ўлучна з мабільнікам.

Потым прыроду й сьвядомасьць агортваюць густыя паўднёвыя прыцемкі, ад якіх цябе ратуе кароткі асьвяжальны сон дзесьці паміж Пафосам і Лімасолам.

Тым самым Пафосам, дзе некалі выйшла з марское пены Афрадыта, якую, як сьведчыць паданьне, мясцовыя пастухі, не валаводзячыся, пазнаёмілі зь зямнымі рэаліямі, пазбавіўшы нявіннасьці проста на мулкім прыбярэжным жвіры.

І тым самым Лімасолам, дзе кароль Рычард Ільвінае Сэрца, заваяваўшы Кіпр, вянчаўся з Бэрэнгарыяй Наварскай, і дзе прытомленыя крыжовымі паходамі рыцары заняліся вырабам разрэклямаванага дэсэртнага віна «Камандарыя», якое жыхарам нашых шыротаў ты зусім не рэкамэндуеш.

Твой глыбокі здаровы сон, у якім мільгане цалкам цьвярозая думка, што — каб нарадзіцца на Кіпры — Афрадыта забрала прыгажосьць ува ўсіх тутэйшых жанчын, трагічна перапыніць філёзаф Віктар, які на крутым павароце зваліцца на цябе разам з прафэсарам Яшам, што, на шчасьце, абванітаваўшы старажытную вёску Леўкара, ужо анічога ня піў і ня еў.

Далей табе давядзецца, як казаў твой маёр у савецкай арміі, «борствовать», абмацваючы падбітае вока і краем вуха прыслухоўваючыся да разважаньняў філёзафа і артыста, якому нерашуча пярэчыць зьняможаны прафэсар МДУ, што чамусьці дагэтуль ня зьехаў у родныя палестыны, якія цяпер знаходзяцца ўсяго за нейкую сотню кілямэтраў і, хочацца верыць, уладна клічуць яго.

Але пакрысе сэнс сылягізмаў чалавека, што неаднаразова выпіваў з А. Асташонкам, даходзіць да цябе, і ты

канчаткова прачынаесься, нібы певень на дзіркатай курасадні, на якую раптам абрынулася залева. Рэч у тым, што ты чуеш пра гістарычную неабходнасьць замачыць дзесяцігадовага чачэнскага хлопчыка, які з-за вугла страляе ў фэдэралаў з аўтамата Калашнікава. Хлопчыка — няхай сабе ён і застаўся старэйшым мужчынам у сям'і, бо астатніх ужо замачылі — трэба пусьціць у расход не з прычыны банальнае помсты за тых, каго журналіст Павел Шарамет называе «нашими ребятами», а — дзеля пашырэньня арэалу эўрапейскай культуры.

Ты ўдакладняеш, хто ж носьбіт гэтае культуры, і маскоўскі філёзаф урачыста й ляпідарна вымаўляе: «Великая Россия».

Ты дыпляматычна цікавісься, ці трэба ягоныя словы разумець так, што Расея — частка Эўропы, і чуеш абураны адказ: маўляў, а што ж гэта такое, калі не фарпост Эўропы на мяжы азіяцкага сьвету, куды яны, нашыя расейскія братаны, нястомна, на танках, артылерыйскіх ляфэтах і самалётах-бамбавальніках валакуць заваёвы эўрапейскае цывілізацыі.

Маскоўскі філёзаф чамусьці сумняецца, што пераканаў цябе, і таму пагрозьліва перапытвае, а што ж такое Расея, па-твойму. Ты — чалавек абачлівы, і таму, з улікам таго, што братаноў (без уліку прафэсара Яшы) трое на аднаго, зьбіраеш у кулак усю сваю добрасуседзкую сымпатыю, высьпеленую за стагодзьдзі суіснаваньня вашых народаў. Зважаючы на ўмовы, ты здольны пайсьці на тое, каб назваць Расею часткаю Эўропы, але твая гатоўнасьць да разумных кампрамісаў таксама мае свой арэал, і ты ляяльна адказваеш, што так, іхняя радзіма — частка Эўропы, а менавіта — ейная задніца. «Что ты сказал?» — раве філёзаф Віктар. «Вонючая задница Европы», — удакладняеш ты і талерантна сьціскаеш у руцэ бутэльку, трымаючы яе за рыльца. «Совершенно верно», — нечакана прачнуўшыся, пацьвярджае пецярбуржац Саша, пяшчотна абдымаючы мокрага да ніткі Дзіму.

«Как ты можешь, ты же писатель, — абвяла кажа філёзаф. — Еще и вонючая...»

Ты міралюбна супакойваеш маскоўскага братана ў тым духу, што задніца — гэта жыццёва неабходны орган любога нармальнага арганізму, бо бяз задніцы чалавек ня можа існаваць гэтаксама, як і без галавы, а часам задніца, або, па-беларуску, срака, бывае нават больш актуальнай за галаву (да прыкладу, славуты вершнік без галавы, дзякуючы наяўнасьці сракі, выдатна трымаўся ў сядле, а калі б меў першы орган, але ня меў другога, Майн Рыд проста не напісаў бы свайго раману). Ну а што смуродная, дык на тое яна і срака. Такая ўжо ў яе функцыя, што нават у самой Афрадыты яна наўрад ці пахла амброзіяй.

Філёзаф даволі неспадзявана ўгамоўваецца і яшчэ болей неспадзявана паведамляе, што па маці ён — габрэй. Ты адкладаеш убок зброю інтэлігента — бутэльку і ўголас прыгадваеш радкі габрэйскага савецкага паэта Арона Вяргеліса:

*В твоей крови слиянье двух кровей,*
*Огонь ее от матери твоей…*

«Совершенно верно», — бадзёра пацьвярджае Саша.

У цябе яшчэ засталася пляшка паўсухога чырвоненькага, каб выпіць за перамогу сусьветнае жыда-масонскае змовы супроць Расеі. Але ты адчуваеш, што страшэнна стаміўся — быццам пражыў у «саюзнай дзяржаве» не адзін сёньняшні дзень, а цэлы год.

Табе прагнецца хутчэй дапасьці да твайго апартамэнту ў Лярнацы, побач з саборам сьвятога Лазара, дзе сьвечкі пахнуць нэктарам і пылком з матыльковых крылцаў, і выпіць сваю пляшачку з кім-небудзь, хто не пашырае арэалу эўрапейскае цывілізацыі, а тады — хуценька паспаць, каб заўтра падняцца разам з сонцам і прыйсьці на ціхі пляж, дзе пакуль няма расейскіх песьняў і расейскіх надпісаў і ты можаш супакоена паплаваць і, патрыятычна абстраканы пільнай ранішняю мэдузаю, выцягнуцца на сонейку, ленавата назіраючы за шматлікімі кіпрыйскімі катамі, якія традыцыйна ня ловяць мышэй, бо прывезеныя сюды дзеля паляваньня на зьмеяў, і гэтаксама ленавата пагадзіцца з Самэрсэтам

Моэмам, што поўдзень сапраўды абвастрае пачуцьці, але прытупляе розум.

Прывабленая кірыліцай на вокладцы твайго часопісу, да цябе падрулюе пляжная парачка з пытаньнем, ці не гаворыш ты па-расейску, і ты, ва ўладзе тае самае ўтульнае ленаватасьці розуму адкажаш ім не «идите вы на...», а «I don't understand» і, не адыходзячы ад мора, прапусьціш праз асьмяглы арганізм шклянку чырвоненькага, што ў цябе з сабой, і ўзгадаеш Зянона, але не таго, а іншага, які нарадзіўся тут, у антычным Кітыёне, што стаяў на месцы Лярнакі, і які, пасталеўшы, заснаваў афінскую школу стоікаў.

Потым, паводле нейкай няўлоўнай асацыяцыі, на памяць усплыве аднаклясьнік, які цяпер працуе ў адміністрацыі прэзыдэнта, а калісьці, у школе, выславіўся тым, што быў перакананы, нібыта Атэла — істота ніякага роду. Ты падумаеш, што гэтае Атэла задушыла нявінную Дэздэмону зусім блізка ад твайго пляжнага лежака, у Фамагусьце, куды варта было б зьезьдзіць, каб не дэмаркацыйная лінія, якая пасьля вайны 1974 году адрэзала Фамагусту ад грэцкае часткі востраву, ператварыўшы колішнюю рэзыдэнцыю вэнэцыянскіх намесьнікаў у мёртвы горад...

Пасьля чарговае шклянкі порсткай жужалкаю сьлізгане прыемная думка, што дэмаркацыйная лінія — не заўсёды зло, і на гэтай дыялектычнай выснове ты шчасьліва засьнеш пад ласкавым кастрычніцкім сонцам, паклаўшы пад галаў сьвежы нумар «Arche» і апошні нумар ужо амаль дабітай «Крыніцы».

Табе будзе сьніцца далёкая радзіма, яе даверлівыя блакітныя вочы і крамяныя белыя дупці, дэмаркацыйная лінія пад Шкловам, джыпы зь вялікімі літарамі UN на менскіх вуліцах і помнік першаму прэзыдэнту, пры якім будзе стаяць ганаровая варта зь дзяўчатак у паркалёвых купальніках і нядошлых хлопчыкаў у чорных сямейных трусах. Надпіс на манумэнце будзе зроблены лацінкаю, і ты будзеш ускладаць да яго кветкі, пакутліва намагаючыся разгледзець дату пасьля працяжніка.

*2000*

# Уік-энд у Коўні

З таго дня, як воляю Сталіна Вільня апынулася па-за межамі Беларусі, рака Вілія, ці лепей па-наску — Вяльля, магла б ужо наталіць смагу ўсіх марсіянскіх пустэльняў. Але, не ўважаючы на ўсе намаганьні новых гаспадароў Вільні, колішняя сталіца Вялікага Княства ні ў савецкай Літве, ні пасьля аднаўленьня незалежнасьці так і ня стала канчаткова літоўскай. Гэта проста немагчыма для гораду, заснаванага крывічамі. Для гораду, дзе працаваў друкарскі варштат Скарыны і выходзіла «Наша Ніва». Дзе быў Беларускі музэй і пісаў свае змрочныя камэдыі й аптымістычныя драмы Францішак Аляхновіч…

Вільня ніколі ня будзе літоўскім горадам. А таму, калі вы вырашылі прысьвяціць уік-энд падарожжу ў Літву, Вільню трэба праехаць транзытам, мімаходзь адзначыўшы, што яна, Вільня, бліжэйшая да Менску за любы абласны цэнтар Беларусі.

Вам, напэўна, таксама даводзілася калісьці чуць, што, маўляў, Кіеў — сталіца Ўкраіны, а Львоў — сталіца ўкраінцаў. Пры ўсёй адрознасьці гістарычнага й палітычнага кантэкстаў штосьці падобнае можна сказаць і пра Вільню з Коўняй. Пагатоў больш за два дзесяцігодзьдзі, да той самай сталінскай рэзалюцыі, Коўня пашчасьціла быць сталіцаю ня толькі літоўцаў, але й Літоўскай Рэспублікі.

На аўтобусе ці аўтамабілі дарога ад Вільні да Коўні займае нейкую гадзіну. Аднак за гэты час вы заўважыце, што разам зь ляндшафтам неўпрыкмет зьмянілася й сама аўра навакольля. Вы адчуеце халаднаватае, але моцнае і ўпэўненае дыханьне іншага мэнталітэту, іншае, ужо не славянскае краіны.

Адрозна ад Вільні, у Коўні вашую беларускую мову ніхто не зразумее, аднак, калі пасьля кароткага экс-

пэрымэнту вы пяройдзеце на расейскую, дык не пачуеце аніякае насьцярожанасьці, як, зрэшты, і аніякае прыязнасьці.

Усьлед за дзяжурнай ветлівай усьмешкаю вы атрымаеце падрабязнае тлумачэньне, як знайсьці рэкамэндаваны вам гатэль «Lietuva». Высьветліцца, што гатэль зусім блізка ад Лайсвэс алеі, або, у перакладзе, алеі Свабоды, на якой вы ў гэты момант знаходзіцеся, з прыемнасьцю адзначаючы, што за дзесяць гадоў, як вы былі тут апошні раз, цэнтральная ковенская вуліца зьмянілася толькі да лепшага. Вашае вока вандроўніка адзначыць новыя дагледжаныя ліхтарні, дзясяткі новых кавярняў, піўных бараў, крамак і крамаў з цалкам эўрапейскімі вітрынамі. А вось чаго не зьявілася, дык гэта нейкага прыкметнага мэмарыяльнага знаку на тым месцы, дзе на пачатку 1970-х гадоў на знак пратэсту супраць савецкай акупацыі вырашыў скончыць самагубствам сваё маладое жыцьцё ковенскі юнак Ромас Каланта́. Калі вы бывалі ў Празе, дык адразу ўспомніце кветкі і сьвечкі паблізу помніку сьвятому Вацлаву, дзе таксама самахоць і з тае ж прычыны разьвіталіся з жыцьцём чэхі Ян Палах і Ян Заіц. Гэтая згадка, магчыма, прымусіць вас задумацца пра таямніцы славянскае й балцкае душы.

Ваш гатэль знойдзецца на бакавой вулачцы за сотню крокаў ад Лайсвэс алеі, і на ягоным фасадзе вы ўбачыце, відаць, адзінае ацалелае на ковенскіх шыльдах расейскае слова «Гостиница». Ад яго, як і ад велізарнага прыцемнага фае, высознае столі і лесьвіцы з бардовай дарожкаю густа павее шасьцідзясятымі гадамі мінулага стагодзьдзя, але ваш нумар будзе ўтульным і цёплым, а тэлевізар прапануе дзясяткі два праграмаў з поўнай гарантыяй адпачынку ад сэлектарных тэлебітваў за ўраджай.

Праўда, сядзець у нумары няма рахубы, бо амаль побач Музэй Чурлёніса й Мастацкая галерэя, падараваная гораду адным з суайчыньнікаў-эмігрантаў. Дзесяць гадоў таму вы бачылі ў галерэі вялікае палатно Марка Шагала. Карціну ня ўкралі і не адправілі на выставу. Проста

выявілася, што эмігранту-мільянэру нейкі спрытнюга збыў за пару сотняў тысяч «зялёных» не арыгінал, а майстравітую перамалёўку.

Вашае расчараваньне кампэнсуе выстава твораў амэрыканскіх фотамайстроў, дзе цэнтральнае месца будзе займаць сэрыя мінэтаў, увекавечаных у вялікім памеры й шыкоўным колеры. Вы знойдзеце тут кампазыцыі на любы густ: юнак з старой, стары з амаль дзяўчынкаю, аднаполыя пары ды разнаполыя трыё. Дамінантаю гэтага хваласьпеву мінэтам будзе акрабатычны аўтамінэт у выкананьні смуглявага апалёну з Каліфорніі.

Зноў апынуўшыся на Лайсвэс алеі, па дарозе да Ратушнага пляцу вы захочаце запіць мастацкія ўражаньні глытком чырвонага віна. У гаспадара кавярні, падобнага да сівога барадатага Гэмінгўэя з папулярнага здымку, чамусьці ўзьнікне да вас нечаканая, зрэшты, цалкам бяскрыўдная сымпатыя. Ён падсядзе да вашага століка з кілішкам 50-градуснага «сукцінісу» і пасьпее расказаць пра высокую кватэрную плату ды пра тутэйшых бандытаў, што сёньня апоўдні проста на вуліцы эксклюзіўна прыватызавалі ягоны мабільны тэлефон.

Вашая сустрэча з бандытамі адбудзецца не каля заснаванага ў XIV стагодзьдзі сабору сьвятога Вітаўта, і не каля чысьцюткай готыкі дому Пяркунаса. Яна адбудзецца ў самай дэмакратычнай ковенскай рэстарацыі «Эльф». Там штовечар гарыць вялікі камін і грае джаз. Там на велізарных талерках прыносяць гэткія ж велізарныя карбанады. Там зьбіраюцца студэнты, і, палахліва азіраючыся, смокчуць піва старшаклясьніцы. Там зусім бясьпечна, бо байцы вядомай на крымінальным фронце «Ковенскае брыгады» ў гэтых сьценах проста адпачываюць.

Побач з брыгаднымі шарагоўцамі й камандзірамі мужчынскае вока зьмеціць зь дзясятак тых, каго Аляксандар Купрын калісьці назваў «ахвярамі грамадзкага тэмпэрамэнту». Праўда, гэтых упэўненых, бадзёрых і гаваркіх наведніцаў «Эльфу» ахвярамі можна будзе назваць хіба што мэтафізычна. Вы адчуеце, што знач-

на большыя шанцы стаць ахвяраю маюць іхнія кліенты, а таму, падсеўшы да каміну, будзеце мэлянхалічна ўгамоўваць свой грамадзкі тэмпэрамэнт фірмовай літоўскай настойкаю «Паланга».

Пасьля чацьвертага ці пятага кілішку вы зь невыказна цёплым пачуцьцём падумаеце пра жанчын сваёй сінявокай Беларусі ды адчуеце з гэтае прычыны ейнае неадольнае прыцягненьне.

Вось толькі вяртацца ў Менск — дзеля спакою душы й чысьціні ўражаньняў — вам захочацца ў аб’езд Вільні.

*2001*

# Сланы Ганібала

Гэтая гісторыя пачалася тады, калі на тваёй полацкай вуліцы быў усяго адзін тэлевізар, глядзець які да Цымэрманаў увечары набівалася чалавек трыццаць. Але табе болей падабалася хадзіць у раённую дзіцячую бібліятэку. На яе паліцах ты і знайшоў аднойчы кніжку пад загадкава-вабнай назваю — «Сланы Ганібала».

Праўда, з твару гэты намаляваны на вокладцы Ганібал быў падазрона падобны да дзядзькі Грышы Цымэрмана, які рамантаваў на рынку абутак. Але хутка выявілася, што падабенства мела цалкам выпадковы характар. Ганібалавага бацьку клікалі не Абрамам, а Гамількарам. Тэлевізара ў Ганібала не было, затое ён камандаваў войскам старажытнага Картагену, ваяваў супроць Рыму і разам з сваімі баявымі сланамі зьдзейсьніў бліскучы паход празь Пірэнэі і Альпы.

У тое лета вы колькі разоў гулялі на ўтравелых полацкіх вуліцах у вайну Картагену з Рымам. У вайсковых дзеяньнях на баку картагенцаў бралі ўдзел і баявыя сланы. Сланом згаджаўся быць твой сябар Вова Цымэрман, дужы габрэйскі хлопчык, які зь пятага клясу займаўся ня шахматамі, а вольнай барацьбой і вазіў цябе на плячах лёгка, як катá.

Ад таго часу праміне цэлае жыцьцё, у якім Картаген ніколі ня будзе тваёй запаветнаю марай. Ты нават ня будзеш ведаць, якую візу трэба атрымліваць, каб патрапіць у родны горад двайніка дзядзькі Грышы Цымэрмана.

Аднак пакручастаму сюжэту твайго жыцьця будзе заўгодна, каб першым кутком Афрыкі, куды цябе закіне, стаў Туніс, дзе ты ўсьцешана даведаесься, што валадар грозных сланоў рос і сталеў зусім побач з цэнтральным пляцам аднайменнай сталіцы краіны.

Сярод безьлічы партрэтаў бацькі нацыі Бэн Алі, які па шматлікіх просьбах працоўных арабаў і бэрбэраў рулюе дзяржавай ужо, здаецца, чацьвертую пяцігодку, ты і адшукаеш абвестку з запрашэньнем наведаць Картаген, а, пералічыўшы свае дынары, у профілі Ганібала на адной з купюраў з радасным зьдзіўленьнем пазнаеш сэміцкія рысы дзядзькі Цымэрмана.

Праз паўгадзіны ў абладзе салодкіх згадак маленства ты ўжо будзеш ісьці па ўтульных картагенскіх прысадах, густоўна аздобленых маленькімі саркафагамі з прахам ахвяраваных богу Ваалу немаўляткаў. На пунійскіх калёнах партрэтаў Бэн Алі пакуль што ня будзе. Адпачываючы ад рызыкоўных палітычных аналёгіяў, ты навядзеш фотаапарат на архітэктурны краявід і ледзьве пасьпееш пстрыкнуць, як з-за разгалістага кактуса імгненна падымецца няўсьмешлівы двухмэтровы чалавек у цывільным, што без тлумачэньняў засьвеціць табе стужку. Толькі пасьля ты заўважыш замаскаваныя балотнаю мярэжаю бэтээры з аўтаматчыкамі ў зялёных касках і стамлёна падумаеш, якія гэтыя ўладары аднолькавыя і як фатальна іх цягне да Вечнасьці: адзін здае на вечнае захаваньне сваю канстытуцыю з аўтографам, другі будуе палац побач з старажытным сьвяцілішчам Тафэль.

Ты разьвернесься да рэзыдэнцыі тунісійца № 1 сьпінай і тым месцам, адкуль яна расьце, і на сапфіравай асноведзі мора зьнячэўку ўбачыш юную бляндынку з валасамі колеру плятыны і амаль свойскім імем Аўшра, што па-літоўску азначае Заранка.

Мова, на якой вы будзеце размаўляць, у гэтых мясьцінах не падасца табе чужою. Аўшра будзе вывучаць гісторыю і ведаць, што картагенская культура мела тую дзіўную асаблівасьць, што не стварыла прыгожага пісьменства. Ты адзначыш, што Аўшра прыкметна вышэйшая за цябе, але гэтая трывожная акалічнасьць не перашкодзіць твайму натхнёнаму ўяўленьню, што буйна закаласіцца самымі сьмелымі мроямі.

Якраз тут да вас і падыдзе невысокі, зацягнуты ў скуру эўрапеец, якому твая суразмоўніца магла б быць за

ўнучку. У зялёных вачах аб’екта тваіх каласістых мрояў мільгане лёгкая разгубленасьць, і Аўшра растлумачыць, што гэта яе каханак з Гамбургу.

Каханак па-гаспадарску возьме тваю нязьдзейсьненую мару за тонкую талію і павядзе яе да тэрмаў імпэратара Антонія. Гледзячы ўсьлед, ты адразу знойдзеш у постаці Аўшры некалькі істотных хібаў. Але гэтага дзеля суцехі будзе відавочна недастаткова.

Ты прысядзеш на адбітую капітэль, заплюшчыўшы вочы, прыслухаесься да ветру, і мудры антычны вецер, які памятае велічны поступ сланоў Ганібала, пашле табе сапраўднае суцяшэньне. Ты раптам зразумееш, што Картаген прайграў Рыму і ўрэшце загінуў менавіта таму, што ня меў такой дробязі, як картагенскія пісьменьнікі.

Значыцца, яшчэ ня ўсё страчана.

Асабліва калі ўлічыць, што тыя пэрыяды айчыннае гісторыі, якія потым называюць «залатым векам», у тваёй краіне маюць уласьцівасьць праз кожныя пяцьсот гадоў паўтарацца. Бо апошні «залаты век» скончыўся ў XVI стагодзьдзі, а табе наканавана яшчэ нейкі час пабадзяцца па сьвеце і пасядзець за пісьмовым сталом у XXI-м.

*2001*

# Па сьлядах князя Жыгімонта

Апынуўшыся ў Чэхіі, сярэднестатыстычны падарожнік зь Беларусі, які меў у школе станоўчую адзнаку па гісторыі, напэўна згадае, што нашу першую друкаваную кнігу Францішак Скарына выдаў якраз тут, у Празе. На тое, каб ведаць, што ў чэскай сталіцы выпусьціла сваю першую кнігу і пражыла найлепшыя гады Ларыса Геніюш, багажу школьных урокаў можа не хапіць. Як, дарэчы, і на тое, каб не забыцца, што на Альшанскіх могілках у Празе спачываюць прэзыдэнты Рады БНР Пётра Крэчэўскі ды Васіль Захарка.

Што да героя, якому прысьвечанае тваё сёньняшняе падарожжа ў чэскую глыбінку, дык ён і наагул вядомы нават ня кожнаму з айчынных дактароў гістарычных навук.

Чаго ня скажаш пра іхніх калегаў з Чэхіі.

Чэская ўнівэрсальная энцыкляпэдыя паведамляе пра нашага суайчыньніка князя Жыгімонта Карыбута на некалькіх старонках, а спэцыялізаваная Энцыклянэдыя гісторыі Беларусі адшкадавала яму ўсяго дзесяць невыразных радкоў.

Але гістарычныя даведнікі й манаграфіі засталіся адпачываць у Менску, а ты едзеш зь сябрам сярод засьнежаных пагоркаў у бок Кутнай Горы. Цябе цікавяць жывыя ўражаньні, зьвязаныя зь імем беларускага князя, што на колькі гадоў заняў чэскі пасад.

Князь Жыгімонт Карыбут быў пляменьнікам гаспадара Вітаўта. Яшчэ ў зусім юным веку ён браў удзел у сьмяротна небясьпечнай экспэдыцыі з мэтаю ліквідацыі беларускага кузэна лох-нэскае пачвары, што здавён атабарыўся ў Лепельскім возеры і штогод спажываў ня менш як тузін грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага.

У 1410 годзе Жыгімонт мужна ваярыў на чале ўласнае харугвы пад Грунвальдам, а падчас гусіцкіх войнаў прывёў пяцітысячнае беларускае войска ў Чэхію.

Рэч у тым, што запрошаны гусітамі на каралеўскі пасад Вітаўт выявіў уласьцівую яму абачлівасьць і паслаў на выведку блізкага сваяка, якога чэхі, каб ня блытаць з сваім нялюбым каралём, таксама Жыгімонтам, ляпідарна называлі проста «князем К.».

Тым часам ты зь сябрам ужо кружляеш пакручастымі брукаванымі вулачкамі старажытнага гарадку Часлаў, дзе твой далёкі продак Жыгімонт Карыбут, ён жа князь К., склікаў увесну 1422 году чэскі сойм.

У мясцовым рэстаранчыку, што насупраць абжытага галубамі помніка слыннаму правадыру гусітаў аднавокаму Яну Жыжку, адбываецца чаканая сустрэча з часлаўскімі гісторыкамі й краязнаўцамі. Як і ўсе аматары старасьвеччыны, гэта досыць адметныя асобы, што моцна нагадваюць сваіх калегаў з славутых «Лябірынтаў» Вацлава Ластоўскага. Пададзеныя на прыкуску размаітыя сальцісоны й каўбаскі непазьбежна наводзяць на думку пра славянскае адзінства. Славянскую разнастайнасьць падкрэсьлівае тая акалічнасьць, што заместа замшэлае пляшкі «Старкі», як у Ластоўскага, стол аздабляе колькі бутэлек густой чырвонай «Франкоўкі».

Банальнае для гэтых мясьцінаў, не раўнуючы як кампот для заводзкіх сталовак тваёй радзімы, віно «Франкоўка» разам з расповедамі чэскіх калегаў дапамагае больш выяўна і яскрава ўявіць, як у чаканьні соймавых паслоў князь Жыгімонт бавіў час. У прыватнасьці, ты даведваесься пра ягоны ўлюбёны тост, што сустракаецца, дарэчы, у Мэтрыцы Вялікага Княства. Уздымаючы кубак з тагачаснай «Франкоўкай», князь К. піў за тое, «каб дзеўка кахала, каб куля мінала, каб шабля ня брала!»

Адной дзеўкі князю катастрафічна не хапала нават на адну ноч. Мясцовыя паданьні, падмацаваныя маладаступнымі пісьмовымі крыніцамі, сьведчаць, што Жыгімонт быў вялікім мілосьнікам жаночых вабно-

таў. Апанаваны нечалавечай тугою па жанчынах сваёй пакінутай зь пільнай палітычнай патрэбы Бацькаўшчыны, знатны беларусін ад поўначы да сьвітаньня залагоджваў ня меней як пяць часлаўскіх прыгажуняў. Затым ён зазвычай выпіваў літровы кубак «Франкоўкі» і, сьвежы, як ранішняя маргарытка, браўся займацца дзяржаўнымі справамі.

Маладзенькая зеленавокая афіцыянтка таксама яўна ня супраць зрабіць экскурс у гісторыю і ўжо натапырыла дасканалыя ружовыя вушкі. Касавурачыся на яе, адзін з часлаўскіх краязнаўцаў прыцішана распавядае, што князь Жыгімонт належаў да аматараў не зусім традыцыйных спосабаў любові. Штовечар ён загадваў, апрача ўсяго іншага, прынесьці да сябе ў замкавую спачывальню збанок ліповага мёду, якім перад любошчамі мазаў абраньніцам грудзі ды іншыя і без таго салодкія месцы, не забываючыся пры гэтым і пра свае ўласныя.

Звычкі заежджага беларускага князя падабаліся суворым аўтахтонам ня меней за тое, што ён прымаў любае сэрцу гусітаў прычасьце «под обойі», або, па-наску, двух відаў. Трэба меркаваць, што прыхільнасьць чэхаў зьлёгку падмацоўвалася і наяўнасьцю пяці тысячаў узброеных да зубоў ваяроў, якія прыйшлі разам з князем К. зь берагоў Дзьвіны, Дняпра й Нёмну.

Сойм у Чаславе, на якім гаворка вялася пра чэскі трон, завяршыўся палітычным трыюмфам Жыгімонта Карыбута. Князь запатрабаваў прыгажуняў, віна й ліповага мёду, а ўраньні вырушыў з прыхільнікамі на места Праскае, дзе, як сьведчаць хронікі, быў зь вялікай пашанотаю сустрэты на Градчанах, а па часе пачаў называцца «каралём пажаданым і абраным».

Наперадзе ў князя К. было яшчэ дзесяць гадоў, прысьвечаных чэскім клопатам.

Пра адзін зь іх беларускі падарожнік усьцешана дазнаецца з турыстычнага даведніку знакамітага замку Карлштайн, заснаванага ў гарах паблізу Прагі чэскім каралём ды ўадначас імпэратарам Сьвятой Рымскай імпэрыі Карлам IV.

Карлштайн быў скарбніцай і месцам захаваньня дзяржаўных рэгаліяў. На пачатку Гусіцкіх войнаў (расейскамоўны даведнік, відаць, з імпэрскае салідарнасьці называе іх «беспорядками») цалкам лягічна паўстала праблема экспрапрыяцыі замкавых каштоўнасьцяў. Чэска-беларускае войска на чале з князем Жыгімонтам узяло Карлштайн у аблогу і, выгодна расставіўшы на горных схілах катапульты, закідвала замак каменнымі ядрамі ды бочкамі з падпаленай смалой. Калі гэта не дало прыкметнага эфэкту, князь К. пастанавіў ужыць радыкальны сродак: заместа смалы запоўніць бочкі фэкаліямі. «Гаўном!» — сувора патлумачыў ён тым, хто не валодаў больш вытанчанай тэрміналёгіяй.

Піетэт перад колішняй улюбёнай рэзыдэнцыяй імпэратара Карла выветрыўся з адчайных гусіцкіх галоваў яшчэ не дарэшты, і сёй-той завагаўся. «Грошы ня пахнуць!» — адрэзаў адукаваны беларускі князь, што вывучаў у школе рэформы Вэспасіяна. Нагадаўшы паплечнікам актуальнае для любой эпохі антычнае выслоўе, Жыгімонт выцадзіў звычайную дозу «Франкоўкі», але гэтым разам дэманстратыўна скрывеліўся. «Квас!» — пагардліва зазначыў ён, каб канчаткова паказаць гусітам, хто гаспадар становішча.

Увечары таго самага дня замак трываў першую шквальную атаку фэкаліямі. Чэскі храніст Вацлаў Гаек зь Лібчанаў паведамляе, што бамбаваньне Карлштайну набыло вусьцішныя памеры. Не спадзеючыся на ўласныя магчымасьці, абложнікі наладзілі падвоз «набояў» ня толькі з блізкіх ваколіцаў, а нават з праскіх прыбіральняў і сталічных сьцёкавых равоў.

Уяўленьне малюе велічную батальную панараму зь дзясяткамі нястомных працаўніц-катапультаў, сотнямі пірамідаў бочак з боекамплектам і нескончонай чарадою возчыкаў-«залатароў» на праскім гасьцінцы. Ты ўжо настолькі глыбока перанёсься ў тыя рамантычныя часы, што твой нос пачынае моршчыцца ад уласьцівых ім водараў.

Менавіта гэтая акалічнасьць і вяртае цябе скрозь духмяную смугу стагодзьдзяў у часлаўскі рэстаранчык, дзе плаваюць зусім будзённыя пахі вэнджаных качак і запечанага сьвінога калена.

Падобны да беларускага шляхціча тутэйшы гісторык цытуе Чэскую энцыкляпэдыю: «Пажаданы й абраны кароль чэскі Жыгімонт Карыбут патрапіў захаваць рэдкую талеранцыю да чэскага ерэтызму, што ў тую пару сьведчыла пра вельмі цьвярозы розум».

Ты падымаесься й прапануеш ушанаваць памяць выбітнага продка ягоным улюбёным тостам. Сонечны прамень знаходзіць твой келіх, і «Франкоўка» ўспыхвае густым рубінавым колерам — сымбалем рыцарства, ваяўнічасьці й перамогі.

Вы п’яце за тое, каб дзеўка кахала й за ўсё астатняе. Зеленавокая афіцыянтка папраўляе карону сваёй каштанавай фрызуры. У лёгкай усьмешцы, што грае на ейных вуснах, ты чытаеш ухвалу і абяцаньне працягу.

Сябар пытаецца, ці маеш ты намер вяртацца сёньня ў Прагу. Ты марудзіш з адказам. Тваю скуру апякае струмок салодкага халадку. Ты бачыш у рэстаранным мэню ліповы мёд і разумееш, што ў гэтую хвіліну на цябе заахвочвальна глядзіць сама муза гісторыі Кліё.

*2002*

# Мажвідас, Кант і Ваня зь пілярамы

## Панцеляймон Панамарэнка

Беларуская інтэлігенцыя ня надта шануе імя колішняга першага сакратара ЦК КП(б)Б Панцеляймона Кандратавіча Панамарэнкі. Асаблівых падставаў для любові гэты нашчадак кубанскіх казакоў, на першы погляд, і сапраўды не пакінуў. Змагаўся зь беларускай мовай. Хацеў пасадзіць, а можа, і ліквідаваць Янку Купалу зь Якубам Коласам. Даваў згоду на безьліч арыштаў і прысудаў. Цяжка ўявіць нацыянальна сьведамую бяседу, дзе гучалі б тосты за сьветлую памяць Панцеляймона Кандратавіча.

А вось ты, грэшны, выпіць за таварыша Панамарэнку любіш. З прыемнасьцю куляеш за яго келіх вінца ў Менску і зь яшчэ большым задавальненьнем выцэджваеш пляшку ў тваім родным Полацку. Дзякуй вам, таварыш Панамарэнка, за шчасьлівае дзяцінства. Бо, каб ня вы, наша мяжа з Расеяй праходзіла б цяпер за Докшыцамі ды Вушачамі, а самі яны разам з Полацкам, Расонамі, Браславам і Глыбокім былі б «искони русскими» гарадамі. І не існавала б у прыродзе цябе, беларускага пісьменьніка Ўладзімера Арлова, а бласкуняўся б па сьвеце народжаны ў Полоцке, РСФСР, Владимир Орлов, камандзір полацкага спэцназу ў Чачэніі, або карумпаваны і шавіністычна настроены дэпутат Дзярждумы, або які-небудзь «новы рускі», які падае тварам у талерку з чорнай ікрой і шчасьліва мармыча, што жыцьцё атрымалася.

Асабіста для цябе ўсе цяжкія грахі таварыша Панамарэнкі пераважае на шалях гісторыі той факт, што ў 1944 годзе ён занатурыўся і, скарыстаўшы аўтарытэт галоўнага партызанскага начальніка, ня даў «прырэзаць» Полацкую вобласьць да Расейскай Фэдэрацыі, хоць адпаведную пастанову папярэдне ўхваліў сам таварыш

Сталін. Часам ты даеш волю фантазіі й бачыш, як Панцеляймон Кандратавіч апускае ў сваім кабінэце глухія шторы, налівае дзеля сьмеласьці сто грамаў, азіраецца на бакі, а потым падыходзіць да партрэта правадыра, непрыстойна круціць рукой вакол прычыннага месца і сьцішана, але па-бальшавіцку рэзка кажа: «Х.. табе, а ня Полацак».

На тое, каб абараніць межы сваёй парцейнай вотчыны на захадзе, духу ў Кандратавіча ўжо не хапіла, і Беласточчыну польскія камуністы ў Масквы выцыганілі. У выніку Беларусь, даробак якой у разгроме фашызму ня меншы, чым у Польшчы ці Францыі (толькі ў дзейнай арміі ваяваў мільён беларусаў) засталася адзінай краінаю-пераможцай, што скончыла Другую сусьветную вайну зь вялізарнымі тэрытарыяльнымі стратамі.

Да гэтых стратаў трэба залічыць і Віленшчыну, аднак тут ужо ніякі Панамарэнка дапамагчы ня мог, бо стаўкі былі нязьмерна вышэйшыя: тады, у 1939-м, ішлося не пра перадзел савецкіх рэспублік, а пра плян інкарпарацыі Літвы, які хтосьці зь ейных палітыкаў трапна разгадаў ляпідарнай формулай: «Вільнюс — мусу, Летува — русу» («Вільня — наша, Літва — расейская»). Што атрымалася ў гістарычнай пэрспэктыве, добра вядома. І таму праз дзьве гадзіны пасьля Менску ў купэ твайго цягніка зьяўляецца літоўскі памежнік. Працягваючы яму пашпарт, ты думаеш пра тое, што ў Вільні чамусьці няма помніка Сталіну. Зрэшты, некалькі сталінаў стаяць у славутым мэмарыяльным парку паблізу Друскенікаў, якія таксама перастварыліся ў Друскінінкай дзякуючы «бацьку народаў».

А мо крамлёўскі горац служыў толькі прыладаю ў руках Гісторыі, што, як і кожная жанчына, зазвычай аддае перавагу мацнейшым?

## Геркус Мантас

Геркус Мантас быў нобілем з прускай зямлі Натангіі. Зь дзяцінства ён як закладнік выхоўваўся ў немцаў

у Магдэбургу. Там паганец Геркус прыняў хрысьціянства і атрымаў адукацыю. Зьдзьмухваючы зь піўных кухляў пену, выхавальнікі прарочылі маладому прусу бліскучую будучыню. Вось што значыць Хрыстовая вера ды эўрапейская асьвета, казалі яны, замілавана згадваючы вечна схіленага над кнігаю Мантаса.

Аднак насунуўся 1260 год, калі палачане супольна з продкамі літоўцаў, латышоў і эстонцаў размалацілі нямецкіх рыцараў каля возера Дурбэ. Вестка пра перамогу суседзяў запаліла сэрцы прусаў. На чале абаронцаў радзімы ад Тэўтонскага ордэну стаў Мантас.

Пасьля першай удалай бітвы гадаванец цывілізацыі ўласнымі рукамі запаліў велічэзнае ахвярнае вогнішча, у якім гарэлі прывязаныя да коней палонныя рыцары. Магчыма, за адным разам Геркусу трэ было спаліць і сваіх хрысьціянскіх настаўнікаў. Але злавіць іх не пашэнціла, і паганскія багі хутка адвярнуліся ад паўстанцкага правадыра. Двухгадовая аблога Кёнігсбэргу скончылася правалам. Значная частка прускага набілітэту за добрыя ганарары перакінулася на бок ордэну. Мантас трапіў у палон, і кат надзеў яму на шыю пятлю, пэдантычна нашмараваную якасным нямецкім мылам.

Прамінула сем стагодзьдзяў, і ў агромністы, як стадола, піўбар на вуліцы Геркуса Мантаса ў Вільні весела забурыліся пяцёра менскіх студэнтаў. Гэта былі сябры створанага на гістарычным факультэце БДУ Клюбу аматараў піва (КАП), які на той час ужо зазнаў перасьлед унівэрсытэцкіх уладаў («Орлов! В Германии тоже все начиналось с пива!»— разьюшана крычаў дэкан) і працягваў сваю дзейнасьць падпольна або на непадкантрольных рэктарату і парткаму абшарах.

Кожны сябра КАПу — каб не было пакутліва балюча за марна пражытыя гады — абавязаны быў спаражніць падчас клюбнага паседжаньня ня меней за дзесяць паўлітровых кухляў або пляшак рытуальнага пітва. Слабакоў чакала выключэньне з Клюбу ды вечная пагарда таварышаў па барацьбе з таталітарызмам.

Літоўскае піва выявілася падступна мацнейшым за тое, што нараджалася на браварах тваёй радзімы, і пасьля сёмага кухлю ты быў надзейна схоплены густым бурштынавым хмелем. Кожны новы каўток увачавідкі павялічваў кансыстэнцыю гэтай дзівоснай субстанцыі, пагражаючы ўрэшце закуць цябе ў ёй, быццам гіганцкую мэтафізычную жамярыцу. Праменьчык сьвядомасьці высьвечваў у цёмным бурштыне асобныя мізансцэны: наведваньне жаночай прыбіральні, бо бракавала змогі дачакацца чаргі ў мужчынскую, брутальную канфрантацыю з бармэнам, якому ты намагаўся растлумачыць, што няма ніякага Наруцісу-Насруцісу, у чый гонар яны назвалі сваю лабусяцкую закуску да піва, а ёсьць нашая адвечная нябесна-блакітная Нарач, дзе маеце права мыць ногі адно вы, спадкаемцы Вялікае Крывіі.

Бунтоўны дух правадыра прусаў несумнеўна знаходзіўся дзесьці блізка, бо ў наступную хвіліну прасьвятленьня ты ўбачыў, як твой сябрук вымагаў ад кампаніі за суседнім сталом публічна пакаяцца й прызнаць, што іхні бл…кі Гардзінас — фантом, а ёсьць наская, бл…ь, Горадня, ці, у горшым выпадку, Гародня.

Разьвітаньне з гасьціннай вуліцаю Геркуса Мантаса бясьследна патанула на дне кухляў, сплыло праз брудныя пісуары ў Лету, і ты самаідэнтыфікаваўся толькі ў цягніку, што вёз цябе чамусьці ня ў родны Менск, а ў Гардзінас-Горадню, у навакольлі якой пры канцы XIII стагодзьдзя атайбоўваліся недабітыя крыжакамі прусы-перасяленцы, ня раз згаданыя Лаўрэнцеўскім летапісам як мужныя ваяры ў дружынах Вялікага Княства.

## Літоўскі транзыт

Сёньня твой маршрут пралягае ў адваротным кірунку: ты едзеш на гістарычную радзіму Геркуса Мантаса і, стоячы ў вагонным калідоры, вывучаеш расклад руху цягніка, што выправіўся з братняга Харкава. Найменьні ўкраінскіх станцыяў хочацца сьпяваць: Любоцін—Бага-

духаў—Смародзіна—Багамля—Басы—Віры—Белаполе… Выбіваецца хіба што прыпынак Шчорс, названы ў гонар героя, якога ты з акцябрацкага веку вечна блытаў зь яшчэ адным героем грамадзянскай вайны ды іншаземнай інтэрвэнцыі, сынам сонечных малдаўскіх кодраў таварышам Лазо. Ты ніяк ня мог запомніць, каго зь іх праклятыя самураі спалілі ў паравознай печы. Блытаніна скончылася, калі ў цябе зьявіўся надзейны старэйшы сябра-камсамолец, што ўпершыню пачаставаў цябе вэрмутам і развучыў з табой вясёлую рэвалюцыйную песьню пра тое, як «бьется в тесной печурке Лазо».

Маральны прагрэс безнадзейна забуксаваў недзе паміж грэка-пэрсыдзкімі й Пунічнымі войнамі. Геркус Мантас паліў сваіх эўрапейскіх патронаў, японскія інтэрвэнты выкарыстоўвалі ў якасьці паравознага паліва таварыша Лазо, а заходнія эмісары даводзілі да масавых самаспаленьняў рахманых расейскіх старавераў. Праўда, вусьцішная навіна пра гэты аспэкт шматстайнай дзейнасьці заходніх эмісараў яшчэ чакае цябе ў горадзе тваёй мары, куды нясьпешліва паўзе зачуханы ўкраінскі цягнік.

Назвы беларускіх станцыяў таксама не перапаўняюць рот гаркавай асцой: Чырвоны Бераг—Бярэзіна—Смаргонь—Гудагай. Няблага. Вылузваецца Мінск (знаёмы ўзбэк данядаўна лічыў, што твая сталіца зусім маладая — атрымала імя ад «мінаў»).

У Літве цягнік амаль не спыняецца, але дзякуючы айчынным радыё й тэлебачаньню ты ведаеш, што дагледжаныя, добра асьветленыя гарадкі, якія праплываюць за вакном, толькі парадны фасад, за якім хаваюцца беспрацоўныя, нацыяналісты і, вядома, заходнія эмісары. А шчасьце было так блізка: пасьля апошняй вайны нарадзілася ідэя далучыць захопленую саветамі частку Ўсходняй Прусіі да БССР, прычым не анклявам, а праз тэрытарыяльны калідор улучна з Друскенікамі. Магчыма, таварыш Панамарэнка ці нехта зь ягоных наступнікаў ужо аблізваліся. Ды вось ударылі ў хамут літоўскія таварышы.

Гэтыя лабусы за пяцьдзясят гадоў добра даліся Крамлю ў знакі. Аднаго разу Калінінградзкую вобласьць ад шчырага сэрца захацелі падараваць ужо не беларусам, а ім — разам з усім мільёнам «русскоязычных», 200-тысячнай вайсковай групоўкаю і без усякіх сумнеўных калідораў. А ў Вільні зноў не зразумелі. Іначай векапомныя падзеі каля тамтэйшай тэлевежы ў 1991 годзе здаваліся б цяпер дзіцячымі забаўкамі кшталту піянэрскай гульні «Зарніца».

Тым часам за вокнамі цягніка актуалізуецца «расейская» частка раскладу. У горадзе Несьцераве табе спрабуюць загнаць за пяць даляраў палову курыцы і тры бульбіны. Прыкладна гэткія ж цэны трымаюцца ў Чарняхоўску, Знаменску і Гвардзейску.

У Калінінградзе дзьме моцны ўсходні вецер. Пацепваючыся ад холаду, ты выходзіш на пэрон, па якім ступала нага Штырліца й Бормана, і напружана ўглядаесься ў туманлівую далеч.

Не, паўз вагон ідзе не пахорцісты гітлераўскі афіцэр — валачэ ногі мізэрны мужычок, сапраўды падобны да «ўсесаюзнага старасты». Цябе наведвае думка, што імя праграмуе лёс — і чалавеку, і гораду. Але расслабляцца рана: у тваім Менску ты таксама ў любы момант можаш прыйсьці на плошчу імя Калініна і ў маўклівым захапленьні пастаяць каля помніка падлаватаму бальшавічку з 4-кляснай адукацыяй, што адмовіўся і ад уласнага прозьвішча, і ад жонкі, якую начальнік лягеру любіў выклікаць з бараку ў афіцэрскую лазьню, каб пацерла яму сьпіну.

### Скарына і герцаг Альбрэхт

Да помніку Скарыну ў тваім Менску ты ня прыйдзеш. Адрозна ад «усесаюзнага старасты», Скарына скончыў не чатыры клясы вясковае школы, а замежны ўнівэрсытэт, а такія гістарычныя пэрсанажы знаходзяцца ў тваёй роднай улады на заслужаным вечным падазрэньні. Нельга нават выключыць, што помнік бе-

ларускаму першадрукару раней, чым у Менску, зьявіцца ў горадзе, куды прывяла цябе твая вандроўная цыганская душа. А вінаваты ў гэтым будзе тутэйшы герцаг Альбрэхт.

Блізу двух стагодзьдзяў у Караляўцы гаспадарылі рыцары-тэўтонцы. Альбрэхту Брандэнбурскаму суровыя рыцарскія статуты надакучылі, як рэдзька з поснага мэню, і ў 1525 годзе ён конча пастанавіў, што застанецца ў гісторыі апошнім вялікім магістрам Тэўтонскага ордэну і першым манархам новай сьвецкай краіны. Падмахнуўшы паперу пра скасаваньне Ордэнскай дзяржавы, Альбрэхт турнуў з Прусіі тэўтонскую адміністрацыю, але тая не разгубілася і атабарылася ў Вене, дзе няблага пачуваецца й цяпер, маючы вельмі прыстойны офіс зь ня менш прыстойным барам.

Герцаг быў чалавек адукаваны. У Нямеччыне выпіваў з Марцінам Лютарам і Філіпам Мэлянгтанам. Прачытаў тузін кніжак і заснаваў у Кёнігсбэргу славутую «Срэбную бібліятэку». Паклікаў да сябе эўрапейскіх навукоўцаў і асьветнікаў. На адмысловае сардэчнае запрашэньне Альбрэхта Брандэнбурскага на пачатку 1530 году адгукнуўся доктар вольных мастацтваў і мэдыцыны Францішак Скарына. А нікому не вядомы малады Марцін Мажвідас тады яшчэ ціскаў па сваім жмудзкім завугольлі дзевак і ня сьніў, што дзякуючы Скарыну патрапіць у энцыкляпэдычныя даведнікі.

У Караляўцы знакаміты друкар доктар Францыскус мог з прыемнасьцю сустракацца зь іншым славутым гадаванцам Ягелёнскага ўнівэрсытэту Мікалаем Капэрнікам. Пагатоў абодва прывезьлі ня толькі сьветлыя згадкі пра Кракаў, але і набытую ў Італіі схільнасьць да к'янці ды іншых карысных славянскай душы чырвоных вінаў: адзін студыяваў там мэдыцыну, а другі зь першага заходу атрымаў ступень доктара ў лекарскіх навуках.

Аднак задушэўнага сяброўства паміж Капэрнікам і Скарынам не атрымалася. Аднойчы першы (вядома ж, з таемным спадзевам на друкаваньне) падсунуў

другому свой пульхны манускрыпт пад назваю «Пра абарачэньне нябесных сфэраў». Але Скарына прагарнуў колькі старонак ды кажа: «Не дуры, ты, Мікола, людзям паспалітым галавы, а напішы лепей што-небудзь на пахвалу Богу ў Тройцы адзінаму і прачыстай яго мацеры Марыі». Вось тады, маўляў, твой трактат у нашыя выдавецкія пляны і ўключым, а магчыма, урвем і дзяржаўную датацыю на сацыяльна значную літаратуру.

Карацей, Капэрнік пакрыўдзіўся і зьехаў у Фромбарк. Аднак ты зрабіў бы недаравальную памылку, палічыўшы з гэтае прычыны Скарыну абскурантыстам. Проста той быў якраз не ў гуморы, бо пасварыўся з самім Альбрэхтам. Па-першае, герцаг загабызіўся перайменоўваць Маскоўскую залю свайго замку ў Літоўскую, быццам бы й не даваў васальнае прысягі вялікаму князю і каралю Жыгімонту Старому. Па-другое, ідучы ўчора да манарха, Скарына завярнуў на хвіліну ў катэдральны сабор і з болем у сэрцы ўбачыў, як нейкія мікрацэфалы зафарбоўвалі на сьценах старажытныя фрэскі, прычым яшчэ й вычвараліся: пакінулі наастачу грудзі Марыі Магдалены ды мужчынскую годнасьць сьвятога першапакутніка Стэфана. «Што ж гэта вы, мудакі, чыніце?» — ня вытрымаў беларускі гуманіст. А мікрацэфалы скаляцца: нам, маўляў, сам герцаг зь лютаранскім біскупам загадалі гэтую цяжкую спадчыну каталіцызму на х… замаляваць.

Скарына прыйшоў да Альбрэхта і пачаў гаворку ў тым духу, што яго вялікасьць займаецца, далікатна кажучы, х… ведае чым, і што ці ня лепей, замест зьнішчэньня ўнікальных фрэсак, адчыніць нарэшце ў месьце *alma mater*. А герцаг зноў завёў старую катрынку: маўляў, народ пакуль не сасьпеў; студыёзусы адразу возьмуцца п’янчыць ды вадзіць у хмызьнякі па-над ракой Прэголяю чужых жонак, а то і — страшна падумаць — юных цнатлівак. Тут гуманіст чамусьці спахмурнеў. Магчыма, успомніў адну тутэйшую маладзіцу, што пачала яго, доктара ў лекарскіх навуках, даймаць зусім не цікавымі вучонаму такога рангу паведамленьнямі, што ўжо трэці месяц не была, як казалі продкі, на хусьцёх.

У выніку Францішак Скарына зьехаў у тым самым годзе назад у Вільню. А герцаг Альбрэхт неўзабаве так засумаваў па адукаваным палачаніну, што адчыніў усё ж у Кёнігсбэргу ўнівэрсытэт, студэнт якога Мажвідас, натхніўшыся перакладам Скарыны, выдаў першую літоўскую друкаваную кнігу «Простыя словы катэхізму» — роўна праз трыццаць гадоў пасьля нашага «Псалтыру».

### «Сабор Канта»

Колькі разоў, блукаючы сярод выдмаў у блаславёных ваколіцах Ніды, ты ўглядаўся ў асмужаную далеч Куршаўскае касы і зьбіраўся калі-небудзь праехаць рэшту гэтага стокілямэтровага пасу пяску і лесу, каб убачыць недзе на даляглядзе ўзьведзены ў 1332 годзе гатычны катэдральны сабор, дзе хавалі ордэнскіх грасмайстраў, а пазьней — герцагаў. Сабор, дзе маліўся і знайшоў апошні зямны прыстанак чалавек, розум якога ня мог спасьцігнуць дзьвюх рэчаў — зорнага неба над ім ды маральнага закону ў ім самім.

Ты ўрэшце дасягнуў сабору іншым маршрутам — не праз прасоленыя ветрам і густа заселеныя зьверыною выдмы і пералескі, а праз гарады Знаменск і Гвардзейск. Верагодна, таму сабор здаецца табе храмам, збудаваным іншаплянэтнікамі на ўскраіне калгаснага поля.

На другім баку поля тубыльцы паставілі больш звыклы для іхнай архітэктурнай традыцыі кароўнік. Але, маючы перад вачыма сабор, будаўнікі кароўніка таксама імкнуліся ў неба і зрабілі сваю спаруду 20-павярховай, назваўшы яе Домам саветаў. Праўда, ні саветы, ні каровы ўлазінаў за дваццаць прамінулых гадоў так і ня справілі, бо насамрэч сабор узводзілі якраз тубыльцы, а вось кароўнік — жыхары плянэты з абсалютна іншай культурай. На іх гістарычнай радзіме гэткія будынкі зазвычай ставіліся на месцы старажытных замкаў. А тут якраз ад XII стагодзьдзя ацалеў замак — толькі бяры і ўзрывай… Узарваць узарвалі, а вось закласьці дынаміт у падмуркі паленаваліся (а можа, проста «скамунізь-

дзілі»), за што тыя не прамінулі аддзячыць, пусьціўшы праз увесь дваццаціпавярховік шырокую расколіну.

Ты падыходзіш да магілы Імануіла Канта, рухаючыся так, каб незаселены кароўнік заўсёды заставаўся за сьпінай.

Портык з дванаццацю калёнамі з чырвонага туфу. Шаравата-ружовы граніт надмагільля. 1724–1804. Табе хочацца засяродзіцца на Вечнасьці, але думаецца ўсё адно пра кароўнік.

Дзясятую частку жыцьця, падчас Сямігадовай вайны, калі Кёнігсбэрг акупавалі царскія войскі, Кант быў расейскім падданым. Прычым, зусім не намінальна.

Канту мроілася прафэсарская катэдра Кёнігсбэрскага ўнівэрсытэту, і ён пісаў вернападданіцкія лісты царыцы Лізавеце Пятроўне, мянуючы яе «найвыдатнейшаю з усіх жанчынаў». Зрэшты, у жанчынах аўтар «Крытыкі чыстага розуму» і «Мэтафізыкі нораваў» разьбіраўся відавочна горш, чым у катэгарычных імпэратывах. Кажуць, гадоў да сарака філёзаф наагул не дакранаўся да жанчыны (калі не лічыць мамкінай цыцы), а калі вучні наладзілі яму ініцыяцыю, назваў любоўны акт «безьліччу мітусьлівых, вартых жалю рухаў». (Не, нездарма Освальд Шпэнглер заўважыў, што цяжка знайсьці іншае, апрача тэорыі Канта вучэньне, настолькі пазбаўленае сонечнага сьвятла.)

Згаданы момант Кантавай біяграфіі ты наважваесься ўдакладніць у экскурсаводкі разьмешчанага ў саборы музэю. Дзяўчына малюе на твары зьбянтэжанасьць, і ты суцяшаеш яе: каб яна нарадзілася сучасьніцаю філёзафа, шанцаў заседзецца да пятага дзясятку ў цнатліўцах той проста ня меў бы.

Стэнд за плечыкамі ў экскурсаводкі паведамляе, што тут, у Кёнігсбэрскай бібліятэцы, захоўваўся перададзены згодна з тастамэнтам Багуслава Радзівіла славуты Радзівілаўскі летапіс, ці не адзіная ўсходнеславянская хроніка, якая дайшла да нас у аўтэнтычным выглядзе. Але грымнула Сямігадовая вайна, і Радзівілаўскі летапіс «был возвращен в Россию».

Настрою гэтая канстатацыя табе не дадае, і ты сувора пытаесься ў музэйнай фэі, няўжо яна сапраўды згодная з Кантам наконт безьлічы мітусьлівых рухаў. «Мужчина, — адказвае апранутая ў цёплыя калготкі фэя, — если вам нечего делать, то можете оставить свой отзыв». Ува ўсім пачутым табе падабаецца адно першае слова. «Спасибо, женщина», — адгукаесься ты і чытаеш у кнізе водгукаў апошні запіс: «Посетив собор Канта, у нас остались приятные воспоминания. Вера Б. Света Б.».

Ты задуменна пазіраеш на прысутнага ў залі калегу Бартосіка, які ажно сьвеціцца, даведаўшыся з экспазыцыі, што ў Калінінградзкай вобласьці знаходзіцца 80 (цікава, чаму, да прыкладу, не 180) адсоткаў сусьветных запасаў бурштыну. Народжаны ў далёкім і таямнічым расейскім горадзе Рыбінску, калега відавочна перажывае нацыянальны гонар за гэткія няслабыя запасы.

Цябе раптам падхоплівае гарачая хваля братніх інтэграцыйных пачуцьцяў, і вось ужо Вера Б. і Сьвета Б. не самотныя, бо побач зь імі ў кнізе водгукаў зьяўляюцца Дзіма і Вова — таксама з аднолькавым прозьвішчам Б.

### «Каралявец»

Так называецца калінінградзкае Таварыства беларускай культуры, якое даўно ўжо адышло б у гісторыю, каб не старшыня Ігар Шаховіч ды ягоная жонка Натальля.

Ігаравы продкі паходзяць з полацкай вёскі Кушлікі, паблізу якой у 1661 годзе маршалак Казімер Жаромскі разьбіў царскага ваяводу Івана Хаванскага, узяўшы трафэямі 130 баявых варожых сьцягоў. За стагодзьдзе да таго, у час Інфлянцкае вайны, наш аддзел на чале зь Бірулем, продкам знакамітага мастака, разграміў у тых мясьцінах чатыры сотні маскоўскіх стральцоў і захапіў 120 цяжкіх стрэльбаў-гакаўніц. А яшчэ раней у Кушлікі прыяжджаў на вакацыях палавіць на смажаную жабу самоў ды папіць дабрэннай тамтэйшай самагонкі студэнт Франак Скарына.

У сьвятле гэтых неабвержных фактаў цалкам лягічна выглядаюць і «Пагоня» на харугве «Караляўца», і тое, што Ігар з Натальляй гандлююць не майткамі ці пракладкамі «Always», а трымаюць у горадзе кнігарню.

Публіка на вечарыну «Караляўца» зьбіраецца стракатая, але збольшага прыемная, хоць і далекаватая ад клопатаў, якімі жыве прэзэнтаваная табою і Дзімам Б. шматпакутная Бацькаўшчына.

Вы знаёміцеся зь дзяўчаткамі-цымбалісткамі, якія не гавораць па-беларуску, затое могуць урэзаць «Лявоніху», а потым яшчэ й «Сем сорак», што так любіў твой полацкі сусед дзядзя Грыша Цымэрман, а цяпер любіць ягоны сын, а твой сябар дзяцінства Вова. На Каляды ён, зрынуты нечалавечай тугою, на хвіліну пакінуў у спакоі палестынскіх тэрарыстаў, каб затэлефанаваць табе й распавесьці пра тое, што ў яго там рэзка пахаладала да +26, і ён падхапіў катар. З гэтым ты яго душэўна павіншаваў, бо ведаеш, што катар — ня самае горшае з таго, што можа падхапіць Вова пры тэмпэратуры +26.

Былы марскі капітан татарын Адам Якубоўскі, родам з твайго Прыдзьвіньня, на выдатнай беларускай мове апавядае, як аднойчы ў Кейптаўне сустрэўся зь мільянэрам на прозьвішча Шапіра і пасьля першага ж кілішку запытаўся ў суразмоўцы, ці ўмее той па-беларуску. Слугі-зулусы зноў і зноў падавалі на тэрасу віскі зь лёдам, а белыя паны размаўлялі на незразумелай мове, у якой часта сустракалася дзіўнае слова «Шаркоўшчына», і гаспадар чамусьці плакаў, аднак загаду атруціць або зарэзаць госьця так і ня даў.

Дачка казанскіх татараў Эльміра бязь лішніх цырымоніяў уручае табе свой рэклямны праспэкт, адкуль вынікае, што, апрача опэрных арыяў і мурынскіх сьпірычуэлс, шчодра адораная Алагам гадаванка Казанскае кансэрваторыі гатовая да плённага супрацоўніцтва па дваццаці іншых пунктах, сярод якіх і загадкавы: «развлекательная и популярная программа».

Яшчэ адзін марак у адстаўцы пры канцы сустрэчы сардэчна дзякуе вам, выказваючы перакананьне, што

такія маладыя й высокаадукаваныя маладыя людзі, як ты і Дзіма Б., дапамогуць у сьціслыя тэрміны збудаваць «саюзную дзяржаву».

Супрацоўнік абласной адміністрацыі, ледзь пасьпеўшы набыць тваю кнігу «Адкуль наш род», ужо выказвае першую прэтэнзію: чаму эсэ пра «нехарошага» Язафата Кунцэвіча ёсьць, а вось аб праваслаўным Афанасіі Філіповічы — ні слова? Ці не таму, што апошні супрацоўнічаў з маскавітамі і заклікаў цара распачаць вайну з Рэччу Паспалітай? Менавіта таму, адказваеш ты. Супрацоўнік, як выяўляецца, мае гістарычную адукацыю і лічыць недаравальным трымаць свае багатыя веды пры сабе.

Ты мусіш вытрымаць шквал сьвежых ідэяў і фактаў. У прыватнасьці, дазнаесься, што існуе агульнаруская прастора. Што яе ўтвараюць тры галіны адзінага рускага этнасу: вялікаросы, маларосы і беларусы. Што ня ўсё так «чыста» з Тадэвушам Касьцюшкам. Што беларусы ня раз «устраивали массовую взаимную резню на религиозной почве». Што зусім нядблага, што ў Расеі, адрозна ад Беларусі, не было эпохі Рэнэсансу, якая запаліла тысячы страшных вогнішчаў. Што ў Расеі ўлада пакарала сьмерцю толькі чатырох царкоўных раскольнікаў, а безьліч іншых загінулі, даведзеныя да масавых самаспаленьняў заходнімі эмісарамі.

Наастачу калега вырашае прасьвяціць цябе ў тым сэнсе, што сапраўднае прозьвішча Геркуса Мантаса — Манто, а літоўцы самачынна, відаць, не параіўшыся з таварышамі з той самай агульнарускай прасторы, дадалі свой канчатак. Ясна, што тут, як і з Касьцюшкам, ня ўсё чыста.

Ты не дыскутуеш, табе проста пацешна ўяўляць, што адказаў бы гэтаму зацятаму служку Кліё адзін вядомы ўсім уладальнік дыплёму пра гістарычную адукацыю.

Супрацоўнік нэрвуецца: «Вы хотите сказать, что Ваша Беларусь была в Европе, а потом пришла российская орда?» Ты пагаджаесься: «арда» — надзвычай дакладнае слова.

## Угнаеньні

Сёньня раніцай у цябе ўзьнікла было адчуваньне, што трапіў у нейкі сёмы абласны цэнтар Беларусі. Прыкладна такая самая архітэктура мікрараёнаў і выспы недаруйнаванага гістарычнага асяродзьдзя. Прыкладна такая ж колькасьць беларускамоўных. Гэткая ж беларуская гасьціннасьць тваіх гаспадароў…

Увечары ты ўсё ж канчаткова і ўсьцешана перакананы, што знаходзісься ў іншай краіне.

І рэч ня ў тым, што ў цябе дома такіх супэрмаркетаў яшчэ няма нават у сталіцы. І ня ў тым, што на выхадзе з гэтай цалкам эўрапейскай паводле маштабу ды асартымэнту крамы можна трапіць у калюжыну паўмэтровай глыбіні, бо дарогаў калінінградзкага кшталту ў вас няма, здаецца, ужо і ў райцэнтрах.

Рэч у тым, што дома любая, няхай і тройчы расейскамоўная аўдыторыя цябе выдатна разумее, і калі ты кажаш, што першае беларускае слова, якое зачаравала прывезенага ў Гомель расейскага хлопчыка Дзіму Бартосіка, было пачутае з радыёпрадуктара слова «ўгнаеньні», публіка імгненна адгукаецца ўсьмешкамі і настройвае сваё ўспрыманьне на адпаведную хвалю. А тут таму, хто цябе разумее, часу на ўсьмешку ды «настройку» проста бракуе: скубуць дапытлівыя суседзі, для якіх што «ўгнаеньні», што «fertilizer», — аднолькавая тарабаршчына.

Наяўнасьць у шматстайных беларуска-расейскіх стасунках таямніцы «ўгнаеньняў» безумоўна суцяшае. І пакуль Дзіма Б. тлумачыць, што ўгнаеньні бываюць арганічныя і неарганічныя, ты аддаесься развагам пра тое, да якога з гэтых відаў належыць пахкі прадукт, што дзень пры дні выдаюць «на горб» ідэалягічныя транспартэры тваіх родных радыё і тэлебачаньня.

## Ваня зь піларамы

Гэта быў зьбіральны назоў. «Ванямі зь піларамы» твой тата менаваў навалач, што спаўзлася ў Полацак з уся-

го Савецкага Саюзу. Калі ты вучыўся ў першым клясе, улады зноў зачынілі адноўлены за немцамі Спаса-Эўфрасіньнеўскі манастыр, і «ваняў» сялілі ў былых кельлях.

У манастырскім саборы «вані» нарабілі перабоек і трымалі сьвіней ды трусоў. Сабор сьмярдзеў, рохкаў, пішчэў. Калі гаспадары кідалі згаладалым трусам абярэмак вецьця, тыя ўсчыналі такі жудасны вэрхал, што здаваліся ня мірнымі траваяднымі, а гіенамі ды каётамі. А сьвіньні ўяўляліся вам, навакольнай блазноце, наагул пачварамі, гатовымі ўмомант схрумстаць ня толькі цябе, малога беларускага (дзякуючы таварышу Панамарэнку) хлопчыка Вову, але і самога іхняга «хозяіна» дзядзьку Калістрата, што прыехаў зь Сібіры, дзе нястомна мачыў зьвяроў і людзей.

Ды насамрэч сьвіньні ў «ваняў зь піларамы» вырасталі зусім дробныя. «Сёньня звалілі, а заўтра зьелі», — казаў твой тата. Затое дзеці ў іх гадаваліся спраўныя: учэпістыя й злыя, як ваўчаняты, яны пачыналі з суседзкіх садоў, потым нешта кралі на гарадзкім рынку, траплялі на ўлік у міліцыю і поўным ходам рыхтаваліся трапіць на нейкую абжытую дзядзькам Калістратам «зону»...

Сьветлыя згадкі дзяцінства апаноўваюць цябе ў цёплым і ўтульным купэ цягніка «Калінінград—Гомель», дзе грэе нават індывідуальны пакунак зь бялізнай, на якім напісана: «Беларуская чыгунка». За шклом зьяўляюцца і адплываюць у невараць гарадкі з убогімі хрушчобамі й сьпічакамі гатычных кірхаў або вырастаюць у зьдзірванелых палях сьляпыя панэльныя шматпавярховікі, пад якімі хаваюцца ад амэрыканскіх спадарожнікаў армейскія камандныя пункты.

Ты пяшчотна разьвітваесься зь Верай Б. і Сьветай Б. Ты думаеш: яны — найлепшае з таго, што можа даць цывілізацыі гэтая тэрыторыя, якая не нарадзіла ніводнага, хоць трошкі знакамітага расейскага пісьменьніка ці мастака, і нават мясцовы бэстсэлер — гістарычны даведнік «Дорогами Ульмеригии. Путешествие по прусским землям» — напісаў маскоўскі гісторык.

Учора ты чуў, што раней ці пазьней сюды абавязкова вернуцца спрадвечныя гаспадары — немцы. (А хто ў такім разе прусы?) Яшчэ цябе пераконвалі, што праз нейкія дзесяць гадоў тут будзе незалежная Балтыйская рэспубліка.

Тваю душу мала абыходзяць праблемы гэтай тэрыторыі, як і ейнае мэтраполіі, асуджанай, як і любая імпэрыя, на канвульсіі й канчатковы развал. Ты хочаш, каб праз нейкія дзесяць гадоў там, дзе ты жывеш, па-ранейшаму была незалежная Беларусь. Але і прыхільнік вяртаньня немцаў, і балтыйскі незалежнік, і абласны чыноўнік, што бароніць тут агульнарускую прастору, — усе разам мірна сядзелі з табой за адным сталом, чакаючы адказу. І ты пранікся і даў ім адну параду.

Магчыма, яны нават скарыстаюцца зь яе і сапраўды прачытаюць апавяданьне Рэя Брэдбэры «Былі яны смуглыя і залатавокія» — пра тое, як зямныя перасяленцы атабарыліся на берагах марсіянскіх каналаў і што з гэтага атрымалася.

*2002*

# Ці бываюць чарвівыя мандарыны

*Каталёнскі дзёньнік*

*Cataluña is not Spain*

Каталёнія, хоць у ейных жыхароў гішпанскае грамадзянства, — зусім не Гішпанія. І рэч не ў аўтаноміі зь яе атрыбутамі (усё адно гэта не дзяржаўнасьць, і тут каталёнцы могуць табе адно пазайздросьціць). Рэч у тым, што каталёнцы — не гішпанцы. Яны, усе шэсьць мільёнаў (тут твая чарга для зайздрасьці), пачуваюцца каталёнцамі з калыскі, у якой ужо чуюць сваю мову, да надмагільля, дзе пакідаюць на гэтай мове апошнія зьвесткі пра сябе, падкрэсьліваючы, што ў раі, чыстцы і пекле таксама застануцца каталёнцамі.

Адрозна ад баскаў каталёнцы не ўзрываюць бомбаў. У іх стаўка на іншую, больш магутную зброю.

Напрыклад, каталёнцы ставяць помнікі ня толькі паэтам і палітыкам, але і свайму нацыянальнаму танцу — сардане.

У кнігарні ты адразу апынаесься ў вялізным аддзеле літаратуры на каталёнскай мове, дзе знойдзеш усё — ад Дзюма й Стывэна Кінга да апошніх раманаў Мішэля Ўэльбэка й сэксуальных энцыкляпэдыяў. Толькі потым вока заўважыць значна сьціплейшы куток з кнігамі па-кастыльску.

Праз пару дзён ты пачынаеш адрозьніваць каталёнскую ад кастыльскай на слых. Адначасова адбываецца сустрэчны працэс, і на пляжы ў Лярэце-дэ-Мары немаладая, але налітая, як верасьнёўская антонаўка, каталёнка (усе яны, ад 15 да 75, у выдатнай форме), пачуўшы тваю беларускую мову, па-ангельску тлумачыць табе, што ты — не расеец. Беларус? У такім разе ты мусіш адказаць, навошта беларусы, маючы дзяржаву, займаюцца гэтымі дурнотамі з Расеяй. Гледзячы на цябе, ня скажаш, што вы ўсе — «crazy».

Ты дзякуеш. Прыхільніца тваёй незалежнасьці тэмпэрамэнтна сьціскае смуглыя кулакі і паказвае, як трэба інтэгравацца з усходнім суседам: спачатку, каб ня лезьлі ў ваш гарод, вось так (кулак б’е ў кулак), а затым вось так — кулакі разьлятаюцца так далёка, што станік кармінавага купальніка напінаецца, як цеціва, і твае думкі пра інтэграцыйныя працэсы адступаюць на другі плян.

Раніцай ты бачыш, як насупраць твайго гатэлю два маладзёны ў форме муніцыпальных рабочых цэлую гадзіну зафарбоўваюць сьвежы надпіс на будынку. Тым, хто забыўся, дзе жыве, надпіс паведамляе, што тут — Каталёнія. Сьледам ідзе ўдакладненьне, што Каталёнія павінна быць незалежнай. Мяркуючы па імпэце, зь якім працуюць маладзёны, ня выключана, што якраз яны і шчыравалі ўчора каля поўначы на гэтым самым месцы.

Магчыма, яны будуць і сярод тых, хто праз два дні, на гульні «Барсэлёны» з мадрыдзкім «Рэалам», уздыме над трыбунамі стадыёну-статысячніка «Камп Ноў» 50-мэтровы транспарант «Cataluña is not Spain» і будзе трымаць яго, пакуль не надакучыць, пасьля чаго ты канчаткова пераканаесься, што ў XXI стагодзьдзі канфігурацыя палітычных межаў у гэтай частцы Эўропы зьменіцца.

## Мора

Займаючыся параўнаўчым аналізам лёсаў Каталёніі й Беларусі, ты ўзьбіваесься на думку пра ролю мора ў гісторыі народаў.

Калі не лічыць сувэнірных міні-дзяржаваў, выйсьця да мора сярод сучасных эўрапейскіх краінаў ня маюць (апрача Беларусі) Чэхія, Славакія, Вугоршчына, Аўстрыя, Македонія, Босьнія і Герцагавіна ды Швайцарыя. Практычна ўсе згаданыя краіны, дакладней іхнія народы, за выняткам (які толькі пацьвярджае правіла) Швайцарскай канфэдэрацыі мелі або маюць цяпер праблемы з гістарычнай пэрспэктывай. Чэхаў пасьпяхова анямечвалі, і на пачатку XX стагодзьдзя Прага была нямецкамоўным горадам. Славакі дзяржаўную незалежнасьць атрыма-

лі дзякуючы Гітлеру. Вугорцы паўставалі, каб вырвацца з імпэрыі Габсбургаў. Аўстрыя перажыла аншлюс… Разважаньні, відаць, небездакорныя, але, але… Асабліва калі засяродзіцца на Беларусі. Кожны можа сам прапанаваць пералік рысаў нацыянальнага характару, на якія ўплывае наяўнасьць у краіны ўласнага марскога ўзьбярэжжа.

Навукоўцы даводзяць, што ў нацыянальным арганізьме непазьбежна ўзьнікаюць мэнтальныя перакосы, калі яму бракуе багатых на ёд марскіх прадуктаў. А хіба не бракуе гэтаму арганізму прыліваў і адліваў, штормаў і штыляў, партовых корчмаў і бардэляў?

Асабіста ты ведаеш, прынамсі, тузін былых маракоў, на якіх у іхніх гарадах і мястэчках трымаецца ці ня ўся беларушчына. Адзін знайшоў магілу Віктара Каліноўскага, брата паўстанцкага правадыра. Другі кіруе скаўтамі, што складаюць прысягу на Аршанскім полі. Трэці паставіў помнік Янку Скрыгану ў эстонскім гарадку, куды быў высланы пісьменьнік… Помнік табе самому, магчыма, таксама паставяць маракі.

## Барсэлёна

Дагэтуль Барсэлёна была для цябе адно кропкаю на мапе і месцам, дзе нарадзіўся сябар Манюшкі й аднадумца Канстанціна Каліноўскага, беларускі інсургент Ахіл Банольдзі, лёс якога яшчэ чакае таленавітага пяра.

«Поздравляю Вас с экскурсией по Барселоне!» Гэтая фраза атрымліваецца ў твайго расейскамоўнага гіда найлепш, што ён, відавочна, ведае й сам, бо ледзь ня кожную хвіліну паўтарае сваё віншаваньне. Тым ня менш, сёе-тое, апрача зьвестак з турыстычных даведнікаў, табе ўдаецца пачуць. Да прыкладу, тое, што Каталёнія мае свайго прэзыдэнта, які ў барсэлёнскай рэзыдэнцыі прымае прэзыдэнтаў іншых краінаў. Твой гід ніколі ня дасьць веры, што ў прыродзе існуе прэзыдэнт, які за роўных прымае ў дзяржаўнай рэзыдэнцыі чужых губэрнскіх начальнікаў, а там, можа стацца, пачне прымаць і раённых.

Уражаньні пра горад табе заманецца асэнсаваць не на бульвары Рамбляс і не на Пляса дэ Каталюнья, а каля хмарачоснай калёны з масянжовым Калюмбам на прыморскай эсплянадзе.

Твая галоўная выснова: Барсэлёна вартая стаць сталіцаю эўрапейскай дзяржавы.

Ня выключана, што гэта здарыцца, калі будзе дабудуюць сабор Саграда Фамілія, спраектаваны геніяльным Гаўдзі.

### Гаўдзі

Бяз твораў Антоніё Гаўдзі Барсэлёна нагадвала б Кракаў бяз Вавэлю або Полацак без Сафійскага сабору.

Найбольш дасканалай формай Гаўдзі лічыў яйка і заўжды насіў свой архітэктурны ідэал (мабыць, усё ж у звараным нацьвёрда выглядзе) у кішэні. Але зь ягонага яйка вылупляліся зусім неспадзяваныя птушаняты.

У спарудах Гаўдзі прысутнічае нешта бархэсіянскае — Укбар, Тлён, Orbis Tertius… Не, вядома ж, наадварот — у Борхэса безьліч гаўдзіянскага, бо ён любіў блукаць гэтымі вуліцамі на яве і ў сьне, нястомна шукаючы тут свой Буэнас-Айрэс.

У доме-музэі Гаўдзі ўражвае спартанскі ложак на адну пэрсону. Сіратліва і непрыкаяна глядзіцца за шкляной сьцяною спальні і ўнітаз зь лякаваным драўляным седалам. Цябе не пакідае думка, што тут жыў няшчасны самотны чалавек, які ў 1926 годзе ўзяў ды трапіў пад трамвай. Насамрэч апошнія дванаццаць гадоў дойлід дняваў і начаваў проста на будоўлі ягонай архітэктурнай Бібліі — храму Саграда Фамілія.

Бясспрэчная геніяльнасьць Гаўдзі і ў тым, што ён замысьліў свой шэдэўр такім чынам, каб яго будавалі бясконца. (Меркаваная дата завяршэньня — 2022 год — выклікае ў барсэлёнцаў іранічную ўсьмешку.) Да такога не дадумаўся нават яшчэ адзін геніяльны каталёнец — Далі.

Затое Далі песьціў думку зьнесьці частку барсэлёнскага цэнтру, узьвёўшы на ягоным месцы «горад бу-

дучыні». Праўда, абаронцы мастака падкрэсьліваюць, што гэтая мара датычыла ўсяго толькі Гатычнага кварталу. Гаворка як быццам не ішла пра створаныя Гаўдзі архітэктурныя дэкарацыі, у якіх Далі рызыкаваў выглядаць акторам другога пляну.

### Далі

«Вытанчаны труп будзе піць маладое віно». Згаданая лягічна-гастранамічная фраза, атрыманая маладымі сюррэалістамі ў выніку гульні кшталту складаньня бурымэ, выклікала ў Далі шалёнае захапленьне.

Ты пакуль што ня труп. Радуючыся гэтаму, ты п'еш усякае віно: і маладое, і, калі хапае грошай, зусім немаладое. Ты п'еш яго й думаеш, што ў крыві ў беларусаў занадта шмат гарэлкі й піва і катастрафічна мала добрага віна. Магчыма, гэтая акалічнасьць уплывае на гістарычны лёс нацыі ня менш за адсутнасьць выйсьця да мора.

Але ключавое слова ў фразе, якую некалі ўпадабаў Далі, не віно, а — труп. Напэўна, таму ты ўспамінаеш, што сярод мараў твайго маленства была й гэтая — стаць патолягаанатамам, як твой сусед, вясёлы габрэй дзядзя Жэня.

Думаць пра той час, калі за цябе возьмецца ўвасабленьне тваей дзіцячай мроі, ня хочацца. Пагатоў, сёньня ты п'еш віно ў Фігейрасе, дзе калісьці тое самае рабіў Далі, а, дацадзіўшы келіх, наведаеш тутэйшы тэатар-музэй мастака, найбуйнейшы, як сьцьвярджае турыстычны праспэкт, сюррэалістычны комплекс у сьвеце.

Паводле тастамэнту Далі, экскурсаводы павінны тут маўчаць, бо сюррэалізм немагчыма вытлумачыць. Як і большасьць тастамэнтаў, гэты не выконваецца: гіды ўзахапы верашчаць на самых розных мовах. Сярод усяго іншага ты можаш пачуць, як аднойчы на гасьціны да Сальвадора Далі набіўся савецкі паэт Яўгені Еўтушэнка, і падчас абеду гаспадар прапанаваў тост за выдатных людзей XX стагодзьдзя, кароткі пералік якіх пачынаўся з Гітлера. Еўтушэнка дэманстратыўна плюнуў у сваё

віно і паставіў яго на стол. Далі ветліва заўважыў, што тост прагучаў і трэба выпіць, пасьля чаго зь мілай усьмешкаю асушыў келіх пераборлівага госьця з СССР.

Адольфа Шыкльгрубэра, якому не пашчасьціла рэалізавацца як мастаку ў клясычным разуменьні гэтага слова, чамусьці колькі разоў згадвае і перакладчыца-«ангелька». Ты не зьдзіўляесься. Ты чытаў «Дзёньнік аднаго генія», і для цябе не навіна, што Далі пісаў, нібыта Адольф Гітлер у ягоным уяўленьні — «ідэал жаноцкасьці», і публічна прызнаваўся, што быў закаханы ў «звабліўую плоць фюрэра». Праўда, ты ня згодны, што такія прызнаньні — сьведчаньне ўласьцівага каталёнцам «ібэрыйскага шаленства». Гэта, натуральна, усяго толькі водгульле гомасэксуальнай арыентацыі Далі, якой ён трымаўся да сустрэчы з Галой.

Ты, цалкам талерантны да якіх заўгодна сэксуальных меншасьцяў, ціхамірна бласкуняесься па залях, дзе бавіў жыцьцё стваральнік «Вялікага мастурбатара» (тут міжволі згадваецца паэт-рэваншыст Славамір Адамовіч), «Успамінаў пра Леніна» (гронка чырвоных ягадаў заўсёды асацыюецца з крывёю) і «Дзяўчынкі, якую разбэшчваюць рогі ўласнай цнатлівасьці» (на памяць прыходзіць адна знаёмая часоў юнацтва, якая пакутліва й ахвярна прагнула спасьцігнуць тонкую розьніцу паміж пэнісам і фаласам).

Дзесьці тут Далі марыў стварыць анкляў свайго сюррэалістычнага сьвету — выпісаць з трапічных шыротаў тысячу слановых чарапоў і шчодрай рукою пасыпаць імі дол. Шкада, што ня ўсе мары геніяў зьдзяйсьняюцца. З іншага боку, шкада было б і слонікаў.

А вось тут, на чатырох- ці пяціспальным ложку-каўчэгу, Далі любіў сваю верную і адданую Галу. Безумоўна, гэта таксама адбывалася геніяльна і сюррэалістычна. Нездарма каля ложка цябе наведваюць дзіўныя фантазіі. Напрыклад, што атрымаецца, калі павесіць птушку? Яна, відавочна, не памрэ, а будзе лётаць і глядзець на цябе зь пятлі чалавечымі вачыма. А дзе птушкі знаходзяць апошні спачын? Можа, недзе існу-

юць птушыныя могілкі — да самага далягляду цягнуцца тысячы большых і зусім маленькіх белых мармуровых надмагільляў з крылатымі скульптурнымі выявамі.

Над птушыным нэкропалем і над тэатрам-музэем Далі нізка вісіць шыпшынавая ягадзіна каталёнскага сонца. У пераходах гусьцее прыцемак, гатовы ўвасобіць любую дрымотную пачвару тваёй падсьвядомасьці.

Ты ўяўляеш, як застаесься ў музэйных залях на ноч, і ад адной гэтае думкі халаднееш. Табе здаецца, што Далі таксама марыў стаць, калі вырасьце, паталягаанатамам, але, адрозна ад тваёй, яго мара ажыцьцявілася, і ягоны тэатар-музэй стаўся найбуйнейшым у сьвеце сюррэалістычным моргам.

### Гала

Калі вы знаходзіцеся ў рамантычным тумане гісторыі пра вечнае каханьне Далі і Галы, вам трэба неадкладна ўцякаць ад экскурсавода Сымоны або выцягваць валідол.

Гала, народжаная ў Казані як Алена Іванаўна Дзяканава, аказваецца, пралічыла ўсё зь бязьлітаснай бізантыйскай хітрасьцю. Зразумеўшы, што зь першага мужа, паэта Поля Элюара, ужо шмат ня выцягнеш, яна падслалася пад пэрспэктыўнага й маладзейшага за яе на дзесяць гадоў гомасэксуаліста Далі. Між тым, на ўсялякі выпадак фармальна засталася жонкай Элюара, а замуж за Сальвадора выйшла толькі пасьля сьмерці Поля ў 1953 годзе.

Сымона, якая толькі й чакала ў тваіх вачах нязгоды з такой трактоўкай, імгненна выцягвае з кішэні сваёй, далікатна кажучы, нелюбові да Галы новы аргумэнт. Мадам Дзяканава змусіла Далі падпісаць тысячу чыстых аркушаў. Нанятыя ёю барсэлёнскія мастакіператваралі аркушы ў геніяльныя (дзякуючы подпісу) творы, а сама муза рупліва кавала таньгу.

Ты пярэчыш Сымоне: муза генія мае права на маленькія чалавечыя слабасьці. Але экскурсаводка гатовая да тваёй атакі. А хто вымагаў ад Далі купіць ёй сярэд-

нявечны замак, у які вы зараз кіруецеся? Замак патрэбны быў гэтай бэстыі выключна дзеля таго, каб пасяліцца асобна й нарэшце цалкам аддацца сваім прыроджаным німфаманскім схільнасьцям. Адзінымі экспэдыцыямі ў рэальнасьць з гэтай бясконцай эратычнай фэерыі з удзелам сьціжмы незьлічоных амарантаў заставаліся для Галы штодзённыя паездкі на кадыляку да каханага Сальвадора — ня дзеля разнастайнасьці пасьля юных целаў, а дзеля вымаганьня грошай на працяг сьвята сваёй не да канца завялай плоці.

Але нават Сымона аддае Галы належнае: ейная тэхналёгія «падаўжэньня маладосьці» дала плён і, магчыма, вартая пераймання. Трэба дацягнуць да сямідзесяці пяці, змусіць мужа купіць вам замак, зачыніцца там з маладымі амарантамі — і гадоў дзесяць-пятнаццаць паўнакроўнага, так бы мовіць, жыцьця вам яшчэ забясьпечаныя. Іншая рэч, што пасьля вашае, выбачайце за банальнасьць, сьмерці муж можа не прыехаць на хаўтуры, абвясьціўшы, як зрабіў Далі, што вы, маўляў, неўміручая. Затое потым ён, адумаўшыся, пахавае вас у шыкоўнай дамавіне з датамі 1894—1982, а ваш замак ператворыць у музэй, аднаму з наведнікаў якога ўспомніцца эпічны пачатак ненадрукаванага твору Алеся Асташонка: «Пад’езд прапах спэрмай».

Ты ад самага дзяцінства з глыбокай сымпатыяй ставісься да німфаманак, якія, бясспрэчна, упрыгожваюць гэтае месцамі шараватае жыцьцё. Ты захапляесься стыльнымі замкавымі інтэр’ерамі й мэбляю, частка якой захавалася ад часоў Рэканкісты. Аднак, вярнуўшыся ў аўтобус, ты з прыкрасьцю ловіш сябе на думцы, што зараз табе больш за ўсё хочацца ня скокнуць у ложак зь юнай дзевай, а залезьці ў гарачую ванну і як сьлед памыцца.

## Андора

Безьліч тваіх суайчыньнікаў жыве і памірае, нават ня ведаючы, што недзе паміж Францыяй і Гішпаніяй яшчэ

ў Сярэднявеччы ўшчамілася й шчасьліва дажыла да нашых дзён маленькая, але ганарлівая й незалежная краіна Андора.

А вось ты меў няшчасьце вычытаць пра ейнае існаваньне ажно ў шостым клясе. Больш за тое, з атлясу «Краіны сьвету» ты даведаўся, што гэты ледзь прыкметны на мапе лапік усходніх Пірэнэяў мае сталіцу пад звабліваю назваю Андора-ля-Вэля.

Твая настаўніца геаграфіі, як аднойчы высьветлілася перад усім клясам, гэтага ня ведала, за што й помсьціла табе да самых выпускных іспытаў: калі ты ведаў урок на «пяць», неахвотна выводзіла чацьверку, а на «траяк» лепей было не адказваць.

О, як у такія моманты не любіў ты недасяжнай для савецкага чалавека Андоры зь яе самай высакагорнай у Эўропе сталіцай! І далёкая краіна, нібы адчуваючы праз палову мацерыка тваю абсалютна незаслужаную нянавісьць, імкнулася залагодзіць цябе, прыходзячы ў снах.

Там, у той Андоры, расьлі мандарынавыя дрэвы, адкуль ты мог дасхочу шчыпаць плады, якія ў рэальным жыцьці бачыў адно ў навагоднім падарунку ў колькасьці дзьвюх штук. Там на карлікавым поплаве пасьвіліся пярэстыя карлікавыя кароўкі, а на беразе рэчкі загарала голая і зусім ня карлікавая Віка Цімафеева з суседняй парты. У траве ўтульна сакаталі конікі, цыкады і нейкія невядомыя табе шкоднікі палёў і лугоў, а на даляглядзе нязлосна паколваў неба сьпічакамі вежаў цацачны замак. І раптам ідылію працінала трывога. Нават у сьне ты ўжо разумеў, што сьвет недасканалы і жорсткі, і што з-за тэатральнага замку ў наступны момант зьявіцца Карабас-Барабас, замест якога над замкавымі мурамі пагрозьліва бліскалі магутныя лінзы акуляраў ненавіснай «вучылкі». Ты прахопліваўся і доўга круціўся з боку на бок, спасьцігаючы ў начной вусьцішы горкую ісьціну зь яшчэ непрачытанай Бібліі — пра вялікі смутак ад вялікай мудрасьці. Хіба мог ты тады ў самых сьмелых лятунках уявіць, што прыйдзе час і ты апынесься за

нейкую сотню кілямэтраў ад краіны тваіх сноў і, сеўшы на аўтобус, праз пару гадзінаў зможаш паквітацца зь ейнай сталіцаю за зьніжаныя адзнакі ды пякучую дзіцячую крыўду.

Ты напружана разважаеш над спосабам сваёй помсты (байкот разрэклямаваных танных андорскіх крамаў? старыя добрыя графіці?..) і ўрэшце спазьняесься на апошні сёньняшні аўтобус.

Мо так яно і лепей. Няхай там, за пераваламі, сакочуць конікі. Няхай загарае голая Віка, якую забіла бэтоннай плітой на будоўлі. Няхай, трошкі мружачыся ад сонца, чытае на лавачцы кніжку даўно асьлеплая геаграфіца, а сьпелыя мандарыны няхай коцяцца па сьцежцы да ейных ног і шыхтуюцца більярдавым трохкутнікам, абуджаючы ўспамін, як яе праблемны вучань, які ведаў шмат лішняга й непатрэбнага, аднаго разу запытаўся, ці бываюць мандарыны чарвівыя…

## Расейцы

Ты едзеш Барсэлёнай у тутэйшым аўтобусе й назіраеш, як разьлезлая цётухна важка падплывае да кіроўцы: «Водитель, выключите, пожалуйста, вентиляцию!» Каталёнец кідае на просьбітку неўразуменны позірк. «Вы что, не понимаете? — шчыра зьдзіўляецца цётухна. — Я вам говорю: выключите вентиляцию!» Ёй і няўцям, што прастора, праўдамі і няпраўдамі захопленая расейскай мовай, няўхільна сьціскаецца, і што каб яе, цётухну, не зразумелі, зусім неабавязкова ехаць на край Эўропы. Дзеці і ўнукі зьмерзлай ад кандыцыянэру пасажыркі ўжо стануць сьведкамі сьцісканьня самой тэрыторыі Расеі.

Пакуль жа яны шчыльнымі радамі адпачываюць на ўзьбярэжжы Коста-Брава. Але зануды-эўрапейцы ўжо цяпер не даюць сваім стрыечным эўразійскім братам і сёстрам канчаткова расслабіцца. Пазаўчора паліцыя злавіла ўмельцаў, якія выходзілі на сувязь з тэлефона-аўтамата з дапамогаю дроціка. Учора на пляжы

з шкадобаю казалі пра Сярогу, якога сыгналізацыя засекла на парозе маркету зь дзьвюма пляшкамі віскі.

А сёньня гэтая публіка расхваляваная наагул жудаснай навіной. Выяўляецца, што ў гатэлі ўжо не пасікаеш, як раней, за мілую душу проста ў басэйн. Трэба не па-савецку вылазіць і цягнуцца ў WC, бо ў ваду дадаюць падступны хімічны рэактыў і вакол сікуна ўмомант разыходзіцца фіялетавае воблака ды яшчэ аўтаматычна пачынае граць музыка Вівальдзі.

«Вы только подумайте, сама Алла Пугачёва… А им всё равно: плати штраф. Это ж тихий ужас!» — «Ну, пидоры! — салідарызуецца з сымпатызанткамі Алы Барысаўны абгарэлы на сонцы бамбіза. — У них точно мозги не в ту сторону крутятся. Скоро и в море не отольёшь! Тоже какая-нибудь х…я заиграет!»

Уплыў расейскай культуры на тваю творчую асобу значна разнастайнейшы, чым табе мроілася. Перад вячэрай ты плаваеш у басэйне на даху гатэлю, і ў тваю галаву дае нырца спакусьлівая думка: можа, хоць тут цывілізацыя яшчэ не сказала свайго апошняга слова? Вядома, лепей, каб пераканацца ў гэтым паспрабаваў хто-небудзь іншы. Але ты плаваеш на самоце і можаш разьлічваць толькі на сябе.

Ты ўважліва глядзіш на ваду і прыслухоўваесься да арганізму. Ніякія рэактывы цябе ні ў якіх месцах не казычуць. Стэрэакалёнак, адкуль пальецца музыка Вівальдзі, нідзе не відаць…

Вырвацца з плыні магутнай культурнай традыцыі братняга народу табе ўдаецца толькі нечалавечым намаганьнем волі, паклікаўшы на дапамогу цэлую галерэю выбітных продкаў і сучасьнікаў.

«Жыве Беларусь! Жыве Беларусь!» — усьцешана галёкаеш ты, бегаючы вакол басэйну пад вечаровым, падзрона фіялетавым каталёнскім небам.

*2002*

# Канцэрт для мілянскіх катоў

*Фрагмэнты адной вандроўкі*

## Амстэрдам

Ты плывеш на катэры па амстэрдамскіх каналах і думаеш пра вострага на вока і розум француcкага маркіза дэ Кюстына. Ягоную кнігу «Расея ў 1839 годзе» ў краіне, якой яна прысьвечаная, шмат разоў забаранялі, канфіскоўвалі або друкавалі зь вялізнымі купюрамі — ажно да нашых дзён, калі нарэшце пабачыў сьвет першы поўны пераклад, што ляжыць у тваім дарожным наплечніку. Ты можаш разгарнуць маркізаву кнігу і прачытаць: «З борту карабля пецярбурскія набярэжныя здаюцца велічнымі і раскошнымі, але, ступіўшы на сушу, вы імгненна выяўляеце, што гэтыя самыя набярэжныя брукаваныя дрэннымі камянямі, няроўнымі, гідкімі, гэткімі ж непрыемнымі для позірку, як і небясьпечнымі для мінакоў і экіпажаў…»

Ты згадваеш, як калісьці сядаў у сваім Полацку на начны суботні аўтобус, каб у нядзелю пабыць у Пецярбургу-Ленінградзе, які мроіўся табе эўрапейскім горадам. Вільню, Рыгу і Талін ты любіў нязьмерна больш, але ўспрымаць іх як «эўрапейцаў» табе замінала іхняя, няхай сабе й істотна дазаваная параўнаўча зь Беларусьсю, але ўсё адно відавочная залежнасьць ад мэтраполіі. А Піцер здаваўся наіўнаму і невыязному табе вольным і вальнадумным горадам-мітам, блукаючы па якім можна было ўяўляць сябе то ў Лёндане, то ў Парыжы, то ў Амстэрдаме.

Але з кожнай новай вандроўкаю ў «горад на Няве» ты пачынаў усё больш сумнявацца. Ты ўжо ня памятаеш, калі з тваёй сьвядомасьці выплыла слова «дэкарацыі», і калі ты ўпершыню падумаў пра схаваныя за імі вусьцішныя двары, задворкі ды памыйкі, дзе нараджаюцца раскольнікавы… Ты зразумеў (хоць і не адразу адважыўся сфармуляваць сваю выснову), што Пецярбург — толькі пародыя на эўрапейскі горад.

Кюстын ведаў гэта за 150 гадоў да цябе: «...антычныя статуі, чые рысы, стыль і аблічча так жудасна супярэчаць тутэйшай глебе, колеру неба і клімату, як і тварам, адзеньню і звычкам тубыльцаў, што статуі гэтыя нагадваюць палонных герояў у стане ворага; будынкі, якія стаяць не на сваім месцы; храмы, немаведама навошта перанесеныя зь вяршыняў грэцкіх гораў у ляпляндзкія балоты, дзе страцілі ўсю веліч... Пецярбург заснаваны і пабудаваны людзьмі, надзеленымі густам да безгустоўнасьці. Бязглузьдзіца, на мой погляд, галоўная адметная рыса гэтага велічэзнага гораду, што нагадвае мне недарэчны павільён, узьведзены пасярод парку; парк гэты, аднак, займае трэцюю частку сьвету...»

У тваёй памяці аднаўляецца апошняя паездка — ужо ў Санкт-Пецярбург — і змрочны нумар у акадэмічным гатэлі, дзе хацелася забіць каго-небудзь буйнейшага за тамтэйшага тлустага прусака на палічцы ў ванным пакоі...

Ты абрываеш ланцужок небясьпечных успамінаў і проста любуесься амстэрдамскімі набярэжнымі — суладнымі галяндцам, клімату, шэраму небу і паўночна-заходняму ветру.

Ты думаеш, што прыехаў сюды з краіны, да якой кніга Астольфа дэ Кюстына ня мае непасрэднага дачыненьня.

Ты ўпэўнены, што ніколі ня будзеш жыць у Расеі, бо лепшае, што яна можа стварыць, — толькі эўрапейскі фасад, за якім усё адно будзе дрымотна вусьцішна варушыцца Азія.

* * *

Калі, трапіўшы за мяжу, вы прагнеце пабачыць, памацаць ды пакаштаваць усе наяўныя тамтэйшыя славутасьці — у вас відавочныя праблемы з самаідэнтыфікацыяй. Зрэшты, гэта твая прыватная і, магчыма, небясспрэчная думка. Але асабіста ты ад нейкага часу паўсюль шукаеш найперш сувязі, сугучнасьці ды паралелі з краінаю, у якой нарадзіўся, ускормлены есьмь па Бозе і да якой чамусьці гэткую вялікую ласку імаеш, што не зьбіраесься пакідаць яе, сваю краіну, іначай, як па этапе.

* * *

Некалі ў Амстэрдаме атабарыўся сьціплы выпускнік Слуцкай кальвінскай гімназіі Ільля Капіевіч, што валодаў дзясяткам эўрапейскіх моваў і ліставаўся з заснавальнікам і першым прэзыдэнтам Бэрлінскай Акадэміі навук Готфрыдам Вільгельмам Ляйбніцам.

І тут у Амстэрдам інкогніта зявіўся расейскі цар Пётар I. Самадзержац быў цьвярозы і хмурны. Па дарозе ледзь ня ў кожным эўрапейскім горадзе ён бачыў кнігарні й бібліятэкі, а ў ягоных уладаньнях за цэлае XVII стагодзьдзе выйшла ўсяго сем сьвецкіх кнігаў, у тым ліку такія захапляльныя, як «Грамота о таможенных пошлинах». Карацей, цару падфартуніла сустрэцца з былым слуцкім гімназістам, які ўклаў ды выдаў для расейцаў цэлы кнігазбор падручнікаў і слоўнікаў, а потым яшчэ й стварыў ім новы, «грамадзянскі» шрыфт, які потым доўга называлі «беларускай азбукай».

Трэба меркаваць, што, выпіваючы з Капіевічам, цар ня раз узгадваў вучонага манаха Сімяона Полацкага, што ажыцьцяўляў агульнае кіраўніцтва над выхаваньнем малога Пеці. Ты таксама не аднойчы ўспамінаў Сімяона і неяк зрабіў яго героем сцэнару гістарычнага кінаэсэ, якое зьнялі і нават паставілі ў праграму Беларускага тэлебачаньня. Ты лёг на канапу, уключыў тэлевізар і падрыхтаваўся папесьціць сваё самалюбства. Аднак замест «твайго» Сімяона на экране паплылі тытры фільму пра возера Байкал.

У апошні момант стужку вырашыў прагледзець адказны таварыш. Узгадаваная за савецкім часам чуйка не падвяла яго: фільм атрымаўся навылёт антыінтэграцыйны і проста шкодніцкі. Досыць ужо таго, што сцэнарыст сам залез у кадар і распавёў, што калі Сімяон адчыніў у Маскве сваю друкарню, зьдзейснілася падзея велізарнай культурнай значнасьці. Колькасьць друкарняў у Расейскай дзяржаве адразу падвоілася: замест адной стала дзьве, у той час, як у нейкай там захудалай Рэчы Паспалітай іх было ажно 134.

Мараль: ня трэба плішчыцца ў кадар і драматызаваць сытуацыю. Хіба нельга было дзеля таго, каб падкрэсьлі-

ць пэўную культурную перавагу дзяржавы тваіх продкаў, выказацца больш мякка? Да прыкладу, памяняць небясьпечныя лічбы месцамі. Хіба не вучыўся ты некалі па падручніку гісторыі, дзе было напісана, што «в Белоруссии дело Ивана Федорова продолжил Франциск Скорина»?

* * *

Тут няма прастытутак і сутэнэраў, а ёсьць цалкам прыстойныя супрацоўніцы і мэнэджары, згуртаваныя ў баявых прафсаюзах. Пакольki «Беларусь — у Эўропу!», некалі, верагодна, так будзе і ў цябе на радзіме. Вуліцы Маркса, Энгельса і Леніна маглі б стаць афіцыйным раёнам «чырвоных ліхтароў», і менскія гіды, як цяпер іхнія амстэрдамскія калегі й каляжанкі, узахапы тлумачылі б, што мінімальны кошт паслугі, якую табе там прапануюць, складае 25 эўра, што аб адзінаццатай у валхвіцаў любові — перапынак на каву, а ў глыбіні адмысловага раёну існуюць установы, дзе ў вітрынах сядзяць не жанчыны на любы густ, а гэткія самыя гатовыя да супрацоўніцтва як з слабым, так і з моцным полам мужчыны-бісэксуалы.

Але ты памятаеш формулу гістарычнага аптымізму: усё будзе добра, толькі ты да гэтага не дажывеш. Адно што пабачыш шчасьлівае жыцьцё пасьля свайго новага ўвасабленьня.

А пакуль тое, ты атрымліваеш першы (праўда, апасродкаваны) досьвед знаёмства з мэнэджарамі ды іх падначаленымі.

Твой вечны «саюзьнік» расейскі турыст, што прыбыў у Амстэрдам з запалярнай Поўначы з адзінай мэтаю — як сьлед адцягнуцца ў «чырвоналіхтарных кварталах», толькі што вярнуўся адтуль з багажом каштоўных ведаў, якімі, з прычыны шырыні расейскае душы, шчодра дзеліцца з слухачамі проста насупраць каралеўскага палацу на пляцы Дам.

Сьпярша ўсё адбывалася акурат паводле абяцанак экскурсавода: 25 эўра, упадабаная супрацоўніца, маленькі ўтульны офіс зь неабходнай «аргтэхнікай»...

Аднак хвіліны гармоніі ды згоды з усім сьветам маюць, на жаль, уласьцівасьць не асабліва здоўжвацца. На

выхадзе ў недасканалую рэчаіснасьць кліента, перапоўненага самымі ўзьнёслымі пачуцьцямі, далікатна спыніў мэнэджар, які агідным будзённым голасам паведаміў, што ён, кліент, вінен установе яшчэ 125 эўра. Уражаны падвышэньнем кошту паслугаў роўна ў шэсьць разоў, палярнік «не понял» і зрабіў роспачную спробу прарвацца на выратавальную вуліцу, але ўмірг вока быў уціснуты ў мяккі зручны фатэль, дзе выслухаў на сваёй спрадвечнай матчынай мове даходлівае тлумачэньне, што 25 эўра — усяго толькі стартавы кошт за той варыянт абслугоўваньня, калі супрацоўніца знаходзіцца ў «пасіўнай паставе». Усё астатняе — паводле прэйскуранту. Палярнік паспрабаваў таргавацца (маўляў, францускай любоўю ніколі не займаўся), у выніку чаго без асаблівага чамусьці задавальненьня прагледзеў увесь відэазапіс свайго знаходжаньня ў эдэме.

* * *

Жыцьцё ў Амстэрдаме, як і ўва ўсёй Галяндыі, некаму падасца сумнаватым. У тым сэнсе, што няма за што змагацца: апроч усіх магчымых традыцыйных правоў, дэмакратыя забясьпечвае тут і ня самыя традыцыйныя.

Напрыклад, на кожным кроку ты можаш зайсьці ў «coffeeshop» і абсалютна легальна курнуць траўкі або гашышу. Знаёмы менскі студэнт апавядаў табе, як пасьля візыту ў такую ўстанову перажыў неверагоднае захапленьне, пачуўшы, што на амстэрдамскай вуліцы ўсе загаварылі па-беларуску.

Калі савецкія хворыя былі самымі здаровымі хворымі ў сьвеце, дык галяндзкія — самыя шчасьлівыя, бо маюць права на эўтаназію.

Галяндзкія гомасэксуалісты і аматаркі лесьбійскага каханьня карыстаюцца правам ня толькі на грамадзянскі шлюб, але і на вянчаньне. Безь вялікіх праблемаў можна зарэгістраваць надзейны і моцны шлюб з самім сабою, як зрабіла нядаўна вядомая мастачка, бязьмежна шчасьлівая, што не застанецца ўдавой.

Табе добра й сьветла думаецца пра шанец рэінкарнавацца ў жанчыну і жыцьцярадасна далучыцца да лесьбіянак або выйсьці замуж за самога сябе.

Ты — ня самы здаровы грамадзянін сваёй краіны, і часам цябе вельмі нават займае праблема эўтаназіі.

Зьлёгку пагойдваючыся разам з столікам у бары-катамаране, ты марыш пра «coffeeshop» на праспэкце Францішка Скарыны ў Менску — каб у хвіліну самоты цалкам афіцыйна зрабіць там пару зацяжак, выйсьці на сталічны брук і пачуць, як усе вакол гавораць па-беларуску.

## Дрэздэн

Сьцяну каралеўскага палацу на Аўгустусштрасэ аздабляе стомэтровы фрыз з размаляванай мэйсэнскай парцаляны: даўжэзным цугам едуць у смугу гісторыі ўсе саксонскія курфюрсты. Сярод іх гербаў твой позірк адразу схоплівае досыць нядбайную выяву «Пагоні».

Курфюрст Аўгуст II Моцны адначасна быў і манархам тваіх продкаў. Адрозна ад папярэдніка, вялікага князя й караля Яна Сабескага, што на чале ліцьвінскіх і польскіх палкоў разьбіў туркаў пад Венай, Аўгуст выславіўся тым, што, уцягнуўшы Вялікае Княства й Карону ў Паўночную вайну на баку Расеі, прайграў усё, што мог, і нават мусіў адмовіцца ад кароны.

На трон Аўгуста вярнула перамога расейцаў пад Палтавай. Удзячны саксонец разьлічваўся ўсё жыцьцё. Ад таго часу расейскія войскі ўжо фактычна не пакідалі тваёй краіны. Надавалі, як пісаў адзін іхні генэрал, «соответствующее направление мыслям здешних жителей». І, трэба прызнаць, — надалі.

Выдатна разумеючы сваё месца, Аўгуст II засяродзіўся на клопатах, якія ўрэшце й прынесьлі яго каралеўскае мосьці ганаровае найменьне Моцны. Толькі паводле дакумэнтаваных зьвестак, ён меў 365 дзяцей. Названую лічбу трэба памножыць, прынамсі, на дзесяць.

Цікава было б зьвесьці Аўгуста з пацыентам твайго знаёмага лекара. Гэтага пацыента хтосьці пераканаў,

што мужчына здольны зьдзейсьніць ня болей за тры тысячы палавых актаў, падзеленых на трыццаць гадоў, і што пасьля перасягненьня крытычнага паказчыка, не ўважаючы нават на самую цудоўную эрэкцыю, трэба неадкладна ісьці ў завязку, інакш у арганізьме пачнуцца незваротныя згубныя зьмены. Напэўна, бяздарны палітык і палкаводзец, але выбітны каханак Аўгуст здолеў бы пахіснуць дакладную матэматычную канструкцыю твайго сучасьніка. Нездарма жыхары саксонскае сталіцы кажуць, што сэрца шчадралюбнага манарха, якое знайшло апошні прыстанак у дрэздэнскай катэдры, дагэтуль не прапускае ніводнай прывабнай турысткі або верніцы, пачынаючы калаціцца ў пахавальнай срэбнай урне.

Тваё ўласнае, жорстае й непрыхільнае да Аўгуста II сэрца раптам на імгненьне мякчэе, і ты, зладзеявата азірнуўшыся на бакі, пасылаеш ягонаму, закансэрваванаму, тры па-мужчынску салідарныя ўдары.

* * *

Захапляючыся калекцыяй Дрэздэнскай галерэі, не забудзьце ўспомніць: ці ня большая частка ейных шэдэўраў набытая за грошы вашых продкаў у трыццацігадовае ўладараньне ў Рэчы Паспалітай Аўгуста III, абсалютна законнага сына Аўгуста Моцнага. Ну, хоць засіліся, не шанцавала тваёй радзіме з манархамі цэлае XVIII стагодзьдзе. Адзін толькі і ўмеў, што псаваць ліцьвінскіх дзевак. Другі ня мог зьвязаць на мове падданых і пяці слоў, затое па ўсёй Эўропе купляў карціны за сабраныя з тваіх прадзедаў падаткі. За часам гэтых двух Аўгустаў колькасць твораў у Дрэздэнскай галярэі павялічылася з 500 да 5000. У іх лік трапіў і самы дарагі набытак — Сікстынская мадонна Рафаэля. (На добры лад, усім нашчадкам жыхароў Вялікага Княства Літоўскага трэба зрабіць уваход у галерэю дармавым.) Трэці, Станіслаў Аўгуст, немцам, здаецца, ня быў, і па-беларуску ўмеў гаварыць лепей за каторага народнага пісьменьніка, ды вось наогул стаў апошнім каралём і вялікім князем…

* * *

Побач з выявамі Аўгустаў катуе скрыпку хлапец зь менскага фальклёрнага гурту. Вы недзе сустракаліся, і ён таксама, відавочна, прызнаў цябе. Найлепшае, што вы можаце зрабіць у гэтай сытуацыі: ты — абыякава, як і большасьць мінакоў, прайсьці паўз ягоны зацухмолены брыль, ён — удзячна «ня ўбачыць» цябе.

З сваіх коней спачувальна глядзяць на гэтую псыхалягічную сцэнку абодва Аўгусты. Такое ўражаньне, што яны нейкім чынам чыталі філязофскія трактаты Гэгеля і памятаюць, як у аналізе ўсясьветнай гісторыі той разабраўся з усімі славянамі ў некалькіх сказах: «Гэтыя народы сапраўды засноўвалі царствы і вялі актыўныя войны… Часам яны бралі ўдзел у змаганьні як авангард, што мае прамежкавае становішча паміж хрысьціянскай Эўропай і нехрысьціянскай Азіяй. Палякі нават вызвалілі Вену ад туркаў… Тым ня менш, усе славянскія народы выключаюцца з нашага разгляду, бо дагэтуль яны не фігуравалі як незалежны элемэнт гістарычных этапаў, якія прайшоў Розум».

«Не фігуравалі, і ўсё тут», — падміргваюць табе Аўгусты, прышпорваючы коней. Паспрабуйце, маўляў, пафігураваць цяпер, паглядзім, што атрымаецца.

## Вэнэцыя

Джакома Казанова ў параўнаньні з Гэгелем бачыў сьвет, безумоўна, шырэй і славянаў (асабліва славянак) з сфэры свайго разгляду не выключаў.

Калісьці ты пацікавіўся афіцыйным сьпісам каханак славутага італійца і быў уражаны іхнай зусім не астранамічнай колькасьцю (Аўгуст Моцны толькі б паблажліва хмыкнуў). Усяго — уявіце сабе — 132 асобы, пачынаючы ад адзінаццацігадовых малалетак да жанчын зусім няпэўнага веку.

Маэстра быў перакананы патрыёт: 47 італіек. Ужо зь вялікім адрывам на другім месцы ідуць 19 дачок Францыі, за імі — 10 швайцарак і 8 немак. У канцы сьпісу

своеасаблівай скорагаворкай мільгаюць пара грачанак, галяндка, партугалка, «афрыканка». Славянкі рэпрэзэнтаваныя адной расейкай і дзьвюма полькамі (яшчэ трэба разабрацца, ці не ліцьвінкамі).

Чамусьці няма чэшак. А між тым, свае апошнія трынаццаць гадоў Казанова пражыў у недалёкім ад Дрэздэну Дуксе, цяперашнім чэскім Духцаве, дзе ў старадаўнім замку Вальдштайнаў выконваў ролю бібліятэкара і працаваў над мэмуарамі.

Зласьліўцы пагаворвалі, быццам мэмуары былі для састарэлага авантурніка кампэнсацыяй згаслага лібіда. Ты ня згодны: гэты выдатны твор свайго часу ня мог быць напісаны безь непасрэднага дабратворнага ўплыву жанчын.

Але дзе ў такім разе чэшкі? Відаць, аддаючыся замкаваму бібліятэкару-замежцу ў спальнях, альтанках і стажках сьвежага сена, яны шапталі нешта па-нямецку, на мове гаспадароў, таму і трапілі ў іншую графу, ускосна пацьвярджаючы высновы Гэгеля…

Усё гэта вярзецца ў тваёй галаве насупраць аздобленай арабэскамі цьвілі турмы, дзе выбітны знаўца хараства і ўсяго астатняга, чым надзеленыя жанчыны, адбываў зьняволеньне і адкуль зьбег папаўняць сьпіс сваіх шчасьлівых «ахвяраў». Шчасьлівых, бо калі Дон Жуан быў змрочным геніем спакушэньня, які пакідаў за сабой сьлёзы ды няшчасьці, Казанову лёс надзяліў сьветлым геніем легкадумнага, п’янкога, карнавальнага каханьня, якое дарыла ягоным юным і немаладым амаранткам толькі радасьць. Прынамсі, так ты думаеш каля старадаўняй вэнэцыянскай турмы.

Ты не Казанова (ні зь вялікай, ні з малой літары), але табе, як і яму, аднойчы таксама было дадзена разуменьне, што жанчына — ня толькі таямніца, радасьць і асалода, але і нешта непараўнальна вышэйшае. Спасьціжэньне сябе самога. Глыток з келіху неўміручасьці. Дотык да Вечнасьці.

У кожнага — свае сьвятыя мясьціны. Некалі ты зьдзейсьніш паломніцтва ў Духцаў.

* * *

Вэнэцыя выклікае ў памяці ня самае прыемнае для беларускага самалюбства: малы Францішак Скарына яшчэ сікаўся ў штонікі, а ў гэтым горадзе варштаты ўжо працавіта стукацелі ў 150 друкарнях.

Нацыянальную раўнавагу вяртае адно шкляначка старой добрай лямбрускі.

Пасьля другой шклянкі ты ўзгадваеш, што вашая друкаваная Біблія выйшла раней за польскую і літоўскую. Трэцюю п'еш за тое, што беларуская Кніга кнігаў пабачыла сьвет значна раней за расейскую і ўкраінскую. Чацьвертая шклянка жыватворнага пітва ўздымаецца за ваш прыярытэт перад баўгарскімі ды сэрбскімі перакладчыкамі і друкарамі. Пятая — за тое, што беларуская Біблія апярэдзіла францускую ды зьявілася на восем гадоў раней, чым ангельская.

Шостую порцыю насычанага сонечнай лагодаю віна ты выпіваеш не за Скарыну, а за «скарыназнаўцу» — полацкага праваслаўнага сьвятара айца Міхаіла Ўляхіна. Праўдзівей, за тое, каб хоць у райскіх кушчах Госпад шапянуў яму, што калі чалавек цэлае жыцьцё пісаў сваё імя як Міхаіл, значыцца, ён Міхаіл, а калі пісьмова менаваў сябе Францішкам, дык ён і ёсьць Францішак.

Сёмая шклянка канчаткова пераносіць цябе ў царства нябеснае, і ты ўяўляеш, як Скарына шпацыруе сярод райскіх размарынаў пад руку зь Лютарам ці Парацэльсам і тут на даляглядзе ўзьнікае айцец Міхаіл, які здалёк, па-зямляцку нязмушана пачынае крычаць: «Запомні, схізматык! Цябе звалі Георгій, а па-нашаму Жора!» Гуманіст, ня зьвёўшы і вокам, прамінае крыкуна, але з эдэмскага хмызьняку раптам выныривае менскі дасьледнік Уладзімер Агіевіч і, спраўджаючы сваю «тэорыю», гукае: «Георгі Лукіч! Разрашыце абраціцца!»

Адно тут ты ўспамінаеш, што сёмую чару любамудрыя продкі нездарма называлі «богагнявіцельнай».

* * *

Ты, бясспрэчна, не царкоўны вернік. Сумовіцца з Богам ты можаш за пісьмовым сталом або, напрыклад, у чаўне сярод белых лілеяў на тваім улюбёным полацкім возеры Люхаве.

Але гэтаксама бясспрэчна й тое, што ты — грэка-каталік. Ня толькі паводле атрыманага дзесяць гадоў таму багаславеньня, але і па генах.

Вось чаму табе так утульна ў цалкам падпарадкаваным грэцкай плянімэтрыі каталіцкім саборы сьвятога Марка. Ягоныя купалы, абразы і мазаікі дыхаюць Бізантыяй, а алтар Пала д'Ора адгукаецца ў памяці іканастасам Смаленскага сабору маскоўскага Новадзявочага манастыра, народжаным геніем беларускіх майстроў.

Сабор сьвятога Марка — сучасьнік твайго Полацку. Іх будавалі, калі падзелу хрысьціянства на праваслаўе і каталіцтва яшчэ не было. Яны будуць стаяць і тады, калі гэтага падзелу мо ўжо ня будзе і ўсе хрысьціяне стануць, як і ты, у нейкім сэнсе грэка-каталікамі.

* * *

Пра пляц сьвятога Марка ўсё напісана ў турыстычных даведніках. Апрача аднаго: у даведнікі пакуль не пасьпелі трапіць жывыя статуі — усе гэтыя напалеоны, афрадыты ды ўсамы бэн ладэны, якія гадзінамі незварушна стаяць на драўляных ці плястыкавых пастамэнтах.

Тым часам у навакольлі гучаць эстэтычныя ацэнкі на розных мовах. «Глянь, Витёк, нормальный станок у тёлки», — ацэньвае замежны турыст палепшаны, бо з цэлымі рукамі, варыянт Вэнэры Мілёскай. Тая захоўвае поўную нерухомасьць, з чаго вынікае, што расейская мова для яе — суцэльная тарабаршчына.

А вось пра беларускую мову і Мону Лізу гэтага ня скажаш. Пачуўшы твой зварот да спадарожніка, Мона ўвачавідкі здрыганаецца. Ейнай рэакцыі ня могуць схаваць ні маска, ні рэнэсансавы строй. Ты не сумняесься, што на задрапаваным сінім ядвабам пастамэнце — твая су-

айчыньніца, якая ў дзяцінстве купалася ў Сьвіслачы ці ў Дзьвіне, а магчыма, нават зазірала ў твае кніжкі.

Першае, што прыходзіць у галаў — прапанаваць ёй сысьці на брук і зашыцца разам з табой у якую-небудзь піццэрыю. Але дзе гарантыя, што тым самым ты ня змусіш яе парушыць кантракт? А раптам вунь той сыньёр з бацькоўскім тварам мафіёзі, што сьціпла трымаецца ў засені сярэднявечнай калёны, — мэнэджар усяго гэтага парку жывой скульптуры? Ды ня трэба й мэнэджара: настучыць начальству станістая Вэнэра ці які-небудзь Напалеон. Тваёй Моне Лізе давядзецца класьціся ў ложак з потным мафіёзі. Што прынцыпова іншае ты можаш прапанаваць?

Як там пісаў Рыгор Іванавіч Барадулін: *Спадарыня, дазвольце запытацца, ці можна ў вас да раніцы застацца?*

Ты шукаеш парады ў ейных вачах, якія зусім нядаўна на момант ажывілі маску, але іхні позірк ужо праходзіць праз цябе лёгка, як праз вакно.

Увечары, у гатэлі, ты будзеш дакараць сябе, што спудлаваў. Мог, напрыклад, сесьці на пляцы за рэстаранны столік і дачакацца заканчэньня ейнага працоўнага дня. Мог пакінуць цыдулку, што будзеш чакаць яе ўвечары каля сабору сьвятога Марка. Мог…

Адзінае, што ты зрабіў абсалютна правільна, — нічога ня кінуў ёй у зялёны капялюшык.

* * *

Калі тургрупа, да якой ты прыбіўся, уладкавалася ў гандоле, ейны «капітан», паліглёт з круцельскімі вачыма, пытаецца: «Русские?»

«Русские!» «Русские!» — радасна адгукаюцца «рускія» зь Менску, Гомелю й Берасьця. Але адна спадарыня ня хоча быць «рускай» і тлумачыць гандальеру, што ў яе і ўсіх астатніх пасажыраў ёсьць свая краіна й свая культура.

У пацьверджаньне, калі гандола заглыбляецца ў сеціва каналаў, спадарыня нечакана чыста і амаль прафэсійна сьпявае пра вярбу, якая ў руччы расла, а як

вырасла — вада зьнясла. Позіркі бальшыні пасажыраў (адрозна ад гандальеравага) у лепшым разе абыякавыя. Сваёй краіны і сваёй культуры ім мець ня хочацца. Хочацца быць «нармальнымі». Нейкая нармальная бабёнка прапануе сяброўкам зацягнуць што-небудзь нармальнае, і ты ўжо настройваесься на праслухоўваньне нечага накшталт «Ой, мароз-мароз»... Ды толькі нічога нармальнага чамусьці не знаходзіцца. Апошняе слова застаецца за спадарыняй, якая пяе «Зорку Вэнэру».

Гандальер кажа: «Беларусь!» і ўзьнімае вялікі палец угору. Магчыма, ён пачуў гэтую назву ўпершыню.

* * *

У параднай залі Палацу дожаў можна ставіць вароты і гуляць у футбол.

Падобнае жаданьне некалі апанавала цябе ў кабінэце начальніка ўсяго роднага КГБ. Табе заманулася зазірнуць у справу «Саюзу вызваленьня Беларусі», а потым, калі пашанцуе, то і знайсьці дакумэнты пра твайго расстралянага ў 1933 годзе дзеда Максіма.

Быў пачатак 1990-х, і ты здолеў затачыцца на прыём да кіраўніка ўсемагутнай канторы, якая клапатліва апекавалася табою ў студэнцтве, абяцаючы (сярод іншых выгодаў) вычысьціць цябе з унівэрсытэту ды паслаць у салдаты куды-небудзь пад Магадан.

Гаспадар кабінэту спаткаў цябе як дарагога госьця, што засьведчыла шчырая настаўніцкая гутарка на тэму «Янка Купала і Паўліна Мядзёлка». Ты даведаўся, што газэты не зманілі: Мядзёлка сапраўды спраўна давала ў органы інфармацыю на паэта. Але ж яна яго шчыра кахала. А калі ўявіць, што опэру пісаў бы нехта іншы, бяз кроплі каханьня... Гэта ж суцэльны жах!

Пакуль ты ператраўляў «уводную», таварыш начальнік выклікаў палкоўніка з прыгожым прозьвішчам (або кансьпірацыйнай мянушкаю) Верас, які адказваў за іхнюю чытальную залю. Як высьветлілася, заля часова на рамонце, аднак праз тыдзень адчыніцца. Палкоўнік даў табе нумар тэлефону, які ты набіраў колькі месяцаў,

пакуль не датумкаў, што для некаторых чытачоў некаторыя чытальныя залі рамантуюцца вечна.

Палац дожаў, як некалі кабінэт у менскім доме пад бэльвэдэрам, ты пакідаеш у абладзе займальнай думкі: што ўсё ж лепей — калі ў органы пра тваю пэрсону піша той, хто цябе аддана кахае, ці той, хто цябе люта ненавідзіць?

## Мілян

Ты з маленства любіш катоў.

Апрача магчымых трансцэндэнтальных, у цябе ёсьць і цалкам зямныя падставы для такой любові. З гэтымі вернымі чацьвераногімі сябрамі чалавека зьвязаны адзін зь першых успамінаў твайго жыцьця, які меў усе шанцы стаць апошнім.

Ты ў мамінай роднай вёсцы. Бабуля паклала цябе на печ і пайшла ўходжвацца. Бабуля нездарма называе цябе покрутнем: у сьне ты зьбіваеш посьцілку і апынаесься на голай чарэні. Тая — гарачая, і ты, шукаючы, дзе халадней, падкочваесься ўсё бліжэй да краю, каб урэшце натыкнуцца на якуюсьці ўтульна-мяккую, але ўадначас і ўпорыста-пругкую перашкоду. Яна не пускае цябе ў выратавальны халадок, а калі ты спрабуеш у сьне скінуць яе з свайго маршруту, гэтая перашкода робіць табе балюча. Ты прачынаесься й бачыш у сябе пад бокам старую бабуліну котку Дуню, якая дзеля пэўнасьці яшчэ раз драпае цябе лапай і ашчадна адсоўвае ад стромы вышынёю на пяць белых кафляў (гэта два твае росты). Унізе — голы, калі не лічыць алюміневага паўміска з сольлю, цагляны прыпечак. Дуня вартуе цябе, пакуль у хату не вяртаецца бабуля.

Ад таго часу каты ў тваім жыцьці заўсёды займаюць значнае месца, выяўляючы сваю прысутнасьць у самых розных формах. Да прыкладу, у цябе няма мастацкіх здольнасьцяў, але катоў ты малюеш амаль як мастак-анімаліст — у тым ліку і на ўроках маляваньня, калі на стале ў настаўніка стаяць праграмныя вазы й піраміды.

Настаўнік прыехаў да вас з Дагестану. Зноў убачыўшы ў тваім альбоме вусатае й хвастатае стварэньне, ён, ня маючы больш змогі ўтаймоўваць каўкаскі тэмпэрамэнт, хапае цябе за шкірку і, як кацяня, нясе ў калідор, а адтуль у прыбіральню, дзе колькі разоў б'е рабром далоні. Ад болю, а перадусім ад страху, ты сядаеш на сьлізкую мокрую падлогу, ад якой твае штонікі імгненна прамакаюць. Агіда надае табе сілы і мужнасьці: ты ўпіваесься зубамі ў валасатую руку і зь пякучай асалодаю чуеш лаянку на незразумелай мове...

Каб усё гэта выразна, ажно да прыліву адрэналіну, аднавілася ў памяці, табе трэба было прыехаць у Мілян, уладкавацца пры фантане каля замку роду Сфорцаў ды прылашчыць папялістага тутэйшага ката. Ён, пухнаты і сонны ад сытага эўрапейскага жыцьця, зьявіўся з-за разложыстага плятану й адразу важка, але ўвачавідкі прыязна ўскочыў табе на калені: пэўна, атрымаў праз іхні кацiны тэлеграф паведамленьне, што ты — свой хлопец, ці, дакладней, свой кот.

Калі-небудзь ты напішаш пра стасункі з катамі асобны натхнёны твор. А цяпер табе досыць цёплага, як выгінастая шэрая сьпінка ў цябе пад даланёю, усьведамленьня, што ты любіш катоў і яны адказваюць табе ўзаемнасьцю нават у Міляне.

* * *

Замак Сфорцаў непазьбежна прыводзіць на ўспамін вялікую княгіню й каралеву тваіх продкаў Бону — выбітную каханку, надзеленую тонкім мастацкім густам мэцэнатку, жорсткую сьвякруху, якая цалкам у традыцыях сваёй фаміліі спрычынілася да зьяўленьня ў Нясьвіжы несупакоенай душы нялюбай нявесткі Барбары...

Але адчуць «свойскасьць» родавага гнязда Сфорцаў табе замінае ягонае падабенства зь нечым, далікатна кажучы, непрыемным. Як неўзабаве выяўляецца, нічога недарэчнага ў асацыяцыі з крамлёўскімі вежамі-катоўнямі й пагрозьліва-зубчастымі мурамі няма. У негустым прыцемку цэнтральную крывава-тэракотавую

вежу Сфорцавага замку і бяз келіху к’янці нескладана зблытаць зь ейнымі крамлёўскімі сёстрамі. Цікава, што ўплывала на запрашэньне ў Маскву тутэйшага дойліда? Адно цыкляпічныя памеры замку? А мо тонкі разьлік перанесьці ў сэрца Масковіі разам з архітэктурай і ягоную змрочную застрашлівую аўру?

* * *

У мілянскім Домскім саборы цябе найглыбей уразіць не палымяная готыка, не партал і кантрафорсы, не Мадонна, узьнесеная ў неба на самым высокім сьпічаку, а — статуя сьвятога Барталямэя, зь якога, як вядома, зьдзерлі скуру. Менавіта гэты ключавы факт жыцьцяпісу хрысьціянскага пакутніка і натхніў некалі скульптара Марка д’Агратэ. Сьвяты паўстае перад вамі пасьля экзэкуцыі, прычым аўтар дэманструе настолькі дасканалае веданьне анатоміі, што міжволі задумваесься пра ягоную нялёгкую працу на падрыхтоўчым этапе.

Статуя прастаяла роўна дзесяць гадоў, як французская каралева Кацярына з італьянскага роду Мэдычы (магчыма, натхніўшыся творам д’Агратэ) разам з герцагамі Гізамі зладзіла ў Парыжы вясёленькую ночку якраз напярэдадні дня сьвятога Барталямэя. Ты памятаеш, што да ейнае падрыхтоўкі прычыніўся і Гэнрык Валюа, што (даўшы ўрачыстае абяцаньне ні ў Вільні, ні ў Кракаве такіх маштабных мерапрыемстваў не арганізоўваць) праз год быў абраны гаспадаром айчыны тваіх продкаў, але неўзабаве, здаецца, так і не патрапіўшы наведаць сталіцу Княства, уначы падмазаў пяты і ўзяў курс на Парыж, дзе памёр Карл IX. На французскім троне Гэнрык беспардонна карыстаўся тытулам вялікага князя літоўскага і караля польскага, хоць твае прадзеды ўжо мелі законных манархаў — Сьцяпана Батуру, а потым і Жыгімонта Вазу. Яны, дарма што таксама былі іншаземцы, нікуды па начах не ўцякалі, што неабвержна сьведчыць пра арганічную ўлучанасьць Вялікага Княства ў агульнаэўрапейскі цывілізацыйны кантэкст (як па-свойму сьведчыць і тое, што пазьней, падчас аблогі Парыжу недарэзанымі гуге-

нотамі, Гэнрыка Валюа выправіў у апошняе падарожжа штылет дамініканскага манаха).

* * *

Разглядаючы строгі нэаклясычны фасад тэатру «Ля Скала», ты малюеш сваёй фантазіяй той вечар 1905 году, калі тут давалі прэм'еру Манюшкавай «Галькі».

Конныя экіпажы, рэдкія таксаматоры, польскія эмігранты і польская мова, якая падабалася Гэнры Мілеру, выклікаючы ў ягоным уяўленьні пяшчотна завостраную траву, густа населеную шэршнямі й вужакамі…

Манюшка ўжо адсутнічаў на гэтым сьвеце трыццаць тры гады — столькі сама, як і перакладчык лібрэта на італійскую мову сьпявак і танцмайстар Банольдзі.

Шчыра кажучы, табе ўжо набілі аскоміну зьвесткі пра тых, каго Беларусь дала (аддала) іншым культурам. Тваё здаровае нацыянальнае пачуцьцё прагне ведаць іншае: каго сьвет даў Беларусі? Ці, дакладней, каго Літва-Беларусь уцягнула ў магічнае поле сваёй культуры.

Цябе цікавіць Джузэпэ Ахіл Эльміра Банольдзі. Барсэлёнец паводле нараджэньня. Італіец па крыві. Ліцьвін па духу. Паўстанец 1863 году. Сябра Часовага ўраду Беларусі й Літвы. Палітэмігрант. Уладальнік моднага парыскага фотаатэльє. Улюбёнец жанчын. Камандзір эскадрону ў вулічных баталіях часоў Парыскай камуны, які ў перапынках паміж баямі сьпяваў сваім жаўнерам беларускія песьні, а цяжка паранены, у перадсьмяротным трызьненьні размаўляў з Каліноўскім…

Таксама ты хочаш убачыць на ўваходзе ў «Ля Скалу» тэнара з эўрапейскім імем Міхала Забэйду-Суміцкага, — яшчэ да Прагі, яшчэ не закаханага ў Ларысу Геніюш, якая двойчы зьлёгку прыадкрыла табе тую таямніцу, можа, па-жаночы адчуваючы, што ты таксама (вядома, з разуменьнем усёй пралеглай паміж вамі бездані гадоў і жыцьцёвага досьведу) па-свойму закаханы ў яе. Так, яна загаварвала з табой пра Забэйду два разы: аднойчы ліпеньскім адвячоркам у Зэльве, а потым, калі памірала ў гарадзенскай лякарні і перад тваім прыходам шпурну-

ла ў Яўгенію Янішчыц пушку цукерак, якую тая прывезла з сэсіі ААН...

Але ты перакананы, што некаторыя таямніцы павінны ўпрыгожваць жыцьцё менавіта як таямніцы.

У цябе няма ні цудоўнага голасу Банольдзі, ні яркага лірычнага тэнару Забэйды. Ты наогул ня маеш вакальных здольнасьцяў нават для самадзейнасьці. Але ў ваколіцах «Ля Скалы» ты таксама манісься засьпяваць. Ты знаходзіш вольную лавачку і сам сабе ціхутка заводзіш улюбёную «Александрыну».

«А-лек-сан-дры-на...» Савецкая рэчаіснасьць і наскрозь зрусіфікаваны Полацак твайго дзяцінства гадоў да шаснаццаці пасьпяхова хавалі ад цябе тое, што ты — беларус. Але, калі ты вучыўся ў дзясятым клясе, у твой горад прыехалі «Песьняры» (тады яшчэ «Лявоны»). Ты ўжо слухаў «Бітлоў» і «Ролінгаў» і перад канцэртам быў настроены даволі скептычна. Апрача таго, і сам канцэрт апынуўся пад пагрозаю. Бацька, які працаваў пракурорам і быў у курсе гарадзкіх навінаў, уручыўшы табе запрашальнік, расказаў, што сакратар гаркаму партыі па ідэалёгіі, убачыўшы «Лявонаў», дакладней, іхнія «бітлоўскія» фрызуры, выставіў ультыматум: або «дзікабразы» ідуць у цырульню, або канцэрт адмяняецца.

На тваё велізарнае шчасьце, Мулявін выбраў цырульню. Пасьля канцэрту ты некалькі тыдняў напяваў «Александрыну», адчуваючы, як у табе прачынаецца зусім іншая істота... Каб ты не баяўся высокіх слоў, ты мог бы сказаць, што «Песьняры» далучылі цябе да нацыянальнага космасу.

Ты сьпяваеш «Александрыну», і зь мяккага сутоньня на твой бездапаможны голас выходзяць слухачы: на смарагдавым газоне зьяўляецца паважны руды кот, а ўсьлед за ім — белы з чорным хвастом. Яны сядаюць насупраць і сьвецяць табе аднолькавымі лімонавымі вачыма.

Ня выключана, што ў ранейшым жыцьці яны былі беларусамі.

*2003*

# Крыжы Монтэнэгра

### Вужгарад

Зноў згадваецца, што нехта зь філёзафаў заўважыў: вандраваньні падмалоджваюць рэчы, але старацць стаўленьне да сябе.

З апошнім ты хацеў бы паспрачацца. А рэчы ў гэтай сэнтэнцыі замяніў бы на ўспаміны, якія любое тваё падарожжа вызваляе сваімі вятрамі ад попелу забыцьця, каб зацягнуць цябе ў вір, дзе вастрэюць адчуваньні, бліскаюць новыя сюжэты і мроіцца, што паваротка дарогі можа стацца пераменаю самога лёсу…

Не пасьпявае аўтобус спыніцца на першым вужгарадзкім сьвятлафоры, як ты апынаесься ў зацішнай кавярні зь відам на замак. Яго амаль затуляюць крутыя плечы таксіста, зь якім цябе, маладога беларускага літаратара, знаёмяць, захоўваючы ўсе правілы канспірацыі. Бо насамрэч гэта не таксіст, а біскуп забаронены і загнанай у падпольле Ўкраінскай грэка-каталіцкай царквы.

«Таксіст» настолькі таленавіта ўжыўся ў афіцыйную ролю, што табе не адразу ўдаецца настроіцца на ўспрыманьне яго праўдзівае іпастасі.

Дапамагае маладое віно, што ўладыка п’е зь ня меншай за цябе асалодай і ўсё больш нагадвае рэдактара тваёй першай, яшчэ нявыдадзенай тады кніжкі, Міхася Стральцова, які ўжо ня п’е нічога мацнейшага за колу, але зь якім гэтаксама цікава маўчаць, адчуваючы ўдзячнасьць за даверану якраз табе мужчынскую таямніцу, магчыма, апошнюю ў ягоным жыцьці, дзе лік ідзе ўжо на месяцы…

### Берагава

На скрыжаваньні вока схоплівае паказальнік на Берагава. Ты заплюшчваеш вочы і праз хвілю ідзеш стара-

даўнімі вулачкамі закарпацкага гарадка, што насамрэч завецца Бэрэгсас, бо ён не ўкраінскі, а спрэс вугорскі: абліччам і моваю жыхароў, архітэктурай, шыльдамі, утульным — на чалавечы рост — помнікам Шандару Пэтэфі на маленькім пляцы, дзе калісьці спыняўся аўтар «Нацыянальнай песьні» і «Віцязя Янаша».

Гадоў дваццаць таму цябе зноў і зноў прыводзілі сюды твае авантурныя шляхі — ня так дзеля маладога віна, садавіны і клімату, якія табе рэкамэндавалі дактары, як дзеля выразнай несавецкасьці гэтае багаслвёнай мясьціны, што заўсёды надавала фізычнай і душэўнай трывушчасьці да наступнага прыезду.

Паблізу пляцыку з помнікам Пэтэфі ў добрыя старыя часы Габсбургаў і пазьней знаходзілася вельмі прыстойная, паводле водгукаў яшчэ жывых наведнікаў, установа з густоўным чырвоным ліхтаром на ўваходзе, якую язык не паварочваўся назваць ні выляжальняй, ні бардэлем, ні нават публічным домам. У часы твайго юнацтва там, на жаль, месьціўся ўжо райаддзел міліцыі, дзе працаваў твой гаспадар Шандар, або Шоні бачы — дзядзька Шоні, прыгарадны дом якога быў канцавым пунктам закарпацкіх вандровак.

Тады яшчэ жыў Шандараў бацька, Шоні-старэйшы, які сустрэў цябе варожа, а потым палюбіў за тое, што ты, як і ён, не гаварыў па-расейску, але пры тым неяк разумеў ягоную ўкраінска-вугорскую трасянку. Ён загадаў сыну нічога для цябе не шкадаваць, дазволіўшы табе самому спускацца ў віньніцу.

Шоні-бацька таксама нагадваў Міхася Стральцова, бо любіў шматмерна й шматзначна маўчаць, выцадзіўшы перад гэтым шклянку віна, праз якую спачатку абавязкова трэба было зірнуць на сонца, што радасна купалася ў рубінавым хмелі. Віно рабіла Шоневы вочы яснымі і празрыстымі, і ён углядаўся ў мінулае, калі пад парослай шыпшынаю і ажынамі гарой сустракаўся з сваёй Ёланкай, калі, рыхтуючыся да вясельля, употай ад бацькоў і каханай наведваў з мэтаю набыцьця неабходнага досьведу дом з чырвоным ліхтаром, а потым

быў прызваны ў вугорскую армію й гераічна ваяваў кулямётчыкам пад Сталінградам, за што атрымаў два мэдалі.

Ты пазіраў на ласкавае восеньскае сонца праз сваю шклянку і ўспамінаў свайго бацьку, які таксама атрымаў за Сталінград два баявыя мэдалі, і думаў, што каб ён дажыў да гэтых дзён, дык не адмовіўся б выпіць з Шоні за тое, што яны не застрэлілі адзін аднаго там, на чужых для абодвух волскіх берагах, а тады з смакам закусіў бы вэнджаным вугорскім салам з папрыкай.

Шоні-малодшы раз-пораз прыносіў зь віньніцы запацелую карафку, а ты аддаваўся марам. Пра свае будучыя кнігі ды іхніх чытачоў і асабліва чытачак... Пра сустрэчу з Уладзімерам Караткевічам, які нядаўна прыслаў табе ліст, адгукнуўшыся на тваё другое ў жыцьці надрукаванае апавяданьне, па якім ты назавеш першы зборнік. Пра тое, што калі-небудзь цябе ўсё ж выпусьцяць за межы СССР і ты зьезьдзіш у Кракаў, а можа, і ў зусім недалёкі адсюль Будапэшт.

Тым часам за Цісаю сядала сонца, і прыходзіў глухаваты сусед Пішта, яшчэ адзін кулямётчык і герой Сталінградзкай бітвы, які ўпарта меў цябе за расейца і ніколі не сказаў табе ніводнага слова па-ўкраінску ці хоць на якой вусьцішнай трасянцы. Вы зь ім так і размаўлялі: ён — па-вугорску, а ты — па-беларуску, але калі аднаго разу засталіся за сталом сам-насам, ты ні з пушчы ні з поля вырашыў пазнаёміць былога кулямётчыка зь беларускай паэзіяй і прадэклямаваў Караткевічавага «Сьнегіра». Гэта была геніяльная ідэя, бо Пішта адразу паверыў, што ты — не расеец, і прынес табе на дарогу трохлітровую біклагу мускатнага віна.

З кожным тваім прыездам Шоні-старэйшы гаварыў усё меней, а потым і зусім замураваў сябе ў празрыстым склепе маўчаньня — адно слухаў сынавы размовы з табой ды паказваў вачыма, каб не забывалі наліць і яму. Бывала, ты трошкі палохаўся бясконцага Шоневага маўчаньня, спрабаваў адстаронена паслухаць самога сябе й думаў: а раптам стары проста зразумеў, што людзі га-

ворацць не таму, што маюць нешта сказаць, а таму, што Госпад аднойчы расслабіўся і надзяліў іх гэтай здольнасьцю...

## Трансыльванія

Прахапіўшыся, ты ня кінеш позірку ў вакно, каб паводле надзейнай бабулінай парады сьцерці з памяці нісянеціцу сьненьня, бо хочаш, каб сёньняшні сон праявіўся ва ўсёй сваёй выразнасьці й шматфарбнасьці.

Ты стаяў перад дзіўным дрэвам: адны ягоныя галіны шамацелі густой лістотаю, на другіх сьпелі слуцкія бэры, на трэціх красавалі кветкі-«завушніцы», або, як іх яшчэ называюць, «разьбітае сэрца», вунь на той галіне сьпявалі птушкі, на гэтай уладкаваўся цэлы партызанскі аддзел і пара рыцараў у поўным рыштунку, а на тую выйшлі шчыльнымі радамі й расьселіся, зьвесіўшы ногі ды хвасты, збольшага знаёмыя істоты, напэўна — дамавікі, лесавікі й хохлікі... Некаторыя галіны толькі пачыналі распускацца ці запаўняцца рознымі дзівоснымі стварэньнямі, а некаторыя — былі непрыкаяна голыя й самотна зыбаліся пад ветрам. Ты стаяў перад дрэвам, нейкі голас падказваў табе, што гэта — дрэва беларускага прыгожага пісьменства, і ўжо там, у сьне, ты прасякаўся глыбокай асабістай адказнасьцю за росквіт роднае літаратуры, за яе месцамі непрытульна голае вецьце, за неасвоеныя жанры, формы ды тэмы...

«Пракруціўшы» сон, ты нарэшце дазваляеш сабе вызірнуць у вакно і высьвятляеш, што аўтобус коціцца па Трансыльваніі, або, па-вашаму, Залесьсі, дзе калісьці княжыў Іштван Батары, а па-вашаму Сьцяпан Батура, што ад 1575 году быў вялікім князем тваіх продкаўліцьвінаў.

Недзе тут, сярод зялёных спадзістых пагоркаў, прыйшоў на сьвет Батураў супернік, а затым сябар і хаўрусьнік Каспар Бэкеш, што праславіўся як ваявода, адбіваючы ў Інфлянцкую вайну ў маскоўцаў Полацак, а яшчэ болей — як мысьляр, што не вызнаваў аніякай рэлігіі,

у выніку чаго пасьля ягонае сьмерці ў Горадні ні касьцёл, ні царква не далі дазволу хаваць вялікакняскага паплечніка на сваіх могілках. Прадбачачы гэткую нявыкрутку, Бэкеш загадзя паклапаціўся пра эпітафію («...не баюся пекла, не турбуюся пра Божы суд...»), зь якой яго й пахавалі на стромым беразе рэчкі Вільні ў вашай тагачаснай сталіцы.

Яшчэ больш складаныя стасункі з Богам меў народжаны ў Трансыльваніі твой вясёлы румынскі аднайменьнік Улад Дракула, згадка пра якога адразу робіць больш акрэсьленым твой намер азеляніць у айчыннай літаратуры якую-небудзь голую галіну.

Ты напішаш мастацкі твор пра беларускіх вампіраў. Менавіта пра беларускіх — нацыянальна-арыентаваных, сьвядомых прыхільнікаў дзяржаўнага сувэрэнітэту Бацькаўшчыны, якія, у прыватнасьці, адназначна супраць увядзеньня ў якасьці валюты расейскага рубля. Гэта ўжо другое пакаленьне незалежнікаў. Яны вырасьлі ў беларускіх сем'ях і таму маюць адметныя імёны — Рагнеда, Усяслаў, Франак, магчыма, Караліна...

Героі знаходяць адзін аднаго яшчэ ў студэнцкія гады. Ствараюць і рэгіструюць суполку ТБМ, а затым сталеючы, і БНФ. Акуратна сплачваюць складкі, падтрымліваюць беларускую прэсу, бяруць удзел у акцыях. Адна з гераіняў працуе на станцыі пераліваньня крыві, яе сябар — у навукова-дасьледчым інстытуце гематалёгіі. Якраз яму шчасьціць зрабіць адкрыцьцё: іхні ўкус, аказваецца, ня толькі перадае своеасаблівую бацылу вампірызму (якую, зрэшты, нескладана заблякаваць, каб папуляцыя не набыла пагрозьлівых для ўласнага існаваньня памераў). Адначасова ўкус прышчапляе, так бы мовіць, паддосьледным беларускую нацыянальную сьвядомасьць. Адкрыцьцё пераварочвае даволі аднастайнае існаваньне суполкі, што разумее, які неацэнны даробак можа ўнесьці ў сьвятую справу вяртаньня роднае краіны ў Эўропу. Пасьля чарговае акцыі апазыцыі грацыёзная супрацоўніца станцыі пераліваньня крыві выбірае першы аб'ект — бамбізу-палкоўніка, што кіра-

ваў жорсткім разгонам дэманстрантаў, і заваблівае яго ў ціхі менскі дворык, дзе ў альтанцы чакае ўся дружная суполка. Астатняе — справа тэхнікі…

### Вужыцы

На трэці дзень дарогі ты прачынаесься ў сэрбскім горадзе Вужыцы. Выбіраючыся з гатэльнага нумару, падобнага да бункеру, уражана прыкідваеш, наколькі шырока разьлегся славянскі сьвет. Ты сумняесься, радавацца з гэтае прычыны ці засмучацца, бо тут, як і дзе-небудзь у братнім Тамбове, карміць гасьцей сьняданкам у гатэлях яшчэ не зазвычаена. Але кава ў знойдзенай кавярні сапраўдная, а пададзеныя да яе «палачынкі» — ня што іншае, як апетыя некалі Сыракомлем родныя налісьнікі. Ты разьнявольваесься, цікавісься тутэйшым чырвоненькім і ані не прадчуваеш, што чакае цябе на апошнім кавалку шляху па гэтай неабдымнай Славяншчыне, пакуль яе неўтаймоўнага поступу ня спыніць Адрыятычнае мора.

Ужо праз гадзіну ты адчуваеш пэрыядычныя прылівы адрэналіну, разам зь якімі з глыбіняў стаўніка пагрозьлівымі хвалямі падымаецца кава з налісьнікамі. Аўтобус нават не паўзе, а караскаецца па сэрпантыне. Леваруч — стромая сьцяна вышынёю на паўкілямэтра, справа — такой самай глыбіні кювэт, дно якога сям-там разнастаяць цацачныя парэшткі прыкладна такіх, як твой, аўтобусаў. Суцэльныя скалы, да якіх лепіцца вузенькая шаша, час ад часу ажыўляюць гранітныя й мармуровыя пліты — помнікі тым, хто ўжо прыехаў. Цалкам адпавядаюць мэмарыяльным знакам і нязвыклыя дарожныя — тлустыя кропкі ў трохкутніках.

Чамусьці менавіта гэтыя кропкі, якія ты ўспрымаеш найперш як знаёмыя й блізкія табе знакі пунктуацыі, утаймоўваюць шторм у страўніку і настройваюць цябе на філязофскі лад. Ты ўспамінаеш, што ўсе вы, ня толькі пасажыры аўтобусу, а наагул усе, яшчэ жывыя — разам з сваімі перамогамі і паразамі, каханьнямі і здрадамі, ма-

рамі пра іншую Беларусь і марамі зваліць куды-небудзь ад яе падалей — усе вы навечна, як мушкі ў бурштыне, закутыя ў гэтым стагодзьдзі. Пэўнасьць надае бадзёрасьці й аптымізму. Яшчэ больш натхняе, што першыя лічбы таго году, які будзе стаяць на вашых надмагільлях пасьля працяжніка, таксама ўжо вядомыя — 2 і 0. Іншая рэч, што табе ані ня хочацца раптоўнае сьмерці — ні за пісьмовым сталом, ні пад коўдраю ва ўласнай спальні.

Ты згодны з тым, хто вынайшаў панятак *ars moriendi* — мастацтва паміраць. Ты лічыш, што шчасьлівы той творца, які мае магчымасьць дарэшты выканаць прафэсійны абавязак, стварыўшы сюжэт уласнага сыходу, гэтае неардынарнае падзеі, што здараецца толькі раз у жыцьці, і таму мае падставы лічыцца ў пэўным сэнсе сьвятам. Гэта не азначае да канца трываць пакуты. Можна, напрыклад, памерці ў дзень нараджэньня, як зрабіў Валент Ванькові́ч, або ўчыніць нешта яшчэ больш арыгінальнае, такое, каб па табе ня толькі заплакалі, але і засьмяяліся, усьвядоміўшы, што і да сьмерці, як да ўсяго на сьвеце, трэба ставіцца з гумарам, і што найлепей ушанаваць памяць нябожчыкаў можна адно паўнатою ўласнага жыцьця.

## Адамчык

На вышыні тысячы мэтраў на роўнем мора ты амаль з асалодаю чытаеш дзёньнік Вячаслава Адамчыка. Табе робіцца нечакана ўтульна з гэтай, такой беларускай душой, зь яе ўзьлётамі і незьнішчальнымі комплексамі, з замілаванасьцю дрэвамі й птушкамі ды ўспышкамі інфэрнальнае нялюбасьці да людзей, з вусьцішным прадчуваньнем хуткага скону, зь фізычным болем і непараўнальна страшнейшым болем душы, якой перакрываюць неабходнае для жыцьця беларускае паветра…

Усьлед за Адамчыкам ты гатовы падпісацца пад партрэтам аднаго зь сяброў Рады Саюзу пісьменьнікаў, самазадаволенага вепрука, зь якім лёс зьвёў цябе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Ты, яшчэ ня звольнены

«за выпуск исторической и другой сомнительной литературы», рэдагаваў том паэтычнай анталёгіі. Вяпрук быў укладальнікам, і ты злавіў яго на тым, што ён ня толькі не адчувае паэзіі, але і панапісваў пад капірку біяграфічныя даведкі, якія ты прымусіў яго перарабіць, дадаўшы хоць каліва творчасьці, за што ён, парохкваючы ў сваім дзяржаўным катуху, ціха помсьціўся табе ўсё наступнае дзесяцігодзьдзе.

Апошнія два гады ты жыў, па сутнасьці, у адным з Адамчыкам двары і штомесяц ставіў свой подпіс побач зь ягоным, атрымліваючы на пошце выпісаную да запатрабаваньня «Иностранную литературу». Але ў вас былі розныя сьцежкі, і ты толькі раз пагаварыў зь ім, падзякаваўшы за апавяданьне «Прылёт кажана», дзе савецкія партызаны-расейцы па наводцы школьнага вартаўніка-беларуса ўпяцёх гвалцяць, а потым забіваюць штыхамі беларускую настаўніцу.

Нехта з пакрыўджаных чытачоў дзёньнікавых запісаў Вячаслава Адамчыка назваў яго мізантропам, аднак ты, ужо бачачы на даляглядзе й далёка ўнізе мора, ведаеш, што таленавіты мізантроп для цябе пераважыць безьліч чалавекалюбных пасрэднасьцяў.

## Авечкі і козы

Шукаць гістарычныя аналёгіі Чарнагорыі (вядомай несславянскаму сьвету як Монтэнэгра) з тваёй краінай — справа сумнеўная. Хіба што ў вас не было татарскага прыгнёту, а чарнагорцы, калі і былі нейкі час пад туркамі, усё адно захоўвалі аўтаномію.

У найноўшыя ж часы Чарнагорыя ня плішчылася ў яшчэ шчыльнейшы саюз з «старэйшай сястрой» Сэрбіяй, а наадварот — усяляк адпаўзала ад яе, і ўрэшце ўвяла замест сэрбскага дынара нямецкую марку, а затым эўра.

Чарнагорскія гарады выглядаюць сьветлымі і вясёлымі, асабліва ў параўнаньні з сэрбскімі (найбольш панурым і прыгнобленым табе падасца Бялград). Рэч ня столькі ў разбураных натаўскімі бомбамі будынках, якіх

даволі няшмат, колькі ў агульным настроі людзей, бо бомбы сыпаліся на галовы ўсім сэрбам, незалежна ад стаўленьня да рэжыму Мілошавіча.

Чарнагорыю не бамбавалі, і гэта надае яе жыхарам упэўненасьці й самапавагі. Нават авечкі ды козы, гледзячы на гаспадароў, трымаюцца тут з большай годнасьцю, чым у Сэрбіі.

## Сябар Мілошавіча

Маладая экскурсаводка паведамляе, што адзіным, хто адкрыта падтрымліваў палітыку Слабадана Мілошавіча, быў прэзыдэнт тваёй краіны. Твар у дзяўчыны абсалютна непраніклівы, і ты ня можаш здагадацца пра яе асабістае стаўленьне да згаданага факту.

Пасьля кароткай пярэрвы экскурсаводка з гэткім самым тварам дадае: «Сейчас деятельность Милошевича на посту главы государства является предметом рассмотрения Гаагского международного трибунала».

## Мора

Простае чалавечае шчасьце — прыйсьці ў сьпёку на марскі бераг. Але хвалі сёньня вышэйшыя за твой рост. Калі хочаш паплаваць, галоўная праблема — увайсьці ў гэтую пенлівую стыхію, а потым выбавіцца зь яе, бо хвалі сьпярша не пускаюць у мора, а пасьля, адчуўшы сваю ўладу, не выпускаюць на бераг. Найлепей нырцануць у хвалю, адплысьці ад паласы прыбою і, супакоіўшы дыханьне, гайдацца на аквамарынавых валах, гледзячы на крануты лазуркавай смугою горны хрыбет і разважаючы пра тое, што твайму народу не стае ня толькі выйсьця да мора, але і выйсьця да неба — гораў.

Аднак усё гэта — тэорыя. Пакуль што ты сядзіш на гарачых чорных камянях і назіраеш, як у мора заходзіць юнак зь дзяўчынай. Стоячы тварам да пляжу, яны дурэюць, пырскаюцца, сьмяюцца, ня бачачы, як да іх ціха падкрадаецца неверагодна прыгожая смарагдавая

хваля. Яна ўмірг вока закіпае, зь невераемнай лёгкасьцю валіць шчасьлівую парачку з ног, валачэ яе на бераг і таксама імкліва адкочваецца. Хлопец ускоквае на ногі, а дзяўчына застаецца бездапаможна ляжаць. Ён адцягвае сяброўку далей, перагінае танклявае загарэлае цела, і з роту ў дзяўчыны б’е фантан вады. Купальніца зь цяжкасьцю выпростваецца, зьняможана сядае на пляскатыя камяні…

Зараз ты можаш уявіць, як гэтае, самае цёплае й ласкавае, самае чыстае ў тваім вандроўным жыцьці мора на такой вось, да калена, глыбіні забрала жыцьцё твайго колішняга суседа Міколы Селешчука, мастака з заўсёднай затоенай у нібыта вясёлых вачах тугою. Зачаравана гледзячы на хвалі, ты ўяўляеш, як Мікола гушкаўся на іх, адно ня тут, а на італійскім беразе, і гульня фантазіі не палохае цябе, а толькі мацней вабіць да небясьпекі. Ты разганяесься па ўтрамбаваным прыбоем жвіры, даеш нырца ў высачэзную хвалю, усплываеш на глыбіні, павялічваеш адлегласьць ад берагу мэтраў да ста і гушкаесься хвіліну, пяць, дзесяць. Узьлятаеш, падаеш, апынаесься паміж двума рухомымі зялёнымі мурамі, з радасным заміраньнем сэрца зноў узьлятаеш… І тады зьнячэўку цябе апаноўвае дзікі страх: а раптам схібіш, не затоіш, калі трэба, дыханьне, не ўпільнуеш моманту, дасі хвалі пракаціцца цераз цябе, забіць вадой лёгкія… Ты ліхаманкава плывеш да берагу, ды страх — дрэнны хаўрусьнік, і хваля ўсё ж накрывае цябе. Глытаеш салёную ваду, задыхаесься, аднак бераг ужо пад нагамі, і праз дзесяць крокаў ты расьцягваесься на цёплым ручніку, яшчэ лепш разумеючы, як адляцела ў вырай таленавітая Міколава душа.

Ёсьць меркаваньне, што літаратуру ад бэлетрыстыкі адрозьнівае наяўнасьць мэтафізыкі. Магчыма, такі крытэр вызначэньня «сапраўднасьці» можа прэтэндаваць на ўнівэрсальнасьць. У творах Міколы Селешчука мэтафізыка заўсёды прысутнічала. Не абышлося безь яе і ў ягонай сьмерці: гэта здарылася назаўтра пасьля паездкі ў Рым, дзе Мікола марыў пабыць ад самага дзяцінства.

## Брук

Чарнагорскі Котар, вядомы ўжо дваццаць тры стагодзьдзі, найбольш уразіць цябе не затокай — самым паўднёвым у Эўропе ф'ёрдам, які Бэрнард Шоў назваў найпрыгажэйшым кутком сьвету, не тысячагадовым саборам Трыфана з адсечанай галавой сьвятога ў срэбнай рацы, не тэатрам, дзе колькі вечароў бавіў Напалеон Банапарт.

Наймацней цябе ўразіць тутэйшы гарадзкі брук — то крэмавы, то вясёлкавы, то бел-чырвона-белы. Высьлізганы да амаль люстранога бляску (па ім, напэўна, можна коўзацца, як па лядовых дарожках), ён грэе, робіць стамлёныя ногі сьвежымі і пругкімі, запрашае зьняць красоўкі ды пахадзіць басанож. Сваю жыцьцядайную энэргію ён перадае нават табе, чужынцу, — каб ты, няхай на гадзіну, пачуўся тут сваім, адказным за чысьціню й спакой, за рэнэсансавыя, гатычныя й барокавыя фасады, за старасьвецкія ваканіцы, за якімі хаваюцца сучасныя плястыкавыя вокны, за мову, якой гавораць цемнавалосыя смуглявыя дзеці...

Пабыўшы ў Котары, ты разумееш, чаму ў тваім дзяцінстве і юнацтве ў Менску, Полацку, Віцебску ішло зацятае змаганьне з брукам, які зразалі бульдозэрамі або закатвалі пад асфальт. Табе цікава, якую энэргію будзе выпраменьваць той штучны брук, што цяпер похапкам кладуць паўсюль ад тваёй сталіцы да Пружанаў.

## Ціхае кананьне кірыліцы

У котарскай кнігарні зьвяртаеш увагу на падручнік «Вучым лацінку». Ты зьдзіўляесься, бо аніводнага надпісу на кірыліцы — ні ў рэкляме, ні ў мэню кавярні, ні ў графіці — ты так і не сустрэў. Абсалютная большасьць кніжак — таксама на лацінцы. Кірыліца ціха канае ўва ўсёй Чарнагорыі. Лацінка ўжо дамінуе і ў Сэрбіі. Пасьлядоўна трымаюцца за кірыліцу, гэтаксама, як і за юліянскі каляндар, адно праваслаўныя манастыры й храмы.

Ты ня хочаш шпурляць камяні ў кірыліцу, на якой сам пішаш і чытаеш пакуль што ўдвая хутчэй, але ўся лёгіка разьвіцьця эўрапейскай цывілізацыі падводзіць да думкі, што чарнагорская сытуацыя некалі паўторыцца на тваёй радзіме, дзе зьявяцца і цалкам афіцыйныя падручнікі і кнігі ў той графіцы, якой пісалі й друкаваліся вашы першыя клясыкі.

### Крыжы

Крыжы на чарнагорскіх цэрквах вельмі часта — не вэртыкальныя, а гарызантальныя, раўналежныя зямлі. Магчыма, проста таму, што вэртыкальныя лініі ў горнай краіне і без таго маюць яўную перавагу, і воку хочацца ад іх адпачыць. А магчыма, чарнагорцы прыдумалі гарызантальныя крыжы, каб душам з вышыні іх палёту лацьвей было пазнаваць свае храмы.

### Выспа сьвятога Стэфана

Гэтая шырока разрэклямаваная быццам бы адзіная ў сьвеце выспа-гатэль запомніцца табе не нумарамі, дзе раскашавалі Сафі Лярэн і Сыльвэстар Сталонэ, а кветкамі магноліі, што нечакана запахлі цынамонам і цёплымі мамінымі булачкамі-птушкамі. Ты, малы, прагна зьядаў булачку або дзьве, а ў астатніх употай выкалупваў самае смачнае — вочкі-разынкі, пасьля чаго абліваўся горкімі сьлязьмі, шкадуючы гаротных птушачак, якія праз тваю прагавітасьць зрабіліся невідушчымі.

### Тата і мама

Чарнагорская малеча, лётаючы па пляжы, гукае: «Тата! Тата!» Тату, як выглядае, тут клічуць значна часьцей за маму, і ў гэтым таксама выяўляецца нацыянальны характар.

Ты згадваеш, як у вас дзе-небудзь на Нарачы зарумзанае, чырвонае ад няспыннага крыку дзіця разь-

дзіраецца: «Мама! Ма-ма!» Праўда, у гэтай апэляцыі да жанчыны можна ўбачыць і неўсьвядомленую ўдзячнасьць беларусаў сваім прапра…бабулям, пачынаючы ад Рагнеды.

Дапусьцім, Рагвалодава дачка не наважылася б у тую ўвекавечаную летапісцамі ноч узьняць руку зь мечам над заснулым Уладзімерам. Рагнеду з князевічам Ізяславам ня выслалі б з Кіева на радзіму. Ізяслаў не вярнуўся б на дзедаў полацкі пасад. Полацак не аднавіў бы незалежнасьці… Ці была б сёньня на палітычнай мапе сьвету краіна з назваю Беларусь?..

## Мовы

На курортах міжволі пачынаеш пазнаваць і адрозьніваць мовы, а потым спрабуеш акрэсьліць пачуцьці, якія яны ў цябе выклікаюць.

Ангельская зазвычай выклікае не пачуцьці, а ўспаміны пра аэрапорты.

Польскай мове цешысься, нібы сустрэчы з сваяком. З палякамі прыемна плаваць далекавата ад берагу, слухаючы, як яны жыцьцярадасна перагукваюцца.

Чэская чамусьці казыча твой нос ледзь улоўным пахам кавы.

Літоўская мова ніякія твае органы не казыча, але і не раздражняе.

Украінская выклікае ахвоту загаварыць і пазнаёміцца.

Расейская нараджае лёгкую насьцярожанасьць і ніякаватасьць — праз тое, што на ёй могуць гаварыць твае супляменьнікі, якія ўпарта адмаўляюцца аздобіць сваім непаўторным узорам гэты шматкалёрны моўны дыван.

## Папуасы

Ты возьмеш на пляж апошні нумар «Иностранки» і неўзабаве будзеш пакараны за неабачлівасьць. Над табой

манумэнтальна спыніцца здобная красуня ў жоўтым купальніку зь зялёным алігатарам на трусіках: «И о чем это вы так глубоко задумались?» Яна ківае на твой часопіс і паведамляе, што таксама «руская», а каб цябе не тачыў сумнеў, называе свой родны «рускі» горад — Баранавічы.

Калі б ты быў нармальным мужыком, дык упэўнена адказаў бы на яе сагрэтае гульлівай усьмешкай пытаньне што-небудзь накшталт: «О том, что нам будет интересно в месте, и я даже знаю, в каком». Або больш разьняволена: «О вашем шикарном бюсте». Або абраў бы рамантычны варыянт: «О том, что одна ночь может порою, как вспышка сверхновой звезды, озарить всю жизнь». Але ты, напэўна, нейкі нацыянал-садамазахіст, бо зь безьлічы варыянтаў выбіраеш самы дыскамфортны: зацята ўдакладняеш, што Баранавічы знаходзяцца ў Беларусі.

Аднак супляменьніцу цяжка зьбіць з тропу нават беларускай мовай. Красуня радасна дзеліцца з табой інфармацыяй, дзе тут зьбіраюцца «русские», дзе мэню на «нашем русском языке» і ў якім рэстаранчыку «наша русская еда».

Ты слухаеш, і на памяць прыходзіць калега, што часам садзіць сваякоў у кружок і бярэцца тлумачыць ім нешта з гісторыі й культуры краіны, дзе сваякі спрадвеку жывуць. «Вы — папуасы», — ацэньваючы веды прысутных, прыязна кажа калега, і тыя не крыўдуюць, а працягваюць слухаць, нават не вымагаючы ад місіянэра шкляных пацеркаў ці «вогненнай вады».

Чарнагорац, дарэчы, ніколі не пагодзіцца з тым, што ён — сэрб.

А назваць яго папуасам паспрабуйце самі.

### Стойкавічы, Чмутовічы, Прайдзісьветавічы

Чарнагорцы, як і твае суайчыньнікі, — розныя, што, безумоўна, упрыгожвае іхнюю краіну.

Сямідзесяцігадовы Пэтэр Стойкавіч, уладальнік маёнтку на беразе Котарскай затокі, за сваім гасьцінным сталом прызнаецца табе, што больш за ўсё на сьвеце любіць віно і жанчын. Віна ён спажывае ў сярэднім чатыры літры за дзень. Колькасьць жанчын не ўдакладняецца.

Міра Куч, гаспадар твайго прыморскага гатэлю, — чалавек іншага складу і мае іншыя прыярытэты.

Падобны да ката Базыліё зь фільма пра Бураціна, Міра цэлы дзень сядзіць на мармуровай тэрасе трэцяга паверху з кубачкам кавы і калькулятарам. Цябе ён ведае лепей за ўсіх пастаяльцаў, бо ты вычытаў у рэклямным праспэкціку пра басэйн на гатэльным даху ды вырашыў купацца там перад сьняданкам і пасьля вячэры.

У першы дзень басэйн выдае на вясковую калюжыну, дзе купаюцца гусі. Міра ўсьміхаецца ад вуха да вуха: ваду памяняюць, і ўсё будзе «добро». Назаўтра ты бачыш відавочны прагрэс: басэйн сухі, як выпітая ўчора пляшка. Гаспадар дорыць табе ўсьмешку й цікавіцца, навошта табе басэйн, калі перад табой мора, у якое ты, маючы спрыт, можаш скочыць проста з тэрасы. Эфэкт дасягнуты: плаваючы ў чыстым і спакойным сёньня моры, пачынаеш думаць, што, ня выключана, ты напраўду вычварэнец. Але ўначы ўсходжваецца шторм, мора жаўцее, быццам нехта велізарны нястомна месіць на дне гліну, і ты, абгарнуўшыся ручніком, зноў кіруесься на дах.

На дне басэйну чайкі дзяўбуць укамянелы кавалак піццы. Апярэджваючы тваё пытаньне, Міра як добраму сябру цісьне руку і тлумачыць, што ваду нальюць, як толькі мора стане празрыстым.

Ужо тым самым адвячоркам хвалі пазбаўляюцца брыдкага жаўтлявага колеру, афарбоўваючыся ў разматыя адценьні сіняга й зялёнага, але ты дзеля пэўнасьці чакаеш наступнага вечара. Замест звыклай кавы перад Мірам стаяць два кілішкі ракіі. Гаспадар праводзіць цябе адкрытым позіркам чалавека з чыстым сумленьнем і праз хвіліну такім самым позіркам сустракае. Ён

працягвае табе кілішак: «Дарагой, басэна для балных, а для тэбя — морэ».

Галоўны сюрпрыз Міра Куч рыхтуе на разьвітаньне. У дзень ад'езду чамусьці немагчыма забраць у адміністратаркі пашпарт. Ты не самотны: каля стойкі раз-пораз закіпаюць жарсьці. Гаспадара на тэрасе няма, ён заслужыў адпачынак пасьля начных клопатаў. Уначы Міра высачыў дзьвюх дзяўчатак, якія натхнёна маркіталіся ў сваім нумары з гарачымі чарнагорскімі хлапцамі і, расслабіўшыся перад ад'ездам, забыліся замкнуць дзьверы. Злавіўшы юравабную кампанію на гарачым, Міра Куч запатрабаваў ад кожнае парачкі 30 эўра. Чарнагорцы надзелі штаны і, пакруціўшы пальцам каля скроні, падаліся дахаты. Дзяўчаты палічылі гаспадарова патрабаваньне дрэнным жартам і, дапіўшы марціні, пакладіся спаць.

Ды Міра Куч ня любіць жартаваць. Выспаўшыся й сабраўшы пастаяльцаў, ён абвяшчае, што ніхто з тых, хто зараз ад'яжджае, ня ўбачыць пашпартоў, пакуль ён, Міра, не атрымае свае законныя 60 эўра. Перамовы завяршаюцца тым, што табе й іншым пашпарты вяртаюць за так, а юныя віноўніцы ўсяго вэрхалу пагаджаюцца па чарзе «сур'ёзна пагаварыць» зь Мірам тэт-а-тэт. Мэханічна засякаеш час: кожная «размова» доўжыцца 30 хвілінаў.

## Мурын

І ў Гішпаніі, і ў Тунісе, і ў Парыжы, і тут, у Монтэнэгра, ты почасту ўспамінаеш маміну сястру, а тваю цётку Вольгу, якая за ўвесь свой васьмідзесяцігадовы век не была нідзе далей за добра вядомыя ў тваіх шыротах Копысь ды Шклоў. Ці не адзіным сьведчаньнем таго, што сьвет нязьмерна велічэзьнейшы й шматстайнейшы, для цёткі Вольгі стаў студэнт Горацкай сельгасакадэміі, мурын, што заявіўся ў вёску да аднакурсьніцы, ледзь не да сьмерці ўлякнуўшы ейную маці.

## Шклоў

Шклоўская тэма неспадзявана атрымлівае працяг, калі на праходцы ты заўважаеш на дзьвярах шыльдачку з прозьвішчам гаспадара — Неранчыч. Вельмі верагодна, што тут жыве далёкі сваяк таго сэрба Неранчыча, што пакінуў яскравы сьлед у гісторыі вашай краіны, дзе вядомы як Сямён Зорыч — адстаўны кацярынінскі фаварыт, якому шчадралюбная царыца падаравала нядаўна прыняты пад крыло імпэрскага арла Шклоў.

Ты выбіраеш у кавярні столік з выглядам на мора, замаўляеш келіх «Вранцу» і думаеш, што ёсьць на сьвеце гарады, якія ўзгадоўваюць асьветнікаў, рыцараў, мастакоў, а ёсьць іншыя — якім цягам стагодзьдзяў наканавана нараджаць або акумуляваць злодзеяў, самазванцаў ды авантурыстаў.

Ты зусім ня ўзгадваеш усім вядомую асобу. На адсутнасьць славы з сумнеўным адценьнем Шклоў ня мог паскардзіцца з часоў Вялікага Княства. Непрыкметным шклоўскім настаўнікам быў (пакуль ня ўспомніў, што ён — недарэзаны сынуля Івана Жахлівага) знакаміты самазванец Дзьмітры ІІ, якому двойчы ледзь не пашчасьціла захапіць маскоўскі трон. У сярэдзіне наступнага стагодзьдзя Шкловам валодаў князь Адам Чартарыйскі, які выславіўся такімі маштабнымі фінансавымі махінацыямі, што ад арышту яго ўратавала толькі магутная рука ў расейскай сталіцы.

Зорыч на гэтым тле сьпярша выглядаў вельмі выйгрышна — запускаў мануфактуры, завёў тэатар з опэрнай, балетнай і драматычнай трупамі. Аднак з году ў год фінансавыя справы графа ішлі ўсё горш, эканамічныя рэформы буксавалі, бюджэт стагнаў і енчыў. Суцяшала толькі тое, што кудысьці прапалі самыя неспакойныя крэдыторы…

Неяк праз графскія ўладаньні ехаў даўні зласьлівец Зорыча князь Пацёмкін. Адзін з найсумленьнейшых шклоўскіх жыхароў, імя якога — Давід Мойшавіч — захавалі гістарычныя крыніцы, папрасіўся да яго міласьці

на аўдыенцыю і зь сьлязьмі ад чыненай вакол несправядлівасьці прадэманстраваў пецярбурскаму госьцю атрыманыя ад шклоўскага ўладара фальшывыя сто рублёў. Пацёмкін задаволена пацёр рукі ды прызначыў сьледчую камісію. На допытах шклоўская намэнклятура пачала «калоцца». Выявілася, што нядаўна да Зорыча прыбылі з гістарычнай радзімы дарагія госьці з набытым у Брусэлі друкарскім варштатам. Канчаткова здаў усіх прыдворны карлік лёкай Лукашка — прызнаўся, што ня раз бачыў у графскіх пакоях скрыні, дзе пад калодамі картаў схаваныя пачкі навюткіх асыгнацыяў…

На ўсялякі выпадак ты вырашаеш запіць свой гістарычны экскурс яшчэ адным келіхам густога, як кроў, «Вранцу».

## Знайсьці чалавека

На мяжы Сэрбіі й Румыніі памежніца-сэрбка старанна і трохі зьдзіўлена чытае ўголас імёны ды прозьвішчы тваіх спадарожнікаў: «А-ле-на! Я-у-хэн! У-ла-дзі-мір!»

«Почему не Владимир?» — цікавіцца памежніца. «Это по-белорусски», — прабачліва тлумачыць супрацоўніца турфірмы.

«Напридумывали! — гучна абураецца жанчына-псыхатэрапэўт зь Менску. — Имена изменили без спроса, фамилии изуродовали! В начале одна буква не та, и уже человека по спискам не найдешь!».

Ты кідаеш разьвітальны позірк на Балканскія горы й ціха радуесься, што ў цябе «ня тых» літараў цэлых дзьве — і ў імені, і ў прозьвішчы — а значыць, знайсьці цябе «па сьпісках» будзе няпроста.

*2003*

# Мёртвыя не пацеюць

## Боля

Адзінае, што табе недаспадобы ў антычным сьвеце, — ідыёцкая звычка старажытных грэкаў напалам разбаўляць віно вадою. Ты ўпэўнены, што калі б эліны спажывалі чысты прадукт, іх даробак у цывілізацыі быў бы прынамсі ўдвая значнейшы.

Да прыкладу, апісваючы асноўныя чалавечыя пачуцьці, Арыстотэль несумненна пайшоў бы далей, а не спыніўся на пяці, спарадзіўшы гэтым самым спрэчку: якое ж пачуцьцё ў прапанаванай ім сыстэме мае падставы прэтэндаваць на шостае месца? Часу? Раўнавагі? Небясьпекі? Каханьня?

А можа — болю?

«Мама! Боля! — крычыш ты, уцякаючы ад куста агрэсту, што да крыві пакалоў табе ручкі, а цяпер, табе здаецца, гоніцца за табою па сьцежцы, каб пакалоць дупцю. — Боля!»

Табе два гады. «Боля» — адзін зь першых успамінаў у тваім і, напэўна, ня толькі ў тваім жыцьці.

Тады «боля» сьведчыла, што ты ўжо жывы. Цяпер яна нагадвае, што ты жывы — яшчэ.

Адсякаючы ўсё астатняе, боль здатны прывесьці ў стан, блізкі да дзэну.

Боль мае дзясяткі, а мо і сотні эпітэтаў: востры і тупы, манатонны і маланкавы, калючы і пякучы, кусьлівы і дзяўблівы, казытлівы і грызьлівы, ясны і цёмны, бясконцы і бязьмежны…

Апошні эпітэт недакладны. Боль не бывае бязьмежным: ён дакладна абмежаваны тваім целам. Цяжка хворы на сьпінную сухотку Альфонс Дадэ занатоўваў у дзёньніку: «Кожны робіць сабе свой боль, а пакуты мяняюцца, як голас сьпевака, у залежнасьці ад акустыкі залі».

Боль падзяляе людзей на тых, хто баіцца і пазьбягае яго любой цаною, нават цаною сьмерці, і на тых, хто здольны зь ім паразумецца, знайсьці ў ім ацаленьне, зазірнуць у прадоньне, дзе варушацца пачвары, і ўзьняцца ў зааблочча да анёлаў.

Самагубства як вызваленьне ад нясьцерпнага болю можна лічыць формаю эўтаназіі (у шырокім сэнсе — таксама, калі трактаваць як боль само жыцьцё). З другога боку, мэдыцына ведае выпадкі, калі хворы абірае лёс *homini dolorosi* (чалавека, што заўсёды пакутуе ад болю) і адмаўляецца ад лекаваньня.

Боль — твой даўні суразмоўца. Боль — неадлучны ад цябе зьвярок, зрэдку паслухмяны і нават камфортны, але найчасьцей — капрызьлівы і жорсткі. Часам табе ўдаецца яго залагодзіць, аднак зазвычай ніякія ласункі і атруты на яго ня дзейнічаюць.

Зьвярок ня раз пераўвасабляўся ў зьвера і ператвараў тваё жыцьцё ўжо не ў чысьцец, а ў само пекла. Ты падазраеш, што ў раі лепшы клімат, затое ў пекле бязьмерна цікавейшая кампанія, але ў такія дні ты згодны і на абсалютна бязьлюдны выстылы рай. У такія дні на ўсю поўніцу разумееш сёмага пракуратара Юдэі, якому мроіўся кубак зь цёмным выратавальным пітвом.

На тваё жыцьцё выпала столькі фізычнага болю, што безь яго ты ня стаў бы самім сабою, гэтаксама як быў бы зусім іншым без сваіх ворагаў, сяброў і каханых. Ты падумваеш напісаць пра яго, боль, эсэ, аднак пакуль нешта замінае. Магчыма, ты ўнікаеш канфлікту з уласным болем, якому можа не спадабаецца роля паддосьледнага. Магчыма, ты не сасьпеў для прызнаньняў такога кшталту, таму што боль — адна з найінтымнейшых рэчаў. А магчыма, прычына больш простая: пражытага табой болю для прысьвечанага яму эсэ яшчэ бракуе. Гэта абнадзейвае.

Моцныя натуры ўва ўсе эпохі імкнуліся быць гаспадарамі свайго болю. Кант пераадольваў яго філязофскім здумленьнем. Блез Паскаль зьнясільваў цяжкі нэўралягічны боль складанымі матэматычнымі вылічэнь-

нямі. Фройд апошнія гады працаваў, не зважаючы на пакуты ад ракавай пухліны ў роце.

Ты — пішаш. Гэта дапамагае, хоць і не заўсёды.

Напэўна, тваё будучае эсэ пачнецца з думкі, што лёгка змагчы толькі адзін боль. Боль іншага.

## Добры доктар Дурэмар

Мастацтва мэдыцыны, пісаў Гіпакрат, складаецца з трох элемэнтаў: хваробы, хворага і лекара. Ня бачачы вялікай розьніцы паміж мудрасьцю й мэдыцынай, ён параўноўваў лекара зь філёзафам.

Табе больш падабаецца іншае параўнаньне — з дэтэктывам. Хворы паведамляе пра свой боль, і доктар, учапіўшыся за гэтую нітачку, мусіць разблытаць увесь клубок, каб прадухіліць магчымае забойства.

Дагэтуль табе не сустрэўся доктар, які справіўся б з тваім клубком. Але, з другога боку, высілкі «дэтэктываў» далі пэўны эфэкт, доказам чаго ёсьць тое, што зараз ты сядзіш за пісьмовым сталом, а не бесклапотна спачываеш у зацішным кутку полацкіх Ксавэр'еўскіх могілкаў.

Ты пакуль тут, а некаторыя дактары, якія цябе лекавалі, пасьпелі, як кажуць японцы, памяняць сьветы. Але гэта хісткае суцяшэньне: мо якраз яны, ужо адсутныя, і здолелі б выбавіць цябе з вартаванай болем мэтафізычнай вальеры, што часта сьціскаецца да памераў клеткі.

Пра тых, хто змагаўся за тваё вызваленьне, ты ўжо можаш напісаць прыстойную кнігу, поўную любові і ўдзячнасьці, захапленьня й расчараваньня, зьедлівасьці й пагарды.

Сярод яе пэрсанажаў прысутнічаў бы доктар, які ставіў цябе на ногі так натхнёна, што праз колькі месяцаў ягоныя калегі ўсё ж здолелі выратаваць цябе ад вынікаў лекаваньня. Затое Бог шчодра надзяліў згаданага спэцыяліста талентам красамоўцы. Ён называў хваробу драмай у дзьвюх дзеях, зь якіх першая разыгры-

ваецца ў нашых істотах у глыбокай цемры, без усялякага намёку на бяду, і толькі ў другой пачынаюць запальвацца сьвечкі, вястункі пажару, патушыць які падчас бывае немагчыма.

Паміж тваіх лекараў былі прафэсары, дацэнты, таленавітыя практыкі і ня менш таленавітыя хлусы і круцялі. Адзін доктар апрача клясычнае акупунктуры глыбока разьбіраўся ў клясычнай кітайскай філязофіі. У кабінэце другога зь нямецкамоўнымі трактатамі пра піеланэфрыты і нэфрасклерозы суседнічалі на кніжнай паліцы «Дзікае паляваньне караля Стаха» і «Ладзьдзя роспачы». Трэці найлепей знаўся не ў мікробах, зь якімі яму выпала доля змагацца, а ў конях і спартоўках, што выяжджалі на манэж. (За своеасаблівую індульгенцыю эскуляп меў выслоўе пра тое, што мэдыцына, паводле дакладнасьці, ідзе ўсьлед за тэалёгіяй.) Чацьверты лічыў абавязкам падрабязна знаёміць цябе з букетам уласных хваробаў, што, на шчасьце, не заміналі яму цешыцца цэлым суквецьцем каханак, пра якіх ён распавядаў гэтаксама ахвотна й дэталёва. Пяты дасягаў пэўнага псыхатэрапэўтычнага эфэкту тым, што выдаваў табе белы халат і браў з сабою на абход палатаў зь безнадзейнымі пацыентамі. Шосты бліскуча абвяргаўназіраньне Мантэня пра тое, што хмурны доктар не дасягне ў сваім рамястве аніякага посьпеху…

Сьветач лазэрнай хірургіі расказваў табе, як апэраваў у замежжы, дзе меў пашану ад калегаў і вучняў, што ўзахапы запрашалі яго на гасьціны ды вазілі па сваёй цудоўнай горнай краіне на мяжы славянскага сьвету. Расказваў, як цешыўся прафэсійным прызнаньнем і гасьціннасьцю гаспадароў, і як аднойчы ягоная радасьць умомант сьцьмела, калі ў застоліцы ў яго запыталіся, ці праўда, што Беларусь — адзіная славянская краіна, дзе народ не гаворыць на сваёй мове…

Дактары, а, бывала, і доктаркі мацалі й цягалі цябе за розныя органы, калолі, праграгравалі, масажавалі, зрэдзьчас выпівалі з табой і зноў цягалі, калолі і прамывалі. Табе ставілі магніты, іголкі і п’явак, дзякуючы чаму ты

пераканаўся, што нелюбёны табой у дзяцінстве Дурэмар — насамрэч герой ня менш станоўчы за доктара Айбаліта.

Ты выслухоўваў новыя й новыя дыягназы, іншым разам падобныя да прысудаў, і ўсё глыбей пераконваўся, што самы небясьпечны доктар — доктар без пачуцьця гумару.

## З кім жыць, як няма мікробаў

Ёсьць гумар сьветлы і чорны. Габрэйскі і армейскі. Адэскі і ангельскі. Ёсьць гумар шыбенікаў.

А ёсьць гумар мэдыкаў.

Доктар, якому тутэйшыя пацыенты чамусьці любілі прыносіць у якасьці ганарару пушкі цукерак, эмігруе ў ЗША, адчыняе прыватны кабінэт на Брайтан-біч і чапляе на дзьвярах абвестку: «Конфет доктор не пьёт».

Колькі разоў прагледзеўшы вынікі тваіх аналізаў, загадчык лябараторыі задуменна падыходзіць да вакна й пачынае няпростую размову: «Вы ведаеце, у кожнага мэдыка ёсьць свае маленькія могілкі...»

На знак павагі да пацыента зь велізарным стажам дырэктар дыягнастычнага цэнтру пасьля прыёму прапануе табе наведаць іхнюю саўну, але толькі пры ўмове, што ў парыльню ты на ўсялякі выпадак возьмеш мабілку. Саўна сустракае цябе густоўна выразанай на дрэве высновай шматгадовых дыягнастычных экспэрымэнтаў: «Мёртвыя не пацеюць». Ты лагодзісься ў парыльні на пáру з мабілкай, разважаючы над тым, каго хацеў бы бачыць зараз на яе месцы, і раптам твая «Nokia» ажывае. Клапатлівы голас доктара пытаецца: «Спадар Арлоў, вы ўспацелі?»

Паведаміўшы, што ў тваім арганізьме ня знойдзена аніякіх інфэкцыяў, прафэсар заўважае, што радавацца з гэтае прычыны не выпадае. У адказ на твой устрывожаны позірк сьвяціла айчыннае ўралёгіі тонам амаль трагічнага гучаньня канкрэтызуе: «З кім цяпер будзеце жыць?»

Сынонімаў да слова «доктар» (з улікам літаратурных герояў кшталту Пілюлькіна) можна назьбіраць дзясяткі два. Мэдсёстры ў гэтым сэнсе незаслужана пакрыўджаныя. А між тым бязь іх, сястрычак, мэдыцына даўно ляснулася б.

Яны спрытна робяць уколы і зь любасьцю ставяць клізмы. Увечары яны супакойваюць безнадзейных хворых, а ўначы зачыняюцца з надзейнымі лекарамі ў працэдурных і ардынатарскіх. Яны зазіраюць у палату, каб пераканацца, што ты яшчэ жывы, і просяць пачытаць новую кніжку Фрэдэрыка Бэгбэдэра. Яны становяцца гераінямі бальнічных раманаў і крымінальных гісторыяў.

Танклявая краля Марына перад тым, як ушпіліць табе новую порцыю нібыта карыснага зельля, скардзіцца, што муж вінаваціць яе за худзізну і тыднямі не выконвае сваіх мужчынскіх абавязкаў. Дакладней, як яна падазрае, гэтыя абавязкі выконваюцца дзесьці ня дома. Ты даеш Марыне сяброўскую параду аддзячыць нявerніку тым самым. Сястрычка кажа: страшна. Кожны другі — хворы. Магчыма, яна чакае ад цябе нейкай дапамогі. Ты няўпэўнена кажаш пра гумкі. Але, па-першае, яна, Марына, з гумкай нічога не адчувае. А па-другое, гумкі не даюць ніякай гарантыі. Ты маладушна ўстрымліваесься ад іншых парадаў і падстаўляеш сястрычцы сколаты шпрыцамі азадак колераў украінскага нацыянальнага сьцягу.

Нябеснавокая Дыяна, ставячы табе кропельніцу, папярэджвае, што ляжаць пад ёй (кропельніцай) ты будзеш гадзіну. Калі роўна праз гадзіну сястрычка вяртаецца, бутлік зь лекамі разьвітваецца з апошняй кропляю.

Вішнёвавокая Мілана таксама абяцае гадзіну «кайфу», аднак ейнай кропельніцы можа хапіць і на пяцьдзясят, і на семдзесят хвілінаў.

Нэфрытававокая Жана, пакідаючы цябе з уторкнутай у вену іголкай, ня кажа нічога, і, калі лекі сканчаюцца, мусіш націскаць на гузік выкліку мэдпэрсаналу.

Жана прыгажэйшая за Дыяну, а Мілана — за Жану, аднак у выпадку чаго ты выбраў бы Дыяну. Табе даспадобы жанчыны, якія адчуваюць час: ня позьняцца і не прыходзяць раней. Нават калі гаворка ідзе пра кропельніцу.

Але, паколькі згадаліся вочы сястрычак, самы дарагі твой успамін — зялёныя, засяроджана-сумныя вочы дзяўчыны, што брала ў цябе кроў на адзін адмысловы аналіз у анкалягічным дыспансэры, і — тыя самыя, толькі ўжо зіхотка-зыркія, з бурштынавымі іскрынкамі, — калі яна паведамляла табе, што вынік адмоўны. Табе дасюль хочацца ўбачыць тыя іскрынкі блізка-блізка. Трэба адно зайсьці ў анкалягічны дыспансэр…

## Сіротка Надзя

Калісьці ты ведаў шэравокую, падобную да дробнай кошкі ці да буйной мышкі мэдсястру, якая не пасьпела зрабіць табе ніводнага аналізу і ўколу, бо ў адваротным выпадку тваё жыцьцё магло б скласьціся зусім іначай, а магчыма, і наагул ужо даўно сьціснуцца ў працяжнік паміж дзьвюма датамі на помніку.

Гісторыю сястрычкі з цудоўным імем Надзея расказаў табе знаёмы загадчык аддзяленьня, куды мышка прыйшла працаваць пасьля мэдвучэльні.

Надзея гадавалася бяз мамінае ласкі ў дзіцячым доме і, відаць, таму асабліва гарнулася да хворых кабетаў, зь якімі любіла весьці ціхія шчырыя размовы. Адной пацыентцы Надзея з расінкамі на дрыготкіх вейках параіла перадаць дзецям, каб не насілі ў больніцу памаранчыкі, а ашчаджалі грошы на блізкія маміны хаўтуры. Другая жанчынка ўведала ад Надзеі, што ў яе, хворай, у нырках ніякія не камяні, а самы сапраўдны рак на апошняй стадыі. Трэцяя пасьля размовы з мышкаю ў гістэрыцы прыбегла да загадчыка аддзяленьня.

Той наважыў дзейнічаць абачліва і правёў атэстацыю сярэдняга пэрсаналу. Надзейцы намякнулі, што пра яе даверлівыя гутаркі з хворымі сталася вядома. Да-

лейшыя падзеі разгортваліся зь неверагоднай імклівасьцю і пеніліся шэксьпіраўскімі жарсьцямі.

Ужо назаўтра пасьля атэстацыі загадчык аддзяленьня, скінуўшы ў канцы працы больнічныя тэпці і ўсунуўшы стамлённыя ногі ў чаравікі, закрычаў ад болю. Нечыя клапатлівыя ручкі паклалі ў кожны чаравік па градусьніку.

Не пасьпелі ў доктара загаіцца ступакі, як яго напаткала новая страшная неспадзяванка. Загадчык уласнаручна рабіў высокапастаўленаму пацыенту прамываньне мачавога пухіра антысэптыкам. Працэдура толькі пачалася, як пацыент з вусьцішным ёкатам ускочыў з кушэткі і, крышачы ўсё на сваім шляху, рынуўся прэч. Адно велізарны досьвед дапамог доктару хутка зразумець, што замест прэпарату срэбра ён запампаваў хвораму падрыхтаваны руплівай сястрычкаю ёд такога самага колеру.

Назаўтра, калі з палаты для VIP-пэрсонаў яшчэ чуліся енкі ледзьве адратаванай ахвяры, загадчыка аддзяленьня выклікалі да начмэда больніцы, якому пераслалі зь Міністэрства аховы здароўя напісаны круглявым жаночым почыркам ліст на пяці старонках. Адтуль твой знаёмы даведаўся пра запаветную мару дзятдомаўкі Надзейкі лекаваць людзей і пра тое, якія нечалавечыя выпрабаваньні чакалі сіротку на жыцьцёвай пуцявіне. Самым жудасным была сустрэча зь ім, доктарам, што ў першы ж дзень, паказаўшы юнай мэдсястрычцы аддзяленьне, дзе зьдзейсьняцца яе мроі, бесцырымонна й груба авалодаў ёю на гінэкалягічным крэсьле. З таго часу Надзеіна праца ператварылася ў сэксуальнае рабства, ад якога не было паратунку, ты перапрашаеш, і ў чырвоныя дні ейнага жаночага календара, калі монстар у белым халаце ўсё роўна вымагаў наталяць свой юр нялюдзкім замежным спосабам.

Твой знаёмы цяпер кіруе аддзяленьнем у іншым горадзе. Як склаўся лёс сіроткі Надзеі, невядома, аднак ты не выключаеш, што яна працягвае адхаджваць хворых у мэдустановах роднае краіны і, можа, якраз у гэтую

хвіліну рыхтуе які-небудзь эфэктыўны прэпарат для ўколу або прамываньня.

## Назаву цябе Зінаіда

Калісьці хваробы прыходзілі й адыходзілі, а цяпер — зьмяняюць адна адну. Зграбна сфармуляваў Адам Глёбус. Але гэта сказана не пра цябе.

Ты б дорага заплаціў, каб на зьмену адной немачы сапраўды прыходзіла іншая. Ты б даваў ім свойскія і экзатычныя жаночыя імёны, пяшчотныя й трошкі паблажлівыя мянушкі ды мянушачкі. Ты размаўляў бы з кожнай: ураньні — просячы быць да цябе лагоднай, увечары — угаворваючы падараваць калі не сваю пяшчоту, дык, прынамсі, літасьць. Потым надыходзіў бы момант разьвітаньня: бязь лішняга шкадаваньня і нават з захаваньнем сяброўства. Калі б нейкай зь іх заманулася вярнуцца, ты б ужо ведаў, на што яна здатная і як зь ёю паводзіцца.

Але ты стаўся абраньнікам адной-адзінай хворасьці і, толькі пазнаёміўшыся зь ёю, адразу чамусьці вырашыў: назаву цябе Зінаіда. Ты б і рады быў здрадзіць уладальніцы гэткага сур'ёзнага й файнага імя зь якой-небудзь ангінаю, аднак Зінаіда, паслаўшы ўсіх суперніц на сухі лес ці куды далей, узялася за тваю істоту як сьлед.

Ды хопіць пра тое, бо Антон Чэхаў — і як мэдык, і як двойчы твой калега, пісьменьнік і хворы, — цалкам слушна заўважыў, што чалавек любіць пагаварыць пра свае немачы, а гэта ў ягоным жыцьці самае нецікавае.

Праўда, ты гаворыш аб адной-аднюткай тваёй спадарожніцы і таму дазваляеш сабе адзначыць, што толькі дзякуючы ёй ты зразумеў словы Камю пра хваробу ня толькі як крыж, але і як апірышча. Сапраўды, яе можна зрабіць прытулкам, які надае моцы.

## Самыя здаровыя ў сьвеце

Так казалі пра савецкіх хворых, што было сьвятой праўдай.

Некалі расейскі пісьменьнік і былы лягернік Леў Разгон апавядаў табе, як францускі перакладчык распытваў у яго пра жыцьцё ў ГУЛАГу. У прыватнасьці пра тое, на чым ён, Разгон, прымудраўся ў тых умовах пісаць. На чым давядзецца, адказаў калега. «Божа мой! — жахнуўся француз. — Я зразумеў! Вы пісалі на туалетнай паперы!»

Прыкладна такія ўяўленьні мелі яны і пра савецкія лякарні. Ты ведаеш пару вясёлых гісторыяў пра іншаземцаў, што ў часы перабудовы, неабачліва адарваўшыся ад родных палестынаў, патрапілі ў нашыя мэдустановы. Але няхай гэтыя жахалкі ўвасабляюцца ў мастацкіх творах за заходнімі рубяжамі тваёй краіны. Табе хопіць і суайчыньнікаў зь іхняй атрыманай у савецкіх шпіталях загартоўкаю, што нярэдка дапамагае дацягнуць да выпіскі і ў сувэрэннай Беларусі.

Калі б ты задумаў прысьвяціць кнігу ня толькі дактарам, але і хворым, то абавязкова зарэзэрваваў бы там месца электрамэханіку Сярогу, жыцьцярадаснаму хлапцу, які ў сваім бясхмарным чэрвеньскім юнацтве загнаў пад скуру ў прычынным месцы чатыры шпрыцы парафіну.

Пасьля гэткай «экіпіроўкі» дзяўчаты ў Чэрвені і ваколіцах проста ашалелі ад жаночага шчасьця. Легенды пра мэханіка, вартага Кнігі рэкордаў Гінэса, захопленым шэпцікам перадаваліся з завулку ў завулак і зь сельсавету ў сельсавет. Ды, як пісала паэтка, «дзіўнай казкай прайшла маладосьць», і ашчасьліўленыя дочкі старажытнага Ігуменскага краю раптам засумавалі й пачалі цэлымі чародамі зьнікаць зь Сярогавага далягляду. Аднае раніцы электрамэханік спусьціў перад люстэркам майткі і ў бязьлітасным сонечным сьвятле ўбачыў разгадку: крамяны й заўсёды гатовы да наступу «прыбор» трансфармаваўся ў страхотны, кароткі ды шырокі пацурбалак, які, зважаючы на парафін, можна было параўнаць з аплылым недагаркам таўшчэзнае сьвечкі.

У першую шпітальную ноч зь Сярогавага ложка чуюцца ўсхліпы. Ты ляжыш і думаеш, што плач, як і сьмех, адрозьнівае чалавека ад жывёлы. У бабра таксама

могуць каціцца з вачэй сьлёзы, аднак гэта ня больш за дзейнасьць адпаведных залозаў. Плача адно чалавек. З гэткіх глыбокіх развагаў вынікае, што Сярога — чалавек. Ну дык будзь чалавекам і сам, думаеш ты і, хвіліну павагаўшыся, дастаеш з тумбачкі пачатую пляшку чырвонага чылійскага з цудоўным букетам, наліваеш да краёў кантовую шпітальную шклянку і на правах вэтэрана палаты прапануеш Сярогу «прыняць».

Сусед спраўляецца зь віном адным каўтком, і ў прыцемку ты бачыш, як ягоны твар расчаравана крывеліцца. «Кампот», — пагардліва кажа Сярога, аднак плакаць пакідае й імгненна захропвае. Затое пачынае варушыцца другі твой сусед — турак-будаўнік Энвэр, які ажаніўся ў Маладэчне зь беларускай і, мусіць, дзякуючы салу ды іншаму нязвыкламу харчу, выгадаваў сабе ў нырках велічэзны камень.

Энвэр паведамляе табе, што ў больніцы піць «нэльзя». «Маўчы, магамэтанін», — адгукаесься ты і наліваеш шклянку чылійскага сабе. «Нэльзя», — цягне сваё турак.

Глыток за глытком ты ганяеш віно па рэцэптарах, уяўляючы вяршыні Андаў, філямата Ігната Дамейку, сівенькага й лядашчага Аўгуста Пінача і — нечакана — журботнавокага курда Канада, вашага доктара-стажора.

Ідзе другая гадзіна ночы, твае чалавечыя пачуцьці хочуць спацькі, і ты ўнікліва цікавісься ў Энвэра, ці ведае той, хто будзе рабіць яму апэрацыю. Для Энвэра гэта загадка, затое табе ўсё вядома: доктар-курд. Турак, як апараны, зрываецца з ложка: «Курд — нэ чалавек! Курд хужэ шакала!» Сярога прачынаецца і ачмурэла лыпае пугачынымі вачыма. Энвэр хутка-хутка гаворыць па-свойму. Відаць, моліцца. Ты ўжо ня хочаш віна, але дэманстратыўна наліваеш сабе яшчэ шкляначку і абяцаеш Энвэру, што заўтра ўсё раскажаш доктару Канаду, каб той выразаў яму ня камень, а што-небудзь іншае.

У вакно палаты зазірае жоўтая поўня, падобная да сьпелага кругляка сыру, якім ты з асалодаю закусіў бы свае законныя дзьве шклянкі. Сярога зноў усхліпвае, але, калі разьлічвае на другую порцыю «кампоту», яму

не дапаможа і роспачнае галашэньне. «Усё нармалёва, — суцяшаеш ты суседа. — На той сьвет трэба сыходзіць хворым, а не здаровым».

Былы герой Чэрвеньшчыны па-ранейшаму румзае. Ты пытаесься ў Энвэра, ці плачуць курды, калі іх, да прыкладу, паляць напалмам. «Курды — шакалы», — цьвёрда адказвае турак. Ты засынаеш з шчасьлівай думкаю, што і тут, у больніцы, табе шанцуе на цікавых спагадлівых людзей.

Пасьля сьняданьня Сярогу забіраюць на апэрацыю. Табе яго зусім не шкада. Сёньня ўначы ты адназначна акрэсьліў сваё стаўленьне да ўладальнікаў парафінавых чэлесаў, як яшчэ раней — да гаспадыняў сыліконавых грудзей. Магчыма, ты — нехарошы і злы чалавек. А можа, ты проста за сумленную гульню ў роўных умовах.

## Курва зь Серабранкі

На Сярогава месца кладуць доктара-вэтэрынара з Лагойшчыны, заўзятага чытача «Народнае волі» і прыхільніка Зянона Пазьняка, у выніку чаго ў палаце пачынае дамінаваць беларушчына. Адзін з нумароў «Волі» ты ўручаеш Энвэру і пагрозьліва тлумачыш, што надышоў час вучыць мову народу, які даў яму прытулак. Сярод іншых аргумэнтаў — твой мітычны знаёмы курд, які па-беларуску гаворыць лепей за большасьць аўтахтонаў. Энвэр відавочна ня хоча быць дурнейшым за курда. Неўзабаве ён робіць першыя посьпехі: «Что такое «пэршы»?»

«Первый!» — радасна галёкае лагойскі айбаліт. У яго адметны даўгі нос, ад якога, здаецца, можна без праблемаў прыкурваць — наступства традыцыйных разьлікаў за вэтэрынарныя паслугі.

Каровін доктар ганарыцца малодшым братам-бізнэсоўцам, які мае ў Серабранцы шыкоўную пяціпакаёвую кватэру і жонку, што не пускае швагра-жабрака й на парог. «Курва», — незласьліва кажа вэтэрынар. «Нэльзя ругацца», — утыкае свае тры шэлегі Энвэр.

На панядзелак вы прызначаеце турку першы залік па вашай мове. Тэма — «Знаёмства зь беларускай жанчынай». Але да панядзелка трэба дажыць. Дзеду зь сёмай палаты, гэта, напрыклад, не ўдаецца. У чацьвер дзед не прачынаецца, пакінуўшы ў лядоўні вам, жывым, у спадчыну цэлую торбу вясковых паляндвіцаў і вантрабянак з палавінкаю каўбушка на дадатак.

У пятніцу з гронкаю бананаў у палату завітвае бізнэсовец зь Серабранкі. Ён выпісвае старэйшаму брату на ўік-энд $ 10. Вэтэрынар просіць малодшанькага адразу памяняць іх на беларускія. Той дастае 20-тысячную купюру, і айбаліт працягвае яму толькі што атрыманы «зелянец». Бізнэсовец шчодра пакідае яго брату і, напэўна, робіць фатальную памылку, бо ні ў панядзелак, ні ў аўторак адпушчаны на выходныя вэтэрынар не вяртаецца.

На месцы айбаліта зьяўляецца маларослы падхорцісты міліцэйскі маёр, малады пэнсіянэр з ныркавай колікай. Дзень навылёт, наганяючы ўпушчанае за гады службы, маёр чытае кніжкі. Крытэр падбору міжволі кідаецца ў вочы: «Таварыш генэрал», «Камбат» і «Справа маёра Косьціна» зусім невядомых табе аўтараў, «Капітан Фракас» Тэафіля Гат’е і «Адысэя капітана Блада» Рафаэля Сабаціні. Пасьля выходных ты прыносіш суседу Габрыеля Гарсія Маркеса — «Палкоўніку ніхто ня піша», што ўспрымаецца з удзячнасьцю.

Тым часам з палаты ў палату ходзіць кульгавы, часткова спаралізаваны і цалкам невідушчы неахайны таўсматы хлопец, што расказвае ўсім гатовым слухаць, як яго, армейскага «дзеда», за два тыдні да дэмбелю сустрэлі за капцёркай «салагі» і сьпярша выцялі нечым цяжкім па патыліцы, а тады ўзяліся біць сьмяротным боем нагамі. Ты мусіш слухаць гэтую гісторыю зноў і зноў і штораз, гледзячы на абсыпаныя перхацьцю брудныя валасы калекі, ня можаш абагнацца ад думкі: што ж трэба было вырабляць «дзеду» з «салагамі», каб тыя зь зьвярынай лютасьцю адбілі яму і ныркі, і пячонку, і зрок.

Зрэшты, ня ўсё так проста і з «салагамі». У суседняй палаце ляжаць тры маладыя салдацікі, што найперш нагадваюць выпушчаных на «хімію» зьвераватых маладзенькіх зэкаў, на якіх ты нагледзеўся некалі ў Сібіры, працуючы ў студэнцкіх будатрадах. Цэлы дзень «салагі» шнуруюць, як злыганыя, па шпіталі, нешта бясконца жуюць і п'юць, а ўвечары, пасьля адбою, пояць у цёмнай сталоўцы віном маладую запаволеную санітарачку з заўсёднай разгубленай усьмешкаю на дзіцячым твары. Пояць, а затым па чарзе водзяць у ейную бакоўку з канапай, каб ураньні хваліцца, хто колькі разоў гэтае дзяўчо «отодрал». Апрача свайго начнога занятку, больш-менш асэнсавана яны робяць дзьве рэчы: стрыгуць перад выпіскай адзін аднаго «пад нуль» (бо ў іхняй брыгадзе спэцназу дазволеная толькі такая фрызура) і на супрацьпажарным плякаціку «проход держать свободным» акуратна прымалёўваюць сьпераду слова «задний».

## Калі пяюць ваўкалачкі

Перад адбоем ты пераведваеш ужо безнадзейнага мастака з анкалёгіі. Ён знаёмы з правілам Гіпакрата, паводле якога пры двух болевых агменях пакутуеш толькі ад больш моцнага, які дашчэнту «сьцірае» слабейшы, таму закасвае рукаво, выцягвае з кішэні зграбную запальнічку-русалку і выкрасае агеньчык... Валаскі імгненна згараюць, скура падымаецца пухіром, ападае і запякаецца. Нясьцерпны боль у страўніку сьціхае, гаспадар бярэ цыгарэты (на пачку лёгкага «Marlboro» мільгае зроблены шарыкавай асадкаю малюнак), і выходзіць з табой у калідор.

Мастак меў пэрсанальныя выставы, замежныя паездкі. Але пра іх ён ніколі ня згадвае. Ён гаворыць выключна пра сваіх жанчын. Чамусьці мастак хоча, каб ты даведаўся, што адна зь іх пасьля аргазму замірала і ён спачатку палохаўся, ці не спынілася ў яе сэрца. Яшчэ адну калаціла, нібы ў ліхаманцы, а другая, перад тым як абрынуцца ў нірвану, па-ваўчынаму завывала, лякаю-

чы яго ня менш за тую, што нерухомела. Напэўна, была ваўкалачкаю, думаеш ты.

Не сказаць каб такія размовы табе падабаліся. Але ты слухаеш спакойна і ўважліва: там, дзе неўзабаве апынецца мастак, у яго можа не знайсьціся слухача. Пэўна, якраз жанчыны, а не вэрнісажы і альбомы рэпрадукцыяў — галоўнае, што было ў жыцьці твайго суразмоўцы. Магчыма, менавіта ў іх, жанчынах, у іхняй памяці, ён будзе жыць значна даўжэй, чым у творах.

Мастакова рука — у суцэльных апёках. Ты пазіраеш на яе і разумееш, што жыцьцё, нават зь невыноснымі пакутамі, таксама мае свой кошт — да апошняе хвіліны.

Цяпер ты маеш магчымасьць разгледзець, што намаляванае на залаціста-белым цыгарэтным пачку. Упэўненая прафэсійная рука пакінула на ім складаную кампазыцыю з жаночых целаў, якія нібыта пераліваюцца адно ў адно. Малюнак падкрэсьлена эратычны, але каб «зайграць», яму нечага не стае. У цябе зьлёгку сьціскаецца сэрца: няма мужчыны.

Ты думаеш, што пры ўсёй сваёй натуральнасьці й банальнасьці сьмерць сапраўды набывае часам трагізм — калі творца памірае раней за ўласны талент.

Твой суразмоўца апавядае, як аднойчы на добрым падпітку бесцырымонна спытаў у незнаёмай прыгажуні ў ліфце: «Хочаш е...цца?», і тая крыкнула ў адказ: «Хачу! хачу!», а якраз у гэтым пад'езьдзе быў выхад на гарышча...

Аповед зьмяняе аповед. Табе робіцца цікава: пра што ты сам гаварыў бы ў ягонай сытуацыі?

## Клізма з антычным падтэкстам

Сястрычка Дыяна, тая, што беспамылкова вызначае, калі сканчаюцца лекі ў кропельніцы, нагадвае, каб ты ад абеду рыхтаваўся да перадапэрацыйнае клізмы і нічога ня еў. Апрача таго, выяўляецца, што ты мусіш пагаліць навакольле сваіх самых запаведных месцаў.

Праблема не настолькі элемэнтарная, як некаму здаецца. За пражытыя паўстагодзьдзя ты самастойна ніколі не галіўся (калі не лічыць пакінутага ў юнацтве скублівага электрапрыстасона «Харків», які, памылкова ўторкнуты ня ў тую разэтку, умомант сапсаваўся, але пачаў спраўна перадаваць першую праграму радыё). Боязь лёзаў закладзеная ў табе генэтычна, бо ў 1944-м найлепшага сябра твайго бацькі зарэзаў лязом у вугорскай цырульні гаспадар-хартыст.

Ты знаёміш з гэтай гісторыяй Дыяну і ўгаворваеш яе трошкі пабыць цырульніцай, адно што больш літасьцівай за вугорскага адмыслоўца. Ціск на спагаду ты спалучаеш з спробамі матэрыяльнага стымуляваньня гэтага чалавечага пачуцьця — дэкляруеш разьлічыцца паводле тарыфаў элітных салёнаў прыгажосьці або запрасіць чароўную цырульніцу на вячэру ў ціхую кавярню з адпаведным імені сястрычкі «антычным» інтэр'ерам. Дыяна абяцае падумаць, але ўвечары, відаць, атрымаўшы цікавейшыя прапановы (ня выключана, што нехта павядзе яе ў кавярню ўжо сёньня, якраз у той момант, калі цябе павядуць на клізму), паведамляе, што мэдсёстры голяць толькі спаралізаваных хворых. Абвясьціўшы жорсткі вэрдыкт, яна ўручае табе нажніцы, пару кранутых іржой лёзаў «Спутник» і дапатопны станок.

Ты зачыняесься ў ванным пакоі, становісься перад люстэркам і думаеш, што кожны мужчына, які браў у рукі лязо, напэўна, хоць раз ды ўявіў, як лёгка ён можа перарваць срэбную нітку жыцьця. Ты прыкідваеш, дзе найбольш надзейна і эстэтычна лязо магло б сустрэцца з тваім целам і пераконваесься, што думка пра самагубства — магутны заспакаяльны сродак.

Наступныя паўгадзіны ты зразаеш, а потым сашкрабаеш сваю інтымную фрызуру тупымі нажніцамі ды яшчэ больш тупымі лёзамі (зрэшты, дастаткова вострымі, каб пакінуць некалькі пякучых парэзаў).

У дзьверы настойліва стукаюць. Мэдсястрычка ўважліва правярае вынікі тваёй працы. Ты стаіш перад ёю, як Актэон перад Дыянай-Артэмідай, што ператварыла

антычнага паляўнічага ў аленя. Сухія, цёплыя і ўпэўненыя пальцы сястрычкі таксама выклікаюць у тваіх пагосреных органах пэўныя пераўтварэньні…

«А цяпер — на клізму!» — задаволена кажа Дыяна.

## Пад ветразем прасьцінкі

Ліфт, на якім цябе, ужо абсалютна голага, адно прыкрытага прасьцінкай, падымаюць на апэрацыйны паверх, нараджае самыя нечаканыя мэтафары.

Лежачы на апэрацыйным стале, ловіш сябе на тым, што нават тут пах сьвежай бялізны ўсё роўна выклікае ў целе лёгкае прыемнае хваляваньне. У складках прасьцінкі тоіцца непаўторны эдэмскі халадок, настоены аднаначасна і на цнатлівых успамінах маленства, і на грэшных прыгадках сталасьці. Ты сьціскаеш краі прасьцінкі зьмерзлымі пальцамі, на хвілю заплюшчваеш вочы, і табе мроіцца, што гэта — ветразь. Ён прывез цябе зь нябыту ў жыцьцё, а некалі яго напоўніць іншы вецер і вы адплываце ў новы нябыт.

Наступная думка афарбаваная іншымі эмоцыямі: а чым ты празь пяць хвілінаў будзеш прынцыпова адрозьнівацца ад тых, што ўжо адплылі? Бадай адно надзетымі на ногі бахілкамі, якія нескладана будзе зьняць. Далей — яшчэ больш цікава: лезе ў галаў знаёмы апазыцыянэр абласнога маштабу, які пакутуе ад язвы, але ўпарта не кладзецца на апэрацыю, перакананы, што ў такім разе яго неадменна напаткае лёс зарэзанага сталінскімі эскуляпамі таварыша Фрунзэ.

Убачыўшы хірурга, ты ўздрыгваеш. Верагодна, такі самы засяроджаны твар быў у апошняга доктара, якога бачыў у сваім гераічным жыцьці таварыш Фрунзэ. Тым часам хірург, зь якім цябе толькі ўчора пазнаёмілі, кладзе на тваё безабароннае калена важкую руку ў апэрацыйнай пальчатцы й пытаецца, як правільна пісаць слова «змаганьне» — зь мяккім знакам ці без. Анэстэзіёляг пачынае даваць наркоз, часу на тлумачэньне праблемы двух правапісаў ужо няма, і перад тым як цябе агорну-

ць цёмныя хвалі няпамяці, ты адно пасьпяваеш наіўна падумаць, што, калі ня вернесься, калі прачнесься ў іншым вымярэньні, твая справа тут не загіне, бо галоўнага ў краіне спэцыяліста ў лазэрнай хірургіі займаюць пытаньні беларускай артаграфіі.

## Крылы мацнеюць у палёце

У наркозе ты, быццам тапелец, выгодна ляжыш на глыбокім дне і да цябе з усіх бакоў паўзуць пэрлавіцы ды цягнуцца смарагдавыя «русалчыны косы» — каб атуліць, аплесьці, уладкаваць яшчэ прытульней. Ды зьнячэўку ў твой зацішак, дзе ўпершыню за некалькі гадоў нічога не баліць, аднекуль з страшэннае далечыні далятае слабы голас: «Як вас завуць?»

Чаму некага абыходзіць, як цябе завуць? Тут табе добра і без імя. А раптам, узгадаўшы імя, ты падкажаш болю, дзе цябе шукаць, і ён зноў учэпіцца ў тваю плоць усімі кіпцюрамі і кіпцікамі?

Але далёкі голас не пакідае цябе — набліжаецца, набрыньвае нецярплівасьцю: «Як вас завуць?!» Ты разумееш, што голас адтуль, зьверху, належыць жанчыне, і, можа, якраз гэтая акалічнасьць змушае цябе ўспомніць.

Голас ужо ня просіць, а патрабуе. Табе яшчэ хочацца застацца там, дзе не баліць, аднак «русалчыны косы» нябыту, не раўнуючы — зямныя нячысьцікі ад ранішняга сьпеву пеўня, увачавідкі слабеюць. Бездапаможна адвальваюцца й паўзуць прэч пэрлавіцы, што пачалі былі зручна ўладкоўвацца на тваім целе…

Жанчына кліча, хоча ведаць тваё імя, і ты — дзеля яе — спрабуеш вымавіць яго: У-ла… На большае не стае змогі, але краёчкам памяці ўзгадваеш, што так — проста Ўла — называе цябе сябар. Ды жанчына, відаць, ня ведае гэтага, і ты варушыш непаслухмянымі вуснамі: «У-ла-дзі-мер». Кожны склад — бы прыступка скінутай у тваё прадоньне лесьвіцы, па якой ты караскаесься ўгору. «Яшчэ раз!» — вымагае жанчына. «Уладзімер», — паўта-

раеш ты, ужо адчуваючы цеплыню ейнае рукі. Жанчына — у зялёным халаце, але гэтае зяленіва не такое, як там, на дне. Яно сонечнае, як і рыжыя валасы, што выбіваюцца з-пад зялёнага каптурыка.

Жанчына калісьці выштурхнула цябе зь неіснаваньня. Цяпер, зь няпамяці, цябе таксама вярнула жанчына, якая тваім імем зьвязала нітачку, што лучыць зь сьвядомасьцю. Гэтае просьценькае разважаньне зьнясільвае цябе, і ты засынаеш.

У сьне ты ўжо ведаеш, як цябе клічуць. Час ад часу ты прахопліваесься, і кожнае новае засынаньне ўсё спакайнейшае. Мо таму, што і тут, у працягах твайго сну, нязьменна прысутнічае жанчына, падобная на дарослую дзяўчынку. Яна то ідзе вуліцаю насустрач і ўсьміхаецца табе шчасьлівай усьмешкаю ад вуха да вуха, то нахіляецца да цябе і хутка кранае вуснамі лоб — нібы на яго палахліва апускаецца і ўзьлятае мятлушка.

Нарэшце сон канчаткова набывае цьвярозую сьветлыню й празрыстасьць. Па падвоканьні лапоча дождж, а ты валяесься ў вялізным утульным ложку з жанчынаю-дзяўчынкай, што сустракала цябе на вуліцы ўсьмешкаю да вушэй, і робіш зь ёю тое, што жадаецца табе і чаго прагнецца ёй, і расказваеш ёй, што ты зь ёю робіш у гэтую хвіліну і што будзеш рабіць пасьля, і просіш яе таксама расказваць пра тое, чым вы займаецеся, расказваць, называючы рэчы сваімі імёнамі. І яна, спачатку бянтэжачыся, згаджаецца і гаворыць гарачым духмяным (табе хочацца сказаць — ліпеньскім) шэптам, знаходзячы свае словы — невымоўна пяшчотныя і неверагодна грубыя, якія нараджаюць новую хвалю пяшчоты, што конча выносіць цябе на бераг рэчаіснасьці.

І там, на беразе, дзе цябе пакінула сьветлая хваля сну, чакае жахлівае адкрыцьцё. Толькі што, у дажджлівы дзень зь вялізным ложкам, ты валодаў уласным целам, як юны антычны бог, а цяпер ператварыўся ў пачварнае брыдкае стварэньне, прыпятае да ложку трубкамі і трубачкамі, што нібыта мусяць табе дапамагчы. Напрыклад, ты выбачаесься, — пасікаць.

Доктар супакойвае: гэта на суткі, найбольш на двое. Іначай будзе вельмі балюча. Але ўжо ўвечары ты не вытрымліваеш. А раптам за ноч трубкі пусьцяць карэньчыкі і назаўсёды прырастуць да тваёй істоты. Цябе скаланаюць жах і агіда, ад якіх цела робіцца здрадліва бязважкім. Ты моліш доктара хутчэй выдаліць зь цябе ўсё іншароднае прычындальле. Будзе вельмі балюча, паўтарае доктар. Вельмі. У цябе сьвежая рана. Ты не адступаесься, і доктар здаецца.

Праз колькі хвілінаў ты стаіш на ўласных нагах над унітазам і сікаеш крывёю й болем. Ты згадваеш улюбёны загаловак рэдактара газэты, дзе некалі зарабляў на жыцьцё, — «Крылы мацнеюць у палёце». У нейкі момант свайго «палёту» ты амаль губляеш прытомнасьць, але выгляд крыві ўзбадзёрвае. Кроў сьведчыць, што ты — жывы.

Стаіш над унітазам і адчуваеш сябе амаль шчасьлівым. Тваё цела зноў належыць табе.

### Памерці, каб скараціць выдаткі

Часам ты думаеш, што ўсе афарызмы — ня больш, чым прыгожая хлусьня. Асабліва афарызмы пра сьмерць. Скажам, вось гэты: «Шлях у падземнае царства адусюль аднолькавы» (Цыцэрон). Няўжо ён аднолькавы ў правадыра гунаў Атылы, які сышоў у Аід проста з гарачых абдымкаў сваёй юравабнай Ільдэкі, і ў старога, што паміpае за сьценкай — няголены, з запалымі ледзь не ў сярэдзіну чэрапу вачыма, з рукамі-бізунамі, якія сутаргава чапляюцца за нікеляванае білца. Зірнуўшы на такое відовішча, Гарацы, безумоўна, зразумеў бы, што рэкнуў абы-што: маўляў, сьмерць да ўсіх стукаецца аднолькава. А Жуль Рэнар аднойчы, відаць, з бадуна, дагаварыўся да таго, нібыта атрымаўшы неўміручасьць, мы б у роспачы штодня рабілі спробы самагубства.

Твой здаровы скепсіс, відаць, вынікае з таго, што табе ўжо даводзілася ад абстрактных разважаньнў пра

сьмерць пераходзіць да жывых узаемазацікаўленых дыялёгаў з згаданай мадамай.

Памятаецца, Сэнэка дзеля пераадоленьня страху сьмерці раіў кожны дзень думаць пра яе. Сэнтэнцыя досыць сумнеўная, ды паспрачацца з выхавальнікам імпэратара Нэрона замінаюць крыкі з-за сьценкі.

Ты клічаш мэдсястру, але яна адмаўляецца й пасылае ў палату санітарку. «Ну што ты, дзед, шуміш, — кажа тая. — Нічога мы табе ня зробім. Не шумі». Ня выключана, што гэта астатнія словы, што данясуцца да сьвядомасьці старога. У калідоры немаладая зьнябытая санітарка незласьліва дадае: «Як вы ўсе ўстылі, блядзі».

Хтосьці заўважыў, што памерці — значыць перастаць паміраць, чаго ты шчыра зычыш пякельна спакутаванаму суседу. У тваёй палаце цяпер нікога няма, і ты ўпершыню пасьля апэрацыі дазваляеш сабе пяць глыткоў віна, замаскаванага пад кока-колу.

З дна плястыкавай бутэлькі вынырвае самае мудрае «сьмяротнае» выслоўе, якое ты калі-небудзь сустракаў: памерці, каб скараціць выдаткі. Пра завяршэньне зямнога шляху трэба пісаць ня толькі з павагай, але і з гумарам. Прынамсі, табе хочацца, каб пра твой сыход напісалі менавіта так.

Пакуль што ты занадта слабы і хутка хмялееш. Таму назоў, прыдуманы для прысьвечанага табе тэксту з подпісам «Група таварышаў» нельга назваць шэдэўральным — «Ён больш не запоўніць падатковай дэклярацыі».

## Пацалунак бязвусага

Дыяна прыносіць табе кропельніцу з антыбіётыкам і глюкозай. А што будзе, калі ў гэты кактэйль дадаць грамаў сто сухога францускага віна? Сястрычка не адказвае і наагул трымаецца сувора й непадступна. Як быццам і не яна ўчыняла табе перад апэрацыяй незабыўныя агледзіны пасьля галеньня, а потым тымі самымі таленавітымі ручкамі ставіла клізму (пасьля чаго ты зразу-

меў, як пачуваўся біблійны Адам, калі ўжо быў створаны, але яшчэ не пасьпеў нічога зьесьці).

Ты таксама з задавальненьнем паставіў бы зараз Дыяне клізму або зрабіў нейкую іншую лекавую працэдуру, але пакуль мусіш назапашваць імпэт, бавячы час з агорклым немудрагелістым апаратам.

Зрэшты, ты несправядлівы да кропельніцы. Яна, між іншым, нагадвае клепсыдру. Розьніца ў тым, што, калі бутлік апусьцее, назад у яго зь цябе нічога не пакропае. Твая істота паглыне гадзіну часу разам з празрыстымі кропелькамі, якія яе адлічвалі, і народзіць думку, што іх, гадзінаў, застаецца ўсё меней, але насуперак элемэнтарнай лёгіцы, іхняя вартасьць зусім не расьце. Яна непараўнальна меншая, чым у юнацтве. Тады ад якойсьці гадзіны магла залежаць лінія лёсу. Нешта магло фатальна не адбыцца, ня зьдзейсьніцца. Цяпер ад яшчэ адной сплылай у невараць пустой гадзіны, як і ад безьлічы іншых, у прынцыпе нічога не залежыць.

Нічога ў жыцьці ты ўжо ня зьменіш, ніякіх новых магчымасьцяў табе не адкрыецца. Вось прыйдзе Дыяна, ты дасі ёй шакалядку з арэхамі, адвернесься да сьцяны й паспрабуеш заснуць.

Ты заваяваў сабе права не берагчы час і не выціскаць зь яго максымуму, кажа ў табе нехта стамлёны і мудры. Аднак неспадзеўкі ў яго зьяўляецца даволі бадзёры апанэнт.

Вось вернецца Дыяна, нашэптвае ён, і ты прапануеш ёй парушыць спартовы рэжым. Хіба кепска на начным дзяжурстве выпіць шкляначку добрага вінца з хворым, які дзень пры дні ўсё менш выдае на дахадзягу.

У тваёй клепсыдры застаюцца апошнія кроплі. Прамінула роўна 60 хвілінаў, і ў калідоры чуюцца сястрыччыны крокі. Покуль адчыняюцца дзьверы, у цябе ўжо не ўпершыню мільгае думка, што такая жанчына ня будзе спазьняцца на спатканьні.

Дыяна захоўвае непрыступны выгляд, але ён ужо робіцца стымулам. Калі сястрычка выцягвае з тваёй вены шпрыц, ты асьцярожна накрываеш яе руку сваёй

далоняй і, натапырыўшы вусы, пачынаеш: «Вы ведаеце, што пацалунак бязвусага — як суп бяз солі?..»

## Канібалы — за нас

Калі надыходзіць ачуняньне?

Калі сярод ночы прачынаесься ад жаданьня.

Калі просіш прынесьці з дому новы альфабэтнік і бярэсься перапісваць з зацухмоленага старога адрасы й тэлефоны знаёмых.

Калі хочацца, як у дзяцінстве, схаваць адзеньне пад перакуленай лодкай і пераплысьці туды і назад Дзьвіну.

Калі пачынае цягнуць у падарожжа куды-небудзь у Барсэлёну ці на Сыцылію.

Калі прагнецца выпіць пляшачку, а то і дзьве рэдкага ў тваіх шыротах віна.

Паўднёваафрыканскага — з даўкім сухаватым прысмакам прозы Джозэфа Кутзэе і фантазіямі пра львоў, што любяцца сярод вінаграднікаў.

Новазэляндзкага — уяўляючы, што акурат такі віном тубыльцы-маоры, вытанчаныя канібалы-гурманы, запівалі засмажаныя філейныя часткі белых калянізатараў.

А найлепей — прапусьціць праз сваю істоту колькі шклянак аўстралійскага — з успамінамі пра адзіную знаёмую табе жыхарку паўднёвай паўкулі, якая зрэдзьчас прысылае табе лісты і здымкі (што пакуль не катастрафічна адрозьніваюцца ад навечна сфатаграфаванага тваёй памяцьцю дзявочага аблічча) і просіць, каб і ты пісаў ёй, бо інакш яна зусім забудзе сярод кенгуру і качканосаў мову, якой калісьці ты навучаў яе, нязьменна завяршаючы ўрокі практычнымі заняткамі.

Ачуняньне надыходзіць, калі карціць прапанаваць тост за юравабнасьць як найлепшае віно для свабодных сэрцаў.

Калі вабіць пісьмовы стол, на якім здаралася і яшчэ здарыцца столькі неверагоднага...

*2004*

# Паліхромная Брытанія

*Празаічныя зацемкі з паэтычным постскрыптумам*

Эмануэль Свэдэнборг верыў, што пад Лёнданам знаходзіцца яго падземны адбітак — горад з тымі самымі пляцамі, вуліцамі, прытонамі й піўніцамі, але населены нябожчыкамі, якія пакрысе ператвараюцца ў анёлаў або дэманаў.

Трэба меркаваць, што за два з паловаю стагодзьдзі сам вучоны і містык ужо набыў адпаведнае Божай волі канчатковае аблічча і, ня выключана, таксама рухаецца цяпер у такт маім вечаровым крокам па тагасьветным лёнданскім раёне Фінчлі, кіруючыся ў тамтэйшы паб «The Torrington», куды, хочацца спадзявацца, пускаюць як дэманаў, так і анёлаў — каб апошнія не адрываліся ад народу.

У згаданай установе я зь яшчэ большай надзеяю думаю, што зьмены ў гэтых Лёнданах-блізьнятах адбываюцца ўсё ж не сынхронна, і няхай хоць бы знакаміты швэд засьпее стары ўтульны інтэр’ер з учарнелымі дубовымі панэлямі ды ліпучымі ад «Гінэсу» сталамі, якія — на гэтым сьвеце — чулі некалі галасы архімандрыта Льва Гарошкі, пісьменьніка Кастуся Акулы і мой уласны голас, калі ягоны ўладальнік да краёў наліваўся густым і цёмным ірляндзкім пітвом, не падазраючы, што празь дзесяць гадоў убачыць тут нешта накшталт менскай «Крыніцы», якая бруіцца на праспэкце Скарыны трохі наўскос ад КГБ.

Пасьля наведаньня дзясятка пабаў, зь якіх дзевяць ужо зьнявечаныя пад «стандарт», маніцца паслаць на неба блюзьнерскую sms’ку прыкладна такога зьместу: «Госпадзе, якую б іпастась ты ні абраў для мяне, я — і анёлам, і дэманам — буду антыглябалістам».

* * *

Некалькі прафэсараў-славістаў, якія часам выступаюць як экспэрты ў праблемах Усходняй Эўропы, а значыць, і маёй краіны, уважліва прагледзеўшы відэастужку зь менскімі вулічнымі акцыямі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, з хвіліну занепакоена пераглядваюцца. Нарэшце адзін з вучоных мужоў фармулюе агульнае пытаньне: ці няма ў гэтых дэманстрацыях і мітынгах нечага расісцкага? Адказваю непаразумелым позіркам, і прафэсар тлумачыць: яны ня ўбачылі сярод удзельнікаў ніводнага цёмнага твару.

Адразу ўспамінаецца, што ў клясе, дзе вучыцца сын лёнданскага прыяцеля, усяго трое белых — роўна стольські, колькі было ў вагоне падземкі, калі ехаў на сустрэчу з экспэртамі.

Захад абавязкова дапаможа маёй сінявокай краіне.

У выніку гэтае дапамогі менскія вуліцы імя клясыкаў марксізму, відаць, аблюбуюць жаўтаскурыя браты па розуме. Учора некалькі дэлегацыяў якраз такога колеру доўга заміналі мне зь сябрамі даступіцца да Марксавага надмагільля на Гайгэйцкіх кладах, каб учыніць невялікі пэрформанс з прывезенай здалёк постмарксісцкай газэткай, пляшачкай і, на жаль, без забытага кавалка бел-чырвона-белага сала.

Духоўныя спадкаемцы Ўсамы бэн Ладэна, пэўна, атабарацца на Камуністычнай, дзе некалі быў прапісаны Лі Гарві Освальд, якому малады Станіслаў Шушкевіч, калега з радыёзаводу, на заданьне начальства даваў урокі расейскай мовы. Цікава, а што прычынілася б, каб Станіслаў Станіслававіч узяўся вучыць амэрыканскага таварыша па-беларуску? Можа, колішні жыхар дому № 4 абраў бы прыцэлам ня Джона Кенэдзі, а каго іншага?

* * *

Кожны раз у лёнданскім супэрмаркеце прыгадваю, як Адам Мальдзіс у сваім «Англійскім дзёньніку» з выдадзенай за савецкім часам кнігі пра літаратуразнаўчыя вандраваньні пісаў пра цяжкую тутэйшую жытку да-

кладна наступнае: «Мясныя вырабы бяруць маленькімі порцыямі — па 50, а то і 20 грамаў». І штораз пачынаю разважаць, чыя рука вывела гэтыя радкі, прасякнутыя нясьцерпным болем за пазбаўлены паўнавартаснага харчаваньня ангельскі люд: ці то куратара кнігі з камітэту дзяржбясьпекі, ці то самога шаноўнага навукоўца, што, мабыць, мог сабе дазволіць у капіталістычным пекле ўзяць на папаску не празрысты мясны скрылёчак, а адразу паўкілі?

* * *

Знаёмы мясцовы бізнэсовец Васіль (зь ягонага офісу адкрываецца шыкоўны выгляд на сабор Сьвятога Паўла) жанаты з латышкаю Антрай. Зь дзецьмі яны вырашылі размаўляць кожны на сваёй мове. У выніку, упершыню сутыкнуўшыся зь вялікім сьветам за сьценамі роднага дому, старэйшы з нашчадкаў зрабіў адкрыцьцё, якое ўразіла ягоную душу мацней за найшчадрэйшы калядны падарунак. Выявілася, што чалавецтва зусім не падзеленае на дзьве прыблізна роўныя паловы, адна зь якіх, жаночая, гаворыць па-латыску, а другая, мужчынская, — па-беларуску.

* * *

Кембрыдж застанецца ў памяці залевай, што ўскаламуціла па-ўнівэрсытэцку засяроджаны Кем зь яго рамантычнымі мастамі. Магілы Фрэнсіса Бэкана ды Ісака Ньютана, папраўдзе, кранулі душу нязьмерна менш, чым жывы, румяны і ўжо слынны ў сваіх колах біёляг Вадзім, што залучыў на сустрэчу зь беларускімі візытантамі ня толькі братоў-славянаў, але і выкладчыка-вэнэсуэльца, які так праняўся нашай праблематыкаю, што выпіў большую частку Вадзімавых запасаў тэкілы й віскі, пасьля чаго, запіўшы іх чырвоненькім, паклікаў мяне на кухню й даў параду на наступных прэзыдэнцкіх выбарах галасаваць за іншага кандыдата.

Аднак мушу нясьціпла ды эгацэнтрычна прызнацца: усе падзеі дня і не зусім цьвярозай ночы сьцьмелі

ў параўнаньні з тым фактам, што першаю кнігай, якую прачытаў па-беларуску малады сьветач айчыннай біялёгіі, былі «Таямніцы полацкай гісторыі».

* * *

Чаго ў ранейшыя прыезды сюды не заўважаў, дык гэта лёндanскіх пальмаў. А ў прыморскім Маргэйце наагул можна ўявіць, што ты ня ў Англіі, а дзе-небудзь на Кіпры.

Тут, у Маргэйце, жывуць ангелец Джым і беларуска зь Менску Эла, якая ёсьць яшчэ адным пацьверджаньнем адвечнай, з часоў Рагнеды, пасіянарнасьці нашых жанчын, што ў дадзеным выпадку выяўляецца, у прыватнасьці, у беларускай мове народжаных у Англіі Эліных дачок Алены й Аляксандры.

У садзе пры доме вядзецца саракагадовая жаўла. Кажуць, асобіны гэтага віду затрымліваюцца на сьвеце гадоў па дзьвесьце, таму нельга адназначна сьцьвярджаць, што людзі трымаюць жаўлу. Магчыма, сама жаўла — і небеспадстаўна — думае, што гэта яна трымае (ці трывае) чатырох уладальнікаў асабняку — толькі часовых спадарожнікаў ейнага пакуль бесклапотнага юнацтва.

Жаўле няма куды сьпяшацца, і яна адмаўляецца ад вандроўкі ў Дувар ды лёгкай пачосткі пад акампанэмэнт прыбою. Экраны мабільных тэлефонаў паведамляюць, што мы знаходзімся ўжо ў Францыі. Між тым, дзесьці за марскім даляглядам яшчэ ляжаць ангельскія выспы, якія ў Другую сусьветную вайну былі занятыя немцамі. Жыхары выспаў арганізавана здалі акупантам сваіх габрэяў, пашыліся ў калябаранты ды спакойна чакалі вызваленьня.

* * *

Ангельцы чамусьці ня любяць згадваць пра няхай не маштабны, але яўны суўдзел астраўных суайчыньнікаў у Галакосьце. Не выклікаюць прыліву энтузіязму і пытаньні, чаму ў траўні 1945-га старая добрая Брытанія,

парушыўшы ўсе канвэнцыі й гарантыі, выдала Савецкаму Саюзу на верную сьмерць казацкі стан атамана Даманава — 20 тысяч чалавек з улікам жонак, дзяцей і старых. Казакі згаджаліся здацца адно брытанцам, і тыя прысягнулі, што бальшавікам іх не аддадуць.

Што праўда, выдалі ня ўсіх — шмат хто пасьпеў скончыць самагубствам або загінуў пры супраціве. З тысячаў выратаваліся адзінкі. 80-гадовага героя Першай сусьветнай генэрала Краснова, што, як і большасьць палонных казакоў, ніколі ня быў савецкім грамадзянінам, павесілі ў Маскве «за здраду». Самога Даманава энцыкляпэдыя «Брытаніка» проста (дакладней, якраз ня проста) ня згадвае, а здрадніцкія паводзіны Лёндану тлумачыць ялцінскімі пагадненьнямі.

Менавіта пра гэтыя пагадненьні піша сьвежы «Лондонский курьер». Аўтар б’ецца над загадкаю: чаму Масква пайшла на вяртаньне Захаду «сваёй» часткі Аўстрыі? Разумела ж, што адкрыюцца вусьцішныя факты. Напрыклад, тое, што ў год перамогі ў Вене не засталося ніводнай не згвалтаванай вызваліцелямі жанчыны.

Ялту журналіст трактуе як першую здраду брытанцаў і амэрыканцаў. Чэрчыль ведаў, што чакае ўсходнеэўрапейскія краіны пад ярмом Масквы, але пагадзіўся аддаць іх Сталіну. Казакі — другая здрада.

Карацей, рэпутацыя брытанскіх джэнтэльмэнаў як самых справядлівых і бесстароньніх на сьвеце ня раз трапляла ў XX стагодзьдзі пад сумнеў. І таму, аддаючыся ў рукі ангельскага правасудзьдзя, чачэнскі прэм'ер у эміграцыі Ахмэд Закаеў, безумоўна, рызыкаваў. Аднак гэтым разам Масква прайграла. Суд прызнаў хлусьлівымі паказаньні абсалютна ўсіх сьведкаў абвінавачаньня, улучна з расейскім міністрам, а сытуацыю ў Чачэніі назваў не барацьбой з тэрарызмам, а вайной за незалежнасьць або — грамадзянскай (фармулёўка прысуду дазваляе абедзьве інтэрпрэтацыі).

Застаецца дадаць, што ўжо тут, у Лёндане, Закаеў мог чытаць маё эсэ пра незалежнасьць, перакладзенае летась на чачэнскую мову Зэлімханам Яндарбіевым,

што калісьці разам зь Леанідам Галубовічам вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве.

* * *

Адна рэч, калі госьці з, так бы мовіць, мэтраполіі сустракаюцца з эмігрантамі, якія й наладзілі візыт, і зусім іншы каленкор, калі ў цэнтры Лёндану арандуецца заля, а абвесткі пра літаратурную вечарыну з платным уваходам разьмяшчаюцца ў мясцовай расейскай, польскай ды ўкраінскай прэсе (беларускай проста няма).

Сэрца кранае мэнтолавы халадок: як паводзіцца, калі ня прыйдзе ніхто? Што ім, у сталіцы Злучанага Каралеўства, няма куды пайсьці і няма чаго ўзяць на вечар? З другога боку, а раптам зьявяцца пэрсоны зусім невядомыя ці, наадварот, вядомыя з партрэтаў на газэтных старонках?

Не, дзівосаў (калі не лічыць, што заля запоўненая) не здараецца. Ахмэд Закаеў зь Барысам Беразоўскім занятыя іншымі справамі, хоць, трэба сказаць, кожны мае да маёй разнажанравай пісаніны нейкае дачыненьне. Расейскі алігарх, да прыкладу, некалі кіраваў выканкамам СНД, прычым быў прызначаны на пасаду ў той момант, калі ў 1997-м Беларускі гуманітарны ліцэй адбіваў першы націск уладаў. На менскі стол Барыса Абрамавіча лёг напісаны мною ад імя бацькоў зварот, на які алігарх наклаў рэзалюцыю: разабрацца. Гэты ход адыграў тады нібыта вырашальную ролю і ліцэй быў на год выратаваны.

Тамары Віньнікавай у залі таксама няма (ну, хіба што прыйшла з накладной барадой).

Затое прысутнічае літоўскі кінадзеяч Саўлюс, сэрца якога дагэтуль вярэдзяць праблемы гістарычнай ды этнаграфічнай прыналежнасьці Вільні й Віленскага краю. Наўрад ён разьлічвае знайсьці ў беларускага пісьменьніка гарачую падтрымку, аднак не пасьпяваю раскрыць рот, каб прамовіць нешта талерантнае, як падымаецца тутэйшы прадпрымальнік Тадэвуш, што некалі трымаў там, у Вільні, кавярню. Яго сьпіч прымушае Саўлюса

ўсклікнуць: «Каким ужасным белорусским шовинизмом повеяло на меня от ваших слов!»

«Беларускі шавінізм» — нешта новае. Можа, гэта ўсьцешлівая прыкмета ачуняньня нацыі?

Але сапраўдным аздабленьнем сустрэчы робіцца выдатна захаваная жыхарка Лёндану — з тых, што ў вайне з Хронасам пераходзяць у пасьпяховыя контратакі і ў семдзесят здаюцца саракагадовымі. Прыгажуня без узросту вельмі празрыста намякае, што пэўны час была музай Андрэя Макаёнка й згадвае, як слаўна яны з Андрэем ды Іванам Пятровічам «куролесили». Для неабазнаных у беларускім літаратурным працэсе дама ўдакладняе, што Іван Пятровіч — наш «классик» Іван Шамякін.

Як потым высьвятляецца, у залі затаіўся і консул беларускае амбасады. «Сьмяяўся там, дзе трэба», — камэнтуе наяўнасьць адказнай асобы наш шаноўны перакладчык доктар Джым Дынглі.

* * *

Трафалгарскі пляц выглядае пустэльна й сумна. Мэрыя забараніла турыстам карміць тут галубоў. Птушкам, адпаведна, забаронена на пляцы зьбірацца. Кара (для бяскрылых) — 50 фунтаў. Пастанова грунтуецца на тым, што галубы прыносяць гістарычнай спадчыне шкоду. Чым — нескладана зразумець, калі ўспомніць, як у Менску раз-пораз мыюць з брандспойту засраны помнік таварышу Дзяржынскаму. (Ужо гадоў дзесяць каля яго не даводзілася бачыць аніякіх кветак, адно гаўно.)

Лёнданскіх галубоў разганяюць з дапамогаю мэгафонаў і адмыслова навучаных сокалаў. Прэса піша, быццам з ранейшых пяці тысяч птушак на пляцы застаецца блізу дзьвюх сотняў самых зацятых, што нагадвае колькасныя суадносіны ўдзельнікаў колішніх і цяперашніх акцыяў роднай апазыцыі.

На поўдзень ад калёны адмірала Нэльсана нібыта ёсьць мясьціна, што юрыдычна не належыць да тэрыторыі пляцу, і туды, як сьцьвярджаюць знойдзеныя

птушынымі сябрамі дакумэнты, галубам можна зьлятацца законна й беспакарана. Гэткі тамтэйшы птушыны Бангалор.

* * *

Галерэя Тэйт, што на пачатку 1990-х здалася своеасаблівым падручнікам авангардызму, пасьпела клянавацца. Новая галерэя, у якую ператвораныя карпусы былога заводу ці электрастанцыі, найбольш уражвае інсталяцыяй у галоўнай залі: з тэрасы на другім ярусе гляджу на агромністае «сонца», залацістую смугу, дзе губляецца высачэзная столь, і на сахарскі краявід на доле, пасярод якога, падклаўшы пад галаву заплечнік, прывольна разьлеглася аматарка мастацтва з поклічна раскінутымі нагамі. Не хапае толькі мяне.

* * *

На вячэру да найбуйнейшага ў ангельскамоўным сьвеце спэцыяліста ў беларускай літаратуры прафэсара Арнольда Макміліна мы кіруемся ў кампаніі найбуйнейшага (ува ўсім сьвеце наагул) адмыслоўца ў беларускіх вуніяцкіх сьпевах Гая дэ Пікарды. На аўтобусным прыпынку каля гатэлю, дзе некалі спыняўся Ленін (наш вучоны спадарожнік ніколі не праміне назваць Ільліча «сімбірскім сыфілітыкам») спадар Гай зьнячэўку пачынае сьпяваць песьні італійскіх і нямецкіх фашыстаў. Маленькі імправізаваны канцэрт сьведчыць: нялюдзкія ідэалёгіі (хоць Мусаліні супроць Гітлера — гэта як цацачны воўк перад ваўком сапраўдным) нараджаюць вельмі нават мілагучныя творы, якім наканавана жыць шматкроць даўжэй за сваіх «мацярок». *Ars longa!*

* * *

Мне не выпадала спаткаць прафэсара, якога Бог надзяліў бы гумарам шчадрэй за Макміліна. Адна зь вельмі нешматлікіх рэчаў, цалкам сур’ёзна паведамленых гаспадаром падчас вячэры, — той факт, што ў сваёй

гісторыі сучаснай беларускай літаратуры ён толькі што скончыў разьдзел, прысьвечаны паэзіі Анатоля Сыса.

Першая жонка Макміліна, ангелька, у разводным пратаколе напісала, што сабак муж любіў болей за яе. Шлюб з другой, Сьвятланай зь Пецярбургу, атрымаўся, як выглядае, шчасьлівейшым. Магчыма, і з тае прычыны, што нідзе ў Англіі іхні нацыянальны падмацунак — засмажаная барановая нага — не была згатаваная нам настолькі смачна.

* * *

Пра гэта ня надта хочацца, але трэба напісаць: у лёнданскай Беларускай бібліятэцы імя Скарыны, дзе ўчора я гартаў сьвежы нумар «Нашай Нівы» і ломкія старонкі, што могуць памятаць рукі самога першадрукара, усё часьцей агортвае трывога. Што будзе зь бібліятэкай і з усёй Беларускай каталіцкай місіяй, зь лёнданскім «Домам марыянаў»?

Айцец Аляксандар Надсан у сваіх публікацыях давёў, што беларуская ахвярнасьць марыянаў — шмат у чым толькі прыгожы міт — пачынаючы ад, далікатна кажучы, непрыстойнай гісторыі з дыямэнтавым калье Магдалены Радзівіл (княгіня-мэцэнатка мусіла нават прыгадаць сёмае Божае прыказаньне) да перадачы Ватыкану набытай на сродкі беларускіх эмігрантаў зямлі й маёмасьці Каталіцкай місіі.

Пры ўсім даволі складаным стаўленьні да апошняй хвалі эміграцыі, хочацца кінуць на новых ангельскіх беларусаў позірк, поўны надзеі, верачы, што паміж гэтых людзей ня толькі аматары ўежна ўладкавацца (і той, хто нядаўна выкраў зь бібліятэкі бясцэнныя скарынаўскія выданьні), але і тыя, дзякуючы каму яшчэ праз дзесяць гадоў на парозе дому № 37 на Holden Road у раёне Фінчлі мяне не сустрэне насьцярожаны позірк тамтэйшага магамэтаніна, зь якім нават ня вып’еш захопленую ў вандроўку пляшку «Беларускага бальзаму».

## У Англіі

*У Англіі ёсьць каралева*
*і ветлівыя палісмэны.*
*У Англіі*
*жывуць шэрыя вавёркі*
*і гарадзкія лісіцы.*
*У Англіі*
*смачныя пірагі з ныркамі.*

*У Англіі*
*ёсьць магіла Карла Маркса,*
*якую можна заслаць*
*газэтай «Советская Б.»*
*і выпіць,*
*каб капіталісты ўсіх краінаў*
*зьядналіся.*

*У Англіі*
*растуць магноліі,*
*а на сьняданак бываюць*
*сьвежыя суніцы.*

*Але ў Англіі*
*няма цябе,*
*і твайго*
*зьлёгку санлівага позірку,*
*і тэлефонаў з тваім голасам.*
*У Англіі*
*няма прэзыдэнта*
*і Таварыства ангельскай мовы*
*імя Ўільяма Шэксьпіра.*
*У Англіі*
*няма плаўленых сыркоў*
*і burштынавага напою «Крыжачок».*

*Але ў Англіі*
*няма цябе,*
*і тваіх нестандартных ножак,*
*і адважнай фрызуркі,*
*што марыць*
*зусім не пра грабеньчыкі.*

*У Англіі*
*ёсьць магчымасьць застацца*
*і піць каву на Пікадылі,*
*стаць сваім сярод галубоў*
*Трафалгарскага пляцу*
*і паіць «Гінэсам»*
*знаёмую лісіцу*
*ў раёне Фінчлі.*

*Але ў Англіі*
*няма цябе,*
*і твайго шэпціку,*
*сатканага з самых пяшчотных*
*і самых грубых слоў,*
*што казычуць вуха*
*пёркамі дзівосных фантазій.*

*А таму*
*я купляю для нас зь лісіцай*
*пляшку ірляндзкага лікёру,*
*і мы абыходзімся*
*бяз закусі.*
*Лісіцы ня плачуць,*
*толькі даверліва глядзяць у вочы.*

*Пад белымі скаламі Дуўру*
*нецярпліва чакае паром,*
*дзе я вып’ю за тое,*
*што пада мною свойскі Ля-Манш,*
*які рыфмуецца з словам «наш»,*
*а тады накіруюся ў WC, каб,*

*пабыўшы алегорыяй крыніцы,*
*учыніць дэфлярацыю*
*цнатліва белай ангельскай сьцяны.*
*Аднак гэта ўжо зробяць да мяне.*
*О, жывы подых радзімага кантынэнту!*
*На ім няма Англіі,*
*але ёсьць ты,*
*і дзесьці за Францыяй і Галяндыяй,*
*за Бэрлінам і Варшавай,*
*за Івацэвічамі і Койданавым*
*ты стаіш ля вакна*
*з келіхам у тонкай*
*цёплай руцэ*
*і чуеш, як родны памежнік*
*кажа мне:*
*«Здравствуйте!»*

*2004*

# Два дні ў Парыжы

Позна ўвечары выходзіш з аўтобуса ў густа населеную цыкадамі, цёплую, сухую і нейкую сьветла-празрыстую цемру, глядзіш у далеч, на вясёлыя агні Ніццы, што сваімі выцягнутымі ўсьцяж вуліцаў ланцужкамі нагадваюць гірлянды лямпачак на велізарнай сьвяточнай яліне, і зь нечаканым лёгкім хваляваньнем успамінаеш, што зусім блізка адсюль жыў Іван Бунін, які ў такую самую месяцавую правансальскую ноч мог вось пад гэтымі кіпарысамі, быццам выразанымі з самой цямрэчы майстрам выцінанкі, абдымаць Галіну Кузьняцову, шукаючы старэчымі, але яшчэ жывымі і прагнымі пальцамі яе гарачае лона.

Адкінуўшы аўтобуснае крэсла і накрыўшыся пледам, утульна думаеш, што заўтра прачнесься ў Парыжы і, ужо закалыханы горнай дарогаю, заўважаеш паваротку на Грас і спрабуеш уявіць белы дом на гары, Галіну, што прыйшла ў жыцьцё Буніна зь яшчэ ненапісаных «Цёмных прысадаў», іхнія заняткі літаратурай і ўсім астатнім…

* * *

Паводле капрызу падсьвядомасьці, у гэтую ноч сьніцца ня штосьці французскае, бунінскае, эратычнае, а сон, усімі каранямі ўрослы ў далёкае, беларускае, менскае. Цяжка даць веры, але табе сьняцца Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. Праўдзівей, не жывыя гістарычныя пэрсанажы, а іх адлюстраваньні ў сучаснасьці — скульптурная кампазыцыя ў сквэры Белдзяржунівэрсытэту. Адзінае лягічнае тлумачэньне сну ў тым, што згаданая паркавая скульптура табе вельмі даспадобы сваёй чалавечай набліжанасьцю да мінакоў. Ты маеш да аўтара адзіную, хоць і істотную прэтэнзію, і з табой пагодзіцца кожны, хто на хвіліну спыняўся каля Сымона й Васіля, што выгодна ўладкаваліся пад сьценамі alma mater на нечым накшталт куфра: помніку вострa бракуе масянжовай пляшкі й кубкаў.

* * *

Прачнуўшыся, ты як на злосьць ня памятаеш, ці была гэтая пляшка там, у сьне. Наўзамен прыгадваецца, што Будны з абурэньнем пісаў пра тое, як адны жыхары гораду, прадмесьці якога ўжо мільгаюць за вакном, неяк у ноч на сьвятога Барталямэя натхнёна перарэзалі тры тысячы іншых жыхароў — сваіх суседзяў-гугенотаў. Утруціўся ў мокрую справу і кандыдат на трон вялікага князя й караля тваіх продкаў Гэнрык Валезы, які мусіў даваць потым пісьмовыя гарантыі, што нічым падобным у вас займацца ня будзе, і ўрэшце быў каранаваны. Але не прайшло й чатырох месяцаў, як манарх, не разьвітаўшыся з прыдворнымі, выйшаў у глухую начную пару з палацу і, з смакам вылаяўшыся на абедзьвюх дзяржаўных мовах, растлумачыў фурману на жудаснай ліцьвінска-францускай і лацінска-польскай трасянцы, што ніякі ён, кароль, ня Гэнрык Валезы, а народжаны Анры Валюа, а таму гані, пся крэў і сабачая костка, у Парыж, дзе адкрылася каралеўская вакансія.

Гэтым самым шляхам двойчы кіраваўся, толькі ўжо не на радзіму, а на чужыну, іншы гаспадар тваёй Айчыны, хаўрусьнік швэдаў Станіслаў Ляшчынскі. Першы раз — пасьля Палтаўскай бітвы, другі — праз чвэрць стагодзьдзя, калі зноў быў законна абраны каралём і вялікім князем, але пецярбурскія «куратары» не ўхвалілі гэткага выбару і далі загад генэрал-фэльдмаршалу Мініху працягнуць заходнім суседзям руку інтэрнацыянальнай дапамогі, у выніку чаго на трон узышоў саксонскі курфюрст Аўгуст III, той самы, які за грошы тваіх продкаў сабраў славутую калекцыю Дрэздэнскай галерэі.

Трэба сказаць, што ў выгнаньні яго каралеўская мосьць Станіслаў уладкаваўся вельмі нават няблага: атрымаў у пажыцьцёвае кіраваньне герцагства Лятарынгію, а яшчэ раней выдаў замуж за францускага калегу Люі XV дачку Марыю Караліну Соф’ю Фэліцыю, жанчынку спрытную й бяз комплексаў. «Завіце мяне проста Фэля», — сказала яна сужэнцу і пачала вырабляць у спальні такое, што неўзабаве ейны зьнясілены

«козьлік» мусіў шукаць спачыну ў халаднавата-развażлівых абдымках вэрсальскіх красуняў, спыніўшыся нарэшце на мадам Пампадур (зь якой ягоная юравабная Фэля здолела хутка й немаведама на якой глебе пасябраваць). Бацька каралевы тым часам досыць цывілізавана эксплюатаваў лятарынскія народныя масы, прыцягнуў у герцагства інвэстыцыі, заняўся філязофіяй, але аднойчы, настальгічна прыгадаўшы Бацькаўшчыну, хапянуў лішняга й соладка заснуў пры каміне. Відаць, экс-манарх сьніў штосьці надзвычай прыемнае, бо не захацеў прачынацца, нават калі ўспыхнула адзеньне.

Застаецца суцяшацца тым, што ў сваім апошнім сьне ваш чалавек у Лятарынгіі прынамсі ня мёрз.

* * *

Даеш самому сабе зарок: у гэтыя два парыскія дні нікога больш з суайчыньнікаў, якіх у розныя стагодзьдзі перабывала тут гіблота, не ўспамінаць — каб не прагледзець нечага адмыслова тутэйшага. Але хутка мусіш прызнаць, што абяцаньні гэткага кшталту не для цябе. Як ні круці, усё роўна займае, дзе мог зьняць на вечар прыгажуню малады Напалеон Орда, дзе перапісваў Міцкевічу завершанага ў Парыжы «Пана Тадэвуша» Ігнат Дамейка і якім віном запіваў паштэт з гусінай пячонкі перад выправаю ў сьмяротна небясьпечную экспэдыцыю на радзіму апошні няскораны паўстанец 1831 году Міхал Валовіч.

Адказаў у экскурсаводкі, дачкі расейскіх эмігрантаў, няма. Ня ведае яна й таго, што магло здарыцца ў Парыжы зь беларускім пісьменьнікам Усеваладам Краўчанкам (зрэшты, ня ведае і дачка пісьменьніка, а твая знаёмая Волечка, якая тады была зусім малая). Саракапяцігадовы літаратар, галоўны рэдактар часопісу «Бярозка», прыехаў у 1961 годзе ў Францыю і, пагуляўшы па парыскіх бульварах, завяршыў турыстычную вандроўку, а разам зь ёю і жыцьцёвы шлях на бруку пад вакном канскага гатэлю...

Ну добра, а якім чынам згадка пра тваю сталіцу ўзьнікае ў «Тропіку Раку» Гэнры Мілера, рамане, народжа-

ным у навакольлі Элізэйскіх палёў? Памятаеце: «Гушкаючыся ў парыскай зыбцы, кожны можа аддавацца лятункам пра Бэрлін, Нью-Ёрк, Чыкага, Вену, Менск»? Экскурсаводка паціскае плячыма. Яна не чытала, але чула, што кніга «достаточно отвратительна» і нездарма была забароненая. Ты паведамляеш суразмоўніцы, што «Тропік Раку» — адзін з найлепшых твораў пра каханьне, напісаных у прамінулым стагодзьдзі.

Некалі ў калядным інтэрвію ты абвясьціў, што адшукаў у менскай Малінаўцы былую каханку знакамітага пісьменьніка, старую беларускую эсэрку, што захавала рэшткі ня толькі тагачасных поглядаў, але і прыгажосьці, у росквіце якой часта бавіла час у ложку зь Мілерам, а ў хвіліны адпачынку апавядала «чалавеку з сталёвым фаласам» пра хлопчыка зь лебедзем у менскім Губэрнатарскім садзе. Праз колькі дзён твой тэлефон азваўся ўсхваляваным голасам кандыдата філялёгіі й дасьледніка замежнай літаратуры. Ты паведаміў, што дакляраваў мадам з Малінаўкі захаваць ейнае incognito. Адзінае, чаго колішняя парыжанка не хавала, — таго, што на прэзыдэнцкіх выбарах галасавала за Пазьняка, які, ува ўсякім разе звонку, нагадвае ёй незабыўнага Гэнры.

* * *

Экскурсаводцы ўсё ж хочацца зрабіць табе прыемнае, і каля «Grande Opera» яна кажа, што пляфон славутага тэатру размаляваў беларус Марк Шагал, хоць на гэтую замову вельмі разьлічваў Сальвадор Далі.

Навіна прыводзіць на памяць вядомую з вуснай народнай творчасьці гутарку габрэя з кітайцам:

«Кітаец (паблажліва):

— Ну колькі вас, жыдкоў, усяго на сьвеце?

— Дзесяць мільёнаў.

Кітаец (трыюмфальна):

— А нас — мільярд і дзьвесьце мільёнаў!

Габрэй (зьдзіўлена):

— Ды штосьці вас не відаць...»

Ключавыя словы — дзесяць мільёнаў.

* * *

Адно з наймацнейшых уражаньняў ад Парыжу: горад катастрафічна цямнее. Прычым белыя парыжане, як і ты, жыхар гіпэрбарэйскай краіны, ходзяць па халаднаватых дажджлівых вуліцах у швэдрах і плашчах, а нашчадкі афрыканскіх рабоў — па-гаспадарску шуруюць у шортах і тэнісках, быццам іх грэюць тут родныя сьцены. Ну а нашчадкі гэтых нашчадкаў наагул бегаюць вакол гатэлю ў брудных майтках і саколках ды цэляцца ў цябе з плястыкавых (пакуль што) пісталетаў і аўтаматаў.

Нядаўна прэса паведаміла, што белыя ў францускай сталіцы апынуцца ў меншасьці ўжо ў наступным стагодзьдзі. Футуролягі, відавочна, суцяшалі сябе. На берагах Сэны прагноз спраўдзіцца, як сёньня выглядае, праз пару дзесяцігодзьдзяў.

* * *

На плён хваравітай фантазіі інжынэра Эйфэля ты ўпершыню ўважліва глядзіш ад заваленага кветкамі мэмарыяльнага знаку ля тунэлю, дзе скончылася апошняя паездка прынцэсы Дыяны. (У такім месцы з сумам прыгадваюцца беларускія манархісты, што азваліся былі на пачатку 1990-х ды недзе запаветрылі — а няхай бы знайшлі якога спадкаемца трону ды аздаблялі палітычную палітру, падтрымліваючы гаспадара вялікага дому на вуліцы Карла Маркса або, песьцячы надзею, далучаючыся да апазыцыйных блёкаў і кааліцыяў.)

Сказаць пра Эйфэлеву вежу штосьці новае ты ня здатны, бо проста лянуесься напружваць уяўленьне. Нічым асаблівым цыкляпічная жалязяка цябе не кранае.

З усіх ранейшых параўнаньняў табе даспадобы тры. Аляксандар Дзюма-сын неяк назваў гэтую спаруду відэльцам для вустрыцаў. Мапасан выказаўся больш ляпідарна: «Брыдота», — і сем разоў мяняў парыскія кватэры, бо зьненавіджаная вежа паўсюль лезла ў вокны. Аднойчы сябры сустрэлі пісьменьніка з бутэлькаю ў руцэ на самой «брыдоце». Гэта адзінае месца, адкуль яе не відаць, патлумачыў аўтар «Пышкі», і зь ім можна пагадзіцца.

Самы лірычны быў Гіём Апалінэр, якому вежа нагадала жаночую панчоху. Здаецца, паэт крыху схібіў: больш дакладным атрымалася б параўнаньне з абцягнутай гэтай панчохаю жаночай ножкай.

* * *

Каб падняцца на Эйфэлеву вежу пешкі, мусіш пераадолець 1789 прыступак. Лічба нагадвае пра дату пачатку Францускае рэвалюцыі, а таксама пра тваю нядоўгую пэдагагічную кар'еру й колішняга вучня Лёшу Марозава, што на ўроку гісторыі ўсяго адзін раз падняў руку — ня дзеля таго, каб папрасіцца ў прыбіральню (дзе ён зь пятага кляса курыў і жлукціў піва), а каб выйсьці да дошкі й захоплена расказаць, як Шарлёта Кардэ, якую Лёша называў проста «гэтай чувіхай», зарэзала ў ваньне Марата (яго твой вучань у сваім эмацыйным адказе пагардліва менаваў «дахляком»).

Ты таксама цікавісься падзеямі Францускай рэвалюцыі, але не настолькі, каб самастойна пералічваць усе прыступкі.

Ліфт выпускае цябе на верхняй пляцоўцы, і твая загартаваная душа зьнячэўку заходзіцца ад захапленьня. Адсюль у раньнім вечаровым сутоньні Парыж выглядае бясконцым белым горадам. Амаль да самага далягляду цягнуцца сотні й сотні белых кварталаў. Колер насамрэч ня чыста белы, а як бы стамлёны, прыцярушаны пылам часу. Здаецца, што ў гэтую хвіліну ў шэрым небе над змораным за дзень горадам цалкам натуральна выглядала б чародка анёлаў з такімі самымі шаравата-белымі стамлёнымі крыламі.

* * *

Колькі лухты панапісвалі пра Парыж! Уладзімер Маякоўскі, напрыклад (нібыта з іроніяй, але разам з тым і з уласьцівым расейцам — ужо на генным узроўні — запабяганьнем перад замежжам), прыйшоў да высновы, што «даже тиф здесь и то шикарней: парижане его приобретают от устриц». Прыгадваецца, што нехта з расей-

скіх літаратараў-эмігрантаў лічыў больш «шикарными» й ганаровымі нават пранцы, набытыя не ад айчынных, а ад парыскіх «блядей».

* * *

У той самай залі Люўру, дзе густы натоўп таўчэцца каля «Джаконды», вісяць карціны Сальваторэ Розы. Заля з арыгінальнымі палотнамі гэтага майстра магла б быць і ў карціннай галерэі твайго Полацку. Некалі Розавы «Сьвятая Тройца», «Сабор сьвятых пакутніц» і «Ўкаменаваньне сьвятога Стэфана» аздаблялі полацкі храм у гонар гэтага першапакутніка.

«Укаменаваньне», цэнтральны алтарны вобраз, было вынесенае зь перададзенага праваслаўным сабору і пачало блуканьні па пакутах за часамі япіскапа-расейца Савы Ціхамірава, кінутага на Полацкую япархію «в подкрепление». Уладыка ісьцінна праваслаўнага расейскага разьліву выславіўся паленьнем вуніяцкай скульптуры ды загадам расьпілоўваць на грэка-каталіцкіх укрыжаваньнях Збавіцелевы ногі, «богомерзко» прыбітыя не двума, а адным цьвіком.

О, нязгаснае сьвятло найправаслаўнейшай веры!

* * *

Некалі ты чуў гісторыю, як два савецкія дыпляматы, выгодна ўладкаваўшыся, ехалі ў парыскім мэтро і, убачыўшы пасажырку нестандартных памераў, вырашылі прадэманстраваць выхаванасьць. «Давай уступим корове место», — прапанаваў адзін другому. «Корова благодарит», — на чысьцюткай расейскай мове адказала негабарытная пасажырка.

У гэтым, апетым Картасарам мэтро, ты стаў сьведкам іншае сцэнкі. Манумэнтальная парыжанка пудоў на сем-восем сутыкнулася ў дзьвярах вагону з далікатным субтыльным мурынчыкам у гарнітуры-тройцы, што ня проста ня здолеў выйсьці, а, пераляцеўшы праход, плюснуўся разам з сваім гэткім самым субтыльным партфэльчыкам назад на крэсла. Да наступнае станцыі неба-

рака ўвесь час ветліва абураўся, паказваючы на пабітае калена. Парыжанка, замілавана нахіліўшы голаў, паблажліва слухала, а калі мурынчык асьцярожліва рушыў да выхаду, праводзіла яго задушэўнымі словамі: «Ничего, на вас всё как на котах заживает».

* * *

Апроч усіх іншых прычынаў для нацыянальнага гонару французы могуць назваць і такую спэцыфічную, як эўрапейскае лідэрства ў колькасьці ВІЧ-інфікаваных на тысячу жыхароў. З гэтае нагоды ў міжнародны дзень змаганьня з СНІДам энтузіясты нацягнулі гіганцкі кандом на славуты Люксорскі абэліск, які за трыццаць тры стагодзьдзі сваёй гісторыі, магчыма, упершыню напоўніцу адчуў сябе фаласам.

Добра вырабляць падобныя штукі, маючы сярэднямесячны заробак пад 2000 эўра, скажа твой суайчыньнік. Пакуль у яго столькі выходзіць у лепшым разе за год, усе менскія абэліскі будуць стаяць без апраткі — хапіла б на тое, што нацягваеш сабе самому.

* * *

Гай Пліні Сэкунд слушна зазначыў, што няма ў сьвеце месца, дзе б не пілі. Але ў Парыжы ты прасякаесься асаблівай адказнасьцю за тое, што й дзеля чаго п’еш.

Белае віно — дзеля наталеньня смагі, чырвонае — дзеля асалоды, ружовае — дзеля каханьня.

Увечары заходзіш у краму каля гатэлю й бярэш адразу белае, чырвонае й ружовае.

Ты разумееш, што твой гатэль ня ў самай фэшэнэбэльнай акрузе, але ўсё ж ня ў Афрыцы, а, тым ня менш, у вялікай краме, калі не лічыць цябе, няма ніводнага белага чалавека. Таму дзеля супакою й душэўнай раўнавагі апрача круглых пушачак з рознымі гатункамі камамбэру бярэш у запас другую бутэльку бардо, яшчэ не здагадваючыся, што на яе ўзьнікнуць нечаканыя прэтэндэнты.

* * *

Прыяжджаючы з Правансу, Іван Бунін жыў вось у гэтым нічым асабліва не адметным доме, куды хутка знайшоў дарогу, заявіўшыся пасьля Другой сусьветнай вайны ў Парыж, савецкі пісьменьнік Канстанцін Сіманаў, што меў на мэце ўгаварыць нобэлеўскага ляўрэата вярнуцца ў родныя палестыны. Той, кажуць, неўзабаве згадзіўся, і з фантастычнай хуткасьцю былі аформленыя дакумэнты на выезд.

Сіманаў задаволена паціраў рукі, аднак Бунін, ужо седзячы на валізах, усё сапсаваў. Аднойчы савецкі візытант, што паводзіўся ў кватэры Буніных амаль па-гаспадарску, глынуў каньячку і ціхамірна хрумстаў смажанай жабінай лапкай. І тут гаспадар раптам ні з чога ні зь якога пытаецца: «Скажыце мне, паважаны, ці праўда, што ў вас у Савецкім Саюзе слова «Бог» пішацца з малой літары?» А Сіманаў, заместа таго, каб суцешыць мэтра, зусім страціў пад чаркаю бальшавіцкую пільнасьць: «Хіба ж гэта, дарагі Іван Аляксеевіч, самае прынцыповае? Мы вось фашыстаў разграмілі...» Тады Бунін яму: «Ну, калі ня самае прынцыповае, то ішлі б вы, дарагі Канстанцін Міхайлавіч...» І сказаў — куды.

Так Сіманаў з Божай дапамогаю заваліў адказнае заданьне партыі і ўраду.

* * *

Хто самы славуты з французаў? Жанна д'Арк? Вальтэр? Генэрал дэ Голь? Віктор Гюго, які спадзяваўся, што пасьля яго сьмерці Парыж назавуць ягоным імем? Напалеон, што знайшоў апошні прыстанак у саборы Інвалідаў, дзе саркафаг з чырвонага парфіру змушае кожнага наведніка пакланіцца, бо стаіць ніжэй за ровень падлогі?

А можа, на ляўры найславуцейшага з французаў, няхай сабе й крыху апасродкавана, мае падставы прэтэндаваць Жазэф Ігнас Гільятэн? Здольны мэдык, якога рэвалюцыйныя віхуры ўцягнулі ў палітыку, вырашыў ашчасьлівіць Айчыну, а за адным разам і ўсё чалавецтва дзівоснай машынаю, якая зрабіла б роўнымі жабрака й караля.

Палячы да сьвітаньня сьвечкі ў кабінэце, засынаючы над відарысамі і разьлікамі, дэпутат Устаноўчага сходу мэсье Гільятэн няўхільна рухаўся да мэты. Важная роля ў зьдзяйсьненьні грандыёзнай гуманнай задумы належала прыяцелю дабрачынца Шарлю Сансону, спадчыннаму ка́ту французскай сталіцы. Пасьля доўгіх плённых размоваў яны зазвычай музыцыявалі дуэтам: доктар нядрэнна граў на клявэсіне, а ягоны ў нейкім сэнсе калега — на скрыпцы.

Нарэшце надышоў зорны час Жазэфа Гільятэна: ён выступіў перад дэпутатамі з натхнёнай прамоваю пра дэмакратызацыю сьмяротнага пакараньня. Хіба гэта не абуральна, што злачынцаў з народу вешаюць, паляць або чвартуюць, і толькі дваранам высакародна адцінаюць галаву мячом? Устаноўчы сход захоплена пачуў, што ўжо гатовы праект дэмакратызатара — «незвычайнага мэханізму, які дазволіць імгненна і абсалютна бяз болю аддзяляць галаву ад тулава».

Самае цікавае было наперадзе. Над манархіяй навісла сьмяротная пагроза, але фармальна законапраекты яшчэ вымагалі каралеўскай ухвалы. Падчас сустрэчы Гільятэна зь Люі XVI той у амаль ужо пустым Вэрсалі мэлянхалічна заўважыў, што вынаходка яму падабаецца, аднак, паколькі шыі ў людзей розныя, паўкруглае лязо машыны лепей замяніць на косае. Прапанову прынялі, і праз колькі месяцаў яго вялікасьць займеў выдатную магчымасьць спраўдзіць карыснасьць свайго ўдасканаленьня на ўласнай нестандартнай шыі.

Газэты назвалі відовішча «зьліцьцём мадам Гільятыны з каралём Францыі». Новае слова ўжо заваявала трывалае месца ў нацыянальным лексыконе, імкліва ўваходзячы ў слоўнікі іншых моваў, а сама «дзівосная машына» зрабілася галоўнай дзейнай асобаю рэвалюцыйнай драмы.

Стаіш пасярод пляцу Згоды, на які некалі скаціліся паўтары тысячы галоваў, пазіраеш на эрэкцыю ўжо вызваленага ад кандому Люксорскага абэліску (кароль Люі Філіп паставіў яго тут якраз каб сьцерці памяць пра зга-

даныя вышэй 1,5 тысячы галоваў), углядаесься ў твары парыжанак і думаеш, што яшчэ іхнія прабабкі маглі насіць зграбныя гільятынкі ў сваіх далікатных вушках. Як сьведчаць дакумэнты, мода была ледзь не пагалоўнай. Завушніцы мелі форму самога рэвалюцыйнага прыстасаваньня, а падвескі ўяўлялі сабой адсечаную галаву ў кошыку. Кулінары выпякалі да сьвятаў тарты-гільятыны. Незвычайную папулярнасьць атрымалі духі «Парфум дэ Гільятэн».

За гады Францускай рэвалюцыі 40-кіляграмовая сякера гільятыны сустрэлася з болей чым 15 тысячамі шыяў. Машына доктара-гуманіста і потым доўга служыла чалавецтву. Цёпла ставіўся да яе, напрыклад, Гітлер, які адправіў на спатканьне з «мадам» блізу 20 тысяч несымпатычных яму сучасьнікаў.

Самому доктару Гільятэну не пашчасьціла: ён памёр ад банальнага карбункулу, але пры канцы жыцьця пасьпеў зьвярнуцца з прашэньнем пра перайменаваньне сваёй вынаходкі. Улады напалеонаўскай Францыі просьбу адхілілі: Радзіма павінна ведаць яе герояў.

* * *

На набярэжнай Сэны дастаеш з кайстры і на тле сабору Парыскай Божай Маці ставіш на парапэт зялёную бутэльку бардо. Адступаеш на колькі крокаў, каб ацаніць кампазыцыю, і тут да твайго віна імкліва набліжаюцца два смуглыя, але, мяркуючы па лёгкім адзеньні, загартаваныя парыжаніны. Ты апынаесься каля бутэлькі першы і чамусьці бярэш яе за рыльца. Прыемны цяжар надае ўпэўненасьці ў найбліжэйшай будучыні.

Тубыльцы зьлёгку нэрвуюцца й чакаюць працягу, хутчэй за ўсё — пачосткі, але якраз да дабрачыннасьці ты ў дадзенай сытуацыі схільны найменш. Маўчаньне здоўжваецца, робячыся напятым. Трэба выйграць час, і інтуіцыя кліча на дапамогу родную паэзію.

*Парыж ня бачыў я ніколі*
*І ад таго чарніла п’ю.*

*Сумую я аб сваёй долі:*
*Парыж ня бачыў я ніколі…*

Размахваючы ў такт бутэлькай, ты дэклямуеш трыялет раньняга Вінцэся Мудрова, і смуглыя парыжане не безь цікавасьці ўслухоўваюцца ў музыку незнаёмае мовы.

*Бутэлька выпіта — даволі,*
*Сяджу на крэсьле і пяю:*
*Парыж ня бачыў я ніколі*
*І ад таго чарніла п’ю.*

Прыбярэжныя аматары паэзіі пару разоў ветліва пляскаюць у ладкі, але разыходзіцца не сьпяшаюцца. Ты тлумачыш, што гэта верш твайго сябра і што тады, калі сябар ствараў яго, ты сам мог бы падпісацца пад кожным радком, бо твор быў аўтабіяграфічны для ўсёй вашай кампаніі. А вось цяпер верш ужо не пра цябе.

Адзін з слухачоў лезе ў кішэню. «Хутка ў Парыж прыедзе й сам Мудроў!» — чуе араб твае гучныя й пагрозьлівыя словы. На шчасьце, ён выцягвае ня нож, а пакуль толькі кубачак-складанчык. «Але віна ён вам усё роўна не праставіць!» — пераможна завяршаеш ты паэтычны выступ, з палёгкаю бачачы на даляглядзе двух паліцэйскіх.

* * *

Ты меў намер напісаць штосьці прыязнае пра парыскіх катоў.

Каты — ня жабы, ды ніводнага прадстаўніка твайго ўлюбёнага віду фаўны табе ў Парыжы так і не сустрэлася. Магчыма, увесь гэты час яны займаліся нечым больш прыемным, чым лезьці ў «кадар».

Да сакавіка было далёка, аднак табе хацелася спадзявацца, што тутэйшыя *les chats*, як і сапраўдныя беларускія каты, коткі й котачкі, марцуюць цэлы год.

*2005*

## Келіх гішпанскага з нобэлеўскім ляўрэатам

Тыповы шматкватэрны стакгольмскі дом, на першы погляд, ненашмат навейшы за той, дзе на пачатку мінулага стагодзьдзя жыў Аўгуст Стрындбэрг — ужо ведаючы, што тут, на Дротнінггатан, 85, будзе музэй, але, наўрад ці здагадваючыся, што некалі за ягонымі вокнамі проста пад нагамі ў мінакоў будуць прарастаць скрозь брук жалезныя літары цытатаў з напісаных ім кніг. *Кахаць значыць даваць, Разумны пацук мусіць мець шмат дзірак, Маё вогнішча самае вялікае ў Швэцыі…*

Чыё вогнішча самае вялікае ў Швэцыі сёньня?

Здаецца, адказ табе вядомы. Але апошняе слова застаецца за швэдамі. Магчыма, яны пагодзяцца з Швэдзкай акадэміяй.

Пэўныя падставы думаць менавіта так ты атрымліваеш, набраўшы код і апынуўшыся ў прасторным вэстыбюлі першага паверха дому нумар 32А на Стыгбэргсгатан.

Швэдзкія чысьціня й парадак. Вітыя сходы з высьлізганымі драўлянымі парэнчамі. Старамодны ліфт зь сетачкай і зашклёнымі дзьвярыма, што адчыняюцца й зачыняюцца ўручную. І ўсё ж дом ня самы тыповы: унізе пры сьценах — кніжныя шафы і паліцы з сотнямі рознакалібэрных тамоў. Прычым, тут не адно дэтэктывы й дамскія раманы, да якіх гаспадары вырашылі больш не вяртацца. Вось Стрындбэрг, побач зь ім ўладкаваліся «Дваццаць лістоў да сябра» Сьвятланы Алілуевай.

Кніжак сёлетняга літаратурнага набэліста Тумаса Транстрэмэра заўважыць не пасьпяваеш. Цалкам верагодна, што жыхары разабралі іх, каб атрымаць аўтограф. Гэта ня надта складана, бо ляўрэат жыве на пятым паверсе, куды цябе, прытульна парыпваючы, ўжо вязе нясьпешны ліфт.

Поруч з табой у кабінцы — перакладчыца Лана Вілебранд, якую ў менскім дзяцінстве клікалі Сьвятланай, і ўжо легендарная ў нашых шыротах Марыя Сёдэрбэрг, журналістка, фотамастачка і *perpetuum mobile* безьлічы праектаў, сярод якіх адным з апошніх сталася выданьне важкага тому анталёгіі беларускай літаратуры па-швэдзку.

На парозе вам усьміхаецца Моніка, жонка паэта, якая пасьля мужавага інсульту зрабілася яшчэ й перакладчыцаю ягонага маўчаньня, ягоных позіркаў і жэстаў на швэдзкую й ангельскую мовы. Дзякуючы пяцідзесяці трох пражытым разам гадам памылкі перакладу выключаныя.

Адразу зьвяртаеш увагу на вочы Монікі й Тумаса. Якога яны колеру? Адказаць няпроста, але гэта ня так істотна. Яны — неверагодна маладыя і прамяністыя.

Насустрач тваёй правай руцэ гаспадар працягвае левую. Яна жывая і цёплая, а яшчэ — якое слова будзе тут найбольш дакладным? — надзвычай артыстычная.

Як сказаў бы калега Іосіф Бродзкі, спадар Тумас грае на некалькіх фартэпіянах. Ён — прафэсійны піяніст і пасьля інсульту навучыў левую руку ня толькі пісаць, але і не адчуваць сябе бездапаможнай на клявішах. Некалькі кампазытараў адмыслова пішуць для Транстрэмэра музыку.

Пакой, дзе вы гутарыце, у адпаведнасьці з швэдзкай традыцыяй — каб было сьвятлей — мае белыя сьцены, якія пашыраюцца карцінамі. Застаецца ўражаньне, што на іх — нічога, апрача мора й скалаў. Відаць, гэта невыпадкова: продкі паэта былі маракамі.

На стале чакае пляшка чырвонага гішпанскага віна, побач зь якой уладкоўваюцца падараваныя вамі кнігі: ужо згаданая анталёгія, а таксама нядаўна перакладзеныя «Плошча» Барыса Пятровіча і «Вольныя вершы» Андрэя Хадановіча. Неўзабаве Транстрэмэр зможа прачытаць па-швэдзку і прозу Ўладзімера Някляева, а пакуль углядаецца ў нязвыклую кірыліцу някляеўскага «Цэнтру Эўропы».

Паэт ведае, што ў Беларусі ёсьць «чорныя» сьпісы літаратараў. Ведае, што беларускіх паэтаў кідаюць за краты. Уяўляю, што такое турма, кажа ён: працаваў доктарам-псыхолягам для непаўналетніх злачынцаў. Ты не хаваеш сумневу, што знаёмства з швэдзкай турмой — каб ўявіць беларускую — яўна недастаткова. Да прыкладу, твой знаёмы палітвязень-гісторык аднойчы вярнуўся з шпацыру ў камэру з зламаным носам. А іншы знаёмы на турэмным спатканьні з жонкай расказаў, як яго садзілі на ланцуг.

Паэт скрушліва ўсьміхаецца. Душу нельга зьняволіць, але чалавек павінен жыць у дарагіх яму сьценах.

Пасьля кароткага одуму Тумасавы вочы цяплеюць. Ён робіць Моніцы знак, і сярод келіхаў зьяўляецца крыху наіўны і надзіва ўтульны макет блакітнага дому.

Перад вамі, кажа гаспадар вуснамі перакладчыцы свайго нобэлеўскага маўчаньня, самае дарагое і важнае для іх дваіх месца на зямлі. Сто зь лішнім гадоў таму дом збудаваў на высьпе Рунмаро ягоны дзед па кудзелі, вядомы ў тых мясьцінах лёцман. Да гэтай паважанай прафэсіі належалі й іншыя родзічы. Ты кажаш, што Транстрэмэр працягвае іхнюю справу. Яму падабаецца.

Табе прыемна паведаміць гаспадару, што ягоныя вершы загаварылі па-беларуску задоўга да нядаўняй пастановы Нобэлеўскага камітэту. Нашы чытачы яшчэ ў мінулым стагодзьдзі маглі пераканацца ў тым, што Транстрэмэравы «ляканічныя паўпразрыстыя вобразы» сапраўды «даюць нам абноўлены погляд на рэальнасьць».

Тумас паўтарае сам сабе цяжкае прозьвішча перакладчыка — Бар-шчэў-скі.

Ты кажаш, што даўно ўжо лічыш многія вэрдыкты Швэдзкай Акадэміі, далікатна кажучы, небездакорнымі. Сёлетняе — выключэньне. Нягледзячы на тое, што ляўрэат — швэд.

У Тумаса ёсьць пачуцьцё гумару.

Вы, спадар Транстрэмэр, гаворыш ты, не каштавалі жыцьця ў несвабоднай краіне, дзе непазьбежна існуе

праблема стасункаў мастака і ўлады, якая хоча гэтага мастака прыручыць, загнаць у андэграўнд, зачыніць на турэмныя замкі. Але з вышыні свайго жыцьцёвага й літаратурнага досьведу вы маеце поўнае права перадаць беларускім калегам калі не параду, дык, прынамсі, колькі мудрых вечаровых слоў.

Транстрэмэр усяго на імгненьне задумваецца, і разам з Монікай адказвае.

У 1970-м яны пасьля шматлікіх перашкодаў атрымалі дазвол наведаць Рыгу. Жылі, як выглядае, у тым самым гатэлі «Рыга», пра які ў падсавецкай Латвіі расказвалі, што ён збудаваны на 80 адсоткаў з бэтону, на 15 — з шкла і на 5 — зь мікрафонаў. Вярнуўшыся, Тумас напісаў латыскім сябрам ліст, які ішоў у Рыгу некалькі месяцаў. Так нарадзіўся верш «Сябрам па той бок мяжы». У прынесеным томе выбранай паэзіі і прозы Моніка адзначае яго закладкай.

**Сябрам па той бок мяжы**

*I*

*Я напісаў вам скупыя словы. А тыя, што ня змог сказаць,*
*разьдзьмуваліся й разьдзьмуваліся, як мангальф’еры,*
*каб узьняцца ў начное неба.*

*II*

*Зараз мой ліст на стале ў цэнзара.*
*У цьмяным мігценьні ягонае лямпы*
*мае словы скачуць, як малпы за кратаванкай,*
*калоцяць яе, тады заміраюць, ашчэрыўшы зубы!*

*III*

*Чытайце між радкамі. Ведаю: сустрэнемся праз 200 гадоў,*
*калі мікрафоны ў сьценах гатэляў будуць забытыя*
*і нарэшце спакойна заснуць ракавінкамі ў вапняку.*

*(Пераклад Ланы Вілебранд)*

Тумас кранае вуснамі келіх з чырвоным і, адставіўшы яго, бярэ асадку. Шаснаццаць літар імя і прозьвішча — сёньня яно побач з імёнамі Эмануэля Свэдэнборга, Аўгуста Стрындбэрга ды Інгмара Бэргмана сымбалізуе швэдзкае сьветабачаньне й сьветаўяўленьне — паэт выводзіць больш за хвіліну. Кожная літарка ня пішацца, а малюецца дрыготкай левай рукою, як герогліф, і нібыта трымціць пад ветрам Вечнасьці

Маё сэрца з вамі, кажа Транстромэр на адвітаньне.

Ты пераходзіш на ягоную мову. Беларускае маўчаньне таксама бывае шматзначным. Як некалі ў Васіля Быкава.

...Слухаеш свае крокі па начным стакгольмскім бруку, і раптам да цябе даносіцца водгульле крокаў незнаёмага швэдзкага пісьменьніка, што апоўначы вяртаецца ў гатэль па менскай брукаванцы пасьля сустрэчы зь беларускім набэлістам.

*2011*

# Зьмест

## СПРОБА ПАЗЬБЕГНУЦЬ ВЫГНАНЬНЯ



## БОЖАЯ КАРОЎКА ЗЬ ПЯТАЙ АВЭНЮ



## АДКУСІ ГАЛАВУ ВАРОНЕ

ДВА ДНІ Ў ПАРЫЖЫ



*Літаратурна-мастацкае выданне*

Уладзімір Арлоў
Вустрыцы а пятай раніцы

18+

Карэктарка Ліда Наліўка

Выдавец “Logvino literatūros namai”
J. Savickio g. 4, LT-01108 Vilnius

Надрукавана ў ПВУП «Логвінаў»
пр-т Незалежнасці, 37а, 220030 Мінск